

Г. В. Кісялёў

# Ад Чачота да Багушэвіча

АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ
ОРДЭНА ДРУЖБЫ НАРОДАЎ ІНСТЫТУТ ЛІТАРАТУРЫ
ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ

Г.В. Кісялёў



# Ад Чачота да Багушэвіча

ПРАБЛЕМЫ КРЫНІЦАЗНАЎСТВА І АТРЫБУЦЫІ
БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ XIX СТ.

МІНСК «НАВУКА І ТЭХНІКА» 1993

ББК 83.3Бел
К44

Монография посвящена истории накопления знаний о литературе XIX в., делается попытка систематизации источников, уточнения их авторства.

Рассчитана на научных работников, преподавателей и студентов, учителей, широкий круг любителей белорусской литературы.

Рэдактар
кандыдат філалагічных навук В. А. Чамярыцкі

Рэцэнзенты:
кандыдаты філалагічных навук
У. М. Казбярук, І. У. Саламевіч

К $\frac{4603020100-026}{М316(03)-93}$ 113—92

ISBN 5-343-00950-6

# Як адкрывалі стагоддзе

*Гістарыяграфічны ўступ*

Пісьмовыя і іншыя крыніцы — неабходная ўмова, аснова ўсякага гістарычнага даследавання, у тым ліку гісторыка-літаратурнага. «Вучонаму патрэбны крыніцы, без крыніц ён працаваць не можа. Ён павінен звяртацца, як Святагор да зямлі, да архіваў, да рукапісаў» [1],— сказаў у адным са сваіх выступленняў выдатны савецкі літаратуразнавец акадэмік Д. Ліхачоў.

Даследчыкі беларускай літаратуры XIX ст. балюча адчуваюць недастатковасць крыніц, што дайшлі да нашага часу.

Гэта тлумачыцца многімі прычынамі.

Новая беларуская літаратура, якая рабіла ў мінулым стагоддзі свае першыя крокі, развівалася ў вельмі неспрыяльных умовах. Сустрэтая варожа царскім урадам і рэакцыйнымі коламі грамадства, уся яна была па сутнасці на нелегальным, у лепшым выпадку паўлегальным, становішчы. Беларускія літаратары, гаворачы сучаснай мовай, не мелі неабходнай выдавецкай базы, друкаванай трыбуны. На працягу стагоддзя былі выдадзены лічаныя кніжкі беларускіх пісьменнікаў. Не было нацыянальнай перыёдыкі, калі не лічыць падпольнай «Мужыцкай праўды», якая ў сямі сваіх невялікіх нумарах паспела сказаць народу толькі самае неабходнае. Пісьменнікі былі вымушаны хавацца за псеўданімамі або выпускаць у свет свае творы ананімна. Творы пашыраліся часцей за ўсё ў рукапісным выглядзе, што не спрыяла іх захаванню.

Беларуская літаратура з самага пачатку свайго ўзнікнення была цесна звязана з перадавым грамадскім рухам.

---

[1] Проблемы научного описания рукописей и факсимильного издания памятников письменности: Мат-лы Всесоюз. конф. Л., 1981. С. 254.

Многія пісьменнікі (Ф. Савіч, К. Каліноўскі і інш.) былі рэвалюцыянерамі і не захоўвалі архіваў з канспірацыйных меркаванняў.

Да таго ж, асабліва напачатку, некаторыя з іх не надавалі сур'ёзнага значэння сваім беларускім творам і лічылі іх толькі прыдаткам да творчасці на польскай або рускай мове.

У такіх умовах губляліся творы, губляліся імёны.

Ужо гэтага аднаго было б дастаткова, каб беларускія гісторыка-літаратурныя дакументы дайшлі да нас з вялікімі, непапраўнымі стратамі.

А ўспомнім, колькі грозных навальніц пранеслася з таго часу над беларускай зямлёй, колькі адбылося грамадскіх і сацыяльных катаклізмаў — сусветныя войны, акупацыі, сялянскія бунты, паўстанні, рэвалюцыі, бежанства, рэпатрыяцыі, сталінскія беззаконні.

Кожны чацвёрты беларус загінуў у гады Вялікай Айчыннай вайны. А што казаць пра матэрыяльныя страты, гібель помнікаў гісторыі і культуры, неацэнных духоўных каштоўнасцей? Яны незлічоныя.

Вось чаму крыніц па гісторыі беларускай літаратуры XIX ст. у нас мала. Вось чаму мы павінны весці самы строгі ўлік таго, што захавалася, нястомна шукаць новыя матэрыялы, удасканальваць метады здабывання выверaных фактаў з ужо вядомых крыніц.

На пачатку нашай размовы зробім экскурс у гістарыяграфію беларускай літаратуры XIX ст., прасочым, як паступова збіраліся, адкладваліся крыніцы, неабходныя сёння для ўзнаўлення яе гісторыі.

Артыкулы, публікацыі, прысвечаныя новай беларускай літаратуры, пытанням яе развіцця і гісторыі, пачалі з'яўляцца яшчэ ў першай палове мінулага стагоддзя.

Адна з першых публікацый — артыкул І. Цытовіча «Словы два аб мове і пісьменнасці Белай Русі», які з'явіўся ў 1843 г. у пецярбургскім часопісе «Маяк» і захаваў для нас тэкст беларускага віншавальнага верша «Чалом, чалом, ацец, татулька».

Але гісторыю нашага літаратуразнаўства XIX ст. з поўнай падставай прынята пачынаць з артыкула Рамуальда Падбярэскага «Беларусь і Ян Баршчэўскі», надрукаванага, як вядома, у 1844 г. у выглядзе прадмовы да кнігі Я. Баршчэўскага «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях». У гэтым артыкуле (на тытульным лісце ён характарызуецца як «Беглы кры-

тычны погляд на беларускую літаратуру») Падбярэскі даў першы агульны нарыс літаратурнага руху, літаратурнага жыцця Беларусі (пераважна ўсходняй), прывёў звесткі пра беларускіх пісьменнікаў Я. Баршчэўскага і І. Манькоўскага, якога ён лічыў аўтарам паэмы «Энеіда навыварат». Крытык зарэгістраваў ажыўленне літаратурна-грамадскага жыцця на Беларусі, дзе, паводле яго слоў, «з некаторага часу выразна назіраецца незвычайны інтэлектуальны рух»[2]. Ён апублікаваў вялікі ўрывак з «Рабункаў мужыкоў» Баршчэўскага, прыцягнуў увагу грамадскасці да паэмы «Энеіда навыварат», тэксту якой расшукаць яму тады яшчэ не ўдалося. Р. Падбярэскага можна з поўнай падставай назваць першым гісторыкам і летапісцам беларускай літаратуры XIX ст.

Артыкул Р. Падбярэскага меў даволі шырокі грамадскі рэзананс, выклікаў з'яўленне іншых артыкулаў, паслужыў для іх крыніцай.

Мы маем на ўвазе перш за ўсё дзве публікацыі Л. Кавеліна пад рубрыкай «Помнікі беларускага пісьменства» ў часопісе «Маяк» у 1845 г. Яны абапіраліся галоўным чынам на матэрыялы артыкула Падбярэскага, але мелі і самастойнае значэнне дзякуючы таму, што Кавеліну ўдалося адшукаць і апублікаваць тэкст беларускай «Энеіды».

У 1866 г. матэрыялы артыкула Падбярэскага былі шырока выкарыстаны ў артыкуле Г. Г. «Некалькі слоў аб беларускай народнай паэзіі і беларускіх паэтах» (Иллюстрированная газета, № 20—21), які меў рэтраспектыўны характар і не прыводзіў звестак аб развіцці беларускай літаратуры ў 50—60-х гадах[3].

Назапашванне матэрыялаў з гісторыі новай беларускай літаратуры, звестак аб жыцці і творчасці асобных беларускіх пісьменнікаў працягвалася і ў апошняй трэці XIX ст.

У 1874 г. кароткі нарыс развіцця новай беларускай літаратуры даў у сваіх кракаўскіх лекцыях А. Кіркор. Ім былі прыведзены даныя аб творчасці В. Дуніна-Марцін-

---

[2] Пачынальнікі: З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст. Мн., 1977. С. 53. У далейшым спасылкі на зборнік «Пачынальнікі» падаюцца ў тэксце (Пачынальнікі, *старонка*).

[3] Аўтарам артыкула лічыцца вядомы рускі бібліёграф Рыгор Генадзі, але могуць быць і пярэчанні супраць такой атрыбуцыі (гл.: Кісялёў Г. Загадка беларускай «Энеіды». Мн., 1971. С. 41—43; Киселев Г. Разыскивается классик...: Историко-литературная дилогия. Мн., 1989. С. 55—60).

кевіча, А. Вярыгі-Дарэўскага і іншых пісьменнікаў. У 1882 г. гэтыя звесткі былі паўтораны ў 3-м томе славутага выдання П. Сямёнава-Цян-Шанскага «Живописная Россия».

Вядома, што гісторыю літаратурнага руху на Беларусі пісаў у 80-х гадах А. Рыпінскі (Пачынальнікі, *176—178*), але яго праца не была апублікавана і не захавалася. Важнае значэнне як гісторыка-літаратурная крыніца мае складзены ім спіс беларускіх і беларуска-польскіх пісьменнікаў (55 прозвішчаў). На працягу некалькіх дзесяцігоддзяў ён рупліва збіраў на Віцебшчыне беларускія фальклорныя і літаратурныя матэрыялы, перапісаўшы ў свае сшыткі шэраг выдатных мастацкіх тэкстаў [4].

У 80-х гадах пачынае збіральніцкую дзейнасць Б. Эпімах-Шыпіла. Яго славутая Хрэстаматыя захавала для нас мноства твораў беларускай музы XIX ст., напрыклад вершы Ф. Тапчэўскага. У 1893 г. ён зрабіў копію з «Залётаў» В. Дуніна-Марцінкевіча. Па яго копіі нам і вядомы цяпер гэты выдатны твор.

З публікацый 80—90-х гадоў варта ўказаць на напісаны А. Ельскім або, лепей сказаць, па матэрыялах Ельскага некралог В. Дуніну-Марцінкевічу ў часопісе «Край» (1885). Ельскі быў яшчэ аўтарам больш падрабязнай біяграфіі Дуніна-Марцінкевіча, якая да нас не дайшла, а таксама «Ўспамінку аб Вінцэнтым Дуніне-Марцінкевічу, беларускім пісацелю і аўтару» (1909), шырока выкарыстанага ў свой час польскім славістам Ю. Галомбакам. Ельскі вядомы як заўзяты калекцыянер беларускіх рукапісаў і іншых гісторыка-літаратурных матэрыялаў. Яму належаць таксама першыя падрабязныя бібліяграфіі беларускай літаратуры і літаратуры аб Беларусі, у якіх прыведзены вялікі матэрыял і па XIX ст.

У гэты ж час з'явіліся працы А. Слупскага і М. Доўнар-Запольскага пра Дуніна-Марцінкевіча [5], публікацыі тэкстаў ананімных паэм «Энеіда навыварат» і «Тарас

---

[4] Піятуховіч М. М. Рукапісы А. Рыпінскага // Шляхам гадоў. Мн., 1990. [Вып. 1]

[5] Слупский А. Старый Минск // Минский листок. 1895. № 35; Запольский М. «Гапон», повесть в стихах на белорусском языке В. Дунина-Марцинкевича: Из истории белорусской письменности // Календарь Северо-Западного края на 1889 г. М., 1889; Довнар-Запольский М. В. Дунин-Марцинкевич и его поэма «Тарас на Парнасе»: Очерк из истории белорусской этнографии. Витебск, 1896.

на Парнасе» [6], адбываюцца цікавыя дыскусіі аб аўтарстве «Тараса на Парнасе», у якіх удзельнічалі М. Доўнар-Запольскі, Е. Раманаў і інш. [7]

Прачулымі і змястоўнымі некралогамі аматары і шанавальнікі роднага слова развіталіся з Я. Лучынай (1897). Яшчэ больш багатай на звесткі біяграфічнага і творчага характару была некралогія Ф. Багушэвіча, смерць якога ў 1900 г. як бы падвяла рысу пад беларускай літаратурай XIX ст. (Пачынальнікі, *413—422, 474—476*).

Пачатак XX ст. выклікаў да жыцця масавы беларускі нацыянальна-вызваленчы рух. Узніклі беларускія выдавецтвы і перыёдыка. Ва ўмовах рэвалюцыі 1905—1907 гадоў адбыўся новы ўзлёт беларускай літаратуры, прадстаўленай такімі бліскучымі імёнамі, як Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч. І цікава, што тым, хто ў новых умовах ствараў на пачатку нашага стагоддзя беларускую літаратуру, захацелася адразу ж азірнуцца на сваіх папярэднікаў, пісьменнікаў XIX ст. У «Нашай Ніве» друкуецца артыкул В. Ластоўскага «Памажыця!» з просьбай збіраць і прысылаць звесткі пра ранейшы літаратурны рух, пра часам ужо забытых або напаўзабытых літаратараў нядаўняга мінулага. Асаблівы клопат быў пра збіранне пашыранай у народзе «рукапіснай літаратуры». «Побач са збіраннем рукапісаў,— гаварылася ў артыкуле,— нам удавалася вылаўліваць і імёны аўтараў. Аказваецца, што праз усё XIX сталецце беларускія пісьменнікі не зводзіліся; людзі пісалі і працавалі над развіццём беларускай літаратуры, над утрыманнем беларускай свядомасці» [8]. Вядомы спробы «Нашай Нівы» адшукаць беларускія творы У. Сыракомлі. У «Нашай Ніве», тагачасных беларускіх календарах, альманаху «Маладая Беларусь», пазней у «Гомане» з'яўляюцца публікацыі, звязаныя з «Тарасам на Парнасе», П. Багрымам, В. Каратынскім, В. Дуніным-Марцінкевічам, Я. Вулем, Ф. Багушэвічам, Я. Лучынай, А. Абуховічам.

У 1907 г. з вялікім праектам звярнуўся ў Пецярбургскую Акадэмію навук этнограф і літаратуразнавец

---

[6] Минский листок. 1889. № 37 (першапублікацыя «Тараса на Парнасе»); Ровинский К. Забытое произведение // Смоленский вестник. 1890. № 10 (публікацыя «Энеіды навыварат» і звесткі пра яе аўтара В. Равінскага).

[7] Гл.: Кісялёў Г. Пошукі імя. Мн., 1978. С. 26—35.

[8] Власт. [Ластоўскі В.] Памажыця! // Наша Ніва. 1913. 12 верас.

М. Янчук [9]. Ён прапанаваў выдаць помнікі беларускай мовы і славеснасці. Літаратурным матэрыялам XIX ст., на думку Янчука, варта прысвяціць асобны том. «Том,— меркаваў даследчык,— павінен адкрывацца кіруючым артыкулам з агульным нарысам стану беларускай літаратуры ў сувязі з гістарычнымі і бытавымі ўмовамі. Потым павінны ісці творы беларускіх пісьменнікаў у храналагічным парадку, прычым перад кожным пісьменнікам павінен быць пададзены хаця б кароткі біяграфічны артыкул. Як ужо відаць з папярэдняга, сюды павінны ўвайсці толькі тыя пісьменнікі (пераважна памёршыя), якія пісалі на жывой народнай мове. Могуць, бадай што, запытацца многія: якія ж гэта пісьменнікі? Дзе яны? Сапраўды, мы пра іх мала ведаем, творы іх мала даступныя як з-за іх рэдкасці, так і таму, што пераважна іх аўтары карысталіся зноў-такі польскай транскрыпцыяй. Але тым не менш гэтыя пісьменнікі ёсць, і выцягнуць іх з забыцця... наш клопат...» (Хрэст. Ал., *30*).

М. Янчук ставіў пытанне аб сур'ёзнай збіральніцкай і даследчыцкай працы, якая павінна папярэднічаць такому выданню. У яго «Запісцы» адзначалася: «Не ўсе яны (гэтыя творы.— *Г. К.*) з'яўляліся ў друку, некаторыя вядомы толькі ў рукапісных спісах, якія нярэдка ў многім адрозніваюцца адзін ад аднаго, так што тут патрэбна будзе некаторая крытычная работа і фактычныя даведкі для ўстанаўлення першапачатковай рэдакцыі, а можа быць, нават і імя сапраўднага аўтара; так, напрыклад, пераробка «Энеіды» прыпісваецца дзвюм асобам: то Маньковскаму, то Равінскаму. Тыя беларускія літаратурныя творы, якія даўно з'яўляліся ў друку, у цяперашні час не ўсе можна дастаць нават у нашых першакласных кнігасховішчах, але яны могуць аказацца і сапраўды трапляюцца ў прыватных руках, у аматараў і такіх бібліяфілаў і знаўцаў мясцовага жыцця, як пісьменнікі і археолагі палякі Ельскі (у Мінскай губ.) і Глогер (у Гродз. г.), або ў такіх бібліятэках, як Нясвіжская, Шчорсаўская, гр. Красінскіх і інш.; некаторыя рэчы прыйдзецца, можа быць, шукаць і ў замежных бібліятэках, асабліва ў Кракаве. Справа рэдактара... па магчымасці

[9] Гл.: Александровіч С. Х., Александровіч В. С. Беларуская літаратура XIX — пачатку XX ст.: Хрэстаматыя крытычных матэрыялаў. Мн., 1978. С. 28—33. У далейшым спасылкі на гэта выданне падаюцца ў тэксце (Хрэст. Ал., *старонка*).

вычарпаць пытанне аб друкаваных арыгіналах, а апрача таго — і гэта яшчэ больш важна — завязаць зносіны з мясцовымі жыхарамі Беларусі, у якіх, як нам вядома, трапляюцца ў спісах старыя і новыя спробы ў беларускай штучнай славеснасці, якія належала б апублікаваць» (Хрэст. Ал., *30—31*). М. Янчук прыводзіў даволі падрабязны спіс твораў Дуніна-Марцінкевіча, які, на яго думку, павінен быў заняць цэнтральнае месца ў выданні. Былі названы і некаторыя іншыя пісьменнікі. Цікава, што ў пераліку Янчука названы асобна і Янка Лучына, і Неслухоўскі. Выходзіць, Янчук не ведаў (або забыўся?), што гэта адна і тая ж асоба.

Праект Янчука быў спачувальна сустрэты ў Акадэміі навук, але супраць яго апалчыліся мясцовыя рэакцыянеры, і ён так і не быў ажыццёўлены [10]. Затое беларуская выдавецкая суполка «Загляне сонца і ў наша аконца» перавыдала на працягу 1907—1910 гг. у серыі «Беларускія песняры» асноўныя творы буйнейшых пісьменнікаў XIX ст.: «Дудку беларускую» і «Смык беларускі» Ф. Багушэвіча, «Гапон», «Вечарніцы», «Шчароўскія дажынкі» і «Купалу» В. Дуніна-Марцінкевіча, а таксама яго пераклад паэмы А. Міцкевіча «Пан Тадэвуш». Выпускаючы ў 1914 г. другім выданнем апавяданне У. Гаршына «Сігнал» у перакладзе Ядвігіна Ш. (першае выданне было ў 1891 г.), Беларускае выдавецкае таварыства ў Вільні ў кароткай прадмове падкрэсліла непарыўнасць традыцый беларускага пісьменства: «...хочэмо яшчэ звярнуць тутака ўвагу сучаснага пакалення, што назад таму 24 гады наша бацькаўшчына не так ужо вельмі спала, як гэта цяпер некаторым людзям здаецца» [11].

У гэты перыяд з'явіліся і першыя літаратуразнаўчыя працы на беларускай мове [12]. У сувязі з гэтым назавём публікацыі бібліёграфа, гісторыка літаратуры і калекцыянера Р. Зямкевіча, які сабраў вялікую колькасць першадрукаў, рукапісаў і іншых матэрыялаў беларускіх пісь-

---

[10] Очерки белорусской литературы / Под ред. М. Янчука. М., 1920. Вып. 1. С. 2; Хромчанка К. Р. Беларуская мастацкая проза: Канец XIX— пачатак XX ст. Мн., 1979. С. 35—38.

[11] Кніга Беларусі: 1517—1917: Зводны каталог. Мн., 1986. С. 223.

[12] Калі быць дакладным, то першы літаратуразнаўчы твор на беларускай мове — гэта артыкул Е. Раманава «Спроба пяра», напісаны ў 1896 г. як прадмова да выдання паэмы «Тарас на Парнасе». Але ва ўмовах XIX ст. гэты цікавы гісторыка-літаратурны дакумент не мог быць апублікаваны.

меннікаў. Артыкулы і брашуры Зямкевіча «Вінцук Дунін-Марцінкевіч, яго жыццё і літаратурнае значэнне» (Наша Ніва, 1910, № 48), «Тарас Шаўчэнка і беларусы» (Там жа, 1911, № 8), «Ян Баршчэўскі, першы беларускі пісьменнік XIX сталецця» (Вільня, 1911), «Адам Ганоры Кіркор» (Вільня, 1911) і іншыя ўводзілі ў навуковы ўжытак каштоўны фактычны матэрыял, выхоўвалі ў грамадстве цікавасць да архіўна-бібліяграфічных знаходак.

У гэты ж час спадчынай беларускага пісьменніка XIX ст. А. Вярыгі-Дарэўскага, яго унікальным Альбомам захапіўся Браніслаў Тарашкевіч, будучы выдатны вучоны і грамадскі дзеяч. У 1912 г. ён прачытаў даклад аб Альбоме Вярыгі-Дарэўскага на пасяджэнні Беларускага навукова-літаратурнага гуртка студэнтаў Пецярбургскага універсітэта[13]. Рукапіс яго артыкула па гэтаму пытанню (на польскай мове) захоўваецца ў Цэнтральным гістарычным архіве ЛітССР у Вільнюсе[14].

Глыбока, па даступных першакрыніцах і публікацыях, цікавіўся літаратурным рухам XIX ст. класік беларускай літаратуры Максім Багдановіч. Найбольш поўны агляд літаратуры мінулага стагоддзя дадзены ім у артыкуле «Беларускае адраджэнне», надрукаваным у 1915 г. у часопісе «Украинская жизнь», але нямала цікавых звестак і назіранняў змяшчаецца ў многіх іншых артыкулах і накідах паэта («І. Неслухоўскі», «Булгарын у беларускай жартоўнай паэме» і інш.).

Вялікі ўклад у крыніцазнаўства і навуковую распрацоўку гісторыі беларускай літаратуры XIX ст., як і іншых перыядаў, зрабіў акадэмік Я. Карскі. Ім сабраны, сістэматызаваны і абагульнены агромністы матэрыял, велізарная колькасць гісторыка-літаратурных крыніц. Іх папярэдняя зводка была дадзена Карскім у 1-м томе «Беларусаў» (1903). Неўзабаве з'явіліся яго асобныя публікацыі[15] і навуковыя распрацоўкі з гісторыі літаратуры XIX ст. У 1922 г. карпатлівая, сістэматычная работа Карскага ў гэтым напрамку завяршылася выданнем 3-га тома

---

[13] Отчет о состоянии и деятельности императорского С.-Петербургского университета за 1912 г. Спб., 1913. Отд. VIII. С. 104.

[14] ЦДГА ЛітССР, ф. 1135, воп. 4, спр. 391. Назвы архіваў, бібліятэк, музеяў і інш. падаюцца ў той форме, якая была прынята пад час працы аўтара над манаграфіяй.

[15] Карский Е. Белорусская Энеида наизнанку // Сб. Харьковского ист.-филол. об-ва. Харьков, 1909. Т. 18.

фундаментальнага даследавання «Беларусы» (ч. 3— «Мастацкая літаратура на роднай мове»). З таго часу ў метадалогіі і навуковай інтэрпрэтацыі літаратурнага працэсу наша літаратуразнаўства пайшло далёка наперад, але як скарбніца разнастайных звестак з гісторыі літаратуры праца Карскага не страціла свайго значэння да нашых дзён.

Я. Карскі ставіў перад беларускімі даследчыкамі задачу далейшага збірання і сістэматызацыі матэрыялу, поўнага ўліку літаратараў і іх твораў. «Што да мастацкай літаратуры,— пісаў вучоны,— то тут давядзецца скласці поўны слоўнік беларускіх пісьменнікаў, з указаннем пры псеўданімах сапраўдных імёнаў і прозвішчаў, а таксама кароткіх біяграфічных звестак. Зарэгістраваць трэба не толькі вершы, але і празаічныя артыкулы, зразумела, літаратурнага характару. Пажадана адзначыць і надрукаваныя аб тых або іншых творах крытычныя водгукі» [16].

Дваццатыя гады характарызуюцца паступовым станаўленнем беларускага савецкага літаратуразнаўства. Ад выдання да выдання шліфуе, удакладняе сваю «Гісторыю беларускай літаратуры» таленавіты пісьменнік і вучоны Максім Гарэцкі (першае выданне «Гісторыі» выйшла ў 1920 г. у Вільні). Яна цікавая не толькі яркасцю мовы і стылю, напружанымі метадалагічнымі пошукамі, але і шырокім колам прыцягнутых крыніц.

У 20-я гады выходзіць шэраг хрэстаматый, або «выпісаў», як іх тады часцей называлі (М. Гарэцкага, М. Піятуховіча, У. Дзяржынскага і інш.), у якіх друкаваліся мастацкія тэксты XIX ст.

Прыкметнай з'явай тагачаснага літаратуразнаўства былі «Нарысы гісторыі беларускай літаратуры» М. Піятуховіча (1928, ч. 1— «Агляд літаратурна-ідэалагічных плыняў XIX— пачатку XX вякоў»). Піятуховіч падаў у сваёй кнізе не толькі шматлікія факты гісторыка-літаратурнага парадку, але і вялікі сацыяльна-эканамічны матэрыял, аднак, як цяпер нам відаць, ён спрошчана разумеў сувязь паміж літаратурай і эканомікай, спрабаваў непасрэдна тлумачыць літаратурныя з'явы станам гаспадаркі або сацыяльным паходжаннем таго ці іншага пісьменніка. Лепшыя старонкі працы М. Піятуховіча якраз тыя, дзе яму ўдавалася вырывацца з палону сацыялагічных схем.

---

[16] Карский Е. Ф. Что предстоит сделать по белорусскому языку и литературе? Мн., 1921. С. 4.

Няпроста давалася па тым часе савецкім літаратуразнаўцам правільная метадалогія.

Адной з першаступенных спраў літаратуразнаўцы 20-х гадоў зусім слушна лічылі збіранне гісторыка-літаратурных матэрыялаў. Пра гэта гаварыў, у прыватнасці, выдатны вучоны І. Замоцін у дакладзе «Чарговыя задачы вывучэння гісторыі беларускай літаратуры» (1928). У ім ставілася пытанне аб шырокім прыцягненні да збіральніцкай працы ўсёй культурнай грамадскасці рэспублікі, мясцовых краязнаўцаў. Як глыбока вучоны разумеў праблемы крыніцазнаўства і тэксталогіі, важнасць умацавання фактаграфічнай базы літаратурнай навукі, сведчаць яго наступныя словы: «Справа ў тым, што ўсякі літаратурны тэкст, які выдаецца пад тою ці іншаю назваю як матэрыял для вывучэння літаратуры, атрымлівае тады належнае асвятленне і належную апрацоўку, калі навокал яго збіраюцца ў магчыма большай колькасці фактычныя даведкі, якія маюць значэнне не толькі для гісторыі тэксту ў вузкім сэнсе слова, але і для высвятлення асобы аўтара, яго сувязі з эпохаю, генэзы [генезісу] і характару яго творчасці і г. д.,— адным словам, калі ў адносінах да данага тэксту ці данага пісьменніка ў цэлым складаецца даследчая гісторыка-літаратурная традыцыя, якая збірае гадамі для гэтага тэксту ці пісьменніка весткі як канстатуючага, так і экзэгетуючага [вытлумачальнага] характару, групуе іх, прыцягвае іх да вывучэння пісьменніка і тым самым эвалюцыйна пасоўвае наперад усебаковае яго даследаванне» [17]. Гэты прынцып застаецца надзвычай актуальным і дагэтуль. І. Замоцін і сам уважліва вывучаў крыніцы XIX ст., яму належыць артыкул «Аб новых рукапісах В. Дуніна-Марцінкевіча», які, праўда, не пабачыў свету і захоўваецца цяпер у Цэнтральным дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва БССР [18]. Тады ж грунтоўны тэксталагічна-крыніцазнаўчы артыкул «Рукапісы А. Рыпінскага» напісаў М. Піятуховіч (надрукаваны толькі ў 1990 г.). Цікавыя згадкі пра лёс рукапіснай спадчыны Ф. Багушэвіча, Я. Лучыны ёсць ва ўспомненых «Нарысах...» Піятуховіча. Як і Замоцін, Піятуховіч заклікаў да сур'ёзнай распрацоўкі біяграфій пісьменнікаў, да руплівага збірання адпаведных звестак.

[17] Інстытут беларускай культуры: Зап. Аддз. гуманітарных навук. 1928. Кн. 2. С. 272.

[18] ЦДАМЛіМ БССР, ф. 66, воп. 1, спр. 1048.

Кастрычніцкая рэвалюцыя адчыніла перад даследчыкамі дзверы былых урадавых архіваў. Беларускае літаратуразнаўства хутка ўзбагачалася архіўнымі крыніцамі. У 20-я гады з'яўляюцца насычаныя фактычным матэрыялам публікацыі Д. Васілеўскага [19], А. Шлюбскага [20] і інш. Ставяцца праблемы літаратурнага краязнаўства, рэгіянальнага вывучэння літаратуры [21].

На жаль, у 30-я гады ў нашым літаратуразнаўстве сталі пераважаць вульгарна-сацыялагічныя канцэпцыі. Аналіз канкрэтнага матэрыялу часта падмяняўся бясплённымі схаластычнымі спрэчкамі. У рэакцыйнасці абвінавачваліся такія выдатныя дзеячы XIX ст., як В. Дунін-Марцінкевіч, К. Каліноўскі, Ф. Багушэвіч (гл. артыкул Л. Бэндэ «Аб літаратуры XIX века» ў часопісе «Полымя рэвалюцыі», 1935, № 4—5). У гэтых умовах было не да папаўнення крыніцазнаўчай базы.

Толькі напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны актывізуецца дзейнасць літаратуразнаўцаў па збіранні і вывучэнні літаратурнай спадчыны. У 1939 г. у перадавым артыкуле «ЛіМа» зноў ставіцца пытанне аб выданні і папулярызацыі твораў П. Багрыма, Я. Баршчэўскага, Я. Чачота, А. Рыпінскага, В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, Я. Лучыны, аб збіранні пісьменніцкіх дакументаў, фатаграфій, рэчаў і стварэнні ў Мінску літаратурнага музея [22]. Друкуюцца пошукавыя артыкулы маладых даследчыкаў М. Ларчанкі і Л. Фіглоўскай [23], І. Кузьміна [24], Б. Іофе [25]. Уз'яднанне Заходняй Бе-

---

[19] Васілеўскі Д. Пад аховай роднай песні: З перапіскі Яна Баршчэўскага // Маладняк. 1928. № 1; Ён жа. Арцём Ігнатавіч Вярыга і яго літаратурна-грамадская чыннасць // Полымя. 1929. № 6.

[20] Шлюбскі А. Канфіскацыя «Пана Тадэвуша» Д.-Марцінкевіча // Узвышша. 1927. № 2; Ён жа. Адносіны расійскага ўрада да беларускай мовы ў XIX ст. // Інстытут беларускай культуры: Зап. Аддз. гуманітарных навук. 1928. Кн. 2.

[21] Каспяровіч М. Вывучэнне віцебскай краёвай літаратуры і мастацтва // Маладняк. 1927. № 6.

[22] Аб літаратурнай спадчыне // Літ. і мастацтва. 1939. 12 верас.

[23] Ларчанка М., Фіглоўская Л. Новыя матэрыялы аб беларускай літаратуры XIX ст. // Літ. і мастацтва. 1939. 9 сак.

[24] Кузьмін І. У Пецярбургскім універсітэце: Новыя матэрыялы біяграфіі Багушэвіча // Літ. і мастацтва. 1940. 23 сак.

[25] Іофе Б. Паэма «Тарас на Парнасе»: Аб часе і месцы напісання і гісторыка-літаратурным значэнні // Полымя рэвалюцыі. 1940. № 7. (Б. Іофе загінуў на фронце ў 1943 г. Сваякі перадалі нам рукапіс яго невялікага даследавання «Ля вытокаў беларускай літаратуры (Беларуская літаратура ў 40-я гады XIX ст.)».)

ларусі з БССР, а таксама 100-я гадавіна з дня нараджэння Ф. Багушэвіча (1940) выклікалі новую цікавасць да багушэвічаўскіх мясцін, да спадчыны паэта. Важным здабыткам беларускага літаратуразнаўства гэтага перыяду было выданне ў 1940 г. пад рэдакцыяй Я. Купалы зборніка мастацкіх тэкстаў «Беларуская літаратура XIX ст.» (укладальнікі В. Барысенка, М. Ларчанка, Л. Фіглоўская). У зборніку ўпершыню былі надрукаваны некаторыя творы мінулага стагоддзя, напрыклад ананімная паэма «Панская ласка».

У 20—30-я гады працягвалася публікатарская дзейнасць Р. Зямкевіча ў Заходняй Беларусі[26], там жа друкуюцца цікавыя матэрыялы пра А. Гурыновіча[27] і Ф. Багушэвіча[28]. У Вільні ў 1932 г. выйшла манаграфія вядомага польскага славіста Ю. Галомбака пра В. Дуніна-Марцінкевіча. Ва ўводзінах Ю. Галомбак зрабіў нарыс развіцця беларускай літаратуры першай паловы XIX ст. Манаграфія Ю. Галомбака, заснаваная на шматлікіх крыніцах, не страціла свайго значэння да сённяшняга дня.

У пасляваенныя гады беларускімі літаратуразнаўцамі была прадоўжана праца па збіранні і публікацыі матэрыялаў з гісторыі роднай літаратуры[29]. Н. Перкін даследаваў творчасць Я. Баршчэўскага і Я. Чачота (1946, праца надрукавана ў 1980 г.)[30]. Вільнюскі даследчык У. Абрамавічус склаў вельмі карысную «Бібліяграфію па беларускай літаратуры XIX ст.: Мастацкія і публіцыстычныя творы, апублікаваныя і рукапісныя» (1949, засталася ў рукапісе). У 50-я гады з'яўляюцца цікавыя дакументальныя публікацыі С. Александровіча[31], Р. Гуль-

---

[26] Суніца Р. [Зямкевіч Р.] Нацыянальнасць у Вінцука Дуніна-Марцінкевіча: Матэрыялы для характарыстыкі творчасці // Заходняя Беларусь. Вільня, 1923. Кн. 1; Зямкевіч Р. Ян Неслухоўскі (Янка Лучына) і яго невядомыя творы // Нёман (Вільня). 1932. Кн. 2.

[27] Тарашкевіч Б. Адам Гурыновіч // Беларускі звон. 1921. № 3; Шутовіч Я. Адам Гурыновіч (1869—14.I.1894 г.): З недрукаванай спадчыны Адама Гурыновіча // Калоссе. 1935. Кн. 1.

[28] Запісы Беларускага навуковага таварыства. Вільня, 1938. Сш. 1.

[29] Бэндэ Л. Новыя матэрыялы аб Янку Лучыне // Полымя. 1945. № 9; Ен жа. Новыя мастацкія тэксты XIX ст. // Беларусь. 1945. № 10; Ен жа. Новае аб Ф. Багушэвічу // Полымя. 1945. № 5.

[30] Перкін Н. Літаратурная спадчына Яна Баршчэўскага і Яна Чачота // Перкін Н. Абсягі думкі. Мн., 1980.

[31] Александровіч С. Матэрыялы да біяграфіі Багушэвіча // Літ. і мастацтва. 1956. 2 чэрв.; Ен жа. В. І. Дунін-Марцінкевіч і польская крытыка // Там жа. 1957. 30 ліст.; Ен жа. Францішак Савіч // Там жа. 1959. 29 ліп.

ман[32], А. Семяновіча[33] і іншых даследчыкаў. Выдаюцца «Выбраныя творы» Ф. Багушэвіча (1952), «Выбраныя творы» Я. Лучыны (1953), «Збор твораў» В. Дуніна-Марцінкевіча (1958), зборнікі тэкстаў «Беларуская літаратура XIX ст.» (1950), «Беларускія пісьменнікі другой паловы XIX ст.» (1956). Асабліва каштоўным з крыніцазнаўчага пункту погляду быў апошні зборнік (склаў В. Барысенка, зверка тэкстаў і каментарыі Р. Гульман). Зборнік уводзіў у навуковы ўжытак шэраг невядомых або малавядомых твораў Ф. Багушэвіча, Я. Лучыны, А. Гурыновіча, а таксама ананімных твораў. У дадатку былі апублікаваны архіўныя дакументы пра Ф. Багушэвіча і А. Гурыновіча.

У 1957 г. з'яўляецца абагульняючая праца С. Майхровіча «Нарысы беларускай літаратуры XIX стагоддзя» (другое выданне выйшла ў 1959 г.), якая была заснавана на ўсіх даступных у той час крыніцах і адыграла станоўчую ролю ў даследаванні і папулярызацыі літаратурнага руху XIX ст.

Прынцыповае значэнне для навуковай распрацоўкі гісторыі нашай літаратуры мінулага стагоддзя мелі манаграфіі В. Барысенкі «Францішак Багушэвіч і праблема рэалізму ў беларускай літаратуры XIX ст.» (1957) і М. Ларчанкі «На шляхах да рэалізму» (1958), «Па шляху рэалізму» (1959), у якіх літаратура разглядалася ў плане ўзнікнення і станаўлення ў ёй рэалізму і народнасці, у сувязі з гісторыяй грамадскай думкі і рэвалюцыйнага руху. Даследчыкі прывялі і прааналізавалі ў сваіх працах вялікі гісторыка-літаратурны матэрыял.

На значным матэрыяле, у тым ліку і гісторыка-літаратурным, заснавана манаграфія І. Лушчыцкага «Нарысы па гісторыі грамадска-палітычнай і філасофскай думкі ў Беларусі ў другой палавіне XIX ст.» (1958). Трэба сказаць, што гісторыкі грамадскай думкі і ў далейшым увялі ў навуковы ўжытак шмат матэрыялаў, каштоўных таксама для літаратуразнаўцаў (працы А. Смірнова пра Ф. Савіча і К. Каліноўскага, С. Самбук пра народнікаў Беларусі і інш.).

---

[32] Гульман Р. Новыя архіўныя матэрыялы пра Адама Гурыновіча // Беларуская літаратура: Даследаванні і публікацыі. Мн., 1958. Вып. 1.

[33] Семяновіч А. Новае пра Дуніна-Марцінкевіча // Літ. і мастацтва. 1956. 24 сак.; Ён жа. Новае з біяграфіі Ф. Багушэвіча // Там жа. 1958. 19 сак.; Ён жа. Пра Арцёма Вярыгу-Дарэўскага // Беларусь. 1959. № 8.

60—70-я гады азнаменаваны напружанай работай беларускіх літаратуразнаўцаў па далейшым, больш паглыбленым вывучэнні літаратурнага працэсу, у тым ліку літаратуры XIX ст.

Працягваецца даследаванне архіваў і бібліятэк[34]. У поле зроку беларускіх даследчыкаў (С. Александровіч, У. Казбярук, А. Мальдзіс, Я. Саламевіч) трапілі замежныя, пераважна польскія, архівы. Цікавыя публікацыі па матэрыялах польскіх архіваў (М. Канапацкага) з'явіліся на старонках беластоцкай «Нівы».

Крыніцазнаўчая база гісторыі нашай літаратуры мінулага стагоддзя ўзмацнілася з выданнем хрэстаматыі мастацкіх тэкстаў «Беларуская літаратура XIX ст.» (1971, склалі С. Александровіч, А. Лойка, В. Рагойша), зборніка гісторыка-літаратурных матэрыялаў «Пачынальнікі» (1977, укладальнік Г. Кісялёў), хрэстаматыі крытычных матэрыялаў «Беларуская літаратура XIX— пачатку XX ст.» (1978, укладальнікі С. Александровіч, В. Александровіч). З'явіўся першы на беларускай мове і пакуль невялікі зборнік У. Сыракомлі («Выбраныя творы», 1966). У 1967 г. выйшла новае, на той час найбольш поўнае выданне «Твораў» Ф. Багушэвіча, у якім былі ўлічаны знаходкі апошніх гадоў, упершыню апублікавана публіцыстычная і эпісталярная спадчына пісьменніка (укладальнік С. Александровіч).

У гэты ж перыяд з'яўляюцца цікавыя гісторыка-літаратурныя працы тэарэтычнага плана (І. Навуменка, В. Каваленка), паглыблена вывучаюцца жанры (Я. Казека, М. Лазарук, А. Семяновіч, Я. Усікаў, К. Хромчанка), сувязі літаратуры і фальклору (П. Ахрыменка, М. Грынчык). Пільную ўвагу даследчыкаў прыцягваюць і асобныя выдатныя творы, пішуцца працы па атрыбуцыі ананімных паэм: «Загадка беларускай «Энеіды» (1971), «Пошукі імя» (1978) Г. Кісялёва.

На шырокім матэрыяле напісаны даследаванні «З гісторыі беларускай журналістыкі XIX ст.» (1960) М. Цікоцкага, «Пуцявіны роднага слова» (1971) С. Александровіча,

---

[34] Александровіч С. Гісторыя і сучаснасць. Мн., 1968; Ён жа. Кнігі і людзі. Мн., 1976; Бас І. Літаратурныя пошукі, знаходкі, даследаванні. Мн., 1969; Ён жа. Падарожжа ў літаратурнае мінулае. Мн., 1971; Кісялёў Г. Сейбіты вечнага. Мн., 1963; Ён жа. З думай пра Беларусь. Мн., 1966; Мальдзіс А. Падарожжа ў XIX стагоддзе. Мн., 1969; Ён жа. Таямніцы старажытных сховішчаў. Мн., 1974.

«Беларускі літаратурна-грамадскі рух у Пецярбурзе» (1971) Р. Семашкевіча.

Шматлікія крыніцы для паказу сувязей беларускай літаратуры з літаратурамі суседніх славянскіх народаў прыцягнуты ў даследаваннях «Старонкі братняй дружбы» (1960) С. Александровіча, «Творчае пабрацімства» (1966) А. Мальдзіса, «Ступені росту» (1974) У. Казберука, «Летапіс братэрства» (1973) П. Ахрыменкі, «Слова пра Сыракомлю» (1975) К. Цвіркі, калектыўных зборніках «Тарас Шаўчэнка і беларуская літаратура» (1964), «Садружнасць літаратур» (1968), «Старонкі літаратурных сувязей» (1970).

На фоне тагачаснага сацыяльна-эканамічнага і грамадска-палітычнага жыцця Беларусі навукова, з веданнем крыніц і разам з тым жыва, эмацыянальна паказаў узнікненне і развіццё роднай літаратуры ў XIX ст. А. Лойка ў сваёй «Гісторыі беларускай літаратуры: Дакастрычніцкі перыяд» (1977, ч. 1).

Падагульняючымі працамі беларускіх літаратуразнаўцаў, выкананымі ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР, з'явіліся двухтомная «Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры» (1968—1969) і «История белорусской дооктябрьской литературы» (1977) на рускай мове. Агульны нарыс літаратуры XIX ст. напісаны ў абодвух выданнях А. Мальдзісам. Апрача таго, у двухтомніку змешчаны раздзелы-персаналіі пра творчасць В. Дуніна-Марцінкевіча (аўтар В. Жураўлёў), Ф. Багушэвіча (У. Казбярук), Я. Лучыны (А. Семяновіч), А. Гурыновіча (Д. Гальмакоў). У аднатомніку на рускай мове два персанальныя раздзелы: пра В. Дуніна-Марцінкевіча (В. Жураўлёў) і Ф. Багушэвіча (М. Грынчык). Напісаныя з улікам апошніх дасягненняў літаратуразнаўства, на высокім навуковым узроўні, гэтыя калектыўныя працы атрымалі высокую ацэнку грамадскасці. За стварэнне аднатомніка на рускай мове калектыву аўтараў была прысуджана Дзяржаўная прэмія БССР імя Якуба Коласа.

Арыгінальны дапаможнік па гісторыі літаратуры XIX— пачатку XX ст. для педінстытутаў стварыў калектыў аўтараў (М. Грынчык, С. Кліманскі, М. Лазарук, А. Мальдзіс, Р. Семашкевіч, А. Семяновіч і інш.) [35].

---

[35] Гісторыя беларускай літаратуры: XIX— пачатак XX ст. / Пад рэд. М. Лазарука і А. Семяновіча. Мн., 1981.

Далейшым развіццём «канкрэтнага літаратуразнаўства» (Д. Ліхачоў) азнаменаваліся 80-я — пачатак 90-х гадоў. Ідэі перабудовы выклікалі ў нашым грамадстве новыя магутныя імпульсы, паварот да нацыянальных каранёў, да роднага слова. У гэтых умовах працы гісторыкаў літаратуры сталі асабліва актуальнымі.

Значным укладам у беларускую тэксталогію мінулага стагоддзя было выданне твораў В. Каратынскага (1981) і Я. Лучыны (1988), здзейсненае У. Мархелем. Ён жа выдаў заснаваныя на багатым матэрыяле кнігі пра У. Сыракомлю «Лірнік вясковы» (1983), «Вяшчун славы і волі» (1989), кнігу «Крыніцы памяці» (1990), дзе спецыяльна адзначыў важнасць і перспектыўнасць для далейшага развіцця нашай навукі крыніцазнаўчых даследаванняў.

Выдатны зборнік твораў Я. Чачота ва ўласных дасканалых перакладах выдаў К. Цвірка. Ён паспяхова развівае распачаты С. Александровічам жанр літаратурнага падарожжа па памятных мясцінах пісьменнікаў мінулага (У. Сыракомля, Я. Чачот, Ф. Багушэвіч)[36]. У гэтым самым жанры працяглы час працуе У. Содаль, які шмат зрабіў для крыніцазнаўства беларускіх пісьменнікаў XIX ст., у прыватнасці В. Дуніна-Марцінкевіча і Ф. Багушэвіча[37]. Высока ацэнены грамадскасцю літаратурна-краязнаўчыя кнігі і нарысы Г. Каханоўскага[38]. Жыццё і творчасць А. Абуховіча плённа даследуе краязнавец Р. Родчанка.

Найбольш поўныя выданні твораў нашых класікаў XIX ст. В. Дуніна-Марцінкевіча (1984) і Ф. Багушэвіча (1991) падрыхтаваў Я. Янушкевіч. Ім жа напісана змястоўная манаграфія пра Дуніна-Марцінкевіча (1991), выяўлены ў архівах нашай краіны і Польшчы шэраг цікавых матэрыялаў.

З'явіліся новыя пераклады твораў Я. Баршчэўскага[39].

---

[36] Цвірка К. Той курган векавечны...: Сцяжыны вандровак. Мн., 1985; Ён жа. Тут грала дудка Бурачка... // Полымя. 1990. № 5.

[37] Содаль У. Імпульсы // Полымя. 1989. № 6; Ён жа. Кушлянскі кут. Мн., 1990; Ён жа. Сцежкамі Мацея Бурачка: Пошукі, замалёўкі, нарысы. Мн., 1991.

[38] Каханоўскі Г. Адчыніся, таямніца часу. Мн., 1984; Ён жа. Вандраванні // Маладосць. 1984. № 10.

[39] Баршчэўскі Я. Драўляны Дзядок і кабета Інсекта // Полымя. 1990. № 6; Ён жа. Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях. Мн., 1990.

Новае, дапоўненае выданне хрэстаматыі беларускай літаратуры XIX ст. (1988; укладальнікі А. Лойка, В. Рагойша) паказала, што за апошнія два дзесяткі гадоў у выніку напружанага пошуку навукоўцаў гісторыя нашага пісьменства істотна ўзбагацілася новымі імёнамі і тэкстамі.

Шмат цікавых матэрыялаў пра пачынальнікаў новай літаратуры (В. Дунін-Марцінкевіч, Ф. Багушэвіч, Ф. Тапчэўскі, А. Ельскі, К. Каліноўскі) публікуецца ў гісторыка-літаратурным зборніку «Шляхам гадоў». У першым яго выпуску (1990) надрукаваны ўжо згаданы артыкул М. Піятуховіча «Рукапісы А. Рыпінскага», напісаны 60 гадоў назад. Артыкул асабліва важны сваімі тэксталагічнымі дадаткамі, сярод іх ёсць зусім невядомыя творы або іх варыянты (публікацыя В. Скалабана) [40].

Заснаваны на ўважлівым вывучэнні многіх першакрыніц слоўнік псеўданімаў Я. Саламевіча (1983) у сваю чаргу стымулюе крыніцазнаўчыя і атрыбуцыйныя даследаванні. У Інстытуце літаратуры АН БССР пад кіраўніцтвам А. Мальдзіса падрыхтаваны грунтоўны шасцітомны біябібліяграфічны слоўнік беларускіх пісьменнікаў, пра які марыў яшчэ акадэмік Я. Карскі.

Такім чынам, за многія дзесяцігоддзі свайго развіцця беларускае літаратуразнаўства назапасіла не толькі багаты тэарэтычны вопыт, але і значную колькасць разнастайных гісторыка-літаратурных крыніц.

Як сведчыць рэтраспектыўны агляд, нашы веды аб крыніцах па гісторыі беларускай літаратуры XIX ст.— гэта вынік намаганняў некалькіх пакаленняў даследчыкаў, вынік шукальніцкай і даследчай дзейнасці, якая пачалася яшчэ ў дакастрычніцкі час. І ў сэнсе выяўлення крыніц, і ў сэнсе іх вывучэння і навуковай інтэрпрэтацыі зроблена нямала. Але абагульняючай працы крыніцазнаўчага характару па XIX ст., як, зрэшты, і па іншых перыядах, яшчэ не было.

Прыйшоў час падагуліць раскіданыя па розных выданнях і публікацыях звесткі аб гісторыка-літаратурных крыніцах XIX ст., прывесці іх у пэўную сістэму, у многіх выпадках дадаткова вывучыць з гэтага пункту погляду самі крыніцы, якія захоўваюцца ў розных сховішчах, намеціць шляхі пошукаў новых крыніц.

Такую задачу мы і ставім перад сабой у гэтым даследа-

---

[40] Скалабан В. Новыя матэрыялы з гісторыі беларускай літаратуры XIX стагоддзя // Шляхам гадоў. Мн., 1990. [Вып. 1]

ванні. Актуальнасць такой спробы дыктуецца і агульным павелічэннем цікавасці да тэксталагічных, біяграфічных, бібліяграфічных, крыніцазнаўчых, эўрыстычных прац у галіне літаратуразнаўства, якая заўважаецца апошнім часам [41]. Гэта адлюстраванне сталасці нашай гісторыка-літаратурнай навукі.

У працы будуць разглядацца як агульныя крыніцы, якія ахопліваюць цэлыя перыяды развіцця беларускай літаратуры XIX ст., так і больш прыватныя крыніцы і іх комплексы, што маюць дачыненне да таго або іншага пісьменніка. Сярод іншых праблем намі будзе разгледжана пытанне пра лёс пісьменніцкіх архіваў XIX ст. у сувязі з лёсам вядомых збораў гісторыка-літаратурных крыніц — А. Ельскага, Б. Эпімах-Шыпілы, Р. Зямкевіча, Беларускага музея ў Вільні.

У комплексе з акрэсленымі крыніцазнаўчымі праблемамі ў працы асвятляюцца блізкія пытанні біяграфікі, тэксталогіі, атрыбуцыі.

Але найперш — што яўляе сабой само літаратуразнаўчае крыніцазнаўства.

---

[41] Гл.: Рагойша В. Галіны аднаго дрэва // Рагойша В. Кантакты. Мн., 1982; Безъязычный В. «Три кита» между трех сосен...: О культуре исследования и культуре издания // Лит. газ. 1981. 26 авг.; Кузнецов Ф. История советской литературы: Новый взгляд // Там жа. 1989. 16 авг.; Лихачев Д. Мысли о культуре будущего // Известия. 1989. 16 нояб.

# Канструяванне навукі

*Некаторыя агульныя пытанні літаратуразнаўчага крыніцазнаўства*

Выдатны французскі гісторык Марк Блок, расстраляны гітлераўцамі пад час другой сусветнай вайны, пісаў у сваёй апошняй кнізе «Апалогія гісторыі, або Рамяство гісторыка»: «Ніводны егіптолаг не бачыў Рамсеса. Ніводны спецыяліст па напалеонаўскіх войнах не чуў гарматаў Аўстэрліца. Значыць, пра папярэднія эпохі мы можам гаварыць толькі на аснове паказанняў сведкаў» [1]. Тут падкрэслена самая характэрная рыса гістарычнага пазнання. У мностве супярэчлівых сведчанняў пра справы мінулага гісторык павінен знайсці ісціну.

Крыніцазнаўства як цэласная навуковая сістэма, заснаваная на крытычным падыходзе да гістарычных крыніц, склалася ў мінулым стагоддзі і абгрунтавана ў шматлікіх працах айчынных і замежных вучоных. Элементы крыніцазнаўчага метаду разам з гістарызмам шырока ўваходзяць у грамадска-культурную свядомасць і спрыяюць выхаванню пачуцця гісторыі, «гістарычнай чуйнасці» (М. Блок) і ашчаднага стаўлення да помнікаў мінулага.

Апошнім часам назіраецца тэндэнцыя фарміравання побач з агульнагістарычным крыніцазнаўствам галіновых крыніцазнаўчых дысцыплін, звязаных з рознымі гуманітарнымі навукамі: крыніцазнаўства лінгвістыкі, літаратурнай навукі, мастацтвазнаўства і г. д. [2].

---

[1] Блок М. Апология истории, или Ремесло историка. 2-е изд. М., 1986. С. 30.

[2] Котков С. И. Лингвистическое источниковедение и история русского языка. М., 1980; Петровская И. Ф. Источниковедение истории русского дореволюционного драматического театра. Л., 1971; Яна ж. Источниковедение истории русской музыкальной культуры XVIII — начала XX века. 2-е изд. М., 1989; Раскин Д. И. Историко-педагогический источник в свете современных проблем источниковедения и системного подхода // Актуальные вопросы историографии и источниковедения истории школы и педагогики. М., 1986.

Кожная такая галіна мае сваю спецыфіку, абумоўленую самім матэрыялам даследавання. Напрыклад, крыніцазнавец-даследчык гісторыі музыкі, натуральна, найперш мае справу з запісамі музычных твораў. Галоўнай і вельмі своеасаблівай крыніцай для гісторыка літаратуры з'яўляецца літаратурны твор. Вялікае месца ў літаратуразнаўстве, а гэта значыць і ў адпаведнай галіне крыніцазнаўства, займаюць біяграфічныя даследаванні, паколькі твор цесна знітаваны з асобай яго аўтара.

Мастацкая літаратура судакранаецца з крыніцазнаўствам многімі гранямі, у розных аспектах і на розных узроўнях.

Пачнём з таго, што пісьменнік-рэаліст у самой сваёй творчасці карыстаецца часам метадамі крыніцазнаўства. Гэта адзначаў Д. Ліхачоў адносна творчасці Ф. Дастаеўскага, параўнаўшы яго раманы з крыніцазнаўчымі даследаваннямі [3]. Крыніцазнаўчыя прыёмы ўводзіў у свае творы У. Караткевіч (спашлёмся на раман «Чорны замак Альшанскі»).

Далей, літаратурныя творы могуць служыць і служаць для гістарычнай навукі крыніцай узнаўлення сацыяльнай і культурнай карціны эпохі, да якой яны адносяцца [4]. Напрыклад, творчасць Ф. Багушэвіча — выдатная крыніца для разумення становішча і памкненняў беларускага сялянства ў парэформенны перыяд, а таксама для характарыстыкі поглядаў рэвалюцыйных дэмакратаў. Бессмяротны мастацкі помнік «Слова пра паход Ігаравы» — адначасова крыніца палітычнай гісторыі старажытнарускіх княстваў напярэдадні татара-мангольскага нашэсця.

У той жа час гісторыку літаратуры надзвычай важна выявіць і даследаваць тыя крыніцы, якімі карыстаўся пісьменнік пры напісанні свайго твора. Без гэтага нельга раскрыць «творчую кухню» літаратара.

Нарэшце, літаратуразнаўчае крыніцазнаўства даследуе ўвесь комплекс гісторыка-літаратурных крыніц у поўным аб'ёме.

Можна сказаць, што літаратуразнаўчае крыніцазнаўства ўтваралася (ці яшчэ ўтвараецца) на сутыку

---

[3] Лихачев Д. Литература — реальность — литература. Л., 1984. С. 212—213.

[4] Гумилев Л. Н. Может ли произведение изящной словесности быть историческим источником? // Рус. лит. 1972, № 1; Карабелова-Панова М. Художественная литература как источник исторической информации // Pamiętnik słowiański. Wrocław etc., 1989. T. 36/37.

дзвюх сустрэчных ліній развіцця навук: адпачкавання спецыфічных галін ад агульнагістарычнага крыніцазнаўства і фарміравання адпаведнай галіны ў нетрах самога літаратуразнаўства.

Апошнія дзесяцігоддзі характарызуюцца павышанай цікавасцю да крыніцазнаўчых праблем. На нашых вачах мяняецца, паглыбляецца, удакладняецца змест і сэнс саміх паняццяў «крыніца», «літаратуразнаўчае крыніцазнаўства», «літаратурнае крыніцазнаўства».

У 1930 г. М. Бельчыкаў у артыкуле пра крыніцазнаўства, напісаным для тагачаснай «Літаратурнай энцыклапедыі», разумеў пад крыніцамі толькі тыя матэрыялы, якія выкарыстоўвае пісьменнік пры напісанні таго або іншага твора. Крыніцазнаўства вызначалася ім у якасці «адной з прыватных дысцыплін літаратуразнаўства, што вывучае літаратурны твор з боку яго крыніц» [5].

Больш шырокі погляд на крыніцазнаўства выказаў у 1955 г. праф. П. Беркаў у сваёй кнізе «Уводзіны ў тэхніку літаратуразнаўчага даследавання», якая мела падзагаловак «Крыніцазнаўства. Бібліяграфія. Росшук». Літаратуразнаўчае крыніцазнаўства разглядалася П. Беркавым у шэрагу іншых дапаможных літаратуразнаўчых дысцыплін, якія характарызаваліся ім наступным чынам: «Дапаможнымі літаратуразнаўчымі дысцыплінамі называюцца такія галіны навуковых ведаў, якія адносяцца не непасрэдна да вывучэння літаратурнага працэсу ў цэлым або асобных літаратурных з'яў, а толькі да розных бакоў гэтых з'яў і гэтага працэсу і якія, у той жа час, вельмі неабходныя для існавання і далейшага развіцця навукі. Мэта іх — дапамагчы літаратуразнаўцу, аблягчыць яго працу, указаць, дзе і як трэба шукаць патрэбныя матэрыялы, як правільна імі карыстацца, як апрацоўваць іх для далейшага даследавання, як будаваць навуковы твор і г. д.» [6]

Вучоны налічыў адзінаццаць такіх дапаможных дысцыплін: 1. Літаратуразнаўчае архівазнаўства. 2. Літаратуразнаўчае бібліятэказнаўства. 3. Літаратуразнаўчае музеязнаўства. 4. Літаратуразнаўчая бібліяграфія з бібліяграфічнай эўрыстыкай. 5. Літаратуразнаўчая археаграфія з археаграфічнай эўрыстыкай. 6. Палеаграфія. 7.

---

[5] Литературная энциклопедия. М., 1930. Т. 4. Стб. 637.

[6] Берков П. Н. Введение в технику литературоведческого исследования. Л., 1955. С. 46.

Тэксталогія. 8. Крытычная інтэрпрэтацыя (каменціраванне тэксту, вытлумачэнне помніка). 9. Эдыцыйная тэхніка (тэхніка падрыхтоўкі да друку навуковага выдання тэкстаў). 10. Храналогія і сінхраністыка. 11. Літаратуразнаўчая гістарыяграфія.

«Калі ўгледзецца ў гэты пералік,— пісаў П. Беркаў,— можна лёгка заўважыць, што першыя тры дысцыпліны даюць нам звесткі пра месцы знаходжання і захоўвання крыніц для нашай работы; таму зручна аб'яднаць іх пад агульнай рубрыкай літаратуразнаўчага крыніцазнаўства (крыніцазнаўчы цыкл). Чацвёртая і пятая дысцыпліны могуць быць вызначаны як эўрыстычны цыкл (з раздзелам бібліяграфічнага і археаграфічнага крыніцазнаўства). Шостая, сёмая, восьмая і дзевятая дысцыпліны маюць справу з тэкстамі крыніц, рукапіснымі і друкаванымі, якія трэба ўмець прачытаць, зразумець і правільна выдаць; іх можна аб'яднаць у тэксталагічны цыкл. Дзесятая і адзінаццатая дысцыпліны на першы погляд маюць мала агульнага паміж сабой; аднак аб'ядноўвае іх тое, што яны дапамагаюць зразумець літаратурны і літаратуразнаўчы працэс. Відаць, для агульнага абазначэння іх правільна будзе прымяніць рубрыку — гістарыяграфічны цыкл» [7].

Прапанаваная П. Беркавым класіфікацыя дапаможных дысцыплін атрымала шырокае прызнанне і пашырэнне. Яна прыведзена, напрыклад, Б. Мейлахам у артыкуле «Літаратуразнаўства», надрукаваным у 1967 г. у «Кароткай літаратурнай энцыклапедыі» [8] з адной толькі папраўкай: «літаратуразнаўчае музеязнаўства» набыло тут больш шырокі профіль — «літаратуразнаўчае краязнаўства і музеязнаўства». Між тым гэтая класіфікацыя мае свае недахопы. Звяртае на сябе ўвагу залішняя дробнасць падзелу, дысцыпліны пра сховішчы крыніц («крыніцазнаўчы цыкл») не зусім апраўдана аддзяляюцца ад дысцыплін пра пошукі крыніц («эўрыстычны цыкл»). Па сутнасці ўсё гэта, мабыць, часткі таго ж самага літаратуразнаўчага крыніцазнаўства.

Этапнае значэнне для выпрацоўкі правільнага погляду на літаратуразнаўчае крыніцазнаўства мелі артыкулы

---

[7] Берков П. Н. Введение в технику литературоведческого исследования. С. 49.

[8] Краткая литературная энциклопедия. М., 1967. Т. 4. Стб. 331—332.

праф. М. Бельчыкава «Крыніцазнаўства як навукова-дапаможная дысцыпліна літаратуразнаўства» (1963), «Праблемы літаратурнага крыніцазнаўства» (1969), «Наспелыя пытанні літаратуразнаўчага крыніцазнаўства» (1974). Пазней матэрыялы гэтых артыкулаў увайшлі ў яго кнігу «Літаратурнае крыніцазнаўства» (1983), якая не была завершана і выйшла пасля смерці вучонага.

М. Бельчыкаў падтрымаў агульнае разуменне навукова-дапаможных дысцыплін, прапанаванае П. Беркавым, і адзначыў прагрэсіўную тэндэнцыю апошняга часу да іх адасаблення і самавызначэння. «У галіне дапаможных дысцыплін,— пісаў вучоны,— праяўляецца тэндэнцыя да адасаблення, апрача бібліяграфіі, архіяграфіі і архіўнай справы, якія ўжо вызначыліся па метадах апрацоўкі матэрыялу,— яшчэ такіх падсобных дысцыплін, як тэксталогія і крыніцазнаўства.

Самавызначэнне кожнай з гэтых дысцыплін, бясспрэчна, будзе спрыяць развіццю навукі і забяспечыць дакладнасць метадалогіі навуковага даследавання»[9].

У названых артыкулах 60-х гадоў М. Бельчыкаў адмовіўся ад ранейшага вузкага погляду на крыніцазнаўства, якога ён прытрымліваўся ў 1930 г. у артыкуле для «Літаратурнай энцыклапедыі», і выказаўся за «больш шырокае разуменне крыніцазнаўства». «Яно,— паводле новага вызначэння М. Бельчыкава,— мае сваім прадметам вывучэнне і выкарыстанне ўсёй сукупнасці крыніц як друкаваных, так і рукапісных, як апублікаваных у акадэмічным, поўным або выбраным выданні твораў пісьменніка, так і тых, што яшчэ не ўбачылі свет»[10]. «Агульнапрызнана, што ўсякая дысцыпліна павінна мець пэўны аб'ект для свайго вывучэння,— пісаў ён у іншым месцы.— Літаратурнае крыніцазнаўства ставіць сваёй мэтай вывучэнне складу гісторыка-літаратурных крыніц і вызначэнне значэння кожнага віду крыніц для літаратурнай навукі»[11]. Крыніцы, выкарыстаныя пісьменнікам пры напісанні твора,— частка гісторыка-літаратурных крыніц, якую таксама нельга пакі-

---

[9] Бельчиков Н. Ф. Источниковедение как научно-вспомогательная дисциплина литературоведения // Изв. АН СССР. Отд-ние лит. и яз. 1963. Т. 22. С. 89.

[10] Там жа. С. 90.

[11] Бельчиков Н. Ф. Проблемы литературного источниковедения // От «Слова о полку Игореве» до «Тихого Дона»: Сб. статей к 90-летию Н. К. Пиксанова. Л., 1969. С. 27.

даць без увагі. У прыватнасці, забыццё крыніцазнаўчых праблем у манаграфіях аб гістарычнай прозе не дае магчымасці прасачыць «надзвычай цікавы працэсператварэння гістарычных дакументаў у тканіну мастацкага твора»[12],— адзначаў М. Бельчыкаў. Зноў закрануў ён гэта пытанне ў артыкуле «Праблемы літаратурнага крыніцазнаўства»: «Крыніца ўваходзіць у літаратуру праз мастацка-літаратурны твор. Аналіз тканіны твора — шлях да вызначэння крыніцы і пазнання яе функцыі ў творы. Крыніца «гібее», пакуль яна ляжыць спакойна ў архіве або існуе на старонках друкаваных публікацый. Але яна ажывае і блішчыць усімі фарбамі, калі пісьменнік уплятае яе ў тканіну свайго твора. У творы крыніца набывае іншую якасць — літаратурна-паэтычную і грамадскую. Зразумела, не кожны жанр успрымае крыніцу і не кожны пісьменнік абапіраецца на крыніцу, бо часцей за ўсё пісьменнік выкарыстоўвае аўтабіяграфізм»[13]. Згаджаючыся з асноўным пафасам гэтага выказвання, трэба ўнесці папраўку, што сёння «аўтабіяграфізм», г. зн. асабістыя жыццёвыя назіранні аўтара, таксама лічаць крыніцай.

М. Бельчыкаў бачыў тры аспекты крыніцазнаўчага аналізу:

1) Вывучэнне крыніц, што ўвайшлі ў мастацкі твор.

2) Вывучэнне крыніц як матэрыялу для літаратуразнаўчага даследавання.

3) «Трэці аспект,— паводле яго слоў,— прадугледжвае вывучэнне крыніцы як такой у сэнсе асвятлення яе жанравых асаблівасцей і гісторыка-літаратурнага значэння. Тут — непачаты край работы, якая абяцае шмат каштоўных і значных адкрыццяў, такія крыніцы, як матэрыялы да раманаў, замыслы пісьменнікаў, пісьмо, мемуар, дзённік, чакаюць даследчыкаў»[14]. Думаецца, што якраз гэты трэці аспект з'яўляецца галоўным у літаратуразнаўчым крыніцазнаўстве.

Вучоны адзначаў, што лёс крыніцазнаўства быў складаны і не аднолькавы на розных этапах. У перыяд росквіту філалагічнага метаду крыніцазнаўства нязменна прысутнічала ў навуковых даследаваннях, нават назіралася «змяшэнне даследавання з крыніцазнаўствам, свайго роду

[12] Изв. АН СССР. Отд-ние лит. и яз. 1963. Т. 22. С. 95.
[13] От «Слова о полку Игореве» до «Тихого Дона». С. 31—32.
[14] Там жа. С. 32.

падмена даследавання крыніцазнаўствам». У часы перавагі, як сказаў М. Бельчыкаў, «публіцыстычнага дыдактызму» крыніцазнаўства адыходзіла на задні план і гэта адмоўна адбівалася на развіцці грамадскіх навук, у прыватнасці і на літаратуразнаўстве. «За апошнія гады пачаўся пэўны паварот да крыніцы...— адзначалася ў артыкуле 1969 г.— Крыніцазнаўства набыло ўсе правы грамадзянства ў нашай навуцы, толькі не атрымала сістэматызаванага асэнсавання свайго аб'екта, сваіх прынцыпаў і праблем, назапашаных у досыць вялікай колькасці.

Такім чынам, чарговая задача ў галіне крыніцазнаўства — гэта канструяванне самой дысцыпліны, вызначэнне яе прадмета, шляхоў і прынцыпаў вывучэння»[15].

Аднак адасабленне і самавызначэнне не азначае страту сувязей. М.Бельчыкаў выказаў плённыя думкі аб узаемадзеянні ўсіх галін літаратуразнаўства. Ён пісаў: «Усе літаратуразнаўчыя дысцыпліны — асноўныя і дапаможныя — суіснуюць і ўзаемна ўзбагачаюць адна адну. Вядучымі для навукова-дапаможных дысцыплін з'яўляюцца гісторыя і тэорыя літаратуры. Для развіцця, напрыклад, крыніцазнаўства самая цесная сувязь і ўзаемадзеянне з гісторыка-літаратурнай навукай мае велізарнае значэнне. Тэорыя і гісторыя літаратуры, напрамак навуковых інтарэсаў у пэўную эпоху адбіваюцца самым рашучым чынам на метадах вывучэння і апрацоўкі крыніц, на пошуках матэрыялаў, неабходных для асвятлення наспелых навуковых праблем.

Навукова-дапаможныя дысцыпліны, абапіраючыся на навуку, у сваю чаргу ўздзейнічаюць на яе, дапамагаюць яе развіццю, узбагачаюць яе новымі матэрыяламі, спрыяюць удакладненню філалагічнага аналізу крыніц і наогул філалагічнай базы літаратуразнаўчых вывучэнняў»[16].

На думку М. Бельчыкава, крыніцазнаўчы аналіз, у прыватнасці вывучэнне творчай гісторыі твораў, спрыяе паглыбленню філалагічнай асновы гісторыка-літаратурных даследаванняў. «Крыніцазнаўства змыкаецца з мовазнаўствам і тэксталогіяй, якія ўносяць у гісторыка-літаратурныя даследаванні філалагічны аспект»[17]. Вынікі работы тэкстолагаў, якія выяўляюцца ў найбольш даклад-

[15] От «Слова о полку Игореве» до «Тихого Дона». С. 27.
[16] Изв. АН СССР. Отд-ние лит. и яз. 1963. Т. 22. С. 90.
[17] Там жа. С. 93—94.

ным узнаўленні тэкстаў пісьменнікаў, у распрацоўцы прынцыпаў выдання і асабліва прыёмаў чытання рукапісных тэкстаў, улічваюцца крыніцазнаўцамі. Крыніцазнаўчыя росшукі дапамагаюць тэкстолагу ў падрыхтоўцы выданняў. Літаратурная бібліяграфія кожны раз адказвае крыніцазнаўцу на пытанні: надрукавана тая або іншая крыніца ці не і калі надрукавана, то дзе і калі.

«Ідэя каардынацыі бібліяграфічнага, археаграфічнага і крыніцазнаўчага росшукаў з аналізамі мовы і стылю, а таксама з гісторыка-літаратурным даследаваннем,— паводле слоў М. Бельчыкава,— набывае шырокае прызнанне сярод савецкіх літаратуразнаўцаў. Гісторыка-літаратурныя з'явы не могуць быць прадметам вывучэння без крыніцазнаўчага аналізу; без крыніцы або па-за крыніцай няма аб'екта літаратурнай навукі. З іншага боку, і вышэйшыя этапы ў рабоце літаратуразнаўца — вызначэнне заканамернасцей літаратурнага развіцця — могуць быць здзейснены толькі пры наяўнасці ў навуковым пазнанні крыніцазнаўчай базы» [18].

М. Бельчыкаў адзначыў таксама відавочную сувязь літаратуразнаўчага крыніцазнаўства з гістарычнай навукай. «Дасягненні гісторыкаў у пытаннях крыніцазнаўства павінны быць улічаны і ператвораны ў практыку літаратуразнаўцамі-крыніцазнаўцамі: некаторыя ж крыніцы (напрыклад, мемуары, пісьмы) з'яўляюцца прадметам вывучэння і выкарыстання даследчыкамі як гісторыі рускай літаратуры, так і гісторыі СССР» [19]. Тут адзначаны, праўда, толькі адзін — і, магчыма, не самы галоўны — аспект сувязей паміж літаратуразнаўчым і агульнагістарычным крыніцазнаўствам.

Услед за акадэмікам А. Весялоўскім, які ўжыў у канцы XIX ст. для характарыстыкі становішча ў рускай гісторыка-літаратурнай навуцы лацінскі выраз res nullius (рэч без уладальніка, нічыя), М. Бельчыкаў гэтак жа ахарактарызаваў сучасны ўзровень крыніцазнаўства рускай літаратуры. «Можна сказаць і аб літаратурным крыніцазнаўстве,— пісаў ён,— што гэта галіна, даступная і неабходная усім, хто будуе свае працы на матэрыяле крыніц, і ў той жа час галіна, недастаткова ўпарадкаваная, недастаткова з'арганізаваная як самастойная дысцыпліна, якая

[18] Изв. АН СССР. Отд-ние лит. и яз. 1963. Т. 22. С. 92.
[19] Там жа. С. 90—91.

не вызначылася ў сваіх межах і не акрэсліла самы прадмет свайго вывучэння»[20].

Указваючы на адсутнасць абагульняючай працы, у якой былі б зведзены ў сістэму праблемы крыніцазнаўства, вызначаны склад і характар гісторыка-літаратурных крыніц, М. Бельчыкаў змог адзначыць толькі распрацоўку некаторых праблем крыніцазнаўства ў канкрэтных гісторыка-літаратурных працах. Напрыклад, у капітальнай працы акадэміка В. Вінаградава «Мова мастацкай літаратуры» (1959) значнае месца адведзена праблеме ўстанаўлення аўтарства і аўтэнтычнасці мастацкіх тэкстаў. Крыніцазнаўчымі ў сваёй аснове з'яўляюцца працы па творчай гісторыі буйных твораў літаратуры. Пачынальнікам гэтага плённага напрамку ў літаратуразнаўстве па праву лічаць М. Піксанава, які выдаў у 1928 г. даследаванне «Творчая гісторыя «Гора ад розуму». Гэта адкрыла шырокі шлях для новых даследаванняў як у галіне класічнай, так і савецкай літаратуры. Нагадаем, што на Беларусі першую буйную працу такога роду напісаў М. Мушынскі[21]. Складаную гісторыю беларускага летапісання распрацавалі В. Чамярыцкі і М. Улашчык[22]. Крыніцазнаўчы характар маюць даследаванні па атрыбуцыі ананімных паэм (І. Бас, Г. Кісялёў). Агульны агляд «філалагічных крыніц» зрабіў В. Рагойша[23].

Шмат займаецца праблемамі крыніцазнаўства грузінскі літаратуразнавец Д. Тухарэлі. Праўда, у цэнтры яго даследчыцкай увагі пераважна адзін аспект — выкарыстанне крыніц рознага роду ў мастацкіх творах. На гэту тэму ім абаронена доктарская дысертацыя (1969), у 1976 г. ён выдаў у Тбілісі семінарый «Літаратурныя крыніцы і мастацкі твор». Ён лічыць магчымым выдзеліць гэты аспект у самастойную дысцыпліну ўнутры літаратуразнаўства. Гэты напрамак надзвычай цікавіць і іншых вучоных[24].

---

[20] Изв. АН СССР. Отд-ние лит. и яз. 1963. Т. 22. С. 91.

[21] Мушынскі М. Ад задумы да здзяйснення: Творчая гісторыя «Новай зямлі» і «Сымона-музыкі». Мн., 1965.

[22] Чамярыцкі В. А. Беларускія летапісы як помнікі літаратуры. Мн., 1969; Улащик Н. Н. Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1985.

[23] Введение в специальность: Для студентов филологических факультетов / Под ред. А. Е. Супруна. Мн., 1977. С. 98—123.

[24] Карлова Т. С. К проблеме типологии в литературном источниковедении // Вопросы источниковедения русской литературы: Межвуз. сб. науч. тр. Казань, 1989.

У артыкуле «Аб літаратурным крыніцазнаўстве» (1981) Д. Тухарэлі звяртае ўвагу на тэрміналогію. Справа ў тым, што М. Бельчыкаў называў дысцыпліну, якая вывучае крыніцы літаратурнай навукі, «літаратурным крыніцазнаўствам». Д. Тухарэлі лічыць, што «літаратурнае крыніцазнаўства» — гэта вывучэнне крыніц мастацкіх твораў, а ўсе віды гісторыка-літаратурных крыніц вывучае «літаратуразнаўчае крыніцазнаўства». Пра выкарыстанне М. Бельчыкавым тэрміна «літаратурнае крыніцазнаўства» Д. Тухарэлі пісаў: «...наўрад ці можна пагадзіцца з залішне шырокім разуменнем сэнсу гэтага тэрміна, якое даецца аўтарам. Даследчык, несумненна, меў на ўвазе літаратуразнаўчае крыніцазнаўства. Наша разуменне прадмета літаратурнага крыніцазнаўства больш лакальнае. Мы лічым, што гэта дапаможная дысцыпліна павінна займацца вывучэннем тых папярэдніх матэрыялаў, таго віду «літаратурнай сыравіны», якую збірае пісьменнік для стварэння мастацкага твора» [25]. Адсюль, паводле Д. Тухарэлі, вынікаюць узаемаадносіны паміж тэрмінамі «літаратуразнаўчыя крыніцы» і «літаратурныя крыніцы»: «Літаратуразнаўчыя крыніцы — больш шырокая з'ява, чым літаратурныя крыніцы, паколькі ўсе матэрыялы, што цікавяць нас у працэсе даследавання, з'яўляюцца, па сутнасці, літаратуразнаўчымі, і сярод іх толькі адна група з'яўляецца літаратурнай» [26]. Невядома, наколькі паўплывалі тут прапановы Д. Тухарэлі, але за нашай крыніцазнаўчай дысцыплінай, здаецца, замацавалася цяпер назва «літаратуразнаўчае крыніцазнаўства» [27], хоць назва «літаратурнае крыніцазнаўства» па-ранейшаму фігуруе ў пасмяротным выданні падагульняючай крыніцазнаўчай працы М. Бельчыкава [28].

Апошнім часам літаратуразнаўчае крыніцазнаўства карэнным чынам павярнулася да паглыблення сваіх тэарэтычных асноў. Гэта праявілася, у прыватнасці, у працах С. Белаконя, які абараніў у 1978 г. дысертацыю на тэму «Прадмет і задачы літаратуразнаўчага крыніца-

---

[25] Тухарели Д. А. О литературном источниковедении // Классическое наследие и современность. Л., 1981. С. 88.

[26] Там жа. С. 90.

[27] Гришунин А. Л. Источниковедение литературоведческое // Литературный энциклопедический словарь. М., 1987. С. 139—140; Кісялёў Г. В. Крыніцазнаўства літаратуразнаўчае // ЭЛіМБел. Мн., 1986. Т. 3. С. 139.

[28] Бельчиков Н. Ф. Литературное источниковедение. М., 1983.

знаўства», апублікаваў артыкулы «Шляхі развіцця літаратуразнаўчага крыніцазнаўства» (1977), «Літаратуразнаўчае крыніцазнаўства» (1978). Апошні артыкул, надрукаваны ў «Кароткай літаратурнай энцыклапедыі», як бы падсумоўвае выпрацаваныя савецкім літаратуразнаўствам погляды на гэтую дысцыпліну.

Паводле вызначэння «Кароткай літаратурнай энцыклапедыі», літаратуразнаўчае крыніцазнаўства — спецыяльная філалагічная дысцыпліна, якая вывучае тэорыю і методыку здабывання літаратуразнаўчых фактаў [29].

Гісторыя літаратуры адносіцца да цыкла гістарычных дысцыплін і адпавядае агульным заканамернасцям гістарычнага пазнання. Літаратуразнаўчае крыніцазнаўства, хоць і мае сваю спецыфіку, карыстаецца асноўнымі палажэннямі тэорыі і метадалогіі агульнагістарычнага крыніцазнаўства, даволі грунтоўна распрацаваных гістарычнай навукай [30].

Адной з характэрных рысаў гістарычнага пазнання з'яўляецца наяўнасць прамежкавага звяна (крыніцы) паміж даследчыкам і аб'ектам даследавання. Гістарычны факт адлюстроўваецца ў крыніцы — крыніца даходзіць да гісторыка. Веданне гістарычнага факта даецца звычайна праз крыніцу, а рэальнасць самога факта ў працэсе пазнання мае спецыфічны характар. Крыніцазнаўства адрознівае: факт, які сапраўды меў месца; факт, як ён адлюстраваўся ў крыніцы; нарэшце, факт, як ён адбіўся ў свядомасці (і паказаны затым у працы) даследчыка на падставе вывучэння крыніцы.

Варта сказаць, што гістарычная крыніца ўяўляе сабою не толькі сведчанне аб факце, які даследуецца, але і сама выступае як самастойны грамадскі факт. Гісторык-крыніцазнавец А. Тартакоўскі піша: «Выяўленне на базе марксісцкай метадалогіі сацыяльнай прыроды крыніцы прывяло да прынцыповага пашырэння прадмета крыніца-

---

[29] Белоконь С. И. Литературоведческое источниковедение // Краткая литературная энциклопедия. М., 1978. Т. 9. Стб. 486.

[30] Гл., напр.: Булыгин И. А., Пушкарев Л. Н. Источниковедение // Советская историческая энциклопедия. М., 1965. Т. 6. Стб. 592—601; Дьяков В. А. Методология истории в прошлом и настоящем. М., 1974; Медушевская О. М. Современное зарубежное источниковедение. М., 1983; Фарсобин В. В. Источниковедение и его метод. М., 1983; Пронштейн А. П., Данилевский И. Н. Вопросы теории и методики исторического исследования. М., 1986; Ковальченко И. Д. Методы исторического исследования. М., 1987; Topolski J. Metodologia historii. 3 wyd. Warszawa, 1984.

знаўства — уключэння ў яго ў якасці самастойнага аспекту разгляду крыніцы як з'явы эпохі, што яе спарадзіла, у плане яе ўласнай гісторыі, у яе рэальным гістарычным бытаванні» [31]. Такі падыход надзвычай важны і для выкарыстання крыніцы ў даследаванні.

У літаратуразнаўстве аб'ектам пазнання з'яўляецца літаратура, літаратурны працэс ва ўсіх яго праявах або, інакш, літаратурная грамадская свядомасць — адна з формаў мастацкай свядомасці. Прамежкавае звяно ў яе пазнанні складаюць літаратурныя творы і іншыя крыніцы.

Літаратурныя крыніцы, калі сказаць у найбольш агульнай форме,— частка літаратурнай рэчаіснасці, якая працягвае рэальна існаваць і нясе якую-небудзь інфармацыю аб грамадскай літаратурнай свядомасці свайго часу. Кажучы прасцей і прадметней, гэта кнігі, рукапісы, дакументы пэўнай эпохі, якія дайшлі да нас і могуць даць уяўленне пра літаратуру і пісьменнікаў данай эпохі. Пры гэтым трэба ўлічваць, што ў матэрыяльных формах літаратурная свядомасць грамадства рэалізуецца не цалкам: фальклор, анекдоты, каламбуры, эпіграмы, часам цэлыя вершы і іншыя творы існуюць у вуснай перадачы.

Істотнай для крыніцазнаўства з'яўляецца праблема прабелаў, праблема рэпрэзентатыўнасці крыніц. Крыніцы — падмурак гістарычнага даследавання. «Каб гэта быў сапраўдны фундамент,— пісаў У. І. Ленін,— неабходна браць не асобныя факты, а *ўсю сукупнасць* належачых да разглядаемага пытання фактаў, *без адзінага* выключэння, бо інакш непазбежна ўзнікне падазрэнне, і зусім законнае падазрэнне, у тым, што факты выбраны або падабраны адвольна...» [32]

Але важна, каб крыніцы захаваліся, каб было з чаго выбіраць. Зірнём з гэтага пункту погляду на гісторыка-літаратурныя крыніцы. Тут, як і ў агульным крыніцазнаўстве, існуе паняцце патэнцыяльных і фактычных крыніц. Літаратурныя творы, якія ўвасобілі літаратурную свядомасць, і тыя матэрыялы, у якіх літаратурная свядомасць адбіваецца, складаюць корпус магчымых, патэнцыяльных літаратуразнаўчых крыніц. Гэта, так

---

[31] Тартаковский А. Г. Социальные функции источников как методологическая проблема источниковедения // История СССР. 1983. № 3. С. 112.

[32] Ленін У. І. Творы. Т. 23. С. 265.

сказаць, ідэальны выпадак поўнай захаванасці матэрыялаў. Але ў жыцці так, на жаль, не бывае. Даходзячы да часу даследчыка, патэнцыянальныя літаратуразнаўчыя крыніцы змяняюцца колькасна і якасна. Яны ўяўляюць сабой толькі частку — большую або меншую — былой генеральнай сукупнасці.

З цягам часу адбываецца фізічнае старэнне крыніц (разбурэнне паперы, выцвітанне чарніла). Змяняецца само грамадства, якое ўжо інакш разумее той або іншы тэкст, атрыманы ў спадчыну ад мінулага. «Мы чытаем старога пісьменніка не так, як яго чыталі сучасныя чытачы...— пісаў акадэмік А. Бялецкі.— Пачынаючы расшыфроўваць эзопаўскую мову, мы часта бачым эзопаўшчыну там, дзе яе магло не быць,— але і не бачым яе там, дзе яна была» [33]. Літаратурны твор, як і іншыя крыніцы, як бы шыфруецца часам, так што без дапаможных матэрыялаў (напрыклад, тых жа літаратуразнаўчых крыніц) прааналізаваць яго бывае немагчыма. Часткова такую расшыфроўку прарабілі ўжо папярэднія даследчыкі. Матэрыялы, да якіх звяртаецца літаратуразнавец у працэсе даследавання, складаюць корпус фактычных літаратуразнаўчых крыніц.

Літаратуразнаўчае крыніцазнаўства, як і крыніцазнаўства агульнагістарычнае, мае тэарэтычны і практычны аспекты. У задачу тэарэтычнага крыніцазнаўства ўваходзіць даследаванне тэорыі, гісторыі, структуры і ўласцівасцей крыніцазнаўчай інфармацыі. Практычнае крыніцазнаўства заключаецца ў выяўленні крыніц, іх знешняй і ўнутранай крытыцы.

Выяўленне крыніц ажыццяўляецца ў спецыяльных сховішчах (архівы, музеі, бібліятэкі) пры дапамозе адпаведнай катэгорыі эўрыстыкі.

Знешняя крытыка заключаецца ў прачытанні і падрабязнай атрыбуцыі самой крыніцы і згаданых у ёй назваў, прозвішчаў і іншых рэалій. Устанаўліваецца аўтар крыніцы, час і месца яе ўзнікнення, аўтэнтычнасць крыніцы, акалічнасці і мэты яе стварэння. Пры гэтым высвятляецца, што хацеў паведаміць яе стваральнік.

Унутраная крытыка вызначае характар адлюстравання рэчаіснасці ў крыніцы, унутраныя ўласцівасці і верагоднасць крыніцы, паўнату звестак, ступень дакладнасці і г. д.

---

[33] Белецкий А. И. Из последних тетрадей // Лит. газ. 1984. 31 окт.

Так вычляняецца літаратуразнаўчы факт, які пасля ўсебаковага асэнсавання трапляе ў даследаванне.

Цікава, што «Кароткая літаратурная энцыклапедыя» лічыць археаграфію, тэксталогію і палеаграфію дапаможнымі дысцыплінамі крыніцазнаўства, якія выдзеліліся ў асобныя навукі ў працэсе спецыялізацыі[34]. Увогуле паняцце «тэксталогія» ў шырокай трактоўцы акадэміка Д. Ліхачова[35] даволі блізкае да паняцця «літаратуразнаўчае крыніцазнаўства». Працы савецкіх і замежных тэкстолагаў вельмі важныя і для крыніцазнаўцаў[36]. У парадку абвастрэння пытання выказвалася нават думка, што тэксталогія ў літаратуразнаўцаў тое самае, што крыніцазнаўства ў гісторыкаў[37].

Гэта гаворыць пра тое, што канструяванне спецыяльных дысцыплін літаратуразнаўства яшчэ не закончылася[38].

«Сёння першачарговая задача літаратуразнаўчага крыніцазнаўства заключаецца ў распрацоўцы праблем тэарэтычнага крыніцазнаўства і сістэматызацыі эмпірычна назапашаных ведаў — як фактаў літаратуры, так і фактаў самога літаратуразнаўства і крыніцазнаўства»[39],— адзначае С. Белаконь.

Адным з галоўных у крыніцазнаўстве лічыцца пытанне аб класіфікацыі крыніц.

З часоў М. Піксанава прынята падзяляць усе матэрыялы, што выкарыстоўваюцца ў даследаваннях літаратуразнаўцаў, на крыніцы і дапаможнікі (пособия). «Крыніцы,— пісаў М. Піксанаў,— ёсць тэксты літаратурных твораў, пісьмы аўтараў, пісьмы да іх і пісьмы аб іх, дакументальныя біяграфічныя матэрыялы, потым — успаміны сучаснікаў. Вось іх і трэба вывучаць у першую чаргу. Дапаможнікамі з'яўляюцца навуковыя даследаванні, біяграфічныя і літаратурныя, а таксама крытычныя

---

[34] Краткая литературная энциклопедия. М., 1978. Т. 9. Стб. 487.

[35] Лихачев Д. С. Текстология: Краткий очерк. М.; Л., 1964; Ен жа. Текстология: На материале русской литературы X—XVII веков. 2-е изд. Л., 1983.

[36] Górski K. Tekstologia i edytorstwo dzieł literackich. Warszawa, 1975.

[37] Шепелева Л. Е. [Рец. на кн.: Фарсобин В. В. Источниковедение и его метод. М., 1983] // История СССР. 1986. № 1. С. 208.

[38] Лихачев Д. С. О некоторых неотложных задачах специальных филологических дисциплин // Вестник АН СССР. 1976. № 4.

[39] Білокінь С. І. Шляхи розвитку літературознавчого джерелознавства // Радянське літературознавство. 1977. № 10. С. 81.

артыкулы»[40]. А. Фамін увёў яшчэ дадатковы падзел крыніц на першакрыніцы і проста крыніцы. Яны адрозніваюцца паміж сабой па форме: у першым выпадку рукапіснай, а ў другім — друкаванай. Ён пісаў: «Увесь вялікі матэрыял для літаратуразнаўчай працы разбіваецца на тры часткі: 1) першакрыніцы, да якіх адносяцца самі літаратурныя творы, пісьмы, дакументы; 2) крыніцы — іх выданні; 3) дапаможнікі, якія разбіваюцца на а) спецыяльныя і б) неспецыяльныя»[41].

Вылучаць асобна першакрыніцы лічыў неабходным П. Беркаў, які найбольш шырока ахарактарызаваў віды літаратуразнаўчых крыніц і дэталізаваў іх класіфікацыю.

Першакрыніцамі ён лічыў:

а) літаратурныя творы пісьменнікаў у рукапісах або першадруках, калі рукапіс не дайшоў;

б) пісьмы пісьменніка, пісьмы да яго, пісьмы аб ім яго сучаснікаў і асоб, якія ведалі яго сучаснікаў;

в) біяграфічныя дакументы (метрычныя пасведчанні аб нараджэнні, дакументы аб вучобе, аб службовай і грамадскай дзейнасці, пасведчанні аб смерці і г. д.);

г) мемуарныя жанры (аўтабіяграфіі, інтэрв'ю, юбілейныя і некралагічныя артыкулы; дзённікі, запіскі, запісныя кніжкі, успаміны, «споведзь» пісьменніка, яго сучаснікаў або асоб, што ведалі сучаснікаў пісьменніка, рукапісныя і друкаваныя справаздачы — стэнаграфічныя або «па жывым запісе» — аб якіх-небудзь выступленнях);

д) вусныя першакрыніцы (асабістыя гутаркі даследчыка з пісьменнікам, яго сучаснікамі або асобамі, што ведалі іх).

«Проста крыніцамі,— паводле П. Беркава,— з'яўляюцца творы і дакументы, пералічаныя ў групах а), б) і в) і даступныя нам толькі ў друкаванай форме. Да ліку крыніц трэба аднесці таксама перапіску даследчыка і яго вусныя гутаркі са спецыялістамі, што вывучаюць і вывучалі гэта ж пытанне. Звесткі, узятыя з вусных лекцый, дакладаў, выступленняў на дыспутах і пасяджэннях навукова-даследчых установ і навуковых таварystваў, таксама трэба прызнаць крыніцамі»[42].

---

[40] Пиксанов Н. К. Два века русской литературы. 2-е изд. М., 1924. С. 20.

[41] Фомин А. Г. Путеводитель по библиографии, биобиблиографии, историографии, хронологии и энциклопедии литературы. Л., 1934. С. 43.

[42] Берков П. Н. Введение в технику литературоведческого исследования. С. 53.

Астатнія матэрыялы, якімі карыстаецца літаратуразнавец, П. Беркаў называе дапаможнікамі. Гэта працы пра пісьменніка, водгукі на яго творчасць, матэрыяльныя прадметы, звязаныя з жыццём і дзейнасцю пісьменніка (у тым ліку яго бібліятэка, партрэты), абагульняючыя літаратуразнаўчыя і гісторыка-культурныя працы. «У шырокім сэнсе слова,— паводле П. Беркава,— дапаможнікам у літаратуразнаўчай рабоце можа з'явіцца любая галіна чалавечай культуры»[43].

Надзвычай плённай з'яўляецца думка П. Беркава пра «адноснае значэнне» паняццяў «крыніца» і «дапаможнік». «Кожны раз,— заўважае вучоны,— тут давядзецца спецыяльна вызначаць, што ў даным выпадку з'явіцца крыніцай і што дапаможнікам. Так, пры вывучэнні, напрыклад, пытання аб крытычным рэалізме артыкулы Бялінскага, Чарнышэўскага, Дабралюбава пра рускіх пісьменнікаў 40—50-х гадоў XIX ст. павінны разглядацца як крыніца або першакрыніца, тады як пры вывучэнні, напрыклад, Гогаля або гісторыі рускай аповесці яны законна будуць лічыцца дапаможнікамі»[44].

М. Бельчыкаў слушна, як нам здаецца, пярэчыў супраць даволі штучнага расчлянення крыніц на першакрыніцы і крыніцы. «Мяжа паміж друкаванымі і рукапіснымі крыніцамі даволі ўмоўная,— адзначаў ён.— Крыніца, якая доўгія гады захоўвалася ў архіве, апублікавана. Ніякіх якасных змен пры гэтым не адбылося. Але знешні выгляд яе стаў іншым. Таму падзел крыніц на друкаваныя і рукапісныя ... усё ж з'яўляецца ўмоўным»[45]. У іншым месцы вучоны пісаў: «Згаджаючыся з указаннем праф. П. Н. Беркава на пераходнае, двыякае значэнне відаў крыніц (крыніца ў адным сэнсе, дапаможнік у іншых адносінах), мы не можам прыняць у якасці абавязковага пастаяннае аддзяленне першакрыніц ад крыніц. На нашу думку, асноўнае чляненне слушна намячае праф. М. К. Піксанаў — гэта крыніцы і дапаможнікі»[46]. М. Бельчыкаў быў зусім не супраць выкарыстання тэрміна «першакрыніца», але ў іншым сэнсе. «Гэтым тэрмінам,— пісаў ён,— падкрэсліваецца першаснасць, непасрэднасць крыніцы як такой, у адрозненне ад такіх ві-

---

[43] Берков П. Н. Введение в технику литературоведческого исследования. С. 54.

[44] Там жа.

[45] От «Слова о полку Игореве» до «Тихого Дона». С. 28.

[46] Там жа. С. 30.

даў крыніц, як не першапачатковыя, а наступныя выданні. Ужываючы гэты тэрмін, аўтар хоча адзначыць ступень верагоднасці і бясспрэчнасці паказанняў крыніцы, падкрэсліць яе значымасць або адносную каштоўнасць»[47]. Нельга не пагадзіцца з вядомым вучоным. Слоўнікі вызначаюць слова «першакрыніца» як «першая асноўная крыніца якіх-небудзь звестак»[48]. Першакрыніцай можна, мабыць, назваць кожную крыніцу ў парадку супрацьпастаўлення яе іншым, пазнейшым крыніцам гэтага ж шэрагу. У такім жа духу вырашае пытанне крыніцазнавец гісторыі мастацтва І. Пятроўская: «Можна гаварыць толькі пра першакрыніцу якіх-небудзь пэўных звестак, якія потым паўтараліся, дакладна або са зменамі»[49].

Да зробленага П. Беркавым пераліку крыніц М. Бельчыкаў прапанаваў яшчэ дадаць «і такія віды крыніц, як аўтабіяграфіі, аўтарэцэнзіі, выказванні пісьменнікаў аб сваёй працы (пісьменнікі аб літаратурнай працы), крытычныя артыкулы пісьменнікаў (пісьменнікі аб пісьменніках), цэнзурныя матэрыялы (водзывы цэнзараў, цэнзурных устаноў і г. д.), асабістыя бібліятэкі пісьменнікаў, фатаграфіі»[50]. С. Белаконь слушна ўдакладняе, што выказванні пісьменнікаў аб сваёй творчасці не складаюць чарговую групу — «яны могуць змяшчацца як у тых жа самых пісьмах, так і ў дзённіках або ўспамінах. Калі названы цэнзурныя матэрыялы, то неабходна прыгадаць і рэдакцыйныя матэрыялы таксама»[51].

С. Белаконь у сваю чаргу дзеліць літаратурныя крыніцы на тры вялікія групы: 1) рукапісныя крыніцы, 2) друкаваныя крыніцы, 3) крыніцы іншых відаў. Гэтым групам, на думку даследчыка, адпавядаюць розныя тыпы сховішчаў: архівы, музеі, у тым ліку фонды тэле- і радыёстудый, і бібліятэкі.

Да рукапісных крыніц адносяцца матэрыялы асабістых архіўных фондаў, фондаў дзяржаўных устаноў (напрыклад, цэнзурных) і грамадскіх арганізацый, маргіналіі (паметкі на кнігах) і эпіграфічныя помнікі.

Друкаваныя матэрыялы, лічыць даследчык, можна раз-

---

[47] От «Слова о полку Игореве» до «Тихого Дона». С. 29.

[48] Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. Мн., 1980. Т. 4. С. 245.

[49] Петровская И. Источниковедение истории русской музыкальной культуры XVIII — начала XX века. М., 1983. С. 4.

[50] От «Слова о полку Игореве» до «Тихого Дона». С. 29.

[51] Радянське літературознавство. 1977. № 10. С. 77.

біць на групы, зыходзячы са зместу крыніц і спецыфікі бібліяграфічнай работы. Тут вылучаюцца, па-першае, выданні літаратурных твораў, па-другое, група, куды ўваходзяць дзённікі, запісныя кніжкі, мемуары і пісьмы. Трэцюю групу складаюць літаратуразнаўчыя працы, чацвёртую — матэрыялы перыёдыкі, пятую — выданні агульнага характару (матэрыялы заканадаўства, ведамасныя выданні, у тым ліку справаздачы і гісторыі навучальных устаноў, палкоў і г. д., краязнаўчая літаратура). «Даследчык выкарыстоўвае таксама выданні па гісторыі мастацтва, філасофіі і іншую дапаможную літаратуру і, нарэшце, даведачныя выданні»[52],— дадае С. Белаконь, хоць, здаецца, прыгаданыя вышэй справаздачы і гісторыі навучальных устаноў і палкоў — таксама даведачны матэрыял.

Нарэшце, да трэцяй асноўнай групы («Крыніцы іншых відаў») С. Белаконь адносіць так званыя аўдыёвізуальныя матэрыялы (іканаграфія, ілюстрацыйны матэрыял, гуказапісы і кінастужкі) і «вусную традыцыю». У артыкуле «Літаратуразнаўчае крыніцазнаўства», надрукаваным у «Кароткай літаратурнай энцыклапедыі», вусныя крыніцы асобна не вылучаюцца, уся група носіць назву «Аўдыёвізуальныя крыніцы».

Сярод «дапаможных сродкаў» літаратуразнаўцаў-даследчыкаў называюцца таксама памятныя мясціны пісьменнікаў, мемарыяльныя рэчы[53].

Працы С. Белаконя ўносяць шмат новага, цікавага ў праблему класіфікацыі літаратуразнаўчых крыніц. Разам з тым не ўсе яго прапановы можна прыняць безагаворачна.

Вышэй мы пазнаёміліся, напрыклад, са слушнай думкай М. Бельчыкава наконт умоўнасці падзелу крыніц на рукапісныя і друкаваныя. А ў класіфікацыі С. Белаконя гэтай мяжы надаецца прынцыповае значэнне, яна бярэцца за аснову.

Як можна было пераканацца, С. Белаконь не бачыць якой-небудзь істотнай розніцы паміж крыніцамі ў поўным значэнні слова і дапаможнікамі. Між тым пазіцыя М. Піксанава, А. Фаміна, П. Беркава, М. Бельчыкава ў гэтым пытанні здаецца нам больш слушнай па сутнасці і больш карыснай для даследчыцкай практыкі. Крыніца (напрык-

[52] Краткая литературная энциклопедия. Т. 9. Стб. 487.
[53] Радянське літературознавство. 1977. № 10. С. 80.

лад, архіўны дакумент) адрозніваецца карэнным чынам па сваёй прыродзе ад напісанай сёння літаратуразнаўчай працы. Зразумела, мы ўзялі найбольш характэрны выпадак. На практыцы ж здараюцца выпадкі, калі дэмаркацыйную лінію паміж крыніцамі і дапаможнікамі пазначыць цяжэй. Тым больш што, як заўважыў яшчэ П. Беркаў, дапаможнікі могуць пераходзіць гэту лінію і станавіцца такім чынам крыніцамі.

Літаратуразнаўчая праца можа стаць крыніцай, калі яна абапіралася на матэрыялы, што да нас не дайшлі. Згубіліся крыніцы, і даследаванне, у якім найбольш поўна яны пададзены, само становіцца крыніцай, набывае дадатковую каштоўнасць. Зноў знайшліся матэрыялы, што лічыліся згубленымі, і праца зноў атрымлівае статус дапаможніка.

Падобнае змяненне статуса, як слушна адзначаў П. Беркаў, залежыць і ад павароту тэмы даследавання. Калі, напрыклад, мы даследуем гісторыю літаратуразнаўства і крытыкі, то крыніцамі для нас, зразумела, паслужаць у першую чаргу якраз тэксты літаратуразнаўчых і крытычных прац таго перыяду, які даследуецца.

Наогул жа крытычныя матэрыялы адносна іх крыніцазнаўчага статуса, на нашу думку, трэба разбіваць на дзве групы: а) прыжыццёвыя водгукі на творчасць пісьменніка, б) пазнейшыя артыкулы і працы аб ім. Першыя мы адносім да крыніц: такія водгукі ўплывалі на пісьменніка, станавіліся часткай яго біяграфіі. Пазнейшыя артыкулы пры даследаванні жыцця і творчасці пісьменніка трэба разглядаць як дапаможнікі.

Крыніцамі па сваёй сутнасці, праўда, крыніцамі асобага роду, з'яўляюцца памятныя мясціны, асабістыя рэчы пісьменніка. Яшчэ Гётэ гаварыў — хочаш зразумець паэта, адпраўляйся на яго радзіму. Калі гісторыкі спрачаюцца, ці адносіць да гістарычных крыніц геаграфічнае асяроддзе, у якім адбываліся гістарычныя падзеі [54], то для літаратуразнаўцаў абсалютна ясна, што памятныя мясціны пісьменніка — выдатная крыніца для разумення яго асобы і творчасці. Тут крыніцазнаўства збліжаецца з так званым літаратурным краязнаўствам [55].

---

[54] Пушкарев Л. Н. Классификация русских письменных источников по отечественной истории. М., 1975. С. 74—86.

[55] Милонов Н. А. Литературное краеведение. М., 1985; Ляшук В. Я. Літаратурнае краязнаўства ў школе. Мн., 1991.

Нават магіла пісьменніка можа стаць крыніцай нейкіх дадатковых ведаў, звестак пра дзеяча літаратуры далёкага мінулага. Вядомы савецкі антраполаг і скульптар М. Герасімаў распрацаваў метад узнаўлення партрэтных рысаў па чэрапе. На аснове гэтага метаду ім створаны скульптурны партрэт таджыкскага і персідскага паэта Рудакі, які жыў у IX—X стст. Літоўскія даследчыкі па астанках К. Данялайціса, які пахаваны ў 1780 г. у Талмінкемісе (зараз Чыстыя Пруды Калінінградскай вобл.), узнавілі сапраўднае аблічча свайго класіка (ніводнага аўтэнтычнага партрэта яго да нас не дайшло). У нашым друку ставілася пытанне аб адшуканні і наступным даследаванні магілы выдатнага асветніка XVI ст. В. Цяпінскага[56]. Надпісы на адшуканых надмагільных помніках дапамаглі істотна ўдакладніць гады жыцця пісьменнікаў XIX ст. А. Абуховіча і Ф. Тапчэўскага.

Трэба адзначыць, што і само літаратуразнаўчае крыніцазнаўства натуральна падзяляецца паводле розных прыкмет: нацыянальных (крыніцазнаўства беларускай, рускай, польскай і г. д. літаратуры), храналагічных (крыніцазнаўства пэўнага гістарычнага перыяду, напрыклад, старажытнарускай літаратуры, якое мае сваю спецыфіку і багатыя традыцыі[57]). М. Бельчыкаў асобна выдзяляў крыніцазнаўства рускай літаратуры XIX ст. «У цяперашні час,— пісаў ён,— наспела неабходнасць абагульніць вопыт вывучэння крыніцазнаўчай базы рускай літаратуры XIX ст., якая адыграла вельмі актыўную ролю ў станаўленні рэалізму, у развіцці жанраў»[58]. Гэта меркаванне падмацавалася ў далейшым агульна-тэарэтычнай думкай аб адрозненнях саміх крыніц у розныя перыяды. «Зразумела, — гаварыў вучоны,— што ў сувязі з развіццём літаратуры склад крыніц, разуменне іх істотна змяняліся. Крыніцы рускай літаратуры XIX ст. адрозныя ад крыніц старажытнарускай літаратуры. З'яўленне новага віду твораў або ўваходжанне ў навуковы ўжытак раней невядомых узбагачаюць заўсёды ўяўленне пра крыніцы і саму літаратуру, як было, напрыклад, у сувязі з адкрыццём А. М. Пыпіным у 60-я гады мінулага стагоддзя помнікаў апавядальнай

---

[56] Беляжэнка Б. Тайна цяпінскіх магільнікаў // Літ. і мастацтва. 1990. 8 чэрв.

[57] Источниковедение литературы Древней Руси. Л., 1980.

[58] Изв. АН СССР. Отд-ние лит. и яз. 1963. Т. 22. С. 95.

літаратуры XVII ст.»[59] Розныя перыяды могуць вылучацца і ў крыніцазнаўстве беларускай літаратуры.

Існуе таксама крыніцазнаўства асобных пісьменнікаў і літаратурных помнікаў (напрыклад, ананімных твораў). Сістэма крыніц, звязаных з В. Дуніным-Марцінкевічам, прапанавана намі ў кнізе «Спасцігаючы Дуніна-Марцінкевіча» (1988). Рускія літаратуразнаўцы мараць пра поўны збор (свод) усіх крыніц пушкіназнаўства. Вось што гаварыў пра гэта П. Паліеўскі ў інтэрв'ю для «Литературной газеты»: «Сюды ўвайшлі б рукапісы, прыжыццёвыя выданні (іх копіі), успаміны — гэта значыць усе маючыя права на «прыжыццёвасць» сведчанні, ацалелыя прадметы, дамы, маршруты і г. д., іканаграфія, той жа Летапіс [жыцця і творчасці], занава выверaны слоўнік Л. Чарэйскага [«Пушкін і яго акружэнне»], радаводная схема накшталт той, што складае цяпер А. Чаркашын, і да т. п., словам, усе зыходныя даныя, на якія абапіраецца любое даследаванне»[60].

Старэйшы даследчык роднай літаратуры У. Казбярук у надзвычай багатых на назіранні і думкі артыкулах «З клопатам пра спадчыну» (Літ. і мастацтва, 1988, 24 чэрв.) і «Заняпад і адраджэнне» (Полымя, 1990, № 6) ставіць пытанне пра «энцыклапедычны збор помнікаў беларускай літаратуры», заклікае «падрыхтаваць і ажыццявіць факсімільнае выданне ўсіх вядомых нам помнікаў беларускай літаратуры XIX стагоддзя». Вучоны мае пры гэтым на ўвазе не толькі першадрукі і рукапісы мастацкіх тэкстаў, але і крытычныя матэрыялы XIX — пачатку XX ст., а таксама архіўныя матэрыялы, звязаныя з жыццём і творчасцю пісьменнікаў, развіццём беларускай літаратуры. У. Казбярук перакананы: «Ажыццяўленне такога мерапрыемства стварыла б надзейную, фундаментальную аснову для асэнсавання гісторыка-літаратурнага працэсу на прынцыпова новым узроўні. Кожны даследчык атрымаў бы магчымасць мець пад рукамі ўсе неабходныя яму для плённай працы матэрыялы»[61].

Наша праца вельмі блізкая да гэтых задум. Мы ставім перад сабой задачу сістэматызаваць і ахарактарызаваць

---

[59] От «Слова о полку Игореве» до «Тихого Дона». С. 28.

[60] [Палиевский П., Селиванова С.] Пушкинская академия // Лит. газ. 1987. 4 февр. (Складзены А. Чаркашыным пушкінскі радавод гл.: Временник Пушкинской комиссии. Л., 1991. Вып. 24.)

[61] Казбярук У. Заняпад і адраджэнне: Ля вытокаў новай беларускай літаратуры // Полымя. 1990. № 6. С. 229.

усе асноўныя крыніцы, што адносяцца да гісторыі беларускай літаратуры мінулага стагоддзя, вызначыць іх тыпы і катэгорыі, метады вывучэння і выкарыстання, намеціць даследчыцкія праблемы, якія ўзнікаюць у сувязі з гэтым.

Не будзем шкадаваць намаганняў. Трывалы будынак нельга пабудаваць без надзейнага падмурка. Такім падмуркам для гісторыкаў літаратуры з'яўляюцца як самі крыніцы, так і разнастайныя крыніцазнаўчыя даследаванні, пры дапамозе якіх павышаецца эфектыўнасць выкарыстання крыніц.

Разгледзім перш за ўсё пытанне, як захаваліся пісьменніцкія архівы, рукапісная спадчына пачынальнікаў нашай літаратуры.

# Ці шмат застаецца з напісанага?

*Да праблемы пайнаты гісторыка-літаратурных крыніц*

Ёсць у Барыса Пастарнака вядомыя парадаксальныя радкі:

Быть знаменитым некрасиво.
Не это подымает ввысь.
Не надо заводить архива,
Над рукописями трястись. [1]

Не пагодзімся ў апошнім выпадку з выдатным паэтам. У сапраўднасці архіў, рукапісы — надзвычай каштоўная частка творчай спадчыны пісьменніка. Іх трэба ўсяляк берагчы. Толькі не заўсёды гэта ўдаецца.

Жыццё кожны божы дзень паказвае, што, насуперак папулярнаму выразу, рукапісы гараць (ды яшчэ як гараць!) і ў звычайных бытавых, і ў планетарных (войны, рэвалюцыі) пажарах. Іх лёс складваецца на перасячэнні індывідуальных жыццяпісаў і гісторыі народа з усімі яе бурамі і навальніцамі.

Лёс большасці беларускіх пісьменнікаў XIX ст., а таму і іх архіваў, драматычны, нярэдка трагічны.

У кнізе «Спасцігаючы Дуніна-Марцінкевіча» мы па магчымасці падрабязна прасачылі гісторыю рукапіснай спадчыны першага нашага класіка, аўтара «Гапона» і «Пінскай шляхты». Як высветлілася, архіў пісьменніка ў асноўнай сваёй частцы згарэў у 1901 г. разам з сядзібай у Люцынцы. Некаторыя важныя аўтографы трапілі яшчэ да пажару ў багатыя зборы Аляксандра Ельскага ў Замосці. Але і гэтыя зборы не ацалелі, загінулі або рассеяліся па свеце ў гады грамадзянскай вайны. Балазе, што з аўтографа «Залётаў» паспеў зняць копію другі аматар беларушчыны — Б. Эпімах-Шыпіла. Аўтограф «Пінскай шляхты» захаваў для гісторыі ў сваім архіве сябра бела-

[1] Пастернак Б. Стихотворения и поэмы. М., 1988. С. 441.

рускай культуры Я. Карловіч. Словам, сёння размова ідзе аб асобных ацалелых рэштках, шчаслівых знаходках, якія кожны раз успрымаюцца як нейкі цуд, неспадзяваны падарунак лёсу.

Звернемся цяпер да гісторыі рукапіснай спадчыны іншых нашых пісьменнікаў мінулага стагоддзя, спачатку дарэформеннага часу.

Далёка ад радзімы, на Украіне, скончыў свае дні Ян Баршчэўскі. Апошнія гады ён жыў на ласкавым хлебе ў графоў Ржавускіх. Яго архіў, неапублікаваная частка яго рукапісаў, «знаходзіцца, здаецца, у зборах сям'і графоў Ржавускіх» [2],— гаварылася ў выдадзенай на пачатку XX ст. кнізе. У нашы дні праблема пошукаў архіва Баршчэўскага, цяпер невядомага, ставілася на канферэнцыі па вывучэнню беларуска-ўкраінскіх літаратурных сувязей [3].

З той жа кнігі «З аколіц Дзвіны» відаць, што асобныя рукапісы Баршчэўскага (пісьмы да Ю[лії] К[орсак-Шапялевіч] з далучанымі да іх вершамі) знаходзілася ў той час у зборах віцебскага калекцыянера Вацлава Федаровіча, які якраз напярэдадні выхаду кнігі памёр. З гісторыі музейнай справы на Віцебшчыне вядома, што багатыя калекцыі Федаровіча захоўваліся да 1920 г. у яго нашчадкаў, а потым былі перададзены дзяржаве [4]. У 20-х гадах пісьмы Баршчэўскага зберагаліся ў Віцебскім краязнаўчым музеі, дзе над імі працаваў Д. Васілеўскі, які зрабіў на іх аснове некалькі публікацый. Доўгі час лёс пісьмаў быў невядомы. Меркавалася нават, што яны загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. І толькі зусім нядаўна іх адшукаў Г. Кахаоўскі ў тым жа Віцебскім музеі [5].

Удзельніка паўстання 1831 г. Аляксандра Рыпінскага эміграцкія пуцявіны закінулі ажно ў Лондан. У 1859 г. ён вярнуўся на радзіму, памёр на Віцебшчыне ў глыбокай старасці каля 1900 г., захаваўшы да канца жыцця творчыя інтарэсы, але яго архіў бясследна знік. Зрэшты, адзін

[2] Z okolic Dźwiny. Witebsk, 1912. S. 229.

[3] Мальдзіс А. І. Украінскі перыяд жыцця Яна Баршчэўскага // Мат-лы першай навук. канф. па вывучэнню беларус.-укр. літ. і фальклорных сувязей: Тэз. дакл. Гомель, 1969. С. 37—40.

[4] Падліпскі А. Для нас, нашчадкаў // Літ. і мастацтва. 1971. 24 верас.; Ён жа. Складаў гісторыю краю // Голас Радзімы. 1983. 27 студз.; Цыбуля В. А. Прыватныя бібліятэкі, архівы і музеі // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1982. № 3. С. 37—38.

[5] Кахаоўскі Г. Вандраванні // Маладосць. 1984. № 10. С. 155—157.

след усё-такі ёсць. Як высветлілася, асобныя яго рукапісныя сшыткі знаходзіліся ў канцы 20-х гадоў у прафесара М. Піятуховіча, цяпер лёс іх невядомы. Добра яшчэ, што Піятуховіч паспеў зрабіць іх навуковае апісанне [6].

Не засталося ніякіх рукапісаў пасля першага сялянскага паэта Беларусі Паўлюка Багрыма, як сцвярджае традыцыя, здадзенага царскімі ўладамі ў салдаты. Не знойдзены сшытак з яго творамі, які, паводле слоў сучасніка гэтых падзей І. Яцкоўскага, быў адабраны ў Багрыма ў Крошыне папячыцелем Віленскай навучальнай акругі Навасільцавым і рэктарам Віленскага універсітэта Пеліканам (некаторыя даследчыкі называюць і большую колькасць сшыткаў).

В. Каратынскі і Вуль апошнія гады жыцця пражылі ў Варшаве. Ніякіх звестак пра рукапісную спадчыну Вуля (маецца на ўвазе яго асабісты архіў) няма. У Каратынскага быў багаты архіў, які старанна зберагалі яго сыны, таксама літаратары. Польскі даследчык Т. Туркоўскі паведамляў у 1937 г., што паперы В. Каратынскага паранейшаму захоўвае яго сям'я. Аднак большая частка гэтага надзвычай каштоўнага збору загінула ў другую сусветную вайну, у часе варшаўскага паўстання 1944 г. [7] Напрыклад, гаворачы пра лёс часопісных адбіткаў з навелай М. Ляскова «Жыціе адной бабы», падораных аўтарам В. Каратынскаму, сын Вінцэся Бруна Каратынскі пісаў: «На жаль, пасля таго, як немцы 6 кастрычніка 1944 года вывезлі мяне з Варшавы, гэта каштоўная для мяне памятка загінула разам з вялікай колькасцю іншых кніг і рукапісаў» [8]. Захаваліся толькі рэшткі. У прыватнасці, вядома, што 31 пісьмо да Каратынскага літоўскага пісьменніка і грамадскага дзеяча М. Акялайціса за 70—80-я гады зберагаецца ў Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве [9].

Цікава, што кніга з асабістай бібліятэкі Каратынскага («Пісмо збёровэ віленьске» на 1859 г.), з яго акуратным подпісам-аўтографам на тытуле, нейкім чынам трапіла

---

[6] Піятуховіч М. М. Рукапісы А. Рыпінскага // Шляхам гадоў. Мн., 1990. [Вып. 1]

[7] Канапацкі М. Над мемуарамі Бруна Каратынскага // Ніва (Беласток). 1961. 8 кастр.; Мальдзіс А. Пісьменнік і публіцыст // Літ. і мастацтва. 1962. 27 сак.

[8] Гапава В. Вінцэсь Каратынскі і М. С. Ляскоў // Літ. і мастацтва. 1970. 30 студз.

[9] Janulaitis A. Mikalojus Akelaitis. Vilnius, 1969. P. 88.

ў Мінск, у ЦНБ АН БССР. Можа, з часам адкрыюцца і іншыя сляды яго кнігазбору?

Найбольш з пісьменнікаў першай паловы XIX ст. у сэнсе захаванасці рукапісаў пашанцавала, відаць, Яну Чачоту. Разам з іншымі філаматамі ён спазнаў царскія рэпрэсіі, але яму ўдалося ўсё ж вярнуцца на радзіму, убачыць надрукаванымі свае кніжкі.

І ў яго рукапіснай спадчыне ёсць немалыя прабелы. Тым не менш многае ўсё ж захавалася, хоць і аказалася рассеяным па розных сховішчах.

Вялікая колькасць рукапісаў і пісьмаў Чачота зберагалася доўгі час у так званым «Архіве філаматаў», які рупліва збіраў вядомы дзеяч філамацкага руху Ануфрый Петрашкевіч. Пасля смерці Петрашкевіча (1863) архіў захоўвалі яго віленскія сваякі.

Гэты надзвычай каштоўны збор перад Вялікай Айчыннай вайной або ў часе вайны прапаў, часткова разышоўся па розных архівах, музеях і бібліятэчных сховішчах (асобныя фрагменты яго цяпер знаходзяцца ў Вільнюсе і ў Польшчы), але, на шчасце, галоўныя дакументы з яго былі ў 1913—1934 гг. апублікаваны ў шматтомным выданні пад назвай «Archiwum filomatów».

Частку I — «Карэспандэнцыя філаматаў 1815—1823 гг.» — склалі пяць тамоў, якія выдаў у 1913 г. Я. Чубак.

Частка II носіць назву «Матэрыялы да гісторыі таварыства філаматаў». Два тамы з гэтай часткі выдалі ў 1920—1921 гг. С. Шпатанскі і С. Петрашкевічуўна, трэці ў 1934 г. С. Петрашкевічуўна.

У частку III — «Паэзія філаматаў» — увайшлі два тамы, выдадзеныя ў 1922 г. Я. Чубакам.

Ва ўсёй гэтай серыі апублікавана шмат рукапісаў Чачота і звязаных з ім матэрыялаў.

У нашы дні публікацыя была працягнута на аснове фрагментаў філамацкага архіва, якія знаходзяцца ў Польшчы (Музей літаратуры ў Варшаве, бібліятэка Люблінскага каталіцкага універсітэта). Выйшла кніга: Archiwum filomatów. T. 1. Na zesłaniu. Wrocław etc., 1973. Сюды трапілі і асобныя чачотаўскія матэрыялы (перапіска з А. Петрашкевічам).

У 1922 г., калі разгортвалася публікатарская дзейнасць Я. Чубака, другі польскі даследчык В. Клінгер знайшоў у Лодзі ў сямейных паперах Карпінскіх комплекс матэрыялаў, які атрымаў пазней назву «Малога архіва

філаматаў». Сярод іх былі тры рукапісныя зборнікі Чачота, у тым ліку зборнік пад назвай «Zosine piosnki do not piosnek narodowych gminnych zastosowane z muzyką, 1823». У гэтым зборніку Чачот запісаў беларускія народныя і польскія дробнашляхецкія песні, напрыклад вядомую беларускую песню «Да цераз мой двор...», якую любілі Адам Міцкевіч і Марыля Верашчака. Да зборніка далучаны характэрны «Дадатак», у якім Чачот падкрэсліваў неабходнасць збірання народных песень і этнаграфічных матэрыялаў [10]. Як сцвярджаюць даследчыкі, гэта першы ў творчасці Чачота і адзін з самых ранніх у народазнаўчай навуцы Беларусі і Польшчы артыкулаў такога роду.

Восем польскіх балад Чачота філамацкіх часоў («Бекеш», «Наваградскі замак», «Радзівіл, або Заснаванне Вільні» і г. д.) разам з некаторымі іншымі творамі захаваліся ў рукапісе, які называецца «Raptularz Czeczota». Пасля смерці паэта рукапіс перайшоў да яго прыяцеля Адольфа Кабылінскага, які праз Э. Паўловіча перадаў яго ў 1888 г. у Асалінэум. На рукапісе ёсць адпаведны надпіс: «Вышэй названы «Збор розных твораў» і г. д. як дар Адольфа Кабылінскага з Цешаўлі, Наваградскага пав. Мінскай губ., учынёны Музею Нац. Установы імя Асаліньскіх у 1888 годзе, перадаў Э. Паўловіч...» Першыя звесткі аб чачотаўскіх баладах з фрагментамі тэкстаў падаў у 1886—1887 гг. у польскім перыядычным друку Ян Рыхтэр. Пазней пра гэта рэдка ўспаміналі, а сам рукапіс, памылкова заінвентарызаваны ў Асалінэуме, лічыўся загінуўшым. Паводле ўдалага выразу польскага даследчыка С. Свіркі, памылка архівістаў адыграла для «Раптуляра» і разам з тым для Чачотавых балад ролю казачнай шапкі-невідзімкі, якая на некалькі дзесяцігоддзяў схавала іх ад вачэй навукоўцаў [11]. Толькі пасля вайны ў 1953 г. манускрыпт адшукаў, як бы паўторна адкрыў Ч. Згажэльскі.

Сёння рукапісы Чачота захоўваюцца ў многіх сховішчах у нашай краіне і за мяжой.

Як паведамляе «Nowy Korbut», тры чачотаўскія рукапісныя зборнікі песень 1822—1823 гг., прысвечаныя З. Ма-

---

[10] Dzieje folklorystyki polskiej: 1800—1863. Epoka przedkolbergowska. Wrocław etc., 1970. S. 214.

[11] Świrko S. Z kręgu filomackiego preromantyzmu. Warszawa, 1972. S. 9—10.

леўскай, знаходзяцца ў прыватных руках у Варшаве. Рукапісы вядомых зборнікаў Чачота «Сялянскія песенькі», што друкаваліся ў 1837—1846 гг., захоўваюцца ў музеі А. Міцкевіча ў Парыжы (сігн. 1005), а таксама ў прыватных зборах З. Карпінскага і В. Дрэцкай.

У парыжскім музеі Міцкевіча зберагаецца рукапіс «Зосіных песенек» (34 лірычныя вершы Чачота; не блытаць са згаданым фалькларыстычным зборнікам філаматкага перыяду), пасланы Чачотам З. Малеўскай з выгнання. Ад адрасаткі рукапіс трапіў да сына вялікага паэта Уладзіслава Міцкевіча (відаць, пад час прыезду ў Вільню перад паўстаннем 1863 г.). Той перадаў яго ў музей Міцкевіча.

Другі экземпляр «Зосіных песенек», дадаўшы яшчэ два вершы, Чачот у 1833 г. паслаў з Таржка М. Путкамер (Верашчака). Перад вайной рукапіс знаходзіўся ў Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве і быў ахарактарызаваны Л. Падгорскім-Аколавым у часопісе «Лех» (1937). Цяпер гэтая каштоўная рэліквія ў Музеі літаратуры ў Варшаве [12].

Два рукапісныя зборнікі Чачота былі выяўлены ў 60-х гадах у фондах Інстытута літоўскай мовы і літаратуры АН ЛітССР у Вільнюсе [13]. Яны ўлічаны там под № 3556, раней знаходзіліся ў Беларускім музеі ў Вільні.

Адзін з іх змяшчае матэрыялы да апошняй кнігі «Сялянскіх песенек» 1846 г. Тут няма запісаў песень, што ўвайшлі ў кнігу, затое астатніх матэрыялаў (прыказак, і прымавак, параўнанняў, этымалагічных заўваг і г. д.) значна больш, чым у кнізе. Вельмі важная для гісторыі беларускай філалогіі прадмова прадстаўлена ў трох варыянтах, прычым два першыя з'яўляюцца больш поўнымі нарысамі беларускай мовы, чым канчатковы, які трапіў у кнігу. У рукапіс увайшоў таксама невялікі беларускі слоўнік, складзены невядомай асобай на Случчыне.

Другі зборнік носіць падрабязную назву з надзвычай цікавымі тапаграфічнымі ўдакладненнямі: «Piosnki wieśniacze znad Dźwiny, z okolic Lepla i z samego z Lepla, położonego nad jeziorem obszernym i wychodzącą z niego rzeką Ułą (czasem Uljanką zwaną) i upadającą do Dźwiny

---

[12] Świrko S. Z Mickiewiczem pod rękę czyli Życie i twórczość Jana Czeczota. Warszawa, 1989. S. 234—235, 240.

[13] Якшэвічус А. Рукапісы Яна Чачота // Літ. і мастацтва. 1963. 21 мая; Малаш Л. А. Ян Чачот и его рукописные сборники // Мат-лы науч. конф.: К сорокалетию б-ки [АН БССР]. Мн., 1965. С. 102—121.

pod miastem Ułą. Część druga. Między rokiem 1836—1839 zebrane». На тытуле, апрача таго, ёсць запіс Чачота, што гэта другая частка яго збору беларускіх народных песень, запісаных рознымі асобамі на Лепельшчыне. Па падліку Чачота, сюды, у другую частку, увайшло 188 песень, а паколькі мы ведаем агульную колькасць сабраных Чачотам «наддзвінскіх» песень —557 (Пачынальнікі, *98*), значыць, у першай, згубленай, частцы было 369 песень. Больш паловы другой часткі не ўвайшло ў друкаваныя кніжкі Чачота. Рукапіс каштоўны таксама паметкамі Чачота аб асобах, ад якіх паступілі запісы песень, і аб месцах, дзе песні запісваліся. З рукапісу наглядна відаць, як папраўляў Чачот арфаграфію запісаў. У зборніку рукой Чачота запісана 4 беларускія народныя казкі і 93 загадкі. Яны адсутнічаюць у яго друкаваных зборніках. Цікавы беларускі віншавальны верш з элементамі народнай драмы пад назвай «Барыс». Як засведчыў Чачот, ён складзены ксяндзом, былым уніятам, і выконваўся ў маёнтку памешчыка Шаўмана над ракой Улай у Лепельскім павеце. У зборніку ёсць таксама верш Чачота на французскай мове «La retour à la chapell» («Вяртанне да капліцы») — успамін аб гадах дзяцінства і юнацтва, аб страчаных сябрах і маладых марах.

Частка філамацкага архіва захоўваецца цяпер у Цэнтральнай бібліятэцы АН ЛітССР. Гэтыя матэрыялы складаюць там асобны фонд № 60 пад назвай «Рукапісы філаматаў — філарэтаў». У фондзе 96 адзінак захавання за 1817—1820 гг. Сярод іх рукапісы Чачота: «Uwagi nad wierszem Warcaby do Hieronima pisanym» і інш. Усяго 5 асобных прац Чачота-філамата (63 с.). Аўтографы Чачота ёсць і ў іншых рукапісных фондах бібліятэкі: № 9 — «Агульны фонд»; № 21— «Фонд вільнюскіх беларусаў» (былы Беларускі музей) [14]. Значную цікавасць, у прыватнасці, маюць цэнзурныя рукапісы некаторых выпускаў «Сялянскіх песенек» (ф. 9—576, 577, 578, 582).

Асобныя рукапісы Чачота захаваліся таксама ў Навуковай бібліятэцы Вільнюскага дзяржаўнага універсітэта (рукапіс № 2774: «Jan Czeczot. Piosnki i inne...», невялікі збор народных песень, запісаных у філамацкія часы на Наваградчыне) і Цэнтральным дзяржаўным гістарычным

---

[14] Rankraščių rinkiniai — Собрания рукописей: Краткое обозрение рукописных фондов XI—XX веков Центральной библиотеки АН Литовской ССР / Сост. В. Абрамавичюс. Вильнюс, 1963. С. 9, 64, 127.

архіве ЛітССР (пісьмы Чачота да розных асоб сярод папер Т. Зана ў зборах былога Віленскага таварыства сяброў навукі і інш.).

Беларускіх вучоных яшчэ чакае праца па ўдакладненні гісторыі рукапіснай спадчыны Чачота, больш дэталёвым вывучэнні той яе часткі, што дайшла да нас. Будуць, вядома, і новыя знаходкі.

Шмат цікавага, а то і загадкавага ў лёсе асабістага архіва, рукапіснай спадчыны другога вядомага беларускага пісьменніка сярэдзіны XIX ст. Арцёма Вярыгі-Дарэўскага.

Яго архіў прыцягвае нашу асаблівую ўвагу таму, што тэксты яго шматлікіх твораў зусім да нас не дайшлі, апрача асобных фрагментаў. Паспрабуем разабрацца ў гэтым.

Некалі даследчыкі лічылі, што рукапісы беларускіх твораў Вярыгі-Дарэўскага былі адабраны ў яго паліцыяй пры арышце ў 1863 г. [15] Пасля знаходкі ў Цэнтральным гістарычным архіве ЛітССР архіўных дакументаў пра ўдзел Вярыгі-Дарэўскага ў паўстанні і яго арышт [16] стала відавочна, што, мабыць, гэта ўсяго толькі легенда. У вельмі падрабязных следчых матэрыялах па справе Вярыгі фігуруюць толькі адабраныя ў пісьменніка пісьмо Б. Люткевіча да яго, жартоўная запіска на беларускай мове за подпісам «Твой сабрат Бронька (руды)», групавы здымак 12 асоб ды яшчэ некалькі дакументаў. Пісьменнік чакаў арышту і, трэба думаць, загадзя паклапаціўся, каб як мага лепш схаваць свае паперы.

Часткі яго асабістага архіва ўсё ж дайшлі да нас. Найперш гэта знакаміты Альбом Вярыгі-Дарэўскага, арыгінал якога захоўваецца ў Цэнтральным гістарычным архіве ЛітССР сярод матэрыялаў Віленскага таварыства сяброў навукі [17]. Як трапіў Альбом у таварыства, мы не ведаем.

Адкрыў Альбом у зборах Віленскага таварыства на пачатку нашага стагоддзя студэнт Пецярбургскага універсітэта Браніслаў Тарашкевіч, у далейшым вядомы беларускі вучоны і грамадскі дзеяч. Ён першы паклапаціўся,

---

[15] Гл.: Аляхновіч Ф. Беларускі тэатр. Вільня, 1924. С. 83; Семяновіч А. А. Беларуская драматургія: Дакастрычніцкі перыяд. Мн., 1961. С. 90—91.

[16] Гл.: Кісялёў Г. Загадка беларускай «Энеіды». Мн., 1971. С. 198—207; Пачынальнікі. Мн., 1977. С. 280—292.

[17] ЦДГА ЛітССР, ф. 1135, воп. 4, спр. 391 а.

каб уваскрэсіць амаль забытае да таго часу імя Вярыгі-Дарэўскага. Дапамагаў яму віленскі гісторык Станіслаў Касцялкоўскі, актыўны супрацоўнік таварыства сяброў навукі, гімназічны настаўнік Тарашкевіча (выкладаў у гімназіі польскую мову [18]). У 1912 г. Тарашкевіч прачытаў у пецярбургскім студэнцкім навукова-літаратурным гуртку даклад пад назвай «Рукапісны альбом Вярыгі-Дарэўскага і беларускіх пісьменнікаў (Дунін-Марцінкевіч і іншыя)» [19]. Рукапіс яго невялікай працы пра Альбом, на польскай мове, з алоўкавым надпісам С. Касцялкоўскага атрыбуцыйнага характару, захоўваецца ў матэрыялах таварыства сяброў навукі (да гэтага вернемся крыху ніжэй). Артыкул гэты, здаецца, нідзе не друкаваўся, але ў гэты час некаторыя матэрыялы з Альбома, несумненна, праз Тарашкевіча, трапілі на старонкі «Нашай Нівы» (верш Вуля ў № 45 за 1912 г.).

Па звесткі пра Вярыгу Касцялкоўскі і Тарашкевіч звярнуліся да Р. Зямкевіча ў Варшаву. Той прыслаў копію верша Вярыгі «Літвінам, запісаўшымся ў мой Альбом, на пажагнанне» з наступным пісьмом, якое захоўваецца зараз у Цэнтральнай навуковай бібліятэцы АН БССР, ф. 23, воп. 1, адз. зах. 405 (падаём яго ў перакладзе з польскай):

«Працуючы здаўна над гісторыяй беларускай літаратуры, збіраю ўсялякія звесткі, якія дзе знайду. Апрача гісторыі літаратуры складаю дакладную беларускую бібліяграфію.

Пра Арцёма Вярыгу-Дарэўскага я марна шукаў звесткі ў гадавіках старых перыядычных выданняў. Надзвычай скупыя маю пра яго нататкі. Звесткі аб Вярыгах паведамлялі мне напр.: Уладзіслаў Вярыга, рэдактар «Пшэглёнду філёзофічнага» ў Варшаве, Аляксандр Ельскі, п[ошта] Узляны Мінскай губ., і Вінцэнт Мяніцкі з Селігор, пошта Варонічы Віцебскай губ.

Арцём Вярыга аўтар маленькай кніжачкі польскіх вершаў: Gawędka o Swojaku przez Białoruską Dudę. Mohylew — Wilno, 1858, in 32°. Экземпляр з дарчым надпісам Вінцэнту Каратынскаму я меў у сваіх руках. У кніжцы аўтар называе мясцовасць Стайкі, здаецца, гэта будзе

---

[18] Гл.: Ліс А. Браніслаў Тарашкевіч. Мн., 1966. С. 6.

[19] Отчет о состоянии и деятельности импер. С.-Петербургского университета за 1912 г. Спб., 1913. Отд. VIII. С. 104.

маёнтак Вярыгаў на сумежжы Віцебскай губ. з Магілёўскай (каля м. Астроўна).

Эстрайхер у сваёй бібліяграфіі памылкова падае аўтарам гэтай кніжачкі Аляксандра Вярыгу-Дароўскага, прамешчыка з Падоліі, знанага эрудыта і парэміёлага. Пра гэтага Вярыгу піша Dr Antoni J. (Ролле) у сваіх «Гістарычных апавяданнях», серыя чацвёртая. І Ролле паведамляе памылкова ўслед за Эстрайхерам, што Аляксандр аўтар «Гавэндкі», аднак дадае, што гэтай кніжачкі ніколі не бачыў.

Арцёма Вярыгу лічу адным з найбольшых беларускіх пісьменнікаў, ставячы яго ў першым радзе з Вінц. Дунін-Марцінкевічам. Дагэтуль нічога Арцёма Вярыгі не друкавалася, хоць быў ён пісьменнікам вельмі пладавітым. Па-беларуску напісаў ён:

1. Гутаркі з пляндроўкі па зямлі Латыскай,
2. Паварот Міхалка,
3. Быхаў,
4. Драма «Гордасць» (для сцэны),
5. Паэма «Астульго»,
6. Думка хлопка з околіц Вітэбска на адглос вольносці (па-беларуску).
7. Пераклаў «Конрада Валенрода».

Аб гэтым перакладзе сведчыць Кіркор: «пераклаў так пекна, што здзівіў бы сілай і ўзнёсласцю самога неўміручага вешча» (гл.: Kirkor, O literaturze pobratymczych narodów słowiańskich. Kraków, 1874, стар. 54).

З «Конрада Валенрода» маю толькі пераклад «Альпугары» вельмі і вельмі добры.

Арцём Вярыга быў жанаты, аўдавеў і ў 1863 г. з дачкой Габрыеляй, сястрой Станкевічовай быў сасланы ў Іркуцк. Пры вобыску знайшлі «Конрада Валенрода», чаго цалкам хапіла для арышту і высылкі. Дачка і сястра сасланы былі за дапамогу паўстанцам.

Сям'я Вярыгаў знаходзілася ў даволі блізкім сваяцтве з Буйніцкімі, Сялявамі, Жабамі, Шадурскімі і іншымі заможнымі дамамі на Віцебшчыне. Гэтыя сем'і, пэўна, будуць мець лепшыя звесткі. Не ведаючы іх адрасоў, дагэтуль не правяраў гэтага.

Арцём Вярыга ў 1861 г. арганізаваў у Віцебску даступную для ўсіх польскую чытальню. Здаецца, яна была дасканалай. Улады Мураўёва канфіскавалі гэтую чытальню. Быццам бы і цяпер дзесьці ў нейкім склепе ўрадавага будынку гэтыя кніжкі гніюць.

У 1870—1880 гадах Арцём займаў пасаду ў капальнях золата на Лене. У край, як здаецца, ужо не вярнуўся, аднак дзе памёр — невядома. Дачка Арцёма Габрыеля памёрла год назад у Парыжы.

Вось усё, што мне вядома.

Упаўнаважваю п. Станіслава Касцялкоўскага або п. Тарашкевіча да выкарыстання, як захочуць, гэтых натата́к і верша. Нічога не маю супраць публікацыі гэтага ў «Рочніку Тов[ажыства] Пш[ыяцюл] Наук».

Асмельваюся толькі прасіць аб ласкавай прысылцы мне адбітка гэтай працы.

*Рамуальд Зямкевіч*

*10 мая 1913 г.*

P. S. Калі пажадаеце, магу даць інфармацыю і пра іншых беларускіх пісьменнікаў, імёны якіх фігуруюць у Альбоме.

Ці не мог бы я дастаць фатаграфічную копію партрэта Арцёма? Кошт фатаграфіі вярну з глыбокай удзячнасцю. *Р. З.*».

На копіі верша Зямкевіч прыпісаў:

«Вышэйпададзены верш, нідзе дагэтуль не друкаваны, я спісаў са старой копіі, не з арыгінала, паколькі почырк параўнаў з пісьмом Арцёма Вярыгі, напісаным да Ігната Легатовіча ў Мінску. Архіў Легатовіча знаходзіцца ў мяне. Копія гэтага верша зроблена з усёй дакладнасцю: літара ў літару».

Пісьмо Зямкевіча добра паказвае ўзровень ведаў пра Вярыгу-Дарэўскага на пачатку нашага стагоддзя. Характэрна, што Зямкевіч таксама лічыў, што ў Вярыгі пры вобыску адабраны пераклад «Конрада Валенрода», што нібыта гэтая акалічнасць якраз і паслужыла прычынай арышту пісьменніка. Вышэй мы ўжо гаварылі, што падобныя ўяўленні разыходзяцца з архіўнымі звесткамі, не вядомымі ў той час Зямкевічу і іншым даследчыкам.

Назвы беларускіх твораў Вярыгі Зямкевіч прыводзіць паводле працы Кіркора. Як і ў Кіркора, у яго характэрная памылка: паэма Вярыгі ў сапраўднасці называлася не «Астульго», а «Ахульго» (дакладней, «Здабыццё Ахульго» — пра ўзяцце царскімі войскамі аула Шаміля ў 1839 г.). Зямкевіч называе толькі адзін беларускі твор Вярыгі, якога няма ў Кіркора,— «Думка хлопка...» Пра

існаванне рукапісу гэтага твора пісаў і Я. Карскі. Ён датуе яго 1858 г. і прыводзіць першы радок: «Свеціць сонца, свеціць сонца!..»[20] Хутчэй за ўсё гэты рукапіс, як і ўрывак з перакладу «Конрада Валенрода», знаходзіўся ў Зямкевіча, звесткамі якога шырока карыстаўся Карскі. Гэтыя матэрыялы, трэба думаць, загінулі разам з усімі зборамі Зямкевіча.

Завяршаючы каменціраванне пісьма Зямкевіча, дададзім, што намер Б. Тарашкевіча змясціць сваю працу пра Вярыгу ў «Рочніку» таварыства сяброў навукі, наколькі мы ведаем, не ажыццявіўся.

Копіяй Альбома Вярыгі-Дарэўскага, што належала Б. Тарашкевічу, карыстаўся, як сам гаворыць, акадэмік Я. Карскі ў сваіх працах пра пісьменніка[21]. Вядома таксама вельмі акуратная копія Альбома, зробленая ў 1930 г. студэнтам Віленскага універсітэта Я. Хворастам для Беларускага музея ў Вільні (цяпер яна ў Цэнтральнай бібліятэцы АН ЛітССР, ф. 21—722).

У 1946 г. унучаты пляменнік пісьменніка Антон-Ігнат Вярыга-Дарэўскі, супрацоўнік Вільнюскага дзяржаўнага універсітэта, выдавец зборніка дакументаў і матэрыялаў па гісторыі роду Вярыгаў[22], абмяркоўваў з Л. Бэндэ пытанне аб публікацыі Альбома[23]. Магчыма, мелася на ўвазе копія Альбома, бо пасля вайны яго арыгінал доўгі час лічыўся загінуўшым і даследчыкі карысталіся копіяй бібліятэкі АН ЛітССР. У сярэдзіне 60-х гадоў арыгінал адшуканы намі ў Цэнтральным гістарычным архіве Літ ССР сярод неапісаных матэрыялаў таварыства сяброў навукі[24]. У кнізе «Пачынальнікі» (1977) зроблена даволі поўная публікацыя гэтага помніка. Яна ставіла на мэце ўлічыць усе запісы: найбольш змястоўныя з іх пададзены цалкам, другія са скарачэннямі, трэція толькі анатуюцца. Праведзена пэўная работа па каменціраванню запісаў,

---

[20] Карский Е. Ф. Белорусы. Пг., 1922. Т. 3, вып. 3. С. 66. У далейшым спасылкі на гэта выданне падаюцца ў тэксце (Карский, 3/3, *старонка*).

[21] Карскі Е. Стары беларускі пісьменнік Арцём Дарэўскі-Вярыга і яго літаратурны альбом // Беларусь. 1919. 21 снеж.; Ён жа. Арцём Дарэўскі-Вярыга // Рунь. 1920. 4 ліп.; Карский Е. Ф. Белорусы. Т. 3, вып. 3. С. 66—70.

[22] Veryha A. I. Acta et chronika. I. Вериги — Weryhowie — Verigos. Kaunas, 1934.

[23] ЦДАМЛіМ БССР, ф. 66, воп. 1, спр. 781, л. 1—2.

[24] Кісялёў Г. Каля вытокаў... // Дзень паэзіі. Мн., 1965. С. 33—43.

па расшыфроўцы подпісаў, хоць і не ўсё ўдалося яшчэ належным чынам расшыфраваць.

Сярод тых жа матэрыялаў таварыства сяброў навукі захоўваецца яшчэ папка з паперамі Вярыгі-Дарэўскага [25]. Усяго ў папцы 89 лістоў. Дакументы, што знаходзяцца там, з архівазнаўчага пункту погляду выразна дзеляцца на чатыры часткі: 1) пісьмы Вярыгі да А. Кіркора; 2) пісьмы Кіркора і іншых даволі шматлікіх карэспандэнтаў (літаратараў, выдаўцоў, кнігагандляроў А. Кажанеўскага, Ю. Сікорскага, Я. Грыгаровіча, Ф. Дмахоўскага, С. Мэрцбаха, М. Аргельбранда, А. Валіцкага і інш.) да Вярыгі, а таксама падораны Вярыгу ў 1858 г. М. Рэніерам верш «Чудо божэ. Піп і кірык»; 3) асобныя аўтографы Вярыгі: пісьмо да невядомай, верш на польскай мове «Прыгожаму капялюшыку з Варшавы на памятку»; 4) рукапіс успомненага ўжо артыкула Б. Тарашкевіча пра Альбом Вярыгі.

Перад намі, несумненна, штучная адзінка захавання, сфарміраваная ў таварыстве сяброў навукі. Пісьмы Вярыгі да Кіркора ўяўляюць сабой арыгіналы, атрыманыя ў свой час Кіркорам і з яго паметкамі. Хутчэй за ўсё яны ўзяты з архіва Кіркора, падоранага таварыству ў 1907 г. А. Ельскім («Письма, писанные разными лицами археологу и редактору Адаму Гонорию Киркору — расположенные в алфавитном порядке авторов. 19 папок»,— як сказана ў кнізе таварыства па ўліку ахвяраванняў [26]).

Пісьмы розных асоб да Вярыгі і падораны М. Рэніерам верш (пункт 2 нашага пераліку зместу папкі) — гэта частка асабістага архіва Вярыгі, які знаходзіўся ў яго перад арыштам. Адтуль жа паходзяць, магчыма, і асобныя аўтографы пісьменніка, пазначаныя намі ў пункце 3 (пісьмо да невядомай магло быць напісана, але не адпраўлена). Такім чынам, нейкая частка архіва Вярыгі захоўвалася да пачатку XX ст. у прыватных руках, а потым (магчыма, разам з Альбомам пісьменніка) была перададзена ў Віленскае таварыства сяброў навукі, утворанае, як вядома, у 1907 г.

Ужо ў таварыстве да папер Вярыгі з яго асабістага архіва былі далучаны пісьмы Вярыгі Кіркору, узятыя з архіва Кіркора. Хутчэй за ўсё гэта зрабіў С. Касцялкоўскі, калі яго вучань Б. Тарашкевіч працаваў над матэрыяламі

---

[25] ЦДГА ЛітССР, ф. 1135, воп. 4, спр. 391.
[26] Там жа, воп. 22, спр. 20, л. 4.

Вярыгі (Касцялкоўскі быў тады якраз загадчыкам рукапіснага аддзялення таварыства). Мабыць, крыху пазней Касцялкоўскі паклаў у папку з паперамі Вярыгі і рукапіс артыкула Тарашкевіча.

У Рукапісным аддзеле Цэнтральнай бібліятэкі АН ЛітССР захоўваецца цэнзурны рукапіс польскай вершаванай аповесці Вярыгі-Дарэўскага «Гавэндка аб сваяку» (ф. 9—453), уведзены ў свой час у навуковы ўжытак А. Мальдзісам [27]. Гэта аўтограф Вярыгі на 90 старонках. З паметак на рукапісе відаць, што 19 чэрвеня 1857 г. ён паступіў ад кнігапрадаўца Сыркіна да цэнзара Кукальніка. Цэнзурны дазвол дадзены 28 чэрвеня. Некаторыя радкі і цэлыя ўрыўкі цэнзар выкрасліў [28]. Звяртае таксама на сябе ўвагу выдавецкая паметка: «Эк[земпляраў] 1000, фармат, друк і папера, як «Тры Пальмы». Да 1940 г., як сведчыць адпаведная наклейка, рукапіс знаходзіўся ў бібліятэцы Урублеўскіх, на аснове якой узнікла бібліятэка АН ЛітССР. Можна было б думаць, што гэты рукапіс паходзіць з асабістага архіва Вярыгі. Але вядома, што ў «Агульным фондзе» (№ 9), да якога належыць рукапіс, захоўваецца частка выдавецкага архіва Завадскага, які якраз і друкаваў «Гавэндку». Есць у бібліятэцы і асобны фонд Завадскіх (№ 158). Так што хутчэй за ўсё Вярыга не забраў у друкара свой рукапіс, і ён разам з архівам Завадскага трапіў у бібліятэку Урублеўскіх.

На адвароце пераплёту рукапісу ёсць паметка алоўкам: zob. L1519 — Wilno — Druk Zawadzkiego (Nakład — Mohilew — J. Syrkin). Тут указаны выхадныя даныя «Гавэндкі» Вярыгі, а L1519 — шыфр, пад якім захоўваўся друкаваны экземпляр кнігі ў бібліятэцы Урублеўскіх. Расшыфроўка гэтай паметкі дазволіла нам у свой час выявіць у бібліятэцы АН ЛітССР вельмі рэдкі (пра гэта пісаў у прыведзеным вышэй пісьме і Р. Зямкевіч) паасобнік кнігі Вярыгі, прапушчаны ў каталогах бібліятэкі [29]. Цяпер ён улічаны па аддзелу рэдкай кнігі, шыфр: R19—179.

У бібліятэцы АН ЛітССР, пад шыфрам ф. 21—720, захоўваецца яшчэ адзін аўтограф Вярыгі-Дарэўскага.

---

[27] Мальдзіс А. Творчае пабрацімства. Мн., 1966. С. 81—82.

[28] Гл.: Борковский С. А., Мальдис А. И. Поэтическое наследие Артемия Вериги-Даревского // Сов. славяноведение. 1971. № 2. С. 39.

[29] Падрабязней гл.: Киселев Г. Разыскивается классик... Мн., 1989. С. 269—271.

Гэта лісток з альбома гітарыста М. Сакалоўскага з вершам Вярыгі на польскай мове, напісаным у Магілёве 18 снежня 1859 г., пад загалоўкам «Марку Сакалоўскаму і Аляксандру Хадэцкаму, нацыянальнай славе, любімым нашым артыстам, ад беларусінаў»[30]. Тут жа лісток паперы з манаграмай «М. С.», на адным баку яго звернуты да Сакалоўскага і Хадэцкага польскі верш Вярыгі без загалоўка, перапісаны Хадэцкім[31], на другім — вершаваны «Адказ беларусінам» Хадэцкага. Гэта таксама колішні набытак Беларускага музея ў Вільні.

Вельмі важныя для нас рукапісы асноўных беларускіх твораў Вярыгі, на вялікі жаль, не захаваліся. Вядома, што восем сшыткаў са сваімі творамі пісьменнік паслаў у 1857 г. У. Сыракомлю для рэкамендацыі ў друк. У пісьме ён пісаў: «...давяраю восем сшытачкаў (усе яны яшчэ канчаткова не дапрацаваны), а менавіта: 1) «Паўрот Міхалка», 2) «Бедны наш Лукаш», 3) «Дзіця дзвюх матак», 4) «Бяседа над Нёманам», 5) «Нешта аб нейкім», 6) «Скрамней у бяседзе — не страцьце Быхава» (гэта, відавочна, тое самае, што ў Кіркора і Зямкевіча называлася «Быхаў».— *Г. К.*), 7) «Здабыццё Ахульго» і 8) «Яшка і Цімошка»... Столькі ж маю яшчэ... У кс. Люцыяна Гадлеўскага ў Кіеве засталося: «Некалькі абразкоў з ваколіц Каростышава». Ёсць у мяне колькі апавяданняў на беларускай мове і каля пяцісот сабраных беларускіх прытчаў і прыказак» (Пачынальнікі, *225*). Як бачым, творчы набытак і — адпаведна — рукапісны збор Вярыгі-Дарэўскага да 1857 г. былі ўжо досыць багатыя.

У пісьмах Вярыгі да Кіркора 1859 г. згадваюцца як гэтыя, так і некаторыя іншыя творы і рукапісы: камедыя «Хцівасць», пераклад «Конрада Валенрода», «Заснаванне Магілёва над Дняпром» (апрацоўка народнага падання, магчыма, таго самага, да якога пазней звярнуўся і Я. Купала), драма «Гордасць», «Гутаркі з пляндроўкі па зямлі латышскай» і інш. Будучы ў Вільні ў 1858 г., Вярыга забраў, відавочна, частку сваіх рукапісаў у Сыракомлі і перадаў Кіркору, у яго ж пакінуў некаторыя новыя рукапісы. Хутчэй за ўсё яны былі вернуты Кіркорам Вярыгу ў канцы 1859 г.[32] Але адзін рукапіс застаўся ў Сыракомлі. У пісьме ад 19 жніўня 1859 г. Вярыга пісаў Кіркору: «Паэмку

---

[30] Апублікавана: Сов. славяноведение. 1971. № 2. С. 40.

[31] Рукой Хадэцкага падпісана: «Artemiusz».

[32] Гл.: Кісялёў Г. Загадка беларускай «Энеіды». С. 148—152.

«Ахульго» мелася п. Сыракомлева, забраўшы ў мужа, аддаць п. Мамерту Рэнієру. Не ведаю, ці сталася так, а калі б яе атрымаць назад, шчыра падзякаваў бы. Вазьмі, калі можна, яе да сябе» (Пачынальнікі, *235*). Аднак просьба Вярыгі не была выканана. У «Рэестры манускрыптаў, што засталіся пасля св[ятой] п[амяці] Сыракомлі, спісаным Аніцэтам Рэнієрам 1863 года сакавіка 22 дня», пад № 18 значыцца рукапіс: «Здабыццё Ахульго, Беларускай Дуды (Вярыга). 1856, вершам, in 4°»[33]. Цяпер сярод матэрыялаў Сыракомлі гэтага рукапісу няма, тэкст твора невядомы наогул.

Завяршаючы агляд рукапісаў Вярыгі перыяду да паўстання 1863 г., варта прыгадаць яшчэ яго верш, прысвечаны паэту-рэвалюцыянеру Э. Жалігоўскаму (Антону Саве) і яго таварышам. Верш знойдзены А. Мальдзісам сярод матэрыялаў Жалігоўскага ў бібліятэцы Чартарыскіх у Кракаве[34].

Сасланы пасля паўстання 1863 г. у Сібір, Вярыга, як вядома, не пакідаў творчай дзейнасці. У Сібіры ён вёў «Паментнік», куды разам з іншымі запісамі ўпісваў свае вершы. На асобных лістах рабілі свае запісы, звернутыя да Вярыгі, яго таварышы па ссылцы. Такім чынам, у Сібіры нібы працягваўся беларускі Альбом пісьменніка, скончаны, як вядома, якраз у 1863 г. (апошні датаваны запіс ад 11 красавіка 1863 г., а 6 мая пісьменнік быў арыштаваны).

Пісьменнік памёр у Сібіры ў 1884 г., а ў 90-х гадах яго «Паментнік» знаходзіўся ў гісторыка Марыяна Дубецкага (1838—1926). Дубецкі сам шмат гадоў прабыў у сібірскай ссылцы за ўдзел у паўстанні і, магчыма, сустракаўся там з Вярыгам. У сваёй кнізе пра кіраўніка паўстанцаў на Украіне Э. Ружыцкага, выдадзенай у Кракаве ў 1895 г., Дубецкі прывёў узяты з «Паментніка» тэкст балады Вярыгі аб Ружыцкім, напісанай на аснове расказаў ссыльных паўстанцаў. Паводле слоў Дубецкага, у «Паментніку» было яшчэ некалькі вершаваных урыўкаў Вярыгі, звязаных з паўстаннем 1863 г. Пісаў ён іх пераважна ў 1865—1866 гг. па дарозе ў ссылку[35].

У 30-х гадах «Паментнік» знаходзіўся ў бібліятэцы Чартарыскіх у Кракаве, дзе з ім пазнаёміўся гісторык

---

[33] ЦДГА ЛітССР, ф. 1248, воп. 2, 226, ч. 1, л. 266 адв.

[34] Сов. славяноведение. 1971. № 2. С. 40.

[35] Dubiecki M. Edmund Różycki: Szkic biograficzny. Kraków, 1895. S. 82—85.

М. Янік, які пісаў: «Вярыга быў незвычайнай асобай, і таму «Паментнік» яго заслугоўвае ў будучым публікацыі»[36]. Сам Янік апублікаваў з «Паментніка» запісы сібірскага Альбома Вярыгі. Яны рабіліся ў 1866—1867 гг. і сведчаць пра высокі аўтарытэт беларускага пісьменніка сярод ссыльных.

На наша запытанне пра лёс «Паментніка» Вярыгі дырэкцыя Нацыянальнага музея ў Кракаве, куды ўваходзяць цяпер зборы Чартарыскіх, адказала, што 23 верасня 1936 г. рукапіс Вярыгі быў адпраўлены ў Вільню, у бібліятэку Урублеўскіх (цяпер бібліятэка АН ЛітССР), для выкарыстання магістрам Я. Карачэўскай. У Кракаў рукапіс не вярнуўся. Не знойдзены яго сляды і ў Вільнюсе[37].

* * *

Лёс асабістых архіваў беларускіх пісьменнікаў другой паловы XIX ст. таксама часцей за ўсё складваўся драматычна.

У 1900 г., на самым пачатку новага стагоддзя, памёр у сваім маёнтку Кушляны былога Ашмянскага павета Віленскай губерні найбольш выдатны наш пісьменнік таго часу Францішак Багушэвіч. Творчая спадчына яго была досыць багатая. Ён паспеў выдаць за мяжой два паэтычныя зборнікі і апавяданне «Тралялёначка», падрыхтаваў да выдання паэтычны зборнік «Скрыпачка беларуская» (некаторыя даследчыкі мяркуюць нават, што зборнік паспеў выйсці ў свет) і кнігу прозы «Беларускія апавяданні». Вядома таксама, што пісьменнік друкаваў шматлікія карэспандэнцыі ў часопісе «Край», працаваў над слоўнікам беларускай мовы, вёў актыўную перапіску з многімі выдатнымі сучаснікамі (Э. Ажэшка, Я. Карловіч і інш.). Па характару сваёй прафесійнай дзейнасці (юрыст) Багушэвіч павінен быў ашчадна ставіцца да дакументаў, да захавання рукапісаў. Таму архіў у яго, трэба думаць, быў багаты і цікавы.

Аднак на лёсе рукапіснай спадчыны выдатнага пісьменніка адбіліся многія неспрыяльныя акалічнасці. Вялікая небяспека ўзнікла яшчэ ў часы першай сусветнай

---

[36] Janik M. Imionnik sybirski Artemiusza Weryhi // Sybirak. 1939. N 3. S. 38.

[37] Гл.: Кісялёў Г. Загадка беларускай «Энеіды». С. 211.

вайны. У. Содаль паведамляе: «У паэтавай хаце, як вядома, у тыя гады атайбаваўся нямецкі шпіталь... Паэтаў дом быў цалкам без нагляду, ніхто з Багушэвічаў не жыў у Кушлянах, і заваёўнікі тварылі ў ім, што хацелі» [38]. На думку У. Содаля, тады магла знішчыцца картатэка Багушэвічавага слоўніка беларускай мовы, усе тыя неацэнныя слоўнікавыя матэрыялы, якія пісьменнік рупліва збіраў многія гады.

Паводле мясцовых паданняў (Сын Беларуса. 1924. 27 ліп.), нейкі схоў у Багушэвіча быў пад славутым кушлянскім каменем-валуном. Там пісьменнік нібыта хаваў і свае рукапісы. Кушлянцы ўспаміналі, што гэтым зацікавіліся кайзераўскія ваякі — «...скарб які шукалі ці што яшчэ. Скарбу знайсці не знайшлі, а камень у адным месцы, знізу, дынамітам папсавалі. Расказваюць, што і паперы якіясь з-пад каменя павыкопвалі. Але браць іх не бралі. Тыя паперы доўга валяліся ля каменя, шастаў іх вецер, мачылі дажджы...» [39],— занатаваў У. Содаль у кнізе «Кушлянскі кут». Зрэшты, на думку паэтавай унучкі С. Тамашэўскай, творчых рукапісаў пад каменем не было. У адным з пісьмаў У. Содалю яна меркавала: «Пад каменем на Лысай гары былі схаваныя паперы, якія ўдакументоўвалі, з чыёй прапановы выразьблены камень і хто яго выбіваў, у якім годзе і г. д. Таксама тут няма нічога таямнічага, не думаеце ж вы, што дзядуля мог падняць такі вялікі камень і закапаць свае творы» [40].

Шкодна паўплывала на захаванасць рукапіснай спадчыны Багушэвіча тагачасная раз'яднанасць інтэлігенцыі рознай культурнай арыентацыі. Беларускі нацыянальна-культурны рух, як вядома, не карыстаўся падтрымкай ні ў царскай Расіі, ні ў санацыйнай Польшчы, нават сама сям'я Багушэвіча крытычна ставілася да яго беларускай літаратурнай і грамадскай дзейнасці. Дарэчы, гэта акалічнасць яшчэ больш падкрэслівае веліч творчага і жыццёвага подзвігу Багушэвіча. Незадоўга да падзення санацыйнай Польшчы адзін з віленскіх беларускіх дзеячаў (А. Луцкевіч) пісаў: «Сям'я ж Фр. Багушэвіча, якая варожа адносілася да ўсяе беларускае і «хлопаманскае» працы паэты (аб гэтым апавядалі акалічныя сяляне з-пад

---

[38] Содаль У. Імпульсы // Полымя. 1989. № 6. С. 203.

[39] Содаль У. Кушлянскі кут. Мн., 1990. С. 29—30.

[40] Лісты Станіславы Тамашэўскай / Публікацыя У. Содаля // Полымя. 1990. № 3. С. 168.

Кушлян дырэктару Беларускае вучыцельскае семінарыі ў Барунах Сымону Раку-Міхайлоўскаму падчас экскурсіі вучняў семінарыі на магілу Багушэвічаву ў 1921 годзе), глыбока хавае ягоны архіў і не хоча нікога дапусціць да азнаямлення з ім. Зробленая праз пляменніцу Фр. Багушэвіча Радзевічыху мая спроба дабіцца перадачы гэтага архіва — калі ўжо не Беларускаму навуковаму таварыству, дык хоць бы адпаведнай польскай установе (Biblioteka Wróblewskich, T-wo Przyjaciół Nauk) не дала пазітыўных вынікаў. Сын паэты Тамаш, якога я знаў добра асабіста (памёр ён у канцы дваццатых гадоў), ненавідзеў усё беларускае і аб бацьку гаварыць не хацеў; дачка, каторая памерла ўжо пасля напісання гэтага артыкула, адмаўлялася даць якія-колечы інфармацыі аб бацьку, нават — аб учасьці яго ў паўстанні...» [41]

Вядома ж, ацэньваючы сёння гэтае сведчанне, мы павінны ўлічваць напружанасць тагачасных страсцей і магчымае палемічнае перабольшанне, але пэўная доля праўды тут, несумненна, была. Яшчэ Р. Зямкевіч пісаў у 1920 г., што сын Багушэвіча Тамаш «нізашто не хацеў даць» беларусам «ні біяграфіі свайго бацькі, ні фатаграфіі Бурачка ў сялянскай світцы» (Пачынальнікі, *30*). Варта прыгадаць у сувязі з гэтым таксама нататку ў віленскай газеце «Беларуская крыніца» за 1933 г. Яе аўтар наведаў у Ашмянах свайго знаёмага — старшыню тамтэйшага каапературнага банка Яна Мніховіча. Жонкай Мніховіча была якраз Багушэвічава дачка Канстанцыя, або Туня, як называлі яе ў сям'і. Госцю паказалі фатаграфіі пісьменніка. Канстанцыя давала тлумачэнні і сказала, што ў яе ёсць «яшчэ недрукаваныя творы — пісьмы» Багушэвіча, успомніла, што ў іх пабываў ужо нехта Станкевіч (відаць, Адам Станкевіч, вядомы папулярызатар спадчыны Багушэвіча ў тагачаснай Заходняй Беларусі.— *Г. К.*) «і прапанаваў аддаць яму гэтыя рукапісы ў сховы», але Канстанцыя «не магла згадзіцца на тое, каб хтось чужы апекаваўся рукапісамі яе бацькі». Аўтару нататкі рукапісы не былі нават паказаны. Канстанцыя сказала, што спадчыну Багушэвіча мае выдаць нейкі яе сваяк [42]. На думку У. Содаля, меўся на ўвазе муж пляменніцы пісьменніка (дачкі Багушэвічавай сястры Ганны) Ян

---

[41] Запісы Беларускага навуковага таварыства. 1938. Сш. 1. С. 18.

[42] Міцька Л. Ёсць яшчэ недрукаваныя творы Фр. Багушэвіча // Беларуская крыніца. 1933. 17 снеж.

Тарчэўскі (1881—1929), колішні заходнебеларускі актывіст [43], але тут ёсць храналагічная няўвязка: апошні памёр яшчэ да 1933 г. Так што меркаванне даследчыка ў даным выпадку наўрад ці можна прыняць.

Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР беларускія савецкія пісьменнікі і літаратуразнаўцы выказалі зразумелую цікавасць да родных мясцін Багушэвіча, да яго рукапіснай спадчыны. У 1940 г. з Мінска ў Ашмянскі раён выязджала літаратурная брыгада, якая выявіла 10 невядомых фотаздымкаў Багушэвіча, малюнак сына пісьменніка Тамаша «Ф. К. Багушэвіч у дзень смерці», рукапіс байкі «Свінні і бараны» [44]. Тагачасны друк прыводзіў таксама ўспаміны аднавяскоўцаў аб пісьменніку, паведамляў пра некаторыя асабістыя рэчы Багушэвіча, што захаваліся ў яго нашчадкаў [45]. Але цяпер нам ясна, што асноўная частка архіва не была паказана прадстаўнікам беларускай культурнай грамадскасці.

Неўзабаве Беларусь была акупіравана гітлераўцамі. Есць звесткі, паведамляе Адам Мальдзіс, што ў 1941 г. адна з унучак Багушэвіча, Мэндыгралова, разам з нейкай Сяліцкай прынеслі ў Беларускі музей у Вільні «з паўкілаграма рукапісаў Багушэвіча». Сярод іх нібыта былі паэмы, урыўкі сцэнічных твораў, нататкі, некалькі вершаў на польскай мове. Куды ўсё гэта дзелася ў ваеннай завірусе — высветліць не ўдалося [46].

Да апошняга перыяду Вялікай Айчыннай вайны адносіцца яшчэ адзін цікавы эпізод, апісаны нядаўна У. Содалем. Размова ідзе пра мураваную абору ў Кушлянах. «Яна, як высветлілася, была для Багушэвічаў калісь неблагім патаемнікам,— піша У. Содаль.— Расказваюць, што ў 1944 годзе, неўзабаве пасля вызвалення Кушлянаў ад нямецкай навалачы, да аборы, пад вечар, пад'ехалі дзве фурманкі. Спыніліся ля замураванага ўваходу. Хто і калі яго замураваў — кушлянцы не памятаюць. Дык вось, незнаёмцы хуценька разабралі тую муроўку ў дзвярах, у пустцы між імі знайшлі шмат рознага дабра. Пакуль людзі агледзеліся, яны пагрузілі тое дабро на фурманкі

---

[43] Содаль У. Імпульсы // Полымя. 1989. № 6. С. 205.

[44] На радзіме Ф. К. Багушэвіча // Літ. і мастацтва. 1940. 23 крас.

[45] Ларчанка М. На радзіме Ф. К. Багушэвіча // Звязда. 1940. 26 верас.

[46] Мальдзіс А. Пясняр мужыцкай долі // За передовую науку. 1990. 23 марта.

і зніклі ў невядомым кірунку... Пасля гэтага незвычайнага здарэння ля аборы валялася шмат розных параскіданых папераў, кніг, партрэтаў, альбомчыкаў...» [47] Можна думаць, гэта была таксама частка Багушэвічавага архіва.

Пасля вайны ўнучкі Багушэвіча выехалі ў Польшчу. Культурныя сілы рэспублікі былі моцна аслаблены вайной і сталінскімі рэпрэсіямі. Край залечваў цяжкія ваенныя раны. Да Кушлян доўга не даходзілі рукі. Сёння цяжка чытаць без болю і ўнутранага пратэсту допіс з Ашмян у «ЛіМе» за 1948 г. пад назвай «Недаравальная безуважнасць да нашага паэта»: «Цяпер у фальварку ўсё запушчана. Гонтавы дах дома зусім згніў, аброс мохам. Замест былога ганку — толькі адзін спарахнелы слупок.

У доміку Багушэвіча яшчэ ў 1946 годзе былі рэчы, якія калісьці належалі паэту. Там жа былі рэшткі бібліятэкі, нейкія рукапісы, партрэты і фатаграфічныя карткі сям'і паэта. Нічога гэтага цяпер няма. Мэблю хтосьці ўзяў зусім нядаўна. Два вялікія партрэты — самога Багушэвіча і яго жонкі былі там яшчэ летась. Адтуль яны былі перанесены на гару суседняй хаты і цяпер ад іх засталіся адны толькі рамы.

Дзе рэчы з доміка Багушэвіча? Куды дзеліся партрэты? На гэтыя пытанні нам ніхто не адказаў.

Трэба неадкладна ўзяць парк і домік Багушэвіча пад ахову, зрабіць патрэбны рэмонт, сабраць рэчы, якія належалі паэту, знайсці партрэты» [48].

Вось такі голас невядомага лімаўскага карэспандэнта даходзіць да нас з тых часоў. Але паступова наспявалі перамены. У былой сядзібе адкрылася бібліятэка. Пачала збірацца спадчына вялікага пісьменніка.

У 1953 г. у часопісе «Беларусь» з'явілася публікацыя пра адшуканне на радзіме Багушэвіча сямейнага фотаальбома пісьменніка. Захаваўся гэты важны культурны скарб у далёкай сваячкі Багушэвіча С. Чайкоўскай [49]. Гэта частка асабістага архіва пісьменніка. Альбом паступіў тады на захаванне ў Інстытут літаратуры імя Я. Купалы АН БССР, цяпер зберагаецца ў Дзяржаўным музеі БССР.

У 60-х гадах пошукамі архіва Багушэвіча заняўся

---

[47] Содаль У. Кушлянскі кут. С. 34.
[48] Літ. і мастацтва. 1948. 21 жн.
[49] Гарэцкі І. Цікавая знаходка// Беларусь. 1953. № 1. С. 25.

Адам Мальдзіс [50]. Кушлянскія старажылы сцвярджалі, што драўляную шкатулку, у якую паэт складваў свае рукапісы і карэспандэнцыю, у 1946 г. хтосьці з унучак вывез у Польшчу. У 1966 г. А. Мальдзіс наведаў у Сопаце ўнучку пісьменніка К. Пшаднікоўскую, якая пацвердзіла: «Да 1946 г. шкатулка захоўвалася ў нашым доме ў Кушлянах. Былі там беларускія і польскія вершы, апавяданні, пісьмы да дзеда, а таксама граматы караля Станіслава Аўгуста, якія надаў сям'і Багушэвічаў шляхецкія прывілеі» [51]. Паводле слоў Пшаднікоўскай, шкатулка засталася ў Кушлянах разам з асабістымі рэчамі пісьменніка і двума партрэтамі Багушэвіча работы мастака Андрыёлі.

У 1972 г. прыехала пагасцяваць на радзіму з Польшчы другая ўнучка Багушэвіча С. Тамашэўская, якая пакінула Кушляны яшчэ перад Вялікай Айчыннай вайной. Яна расказала А. Мальдзісу, што дакументы ў Кушлянах перад вайной сапраўды былі. «У вялікай разной шкатулцы з чырвонага дрэва,— удакладніла С. Тамашэўская.— Перагортваючы іх, я звярнула ўвагу на пісьмы Э. Ажэшкі да Ф. Багушэвіча, упрыгожаныя сушанымі кветачкамі, на акт XVIII стагоддзя, выдадзены на імя нейкага харунжага Зыгмунта Карыцкага» [52]. Сустрэўшыся пасля вайны з сёстрамі ў Польшчы, яна даведалася, што паперы закапаны ў Кушлянах у вялізнай бутлі з-пад віна. І вось тады ж, у 1972 г., у яе прысутнасці былі арганізаваны раскопкі ў Кушлянах на ўказаным ёю месцы, але знойдзены толькі шкляны слоік з рэшткамі папер, якія не здолелі прачытаць навat спецыялісты з Інстытута судовай экспертызы Міністэрства юстыцыі БССР. Зрэшты, слоік быў невялікі і, вядома ж, ні ў якім выпадку не мог змясціць усіх папер. Так што загадка, куды прапаў багушэвічаўскі архіў, застаецца дагэтуль нераскрытай.

Яшчэ адна версія была зафіксавана ў 1949 г. вядомым вільнюскім даследчыкам і літаратарам У. Абрамавічусам у машынапіснай працы, прысвечанай бібліяграфіі беларускай літаратуры XIX ст. Ён сцвярджаў, што рукапісы Багушэвіча захоўваюцца ў зборах былога Віленскага таварыства сяброў навукі, куды былі «перададзены

---

[50] Мальдзіс А. У пошуках багушэвічаўскай шкатулкі // Мальдзіс А. Падарожжа ў XIX стагоддзе. Мн., 1969. С. 168—173.

[51] Там жа. С. 171—172.

[52] Мальдзіс А. Таямніца шклянога слоіка // Літ. і мастацтва. 1972. 27 кастр.

пляменнікамі паэта на пачатку 1939 г. і сям'ёй З. Нагродскага»[53]. У той час, калі гэта пісалася, матэрыялы таварыства знаходзіліся ў неўпарадкаваным стане ў Цэнтральным дзяржаўным архіве ЛітССР. Цяпер яны поўнасцю разабраны і ўзяты на ўлік. Аказалася, што рукапісаў Багушэвіча з яго асабістага архіва там няма. Ёсць толькі асобныя сямейныя дакументы З. Нагродскага, а таксама сваякоў Багушэвіча Шкленікаў і Радзевічаў[54]. Дакументы сваякоў, перад тым як трапіць у зборы таварыства, маглі захоўвацца і ў Кушлянах, але хутчэй за ўсё іх перадала ўспомненая вышэй «Радзевічыха» — Юлія Радзевіч.

У непасрэднай сувязі з гісторыяй рукапіснай спадчыны знаходзіцца гісторыя асабістай бібліятэкі Багушэвіча. У 1961 г. намі ў бібліятэцы Цэнтральнага дзяржаўнага архіва ЛітССР выяўлена кніга, што належала, мяркуючы па ўсім, выдатнаму беларускаму пісьменніку — збрашураваны экземпляр першых сшыткаў польскага «Слоўніка слоў іншамоўнага паходжання», які выходзіў з 1894 г., з дарчым надпісам аўтара (па-польску): «Высакароднаму п. Францішку Багушэвічу на дружбацкую памяць. Я. Карловіч. 16.10.97»[55]. Кніга магла трапіць у архіў або з матэрыяламі таварыства сяброў навукі, або, калі дапусціць, што Карловіч зрабіў надпіс, але па нейкай прычыне не перадаў кнігу адрасату,— з матэрыяламі Карловіча (у вільнюскім гістарычным архіве ёсць вялікі фонд Карловіча). Цікава, што аб атрыманні першага сшытка слоўніка Багушэвіч пісаў Карловічу ў жніўні 1894 г.[56] Зразумела ж, ён таксама быў з дарчым надпісам.

Яшчэ адна кніга з кнігазбору пісьменніка апісана ў 1980 г. У. Содалем у артыкуле «Адысея Багушэвічавай бібліятэкі»[57]. Выяўлена яна ў Цэнтральнай бібліятэцы АН ЛітССР. Гэта экземпляр «Бібліі» 1869 г. выдання з аўтографам Ф. Багушэвіча і запісам, што куплена ў Канатопе ў 1875 г. у жаўнера Ф. Кавальчука. На кнізе

---

[53] Абрамавичюс В. Библиография по белорусской литературе XIX века: Художественные и публицистические произведения опубликованные и рукописные. Вильнюс, 1949. С. 16. (Экземпляр працы ёсць у бібліятэцы Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН БССР).

[54] Кісялёў Г. За вокладкай сямейнага альбома // Літ. і мастацтва. 1983. 25 сак.

[55] Гл.: Кісялёў Г. З думай пра Беларусь. Мн., 1966. С. 264.

[56] Багушэвіч Ф. Творы. Мн., 1967. С. 194.

[57] Літ. і мастацтва. 1980. 30 студз.

была, апрача таго, ціснёная пячатка (суперэкслібрыс?) з прозвішчам пісьменніка.

Паводле прыведзенага У. Содалем расказу вядомага вільнюскага вучонага-мовазнаўцы А. Антановіча, кнігі Багушэвіча і яго альбом з фатаграфіямі захоўваліся на пачатку Вялікай Айчыннай вайны ў скрыні на хутары Асінаўка непадалёк ад Ашмянаў. Хутар належаў Тарчэўскім. З дазволу гаспадара Антановіч узяў з гэтай скрыні 19 кніг і завёз у Вільнюс, дзе праз некаторы час перадаў у Беларускі музей. Пасля расфарміравання музея (1946) кнігі трапілі ў вільнюскую акадэмічную бібліятэку. У артыкуле названы ў апісальнай форме дзве кнігі, якія помніў Антановіч: 1) нейкая этнаграфічная кніга з прадмовай Я. Карловіча, 2) буквар ці граматыка польскай мовы канца XVIII ст.

Тарчэўскія — сваякі Багушэвічаў (ужо ўспаміналася — за Тарчэўскім была замужам пляменніца пісьменніка). «І вось,— піша У. Содаль,— калі памерла паэтава дачка Туня (дакладная дата яе смерці нарэшце ўстаноўлена — 2 снежня 1937 года), калі пасля 1939 года Багушэвічавых унучак раскідаў лёс па свеце, многія Багушэвічавыя рэчы, а з імі і кнігі, перайшлі на асінаўскі хутар». Пасля Тарчэўскіх там жылі Чайкоўскія, ад якіх у дзяржаўныя сховішчы паступіў згаданы альбом Багушэвіча з фатаграфіямі. Як устаноўлена У. Содалем, кнігі, што заставаліся ў Асінаўцы, да нас не дайшлі. Многія з іх проста пайшлі на распалку.

У 1982 г. У. Содаль сустрэўся ў Вільнюсе з унучатым пляменнікам пісьменніка, сынам ужо згаданага Яна Тарчэўскага, таксама Янам, які прыехаў з Польшчы наведаць родныя мясціны. Той паведаміў некаторыя дадатковыя падрабязнасці пра лёс кніг Багушэвіча. Апрача Антановіча, цэлы мех кніг ён аддаў у гады вайны і школьнаму інспектару Пецюкевічу. «Рэштку, як я ішоў у сорак чацвёртым на вайну, выбраў са скрыні, звязаў у мяшок і, каб мышы не стачылі, падвесіў у пуні пад бэльку. Былі там юрыдычныя, праўнічыя кнігі: законы розныя, кодэксы... Памятаю, што на ўсіх была пячатка «Францішак Багушэвіч», выціснутая такая. Пераважалі кнігі расейскія»,— расказаў Я. Тарчэўскі [58].

Вось, бадай, і ўсё, што вядома на сённяшні дзень

---

[58] Содаль У. Пяць дзён з Багушэвічавым унукам // Літ. і мастацтва. 1982. 19 лют.

аб спадчыне Ф. Багушэвіча. А цяпер пяройдзем да іншых пісьменнікаў, да іншых пакручастых і загадкавых шляхоў беларускіх літаратурных рукапісаў.

Амаль нічога невядома нам пра архіў і рукапісную спадчыну таленавітага, самабытнага паэта Фелікса Тапчэўскага. Як устанавіў Г. Каханоўскі, «бібліятэку паэта ў дваццатыя гады людзі разнеслі па руках, ад яе не засталося ніякага следу» [59]. Яго творы дайшлі да нас толькі ў копіях, зробленых у свой час Б. Эпімах-Шыпілам. Больш шырокая вядомасць паэта пачалася пасля Вялікай Айчыннай вайны, калі ў савецкім друку з'явіліся публікацыі яго твораў (па згаданых копіях Эпімах-Шыпілы).

Архіў Янкі Лучыны пасля смерці паэта (1897) знаходзіўся ў яго жонкі Ганны Неслухоўскай з Грыневічаў. Відаць, па гэтых матэрыялах (прынамсі, з іх прыцягненнем) былі выдадзены паэтычныя зборнікі Лучыны на польскай (1898) і беларускай (1903) мовах. Я. Карскі ў свой час паведамляў: «Ва ўдавы Неслухоўскага некаторыя яго вершы захаваліся ў рукапісным выглядзе, напрыклад, «Усёй трупе пана [дабрадзея] Старыцкага Беларускае слова» (Карский, 3/3, *213*). А вось сціслае паведамленне «Польскага біяграфічнага слоўніка»: «Шмат (дагэтуль не адкрытых) твораў на польскай і беларускай мовах засталося ў рукапісах у жонкі Н[еслухоўска]га ў Мінску, у тым ліку паэмы «Ганулся», «Віялета», «Андрэй»...» [60]

У нашаніўскі перыяд архівам Лучыны цікавіўся Р. Зямкевіч. У 1910 г. «Наша Ніва» ў «Паштовай скрынцы» змясціла наступны адказ на яго запытанні, звязаныя з культурнымі навінамі і пошукавымі клопатамі: «Р. Зямчу. Каляндар выйдзе з друку каля 5 чысла снежня. Адрас удавы нашага песняра: Мінск, Упраўленне Л[ібава-] Р[оменскай] ж. дар. Несл-кай» [61]. З цягам часу ў рукі надзвычай паваротлівага калекцыянера-шукальніка трапіў шэраг аўтографаў паэта. З паметкай «З архіва Зямкевіча» вядома публікацыя верша Лучыны «Заходзіць сонца...» (Вольная Беларусь. 1918. № 29). Вялікую публікацыю на падставе матэрыялаў сваёй калекцыі Зямкевіч зрабіў у 1932 г. у віленскім альманаху «Нёман»: былі

---

[59] Каханоўскі Г. Па сцежках Фелікса Тапчэўскага // Беларусь. 1972. № 9. С. 28.

[60] Gajkowska C. Niesłuchowski Jan // Polski Słownik Biograficzny. Wrocław etc., 1978. T. 23. Z. 1. S. 64.

[61] Наша Ніва. 1910. 2 снеж.

надрукаваны вершы «Усёй трупе дабрадзея Старыцкага...», «Дабрадзею артысту Манько», сцэнічны ўрывак; прыгадваўся рукапіс Лучыны з апісаннем мінскай батлейкі.

Асноўная частка архіва пісьменніка трапіла да пляменніцы Лучыны, жонкі вядомага польскага буржуазнага дзеяча У. Рачкевіча, і была вывезена ў Вільню або Варшаву. Спачатку Рачкевічыха дала згоду пазнаёміць з гэтымі рукапісамі беларускіх літаратараў, але потым вырашыла, што «беларускасць» яе дзядзькі можа зашкодзіць мужавай кар'еры. Неапублікаваныя творы Лучыны нібыта засталіся ў сямейным архіве Рачкевічаў, які ў першыя дні другой сусветнай вайны перавандраваў разам з уладальнікамі ажно ў Лондан[62]. У 1982 г. А. Мальдзіс вёў пошукі рукапісаў Лучыны ў Англіі, але адшукаць іх не ўдалося[63].

Даўно цікавіць нашых даследчыкаў лёс рукапіснай спадчыны Альгерда Абуховіча.

Цяпер вядомы толькі два лісткі з аўтографамі Абуховіча, якія захоўваюцца ў бібліятэцы АН ЛітССР, куды трапілі разам са зборамі Беларускага музея ў Вільні[64]. Гэта тэксты баек «Старшына» і «Ваўкалак», напісаныя рукой паэта чарнілам, з алоўкавымі праўкамі. Аўтографы без даты, але з подпісам і паметкай «Слуцк». Ды яшчэ ў Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве, у папцы пад назвай «Розныя паперы са збораў А. Валіцкага», ёсць пераклады на польскую мову баек «Вяльможа» і «Малпа і люстэрка» за подпісам: «Альгерд гр. Бандынэлі. Мазыр»[65].

У свой час рукапісаў Абуховіча было вядома куды больш.

У 1913 г. у нашаніўскім артыкуле «Памажыця!» Власт (В. Ластоўскі) пісаў пра Абуховіча: «Рэдакцыя «Нашай

---

[62] Зямкевіч Р. Ян Неслухоўскі (Янка Лучына) і яго невядомыя вершы // Нёман. 1932. № 2. С. 60; Мальдзіс А. З кагорты пачынальнікаў: Да 130-годдзя з дня нараджэння Янкі Лучыны // Літ. і мастацтва. 1981. 3 ліп.

[63] Мальдзіс А. За Ла-Маншам, сярод беларусаў: З «Англійскага дзённіка» // Голас Радзімы. 1984. 16, 23 лют.; Ён жа. З літаратуразнаўчых вандраванняў. Мн., 1987. С. 96, 176.

[64] ЦБАН ЛітССР, ф. 21—431.

[65] Мальдзіс А. Пісьмы Я. Лучыны да З. Пшасмыцкага // Садружнасць літаратур. Мн., 1968. С. 153.

Нівы» мае 10 сшыткаў яго памятнікаў, у каторых там і сям ёсць чарнавікі вершаў».

Годам раней «паперы, астаўшыяся па Абуховічу», Ластоўскі прыгадаў у артыкуле пра У. Сыракомлю ў «Нашай Ніве», № 36. Ён прывёў з гэтых матэрыялаў чатырохрадкоўе «У гаворцы ёсць ружніца...», якое сведчыць, што меліся на ўвазе вядомыя цяпер мемуары Абуховіча.

Праз чатыры гады гэтыя мемуары былі апублікаваны пад загалоўкам «З папераў Альгерда Абуховіча» ў віленскай беларускай газеце «Гоман» (1916. № 33—40). У № 49 пад такой жа рубрыкай «З папераў Альгерда Абуховіча» надрукаваны верш «Дума а Каралю XII». Спасылкі на лексікаграфічныя матэрыялы Абуховіча ёсць у руска-беларускім слоўніку В. Ластоўскага (1924, с. 533—534). Такім чынам, у рэдакцыях «Нашай Нівы» і «Гомана», у В. Ластоўскага былі ў свой час важныя матэрыялы з архіва Абуховіча. Цяпер лёс гэтых рукапісаў, на вялікі жаль, невядомы. З публікацыі А. Сідарэвіча (Літ. і мастацтва, 1991, 25 студз.) стала вядома, што А. Луцкевіч яшчэ ў 1928 г. збіраўся расшукваць Абуховічавы мемуары.

Па ўспамінах беларускага пісьменніка і грамадскага дзеяча Я. Дылы, які пазнаёміўся з Абуховічам у Слуцку будучы гімназістам, Абуховіч даволі нядбайна захоўваў рукапісы сваіх перакладаў: «У пісьменніка склалася прывычка класці ў кнігу побач з арыгіналам і яго пераклад. Гэта заўважылі, акрамя мяне, Ярэміч і Карповіч, і яны часта прасілі Абуховіча пачытаць свае пераклады і спасылаліся пры гэтым:

— У вас жа шмат закладак! Значыць, ёсць што нам пачытаць!» (Пачынальнікі, *446—447*).

Прыехаўшы ў родны Слуцк у 1921 г., Дыла пра лёс рукапіснай спадчыны Абуховіча даведаўся наступнае:

«Сваю бібліятэку і рукапісы А. Абуховіч аддаў Казіміру Аколаву, які жыў тады ў Слуцку і часта наведваў яго, асабліва калі ён захварэў. Па словах Федаровічыхі (кватэрнай гаспадыні Абуховіча.— *Г. К.*), кнігі і пісьмовы стол пасля пахавання прыяцеля Аколаў перавёз да сябе. Я спадзяваўся, што хоць што-небудзь магло застацца ад бібліятэкі Абуховіча, і прасіў дазволу дачкі Казіміра Аколава агледзець свіран, у якім была складзена бібліятэка. Аднак ніякага следу ад яе я там не знайшоў» (Пачынальнікі, *449*).

Далей Дыла пісаў: «Дачка Казіміра Аколава расказвала, што яе брат, які працаваў у Варшаве, запрасіў бацьку прыехаць жыць да сябе. Казімір Аколаў, забраўшы з сабою бібліятэку і рукапісы Абуховіча, пераехаў са Слуцка ў Варшаву, дзе ў 1913 ці 1914 г. і памёр. Разам з кнігамі, напэўна, у Варшаву трапілі і шматлікія заклад- кі — пераклады пісьменніка. Было б, вядома, вялікаю ўдачай, калі б цяпер (успаміны Дылы датуюцца 1958 г.— *Г. К.*) пры дапамозе польскай Акадэміі навук і польскіх пісьменнікаў удалося знайсці ў Варшаве Аколавых, бібліятэку і рукапісы Альгерда Абуховіча...» (Пачынальнікі, *449*).

Пра гэта ж Я. Дыла пісаў у 1963 г. у пісьме А. Мальдзісу. Даследчык адшукаў у Варшаве сваякоў Аколавых (з гэтага ж роду быў, дарэчы, польскі пісьменнік і літаратуразнавец, дырэктар музея А. Міцкевіча ў Варшаве Леанард Падгорскі-Аколаў, які памёр у 1957 г.), якія пра лёс бібліятэкі і архіва Абуховіча нічога не маглі сказаць. А. Мальдзіс не выключаў магчымасці, што паперы Абуховіча засталіся ў Слуцку[66].

Пазней пошукамі Абуховічавага архіва рупліва займаўся слуцкі краязнавец Р. Родчанка, які паступова прыйшоў да вываду, што «шукаць трэба ўсюды — у Слуцку (і яго ваколіцах), Вільнюсе, Польшчы...»[67] Ён устанавіў, што значная частка пісьменніцкага архіва і бібліятэкі засталася ў Слуцку, у доме, дзе Абуховіч жыў апошнія гады. Гэты дом у 1928 г. быў набыты Барташэвічамі, якія расказалі краязнаўцу, што «на гарышчы купленага дома былі стосы кніжак, пакетаў і скруткаў пажоўклых папер, а таксама шэсць сплеценых з лазы карзін, з сярэдзіны абшытых палатном. У асобных з іх былі пачкі спісаных папер, а ў некаторых — кніжкі...»

«З цягам часу,— працягвае Р. Родчанка,— з усім гэтым скарбам, пра паходжанне і вартасць якога яны нічога не ведалі, Барташэвічам давялося расстацца.

У той час існаваў Інбелкульт (Інстытут беларускай культуры), які пазней быўператвораны ў АН БССР. Ці не туды трапілі рукапісы і кніжкі пісьменніка? А можа, у нейкі архіў ці бібліятэку?»[68]

---

[66] Мальдзіс А. Падарожжа ў XIX стагоддзе. С. 174—175.
[67] Родчанка Р. Альгерд Абуховіч-Бандынэлі: Нарыс жыцця і творчасці. Мн., 1984. С. 77.
[68] Родчанка Р. Альгерд Абуховіч-Бандынэлі. С. 85.

Гэтым пытаннем скончым і мы сваю спробу сістэматызаваць звесткі нашых літаратуразнаўцаў і краязнаўцаў пра архіў Абуховіча і яго пошукі.

Мабыць, найлепш з усёй пісьменніцкай рукапіснай спадчыны XIX ст. захаваўся архіў Адама Гурыновіча, які звязаў свой лёс з рэвалюцыйным рухам і трагічна скончыў жыццё ў маладым узросце.

Гэта не значыць, што яго рукапісная спадчына не мела страт. Страты былі — і вялікія. Вядома, што пры вобыску ў 1893 г. у паэта былі адабраны восем сшыткаў з рукапісамі на беларускай мове. Спачатку яны трапілі ў Пецярбургскае губернскае жандарскае ўпраўленне. На пачатку снежня 1893 г. начальнік гэтага ўпраўлення пераслаў іх у Дэпартамент паліцыі. 14 снежня Дэпартамент звярнуўся да начальніка Віленскага губернскага жандарскага ўпраўлення з просьбай аб перакладзе гэтых рукапісаў на рускую мову, але атрымаў адказ, што «ў ліку служачых ва ўстановах Віленскай губерні і ў навучальных установах Віленскай навучальнай акругі няма такіх асоб, якія ведалі б беларускую гаворку»[69]. Зразумела, гэта быў фармальны адказ. Знаўцы беларускай мовы ў Вільні ў тыя часы, як і заўсёды, былі — дастаткова ўспомніць, што адвакатам (прысяжным паверaным) пры Віленскім акруговым судзе працаваў тады Ф. Багушэвіч.

Сшыткі накіроўваюцца ў Мінск. 3 лютага 1894 г. начальнік Мінскага губернскага жандарскага ўпраўлення пісаў у Пецярбург: «...з 8 сшыткаў на беларускай гаворцы, адабраных у Гурыновіча, уважліва разгледжаны толькі чатыры, якія пры гэтым і прадстаўляюцца. У адным з іх, пазначаным мною № 1, змешчаны артыкулы яўна рэвалюцыйнага зместу ў сэнсе польскага паўстання. Адносяцца яны да часу паўстання 1862 г. (так у дакуменце.— *Г. К.*). Сшытак гэты перакладзены падрадкова. Пра змест астатніх 3 сшыткаў, паколькі ў ім няма нічога заганнага, выкладзена коратка. 4 сшыткі, што засталіся ў мяне, прагледжаны толькі павярхоўна і, відаць, нічога палітычнага не змяшчаюць. Пасля больш уважлівага іх разгляду будуць прадстаўлены мною дадаткова тыдні праз два»[70].

Атрыманыя пры гэтым пісьме сшыткі разам з пера-

---

[69] Гл.: Гульман Р. І. Новыя архіўныя матэрыялы пра Адама Гурыновіча // Беларуская літаратура: Даследаванні і публікацыі. Мн., 1958. Вып. 1. С. 233.

[70] Там жа. С. 245.

кладам на рускую мову Дэпартамент паліцыі пераслаў Пецярбургскаму жандарскаму ўпраўленню. Далейшы лёс усіх васьмі сшыткаў да канца не высветлены.

Дзеля засцярогі знішчаліся таксама рукапісы Гурыновіча ў 1893 г. і яго сваякамі. «Усё, што было лепшае, рэвалюцыйнае сваім зместам, найбольш спелае ў мастацкіх і ідэйных адносінах, на жаль, не захавалася — было канфіскавана царскімі жандарамі пад час вобыску і арышту паэта альбо знішчана ці спалена родным братам паэта — Янам Гурыновічам. Рабіў гэтак Ян Гурыновіч па просьбе паэта, а магчыма — таксама і самахоць» [71],— сцвярджаў Янка Шутовіч, які быў блізка знаёмы са сваякамі паэта і добра ведаў гісторыю яго рукапіснай спадчыны.

Факт знішчэння дакументаў у іншай форме згадвае і Браніслаў Тарашкевіч. Пішучы пра навуковыя дасягненні Гурыновіча, ён паведамляе пра яго: «...паехаў у Тэхналагічны інстытут у Пецярбургу, дзе спецыяльна займаўся ўлепшаннем паравозаў і ў гэтым пытанні меў быць, як кажуць, на дарозе да важных і цікавых вымыслаў (навуковыя рукапісы разам з часцю літаратурных знiстожаны перад адным з вобыскаў)» (Пачынальнікі, *481*).

Тым не менш захавалася нямала.

Важнейшую ролю ў адкрыцці самога імя Гурыновіча і адшуканні ягоных рукапісаў адыграў ужо ўспомнены выдатны беларускі вучоны і грамадскі дзеяч Браніслаў Тарашкевіч, які яшчэ ў гімназічныя гады пазнаёміўся з пляменніцай паэта Янінай Гурыновіч, што вучылася ў той час у Віленскім марыінскім інстытуце, а праз яе з сястрой Адама Гурыновіча Канстанцыяй і братам Янам.

Сваякі перадалі яму для азнаямлення і выкарыстання частку рукапіснай спадчыны, што захоўвалася ў Канстанцыі з Гурыновічаў Странкоўскай, сястры Адама.

У артыкуле «Адам Гурыновіч», надрукаваным у 1921 г. у газеце «Беларускі звон», Б. Тарашкевіч пісаў: «Шчаслівым здарэннем захавалася і цяпер можа паказацца на свет у друкаванай вопратцы невядомая дагэтуль літаратурная спадчына Адама Гурыновіча, беларускага паэта канца 80-х і пачатку 90-х гадоў...

Тое, што знаходзіцца цяпер у нашых руках, гэта

[71] Шутовіч Я. Адам Гурыновіч: Паводле старых і новых архіўных матэрыялаў // Полымя. 1966. № 11. С. 150.

толькі невялікая часціна творчасці Гурыновіча, і, магчыма, знойдуцца йшчэ яго творы.

Тым часам вось што мы маем: вершы — 1) «Да Мацея Бурачка», 2) «Што ты спіш, мужычок», 3) «Бор», 4) «Вясна», 5) «Вечны рэвалюцыянер дух», 6) «Што за звук так громка раздаўся», 7) «Перш марылі (?) паны, што шляхтай зваліся», 8) «Думкі», 9) «Вялля» (пераклад з Міцкевіча), 10) «Рэха» (пераклад з Пушкіна), 11) «Мароз» (пераклад з Някрасава), 12) «Восень» (пераклад з Ал. Талстога), 13) «Вясна» (перак[лад] з Каспровіча), 14) «Гібніць зарання столькі цвяткоў» (перекл[ад] з Каспровіча), 15) «Звярынец», 16) «Весяльчак», 17) «Паслухайце, дзеўкі» (незакончана), 18) «Калі ж у нас так было», 19) «Раз у Зольках, у дзярэўні», 20) «Месца нячыстае», 21) «А пайду ж я, маці, у поле жыта жаці», 22) «Каток», 23) «Рыбак», 24) «Казельчык і Мурашка»; прозай — 25) «З гадоў голаду» (перакл[ад] з Orzeszko), 26) незакончанае апавяданне без назову.

Апрача гэтага,— працягваў Тарашкевіч,— мы маем багаты этнаграфічны матэрыял, сабраны Гурыновічам у Свянцянскім павеце, які таксама чакае свайго выдання.

У нашых матэрыялах цэлая маса недаконченых вершаў; паміж іншымі, як мы думаем, першы пачатак «Панскага ігрышча» — «Ох-ох-ох, умру ад смеху...» (Пачынальнікі, *480—482*).

Тады ж Тарашкевіч надрукаваў у «Беларускім звоне» некалькі вершаў і перакладаў Гурыновіча. Рукапісы, якімі ён карыстаўся, трапілі ў наступным — праз Яніну Гурыновіч — у віленскі Беларускі музей, а адтуль у акадэмічную бібліятэку Вільнюса, дзе захоўваюцца і цяпер.

Забягаючы наперад, адзначым, што Тарашкевіч пералічыў у сваім артыкуле творы Гурыновіча толькі на беларускай мове, а ў рукапісах паэта, што захоўваюцца ў бібліятэцы АН ЛітССР, ёсць таксама польскія і рускія творы. Польскія ахарактарызаваў у 1963 г. А. Мальдзіс: «Побач з беларускімі творамі ў сшытках, спісаных рукою Гурыновіча, знаходзіцца 12 вершаў на польскай мове. Яны вельмі разнастайныя ў жанравa-тэматычных адносінах. Тут пейзажная («Неба пакрылася цёмнай смугою») і любоўная лірыка («Калі б мне з табою», «Над ракою белая бярозка», «Люблю цябе такой любоўю»). У іншых вершах на першы план выступае то лёгкі гумар («Не хачу»), дзе польскія словы перапля-

таюцца з беларускімі, то з'едлівая сатыра («Людскія жаданні»). Некаторыя творы — гэта ўзнёслыя гімны свабодзе, мастацтву. Так, у вершы «Да свабоды», які пераклікаецца з сыракомлеўскім вершам «Смерць салаўя», гучыць страсны пратэст супраць няволі, у якую трапіла бездапаможная птушка.

Сярод польскіх вершаў Гурыновіча асабліва цікавае вершаванае апавяданне «На фабрыцы». Яно сведчыць аб тым, што на творчасць паэта аказала значны ўплыў барацьба рабочага класа. Гэта — першы твор аб пралетарыяце, які напісан беларускім пісьменнікам, хоць і не на беларускай мове» [72].

Але вернемся ў даваенныя часы. У 30-х гадах да пошукаў спадчыны Гурыновіча падключаецца віленскі заходнебеларускі дзеяч Я. Шутовіч. Праз шмат гадоў ён успамінаў: «Маючы на мэце знайсці што з літаратурнай спадчыны паэта і наведаць ягоную магілу, я летам 1935 г. наведаў Крыстынопаль. Са спадчыны нічога не ўдалося адшукаць, магілы таксама не знайшоў... Аказваецца, у першую сусветную вайну каля Крыстынопаля праходзіла лінія фронту, і сямейныя могілкі Гурыновічаў былі знішчаны. У Кавалях, дзе жыла сястра Адама Канстанцыя Странкоўская з мужам, я знайшоў толькі фотакартку паэта, якую пазней змясціў у друку. Канстанцыя за месяц перад маім візітам памерла, а муж яе нічога пра паэта не мог расказаць мне» [73].

Яшчэ раней, на пачатку 30-х гадоў, Я. Шутовіч пазнаёміўся з Я. Гурыновіч, якая была ў той час дацэнтам Віленскага універсітэта, доктарам медыцыны. Яна з разуменнем ставілася да праблем беларускай культуры. Паводле слоў Я. Шутовіча, «Яніна Гурыновіч з усіх родзічаў Адама, якія асталіся па ягонай заўчаснай смерці, найбольш рупна і добрасумленна збірала яго літаратурную спадчыну, як найдаражэйшы скарб, клапатліва яе перахоўвала. У пошуках гэтай спадчыны яна ездзіла з Вільні ў фальварак Кавалі і ў іншыя месцы, шукаючы яе ў будынках, на застрэшках, збірала яе ад родзічаў, сясцёр і братоў паэта, ад сваіх цётак і дзядзькоў» [74].

---

[72] Мальдзіс А. Польскія вершы А. Гурыновіча // Беларусь. 1963. № 3. С. 29.

[73] Шутовіч Я. Адам Гурыновіч // Полымя. 1966. № 11. С. 156.

[74] Там жа. С. 149—150.

Рукапісы паэта яна дазволіла прагледзець Я. Шутовічу, які ўспамінаў: «Пасля знаёмства з паважанай праф. Гурыновіч я папрасіў дазволу пазнаёміцца са спадчынай яе дзядзькі, якая яшчэ заставалася ў яе. Я, згодна з воляй прафесара, усе пазычаныя рукапісы вярнуў у поўным парадку, папярэдне іх перапісаўшы для сябе. Некаторыя вершы Адама Гурыновіча я ўпершыню надрукаваў у часопісе «Калоссе», які выходзіў у Вільні ў 1935—1939 гадах і рэдактарам якога я быў»[75]. Мяркуючы па апублікаваных у «Калоссі» творах Гурыновіча, размова ідзе перш за ўсё пра тую частку архіва, якая ў свой час была абследавана Б. Тарашкевічам і трапіла ў рэшце рэшт у віленскую акадэмічную бібліятэку.

Частка папер Адама Гурыновіча засталася ў сямейным архіве Я. Гурыновіч, якая выехала пасля вайны ў Польшчу, забраўшы фамільныя дакументы з сабой. Прафесар Торуньскага універсітэта Яніна Гурыновіч разумела каштоўнасць аўтографаў і іншых дакументаў свайго дзядзькі-паэта для беларускага народа. У 50—60-х гадах з ёй узнавіў сувязі Я. Шутовіч, якому яна выслала фотакопіі трох пісьмаў Адама Гурыновіча да маці, некаторыя біяграфічныя звесткі пра паэта. Гэтыя матэрыялы былі выкарыстаны Шутовічам у артыкуле «Адам Гурыновіч: Паводле старых і новых архіўных матэрыялаў», апублікаваным у часопісе «Полымя» ў 1966 г.

У 1967 г. Я. Гурыновіч памерла. Перад смерцю яна завяшчала дакументы паэта Акадэміі навук БССР. У 1971 г. гэтыя матэрыялы перададзены ў Савецкі Саюз і захоўваюцца зараз у ЦДАМЛіМ БССР, поўная ксеракопія іх ёсць у ЦНБ АН БССР.

Першым, у 1971 г., яшчэ ў савецкім пасольстве ў Варшаве, пазнаёміўся з гэтымі матэрыяламі А. Мальдзіс, які слушна назваў іх «адзіным пісьменніцкім архівам, які дайшоў да нас з таго часу», г. зн. з XIX ст.[76]. Даследчык даў іх кароткае апісанне ў нарысе «Тры месяцы пошукаў, знаходак і сустрэч» (Полымя, 1973, № 7)[77].

У «торуньскія матэрыялы» Гурыновіча ўваходзяць рукапісы яго вершаў, у тым ліку невядомых: на беларускай мове — «Ёсць царства на свеце бальшое...», на рускай —

---

[75] Шутовіч Я. Адам Гурыновіч // Полымя. 1966. № 11. С. 150.
[76] Мальдзіс А. Таямніцы старажытных сховішчаў. Мн., 1974. С. 63.
[77] Гл. таксама: Мальдзіс А. Тры месяцы пошукаў і сустрэч // Мальдзіс А. Таямніцы старажытных сховішчаў. С. 56, 63—70.

«Бегу я на берег...», «Все светлые порывы в груди», «Несчастье это, как камень, упало», «Мчится по морю волна за волной», «Исполнился дух мой тоски и печали» і інш.; на польскай — «Гультайская ода», «Цялё і грамада», «Матылёк і жанчына», «Калодзеж і журавель над ім», «Клехіяда», «Чэрці пра гэта там знали», «Нявінныя гульні», «Дуб», «Асенні дзень», «Нібы бязмежная скарга адчаю». Ёсць таксама празаічны абразок, бібліяграфічныя матэрыялы па этнаграфіі, канспекты, нататкі, як рабіць чучалы птушак. Ці не найбольшую важкасць мае эпістолярная спадчына, у прыватнасці 7 пісьмаў Гурыновіча да маці, некаторыя іншыя яго пісьмы і фрагменты пісьмаў. Асабліва шмат у «торуньскіх матэрыялах» пісьмаў да Гурыновіча: Б. Пяткевіч, С. Пяткевіч, Р. Швайніцкай і інш.

Некаторыя рукапісы маюць капійны характар са спасылкай на Беларускі музей у Вільні і публікацыі твораў Гурыновіча.

Матэрыялы Гурыновіча склалі ў ЦДАМЛіМ БССР асобны невялікі фонд (№ 171). У складзены вопіс занесена 17 адзінак захавання. Аднак апісаны матэрыялы занадта сумарна, часам архіўныя загалоўкі недакладна або няпоўна адлюстроўваюць змест і характар матэрыялаў.

Азнаямленне з аўтографамі і іншымі дакументамі паказвае, што, прынамсі, некаторыя з іх пабывалі ў свой час у паліцыі. На такую думку наводзяць падкрэсліванні каляровымі алоўкамі ў тэксце пісьмаў, адметныя штампы на асобных старонках творчых рукапісаў [78]. Хутчэй за ўсё, некаторыя з гэтых матэрыялаў уваходзілі ў склад згаданых вышэй васьмі сшыткаў, што знаходзіліся ў Дэпартаменце паліцыі.

Абедзве часткі архіва Гурыновіча, якія захоўваюцца ў Вільнюсе і Мінску, патрабуюць яшчэ дадатковага вывучэння. Важна ўстанавіць і характар іх узаемадзеяння. Можна чакаць у гэтых адносінах цікавых крыніцазнаўчых даследаванняў і назіранняў.

Надзвычай багаты архіў меў, як вядома, Аляксандр Ельскі. Слынны пісьменнік, даследчык і калекцыянер збіраў і захоўваў не толькі ўласныя рукапісы, у сваім маёнтку Замосце на Пухавіччыне ён стварыў сапраўдны гісторыка-культурны музей з багатай карціннай галерэяй і бібліятэ-

---

[78] ЦДАМЛіМ БССР, ф. 171, воп. 1, спр. 2, л. 13; спр. 3, л. 36 адв. Пра рукапісы Гурыновіча «з крэпастнымі штэмплямі» ўжо даўно гаварылі нашы даследчыкі (Наша Ніва. 1913. 19 верас.).

кай. Асабліва цікавілі яго духоўныя здабыткі беларускага народа. Вядома, напрыклад, што ў яго зборах былі некаторыя каштоўныя рукапісы В. Дуніна-Марцінкевіча. Дамінантай збіральніцкіх і даследчыцкіх інтарэсаў Ельскага былі Беларусь і Літва, але ў яго калекцыях знаходзіліся таксама рэчы і аўтографы многіх польскіх, заходнееўрапейскіх і рускіх дзеячаў. «У паперах, што засталіся пасля Ельскага,— пісаў яго калега і біёграф Ю. Талька-Грынцэвіч,— ёсць сотні папак, дзе змяшчаюцца яго нататкі, манаграфіі, запіскі і карэспандэнцыі аб людзях і фактах. З цягам часу яны будуць мець вялікую каштоўнасць для гісторыі»[79]. Апісанне музея, архіва і бібліятэкі Ельскага, зробленае ў 1931 г. па памяці і на падставе некаторых рэестраў яго ўнукам Генрыкам Ельскім, апублікавана намі ў гісторыка-літаратурным зборніку «Шляхам гадоў»[80].

Трывогай за лёс замосцкіх збораў прасякнуты ўжо некралог Ельскаму ў беларускай газеце «Гоман» (1916, 29 верас.). «Невядома таксама,— гаварылася ў некралогу,— ці ўцалеюць яго багатыя зборы памятак мінуўшчыны Беларусі, каторыя ён хаваў у сваім дварэ і спадзяваўся знайсці для іх адпаведнае месца ў сталіцы краю — Вільні».

Трывога гэта аказалася небеспадстаўнай. Цяпер такога комплексу як адзінага цэлага, на жаль, не існуе. Часткова калекцыі А. Ельскага загінулі, часткова рассеяліся па свеце, трапіўшы ў розныя сховішчы нашай краіны і Польшчы. Яшчэ пры жыцці Ельскі перадаў некаторыя свае матэрыялы ў тыя або іншыя навукова-культурныя ўстановы. Мы ўжо гаварылі, што ў 1907 г. ён падараваў Віленскаму таварыству сяброў навукі надзвычай багатую і важную ў гістарычных адносінах карэспандэнцыю А. Кіркора. Мяркуючы па часе ахвяравання, гэта быў як бы ўступны дар Ельскага з нагоды ўтварэння таварыства. У інвентарнай кнізе ахвяраванняў таварыству ёсць цікавая заўвага:

«Пожертвование это принято с условием, в случае прекращения деятельности или изменения характера о[бщест]ва,— возвратить его жертвователю г. Алек-

---

[79] Цыт. па: Мальдзіс А. Таямніцы старажытных сховішчаў. С. 94.

[80] Замосце: скарбы Аляксандра Ельскага: Генрых Ельскі пра музей свайго дзеда / Публікацыя Г. Кісялёва // Шляхам гадоў. Мн., 1990. [Вып. 1].

сандру Ельскому (Минская губ. Узляны, им. Замость) или его наследникам»[81].

Паводле сведчання другога сваяка нашага пісьменніка — Яна Ельскага (Гродна, 1931), два куфры з рукапісамі і кнігамі Аляксандра Ельскага (у адным з іх былі творы самога пісьменніка, дзённік за 1876—1889 і пазнейшыя гады, «беларускія рэчы») прапалі недзе ў Мінску ў віхурныя 1917—1920 гг.[82]

Кнігі з бібліятэкі Ельскага з яго адметнай пячаткай і ўласнаручнымі паметкамі-аўтографамі можна сустрэць часам у Дзяржаўнай бібліятэцы БССР імя У. І. Леніна, куды ўвайшло нямала прыватных кнігазбораў і іх частак[83]. Асобныя рукапісы Ельскага ёсць цяпер у Львове і Кіеве. Надзвычай цікавы экспанат са збораў Ельскага — шмуцтытул славутага дзекабрысцкага альманаха «Полярная звезда» з аўтографам А. Бястужава-Марлінскага — зберагаецца ў Маскве ў Цэнтральным архіве літаратуры і мастацтва (ЦГАЛИ)[84]. Група матэрыялаў з колішніх замосцкіх збораў у пасляваенны час была перададзена з ЦГАЛИ ў Цэнтральны архіў-музей літаратуры і мастацтва БССР, дзе ўтварыла асобны невялікі фонд Ельскага.

Але найбольш матэрыялаў з Замосця трапіла ў розныя часы ў Польшчу. У згаданым апісанні ўнука ёсць шматлікія характэрныя паметкі: «...цяпер у Кракаве», «Былі 2 міцкевічаўскія партфелі (аўтографы і матэрыялы), падараваныя ў Кракаў», «Самыя каштоўныя аўтографы былі падараваны ў Кракаў», «Прададзены ў Нацыянальны музей у Варшаве»[85]. Пасля смерці Ельскага яго калекцыямі дальнабачна заапекаваліся адпаведныя ўстановы з Варшавы. У апісанні ўнука, напрыклад, чытаем: «Гэтая мэбля была сфатаграфавана і апісана Варшаўскім аддзелам апекі над помнікамі (1917), а таксама і некаторыя карціны»[86]. Многае ў гады грамадзянскай вайны і інтэрвенцыі апынулася ў польскіх навукова-культурных сховішчах. Пра пошукі матэрыялаў Ельскага ў Польшчы цікава расказваў А. Мальдзіс у сваіх папулярных кнігах «Падарожжа ў XIX стагоддзе» (1969) і «Таямніцы стара-

---

[81] ЦДГА ЛітССР, ф. 1135, воп. 22, спр. 20, л. 4.
[82] Там жа, воп. 21, спр. 64, л. 388.
[83] Шляхам гадоў. Мн., 1990. [Вып. 1] С. 296.
[84] Букчин С. К мечам рванулись наши руки. Мн., 1985. С. 74—76.
[85] Шляхам гадоў. Мн., 1990. [Вып. 1] С. 299, 300, 303.
[86] Там жа. С. 299.

жытных сховішчаў» (1974). У прыватнасці, у фондах Нацыянальнай бібліятэкі ў Варшаве ім былі знойдзены каларытная «Кніга для запісу асоб, якія аглядаюць зборы ў Замосці...», рукапіс невядомай паэмы В. Дуніна-Марцінкевіча «З-над Ісачы» з пячаткай Ельскага. Некаторыя дакументы са збораў Ельскага адшукаў у польскіх сховішчах У. Казбярук, які пісаў пра лёс калекцый з Замосця: «У перыяд першай сусветнай вайны значная частка гэтых матэрыялаў загінула. Але, як сведчаць польскія крыніцы, у Кракаве — у Ягелонскай бібліятэцы, Нацыянальным музеі, на кафедры археалогіі Ягелонскага універсітэта, у бібліятэцы Польскай Акадэміі навук — захавалася каля 20 тысяч адзінак з матэрыялаў, сабраных Ельскім. Некаторыя рукапісы яго ёсць таксама ў Вроцлаве (Асалінэум), у Варшаве (Галоўны архіў старажытных актаў)» [87]. Да гэтага трэба дадаць Нацыянальную бібліятэку, Нацыянальны музей і Музей Войска Польскага ў Варшаве [88]. І яшчэ адзін адрас — Віляноўскі музей каля Варшавы, дзе захоўваецца, напрыклад, жывапісны сямейны партрэт Ельскіх і іх сваякоў работы мастака Ф. Смуглевіча — раней партрэт таксама знаходзіўся ў Замосці [89]. Пэўныя надзеі ўскладаюцца таксама на архівы Ватыкана [90].

У будучым надзвычай важна для беларускай культуры ўзнавіць па магчымасці поўную гісторыю замосцкіх збораў. Гэта можа мець адчувальныя практычныя вынікі.

Такім чынам, мы прасачылі ў агульных рысах лёс рукапіснай спадчыны большасці нашых пісьменнікаў мінулага стагоддзя. Лёс, як правіла, надзвычай драматычны, калі не сказаць трагічны. Захавалася да крыўднага мала. Ва ўсякім разе пералік стратаў куды большы за спіс таго, што ацалела, дайшло да нас. Паўплывалі тут самыя розныя прычыны і акалічнасці: негатыўнае стаўленне ў царскай Расіі і санацыйнай Польшчы да беларускага нацыянальна-культурнага руху, грандыёзныя войны і сацыяльныя катаклізмы, арэнай якіх не раз станавілася

---

[87] Казбярук У. М. Плённыя кантакты: Некаторыя пытанні беларуска-польскіх сувязей і станаўленне беларускай літаратуры XIX ст. // Старонкі літаратурных сувязей. Мн., 1970. С. 161.

[88] Гл.: Zbiory rękopisów w bibliotekach i muzeach w Polsce. Opracowała D. Kamołowa. Warszawa, 1988.

[89] Мальдзіс А. Гісторыі унікальных рэчаў // Беларусь. 1979. № 4. С. 17.

[90] Мальдзіс А. Рымскі дзённік // Беларусь. 1991. № 2. С. 14.

як у мінулым, так асабліва ў нашым стагоддзі Беларусь, сталінскія беззаконні і г. д. Адсюль вынікае задача самага ашчаднага ўліку і выкарыстання таго, што мы маем, пастаянных мэтанакіраваных пошукаў новых матэрыялаў. Размова, такім чынам, зноў ідзе пра надзвычай важную ролю крыніцазнаўчых даследаванняў у нашым літаратуразнаўстве.

Адзін з перспектыўных напрамкаў, шлях да новых знаходак — далейшае ўдакладненне самой гісторыі літаратурных рукапісаў, рукапіснай спадчыны нашых пачынальнікаў.

## Інвентарызацыя ведаў

*Сістэматызацыя і агляд крыніц*

**У** раздзеле «Канструяванне навукі» мы пераканаліся, што падыход да класіфікацыі і сістэматызацыі крыніц можа быць самы розны: крыніцы і першакрыніцы; крыніцы і дапаможнікі; крыніцы пісьмовыя, рэчавыя і вусныя; крыніцы мастацкай і немастацкай формы; крыніцы архіўныя і друкаваныя і г. д. Асобна могуць разглядацца такія віды крыніц, як перыёдыка (у агульнай форме і па канкрэтных органах друку) [1], мемуары [2] і інш.

У манаграфіі «Спасцігаючы Дуніна-Марцінкевіча» намі прапанавана наступная сістэматызацыя гісторыка-літаратурных крыніц, звязаных з аўтарам «Гапона» і «Пінскай шляхты»: крыніцы мастацкіх тэкстаў, эпісталярная спадчына, крытычныя матэрыялы, крыніцы да біяграфіі, іканаграфія, памятныя мясціны, асабістыя рэчы. Блізкія групы або катэгорыі намячаюцца і пры сістэматызацыі комплексу крыніц, неабходных для асвятлення жыцця і творчасці іншых пісьменнікаў XIX ст., усёй гісторыі літаратуры гэтага перыяду. Лічым, што такая сістэматызацыя досыць добра адпавядае як задачам крыніцазнаўчага даследавання, так і наяўнасці канкрэтных матэрыялаў. Магчыма, наша сістэматызацыя мела б крыху іншы выгляд, але асобных відаў крыніц (дзённікі, запісныя кніжкі) па беларускай літаратуры гэтага перыяду проста няма.

Неабходна папярэдзіць яшчэ, што крыніцы некаторых катэгорый могуць быць больш шырокага або вузкага характару, датычыць аднаго або многіх пісьменнікаў. Пэўнай шырынёй у гэтым сэнсе вызначаюцца, напрыклад,

---

[1] Мархель У. На старонках «Кур'ера...»; Рэзервы даследавання // Мархель У. Крыніцы памяці. Мн., 1990.

[2] Бушканец Е. Г. Мемуарные источники: Учеб. пособие к спецкурсу. Казань, 1975.

хрэстаматыі, у якіх змяшчаюцца мастацкія тэксты многіх пісьменнікаў (з рукапіснымі хрэстаматыямі XIX ст. мы пазнаёмім чытача ніжэй). Творчасці цэлага шэрагу пісьменнікаў або нават ўсёй літаратуры пэўнага перыяду датычаць некаторыя крытычныя матэрыялы (агляднага характару). Такім з'яўляецца, напрыклад, артыкул Р. Падбярэскага «Беларусь і Ян Баршчэўскі» (1844), дзе крытык даў карціну усёй літаратуры Беларусі першых дзесяцігоддзяў XIX ст., каб на гэтым фоне больш выразна паказаць постаць Я. Баршчэўскага. Такі ж характар і артыкула Г. Г. (Генадзі?) «Некалькі слоў аб беларускай народнай паэзіі і беларускіх паэтах» (1866). Досыць шырокай пастаноўкай пытання вызначаецца артыкул І. Цытовіча «Словы два аб мове і пісьменнасці Белай Русі» (1843). Крыніцай агульнага значэння з'яўляецца пісьмо А. Рыпінскага А. Плугу 1883 г., у якім Рыпінскі расказвае пра сваю працу над гісторыяй беларускай літаратуры і прыводзіць спіс вядомых яму пісьменнікаў Беларусі. Падаючы ў зборніку «Пачынальнікі» артыкул Р. Зямкевіча «Стары Мінск у беларускіх успамінах» (1919—1920), мы змясцілі яго ў раздзеле «Агульныя матэрыялы», таму што ў артыкуле гэтым паведамляліся каштоўныя звесткі па розных пытаннях нашай літаратуры і культуры мінулага стагоддзя (В. Дунін-Марцінкевіч, А. Ельскі, календары М. Доўнар-Запольскага і А. Слупскага). Агульны інтарэс маюць крыніцы пра літаратурнае жыццё, літаратурныя гурткі. Напрыклад, крыніцамі па гісторыі віленскага літаратурнага гуртка Адама Кіркора, які адыграў важную ролю ў станаўленні беларускай літаратуры і культуры XIX ст., з'яўляюцца ўспаміны самога Кіркора (часопіс «Край», 1884), а таксама вядомае адкрытае пісьмо В. Дуніна-Марцінкевіча да Ю. Крашэўскага 1861 г., дзе прыгадваецца «літаратурны сход у пана К...» Пра віцебскі гурток А. Вярыгі-Дарэўскага красамоўна расказвае яго Альбом, пра які неўзабаве мы будзем гаварыць падрабязней.

Пасля гэтай уводнай заўвагі можна перайсці да агульнага агляду крыніц па асноўных групах-катэгорыях.

*
* *

Першую, надзвычай важную групу або катэгорыю гісторыка-літаратурных крыніц складаюць самі мастацкія творы, якія дайшлі да нас у розных выглядах: друкаваныя

выданні (асабліваe значэнне маюць першадрукі), аўтографы, спісы.

Спецыялісты справядліва ўказваюць, што «мастацкія творы з усімі ўласцівымі рысамі — тыпізацыяй, вобразамі, паэтычнай формай, своеасаблівасцю жанраў і мовы» патрабуюць ад даследчыка асобага падыходу і ў гэтым сэнсе адрозніваюцца ад усіх іншых крыніц [3].

Літаратурна-мастацкія тэксты бываюць аўтарскія або ананімныя. Ёсць творы, вядомыя пад псеўданімамі, творы, якія толькі прыпісваюцца пэўнаму аўтару, але гэтае аўтарства не атрымала агульнага прызнання. Паўней гэтыя выпадкі разглядаюцца намі ў раздзелах «І дух, і літара», «Даўняя загадка літаратуразнаўства».

Кніг беларускіх пісьменнікаў XIX ст. параўнальна няшмат. Найперш гэта кнігі Я. Чачота, В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, Я. Лучыны, раннія выданні паэмы «Тарас на Парнасе». Поўны (ці амаль поўны) іх спіс ёсць у зводным каталогу «Кніга Беларусі» (1986). Часцей за ўсё яны друкаваліся лацінкай, толькі нямногія («Вязанка» Лучыны, асноўныя выданні «Тараса на Парнасе») выкарыстоўвалі «гражданку». Перапыненая гістарычнымі акалічнасцямі некалі багатая традыцыя беларускага нацыянальнага кнігадрукавання ў XIX ст. толькі пачынала ўзнаўляцца. Выкарыстоўвалася своеасаблівае «прырыццё». Многія кнігі, асабліва ў першы перыяд, складаліся як з беларускіх, так і з польскамоўных тэкстаў, мелі тытулы, прадмовы, «талкаванні» на польскай (у канцы стагоддзя — на рускай) мове. Але з'яўляліся таксама кнігі, цалкам або амаль цалкам афармленыя па-беларуску. Адной з першых быў марцінкевічаўскі пераклад «Пана Тадэвуша» (кніга была надрукавана, але не прапушчана цэнзурай). Частка кніг па цэнзурных меркаваннях выходзіла за мяжой ананімна або пад псеўданімамі. Цяпер гэтыя кнігі-першадрукі вялікая бібліяграфічная рэдкасць, у буйных навуковых бібліятэках, у прыватных калекцыях іх засталіся літаральна лічаныя экземпляры. Як прыклад нагадаем, што яшчэ нядаўна былі вядомы тры экземпляры марцінкевічаўскага перакладу «Пана Тадэвуша» (выданне 1859 г.). Цяпер вядомы чатыры (два ў Вільнюсе і па аднаму ў Ленінградзе і Кракаве). Як бачым, усе гэтыя неацэнныя рарытэты ў да-

---

[3] Бельчиков Н. Ф. Литературное источниковедение. М., 1983. С. 128.

ным выпадку захаваліся за межамі рэспублікі. Але ў Мінску таксама ёсць унікальныя выданні — назавём хаця б пераклад «Сігнала» У. Гаршына 1891 г. з дарчым надпісам перакладчыка (Ядвігіна Ш.) М. Янчуку. Кніга выяўлена ў Дзяржаўнай бібліятэцы БССР імя У. І. Леніна [4].

Паколькі беларускіх кніжак мінулага стагоддзя захавалася надзвычай мала, важнае значэнне набывае сёння падрыхтоўка факсімільных выданняў. Першая ластаўка ў гэтых адносінах — выпуск факсімільнага выдання Багушэвічавай «Дудкі беларускай» да 150-годдзя з дня нараджэння песняра (1990; зроблена па экземпляру вільнюскай акадэмічнай бібліятэкі). Між тым сваёй чаргі чакаюць іншыя першынцы друкаванага беларускага мастацкага слова. «Ці многія з нас бачылі і трымалі ў руках кнігі Яна Чачота, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча? А іх з'яўленне было сапраўдным пераломам у гісторыі беларускай літаратуры і культуры. Яны таксама чакаюць сваёй сустрэчы і з сённяшнім чытачом» [5],— слушна піша Уладзімір Казбярук. І працягвае: «Наш абавязак сёння — дамагчыся таго, каб тыя кнігі нарадзіліся яшчэ раз у сваім першародным выглядзе, такім, у якім яны пайшлі да чытача, вучылі яго, прымушалі цешыцца і пакутаваць, рваць «духа путы», кажучы словамі Алеся Гаруна, будзілі чалавечую годнасць і нацыянальную свядомасць».

У часы Каліноўскага з'явіліся друкаваныя беларускія адозвы-лістоўкі, палымяная «Мужыцкая праўда».

Былі таксама спарадычныя публікацыі беларускіх твораў у тагачаснай польскай і рускай перыёдыцы.

У цэлым жа наша літаратура мінулага стагоддзя спадзявалася не столькі на друкарскі станок, колькі на звычайнае агульнадаступнае чарніла. Рукапіснае бытаванне літаратурных твораў было характэрнай рысай эпохі — дзейнічаў своеасаблівы тагачасны «самвыдат». Власт (В. Ластоўскі) згадваў у 1913 г. у артыкуле «Памажыця!»: «Усім вядома, што па нашых вёсках у тыя часы, калі было забаронена друкаваць беларускія кніжкі, хадзілі рукапісныя сшыткі з рознымі беларускімі вершамі, сатырамі і паэмамі. Хто іх пісаў і хто шырыў, невядома было. Толькі на ўсякае выдатнае здарэнне ў жыцці народа,

---

[4] Кушнерава Н. Нечаканая знаходка // Вячэрні Мінск. 1982. 9 чэрв.

[5] Казбярук У. З клопатам пра спадчыну // Літ. і мастацтва. 1988. 24 чэрв.

у жыцці грамады, аколіцы, вёскі складаліся вершы і расходзіліся перапісаныя з рук у рукі» [6]. А вось сведчанне другога выдатнага знаўцы роднай культуры. «Прыкладаў рукапіснага пісьменства беларусаў — надта многа...,— пісаў у 1920 г. М. Гарэцкі.— Здаўна пашыраюцца ў народзе рукапісы макаранічных вершаў («Як ценцерук у лесе балбоча»), паэм вядомых і невядомых аўтараў: «Энеіда», «Тарас на Парнасе», «Рабункі мужыкоў», перакладаў А. Міцкевіча «Конрад Валенрод», «Пані Твардоўская» і жартаўлівых апавяданняў, як «Сведка», «Дзядзіна» і інш., а пазней — рукапісы «Панскага ігрышча», твораў А. Абуховіча, нелегальных вершаў Цёткі, Я. Коласа і г. д. З гутарак карысталі й карыстаюць папулярнасцю творы невядомых беларусаў: «Гутарка Паўлюка», «Гутарка Кузьмы з Апанасам», цікаўнае ўсходнебеларускае «Казанне» («Вось цяпер які люд стаў...»), «Маладзікова гутарка», «Вяселле Сапрона» і іншыя рэчы, то болей-меней запісаныя, то вымагаючыя ад свядомых беларускіх вучыцялёў лепшых запісаў у розных кутках бацькаўшчыны. Наша рукапіснае пісьменства — жычка, што звязавала і звязуець наш народ і яго творчасць з нашай творчасцю і з намі, яго мужыцкай інтэлігенцыяй і яго мужыцкімі пісьменнікамі» [7].

Частка гэтых разнастайных спісаў і копій з твораў беларускай літаратуры мінулага стагоддзя вядома і цяпер. Як прыклад можна назваць немалую колькасць спісаў паэмы «Тарас на Парнасе», што дайшлі да нашага часу. Усё гэта надзвычай каштоўны тэксталагічны матэрыял.

Сярод рукапісных крыніц асаблівае значэнне маюць пісьменніцкія аўтографы (праўда, ад XIX ст. іх захавалася няшмат). Аўтарскія чарнавікі, варыянты дазваляюць зазірнуць у творчую лабараторыю пісьменніка, прасачыць калі не ўвесь ход, то нейкія этапы яго работы над творам. Падобны матэрыял ёсць, напрыклад, у архіве А. Гурыновіча. Вялікую цікавасць уяўляюць таксама цэнзурныя рукапісы, некалі пададзеныя аўтарам у цэнзуру, каб атрымаць дазвол на апублікаванне. Гэта могуць быць белавыя аўтарскія рукапісы або пісарскія копіі, зацверджаныя аўтарам. Вядомы цэнзурны рукапіс-аўтограф 1-й песні-быліцы марцінкевічаўскага перакладу

[6] Власт. [Ластоўскі В.] Памажыця! // Наша Ніва. 1913. 12 верас.
[7] Гарэцкі М. Кароткі агляд беларускай літаратуры // Полымя. 1990. № 5. С. 222.

«Пана Тадэвуша», такі ж рукапіс польскамоўнай паэмы А. Вярыгі-Дарэўскага «Гавэндка аб сваяку». Цэнзурныя рукапісы даюць магчымасць устанавіць купюры і іншыя змены тэксту, унесеныя ў твор цэнзарамі.

Важнымі тэксталагічнымі крыніцамі з'яўляюцца старадаўнія альбомы і рукапісныя хрэстаматыі. Сярод падобных дакументальных помнікаў XIX ст. асабліва вылучаюцца так званы «Раптуляр» Я. Чачота, Альбом А. Вярыгі-Дарэўскага, Хрэстаматыя Б. Эпімах-Шыпілы.

«Раптуляр» Чачота, які захоўваецца ў Асалінэуме ў Вроцлаве, часткова ахарактарызаваны намі ў папярэднім раздзеле. Найбольш ён згадваецца навукоўцамі як крыніца тэксту васьмі Чачотавых балад. Але, як паказаў нядаўна У. Казбярук [8], гэта наогул надзвычай цікавы рукапісны зборнік, куды пачынаючы з 1808 г. і да 40-х гадоў XIX ст. заносіліся тэксты беларускіх твораў. Там прадстаўлены такія яскравыя мастацкія помнікі беларускага сярэднявечча, як «Ліст да Абуховіча» і «Прамова Мялешкі», выдатны ананімны твор нашай паэзіі першай паловы XIX ст. «Віншаванне Савасцея». Паводле гэтай крыніцы, «Віншаванне Савасцея» апублікавана нядаўна У. Казберуком у другім выданні хрэстаматыі беларускай літаратуры XIX ст. (1988).

Альбом Вярыгі-Дарэўскага — унікальны помнік беларускай культуры сярэдзіны XIX ст., своеасаблівы рукапісны літаратурна-грамадскі альманах таго часу. Альбом заведзены Вярыгам у кастрычніку 1858 г. у час паездкі з Віцебска ў Вільню. Запісы ў ім рабіліся на працягу 1858—1863 гг. у Вільні, Мінску, Магілёве, Віцебску і іншых месцах. У Альбоме пакінулі свае аўтографы, вершы, празаічныя і нотныя запісы многія вядомыя пісьменнікі, вучоныя, дзеячы культуры (У. Сыракомля, А. Адынец, А. Рэнiер, А. Кіркор, І. Ходзька, гісторыкі М. Балінскі і М. Маліноўскі, гітарыст М. Сакалоўскі і інш.). Альбом данёс да нас імёны людзей, якія спачувалі слову і справе, творчасці і грамадскай дзейнасці Вярыгі-Дарэўскага. Сярод асоб, чые запісы прадстаўлены ў Альбоме, шмат удзельнікаў вызваленчага руху, прыхільнікаў перадавых ідэй. Як і сам уладальнік Альбома, многія з іх прынялі ўдзел у паўстанні 1863 г.

Асобае значэнне маюць беларускія тэксты, упісаныя

---

[8] Казбярук У. Заняпад і адраджэнне // Полымя. 1990. № 6. С. 222—224.

ў Альбом. Яны сведчаць аб поспехах маладой беларускай літаратуры, аб вялікай цікавасці тагачаснага грамадства да беларускага слова. Такіх запісаў дзевяць. Назавём іх у храналагічнай паслядоўнасці:

1) В. Каратынскі. Верш «Далібог-то, Арцім...» (Вільня, 1858).

2) М. Рэніер. Верш «Арцёмка дарагенкі...» з дадатковымі (пасля даты) строфамі «Мамертка, літоўскі цікун...» (Вільня, 1858)

3) Эдвард Г..... (крыптанім да канца не расшыфраваны [9]). Празаічны запіс: «Ну, браточык! прагукаў ты панашэму...» (Вільня, 1858)

4) В. Дунін-Марцінкевіч. «Некалькі урыўкаў з перакладу «Пана Тадэвуша» Міцкевіча на беларускую гаворку». (Мінск, 1858)

5) М. Караткевіч. Верш «Бялорускі Дудару...» (Мінск, 1858)

6) Якуб Т....кі (крыптанім не расшыфраваны). Верш «Словна з неба божый дар...» (Магілёў, 1859)

7) Я. П. Вуль. Верш «К дудару Арцёму ат наддзвінскага мужыка». (Віцебск, 1859)

8—9) А. Рыпінскі. Вершаваная прыпіска «Ты ж сам, суседзька, хацеў...» да польскага верша «Для Арцёма Вярыгі ў альбоме» (Кукавячын пад Віцебскам, 1860) і, апрача таго, празаічная запіска без даты і месца: «Іду, брат, па-твойму на мужыцкую свадзьбу...»

Альбом, такім чынам, дае шырокую панараму культурна-грамадскага жыцця таго часу, з'яўляецца важнай крыніцай па гісторыі беларускай літаратуры і мовы, для вывучэння жыццяпісу Вярыгі-Дарэўскага. Хоць твораў і іншых запісаў самога Вярыгі ў ім няма, тым не менш гэта выдатная тэксталагічная крыніца, якая данесла да нас, у прыватнасці, тэксты такіх шэдэўраў айчыннай лірыкі XIX ст., як вершы «Далібог-то, Арцім...» Карытынскага, «К дудару Арцёму...» Вуля.

Не меншае значэнне мае Хрэстаматыя Эпімах-Шыпілы [10]. Выдатны беларускі вучоны і грамадскі дзеяч Браніслаў Эпімах-Шыпіла (1859—1934) распачаў яе ў чэрвені

---

[9] Гл.: Кісялёў Г. В. Віленскія запісы ў альбоме А. Вярыгі-Дарэўскага // Из истории книги в Белоруссии: Сборник статей. Мн., 1979. С. 86—97; Ен жа. Героі і музы. Мн., 1982. С. 71—81.

[10] Гл.: Семашкевіч Р. М. Браніслаў Эпімах-Шыпіла. Мн., 1968. С. 17—35.

1889 г. На тытульным лісце напісана лацінскімі літарамі па-беларуску: «Беларуская хрэстаматыя. Сабраў і ўлажыў Браніслаў Эпімах-Шыпіла. Піцярборак [Пецярбург]. 1889 г.» Асноўную частку яе складаюць творы, перапісаныя вучоным у 1889—1890 гг. у Пецярбургу і на Віцебшчыне з вуснаў землякоў, з розных выданняў і рукапісаў, што мелі хаджэнне сярод аматараў беларушчыны. Апошнія запісы зроблены ў 1931 г. Не можа не ўражваць сама храналогія запісаў, засведчаная датамі аддадзенасць Эпімах-Шыпілы справе захавання духоўных каштоўнасцей нацыі.

Найбольшае значэнне сярод змешчаных у Хрэстаматыі тэкстаў маюць творы Ф. Тапчэўскага, верш І. Тамашэвіча «Езусу Цвяцінскаму скарга на Даўмантаў», прысвечаны Ф. Багушэвічу ананімны верш «На памяць зычліваму для сям'і» (як лічаць сённяшнія даследчыкі, верш належыць З. Нагродскаму). Перапісаны ў Хрэстаматыі асобныя творы Я. Лучыны, У. Сыракомлі, А. Плуга, А. Шункевіча (М. Марозіка), а таксама «Тарас на Парнасе», «Гутарка старога дзеда» і інш. Прыведзены цікавы беларускі пераклад верша З. Красінскага «Да Дальфіны Патоцкай» (перакладчык С. Гласка). У гады першай расійскай рэвалюцыі Хрэстаматыя папоўнілася ўклеенымі ў яе друкаванымі лістоўкамі з бунтарскімі вершамі Цёткі «Мора» і «Хрэст на свабоду».

Заслугоўвае ўвагі і далейшая гісторыя гэтай Хрэстаматыі. Як сведчаць надпісы на ёй, у 1934 г., незадоўга да смерці, Эпімах-Шыпіла перадаў яе на захаванне ленінградскаму вучонаму-беларусу К. Пушкарэвічу. Ад апошняга ў 1936 г. Хрэстаматыя перайшла да Л. Бэндэ. Пасля вайны разам з архівам Бэндэ яна трапіла ў ЦДАМЛіМ БССР, дзе цяпер і зберагаецца [11]. Адзін з першых даследчыкаў гэтага унікальнага літаратурнага помніка Рыгор Семашкевіч пісаў: «Беларуская хрэстаматыя» Эпімах-Шыпілы — рукапісны дакумент, які засведчыў няўхільнае развіццё беларускай літаратуры, самога літаратурнага працэсу... ажно да пачатку XX ст.; яна ўключае як віднейшых прадстаўнікоў літаратуры, так і паэтаў-самавукаў; сам рукапісны спосаб складання хрэстаматыі гаворыць аб перашкодах, якія стаялі на шляху развіцця літаратуры. І апошняе. Яна паказвае

[11] Кісялёў Г. «Паслухайце, браткі, Навума старога!..» // Свитязь: Альманах библиофилов Белоруссии. Мн., 1989. С. 129.

вялікую дасведчанасць, настойлівую цярплівасць і глыбокую зацікаўленасць... самога складальніка «Хрэстаматыі», які пакінуў нам гэты цікавейшы дакумент»[12].

Каштоўную хрэстаматыю беларускіх літаратурных і фальклорных твораў збіраў таксама на Віцебшчыне ў другой палове XIX ст. А. Рыпінскі. Самі яго рукапісныя зборнікі да нас, на вялікі жаль, не дайшлі, але захавалася іх падрабязнае апісанне, зробленае ў канцы 20-х гадоў прафесарам М. Піятуховічам. Рукапісы Рыпінскага ў свой час выкарыстаў таксама у сваёй ненадрукаванай дысертацыі літаратуразнавец В. Мачульскі. Дзякуючы пасрэдніцтву Піятуховіча і Мачульскага мы маем цяпер тэксты многіх цікавых твораў нашай літаратуры XIX ст.: надзвычай каштоўны спіс паэмы «Тарас на Парнасе» з подпісам К. Вераніцына, другую паэму гэтага ж аўтара — «Два д'яўлы», арыгінальную беларускую п'есу Г. Марцінкевіча «Адвячорак» і інш.[13]

Вядомы таксама рукапісны зборнік беларускіх твораў (В. Дунін-Марцінкевіч, А. Рыпінскі, І. Міганович, варыянт ананімнага верша «Вясна гола перапала...» пад назвай «Вот свабоду дадуць скора»), які складаў на пачатку 80-х гадоў у Пецярбургу студэнт-гоманавец С. Нясцюшка-Буйніцкі[14]. Зборнік захоўваўся ў Беларускім музеі ў Вільні, цяпер у Цэнтральнай бібліятэцы АН ЛітССР (ф. 21—132). Там жа зберагаецца другі зборнік з рускімі вершамі і беларускімі гутаркамі, звязаны з Нясцюшкам-Буйніцкім і яго сваякамі (ф. 21—52). Пра сацыяльную накіраванасць гутарак гэтага зборніка красамоўна сведчыць назва адной з іх: «Таму дворнаму войту Крываносу Міхайле, каторы крутнёй убіўся ў панскую ласку, мужыцкая рада, як нада жыць». Адзін з рускіх вершаў адрасаваны Францу Пчыцкаму. Не выключана, што гэта аўтар вядомай беларускай гутаркі 1863 г. «Крыўда і праўда»[15]. Цэлы шэраг беларускіх твораў («Тарас на Парнасе», «Як былі пад панамі» і інш.) змяшчаецца ў сшытку пад шыфрам ф. 21—927. Усё гэта багацці былога Беларускага музея.

---

[12] Семашкевіч Р. Беларускі літаратурна-грамадскі рух у Пецярбурзе: Канец XIX — пачатак XX ст. Мн., 1971. С. 58.

[13] Гл. публікацыю В. Скалабана ў зб.: Шляхам гадоў. Мн., 1990. [Вып. 1]

[14] Кісялёў Г. В. Спасцігаючы Дуніна-Марцінкевіча. Мн., 1988. С. 24—26.

[15] Кісялёў Г. Пошукі імя. Мн., 1978. С. 200—201.

Рукапісны зборнік з літаратурнымі творамі XIX ст. захоўваецца ў віленскім гістарычным архіве сярод матэрыялаў Я. Карловіча [16]. Большасць твораў на польскай і рускай мове. Есць вершы У. Сыракомлі і ўсё той жа, відаць, надзвычай папулярны беларускі верш «Вясна гола перапала...» Тут ён перапісаны ўжо лацінкай, мае назву «Хлюба Мужыцка» (лл. 20—21). Літаратурныя густы і грамадскія сімпатыі гарадскіх нізоў адлюстроўвае самаробны сшытак, які напярэдадні і ў перыяд паўстання 1863 г. запаўняў у Мінску рамеснік-пераплётчык П. Мацкевіч. У сшытку перапісана беларуская «Песнь на божы час» вострага рэвалюцыйнага гучання [17].

На мяжы XIX і XX ст. у нас з'яўляюцца першыя, спачатку невялікія, друкаваныя зборнікі-хрэстаматыі. У 1900 г. Е. Раманаў выдаў такі зборнік у Магілёве пад назвай: «Тарас на Парнасе» и другие белорусские стихотворения». Ахарактарызуем яго склад паводле другога выдання (1902; пакідаем асаблівасці арфаграфіі): *I. Тарас на Парнасе. II. Панское игрище. III. Отказ на «Панское игрище»* [Ф. Багушэвіча]. *IV. Шум, крик, гомон у корчме* [з «Гапона» В. Дуніна-Марцінкевіча]. *V. В могилевском приеме* [адтуль жа]. *VI. Весна гола перепала. VII. Женитьба Сопрона.* Усё гэта каштоўныя тэксталагічныя матэрыялы, асабліва калі мы маем справу не з тэкстамі, узятымі з друкаваных кніг (як у выпадку з Багушэвічам і Дуніным-Марцінкевічам), а з публікацыямі на аснове рукапісных і вусных крыніц. Як вядома, Е. Раманаў быў заўзяты збіральнік духоўных скарбаў беларускага народа і разнастайных запісаў у яго ставала.

Нярэдка здараецца так: няма ні аўтографаў, ні спісаў, ні прыжыццёвых публікацый, якія можна было б звязаць з аўтарскай воляй. Есць толькі больш позняя публікацыя. У такіх выпадках гэтая публікацыя становіцца для нас важнай тэксталагічнай першакрыніцай. Шмат твораў В. Дуніна-Марцінкевіча, Я. Лучыны, іншых пачынальнікаў нашай літаратуры ў свой час апублікаваў, напрыклад, Р. Зямкевіч, які меў унікальную калекцыю рукапісаў з гісторыі беларускага пісьменства. Зборы яго загінулі пад час апошняй вайны, але засталіся шматлікія публікацыі ў часопісах і газетах з паметкай «З архіва Р. Зям-

[16] ЦДГА ЛітССР, ф. 1135, воп. 10, спр. 36.
[17] Кісялёў Г. Стары сшытак // Кісялёў Г. Героі і музы. Мн., 1982. С. 136—141.

кевіча». Тэкстолагі з пэўным даверам ставяцца да гэтай досыць аўтарытэтнай «фірмы».

Горай, калі пра публікатара нічога ці амаль нічога невядома. У 1923 г. у Гродна выходзіла малапрыкметная газета даволі правага кірунку «Сялянская гутарка», у якой з нумару ў нумар публікаваліся невядомыя па іншых крыніцах вершы Я. Лучыны, Я. Коласа, З. Бядулі, іншых нашых паэтаў. Пад кожнай публікацыяй паметка— «З архіва Е. Міткевіча». Гэта Яўген Міткевіч, сам выдавец газеты. Пра яго вядома толькі, што некалі працаваў на пошце ў Мінску. Пазней абвінавачваўся левай заходнебеларускай прэсай у палітычным «круцельстве». Непасрэдных сувязей з літаратарамі не выяўлена. Адкуль жа ў яго невядомыя мастацкія тэксты?.. Падробка-містыфікацыя? Не падобна. Тэксты даволі высокага літаратурнага ўзроўню, адпавядаюць творчай манеры пазначаных аўтараў. Так або інакш нельга проста адмахнуцца ад гэкай крыніцы. Арсень Ліс заклікае тэкстолагаў прыгледзецца да гэтых публікацый [18]. Уладзімір Мархель змясціў узяты адсюль верш Я. Лучыны «Дзень за днём» у аднатомніку Лучынавых твораў (1988), хоць і з некаторымі агаворкамі: «...не выключана, што твор кімсьці дапаўняўся пазней або быў прыпісаны Я. Лучыну» [19].

Яшчэ адна своеасаблівая тэксталагічная крыніца — вусная традыцыя, непасрэдная памяць людзей, якая, аказваецца, можа данесці да нас не толькі падзеі мінулага (дакладней, звесткі пра іх), але і цэлыя літаратурныя творы. Свежы прыклад — нядаўняе ўзнаўленне па памяці страчанага тэксту п'есы М. Чарота (Полымя, 1982, № 2). Вуснае бытаванне асабліва характэрнае для вершаў. «На шчасце,— піша літаратуразнавец і архівіст М. Чудакова,— вершаваны тэкст дапускае неабмежаваную колькасць аўтарскіх чытанняў на памяць, а таксама робіць магчымай і даслоўнасць яго запамінання слухачом. І гэтыя ўласцівасці тэксту і памяці аказваюцца часам надзвычай важнымі для гісторыі літаратуры — як вядома, некаторыя вершаваныя тэксты змаглі быць з цягам часу надрукаванымі толькі таму, што захаваліся ў памяці тых, хто іх чуў» [20].

---

[18] Ліс А. Невядомыя паэтычныя творы // Літ і мастацтва. 1986. 15 жн.

[19] Лучына Я. Творы. Мн., 1988. С. 205.

[20] Чудакова М. О. Рукопись и книга: Рассказ об архивоведении, текстологии, хранилищах рукописей писателей. М., 1986. С. 13.

Для Беларусі, у сувязі з цэнзурнымі перашкодамі і іншымі цяжкасцямі друкавання, такі спосаб пашырэння літаратурнных твораў быў асабліва характэрны. Нават непісьменнымі сялянамі запаміналіся не толькі вершы, а цэлыя кавалкі «Мужыцкай праўды» К. Каліноўскага[21]. «З дзіцячых гадоў памятаю, як дзесяткі людзей, праслухаўшы доўгі верш «Горад і вёска» [Якуба Коласа?], запаміналі яго на ўсё жыццё»[22],— сведчыць выдатны гісторык М. Улашчык, выхадзец з дарэвалюцыйнай вёскі Міншчыны.

Творы нашых пісьменнікаў XIX — пачатку XX ст., у тым ліку незафіксаваныя ў друку, дагэтуль жывуць у памяці народа. У гісторыка-літаратурным зборніку «Шляхам гадоў» (вып. 1, 1990) апублікавана каларытная вершаваная антываенная гутарка 1918 г., запісаная ў 1977 г. у Маладзечанскім раёне. Публікатар З. Санько пісаў у сувязі з гэтым: «Стала ўжо звыклым, што забытыя творы беларускай літаратуры нанава адкрываюцца ў архівах, кнігасховішчах... Безумоўна, пісьмовыя крыніцы — асноўныя, з іх яшчэ доўга будзе чэрпацца скарб, схаваны пакуль што ад нашых вачэй. Але ці не занадта аднабакова скіроўвае сваю ўвагу літаратуразнаўства? Ці не збядняем мы сваё веданне і разуменне літаратурнай творчасці, ігнаруючы такую крыніцу, як чалавечая памяць?»[23] З. Санько звяртаў увагу на тое, што яшчэ зусім нядаўна з вуснаў вяскоўцаў можна было запісаць вершы П. Багрыма і А. Ельскага.

Гэта пытанне дапасавальна да творчай спадчыны Ф. Багушэвіча ставяць іншыя даследчыкі. Напрыклад, Л. Тарасюк піша ў публікацыі «У памяці народнай»: «Вярнуць усё страчанае зараз, відаць, немагчыма. Але застаецца яшчэ народная памяць, рэзервы якой па-сапраўднаму не ўлічаны»[24]. Даследчыца пазнаёміла грамадскасць з 5 невядомымі вершаванымі творамі, запісанымі ў 1980 г. на Смаргоншчыне. Блізкасць гэтых вершаў, прынамсі, тыпалагічная, да творчасці Багушэвіча не выклікае сумненняў.

«Творы Францішка Багушэвіча, якія ён ахвотна чытаў — відаць, адразу пасля напісання — сваім суседзям

---

[21] Кісялёў Г. З думай пра Беларусь. Мн., 1966. С. 26.
[22] Гл.: Кісялёў Г. Пошукі імя. С. 161.
[23] Шляхам гадоў. Мн., 1990. [Вып. 1] С. 175.
[24] Тарасюк Л. У памяці народнай // Літ. і мастацтва. 1990. 23 сак.

і знаёмым, мелі вялікі водгалас у людскіх сэрцах. Яны надзвычай лёгка запаміналіся, падоўгу захоўваліся ў народнай памяці» [25],— піша К. Цвірка. Пра тое ж гаворыць У. Содаль: «Многія кушлянцы і жыхары навакольных вёсак да гэтага часу памятаюць змест вершаў, чутых іх бацькамі і дзядамі ад Багушэвіча. Некаторыя з іх яны расказваюць з пэўным захаваннем рыфмы і рытму» [26]. Нядаўна К. Цвірка расказаў у сувязі з гэтым цікавы выпадак: «У пачатку шасцідзесятых гадоў, калі я працаваў на Беларускім радыё, мне давялося запісаць на плёнку аднаго старога жупранца, здаецца, гэта быў Невядомскі,— ён чытаў па памяці, як рэпу грыз, адзін за адным вершы, якія чуў яшчэ ад самога Багушэвіча. Мне здалося, што асобныя з тых вершаў я не сустракаў у кнігах паэта. Нешта тады перашкодзіла мне дакладна ўсё гэта праверыць. Можа, сярод расказаных вершаў былі і тыя, што склалі потым «Скрыпачку беларускую»? Тую магнітафонную стужку я здаў тады ў фанатэку Беларускага радыё. За такі доўгі час яе там, вядома ж, ужо недзе размагніцілі. Сёння мне застаецца толькі пашкадаваць за гэтакую сваю нядбаласць» [27]. Такім чынам, як і для фалькларыстаў, магнітафонныя запісы могуць мець вялікую каштоўнасць і для даследчыкаў літаратуры. Магнітафонныя плёнкі з запісамі невядомых або малавядомых літаратурных твораў таксама трэба ашчадна захоўваць.

Так выглядае кола асноўных тэксталагічных крыніц.

*

* *

Наступную важную групу або катэгорыю гісторыка-літаратурных крыніц складае эпісталярная спадчына — пісьмы, запіскі, пасланні і г. д.

Андрэй Платонаў неяк сказаў: «Па-мойму, дастаткова сабраць пісьмы людзей і апублікаваць іх — і атрымаецца літаратура сусветнага значэння» [28]. Сапраўды, пісьмо, як,

---

[25] Цвірка К. Тут грала дудка Бурачка...// Полымя. 1990. № 5. С. 160.

[26] Содаль У. З памяці народнай// Дзень паэзіі-77. Мн., 1977. С. 172.

[27] Полымя. 1990. № 5. С. 160.

[28] Платонов А. Однажды любившие // Лит. газ. 1983. 19 окт.

можа, ніякі іншы дакумент, здольнае спыніць імгненне, паказаць чалавека з усімі яго асабістымі клопатамі і грамадскімі сувязямі ў нейкі адметны момант жыцця. Тым больш цікавыя пісьмы майстроў мастацкага слова — літаратараў. Як выдатную крыніцу ацэньваў пісьменніцкую перапіску В. Бялінскі, які пісаў у 1847 г. у сувязі з публікацыяй у «Московском сборнике» пісьмаў Карамзіна: «Мы знаёмыя з нашымі знакамітымі пісьменнікамі толькі па іх творах, а пра жыццё іх маем звесткі, якія пераважна заключаюцца толькі ў паслужным спісе. Таму абнародаванне хаця кавалачкаў і ўрыўкаў з пісьмаў пісьменніка ў нас з'ява гэтак жа ўцешная, колькі і рэдкая...»[29]

У нашы часы пісьмы шырока публікуюцца, пра іх пішуць даследаванні[30]. Дарэчы, яшчэ ў 1817 г. беларускі і польскі пісьменнік Ігнат Легатовіч апублікаваў у «Тыгодніку віленьскім» «Трактат аб лістах»[31].

Пісьмы (ёсць і другі раўназначны беларускі тэрмін — «лісты»), перапіска пісьменнікаў з сябрамі і сучаснікамі — надзвычай каштоўная частка іх рукапіснай спадчыны. Нездарма эпісталярныя дакументы друкуюцца ў зборах твораў побач з вершамі, прозай, драматургіяй і публіцыстыкай. Нярэдка пісьмы маюць самастойную мастацкую каштоўнасць. Але нават і таропкая дзелавая перапіска можа шмат дапамагчы ва ўстанаўленні фактаў біяграфіі пісьменніка, яго сувязей, жыццёвых і творчых планаў і г. д. Вось, напрыклад, кароткае заклапочанае пісьмо В. Дуніна-Марцінкевіча віленскаму выдаўцу А. Завадскаму ад 1 лютага 1852 г.: «Прашу вяльможнага Завадскага выслаць са сваёй кнігарні экземпляраў маёй «Сялянкі», колькі ўвойдзе на пуд, з першай поштай у горад Мінск на адрас вяльможнага Сцыпіёна Беліновіча, падпаручніка, які жыве на Койданаўскай вуліцы ў доме Шапіры. Раблю толькі тую заўвагу, што ад поспеху ў перасылцы шмат чаго ў мяне залежыць, то прашу выслаць адразу пасля атрымання гэтага пісьма» (Пачынальнікі, *114*). Ліст сведчыць, што выдадзеная ў 1846 г.

---

[29] Белинский В. Г. Собр. соч.: В 9 т. М., 1982. Т. 8. С. 262.

[30] Вопросы текстологии. М., 1964. Вып. 3: Принципы издания эпистолярных текстов; Мушынскі М. Слова мастака, грамадзяніна, таварыша: Эпісталярная спадчына Міхася Лынькова // Полымя. 1984. № 11; Калеснік У. Пражскі эпісталярый // Полымя. 1990. № 9—10; Kałkowska A. Struktura składniowa listu. Wrocław etc., 1982.

[31] Legatowicz I. P. Rozprawa o listach // Tygodnik wileński. 1817. T. 3. N 78—79.

Завадскім «Сялянка» («Ідылія») Дуніна-Марцінкевіча не была распрададзена да 1852 г. Называецца адзін з мінскіх сяброў-прыхільнікаў пісьменніка — С. Беліновіч. А галоўнае — дакумент адлюстроўвае вялікія клопаты і намаганні Дуніна-Марцінкевіча ў сувязі з пастаноўкай «Сялянкі» ў Мінску 9 лютага 1852 г. (дата гэта, як вядома, залатымі літарамі ўпісана ў гісторыю беларускай культуры). Так што пісьмо можа выкарыстоўвацца гісторыкамі ў самых розных планах: біяграфія Дуніна-Марцінкевіча, гісторыя нашага кнігадрукавання, чытацкага попыту, тэатра і г. д. Трэба згадзіцца з М. Бельчыкавым, які адзначаў: «Пісьмы — амальгама. Звесткі аднаго значэння цесна сплятаюцца ў іх з іншымі. Нярэдка ў межах аднаго пісьма ўскрываецца некалькі разнародных пластоў выказванняў: біяграфічных, літаратурна-грамадскіх, псіхалагічных, ідэалагічных і інш.»[32].

Эпісталярная спадчына беларускіх пісьменнікаў XIX ст. захавалася і вывучана ў неаднолькавай ступені.

Дарэчы, знаходкі эпісталярных дакументаў найбольш паддаюцца прагназіраванню праз высвятленне разнастайных сувязей пісьменніка. Ведаючы кантакты літаратара, магчымасць перапіскі можна «вылічыць». Тым не менш вынікі не заўсёды задавальняюць.

Калі перапіска некаторых пісьменнікаў свету (сярод іх, напрыклад, Б. Шоу, Л. Талстой, М. Горкі) налічвае многія тысячы нумароў, то дапасавальна да нашага яшчэ досыць сціплага Парнаса мінулага стагоддзя размова ідзе ў лепшым выпадку пра некалькі дзесяткаў эпісталярных адзінак. На ўліку літаральна кожнае пісьмо.

Вялікія страты па розных прычынах на працягу гадоў панесла карэспандэнцыя таго ж В. Дуніна-Марцінкевіча (досыць сказаць, што не захавалася яго сяброўская перапіска з С. Манюшкам). Як паказана ў нашай кнізе «Спасцігаючы Дуніна-Марцінкевіча», сёння вядома ўсяго толькі 13 яго прыватных пісьмаў і пасланняў да сяброў і выдаўцоў, калі не лічыць даволі значнай колькасці пісьмовых зваротаў у розныя ўстановы тагачаснай адміністрацыі. Зрэшты, апошняя львоўская знаходка Я. Янушкевіча (два пісьмы Беларускага дудара да Я. Карловіча)[33] дае надзею, што ў будучым корпус пісьмаў пачы-

---

[32] Бельчиков Н. Ф. Литературное источниковедение. С. 146.

[33] Янушкевіч Я. Новыя штрыхі жыццяпісу В. Дуніна-Марцінкевіча // Полымя. 1988. № 1. С. 198—200.

нальніка новай беларускай літаратуры будзе істотна папаўняцца.

Што вядома пра «эпісталярны жанр» іншых нашых пісьменнікаў?

«Новы Корбут» (т. 7, с. 130), дзе побач з публікацыямі фіксуецца і рукапісная эпісталярная спадчына, адзначае толькі два пісьмы Яна Баршчэўскага. Адносяцца яны да 1840—1842 гг., адрасаваны Ю. Крашэўскаму і захоўваюцца ў Ягелонскай бібліятэцы ў Кракаве (сігнатура 6456). На гэтыя пісьмы ўказвае таксама польскі даследчык Т. Грабоўскі ў артыкуле «З польска-беларускага сумежжа»[34]. У працы прыводзіцца факсіміле пісьма 1840 г. У беларускім літаратуразнаўстве гэтыя пісьмы не выкарыстоўваліся.

31 пісьмо Я. Баршчэўскага да Ю. Шапялевіч-Корсак за 1837—1844 гг. захоўвалася да Вялікай Айчыннай вайны ў Віцебскім краязнаўчым музеі. Вытрымкі з многіх пісьмаў, а таксама з польскіх вершаў Баршчэўскага, што былі сярод пісьмаў, прывёў у сваіх артыкулах 20-х гадоў краязнавец і літаратуразнавец Д. Васілеўскі[35], а да яго нехта Wit. F. у кнізе «З аколіц Дзвіны»[36]. Лічылася, што пісьмы ў вайну загінулі, але нядаўна Г. Каханоўскі знайшоў іх у фондах таго ж Віцебскага музея. «Кожны з гэтых лістоў,— піша са зразумелым захапленнем наш даследчык,— глядзіцца як узор мастацтва: часцей за ўсё на іх малюнкі гарадскіх пейзажаў Пецярбурга. Кожнае пісьмо — споведзь перад блізкім чалавекам... перажыванні па мілых мясцінах. У іх адлюстравалася сем гадоў жыцця Яна Баршчэўскага. У пісьмах да «шаноўнай сястры» пісаў шмат лірычных вершаў. Пісьмы доўгія і некаторыя даходзяць да 18—20 старонак. І сам паэт вельмі чакаў вестак з мілай Беларусі»[37]. Як і даследчыкі-папярэднікі, Г. Каханоўскі прыводзіць характэрныя мясціны з пісьмаў. Аказваецца, там ёсць нават звесткі пра адну з першых у Расіі аварый на

---

[34] Grabowski T. S. Z pogranicza polsko-białoruskiego // Księga pamiątkowa ku czci Stanisława Pigonia. Kraków, 1961. S. 445—454.

[35] Васілеўскі Д. Паэта Ян Баршчэўскі аб Беларусі: З уласных лістоў яго да пані Корсак // Аршанскі маладняк. 1925. № 2. С. 20—22; Ен жа. Новыя матэрыялы творчасці Яна Баршчэўскага // Полымя. 1925. № 5. С. 152—156; Ен жа. Пад аховай роднай песні: З перапіскі Яна Баршчэўскага // Маладняк. 1928. № 1. С. 86—97.

[36] Z okolic Dźwiny. Witebsk, 1912. S. 226—229.

[37] Каханоўскі Г. Вандраванні // Маладосць. 1984. № 10. С. 155.

чыгунцы Пецярбург — Царскае Сяло ў 1838 г.[38] Надзвычай карыснай для нашага літаратуразнаўства ды і гістарычнай навукі наогул была б поўная навуковая публікацыя эпісталярыя Баршчэўскага.

Багата прадстаўлена ў публікацыях і даследаваннях эпісталярная спадчына Яна Чачота. Каля 100 яго пісьмаў 1820—1822 гг. да сяброў-філаматаў надрукавана ў 1913 г. Я. Чубакам у зборніку «Карэспандэнцыя філаматаў» з серыі «Архівум філаматаў». Публікацыя філамацкай карэспандэнцыі была працягнута ў 1973 г. у зборніку «Архівум філаматаў. Т. 1. У ссылцы». Тут апублікавана 13 пісьмаў Чачота да А. Петрашкевіча за 1825—1830 гг., якія захоўваюцца ў музеі літаратуры ў Варшаве, і асобныя пісьмы да Чачота (А. Петрашкевіча, Ю. Вэнцкага) за 1820—1823 гг., што знаходзяцца ў бібліятэцы Люблінскага каталіцкага універсітэта.

Перапіска Чачота друкавалася таксама ў выданнях, прысвечаных А. Міцкевічу. Яго пісьмы да Марылі Верашчакі (Путкамер) за 1823—1836 гг. апублікаваў у 1890 г. У. Міцкевіч у дадатку да першага тома сваёй вядомай манаграфіі «Жыццё Адама Міцкевіча». Пісьмы да філамата Ф. Малеўскага за 1823 г. апублікаваны ў трэцім томе выдання «Карэспандэнцыя А. Міцкевіча» (1884).

Чатыры пісьмы Чачота да археолага К. Тышкевіча за 1844—1846 гг. з'явіліся ў 1948 г. у варшаўскім часопісе «Памeнтнік літэрацкі» (публікацыя З. Кжыжаноўскай паводле копій са збору Р. Зямкевіча)[39].

Нарэшце, 18 пісьмаў Чачота да Марылі Верашчакі (Путкамер), Антона і Юзэфы Вяржбоўскіх і Юзэфы Дамейка за 1833—1839 гг., пераважна лепельскага перыяду, захоўваюцца ў Цэнтральным гістарычным архіве ЛітССР, у архіўным фондзе Тамаша Зана, які дайшоў да нас у складзе матэрыялаў Віленскага таварыства сяброў навукі[40]. Гэта аўтографы на польскай мове, пераплеценыя разам з карэспандэнцыяй Т. Зана і блізкіх яму асоб. Два з іх у перакладзе на беларускую мову былі надрукаваны ў зборніку «Пачынальнікі». Гэта пісьмо да

---

[38] Валка А. Першыя пасажыры і першая... аварыя // Звязда. 1987. 22 снеж.

[39] Krzyżanowska Z. Listy Jana Czeczota do Konstantego Tyszkiewicza (1844—46) // Pamiętnik Literacki. 1948. Roczn. 38. S. 507—521.

[40] ЦДГА ЛітССР, ф. 1135, воп. 9, спр. 28.

4. Зак. 1294

М. Путкамер ад 9 сакавіка 1833 г. (год устаноўлены па змесце), у якім Чачот расказвае аб сваім пасяленні ў Лепелі, і пісьмо ад 9 лютага (год не пазначаны) да Ю. Дамейка. Чачот просіць яе дапамагчы ў зборы народных песень. «Простанародныя песні, мала кім чутыя і заўважаныя, вельмі прыгожыя і дзівосныя»,— пісаў Чачот і дадаваў: «Прашу толькі настойліва захоўваць у запісах вымаўленне вясковых слоў, а таксама заўсёды пытаць і занатоўваць, калі і пры якіх абрадах і забавах спяваюць якую песеньку» (Пачынальнікі, *102*). Цытату з яшчэ аднаго пісьма Чачота да М. Путкамер з занаўскага збору прыводзіць Л. Малаш: «Я яшчэ, як лебедзь перад сваім скананнем, думаю выступіць з гэтымі вясковымі песьнямі, хачу гэтым хісткім спосабам, да якога часта ставяцца зняважліва, зарабіць кавалак хлеба ў надзеі нейкі час быць вольным ад гэтай агіднай службы» [41].

Апошнім часам 26 Чачотавых пісьмаў да Ю. Дамейка, Ю. Завадскага, Ф. Малеўскага, А. Міцкевіча, А. Петрашкевіча, М. Путкамер, К. Тышкевіча, Ю. Яжоўскага за 1819—1844 гг. надрукаваў у беларускіх перакладах К. Цвірка ў падрыхтаваным ім зборніку выбраных твораў Чачота «Наваградскі замак» (1989). Яны маюць вялікую цікавасць для даследчыкаў гісторыі літаратуры і культуры. Узяць хаця б надзвычай каларытнае апісанне паездкі ў Мінск і мінскага тэатра ў пісьме ад 15(27) мая 1819 г., або паказальныя словы з пісьма Чачота 1825 г. з ссылкі: «Цяпер аранбургская лінія, можна сказаць, запруджана палякамі (так нас называюць тут і за такіх прымаюць)» [42]. Гэтыя словы добра дапасоўваюцца да нашых роздумаў пра лёс беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі, пра паступовае складванне самасвядомасці маладой нацыі. Нельга не пагадзіцца з К. Цвіркам, які піша адносна эпісталярыя Чачота: «З пісем да сяброў-філаматаў, да знаёмых, да дзеячаў культуры Беларусі паўстае перад намі вельмі прывабны вобраз нашага першага сапраўднага паэта, чалавека высокай культуры, які ведаў многія еўрапейскія мовы (французскую, нямецкую, англійскую, латынь, польскую і рускую), які да канца дзён застаўся верны свайму беларускаму народу» [43].

---

[41] Материалы научной конференции: К сорокалетию б-ки. [АН БССР] Мн., 1965. С. 109.

[42] Чачот Я. Наваградскі замак: Творы. Мн., 1989. С. 273.

[43] Там жа. С. 25.

Вядома таксама шмат пісьмаў сяброў да Чачота. Асаблівае значэнне для гісторыі маюць пісьмы вялікага Адама Міцкевіча, кранальныя сведчанні трывалай і сардэчнай дружбы землякоў-аднадумцаў. У адной з лірычных мініяцюр іх успамінае Я. Брыль: «Ад артыкула пра Чачота — у пісьмы Міцкевіча да «каханага Яна». На сорак шэсць пісьмаў з Вільні і Коўна, з Масквы і Жэневы двойчы зварот па-мясцоваму, па-наваградску: «Янко».

Цёпла гаворыць гэта пра іхняе нам зямляцтва. Нават трошкі больш...» [44].

Адно з такіх пісьмаў, з ацэнкай творчасці Чачота, будзе цытавацца намі ніжэй.

Нядаўна выбраная перапіска філаматаў, у тым ліку Чачота, выдадзена асобнай кнігай у Варшаве. Кніжка добра чытаецца, успрымаецца як нешта цэласнае. Укладальніца М. Зяліньска слушна адзначае ў прадмове: «Змешчаная тут выбраная карэспандэнцыя дазваляе ўбачыць філаматаў у новай і даволі нечаканай ролі: аўтараў арыгінальнай «аповесці», напісанай у форме лістоў,— пра маладосць, дружбу, каханне, пра Вільню, нарэшце, пра штодзённае жыццё геніяльнага паэта. Аповесці да таго ж цалкам праўдзівай, такой, што сапраўды некалі здарылася» [45].

Мы прывялі некаторыя факты аб публікацыі і выкарыстанні эпісталярыя Чачота як на Беларусі, так і ў Польшчы. У цэлым жа багатая і разнастайная перапіска Чачота яшчэ недастаткова ўводзіцца беларускімі вучонымі і літаратарамі ў сённяшні навукова-культурны ўжытак.

З эпісталярнай спадчыны Аляксандра Рыпінскага найбольшае значэнне для беларускай навукі і культуры мае пісьмо, напісанае ім пад канец жыцця ў Строганах (Страганах) на Віцебшчыне і адрасаванае Адаму Плугу. Яго тэкст апублікаваны ў 1898 г. у «Памятнай кнізе на ўшанаванне сотай гадавіны са дня нараджэння Адама Міцкевіча» (т. 1), якая выйшла ў Варшаве. Дзе знаходзіцца арыгінал, невядома. Пісьмо датавана 1883 г. без месяца і дня. Хутчэй за ўсё арыгінал быў без даты, і год прастаўлены рэдакцыяй «Памятнай кнігі». Упершыню на існаванне гэтага пісьма ў беларускім літаратуразнаўстве ўказаў

---

[44] Брыль Я. Хлеб надзённы // Полымя. 1987. № 7. С. 4.

[45] Korespondencja filomatów (1817—1823) / Wybór i opracowanie M. Zielińska. Warszawa, 1989. S. 5.

А. Мальдзіс [46]. Цалкам, у перакладзе на беларускую мову, пісьмо змешчана ў кнізе «Пачынальнікі». Каларытны дакумент сведчыць аб узмацненні ў Рыпінскага беларускай нацыянальнай свядомасці. «Можа, дарэмна мы горнемся да гэтай няшчаснай Польшчы як народжаныя на Русі...»,— пісаў Рыпінскі аб сабе і іншых беларуска-польскіх пісьменніках (Пачынальнікі, *176*). З пісьма відаць, што Рыпінскі пад канец жыцця займаўся гісторыяй беларускай літаратуры (дакладней, літаратуры Беларусі) і напісаў біяграфічныя нарысы пра Я. Баршчэўскага, Ф. Князьніна, Г. Марцінкевіча, В. Рэута, Ф. Рысінскага, Т. Заблоцкага і інш. У пісьме прыводзіцца надзвычай цікавы спіс 55 «пісьменнікаў, якія або нарадзіліся на Белай Русі, або таксама пра яе пісалі на абедзвюх мовах нашай правінцыі, як польскай, так і русінскай» (Пачынальнікі, *176*). Пра некаторых з іх (Ф. Глінскі, Ю. Лускіна, А. Магучы) сёння мы не маем ніякіх звестак.

Шматлікія пісьмы Рыпінскага перыяду эміграцыі згадваюцца ў апісанні збораў Раперсвільскай бібліятэкі ў Швейцарыі, выдадзеным А. Левакам (1929). Потым, як вядома, гэтыя зборы былі перавезены ў Варшаву, у Нацыянальную бібліятэку, і ў большасці сваёй загінулі ў часы другой сусветнай вайны.

Эпісталярная спадчына А. Вярыгі-Дарэўскага даволі багата прадстаўлена ў зборніку «Пачынальнікі». Гэта пісьмо да У. Сыракомлі ад 22 кастрычніка 1857 г., арыгінал якога захоўваецца ў Цэнтральным архіве літаратуры і мастацтва ЛітССР, і 10 пісьмаў да А. Кіркора за 1858—1862 гг., што зберагаюцца ў Цэнтральным гістарычным архіве ЛітССР, у папцы з матэрыяламі Вярыгі, пра якую размова ішла ў папярэднім раздзеле. Гэтыя пісьмы цікавыя перш за ўсё тым, што дазваляюць устанавіць назвы твораў Вярыгі (у тым ліку беларускіх), якія не дайшлі да нас. Апрача таго, яны шмат даюць для характарыстыкі поглядаў пісьменніка, яго разнастайнай грамадскай дзейнасці. Пісьмы яскрава паказваюць, што Вярыга-Дарэўскі свядома працаваў над нацыянальным і сацыяльным адраджэннем беларускага народа. Нягледзячы на ўсе цяжкасці, ён упарта не саступаў з абранага шляху. «З Беларушчынай не разбратаўся,— пісаў ён Кіркору напярэдадні

---

[46] Мальдзіс А. Гартаючы забытыя старонкі: Знаходкі бібліяфіла // Літ. і мастацтва. 1964. 2 чэрв. Параўн.: Ён жа. Падарожжа ў XIX стагоддзе. Мн., 1969. С. 182—183.

паўстання, 13 кастрычніка 1862 г.— Гэта мой ідэал. Можа, дарэмна на яе трачуся. Што ж рабіць — «Па Хомку шапка» (Пачынальнікі, *243*).

Некаторыя пісьмы — гэта па сутнасці карэспандэнцыі Вярыгі ў «Кур'ер віленьскі», рэдактарам якога быў Кіркор. Пісьмо ад 23 снежня 1859 г. пачынаецца адпаведным афіцыйным зваротам «Шаноўны рэдактар» і завяршаецца літаратурным подпісам «Б. Д..а» (Беларуская Дуда), хоць узаемаадносіны паміж Вярыгам і Кіркорам былі больш блізкія і звычайна пісьменнік звяртаўся да свайго карэспандэнта «Дарагі мой (або наш) Адаме», падпісваючыся «Твой Арцём Вярыга», «Твой Арцём», «Заўжды твой верны Арцём». І сапраўды высвятляецца, што гэта пісьмо было надрукавана ў якасці карэспандэнцыі з Віцебска ў № 8 «Кур'ера віленьскага» за 26 студзеня 1860 г. Прычым не абышлося без асобных скарачэнняў і скажэнняў, што выклікала незадаволенасць Вярыгі (гл. яго пісьмо Кіркору ад 15 сакавіка 1860 г.).

У згаданай папцы ЦДГА ЛітССР з матэрыяламі Вярыгі захоўваецца яшчэ яго пісьмо да невядомай жанчыны ад 19 кастрычніка 1861 г. [47], якое не друкавалася, бо мае больш прыватны характар, тры пісьмы Кіркора да яго (адно без даты — па зместу 1859 г., два другія — ад 8 чэрвеня і 9 жніўня 1860 г.) і пісьмы шматлікіх іншых карэспандэнтаў да Вярыгі, якія многае даюць для жыццяпісу беларускага пісьменніка, для характарыстыкі яго сяброўскіх і дзелавых сувязей. Напрыклад, высвятляецца, што Вярыга быў звязаны з польскім паэтам і рэвалюцыйным дзеячом Апалонам Кажанеўскім, пры дапамозе якога разлічваў апублікаваць свае беларускія творы. У прыватнасці, увосень 1861 г. Кажанеўскі пісаў з Варшавы: «Прысылайце, што маеце нават найменшага на беларускай мове... Асабліва хацеў бы мець драмку, думка якой мне невымоўна падабаецца...» [48] Размова, відавочна, ідзе пра драму «Гордасць», рукапіс якой, а таксама іншыя матэрыялы Вярыгі варта пашукаць у архіве Кажанеўскага.

Некаторыя пісьмы і карэспандэнцыі Вярыгі-Дарэўскага захоўваюцца ў музеі Чартарыскіх у Кракаве сярод папер Э. Жалігоўскага, які быў адным з рэдактараў польскай пецярбургскай газеты «Слово». Як піша А. Мальдзіс, 22 лістапада 1858 г. і 12 студзеня 1859 г. Вярыга адправіў

---

[47] ЦДГА ЛітССР, ф. 1135, воп. 4, спр. 391, л. 33.

[48] Гл.: Кісялёў Г. Загадка беларускай «Энеіды». Мн., 1971. С. 193.

у «Слово» паведамленні аб важнейшых падзеях у Віцебску. З Пецярбургам ён звязваў таксама пэўныя выдавецкія надзеі, хацеў надрукаваць там свае творы, у тым ліку беларускія. Ён пытаўся ў Жалігоўскага: «Што мне рабіць са сваім «Конрадам» (перакладам «Конрада Валенрода» — *Г. К.*) і іншай пісанінай? А ёю я хацеў бы дзяліцца і з Вільняй, і з вамі, прытым па вас нешта мацней сумую» [49].

«Новы Корбут» (т. 8, с. 75) паведамляе наступныя звесткі пра эпісталярную спадчыну Вінцэся Каратынскага:

1) Два пісьмы ў рэдакцыю часопіса «Бібліотэка варшавска» за 1854 і 1859 гг. Захоўваюцца ў бібліятэцы Польскай Акадэміі навук у Кракаве (сігнатура 716).

2) Дзевяць пісьмаў да К. Вуйціцкага за 1857—1864 гг. (там жа).

3) Сем пісьмаў да Ю. Крашэўскага: адно 1857 г., астатнія 1880—1887 гг. (Ягелонская бібліятэка, сігнатуры 6468, 6510).

4) Два пісьмы да Э. Паўловіча за 1861 і 1881 гг. (бібліятэка Асалінскіх, сігнатура 6831/I).

5) Пяць пісьмаў да Т. Ленартовіча за 1886—1888 гг. (бібліятэка ПАН, сігнатура 2028, t. 3).

6) Пісьмо да Т. Вяжбоўскага за 1888 г. (бібліятэка ПАН у Кракаве, сігнатура 1881, t. 9).

У сапраўднасці пісьмаў Каратынскага вядома куды больш.

Яшчэ ў 1863 г. у брашуры І. Ранка «Палякі і рускія», што выйшла ў Празе, быў надрукаваны наступны ўрывак з пісьма Вікенція К. (скарачэнне брашуры), напісанага ў 1858 г. вядомаму чэшскаму дзеячу Вацлаву Ганку, у якім параўноўваліся кірункі польскай і чэшскай літаратуры: «Чэшская літаратура, хаця і саступае польскай у багацці і літаратурнай каштоўнасці сваіх здабыткаў, мае, аднак, бясспрэчную перавагу адносна кірунку. Вы пішаце для народа, для ўсёй нацыі, і вы можаце смела сказаць сваім песням:

Ідзіце да хацін, ідзіце ў гарады,
Вас пачуюць і стары і дзіця.

Сапраўдныя дзеці нацыі, вы пішаце для народа, і народ вас чытае, і народ гаворыць вам: бог помач! Вы шчаслі-

[49] Мальдзіс А. Творчае пабрацімства. Мн., 1966. С. 84.

вейшыя за нас! У нас вясковы народ цалкам чытаць не ўмее; толькі шляхта піша для шляхты, і літаратура, за невялікімі выключэннямі, замест інтарэсаў народа падтрымлівае інтарэс касты, якая адна толькі хоча называцца нацыяй». Ідэя, выказаная ва ўрыўку, настолькі дэмакратычная і смелая, што спачатку мы меркавалі, што аўтарам пісьма быў Кастусь Каліноўскі (яго другое імя, як вядома,— Вікенцій), тым больш што ў брашуры чамусьці (відаць, памылкова) гаварылася, што пісьмо адпраўлена з Пецярбурга [50]. Пазней у выніку дадатковых росшукаў высветлілася, што поўны тэкст пісьма апублікаваны ў 1905 г. у зборніку пісьмаў розных славянскіх карэспандэнтаў да Ганкі [51]. Аказалася, што яго аўтар — Каратынскі. Звернута пісьмо да «братоў-чэхаў», Каратынскі выказвае ў ім вялікую цікавасць да чэшскай літаратуры, жаданне глыбей пазнаёміцца з чэшскай мовай, каб перакладаць чэшскіх аўтараў.

Такімі ж дэмакратычнымі ідэямі прасякнута і пісьмо Каратынскага да У. Сыракомлі ад 25 кастрычніка 1861 г., змешчанае ў перакладзе ў кнізе «Пачынальнікі». Арыгінал пісьма на польскай мове захаваўся сярод папер Сыракомлі ў Цэнтральным архіве літаратуры і мастацтва ЛітССР. Каратынскі папракае ў ім свайго літаратурнага настаўніка Сыракомлю, што той у біяграфічным нарысе пра пісьменніка І. Ходзьку не адзначыў яго негуманнае стаўленне да сялян.

У зборніку «Пачынальнікі» надрукавана таксама пісьмо Каратынскага да Я. Карловіча за 1890 г. (яго арыгінал — у Цэнтральным гістарычным архіве ЛітССР сярод папер Карловіча). Пісьменнік успамінае ў ім свайго сябра 50—60-х гадоў літоўскага літаратара і грамадскага дзеяча, удзельніка паўстання 1863 г. М. Акялайціса.

У 1981 г., да 150-годдзя з дня нараджэння пісьменніка, з'явілася публікацыя У. Мархеля «З эпісталярнай спадчыны Вінцэся Каратынскага» [52]. Надрукаваны ў перакладзе на беларускую мову і пракаменціраваны тры пісьмы. Пісьмо да А. Кіркора ад 21 жніўня 1858 г., выяўленае сярод папер калекцыі А. Заштаўта ў бібліятэцы АН ЛітССР, яшчэ раз даносіць да нас дэмакратычныя

---

[50] Гл.: Кісялёў Г. Сейбіты вечнага. Мн., 1963. С. 32—34.

[51] Францев В. А. Письма к Вячеславу Ганке из славянских земель. Варшава, 1905. С. 506—509.

[52] Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1981. № 4. С. 121—126.

памкненні, антыпрыгонніцкія перакананні Каратынскага, яго абурэнне тымі, хто лічыць, што «мужыкам нічога болей не патрэбна, акрамя кашы са скваркамі і касторкі пад час хваробы». Што з таго, што нейкі пан «добра корміць і лечыць сваіх сялян? А хіба ўладальнік фургону не корміць добра і не лечыць сваіх коней? Людзям патрэбна чагосьці болей...» [53] — пісаў Каратынскі. Два іншыя пісьмы (1871 і 1886 гг.) адрасаваны жонцы У. Сыракомлі — Паўліне Кандратовіч і прысвечаны клопатам па выданню літаратурнай спадчыны паэта. Захоўваюцца яны ў фондзе Сыракомлі ў Цэнтральным архіве літаратуры і мастацтва ЛітССР.

Некалькі пісьмаў Каратынскага зберагаецца яшчэ ў Цэнтральным гістарычным архіве ЛітССР у зборах таварыства сяброў навукі. Два яго пісьмы да нейкага «каханага Уладзіслава» (як высветлена намі, літаратурны псеўданім адрасата — «Уладзіслаў з Заціша») перадаў у свой час у таварыства археолаг В. Шукевіч [54]. У іх гаворыцца пра выданне збору твораў Сыракомлі, пра публікацыю вершаў адрасата, пра пошукі партрэта вядомага філантропа-гуманіста канца XVIII— пачатку XIX ст. П. Бржастоўскага. Сярод карэспандэнцыі А. Кіркора захоўваецца адрасаванае яму пісьмо 1882 г.[55] Каратынскі запрашаў у ім былога рэдактара «Тэкі» і «Кур'ера віленьскага» супрацоўнічаць у «Газэце варшавскай».

Даследаванне і публікацыя эпісталярнай спадчыны Вінцэся Каратынскага толькі-толькі пачынаецца. Ва ўступным артыкуле да сваёй публікацыі У. Мархель намячае некаторыя шляхі далейшых пошукаў, лічыць перспектыўным з гэтага пункту погляду абследаванне архіваў М. Ляскова і М. Акялайціса, з якімі быў звязаны Каратынскі. «Думаецца,— піша даследчык,— каштоўны матэрыял маглі б пачарпнуць гісторыкі літаратуры з перапіскі В. Каратынскага і М. С. Ляскова. Магчыма, нейкія звесткі наконт аўтарства агітацыйных «Гутарак» можна было б знайсці ў пісьмах Каратынскага да М. Акялайціса, які напісаў літоўскамоўны варыянт беларускай «Гутаркі старога дзеда» [56]. Заўважым, што, як мяркуюць

[53] Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1981. № 4. С. 122.
[54] ЦДГА ЛітССР, ф. 1135, воп. 3, спр. 50, л. 27—29 адв.
[55] Там жа. воп. 11, спр. 6, л. 556—556 адв.
[56] Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1981. № 4. С. 122.

біёграфы Акялайціса, пісьмы Каратынскага, Крашэўскага і іншых асоб, напісаныя да 1861 г., Акялайціс знішчыў у сувязі з праследаваннямі царызму [57]. Але варта пашукаць лісты больш позняга часу, тым больш што вядома аб інтэнсіўнай перапісцы паміж Каратынскім і Акялайцісам у 70—80-я гады.

На пераломе дзвюх эпох жыў, змагаўся і геранчна загінуў наш вялікі рэвалюцыянер і публіцыст Кастусь Каліноўскі. Яго знакамітыя «Пісьмы з-пад шыбеніцы»— не толькі і, можа, не столькі эпісталярны дакумент у прамым сэнсе слова, колькі публіцыстычна-паэтычны твор надзвычай высокага патрыятычна-рэвалюцыйнага гучання, непасрэдны працяг палымянай «Мужыцкай праўды». Вядома таксама некалькі пісьмаў Каліноўскага, звязаных са справамі канспіратыўнай арганізацыі. У іх часам адчуваецца моцны асобасны пачатак — жарт, іронія, нязломная мужнасць, нават маладая бесшабашнасць. «Не турбуюся ні аб чым,— пісаў Каліноўскі за мяжу паплечніку Б. Длускаму пра сваю смяротную схватку з царскімі ўладамі,— то праз акно на дах, то іншымі спосабамі з іхніх рук выслізгваю. Пакуль бог ахоўвае, а калі прыйдзецца павіснуць, дык хай будзе на пацеху ўсім літоўскім панам і прасветлай Маскве» [58]. Ніводнага яго пісьма чыста прыватнага характару, на вялікі жаль, не захавалася, хаця ў крыніцах згадваецца, напрыклад, яго ліст бацьку з Пецярбурга ад 5 снежня 1862 г. [59].

Таксама ў неаднолькавай ступені захавалася эпісталярная спадчына нашых пісьменнікаў апошніх дзесяцігоддзяў XIX ст. Мы не ведаем на сёння ніводнага пісьма А. Абуховіча і Ф. Тапчэўскага. Затое досыць паспяхова выяўляецца і вывучаецца даследчыкамі карэспандэнцыя Ф. Багушэвіча, А. Ельскага, Я. Лучыны, А. Гурыновіча.

Пачатак вывучэння эпісталярнай спадчыны Ф. Багушэвіча быў пакладзены артыкулам польскага літаратуразнаўца Эдмунда Янкоўскага «Эліза Ажэшка і Францішак Багушэвіч», надрукаваным у беластоцкай «Ніве» 1 студзеня 1961 г. Э. Янкоўскі выявіў у архіве Ажэшка, які захоўваецца ў Інстытуце літаратурных даследаванняў

---

[57] Janulaitis A. Mikalojus Akelaitis. Vilnius, 1969. P. 56, 87.

[58] К. Калиновский: Из печатного и рукописного наследия. Мн., 1988. С. 76.

[59] Кісялёў Г. Летапіс жыцця і дзейнасці Кастуся Каліноўскага // Кісялёў Г. З думай пра Беларусь. Мн., 1966. С. 133—134.

Польскай Акадэміі навук у Варшаве, 4 пісьмы Багушэвіча да славутай польскай пісьменніцы за 90-я гады XIX ст. Кароткая згадка пра гэта была зроблена Э. Янкоўскім у каментарыях да 3-га тома пісьмаў Ажэшка, які выйшаў у свет у 1956 г. У артыкуле 1961 г. Э. Янкоўскі спыніўся на пісьмах Багушэвіча спецыяльна. Адно з іх было апублікавана ў артыкуле цалкам, два — ва ўрыўках. Выяўленыя дакументы далі беларускім літаратуразнаўцам новыя цікавыя факты з біяграфіі Багушэвіча, у прыватнасці, пра яго сяброўства з Ажэшка [60]. У 1967 г. эпісталярныя тэксты Багушэвіча паводле артыкула Янкоўскага былі ўключаны Сцяпанам Александровічам у падрыхтаваны ім збор твораў пісьменніка [61]. Нарэшце, у 1978 г. Уладзімір Содаль прывёў поўныя тэксты двух недастаткова выкарыстаных папярэднімі публікатарамі пісьмаў Багушэвіча да Ажэшка па ксеракопіях, атрыманых з Інстытута літаратурных даследаванняў ПАН [62].

Амаль аднačасова з публікацыяй Э. Янкоўскага намі ў Цэнтральным гістарычным архіве ЛітССР быў знойдзены ёмісты скрутак пісьмаў Багушэвіча да вядомага польскага лінгвіста і этнографа Яна Карловіча.

Пісьмы выяўлены ў багатым архіўным фондзе Карловіча, які дайшоў да нас разам з рукапіснымі зборамі былога таварыства сяброў навукі ў Вільні. Усяго ў пачку 62 эпісталярныя дакументы на 93 лістах, у тым ліку 51 пісьмо, 9 паштовак, 1 тэлеграма, 1 візітная картка [63]. З іх толькі 26 маюць поўныя даты, напісаныя рукой Багушэвіча. Найбольш ранняе пісьмо датавана 23 мая (4 чэрвеня) 1887 г., самае позняе — 25 сакавіка (6 красавіка) 1896 г. Некаторыя дакументы датуюцца лёгка, бо на іх ёсць паштовыя штэмпелі і іншыя паметкі. Вызначэнне дат іншых — больш-менш складаная справа. Усе пісьмы, на якіх няма дакладных дат, напісаны прыкладна ў той жа час, што і датаваныя, апрача аднаго, якое, мяркуючы па паштоваму штэмпелю і зместу, напісана ў 1865 г. Мова дакументаў польская, часам беларуская

---

[60] Гл.: Александровіч С. Лісты Ф. Багушэвіча да Э. Ажэшкі // Літ. і мастацтва. 1961. 21 лют.

[61] Багушэвіч Ф. Творы. Мн., 1967. С. 188, 197—198.

[62] Содаль У. Лісты да Ажэшкі // Беларусь. 1978. № 3.

[63] Пазней, вярнуўшыся да гэтай знаходкі, мы выказалі меркаванне, што паштоўка ад 9 (21) лістапада 1890 г. (гл.: Багушэвіч Ф. Творы. Мн., 1967. С. 182) не належыць Ф. Багушэвічу (адрозніваецца почыркам і подпісам) і памылкова трапіла ў гэты скрутак.

(вершаваныя ўстаўкі), асобныя фразы напісаны па-руску. Пераважная большасць пісьмаў адрасавана самому Карловічу, некаторыя пісьмы — яго жонцы і адно (самае ранняе, 1865 г.) — яго маці.

Асаблівая каштоўнасць выяўленых пісьмаў заключалася ў тым, што Багушэвіч не толькі паведамляў сябру-адрасату пра сваю паэтычную творчасць, але час ад часу пасылаў яму тэксты сваіх вершаў. Гэта адкрывала новыя магчымасці перад тэкстолагамі.

Агляд знойдзеных пісьмаў быў зроблены намі ў артыкуле «Францішак Багушэвіч і Ян Карловіч», надрукаваным у часопісе «Полымя» №9 за 1961 г.[64] Пісьмы Багушэвіча да Карловіча не толькі дазволілі па-новаму, больш поўна асвятліць пытанне аб адносінах паміж гэтымі двума дзеячамі, узнавіць гісторыю іх сяброўства. Гэтыя дакументы значна пашырылі наша ўяўленне пра творчасць пісьменніка, яго погляды, асобу і г. д.[65] Яны ярка і жыва малююць яго характар, умовы жыцця і, што асабліва важна, даюць магчымасць пранікнуць у яго творчую лабараторыю. Некаторыя з пісьмаў па сваёй эмацыянальнасці і вобразнасці блізкія да мастацкіх твораў (напрыклад, апісанне сельскагаспадарчай выстаўкі ў Вільні ў пісьме ад 7(19) верасня, відаць, 1891 г.).

Найбольш змястоўныя з гэтых пісьмаў былі апублікаваны С. Александровічам у «Творах» (1967) Багушэвіча. Сюды не паспелі ўвайсці два пісьмы да Карловіча, дадаткова выяўленыя Янкам Саламевічам у тым жа 1967 г. у справах фонда Карловіча з пісьмамі неўстаноўленых аўтараў. Абодва знойдзеныя Саламевічам пісьмы адносяцца да 1890 г. Адно падпісана крыптанімам А. Д., другое скарочаным подпісам — Ф. Багуш.[66]

Нарэшце, зусім нядаўна 15 пісьмаў Багушэвіча да Карловіча за 1885—1887 гг. выявіў Я. Янушкевіч у Львоўскай навуковай бібліятэцы імя В. Стафаніка (як высветлілася, яны трапілі туды разам з часткай архіва Карловіча). У аглядным артыкуле Я. Янушкевіч слушна звяртае ўвагу на блізкасць стылю Багушэвічавых пісьмаў

---

[64] Новая публікацыя артыкула — у кн.: Кісялёў Г. З думай пра Беларусь. С. 233—283.

[65] Гл.: Александровіч С. Перапіска пабрацімаў // Літ. і мастацтва. 1961. 29 верас.

[66] Саламевіч І. А. Д.— псеўданім Багушэвіча // Літ. і мастацтва. 1967. 3 кастр.

да мастацкай публіцыстыкі: «...назіральнасць, афарыстычнасць, трапнасць ацэнак, здольнасць адным сказам намаляваць абагульнены вобраз нейкіх значных падзей, у звычайным «бытавым» здарэнні ўбачыць характар эпохі, сутнасць царскага рэжыму, яго хвалёных «свобод»...»[67]

Дададзім яшчэ, што ў Цэнтральным гістарычным архіве ЛітССР выяўлена візітная картка Ф. Багушэвіча з яго кароткай запіскай, адрасаванай мастаку Б. Русецкаму (Пачынальнікі, *441*). Тры пісьмы Багушэвіча да сябра Адама Карповіча, датаваныя 1899 г., захоўваюцца ў аддзеле рукапісаў Цэнтральнай бібліятэкі АН ЛітССР (так званы «Фонд аўтографаў»). Факсіміле аднаго з іх надрукавана ў 1963 г. У. Абрамавічусам у апісанні рукапісаў акадэмічнай бібліятэкі[68], тэкст яго ўпершыню пададзены С. Александровічам у «Творах» (1967).

Такім чынам, па нашых падліках, на сённяшні дзень вядомы 86 эпісталярных дакументаў Ф. Багушэвіча прыватнага характару (78 адрасаваны Карловічу і яго блізкім, 4 Ажэшка, 3 Карповічу, 1 Русецкаму). Аддзел «Лісты» «Твораў» (1967) Багушэвіча налічвае 52 нумары, прычым некаторыя пісьмы прыведзены ва ўрыўках. У апошнім выданні творчай спадчыны Багушэвіча (1991) гэты аддзел значна пашыраны.

Разам з тым застаецца актуальнай праблема пошукаў новых эпісталярных (як, зрэшты, і іншых) дакументаў класіка беларускай літаратуры. Пытанне пра гэта слушна ставіў Сцяпан Александровіч у артыкуле «Рэха «Дудкі беларускай». «На маю думку,— піша даследчык,— цікавыя матэрыялы пра Ф. Багушэвіча павінны быць у кракаўскіх і варшаўскіх архівах, у фондах польскіх літаратараў і вучоных Т. Карзона [Т. Корзана], Ю. Семірадскага, Ю. Растафінскага, А. Карповіча і іншых даследчыкаў, з якімі перапісваўся паэт»[69]. Янка Саламевіч называе ў гэтай сувязі імя прафесара Ягелонскага універсітэта Ізідара Капярніцкага, факт перапіскі якога з Багушэ-

---

[67] Янушкевіч Я. «Чалавек, які нарадзіўся не ў сваю эпоху...»: Новае з перапіскі Францішка Багушэвіча з Янам Карловічам // Шляхам гадоў. Мн., 1990. [Вып. 1] С. 199.

[68] Rankraščiu rinkiniai — Собрания рукописей: Краткое обозрение рукописных фондов XI—XX веков Центральной библиотеки АН Литовской ССР / Сост. В. Абрамавичюс. Вильнюс, 1963. С. 41.

[69] Александровіч С. Кнігі і людзі. Мн., 1976. С. 163.

вічам яму ўдалося ўстанавіць[70]. Застаецца таксама надзённай праблема паглыбленага вывучэння ўжо вядомага эпісталярыя, далейшай расшыфроўкі згаданых у перапісцы Багушэвіча імёнаў і падзей, удакладнення асобных датаў і фактаў[71].

Пісьмаў другога буйнейшага беларускага пісьменніка гэтага перыяду Янкі Лучыны вядома значна меней.

У аддзеле рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі ў Варшаве захоўваюцца пісьмы Я. Лучыны 80-х гадоў XIX ст. да польскіх літаратараў З. Пшасмыцкага і А. Валіцкага. Упершыню ахарактарызаваў іх у друку М. Канапацкі[72], навуковую публікацыю пісьмаў да З. Пшасмыцкага зрабіў А. Мальдзіс[73]. Пісьмаў да Пшасмыцкага захавалася 9, адносяцца яны да 1887—1889 гг., некаторыя датуюцца ўмоўна. Звесткі наконт пісьмаў да Валіцкага ў працах літаратуразнаўцаў супярэчлівыя: М. Канапацкі гаворыць пра тры пісьмы за 1882—1886 гг., А. Мальдзіс, у прадмове да згаданай публікацыі, называе толькі вершаванае пасланне 1884 г.

Пісьмы да Пшасмыцкага апублікаваны А. Мальдзісам цалкам у перакладзе на беларускую мову (польскія вершаваныя тэксты на мове арыгінала). У прадмове публікатар слушна пісаў: «Пісьмы Янкі Лучыны да яго польскага сябра, якія тут публікуюцца ўпершыню, з'яўляюцца вельмі цікавай старонкай у нешматлікай эпісталярнай спадчыне беларускіх пісьменнікаў XIX ст. У гэтай перапісцы (на жаль, другая яе частка, відаць, назаўсёды страчана разам з архівам Лучыны) ёсць многа новых фактаў аб жыцці і творчасці беларускага паэта — яго матэрыяльных цяжкасцях, адзіноцтве, хістаннях у пытанні аб нацыянальнай належнасці, адносінах да іншых аўтараў. Пісьмы дазваляюць меркаваць аб поглядах Лучыны на паэзію ўвогуле і вершаскладанне ў прыватнасці, на суадносіны мастацтва і рэчаіснасці. Мы даведваемся, хаця і ў самых агульных рысах, што сабой уяўлялі польскія паэмы Лучыны «Андрэй», «Віялета» і «Гануся», якія, відаць, загінулі ў час другой сусветнай вайны разам з асноўнай часткай рэдакцыйнага архіва «Zycia». Пісьмо ад 12 лютага 1889 г.

---

[70] Саламевіч І. А. Д.— псеўданім Багушэвіча // Літ. і мастацтва. 1967. 3 кастр.

[71] Янушкевіч Я. Архівы маўкліва чакаюць // Звязда. 1990. 21 сак.

[72] Канапацкі М. Пісьмы Лучыны // Ніва (Беласток). 1961. 24 снеж.

[73] Мальдзіс А. Пісьмы Я. Лучыны да З. Пшасмыцкага // Садружнасць літаратур. Мн., 1968. С. 153—166.

дазволіла нам устанавіць, што беларускі паэт з'яўляецца таксама аўтарам празаічнага абразка аб падзеях 1863 г. на Міншчыне «З крывавых дзён», выдадзенага пад крыптанімам С. [*S] у тым жа 1889 г. у Кракаве... Урэшце, пісьмы адкрываюць нам новага Лучыну: Лучыну — перакладчыка «Іліяды», Лучыну — папулярызатара польскай паэзіі ў Расіі і рускай — у Польшчы, Лучыну — супрацоўніка часопіса «Вестник Европы» [74].

Шмат зрабіў для далейшага вывучэння перапіскі Лучыны з Пшасмыцкім Уладзімір Казбярук. Уважліва вывучыўшы літаратурнае асяроддзе, з якім быў звязаны адрасат і яго карэспандэнт, ён прапанаваў датаваць апошняе пісьмо з гэтай перапіскі, пазначанае 10(22) верасня (без указання года), 1891-м годам [75]. Такім чынам, ставіцца пытанне аб пашырэнні храналагічных рамак гэтай перапіскі. Ён жа прывёў цікавыя згадкі пра Лучыну ў пісьмах паэтэсы З. Тшашчкоўскай (Адама М-скага) да Пшасмыцкага гэтага ж перыяду. З прыведзеных У. Казберуком матэрыялаў відаць, што Я. Лучына падтрымліваў кантакты з З. Тшашчкоўскай праз паэтэсу Альдону (Раецкую). У адным з пісьмаў Тшашчкоўская прыводзіць нават цэлую выпіску — цытату з пісьма Лучыны да Альдоны. Вучоны знайшоў таксама у паперах Лучыны адрас паэтэсы В. Чумінай (Міхайлавай), творы якой, як вядома, беларускі паэт перакладаў: «Новгород. Тихвинская улица № 3. Ольге Николаевне Михайловой» [76]. Не інакш, Лучына перапісваўся з Чумінай. Усё гэта адкрывае новыя напрамкі для пошукаў эпісталярнай спадчыны Лучыны.

Прыгадаем яшчэ два цікавыя пісьмы Лучыны на рускай мове. Першае напісана ў 1887 г. і адрасавана фалькларысту П. Шэйну. Захоўваецца яно сярод папераў Шэйна ў Архіве АН СССР у Ленінградзе. Прыводзіцца і выкарыстоўваецца даследчыкамі пачынаючы з 1945 г.[77] Адрасат другога пісьма — ад 25 лютага 1894 г.— М. Доўнар-Запольскі. Яно зберагаецца сярод матэрыялаў

[74] Садружнасць літаратур. С. 154—155.

[75] Казбярук У. Літаратурныя клопаты Янкі Лучыны // Полымя. 1981. № 8. С. 234.

[76] Казбярук У. Заняпад і адраджэнне // Полымя. 1990. № 6. С. 219.

[77] Бэндэ Л. Новыя матэрыялы аб Янку Лучыне // Полымя. 1945. № 9; Майхровіч С. Янка Лучына: Жыццё і творчасць // Полымя. 1951. № 5; Соломевич И. Неутомимый собиратель // Нёман. 1973. № 2.

апошняга ў Цэнтральным гістарычным архіве УССР у Кіеве, згадвалася ў свой час В. Бандарчыкам, апублікавана ўпершыню Я. Саламевічам [78]. Навуковая публікацыя абодвух пісьмаў зроблена ў зборніку «Пачынальнікі». Гэтыя пісьмы шмат чаго дадаюць да характарыстыкі жыцця і творчасці паэта. Досыць сказаць, што ў пісьме да Доўнар-Запольскага Лучына абмяркоўваў магчымасці выдання зборніка сваіх беларускіх вершаў. У пісьме да Шэйна звяртаюць на сябе ўвагу наступныя радкі: «На днях получил я письмо от польской поэтки Марии Конопницкой, самой даровитой из всей парнасской братии, и если бы мог поверить ему, черт знает, какую хвалу на свой счет принял бы» (Пачынальнікі, *464—465*). На жаль, ніякіх пісьмаў да Лучыны, у тым ліку і ад М. Канапніцкай, не захавалася.

Раздзел «Лісты» ў апошнім выданні твораў Я. Лучыны (1988) прадстаўлены згаданымі пісьмамі да З. Пшасмыцкага, П. Шэйна і М. Доўнар-Запольскага. Вершаванае пасланне да З. Пшасмыцкага (у перакладзе І. Чыгрына) укладальнік кнігі У. Мархель змясціў у раздзеле «Паэтычныя творы». Тут жа надрукавана вершаванае пасланне да А. Валіцкага (пераклад У. Мархеля). На жаль, іншыя пісьмы Лучыны да Валіцкага ў зборнік не трапілі, хоць яны і згадваюцца ва ўступным артыкуле [79]. Засталася таксама няўлічанай прапанова У. Казберука па датаванні перапіскі Лучыны з Пшасмыцкім. У якасці асобнага эпістальнага дакумента можна было б уключыць у «Творы» згаданую досыць змястоўную цытату з пісьма Лучыны да Альдоны. У пісьме абмяркоўваўся праект выдання калектыўнага зборніка вершаў паэтаў «з Літвы» (пераважна з Беларусі). Яно значна пашырае нашу інфармацыю пра кола асоб, з якімі Лучына падтрымліваў творчыя кантакты і якія траплялі ў «сілавое поле» яго прыцягнення [80].

Што да вершаваных пасланняў, якія знаходзяцца як бы на сумежжы эпісталярыя і паэтычнай творчасці, то тут магчымы розны падыход. У свой час мы прапанавалі аднесці сяброўскія вершаваныя пасланні В. Дуніна-Марцін-

---

[78] Бандарчык В. Спадчына гісторыка і этнографа // Літ. і мастацтва, 1960. 20 снеж.; Саламевіч Я. «Без надзеі на друкаванне...»: Ліст Янкі Лучыны Доўнар-Запольскаму // Літ. і мастацтва. 1976. 9 ліп.

[79] Мархель У. Пісалася ў добрай веры... // Лучына Я. Творы. Мн., 1988. С. 14.

[80] Полымя. 1981. № 8. С. 232.

кевіча, адрасаваныя У. Сыракомлю, да эпісталярнай спадчыны [81]. Яны даволі арганічна ўвайшлі і ў раздзел «Лісты і пасланні» апошняга выдання твораў Дуніна-Марцінкевіча (укладальнік Я. Янушкевіч). Так што адзінага рэцэпта тут, мабыць, няма.

Ужо некалькі дзесяцігоддзяў збіраецца і даследуецца навукоўцамі эпісталярый паэта-рэвалюцыянера Адама Гурыновіча.

У 1956 г. Р. Гульман выявіла ў архівах шэраг цікавых матэрыялаў, звязаных з Адамам Гурыновічам, у тым ліку яго пісьмо 1892 г. за мяжу да Станіславы Пяткевіч са спісам літаратуры, патрэбнай польска-літоўскага-беларуска-ўкраінскаму рэвалюцыйнаму гуртку ў Пецярбургу. Дакладней, гэта паліцэйская выпіска-пераклад пісьма, якая захавалася ў справе аб гэтым гуртку (фонд Дэпартамента паліцыі, Цэнтральны гістарычны архіў СССР у Маскве, цяпер Цэнтральны архіў Кастрычніцкай рэвалюцыі). Гэта надзвычай важны гістарычны дакумент, які паказвае цікавасць Гурыновіча і яго таварышаў да марксісцкай літаратуры, да твораў І. Франко і Ф. Багушэвіча [82].

Асноўная частка эпісталярнай спадчыны Адама Гурыновіча захоўваецца цяпер у асабістым фондзе паэта ў Цэнтральным архіве-музеі літаратуры і мастацтва БССР у Мінску. Гэта тыя матэрыялы, якія зберагла пляменніца паэта Яніна Гурыновіч і якія паводле яе завяшчання былі атрыманы ў 1971 г. з Торуні.

Пачатак вывучэння гэтай часткі эпісталярыя Гурыновіча паклаў у 1966 г. Я. Шутовіч, які прывёў у часопісе «Полымя» фрагменты з трох пісьмаў Гурыновіча да маці 1887 г. Яны пісаліся ў Пецярбургу, калі паэт паступіў у Тэхналагічны інстытут. «У маім распараджэнні, на жаль, толькі ўспомненыя тры пісьмы, дасланыя мне ў фотакопіях паважанай праф. Янінай Гурыновіч» [83],— паведаміў Шутовіч.

---

[81] Кісялёў Г. Спасцігаючы Дуніна-Марцінкевіча. С. 59.

[82] Публікацыі: Архіўныя дакументы аб Гурыновічу // Беларускія пісьменнікі другой паловы XIX ст.: Зб. тэкстаў. Мн., 1956. С. 325—326; Гульман Р. І. Новыя архіўныя матэрыялы пра Адама Гурыновіча // Беларуская літаратура: Даследаванні і публікацыі. Мн., 1958. Вып. 1. С. 238—240.

[83] Шутовіч Я. Адам Гурыновіч: Паводле старых і новых архіўных матэрыялаў // Полымя. 1966. № 11. С. 157.

У 1971 г., будучы ў Польшчы, з матэрыяламі Гурыновіча, якія якраз тады перадаваліся ў СССР, пазнаёміўся Адам Мальдзіс, які спецыяльна адзначыў, што «найбольшую важкасць у архіве Гурыновіча маюць пісьмы»[84]. Асабліва шмат сярод рукапісаў Гурыновіча пісьмаў, напісаных яму сябрамі і іншымі карэспандэнтамі. У гэтых адносінах спадчына Гурыновіча выдзяляецца на фоне іншых пісьменніцкіх архіваў XIX ст. (вядомы большменш значныя комплексы пісьмаў хіба толькі да Я. Чачота і А. Вярыгі-Дарэўскага ды асобныя пісьмы да А. Ельскага).

Цяпер карэспандэнцыя Гурыновіча размеркавана нашымі архівістамі наступным чынам:

Адзінка захавання № 11: пісьмы Гурыновіча да маці за 1887—1888 гг. Усяго 7 пісьмаў. Тут жа чамусьці пісьмо Гурыновічу ад сакратара Антрапалагічнай Камісіі Акадэміі навук у Кракаве Р. Завілінскага, датаванае 1894 г.

Адз. зах. № 12: пісьмо Гурыновіча з Пецярбурга да сваякоў.

Адз. зах. № 13 мае на вокладцы загаловак: «Перапіска Адама Гурыновіча з неўстаноўленымі асобамі аб фінансавых і сямейных справах. У некаторых пісьмах — вершы на польскай і рускай мовах». У папцы захоўваюцца 3 дакументы на 4 лістах. Але пісьмо на лісце 2-м не належыць Адаму. Нават знешні агляд выклікае пярэчанні супраць такой атрыбуцыі, бо сама папера адносіцца да часу, не ранейшага за 1900 г. І сапраўды — знаходзім на пісьме прыпіску чырвоным чарнілам: «Пісьмо св[ятой] п[амяці] стрыя Станіслава перад смерцю. Пакончыў з сабой 8/V 1903...» Размова ідзе пра брата паэта (у фондзе ёсць і іншыя матэрыялы Станіслава, якія ўвайшлі ў адз. зах. № 17).

Далей ідуць пісьмы да Гурыновіча.

Адз. зах. № 14: пісьмы Б. Пяткевіч за 1890—1892 гг. Па падліках архівістаў, як пазначана на вокладцы, 10 дакументаў на 23 лістах.

Адз. зах. № 15: пісьмы С. Пяткевіч за 1890—1893 гг. 21 пісьмо, 75 лістоў.

Адз. зах. № 16: пісьмы Р. Швайніцкай за 1890—1894 гг. Па падліках А. Мальдзіса, 27 пісьмаў, на вокладцы пазначана: 23 пісьмы, 62 лісты.

---

[84] Мальдзіс А. Таямніцы старажытных сховішчаў. Мн., 1974. С. 65.

Нават з гэтага пераліку відаць, што перапіска Гурыновіча ўпарадкавана недастаткова. Тое ж датычыць і яе вывучэння, хоць першыя крокі ў гэтых адносінах зроблены Я. Шутовічам, А. Мальдзісам, нарэшце, Р. Семашкевічам, які прывёў цікавы ўрывак з пісьма С. Пяткевіч да Гурыновіча ў рэцэнзіі на «Гісторыю беларускай літаратуры» А. Лойкі[85]. Навуковае выданне эпісталярнай спадчыны з архіва Гурыновіча — адна з бліжэйшых задач беларускіх літаратуразнаўцаў.

Фалькларыстычныя захапленні паэта-рэвалюцыянера Гурыновіча адлюстроўваюць два яго пісьмы да Я. Карловіча, выяўленыя і апублікаваныя ў свой час Я. Саламевічам[86]. Пісьмы датаваны няпоўнымі датамі (без года), але Саламевічу ўдалося ўстанавіць год напісання па змесце — 1890-ы. Гэтыя пісьмы пададзены таксама ў зборніку «Пачынальнікі» (с. 478—480).

Такім чынам, усяго вядома цяпер 13 пісьмаў Гурыновіча, не лічачы шматлікіх пісьмаў да яго.

Завершым наш агляд эпісталярнай спадчыны пачынальнікаў новай беларускай літаратуры звесткамі пра пісьмы А. Ельскага, З. Тшашчкоўскай і В. Савіча-Заблоцкага.

Цікава, што на пісьмы Аляксандра Ельскага сталі спасылацца ўжо ў некралогах. У «Беларускім календары на 1917 год», дзе быў змешчаны некралагічны артыкул «Нашы страты», прысвечаны памяці Цёткі і Ельскага, гаварылася: «У адным з пісем, пісаных колькі год таму назад, Ельскі выказваў шчыры жаль з прычыны таго, што расейскія законы не даюць яму споўніць старую яго думку: усе свае грошы памясціць такім спосабам, каб за іх пасля яго смерці можна было наладзіць карысную для акалічных беларускіх вёсак установу — ратункові камітэт, бальніцу ці іншае»[87]. Ці захавалася і дзе цяпер знаходзіцца гэтае цікавае пісьмо, падобнае на завяшчанне, — невядома.

Аднабаковы погляд на Ельскага як на рэакцыянера, які ўсталяваўся на пэўны час у нашым літаратуразнаўстве,

---

[85] Семашкевіч Р. Пераканаўчасць гістарызму // Літ. і мастацтва. 1980. 14 ліст.

[86] Саламевіч Я. Адам Гурыновіч — фальклярыст: Да 100-годдзя з дня нараджэння // Полымя. 1969. № 1. С. 236—239.

[87] Беларускі каляндар на 1917 год. Вільня, 1916. С. 37.

замінаў вывучэнню яго дзейнасці і творчасці, у тым ліку і эпісталярыя.

Зрух адбыўся толькі ў апошні час. Вялікая падборка пісьмаў Ельскага да Я. Карловіча надрукавана ў зборніку «Пачынальнікі». Аўтографы гэтых пісьмаў захаваліся ў фондзе Карловіча ў Цэнтральным гістарычным архіве ЛітССР. З 25 пісьмаў за 1888—1901 гг., якія зберагаюцца адным пачкам у паперах Карловіча, у зборніку апублікавана 18 найбольш змястоўных. Яны раскрылі цікавы, шматфарбны свет Ельскага, чалавека, які хоць і стаяў у баку ад рэвалюцыйных памкненняў часу, але тым не менш шчыра спачуваў беларускаму народу, марыў пра яго адраджэнне, выказваў надзею, «што Беларусь дачакаецца яшчэ свайго Шаўчэнкі» (Пачынальнікі, *355*). Апрача гэтай асноўнай групы пісьмаў у фондзе Карловіча ёсць яшчэ паасобныя пісьмы Ельскага, якія захоўваюцца ў іншых справах, напрыклад пісьмо 1903 г. са спачуваннем у сувязі са смерцю Карловіча[88]. У Цэнтральным гістарычным архіве ЛітССР выяўлены таксама пісьмы Ельскага да Кіркора[89], Аскеркаў[90], Івашкевіча[91] і інш. У даследаваннях успаміналася пра пісьмы Ельскага да Крашэўскага (захоўваюцца ў Ягелонскай бібліятэцы ў Кракаве) і да Гжэгажэўскага (у бібліятэцы Польскай Акадэміі навук у Кракаве)[92]. У 1874 г., у сувязі з работай над перакладам кнігі Ю. Ахаровіча, Ельскі звярнуўся з пісьмом да М. Стасюлевіча, рэдактара часопіса «Вестник Европы». Дакумент зберагаецца ў Ленінградзе, у Інстытуце рускай літаратуры АН СССР (Пушкінскі дом)[93]. У акадэмічнай бібліятэцы ў Вільнюсе ёсць 7 пісьмаў Ельскага да калекцыянера А. Заштаўта за 1883—1888 гг. (ф. 273—1133), 29 пісьмаў да гісторыка і калекцыянера Л. Уземблы за 1893—1913 гг. (ф. 151—203). Але спецыяльна пералічаныя пісьмы не вывучаліся і не публікаваліся.

Думаецца, што многае з эпісталярнай спадчыны Ельскага яшчэ не выяўлена, а сёе-тое беззваротна загі-

---

[88] ЦДГА ЛітССР, ф. 1135, воп. 10, спр. 116, л. 343.

[89] Там жа, воп. 11, спр. 4, л. 71—71 адв.

[90] Там жа, воп. 20, спр. 515.

[91] Там жа, спр. 295.

[92] Мальдзіс А. Творчае пабрацімства. С. 149; Ен жа. Таямніцы старажытных сховішчаў. С. 101.

[93] Выпіскі зроблены Л. А. Бэндэ. Гл.: ЦДАМЛіМ БССР, ф. 66, воп. 1, спр. 550.

нула. «Пан Ал. Ельскі з некаторага часу завязаў са мною перапіску ... »[94], — паведамляў Ф. Багушэвіч Я. Карловічу 2(14) снежня 1891 г. Дарага мы далі б цяпер за гэтую перапіску, але да нас яна не дайшла нават часткова.

У Галоўным архіве старажытных актаў у Варшаве захавалася частка пісьмаў да Ельскага, атрыманых ім ад розных адрасатаў. У даследаванні «Плённыя кантакты» (1970) У. Казбярук прывёў цікавыя фрагменты з пісьмаў А. Касмоўскага і Я. Ціхінскай канца XIX— пачатку XX ст., якія сведчылі пра жывое дыскутаванне беларускага пытання ў тагачасным грамадстве, пра паступовае выспяванне беларускай нацыянальнай самасвядомасці[95].

У. Казберуком выяўлены і даследаваны таксама каштоўныя пісьмы беларускай паэтэсы і перакладчыцы другой паловы XIX ст. З. Тшашчкоўскай (псеўданім Адам М-скі) да Ф. Зянковіча (Асалінэум у Вроцлаве) і З. Пшасмыцкага (Нацыянальная бібліятэка ў Варшаве)[96]. Паэтэса перасылала адрасатам з гэтымі пісьмамі свае творы, паведамляла біяграфічныя звесткі, расказала аб патрыятычнай прывязанасці да беларускай зямлі. У пісьме Ф. Зянковічу ў 1886 г. З. Тшашчкоўская, у прыватнасці, гаварыла пра свае беларускія пераклады польскіх песень: «Аднойчы, у мінулым годзе, я пачала спяваць «Каліну» амаль міжвольна на нашай сялянскай беларускай мове і паўтарыла дзяўчатам-служанкам — гэта выклікала захапленне, яны па начах вучыліся... Пасылаю Вам дзве песні — гэта толькі пачатак — я забыла беларускую мову, хаця вяртаюся да яе цудоўна як да нянькі дзіцячых гадоў — у вушах іграе мне ранейшая — без заганы»[97].

Надзвычай актыўную перапіску з сучаснікамі вёў В. Савіч-Заблоцкі, асоба і дзейнасць якога апошнім часам усё больш прыцягвае ўвагу нашых даследчыкаў. Яго багатая эпісталярная спадчына яшчэ не да канца выяўлена і вывучана.

---

[94] Багушэвіч Ф. Творы. Мн., 1967. С. 187.

[95] Казбярук У. М. Плённыя кантакты: Некаторыя пытанні беларуска-польскіх літаратурных сувязей і станаўленне беларускай літаратуры XIX ст. // Старонкі літаратурных сувязей. М., 1970. С. 155—156.

[96] Казбярук У. Беларускія вершы Адама М-скага // Маладосць. 1971. № 12; Ён жа. Невядомыя беларускія вершы Зоф'і Тшашчкоўскай // Літ. і мастацтва. 1980. 4 крас.

[97] Казбярук У. М. Ступені росту: Беларуская літаратура канца XIX— пачатку XX ст. і традыцыі польскіх пісьменнікаў. Мн., 1974. С. 30.

Цікавыя пісьмы В. Савіча-Заблоцкага да М. Стасюлевіча і П. Кулакоўскага за 1873 і 1891 гг., пісьмовыя звароты ў царскія адміністрацыйныя органы перыяду 1887—1891 гг. у сувязі з вяртаннем з-за мяжы апублікаваны ў зборніку «Пачынальнікі» (с. 453—462). Усе гэтыя матэрыялы на рускай мове, якой пісьменнік добра валодаў побач з беларускай, польскай і многімі замежнымі мовамі. З пісьмом да М. Стасюлевіча Савіч-Заблоцкі пераслаў у рэдакцыю часопіса «Вестник Европы» тры свае беларускія вершы, выказаў у ім арыгінальныя погляды на беларускі культурна-нацыянальны рух.

Асабліва каштоўныя пісьмы Савіча-Заблоцкага ўкраінскаму вучонаму, літаратару і грамадскаму дзеячу П. Драгаманаву за 1886—1887 гг. надрукаваў нядаўна В. Рагойша ў другім выданні хрэстаматыі беларускай літаратуры XIX ст.[98]. Выяўлены яны ў Цэнтральным гістарычным архіве УССР у Львове. Надзвычай важная рыса гэтых пісьмаў — мова. Савіч-Заблоцкі пісаў украінцу Драгаманаву на беларускай мове. Для таго часу гэта яшчэ рэдкасць. Як слушна зазначае В. Рагойша, адкрытыя ў Львове пісьмы — «адзін з самых ранніх узораў эпісталярыя на беларускай мове»[99]. Пісьмы яскрава характарызуюць дэмакратычны светапогляд Савіча-Заблоцкага, высвятляюць асобныя старонкі і факты яго надзвычай багатай і цікавай біяграфіі, сувязі пісьменніка з грамадскім і літаратурным асяроддзем свайго часу.

Аўтар пісьмаў адзначае рост нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа, абуджэнне працоўных мас, з задавальненнем заўважае, што «чорны люд наш, гэтая душа нашага цела, да самасвядомства прыходзіць, што гэты люд дзелаецца ўжо сілай, што дзвіне мёртвую датоля масу нашу...»[100]. Глыбокія развагі Савіча-Заблоцкага пра неабходнасць згоды ў славянскім свеце, пра пасрэдніцкае, прымірэнчае прызначэнне беларускага і ўкраінскага народаў у гэтых адносінах. «І ў гэтым-та мне прынцыповае прызванне асобае наша, бела- і маларускае, здаецца; канечнасць [неабходнасць] наша на зямлі, прызванне рускае наша, чаго-лля бог нас стварыў,—сцвярджаў Савіч-Заблоцкі. — Загэтым цэлі нашы,

---

[98] Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Хрэстаматыя. 2-е выд. Мн., 1988. С. 312—319.

[99] Там жа. С. 470.

[100] Там жа. С. 312.

якія і ўсе маюць народы: справядлівасць, брацтва, воля і свабода кожнаму чалавеку, грамадскае паміж усімі любства і роўнасць іх ва ўсім, та й праца!»[101]. Гэтая праграма, заўважым, застаецца актуальнай і сёння.

Часам пісьменнік паведамляў у сваіх пісьмах унікальныя звесткі, невядомыя пакуль што па іншых крыніцах. Напрыклад, толькі з гэтых пісьмаў мы даведаліся цяпер аб існаванні ў Пецярбургу ў 1868 г. беларускага культурна-асветнага таварыства «Крывіцкі Вязок», удзельнікам якога быў Савіч-Заблоцкі, аб спробах выдання беларускіх газет на пачатку 1880-х гадоў, звязаных з невядомымі нам сёння бліжэй імёнамі Глінскага і Круглякова.

Цікава, што Савіч-Заблоцкі, як крыху пазней і Ф. Багушэвіч, перапісваўся таксама з А. Ельскім, які праз яго (Савіч-Заблоцкі жыў тады ў Парыжы) спрабаваў папоўніць свае гісторыка-культурныя калекцыі. 19 лістапада 1886 г. Савіч-Заблоцкі пісаў у сувязі з гэтым Драгаманаву: «Адзін беларус, той Ельскі пан Аляксандр, аб якім я Табе гукаў у прошлай маей лісціне, просіць мяне, каб я ад Цябе Тваю хватаграфію та які аўтограф Твой для яго дастаў. Ён, бачыш, у маёнтку сваім Замосце, што пад губернскім Мінскам, мае немалую бібліятэку тай музей, у каторы збірае ўсё, што памятка, дорага жывым тай дзеткам нашым. Прышліце ж яму цераз мяне тое, а чом ён дужа так просіць...»[102]. Так дзень пры дні карпатліва папаўняліся замосцкія калекцыі Ельскага, страта якіх вельмі балючая для нашай культуры.

Такім чынам, львоўская знаходка В. Рагойшы надзвычай цікавая і важная шмат у якіх адносінах.

Паглыбленае вывучэнне выяўленых пісьмаў Савіча-Заблоцкага, далейшыя пошукі, несумненна, дадуць яшчэ нямала гісторыкам нашай літаратуры і культуры. Гэтая знаходка дазваляе выявіць прынцыповую заканамернасць: калі ў першай палове і сярэдзіне XIX ст. амаль уся перапіска беларускіх літаратараў вялася на польскай або рускай мове (выключэнне складаюць славутыя «Пісьмы з-пад шыбеніцы» К. Каліноўскага, асобныя кароткія запіскі, напрыклад, вядомая запіска А. Рыпінскага А. Вярыгу-Дарэўскаму, а таксама большыя або

---

[101] Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Хрэстаматыя. С. 313.
[102] Там жа.

меншыя беларускія ўстаўкі ў пісьмах нашых літаратараў на іншых мовах)[103], то ў канцы стагоддзя з'яўляюцца ўжо вялікія прыватныя пісьмы, напісаныя цалкам па-беларуску. Гэта было знаменнем часу, яскравым сімптомам далейшага абуджэння нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа, сведчаннем пашырэння сферы ўжытку роднай мовы. З другога боку, сам стыль пісьмаў Савіча-Заблоцкага сведчыць, што выпрацоўка беларускай эпістальлярнай традыцыі была справай нялёгкай. Канчаткова гэта традыцыя ўсталявалася на пачатку XX ст., у нашаніўскі перыяд.

Дададзім, што да эпісталярыя прымыкаюць і дарчыя надпісы, зробленыя пісьменнікамі на падараваных кнігах і фатаграфіях. У гісторыка-літаратурных публікацыях апісваліся такія тэксты В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, Ядвігіна Ш. Цікавяць даследчыкаў і кнігі з надпісамі, падараваныя літаратарам Беларусі. Гэта таксама фіксацыя жывых кантактаў, род перапіскі.

Наш першы і няпоўны агляд эпісталярнай спадчыны пісьменнікаў XIX ст., гісторыі яе выяўлення і публікацыі паказвае, што, нягледзячы на ўсе страты, мы маем справу са змястоўным і ўдзячным матэрыялам, які патрабуе далейшага living разнабаковага вывучэння і выкарыстання.

*

*   *

Трэцюю важную групу гісторыка-літаратурных крыніц складаюць крытычныя матэрыялы, найперш прыжыццёвыя водгукі на творы нашых літаратараў, водгукі, якія станавіліся фактамі пісьменніцкіх біяграфій, істотна ўплывалі на творчасць пісьменнікаў. «Асобае месца сярод крыніц займаюць водгукі сучаснікаў на літаратурны твор, у тым ліку і літаратурна-крытычныя працы»[104], — слушна адзначае В. Рагойша.

---

[103] Вядомы гісторык А. Смірноў прыводзіць у сваёй кнізе пра Ф. Савіча яго пісьмо доктару Ф. Шаламіцкаму ад 9 лютага 1837 г. і гаворыць, што «яно напісана на беларускай мове (лацініцай)» (Смірноў А. Франц Савіч. Мн., 1961. С. 65). Але, звярнуўшыся да арыгінала (ЦДГА ЛітССР), няцяжка пераканацца, што пісьмо гэтае — на польскай мове.

[104] Введение в специальность. Мн., 1977. С. 99.

У XIX ст. беларуская літаратурная крытыка, як і сама літаратура, яшчэ толькі складвалася. Яна не мела ўласнай друкаванай трыбуны. Асобныя крытычныя артыкулы з'яўляліся ў польскіх і рускіх органах друку. У поле зроку крытыкаў-сучаснікаў беларускія пісьменнікі траплялі далёка не ў аднолькавай ступені.

Сярод крытычных водгукаў на творчасць В. Дуніна-Марцінкевіча вылучаюцца грунтоўныя артыкулы У. Сыракомлі ў варшаўскім і віленскім друку, ананімны артыкул 1856 г. у пецярбургскім часопісе «Сын Отечества». Гэтыя выступленні, асабліва крытычныя артыкулы У. Сыракомлі, атрымалі шырокі грамадскі рэзананс, таму што ў іх не толькі аналізавалася творчасць асобна ўзятага пісьменніка, у даным выпадку Дуніна-Марцінкевіча, але і ўздымаліся надзвычай важныя грамадскія праблемы, адстойвалася права беларускага народа на ўласнае нацыянальнае развіццё, на ўласную літаратуру[105].

Даволі высокую ацэнку сучаснікаў атрымала творчасць Яна Баршчэўскага. Асаблівую цікавасць знатакоў літаратуры выклікалі апавяданні, сабраныя ў «Шляхціцы Завальні».

З захапленнем пісаў пра іх Міхал Галавінскі ў пісьме да Міхала Грабоўскага, надрукаваным у чэрвені 1843 г. у часопісе «Пелгжым»: «Пан Баршчэўскі паўстае перад намі самым дасканалым выразнікам простанароднай фантастычнасці і звычаяў беларускага народа. Я ўпэўнены, што ён у сваім родзе не ўступіць Сапліцы (апавядальнік у гістарычных аповесцях Г. Ржавускага. — *Г. К.*). Пачаў ён прозай пісаць аповесці: не магу табе перадаць сваё вялікае ўражанне. Усё там выканана па-майстэрску пад выглядам найвялікшай прастаты. Гэта не просты збіральнік паданняў народа... Дзівосны ў яго інстынкт у апрацоўцы паданняў, амаль нічога свайго не дадае, а ўсё — яго ўласнасць: голая казка не мела б ніякай вартасці, але ён аздабляе яе іншымі паданнямі, найдасканалей драматызуе і раптам вырастае нешта цэласнае, поўнае простанароднай праўды і самага сапраўднага жыцця»[106].

---

[105] Падрабязней гл.: Кісялёў Г. В. Спасцігаючы Дуніна-Марцінкевіча. С. 68—77.

[106] Цыт. па артыкулу Р. Падбярэскага «Беларусь і Ян Баршчэўскі» (Пачынальнікі, *70*).

Баршчэўскаму прысвечаны вядомы артыкул Рамуальда Падбярэскага «Беларусь і Ян Баршчэўскі», які стаў значнай падзеяй у гісторыі беларускай культуры. Падбярэскі малюе постаць Баршчэўскага на фоне таго грамадска-культурнага руху, які пачаўся тады на Беларусі. Абраны аўтарам маштаб дазволіў абмаляваць Баршчэўскага буйным планам, паказаць яго значэнне ў літаратуры і культуры Беларусі. У артыкуле пададзена яго біяграфія як тыповага прадстаўніка дробнай шляхты, блізкай да народа. Высока ацэньваецца беларускамоўная творчасць Баршчэўскага, асабліва паэма «Рабункі мужыкоў». «Гэта паэма,— піша Падбярэскі,— калі хочаце,— помнік беларускай гаворкі, нароўні з Манькоўскім (якога Падбярэскі лічыць аўтарам «Энеіды навыварат».— *Г. К.*) ставіць яго на чале сапраўды народных беларускіх пісьменнікаў» (Пачынальнікі, *65*). Балады Баршчэўскага цікавілі крытыка галоўным чынам як першы этап засваення народнай паэзіі. Паводле Падбярэскага, «з'яўляюцца яны нібы ўступам да таго паэтычнага вобраза Беларусі, які аўтар наважыўся развіць у большым маштабе... Балады паслужылі яму, каб ажывіць фантазію; ён сам гаворыць, што калі б не пісаў балад, ніколі б не пісаў прозы» (Пачынальнікі, *67*). Творчы падыход Баршчэўскага да выкарыстання народных паданняў крытык паказаў на прыкладзе балад «Варажбітка-русалка» і «Дзявочая крыніца».

Найбольшая ўвага ў артыкуле аддаецца прозе Баршчэўскага — яго «Шляхціцу Завальні». Крытык вельмі глыбока разумеў сутнасць працы пісьменніка. «Тое, што піша п. Баршчэўскі прозай,— адзначаў Падбярэскі,— не датычыць прама ні гісторыі, ні літаратуры, ні мовы Беларусі, але рэчы больш важнай, а менавіта духу і паэзіі народа, адкуль выйшлі і гісторыя, і літаратура, і мова. Ухапіўся ён за самую жыццёвую аснову і вырашыў паказаць у мастацтве вялікі народны вобраз» (Пачынальнікі, *68*). Крытык спрабуе разабрацца ў суадносінах фальклорнага і літаратурнага ў творчасці Баршчэўскага: «Ён мае перад сабою народ, часта з усёй прывабнасцю фантазій з язычаскіх часоў, якія ён апраменьвае сваім, так сказаць, беларускім гафманізмам. Як у баладах ён стараўся паказаць пачуццёвы бок паэзіі народа, так у апавяданнях — яго творчасць і нібыта нейкую філасафічнасць паняццяў пра быт, авеяных уласнай яго фантазіяй. У гэтых апавяданнях... толькі адно ядро належыць простаму народу, уся карціна — фантазія аўтара, сатканая на аснове нацыя-

нальных колераў» (Пачынальнікі, *68*). Блізкасць да народа дапамагае Баршчэўскаму пранікаць у самую сутнасць народнай паэзіі, паспяхова разгадваць яе таямніцы: «У народа няма вымыслу без далейшай акрэсленай думкі, толькі часта цяжка яе адгадаць, асабліва не ведаючы яго звычаяў. П. Баршчэўскі не збіральнік паданняў, але вызнік іх у мастацтве» (Пачынальнікі, *69*). Асабліва падкрэслівае Падбярэскі прастату і натуральнасць стылю Баршчэўскага, яго майстэрства ў абмалёўцы прыроды роднага краю. Адзначаюцца і недахопы. У мастацкіх адносінах яго апавяданні «недастаткова развіты, маюць рысы нейкай недавыказанасці, што з'яўляецца вынікам яго імправізатарскай манеры... У ранніх апавяданнях занадта выпірае штучнае выкарыстанне чыста фантастычнага вымыслу для дасягнення мэты, для маральнага павучання, што часта аслабляе эфект і паказвае недахоп мастацкага такту ў апрацоўцы, які разаўецца з вопытам» (Пачынальнікі, *69*).

Уважлівае і глыбокае прачытанне твораў Баршчэўскага, спалучанае з шырокім кругаглядам, дазволіла крытыку зрабіць вывад: «У апавяданнях Баршчэўскага я бачу першае праяўленне духу беларускага простага народа, як у даследаванні пана Храпавіцкага — першае выяўленне філасофскіх паняццяў аб паэзіі гэтага народа, а ў паэтычных творах Т. Лады-Заблоцкага — пачуццёвы бок беларускай паэзіі ў цяперашні момант.

Місія пана Баршчэўскага не апошняя; як бы там ні было, ён адкрывае новы край,— таму прычыняецца да развіцця і поступу думкі» (Пачынальнікі, *70*).

Крытык В. Пракаповіч у рэцэнзіі на «Шляхціца Завальню», надрукаванай у «Тыгодніку петэрсбурскім» у 1845 г., праводзіў аналогію ў прыёмах кампазіцыі паміж гэтым творам і казкамі Шахеразады або апавяданнямі Сервантэса. Як і ў названых творах, апавяданні Баршчэўскага вядуцца ад імя розных асоб, якія, нібы ў панараме, праходзяць перад чытачом, а слухач — нязменны, гэта значыць Завальня. Аўтар таксама з'яўляецца сведкам і адначасова каментатарам. Гэтым самым ён яднае нас са светам сваіх думак [107].

Гісторык і літаратуразнавец Юльян Барташэвіч у некралагічным артыкуле «Ян Баршчэўскі» («Дзённік варшаўскі», 1851) таксама вылучыў сярод усяго напісанага

[107] Гл.: Перкін Н. Абсягі думкі. Мн., 1980. С. 214.

ім «Шляхціца Завальню»: «Гэты арыгінальны твор, па форме апрацоўкі сваёй адзіны ў нашай літаратуры, сапраўды дае Баршчэўскаму права на прызнанне. Вершы, якія наш аўтар выдаў асобным томікам, не маюць і сотай часткі тых станоўчых якасцей, што «Шляхціц Завальня» (Пачынальнікі, *82*).

Першымі крытыкамі Яна Чачота былі яго таварышы-філаматы.

Вершаваныя стылізацыі Чачота ў духу народнай паэзіі карысталіся нязменным поспехам у філамацкім асяроддзі. Адам Міцкевіч заахвочваў яго да далейшай творчасці ў гэтым жанры. У пісьме ад 9 снежня 1819 г. ён пісаў Чачоту: «Што мяне не менш абрадавала і што павінен н выказаць як філамат, дык гэта песня, дакладней кажучы — твае песенькі; бачу ў іх шпаркі і нязмерны рост з часу твайго ўступлення ў кар'еру пісьменніка. Лёгкасць, пры гэтым сапраўдны піндараўскі агонь — перавысілі нават надзеі, якія ўскладаў на цябе; ...не занядбай: злітуйся! Штораз будзе атрымлівацца ўсё лепей; жадаў бы, каб паспрабаваў свае сілы на якім-небудзь прадмеце лірычным»[108].

Немалы водгалас у грамадстве, як паказаў У. Мархель, мелі «Сялянскія песенькі...» Я. Чачота. Крытычныя водгукі на Чачотавы зборнікі з'яўляліся ў «Тыгодніку петэрсбурскім», «Бібліятэцы варшавскай», «Рубоне». Сярод аўтараў гэтых водгукаў былі Ю. Крашэўскі, І. Храпавіцкі, якія бачылі ў працах Чачота своеасаблівую адзнаку часу, атрымлівалі магчымасць у сувязі з Чачотавымі выданнямі паразважаць аб багацці і каштоўнасці беларускага фальклору і яго выкарыстанні ў літаратуры[109]. Адзначым таксама ранні пасмяротны водгук У. Сыракомлі пра Чачота ў артыкуле 1855 г., прысвечаным В. Дуніну-Марцінкевічу. Сыракомля, які яшчэ не пазнаёміўся з Вярыгам-Дарэўскім, ведаў тады толькі двух беларускіх пісьменнікаў — Чачота і Дуніна-Марцінкевіча. «Першы з іх,— пісаў Сыракомля,— у сваіх кніжачках пад назвай «Сялянскія песенькі з-пад Нёмана і Дзвіны» захапляўся, можна сказаць, мовай і паэзіяй крывічанскага народа, сабраў яго песні, перакладаў іх удзячным польскім вершам, выдаў іх арыгінальны тэкст, спрабаваў сам ствараць песенькі на гэтай

---

[108] Цыт. па кн.: Перкін Н. Абсягі думкі. С. 261.

[109] Мархель У. І. «Сялянскія песенькі...» Яна Чачота: Творчы білінгвізм, успрыняцце сучаснікаў // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1988. № 6. С. 108—109.

мове, сабраў народныя прыказкі і, зрабіўшы над мовай шмат глыбокіх назіранняў, заклаў першы падмурак яе граматыкі. За далейшай працай смерць заспела дабрачыннага Чачота» (Пачынальнікі, *294—295*). Як бачым, «вясковы лірнік» выказваў глыбокае знаёмства з творчасцю Чачота і разуменне яе значэння.

Да крытычных матэрыялаў належаць таксама матэрыялы цэнзурныя, якія змяшчаюць ацэнку творчасці таго або іншага пісьменніка з боку царскіх улад. Некаторыя цэнзурныя дакументы змешчаны ў хрэстаматыі крытычных матэрыялаў беларускай літаратуры XIX — пачатку XX ст. (1978; укладальнікі С. Александровіч, В. Александровіч). Паводле слоў акадэміка А. Бялецкага, «заўвагі цэнзараў часам дапамагаюць зразумець сучаснае твору гучанне», расшыфраваць, прасвятліць схаваны для нашчадкаў сэнс твора[110]. У зборніку «Пачынальнікі» апублікаваны архіўны цэнзурны матэрыял, звязаны са спробай Аляксандра Рыпінскага надрукаваць у Расіі сваю беларускую баладу «Нячысцік», якая выйшла перад гэтым за мяжою. Пецярбургскі цэнзурны камітэт перадаў кнігу на разгляд вядомаму славісту прафесару І. Сразнеўскаму. У дакладзе ад 7 снежня 1853 г. Сразнеўскі пісаў, што «кніжка гэта не можа быць ухвалена да друку рускай цэнзурай,— па-першае, таму што аўтар яе Аляксандр Рыпінскі вядомы як пісьменнік, аддауспны бунтоўным ідэям, і выказаў іх, між іншым, і ў адносінах да Беларусі ў кніжцы «Białoruś»; — па-другое, таму што яго балада «Niaczyścik» прапануецца да друку лацінскімі літарамі, тады як яна напісана па-руску на мясцовай гаворцы праваслаўных жыхароў Беларускага краю і хаця б і без шкоднай наўмыснай мэты, дык усё-такі не без магчымасці пашырэння ў народзе пісьменнасці лацінскай» (Пачынальнікі, *182*).

Прыцягвала ўвагу сучаснікаў і «Беларусь» Рыпінскага. Нейкі барон Сталь (Астоя) напісаў пра гэту кнігу цэлае даследаванне, якое, здаецца, так і не з'явілася ў друку[111].

Адзіным прыжыццёвым водгукам на творчасць Паўлюка Багрыма з'яўляюцца вядомыя старонкі з кнігі І. Яцкоўскага «Аповесць з майго часу» (Лондан, 1854; Познань, 1858). Яцкоўскі прывёў тэкст верша «Заграй, заграй, хлопча малы...» у арыгінале і мастацкім перакладзе на поль-

---

[110] Белецкий А. И. Из последних тетрадей // Лит. газ. 1984. 31 окт.

[111] Гудас А. [Мальдзіс А.] Беларускі том Кольберга // Полымя. 1970. № 8. С. 239.

скую мову (відаць, уласным?) і паставіў талент Багрыма на адзін узровень з талентам славутага на ўвесь свет шатландца Р. Бёрнса. Але які ў іх розны лёс: «Бёрнс, парабак англійскі, пры менш цяжкіх акалічнасцях, уласным талентам, не падтрыманым ніякай навукай, забяспечыў сабе неўміручае імя, а сваёй сям'і — пашану і дастатак; Пётрак [Павел] з Крошына за талент, дадзены яму ад бога, зазнаў самае жорсткае няшчасце!» (Пачынальнікі, *189*).

Кнігу Арцёма Вярыгі-Дарэўскага на польскай мове «Гавэндка аб сваяку» крытыка сустрэла даволі прыхільна. Рэцэнзент варшаўскай «Газэты цодзеннай» (1859, 13 (25) кастр.) адзначаў талент аўтара, хоць і наракаў, што ў кнізе мала характэрных рысаў Беларусі і не зусім чыстая мова. У рэцэнзіі гаварылася: «Хоць сціплы палёт не абяцае, каб аўтар «Беларускай тэкі» (падзагаловак «Гавэндкі».— *Г. К.*) заняў з часам месца поруч з арламі нашай паэзіі, аднак у далейшым, калі талент, які відавочна прабіваецца ў гэтых недастаткова цесна звязаных паміж сабой урыўках, дойдзе да самапазнання і мастацкага роздуму, будзем слухаць яго з прыемнасцю, як жаўранка, што чуллівай ранішняй песняй вітае вясну, ад якой павявае цяплом спакою і дабрыні».

Высокую ацэнку беларускім творам Вярыгі даў А. Кіркор, які пазнаёміўся з імі ў рукапісах. У 1874 г., калі Вярыга знаходзіўся ў сібірскай ссылцы, Кіркор успомніў пра яго ў сваіх лекцыях «Аб літаратуры братніх славянскіх народаў» як пра галоўнага паплечніка В. Дуніна-Марцінкевіча: «...другім з выдатнейшых беларускіх народных паэтаў і празаікаў з'яўляецца Арцём Дарэўскі-Вярыга. Ён апублікаваў (у сапраўднасці пералічаныя творы апублікаваны не былі.— *Г. К.*): «Гутаркі з пляндроўкі па зямлі латышскай», «Паўрот Міхалка», «Быхаў», драму «Гордасць», паэму «Астульго» [«Ахульго»] і, урэшце, ідучы за прыкладам Марцінкевіча, пераклаў на беларускую мову ўсяго «Конрада Валенрода», ды пераклаў так цудоўна, што сілай і ўзнёсласцю радка здзівіў бы самога неўміручага песняра. Пераклад гэты, аднак, не быў ужо надрукаваны, ды і наогул пасля 1859 г. ні адзін твор на беларускай мове не выйшаў у свет...» Далей Кіркор гаварыў: «Пералічылі тут толькі найбольш значныя працы Дудара [Дуніна-Марцінкевіча] і Вярыгі. Аднак найвялікшая іх заслуга — гэта народныя песні, дастасаваныя да бягучых хвілін і патрэб; яны хоць і не друкаваліся, але шырока

разышліся па ўсёй Белай Русі»[112]. Праз восем гадоў гэтыя ж звесткі і ацэнкі Кіркор паўтарыў у скарочаным выглядзе ў «Живописной России». «Як Марцінкевіч, так і Вярыга сваімі перакладамі абодва даказалі, колькі багацця і моцы ў беларускай мове»[113],— сцвярджаў Кіркор.

Кола крытычных матэрыялаў, звязаных з творчасцю Каратынскага, пазначана ў артыкуле У. Мархеля «Творчасць Вінцэся Каратынскага ў ацэнцы сучаснікаў і нашчадкаў»[114].

Першае выступленне Каратынскага ў друку — публікацыя верша «Над калыскай» (Бібліотэка варшавска, 1856, т. 2) — было падтрымана апякунчым словам У. Сыракомлі ў адным з тыднёвых аглядаў-гебдамадаліяў «Газэты варшавскай» (№ 149). Сыракомля ж благаславіў сваёй прадмовай выхад у свет зборніка вершаў «Чым хата багата...» (1857), у якой падкрэсліваў самастойнасць таленту Каратынскага: «Колькі гадоў жывучы ў маім доме, з тых жа вясковых крыніц, любові да народа, прыроды, кнігі, долі і нядолі чэрпаў ён натхненне, што і мы самі. Надзелены ад нараджэння здольнасцю, ад нас, можа, пераняў ён ахвоту да песні, пры нас, можа, развіў яе, але развіў самабытна».

У № 205 «Газэты варшавскай» за 1856 г. друкуецца нізка вершаў Каратынскага са змястоўнымі рэдакцыйнымі каментарыямі. Першынство сярод твораў Каратынскага рэдакцыя аддавала «сельскім песням», бо на гэтай ніве бадай не было «яшчэ таленавітых працаўнікоў, якія патрапілі б падхапіць настрой народнай песні... і развіць на яго аснове ўласны талент». У каментарыях выказвалася слушная думка, што ў гутарках, «форму якіх стварыў Ул. Сыракомля і валодае ёю непараўнана, самабытнасць таленту маладога пісьменніка крыху страчваецца».

На выхад зборніка «Чым хата багата...» адгукнуўся А. Н[еўяроўскі] ў «Газэце варшавскай» (1856, № 301), які сказаў, што кніга з'яўляецца «ўдалым наследаваннем Сыракомлю». Віленскі паэт і крытык Е. Ляскарыс у артыкуле «Успаміны з галіны мастацтва ў Літве ў 1857 г.» (Тэка віленьска, 1858, № 4) выказаў у сувязі з апубліка-

---

[112] Kirkor A. H. O literaturze pobratymczych narodów słowiańskich. Kraków, 1874. S. 54.

[113] Живописная Россия. Спб., 1882. Т. 3. С. 327.

[114] Белороссика: Книговедение, источники, библиография. Мн., 1980. С. 53—61.

ваннем паэмы «Таміла» надзею, што Каратынскі вызваліцца ў будучым ад гэтага ўплыву. У разгорнутай рэцэнзіі на паэму (Кроніка вядомосьці краёвых і загранічных, 1858, № 5) Ляскарыс высока ставіў творчыя магчымасці аўтара «Тамілы», здольнага глыбока пранікнуць у народнае жыццё і выявіць на гэтай глебе «смелыя палёты духа». «Новы Корбут» адзначае яшчэ рэцэнзію К. Кашэўскага на «Тамілу» ў «Бібліотэцы варшавскай» (т. 2 за 1859 г.).

Станоўчыя водгукі на перакладзеную Каратынскім і Сыракомлем кнігу вершаў французскага паэта-песенніка П. Беранжэ з'явіліся ў 1859 г. у літаратурных аглядах «Кронікі вядомосьці...» (№ 15; аўтар F. S. D.— Дмахоўскі) і «Бібліютэкі варшавскай» (т. 4; Кашэўскі).

З водгукаў на нарысы і даследаванні Каратынскага У. Мархель адзначае два. Па-першае, гэта гарачы водгук «Пшэглёнда львовскага» (1878, т. 15) на жыццяпіс Ігната Дамейкі, змешчаны Каратынскім у 1877 г. у «Клосах». Па-другое, «Ліст... у справе пра роднае месца Адама Міцкевіча» І. Дамейкі ў «Тыгодніку ілюстрованым» (1877, № 258), дзе высока ацэньваліся міцкевічазнаўчыя працы Каратынскага.

Беларускі верш Каратынскага «Уставайма, брацці!..» разам з усім так званым «Віленскім альбомам» А. Кіркора і іншых дзеячоў быў непрыхільна сустрэты значнай часткай польскай грамадскасці, якая ўбачыла ў гэтым акце адмаўленне ад ідэалаў нацыянальна-вызваленчага руху. Пазней у пісьме да У. Сыракомлі 1861 г. Каратынскі прызнаваўся, што за ўдзел у «Віленскім альбоме» ён «быў адхвастаны як апошні адступнік» (Пачынальнікі, *319*).

Прыжыццёвых крытычных водгукаў на творчасць беларускіх пісьменнікаў другой паловы XIX ст. вельмі няшмат — куды меней, чым, скажам, водгукаў на творчасць Дуніна-Марцінкевіча. Гэта звязана з тым, што і кніг іх ва ўмовах узмацнення русіфікатарскай палітыкі царызму выдавалася надзвычай мала, а тыя, што выходзілі, былі часцей за ўсё бесцэнзурнымі выданнямі замежных друкарняў.

Першыя водгукі на творчасць Францішка Багушэвіча выявілі ў свой час у рускай і польскай прэсе С. Александровіч і А. Мальдзіс [115]. Цяпер галоўныя з іх сабраны ў хрэста-

[115] Александровіч С. Першая рэцэнзія на «Дудку беларускую» Ф. Багушэвіча // Беларусь. 1958. № 3; Мальдзіс А. Творчае пабрацімства. С. 145.

матыі крытычных матэрыялаў С. Александровіча і В. Александровіч.

Найперш гэта вельмі добразычлівая рэцэнзія на «Дудку беларускую», надрукаваная ў маі 1892 г. у кракаўскім часопісе «Пшэглёнд повшэхны». «Гэта нібы сумнае рэха скаргі, якая далятае з далёкага і амаль забытага літоўскага краю паміж Дзвіною, Дняпром і Прыпяццю, лёс якога доўгі час звязаны быў з лёсам Польшчы»,— піша рэцэнзент Тытус Саподзька (Хрэст. Ал., *88*). Рэцэнзент хваліць прадмову, «у якой аўтар імкнецца абгрунтаваць права на развіццё роднай мовы», знаёміць чытача са зместам зборніка, адзначае дасканалую перадачу паэтам мясцовага каларыту, трапную абмалёўку ўзаемаадносін сялян з царскімі ўладамі. «Хто ведае мясцовае жыццё, той згодзіцца, што тыпы царскіх чыноўнікаў паказаны з сапраўдным талентам і псіхалагічнай глыбінёю»,— адзначалася ў рэцэнзіі (Хрэст. Ал., *89*). Указаўшы ў агульнай форме на «моўныя агрэхі, паланізмы і русіцызмы», рэцэнзент у цэлым дае станоўчую ацэнку кніжцы Мацея Бурачка (сапраўднага прозвішча паэта ён, паводле ўласных слоў, не ведае; псеўданім чамусьці падаўся яму «не вельмі трапным»). «Як бы там ні было, але тэндэнцыя зборніка ёсць сумленная і прыхільная да селяніна, таму шкада, што ў даных умовах цяжка нават думаць аб тым, каб «Дудка» магла распаўсюджвацца сярод беларускага народа, якому прынесла б не проста забаву, а сапраўдную карысць»,— такімі словамі завяршаецца гэты цікавы гісторыка-літаратурны дакумент (Хрэст. Ал., *90*).

Спачатку мы не мелі ніякіх звестак пра асобу рэцэнзента, які, па ўсім відаць, грунтоўна ведаў Беларусь і беларускую мову, лічыў выхад беларускай літаратуры на грамадскую арэну з'явай цалкам натуральнай і заканамернай. «Саподзька Тытус — польскі журналіст, відаць, родам з Беларусі»,— такі агульны каментарый даюць укладальнікі хрэстаматыі крытычных матэрыялаў (Хрэст. Ал., *90*). Сёння некаторыя звесткі ўжо ёсць. Як паведаміў нам Г. Каханоўскі, Т. Саподзька нарадзіўся каля 1845 г. хутчэй за ўсё ў Гродзенскай губерні, даследаваў помнікі археалогіі, перапісваўся з Акадэміяй навук у Пецярбургу. Памёр 27 мая 1896 г. У будучым было б цікава выявіць пра Т. Саподзьку дадатковыя матэрыялы. Думаецца, што ён павінен быў час ад часу вяртацца да тэматыкі, звязанай з беларускай літаратурай.

Цікава, што на з'яўленне «Дудкі беларускай», якую

можна вобразна назваць маніфестам новай беларускай літаратуры, адгукнуліся і кансерватыўныя галіцыйскія дзеячы. Адказам на «Дудку» была брашура гісторыка і этнографа А. Петрушэвіча «Новы «самастойны» рускі народ», выдадзеная ў Львове ў 1892 г. [116] Аўтар вымушаны прызнаць, што «вершы Мацея Бурачка вызначаюцца сваім гумарыстычным зместам і характарызуюць беларускі просты народ у яго нацыянальным жыцці-быцці». Асноўны ж пафас брашуры заключаецца ў бязглуздых палітычных абвінавачваннях. Апанент бачыў у выданні кніжкі перш за ўсё польскую інтрыгу, адмаўляў беларусам у праве на развіццё ўласнай літаратуры і культуры, сцвярджаў, што «кракаўскаму Мацею Бурачку не ўдасца для палітычных мэт праз фанетыку і польскі правапіс стварыць беларускі народ і літаратуру».

У 1894 г. рэцэнзію на «Дудку» змясцілі «Витебские губернские ведомости». Неўзабаве яе перадрукавалі «Гродненские губернские ведомости» (Хрэст. Ал., *91—92*). Падпісана яна крыптанімам «ъ». Як устаноўлена В. Бандарчыкам [117], яе аўтарам быў выдатны фалькларыст і этнограф Е. Раманаў. Цікава, што Раманаў убачыў у «Дудцы» штосьці супрацьлеглае ўбачанаму Петрушэвічам. У рэцэнзіі гаварылася: «З'яўленне гэтага зборнічка, нам здаецца, сведчыць аб тым, што абудзілася-такі, нарэшце, руская самасвядомасць у нашых спольшчаных беларусаў... Страціўшы веру ў польскую культуру, што звабіла іх продкаў, яны пачалі імкнуцца да зліцця са сваёй старой радзімай — Белай Руссю і перш за ўсё пачалі гаварыць і пісаць на сваёй роднай мове. Радасная з'ява гэта не павінна прайсці незаўважанай намі. Скажу больш: ва ўсведамленні сваёй сілы мы павінны памагчы ёй развіцца, павінны падтрымаць маласільных і хісткіх і па-сяброўску працягнуць руку аблудным братам, якія зноў стукаюцца ў дзверы дома роднай маці Русі» (Хрэст. Ал., *91*). Як бачым, Раманаў больш слушна, а галоўнае, цалкам прыхільна ацэньвае феномен зараджэння новай беларускай літаратуры, хоць і яго погляд таксама ў нейкай меры аднабаковы. Думаецца, што сам Багушэвіч, калі ён

---

[116] Гл. пра гэта: Александровіч С. Рэха «Дудкі беларускай» // Александровіч С. Кнігі і людзі. Мн., 1976. С. 161.

[117] Бондарчик В. К. Е. Р. Романов как белорусский этнограф: Автореф. дис. ... канд. ист. наук. Мн., 1958. С. 9; Ён жа. Еўдакім Раманавіч Раманаў. Мн., 1961. С. 99—100, 285.

знаёміўся з гэтай рэцэнзіяй, не пагадзіўся б з настойлівым і ваяўнічым супрацьпастаўленнем культур беларускай і польскай.

Да недахопаў зборніка рэцэнзент аднёс грамадскасацыяльную «тэндэнцыйнасць» паэта, паланізмы, нявытрыманасць, на яго думку, беларускай гаворкі, узятай за аснову. Як непажаданы быў адзначаны польскі шрыфт. Разам з тым Раманаў праявіў добразычлівасць і пэўную шырыню поглядаў, лічыў, што недахопы падобнага роду «часовыя і пры далейшым развіцці кірунку, што пачаўся, непазбежна знікнуць». На думку рэцэнзента, зборнік «уяўляе немалую цікавасць і выяўляе ў аўтары як паэтычную жылку, так і неабходную назіральнасць» (Хрэст. Ал., *92*). Для азнаямлення чытачоў з музай Бурачка-Багушэвіча Раманаў прывёў у рэцэнзіі поўны тэкст верша «У судзе».

Як меркаваў С. Александровіч, крытычны струмень у рэцэнзіі свядома перабольшаны рэцэнзентам. «Магчыма, аўтар пад такой звышдыпламатычнай заслонай выкарыстаў афіцыйнае выданне, каб пазнаёміць беларускую грамадскасць з кнігай на роднай мове, якая лічылася афіцыйна забароненай»[118]. З гэтым можна пагадзіцца толькі часткова. Несумненна, гэта быў смелы ўчынак з боку Раманава, прадыктаваны яго шчырай зацікаўленасцю ў развіцці беларускай культуры. Разам з тым і сапраўды лібералу Раманаву далёка не ўсё павінна было падабацца ў творчасці паэта, які стаяў на цвёрдых пазіцыях рэвалюцыйнага дэмакратызму.

Вядома таксама кароткая рэцэнзія-анатацыя на апавяданне «Тралялёначка», якая з'явілася ў 1893 г. у часопісе «Край». Рэцэнзія надрукавана без подпісу, пад рубрыкай «Новыя кнігі, атрыманыя рэдакцыяй «Краю». Рэцэнзент коратка і павярхоўна пераказаў змест апавядання і ў канцы рэзюміраваў: «Якая мэта той кніжачкі і для каго яна напісана,— адгадаць цяжка» (Хрэст. Ал., *91*). Для нас сёння відавочна, што аўтар нататкі не ўбачыў мастацкай і ідэйнай значнасці твора Ф. Багушэвіча (дарэчы, апавяданне выйшла ананімна і імені аўтара рэцэнзент не ведаў). Твор якраз вельмі трапна і чуйна падмячаў важнейшыя сацыяльныя зрухі ў беларускай парэформеннай вёсцы, адлюстроўваў у мастацкіх формах расслаенне сялянства, нараджэнне сельскай буржуазіі.

---

[118] Александровіч С. Кнігі і людзі. С. 161.

Атрымалі сваю ацэнку, праўда, у агульнай форме, і публіцыстычныя выступленні Багушэвіча ў «Краі» (як мы ведаем, гэты бок яго дзейнасці быў абачліва прыкрыты псеўданімамі). Газета «Виленский вестник» у № 79 за 1891 г. выказала незадавальненне, што карэспандэнцыі «Краю» з Вільні (прозвішча карэспандэнта не называлася) занадта тэндэнцыйныя, у іх зашмат нараканняў на грамадскія недахопы, на «цяжкія часы».

У цэлым, як мы бачым, прыжыццёвых крытычных водгукаў у друку на творчасць Багушэвіча было параўнальна няшмат, прычым часцей за ўсё пры ацэнцы яго кніг прэваліравалі палітычныя, а не чыста літаратурныя меркаванні. Куды больш шчырая і высокая ацэнка творчасці выдатнага пісьменніка змяшчалася ў перапісцы сучаснікаў (пісьмы Э. Ажэшкі да Я. Карловіча за 1887—1888 гг. [119]), у непасрэдных бесцэнзурных водгуках прагрэсіўных дзеячаў (верш А. Гурыновіча «Дзякуй табе, браце, Бурачок Мацею...» [120]).

Мастацкія творы Абуховіча і Гурыновіча пры жыцці не публікаваліся, не было на іх, натуральна, і друкаваных водгукаў. Гэта ж у цэлым датычыць і Тапчэўскага. Праўда, яго верш «Панскае ігрышча» (калі прыняць такую атрыбуцыю), як вядома, выклікаў своеасаблівую палеміку. Ф. Багушэвіч перадрукаваў яго ў зборніку «Смык беларускі», змясціўшы побач свой «Адказ». У прадмове Багушэвіч пісаў: «...чытаў и і так перапісаныя вершыкі якогасьці Юркі «Панскае ігрышча», гдзе Юрка надта дзівуецца і як бы завідуе панам тым, каторыя, можа, і больш ад Юркі таго працуюць, толькі, ведама, вучоныя, дык лягчэй і спарней. Я перапісаў і сюды тое «Ігрышча», няхай выбачае пан Юрка, але дальбог аж злосць узяла, што Юрка спадабаў тое, што толькі блазну можа спадабацца. Я тыкі і чыркнуў яму «Адказ», але так думаю, што гэта ён, смеючыся з нашага цёмнага брата, напісаў; гэтак думаў, што дурны мужык, дык ужо нічога і не відзе, і не знае! Ой, памыліўся!» [121] Ацэнка, як бачым, крытычная, можна сказаць, нават адмоўная. Гэта было звязана з тым, што Багушэвіч тады якраз выпрацоўваў рэвалюцыйна-дэмакратыч-

---

[119] Гл.: Выказванні аб беларускіх пісьменніках другой паловы XIX стагоддзя // Беларускія пісьменнікі другой паловы XIX ст.: Зб. тэкстаў. Мн., 1956. С. 330.

[120] Беларускія пісьменнікі другой паловы XIX ст. С. 215.

[121] Багушэвіч Ф. Творы. Мн., 1967. С. 74.

ную эстэтыку і яму неабходна было адмежавацца ад пісьменнікаў, што, на яго думку, схіляліся да лібералізму або займалі невыразную ідэйную пазіцыю.

Звестак пра прыжыццёвыя крытычныя матэрыялы, звязаныя з пісьменніцкай працай Янкі Лучыны, у нашым літаратуразнаўстве пакуль што няшмат. Пра надзвычай прыхільны водгук Марыі Канапніцкай аб творчасці Лучыны ў пісьме да паэта размова ішла вышэй. Выяўлены і асобныя раннія згадкі з ацэнкай твораў Лучыны ў польскім друку. Цікава, што, як і іншыя беларускія пісьменнікі таго часу, паэт часцей за ўсё выступаў у гэтых згадках пад псеўданімам. Рэцэнзенты наўмысна не раскрывалі або не ведалі яго сапраўднае імя. Так, у 1888 г. у часопісе «Край» віталася з'яўленне «новага таленту — Яна Дамбровы», які «ў адной з замежных газет кранууўся ліры Сыракомлі і здабыў з яе голас чысты і моцны»[122]. Як устанавіў У. Мархель, Дамброва — адзін з псеўданімаў Лучыны, размова ішла пра публікацыю ў парыжскім часопісе «Глос Польскі» яго верша «Лірнік вясковы». Праз чатыры гады ў тым жа часопісе «Край», гаворачы пра выхад у свет чарговага «Северо-Западного календаря», А. Ельскі з захапленнем адзначыў: «Жамчужынай выдання з'яўляецца беларускі верш, наследаванне з Сыракомлі «Горсць пшаніцы». Высокая тут мараль для нашага народа, цудоўная перадача зместу на беларускай гаворцы сведчыць, што гэта не толькі простая гаворка, але што на ёй можна і выказвацца і пісаць гэтак жа добра, як і на іншых мовах. Дзякаваць за гэтую каштоўнасць належыць «Янку Лучыну» (напэўна, псеўданім). Такіх рэчаў беларускаму народу патрэбна чым пабольш»[123]. Як бачым, апрача непасрэднай высокай ацэнкі твора Лучыны А. Ельскі скарыстаў нагоду, каб сказаць некалькі прыхільных слоў у абарону любай яму беларускай мовы.

Высока ацэньвалася літаратурная праца Лучыны ў некралогах, змешчаных у польскай прэсе, у прадмове да зборніка польскіх твораў Лучыны, які выйшаў у 1898 г., пасля смерці паэта, і ў рэцэнзіях на гэты зборнік[124].

---

[122] Мархель У. Крыніцы памяці. С. 95.

[123] Там жа. С. 141.

[124] Гл.: Мальдзіс А. Першыя галасы прызнання // Беларусь. 1965. № 1. С. 25; Пачынальнікі. С. 474—476; Александровіч С. Х., Александровіч В. С. Беларуская літаратура XIX — пачатку XX ст. С. 115—122; Казбярук У. Літаратурныя клопаты Янкі Лучыны // Полымя. 1981. № 8. С. 235.

Не даследаваны нашым літаратуразнаўствам у колькі-небудзь поўным выглядзе прыжыццёвыя крытычныя матэрыялы пра творчасць Аляксандра Ельскага. Агульная ацэнка яго творчасці і дзейнасці дадзена ў 1903 г. у «Вялікай агульнай ілюстраванай энцыклапедыі» (т. 31—32). У артыкуле Леанарда Лепшага (крыптанім «zy») асобна вылучана двухтомная праца Ельскага «Нарыс гісторыі краёвай гаспадаркі ў супастаўленні з нацыянальнымі звычаямі...» (назва і выхадныя даныя прыведзены недакладна), з артыкулаў названы: «Экскурсія ў Шчорсы», «Экскурсія ў Нясвіж, Клецк, Пінск і Кобрын», «Экскурсія ў польскія Інфлянты», «Нататкі з экскурсіі ў Слуцк», «Карцёжніцтва і ўвогуле азартныя гульні і забавы ў нас у святле традыцый і айчыннай літаратуры», «Аб грамадзянскай самаахвярнасці, алігархіі і кульце чужыны», біяграфіі Д. Манюшкі, К. Буйніцкага, графа Э. Гутэн-Чапскага, згадваліся артыкулы па беларусазнаўству ў энцыклапедыі, «Краі» і «Хвілі». Пра беларускамоўную творчасць сказана коратка: «Апрача таго, выдаў на беларускай мове пераклад 1-й кнігі «Пана Тадэвуша» А. Міцкевіча, а таксама тры брашуры супраць дэмаралізацыі народа, эміграцыі і п'янства».

Як бачым, агульны вобраз беларускай аператыўнай крытыкі XIX ст. складваецца з асобных мазаічных кавалачкаў і фрагментаў. Поўная яе гісторыя яшчэ не напісана.

*
* *

Надзвычай важнай групай гісторыка-літаратурных крыніц з'яўляюцца крыніцы да біяграфій пісьменнікаў.

Найперш тут вылучаюцца аўтабіяграфічныя матэрыялы: аўтабіяграфіі, дзённікі, успаміны саміх пісьменнікаў.

Трэба адразу ж адзначыць, што такога роду матэрыялаў мінулага стагоддзя дайшло да нас мала.

Вядома аўтабіяграфічная нататка В. Савіча-Заблоцкага, упісаная ім у 1891 г. у альбом знанага рускага гісторыка і выдаўца М. Сямеўскага «Знакомые. Книга автографов», які захоўваецца ў Пушкінскім доме ў Ленінградзе. Невялікая па памерах нататка змяшчае вельмі шмат інфармацыі, дае даследчыку ключ да ўсёй даволі складанай біяграфіі пісьменніка. Нататка напісана на рус-

кай мове, у трэцяй асобе, надзвычай сцісла і ёмiста і выглядае як артыкул для біяграфічнага слоўніка. Вось яе пачатак: «Войслав-Казимир Константинович Сулима-Савич-Заблоцкий (comte Soulima во Франции) родился 1850 [г.] дня 3-го марта в имени своих родителей, Константина-Станислава Викентьевича Сулимы-Савич-Заблоцкого и Станиславы Ивановны княжны Святополк-Мирской, называемом Пончаны, в Дисненском уезде Виленской губернии» (Пачынальнікі, *452*). Далей ідуць звесткі пра навучанне ў Віленскай гімназіі і замежных універсітэтах, пра літаратурную дзейнасць, шырокія грамадскія сувязі (сярод сяброў і блізкіх знаёмых называюцца Ю. Крашэўскі і Дж. Гарыбальдзі), пра акалічнасці вяртання ў Расію. Цікава, што Савіч-Заблоцкі называе сябе «пісьменнікам польскім, рускім, французскім і нямецкім» і нідзе ў даным выпадку не гаворыць пра сваю творчасць на беларускай мове, хоць нататкa завяршаецца ўказаннем на беларускія карані пісьменніка: «В 1891 [г.], в ноябре, приехал в С.-Петербург с намерением присоединиться к православной церкве, вероисповеданию его белорусских предков» (Пачынальнікі, *453*). Гэта звязана з пэўным становішчам самога беларускага пісьменства ў той перыяд. Не адразу новая нацыянальная літаратура адваёўвала сабе месца пад сонцам, дабівалася прызнання ў тагачасным грамадстве. Так што пэўная «мімікрыя» з боку некаторых літаратараў цалкам зразумелая.

Вядомыя таксама аўтабіяграфічныя пісьмы А. Ельскага. Адно з іх выкарыстоўваецца ў артыкуле пра пісьменніка ў «Вялікай агульнай ілюстраванай энцыклапедыі», пра які толькі што ўспаміналася. «Натата біяграфічна» 1900 г. на 8 лістах захоўваецца ў акадэмічнай бібліятэцы ў Вільнюсе сярод матэрыялаў гісторыка і калекцыянера Л. Узембло (ф. 151—1021).

З пісьменніцкіх успамінаў XIX ст. адзначым мемуары Ф. Савіча і А. Абуховіча. Есць мемуарныя мясціны і ў «Беларусі» А. Рыпінскага (пра сустрэчы з дзекабрыстам В. Кюхельбекерам у Дзінабургскай крэпасці), трапляюцца аўтабіяграфічныя згадкі і сведчанні ў творах і перапісцы В. Дуніна-Марцінкевіча, У. Сыракомлі, Ф. Багушэвіча і іншых пісьменнікаў. Але найперш нас цікавяць мемуары-ўспаміны ў поўным сэнсе слова.

Мемуары паэта-рэвалюцыянера Францішка Савіча, сасланага царызмам на Каўказ у салдаты па гучнай справе Ш. Канарскага, напісаны на пачатку 1840-х гадоў

на Украіне, дзе ён пад імем доктара Гельгега хаваўся ад царскіх улад пасля ўцёкаў з салдатчыны. Надрукаваны яны ў 1876 г. у Кракаве на польскай мове ў кнізе Э. Гяленіюша (Іваноўскага) «Успаміны мінулых гадоў».

Адным з першых у нашым літаратуразнаўстве ўспаміны Савіча вывучаў С. Александровіч, які пісаў: «На якой мове яны былі напісаны — невядома. Е. [Э.] Гяленіюш, называючы Ф. Савіча ў сваіх заўвагах да запісак русінам, г. зн. беларусам, нічога не гаворыць пра гэта» [125]. Усё ж думаецца, што ўспаміны Савіча на польскай мове і пісаліся, таму што ў першай палове XIX ст. сфера ўжытку беларускай мовы была яшчэ досыць абмежаванай. Час беларускай прозы, у тым ліку мемуарнай і эпісталярнай, яшчэ не надышоў.

Успаміны Савіча — надзвычай важная дакументальная крыніца як для ягонай біяграфіі, так і для ўсёй гісторыі грамадскага руху на Беларусі. Разам з тым гэта і мастацкі твор, які выйшаў з-пад пяра таленавітага літаратара. С. Александровіч у кароткай характарыстыцы гэтага гісторыка-літаратурнага дакумента адзначае «мясціны, напісаныя з вялікім майстэрствам і пераканальнасцю (сустрэча з Канарскім у Лісаве, катаванні вязняў Трубяцкім, пакуты ў карцэры, сцэна ў турме пасля зачытання прысуду і інш.)» [126]. У якасці прыкладу прыводзіцца апісанне ўцёкаў Савіча з Кізляра, дзе ён служыў у салдатах. Вось гэта месца, дзе, дарэчы, выразна адчуваецца ўплыў «Крымскіх санетаў» А. Міцкевіча: «Спачатку было цёмна, толькі мігацелі зоркі, а калі а гадзіне першай выйшаў за Кізляр, узышоў месяц, асвяціў раўніну стэпу, поўную прывідаў, далёкую і ціхую; аглянуўся на горад і горы Каўказа, горкія слёзы жалю засланілі мне вочы, не мог глядзець. Навокал у стэпе быў такі спакой і цішыня, што, здавалася, нібы голас з радзімай Літвы (Беларусі і Літвы.— *Г. К.*) даходзіць да мяне, але гэта быў толькі голас надзеі, голас майго сэрца!» [127]

Шырока выкарыстоўвае ўспаміны Савіча гісторык А. Смірноў у сваім вядомым нарысе пра беларускага рэвалюцыянера і паэта [128]. Аднак грунтоўнага крыніцазнаў-

---

[125] Александровіч С. Старонкі братняй дружбы. Мн., 1960. С. 171.
[126] Там жа. С. 171—172.
[127] Там жа. С. 172.
[128] Смірноў А. П. Франц Савіч: З гісторыі беларуска-польскіх рэвалюцыйных сувязей 30—40-х гадоў XIX ст. Мн., 1961.

чага аналізу гэтых успамінаў яшчэ не рабілася. Была б карыснай у будучым поўная публікацыя гэтай крыніцы ў перакладзе на беларускую мову і з адпаведнымі навуковымі каментарыямі.

Шмат даюць гісторыкам літаратуры мемуары Альгерда Абуховіча, напісаныя ў канцы XIX ст. і надрукаваныя ўпершыню ў газеце «Гоман» у 1916 г. Пісаліся яны паступова, ад выпадку да выпадку, і ўключаюць некалькі запісаў дзённікавага характару. Мы будзем яшчэ мець нагоду спыніцца на іх больш грунтоўна.

Надзвычай карыснымі, а часам проста неабходнымі для ўстанаўлення біяграфічных фактаў з'яўляюцца і названыя раней катэгорыі крыніц: тыя ж выданні і рукапісы твораў, эпісталярныя дакументы, прыжыццёвыя крытычныя водгукі.

Да ліку вельмі важных біяграфічных крыніц адносяцца цэнзурныя матэрыялы (яны называліся ўжо намі ў групе крытычных водгукаў), метрычныя і генеалагічныя дакументы, матэрыялы аб вучобе і службе. Такія матэрыялы могуць быць як архіўнымі, так і друкаванымі. У прыватнасці, звесткі аб службе змяшчаліся ў разнастайных памятных кніжках, адрас-календарах, газетах. Так, 12 сакавіка 1860 г. «Витебские губернские ведомости» апублікавалі кароткае паведамленне, што Фелікс Тапчэўскі, канцылярскі служыцель Віцебскага земскага суда, звольнены са службы «по прошению по домашним обстоятельствам». Перад намі рэдкі, каштоўны факт з малавывучанай біяграфіі вядомага нашага паэта.

Трывалае месца сярод біяграфічных крыніц займаюць некралогі, успаміны сучаснікаў і нашчадкаў. Вядомы цэлыя выдавецкія серыі літаратурных мемуараў, выданняў тыпу «Пісьменнік ва ўспамінах сучаснікаў». Па беларускай літаратуры XIX ст. мемуарных крыніц значна менш, але тое-сёе ёсць. Прыкладам могуць служыць вельмі змястоўныя ўспаміны І. Яцкоўскага пра П. Багрыма, А. Плуга пра В. Дуніна-Марцінкевіча, З. Нагродскага пра Ф. Багушэвіча, Т. Кулешы (Я. Дылы) пра А. Абуховіча. Іх ніяк не можа абмінуць біёграф гэтых пісьменнікаў. Асаблівасць успамінаў у тым, што яны даносяць жывы вобраз пісьменніка і яго акружэння, а нярэдка нават змяшчаюць каштоўны тэксталагічны матэрыял —невядомыя па іншых крыніцах радкі, варыянты і цэлыя вершы.

Часам успаміны могуць мець форму пісьмаў, адказаў на пытанні і г. д. Цікавым укладам у багушэвічазнаўства

была, напрыклад, публікацыя У. Содалем пісьмаў унучкі Ф. Багушэвіча С. Тамашэўскай, з якой публікатар перапісваўся ў 1975—1979 гг.[129]

Больш падрабязна на біяграфічных крыніцах, іх ролі ва ўзнаўленні жыццяпісаў нашых літаратараў мы спынімся ў раздзеле «Прага дакладнасці».

*

* *

Наступнай адметнай катэгорыяй гісторыка-літаратурных крыніц, якая, дарэчы, таксама шырока выкарыстоўваецца і біёграфамі, з'яўляюцца іканаграфічныя матэрыялы — партрэты і здымкі пісьменнікаў і іх блізкіх. Зразумела, што з партрэтаў нас у даным выпадку найбольш цікавяць зробленыя мастакамі-сучаснікамі з натуры або па памяці. І гэта не дзіўна — у адрозненне ад партрэтных прац мастакоў больш позняга часу (нават самых удалых) такія выявы маюць характар непасрэдных дакументальных сведчанняў. Надзвычай каштоўныя для нас і апісанні знешнасці пісьменніка (паводле ўспамінаў сучаснікаў або ў выглядзе афіцыйных «прыкмет» — пашпартных ці вышукных).

У кнізе «Спасцігаючы Дуніна-Марцінкевіча» побач з апісаннямі знешнасці мы разгледзелі вядомыя фатаграфіі Беларускага дудара (па сутнасці, іх пакуль што ўсяго дзве — партрэтная і групавая), паспрабавалі ўдакладніць час і акалічнасць іх стварэння. Пры гэтым высветлілася дадатковая каштоўнасць фатаграфій як крыніцы для ўстанаўлення грамадскіх сувязей і сімпатый пісьменніка. Зробленыя на пачатку бурнага 1863 г. здымкі дакументуюць яго сувязі з удзельнікамі вызваленчага руху і паўстання Кастуся Каліноўскага. Ды і сам аўтар здымкаў — першы мінскі фатограф А. Прушынскі за падазроныя сувязі быў неўзабаве сасланы ў Сібір. Іканаграфія Беларускага дудара можа служыць павучальным прыкладам таго, якімі шляхамі і метадамі вырашаюцца праблемы датавання здымкаў і ідэнтыфікацыі знятых асоб.

Як выглядае справа з іканаграфічнымі матэрыяламі іншых пачынальнікаў беларускай літаратуры новага часу?

---

[129] Лісты Станіславы Тамашэўскай / Публікацыя У. Содаля // Полымя. 1990. № 3. С. 159—171.

Партрэты П. Багрыма, Ф. Савіча, Я. Вуля да нас не дайшлі, і мы не ўяўляем сабе, як Савіч або Вуль выглядалі. Што да Багрыма, то Сцяпан Александровіч запісаў пра яго ўспаміны аднавяскоўцаў: «Росту ён быў вышэй сярэдняга, сутулаваты, твар круглы, вусы сівыя, барада брытая,— такім застаўся ён у памяці крошынцаў»[130]. З. Азгур, кіруючыся гэтым апісаннем і інтуіцыяй, стварыў скульптурны партрэт Багрыма, які ў пэўнай ступені носіць, зразумела, умоўны характар[131].

Алейны партрэт Вікенція Равінскага, якога мы лічым аўтарам «Энеіды навыварат», знаходзіўся да Кастрычніцкай рэвалюцыі ў радавым маёнтку Спас-Вуглах на Смаленшчыне. Цяпер ён невядомы. Але захавалася апісанне партрэта, зробленае ў наш час праўнукам паэта. Ёсць таксама партрэт паэтавага брата, фатаграфіі нашчадкаў. На падставе гэтых разнастайных матэрыялаў мастак П. Драчоў стварыў у 1989 г. верагодны партрэт пачынальніка нашай літаратуры. Спроба аказалася надзвычай удалай[132].

Выявы іншых беларускіх пісьменнікаў дарэформеннага перыяду прадстаўлены ў выглядзе фатаграфій або прыжыццёвых мастацкіх партрэтаў, выкананых у рознай тэхніцы.

Цудоўны літаграфаваны партрэт Яна Баршчэўскага, выкананы мастаком Каралем Жукоўскім, апублікаваны ў 1844 г. у другім томе «Рочніка літэрацкага» Р. Падбярэскага. Ён неаднойчы рэпрадуктаваўся[133]. К. Жукоўскаму належыць таксама гравюра «Ян Баршчэўскі над берагам Нявы ў Пецярбургу»[134]. Больш рэдкі, але таксама вельмі добры жывапісны партрэт Баршчэўскага, напісаны мастаком Каралем Рыпінскім, захоўваецца ў Мастацкім музеі ЛітССР у Вільнюсе (рэпрадукцыю гл. у зборніку «Пачынальнікі»). Мастацтвазнаўцы адзначаюць, што творчаму метаду Рыпінскага была ўласціва вялікая

---

[130] Александровіч С. Незабыўнымі сцежкамі. 2-е выд. Мн., 1962. С. 17.

[131] Рэпрадукцыю гл.: Беларуская літаратура XIX ст.: Хрэстаматыя. Мн., 1971. С. 65; Лойка А. А. Гісторыя беларускай літаратуры: Дакастрычніцкі перыяд. Мн., 1977. Ч. 1. С. 69.

[132] Киселев Г. Портрет классика // Нёман. 1992. № 5.

[133] Гл.: Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Т. 2. С. 39; Мальдзіс А. Падарожжа ў XIX стагоддзе. С. 26.

[134] Зямкевіч Р. Ян Баршчэўскі — першы беларускі пісьменнік XIX ст. Вільня, 1911. С. 4.

дакладнасць. «Рыпінскі зусім не ідэалізаваў партрэтуемыя твары,— спецыяльна адзначае Л. Дробаў.— Ён даваў аб'ектыўнае адлюстраванне сваіх сучаснікаў. У гэтых адносінах партрэты Рыпінскага ўяўляюць пэўную каштоўнасць для гісторыі як іканаграфічны матэрыял»[135].

Нарэшце, паясны партрэт Баршчэўскага з гусіным пяром у руцэ быў апублікаваны ў 1912 г. у кнізе «З аколіц Дзвіны», што выйшла ў Віцебску (с. 226). Хутчэй за ўсё ён належаў мясцоваму калекцыянеру В. Федаровічу. Цяпер лёс партрэта невядомы.

Надзвычай падрабязнае, рэалістычнае апісанне знешняга выгляду Яна Чачота лепельскага перыяду прыводзіць польскі гісторык Г. Масціцкі паводле рукапісных успамінаў С. Каверскага: «У той час Чачот мог мець каля 40 год. Быў менш як сярэдняга росту, трохі пахілы, вельмі павольных рухаў. Валасы меў цёмныя, ужо добра парадзелыя і гладка прычасаныя, рысы няправільныя, задоўгі падбародак, задоўгі просты нос, скулы занадта выдаваліся. Гэтую непрыгожую постаць асвятлялі вельмі блакітныя вочы, поўныя тугі і слодычы. Меў чароўную ўсмешку і вялікі пукаты лоб, пакрыты заўчаснымі зморшчынкамі. Няправільнасць рысаў кідалася ў вочы тым больш, што Чачот не насіў ні вусоў, ні барады. Звярталі ўвагу таксама маленькія, амаль жаночыя, зграбныя, але заўсёды надзвычай чырвоныя рукі, баязлівая паходка, сціпласць, лагоднасць, дабрыня і дзіцячая чуллівасць»[136]. Такі выдатны «слоўны партрэт» варты самых лепшых мастакоўскіх адлюстраванняў і фатаграфій.

З партрэтных выяваў Яна Чачота адзначым вядомую літаграфію (або дрэварыт?) Г. Робера па малюнку мастака Ю. Палькоўскага. У добрай кніжцы К. Цвіркі «Той курган векавечны...» (1985), а таксама ў падрыхтаваным ім зборніку твораў Чачота «Навагрудскі замак» (1989), на жаль, подпіс недакладны: «Ян Чачот. Дрэварыт па малюнку *Польскага*». Рэпрадукцыі і перамалёўкі з літаграфіі друкаваліся яшчэ ў XIX ст. (гл., напрыклад, перамалёўку ў польскай «Вялікай агульнай ілюстраванай энцыклапедыі», т. 14, 1895, с. 797). Някепская рэпрадукцыя літаграфіі прыведзена ў «Гісторыі

---

[135] Дробов Л. Н. Живопись Белоруссии XIX — начала XX в. Мн., 1974. С. 66—67.

[136] Mościcki H. Pod znakiem Orła i Pogoni: Szkice historyczne. Wyd. 2. Lwów; Warszawa, 1923. S. 227.

польскай фалькларыстыкі. 1800—1863» (Асалінэум, 1970) са спасылкай на бібліятэку Інстытута літаратурных даследаванняў ПАН (спецыяльныя зборы, сігн. D13). Гэта выкананы ў класіцыстычным стылі профільны партрэт у выглядзе барэльефа ў авальнай рамцы. Як і кожны класіцыстычны партрэт, адлюстраванне тут ідэалізаванае. Да таго ж мастак-варшавянін Юзаф Палькоўскі (1820—1895), можна думаць, асабіста з Чачотам не сустракаўся і карыстаўся пры стварэнні партрэта нейкімі дапаможнымі матэрыяламі. Той жа гісторык Масціцкі адзначаў: «Вядомая пагрудная выява, па малюнку Палькоўскага, непадобная, больш верагодным з'яўляецца малюнак Р. Вільчынскага 1847 года...»[137]

Маецца на ўвазе падкрэслена бытавая, рэалістычная замалёўка аблічча Чачота, надрукаваная ў 1898 г. у «Памятнай кнізе на ўшанаванне сотай гадавіны са дня нараджэння Адама Міцкевіча», якая выйшла ў Варшаве (т. 1, с. 337). Пісьменнік адлюстраваны напаўляжачым у ложку на высока ўзбітых падушках. Ён схуднелы і зарослы барадою. Пад малюнкам подпіс па-польску: «Ян Чачот, народжаны ў 1794 г. (у сапраўднасці ў 1796.— *Г. К.*) — памёр у Друскеніках 11 жніўня г[ода] г[этага] 1847— пахаваны ў Ротніцы. Рысаваў з натуры 27 ліпеня г[ода] г[этага] 1847. Р. Вільчынскі». Малюнак змешчаны таксама праз тры гады ў «Біяграфічным альбоме заслужаных палякаў і полек XIX стагоддзя» (т. 1, 1901) з каштоўнай для нас заўвагай: «Пададзеная вышэй акварэль знаходзіцца ў зборах Аляксандра Ельскага ў Замосці» (новае пацверджанне вялікай каштоўнасці замосцкіх збораў Ельскага). Пры публікацыі гэтага малюнка ў газеце «Літаратура і мастацтва» за 11 жніўня 1967 г. другая частка подпісу зроблена недакладна: «Ян Чачот на смяротным ложку. Малюнак невядомага мастака. (Публікуецца ўпершыню)». У сапраўднасці малюнак, як мы бачылі, ужо не адзін раз публікаваўся, вядомы і мастак. У 1969 г. рэпрадукцыя была змешчана ў кнізе А. Мальдзіса «Падарожжа ў XIX стагоддзе» (с. 24) з правільным подпісам: «Ян Чачот за некалькі дзён да смерці. Малюнак Р. Вільчынскага».

А вось яшчэ адзін цікавы след для даследчыкаў беларускай пісьменніцкай іканаграфіі XIX ст.: нейкая мініяцюрная выява Чачота з прыватнай калекцыі экспа-

[137] Mościcki H. Pod znakiem Orła i Pogoni. S. 227.

навалася ў 1912 г. на выставе мініяцюр у Варшаве [138]. Магчыма, размова ідзе пра медальён работы Р. Слізня, звесткі пра які можна знайсці ў навуковай літаратуры [139]. У Рафала Слізня, мастака-аматара, Чачот жыў некаторы час у апошні перыяд свайго жыцця.

Добрае партрэтнае адлюстраванне маладога Аляксандра Рыпінскага з'явілася ў 30-х гадах у альбоме Ю. Страшэвіча «Палякі і полькі ў рэвалюцыі 29 лістапада 1830 г.», які выйшаў у Парыжы. Перад намі прафесійна зроблены групавы літаграфаваны партрэт А. Рыпінскага і трох яго таварышаў па Дзінабурскай школе прапаршчыкаў (Л. Плятар, Я. Клёт, А. Пангоўскі). Іх прозвішчы пазначаны ў нізе літаграфіі, прыведзены таксама факсіміле іх подпісаў. Апошнім часам рэпрадукцыя з гэтай літаграфіі апублікавана ў кнізе «Пачынальнікі».

Фатаграфія Рыпінскага ўпрыгожвала лонданскі двухтомнік яго паэзіі 1853 г. Ёсць усе падставы думаць, што гэта наогул першая па часе фатаграфія беларускага пісьменніка. Дзіва што — сам Рыпінскі захапляўся фотамастацтвам, быў піянерам фатаграфіі. Згаданы двухтомнік Рыпінскага цяпер вялікая рэдкасць. А. Мальдзіс, які пазнаёміўся з гэтым выданнем у Лондане, апісвае выяву так: «Рыпінскага мы бачым ужо лысага, з доўгімі валасамі збоку, з вусамі і барадой. У нечым ён мне здаўся падобны на Дон Кіхота, якім яго традыцыйна малююць у выданнях Сервантэса» [140].

Паясны партрэт Рыпінскага ў сталым узросце, з гусіным пяром у руцэ, часта рэпрадуктуецца ў нашых гісторыка-літаратурных працах: «Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры» (т. 2, 1969), хрэстаматыя літаратуры XIX ст. (1971, 1988), «История белорусской дооктябрьской литературы» (1977).

Як мы ўжо згадвалі, фатаграфію Арцёма Вярыгі-Дарэўскага расшукваў у 1913 г. яшчэ Рамуальд Зямкевіч. Доўгі час гісторыкі беларускай літаратуры мелі ў сваім распараджэнні толькі адзін яго партрэт — графічную перамалёўку з фатаграфіі, арыгінал якой некалі знаходзіўся ў Беларускім музеі ў Вільні. Упершыню ён апублі-

---

[138] Mościcki H. Pod znakiem Orła i Pogoni. S. 227.

[139] Bieliński J. Uniwersitet wileński (1579—1831). Kraków, 1899—1900. T. 2. S. 764.

[140] Мальдзіс А. З літаратуразнаўчых вандраванняў. Мн., 1987. С. 103.

каваны, наколькі вядома, у «Гісторыі» М. Гарэцкага [141]. Дзе арыгінал цяпер, невядома. Хутчэй за ўсё ён прапаў. Прынамсі, ў Гісторыка-этнаграфічным музеі ЛітССР, куды трапіла большая частка іканаграфічнага матэрыялу з Беларускага музея і куды мы звярталіся ў свой час з адпаведным запытаннем, такой фатаграфіі не аказалася.

У 60-х гадах у судова-следчай справе віленскага палявога аўдытарыята намі знойдзены групавы здымак 12 асоб, у тым ліку А. Вярыгі-Дарэўскага, вядомага гітарыста М. Сакалоўскага, піяніста А. Хадэцкага, удзельніка рэвалюцыйнага руху Б. Люткевіча і інш. [142] Фатаграфія была далучана да справы паліцыяй пасля арышту Вярыгі. На адвароце рукой Вярыгі пазначана: «Д[ня] 18 студзеня 1860 г. Віцебск» і пералічаны знятыя асобы. Здымак быў зроблены ў сувязі з прыездам у Віцебск музыкантаў Сакалоўскага і Хадэцкага. Ён не толькі даносіць партрэтныя рысы пісьменніка, але, як і ў выпадку з фатаграфіямі В. Дуніна-Марцінкевіча, дае дадатковы матэрыял пра яго грамадскія сувязі. Упершыню здымак апублікаваны ў нашай кнізе «Загадка беларускай «Энеіды» (1971), рэпрадуктаваўся таксама ў зборніку «Пачынальнікі» (1977).

Найбольш пашыраны партрэтны здымак Вінцэся Каратынскага ў пажылым узросце (гл. «Гісторыю беларускай дакастрычніцкай літаратуры», т. 2, с. 47; кнігу А. Мальдзіса «Падарожжа ў XIX стагоддзе», с. 68; хрэстаматыю літаратуры XIX ст., 1971, с. 118). Малюнак (гравюра?) выдатнай якасці паводле гэтай фатаграфіі змешчаны ў 1902 г. у другім томе «Біяграфічнага альбома заслужаных палякаў і полек XIX стагоддзя». Пад партрэтам факсіміле подпісу Каратынскага. Малады Каратынскі адлюстраваны на групавым здымку супрацоўнікаў «Кур'ера віленьскага», змешчаным у свой час у польскім часопісе «Літва і Русь» (1912, т. 3, сш. 2), а таксама ў кнізе М. Браништэйна «Адам-Ганорый Кіркор, выдавец, рэдактар і ўладальнік друкарні ў Вільні» (Вільня, 1930). Паводле інфармацыі У. Мархеля, арыгінал гэтага здымка ёсць у фондзе У. Сыракомлі ў Цэнтральным архіве літаратуры і мастацтва ЛітССР у Вільнюсе. Партрэт Каратынскага, «вычлэнены» з гэтага здымка, друкаваўся ў газеце

[141] Гл.: Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літаратуры. Вільня, 1920. С. 95.

[142] ЦДГА ЛітССР, ф. 1248, воп. 2, спр. 1247, л. 259.

«Літаратура і мастацтва» за 14 жніўня 1981 г. (публікацыя У. Мархеля). У польскай прэсе (часопіс «Кроніка Варшавы», 1982, № 2, с. 66) рэпрадуктаваўся таксама акварэльны партрэт Каратынскага работы мастака Ф. Кастшэўскага: абрóслы барадой і прыгнуты гадамі пісьменнік задумліва сядзіць за сталом, на падлозе сям-там старыя вялікія тамы. Арыгінал партрэта — ў Нацыянальным музеі ў Варшаве.

У парэформенны перыяд фатаграфаванне шырэй пранікла ў грамадскі ўжытак, зрабілася справай паўсядзённай, тым не менш аўтэнтычных партрэтаў (ні мастацкіх, ні фатаграфічных) Фелікса Тапчэўскага і Альгерда Абуховіча не захавалася. Г. Каханоўскі запісаў толькі ад пляменніцы Тапчэўскага С. Бацяноўскай яго слоўны партрэт:

«— Сярэдняга росту. Чарнявы. Маленькія вусікі і кліночкам бародка. На даволі прыгожым твары выдзяляўся доўгі нос. Паэт вельмі рухавы быў, характарам настойлівы» [143].

Гэта застаецца пакуль што адзіным сведчаннем пра знешні выгляд і характар таленавітага паэта.

У кнізе Р. Родчанкі пра Абуховіча ёсць спецыяльны раздзел пад загалоўкам «Партрэт пісьменніка». «Спачатку я спадзяваўся адшукаць у Слуцку фотаздымак ці партрэт Абуховіча-Бандынэлі, а потым такую надзею страціў,— піша краязнавец.— Горад пасля смерці пісьменніка неаднаразова гарэў... Таму дарэвалюцыйных фотаздымкаў захавалася мала» [144].

Як вядома, Язэп Дыла ў сваіх вельмі каларытных і каштоўных успамінах пра Абуховіча не паведаміў, як пісьменнік выглядаў.

Балазе Родчанка здагадаўся звярнуцца да Дылы са спецыяльнай просьбай пра гэта. Той адказаў: «Крыху пра надворны яго (Абуховіча.— *Г. К.*) выгляд. Чуць ніжэй так званага «сярэдняга росту». На галаве капялюш «з прагібам» яго верху, невялічкая бародка і адпаведныя ёй вусы. Спакойная, ветлівая міна твару. Вопратка — «пінжачная пара», добра ўжо паношаная, але заўсёды чыстая» [145]. Далей у сваім пісьме Дыла расказваў пра манеры і звычкі пісьменніка, яго ўнутраны свет, узаема-

---

[143] Каханоўскі Г. Адчыніся, таямніца часу. Мн., 1984. С. 90.
[144] Родчанка Р. Альгерд Абуховіч-Бандынэлі. Мн., 1984. С. 62.
[145] Там жа. С. 63.

адносіны з вучнямі: «...любіў часта стрыгчыся ў цырульні. Манера гаварыць спакойная, без спешкі. Лёгкая пры гэтым дабрадушная ўсмешка. Пры спрэчках нечаканы для апанента паказ абсурду, недарэчнасцей. (Тая ж рыса, калі ён высмейваў чынушаў і «герояў» сваіх баек.) Вельмі ўмеў мяняць голас «удзельнікаў сваіх баек» [146]. На падставе гэтага трапнага апісання мастак М. Вецік стварыў даволі каларытны графічны партрэт Альгерда Абуховіча, рэпрадуктаваны ў кнізе Родчанкі [147].

Некалі існавалі партрэты Францішка Багушэвіча і яго жонкі, напісаныя сябрам песняра, удзельнікам паўстання 1863 г., вядомым мастаком Эльвіра Андрыёлі (1836—1893). Пра іх расказала А. Мальдзісу ў 1960-х гадах унучка Багушэвіча К. Пшаднікоўская. Паводле яе слоў, партрэты засталіся ў Кушлянах пасля вайны, калі нашчадкі Багушэвіча выехалі ў Польшчу [148]. Мабыць, гэтыя ж самыя партрэты бачыў у Кушлянах М. Ларчанка ў 1940 г. Ён пісаў пра ўбачанае наступным чынам:

«Ва ўнука Багушэвіча захаваліся рэдкія і каштоўныя фатаграфіі і партрэты як самога пісьменніка, так і яго сям'і — жонкі, дачкі і сына.

Асаблівую цікавасць прадстаўляе фотакартка дачкі паэта Туні. На адвароце гэтай фатаграфіі ўласнай рукой Багушэвіча напісана на польскай мове: «Фатаграфія Туні пры паступленні ў 4-ты клас. Памятай вечна, нішто так не аздабляе чалавека, як прыгажосць душы, як глыбіня мыслі». Пад гэтымі словамі подпіс «Айцец Багушэвіч».

Значную каштоўнасць прадстаўляюць вялікія партрэты Багушэвіча і яго жонкі, напісаныя маслам невядомым мастаком. Гэтыя партрэты абавязкова трэба набыць і паставіць у карцінную галерэю» [149].

Пасля вайны след партрэтаў (як і згаданай фатаграфіі) згубіўся, хутчэй за ўсё яны не захаваліся. (Вышэй мы ўжо цытавалі лімаўскае паведамленне ад 21 жніўня 1948 г.: «Два вялікія партрэты — самога Багушэвіча і яго жонкі былі там (у кушлянскай сядзібе.— *Г. К.*) яшчэ летась. Адтуль яны былі перанесены на гару суседняй хаты і цяпер ад іх засталіся адны толькі рамы».)

---

[146] Родчанка Р. Альгерд Абуховіч-Бандынэлі. С. 64.
[147] Там жа, на ўклейцы пасля с. 64.
[148] Мальдзіс А. Падарожжа ў XIX стагоддзе. С. 172.
[149] Ларчанка М. На радзіме Ф. К. Багушэвіча // Звязда. 1940. 26 верас.

Вядома, што здольным мастаком быў сын Багушэвіча Тамаш Францавіч [150]. У 1940 г. газета «Літаратура і мастацтва» змясціла рэпрадукцыю з яго малюнка «Ф. К. Багушэвіч у дзень смерці», атрыманага ад сваякоў пісьменніка літаратурнай брыгадай, якая выязджала на радзіму Багушэвіча ў Ашмянскі раён [151]. На малюнку мы бачым пісьменніка на перадсмяротным ложку. Добрае апісанне замалёўкі зрабіў У. Содаль: «Высокая гара падушак... Коўдра ссунута з грудзей... Правая схуднелая рука ляжыць на левай, выцягнутай уздоўж цела. Твар павернуты да святла. Вочы прагнуць ухапіць апошнія праявы жыцця. На думку мастакоў, малюнак зроблены даволі прафесійна і пранікнёна перадае апошнія хвіліны жыцця пісьменніка» [152]. Арыгінал малюнка цяпер невядомы, рэпрадукцыя ў газеце «Літаратура і мастацтва» зрабілася, такім чынам, каштоўнай іканаграфічнай першакрыніцай.

Вялікі жывапісны партрэт Багушэвіча стварыў у 1930 г. мастак Язэп Драздовіч. На адвароце ёсць цікавая заўвага мастака: «Партрэт Багушэвіча (М. Бурачка). Маляваў з памяці з 1897 г. у фальварку Кміты, на Дзісеншчыне». На думку Арсеня Ліса, надпіс сведчыць пра асабістую сустрэчу мастака з паэтам, пра тое, што паэт бываў на Дзісеншчыне [153]. Акалічнасць гэта вымагае дадатковай праверкі. У 1929 г. мастак наведаў радзіму паэта і стварыў серыю малюнкаў «Памятныя мясціны Францішка Багушэвіча» [154]. Яны маюць значэнне крыніц для ўзнаўлення знешніх акалічнасцей жыцця пісьменніка. Мы вернемся яшчэ да іх у адпаведным месцы.

Першаступенную цікавасць для ўзнаўлення вонкавага выгляду нашага песняра маюць фатаграфіі. Іх, на шчасце, захавалася нямала.

Першыя фатаграфічныя партрэты Багушэвіча былі змешчаны яшчэ разам з некралогамі, апублікаванымі сябрамі пісьменніка Н. Роўбам і Л. Уземблам у варшаўскіх часопісах «Тыгоднік ілюстраваны» і «Бесяда літэрацка» [155]. Звяртае на сябе ўвагу, што гэта адна і тая ж фа-

---

[150] Содаль У. Маляваў Тамаш Багушэвіч // Содаль У. Людзьмі звацца. Мн., 1977. С. 39—41.

[151] На радзіме Ф. К. Багушэвіча // Літ. і мастацтва. 1940. 23 крас.

[152] Содаль У. Людзьмі звацца. С. 39.

[153] Ліс А. Вечны вандроўнік: Нарыс пра мастака Язэпа Драздовіча. Мн., 1984. С. 168.

[154] Там жа. С. 166—167.

[155] Tygodnik ilustrowany. 1900. N 23. S. 445; Biesiada literacka. 1900. N 24. S. 474.

таграфія, трэба думаць, падораная пісьменнікам сваім сябрам. Арыгінал здымка (без надпісу, памерам 10,7×15,3 см) ёсць сярод папер Уземблы ў віленскай акадэмічнай бібліятэцы (ф. 151—1589). Гэта строгая, калі не сказаць парадная, то досыць рэпрэзентацыйная выява даволі позняга часу. Багушэвіч зняты ў шэрым сурдуце, зашпіленым на верхні гузік, і белай кашулі са стаячым каўняром. Клятчасты гальштук, доўгія вусы, кароткая падстрыжаная бародка. Адно з ранніх узнаўленняў здымка — у кнізе В. Ластоўскага «Кароткая гісторыя Беларусі» (1910). Гэта ж фатаграфія змешчана на паштоўцы, выпушчанай у 1906 г. выдавецтвам «Загляне сонца і ў наша аконца». На паштоўцы тэкст лацінкай: «Францішак Багушэвіч. Пясняр Беларусі. Напісаў «Дудку Беларускую» пад прозвішчам Мацея Бурачка і «Смык Беларускі» пад прозвішчам Шымона Рэўкі с-пад Барысава». Рэпрадукцыю паштоўкі (паводле экземпляра, што захоўваецца ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы АН БССР) гл. у зборніку «Пачынальнікі» (с. 385).

Варыянт гэтага ж здымка захоўваецца ў Інстытуце літаратурных даследаванняў Польскай Акадэміі навук у Варшаве, сярод папер Э. Ажэшка[156]. Зроблены ён фатографам А. Страусам у Вільні. На адвароце аўтограф: «Францішак Багушэвіч» і, апрача таго, надпіс рукой Я. Карловіча: «18 $\frac{22}{XII}$ 91 Францішак Багушэвіч з Вільні». Такім чынам, здымак быў перададзены Э. Ажэшка праз Карловіча. Побач з вершам «Яснавяльможнай пані Арэшчысе» гэта быў падарунак пісьменніцы ў сувязі з 25-годдзем яе літаратурнай дзейнасці.

Гэты ж здымак пакладзены ў аснову партрэта пісьменніка на мемарыяльнай пліце ў Жупранскім касцёле. Партрэт мае авальную форму. На мармуровай пліце, якая мае выгляд чатырохвугольніка, скругленага ўверсе, зроблены надпіс па-польску: «С. п. Францішку Багушэвічу. 1840—1900. Сябры». У правым ніжнім рагу прозвішча майстра, які рабіў дошку: «Арасімовіч. Вільня»[157]. Як паведаміла А. Мальдзісу ўнучка Багушэвіча С. Тамашэў-

[156] Янкоўскі Э. Эліза Ажэшка і Францішак Багушэвіч // Ніва (Беласток). 1961. 1 студз.; Садаль У. «Францішак Багушэвіч з Вільні» // Голас Радзімы. 1989. 31 жн.

[157] Апісанне дошкі і яе рэпрадукцыю гл. у кн.: Александровіч С. Незабыўнымі сцежкамі. С. 69.

ская, дошка «ўстаноўлена па жаданню сяброўкі Багушэвіча Элізы Ажэшка. Партрэт выканаў мастак Бусловіч»[158]. Прынамсі, адносна мастака звесткі недакладныя. Пра асобу віленскага мастака-скульптара Івана (Яна) Арасімовіча з усёй важнай у такіх выпадках канкрэтнасцю, прадметнасцю расказаў нядаўна У. Содаль (Звязда, 1990, 21 сак.).

У трэцім томе «Беларусаў» Карскага, што выйшаў у 1922 г., змешчана (на ўклейках) усяго 4 фотапартрэты — Дуніна-Марцінкевіча, Багушэвіча, Купалы і Коласа. Багушэвіч прадстаўлены ўсё той жа папулярнай фатаграфіяй. Рэпрадукцыя ў Карскага — добрай якасці. Двума гадамі раней перамалёўка з гэтай фатаграфіі была змешчана ў першым выданні «Гісторыі беларускай літаратуры» М. Гарэцкага. Подпіс: «Ф. Багушэвіч (сярэдняга веку)»[159]. На наступнай старонцы ў гэтай жа кнізе пададзена фатаграфія «Ф. Багушэвіч (пад старасць)». Гэта вядомы партрэт — пісьменнік тут з вялікай барадой, у простай вясковай вопратцы, якую ўмоўна можна назваць сярмягай (магчыма, гэты ж здымак Р. Зямкевіч называў «фатаграфіяй Бурачка ў сялянскай світцы»). Абодва здымкі змешчаны ў кнізе А. Станкевіча пра Багушэвіча (Вільня, 1930), прычым фота «Багушэвіч пад старасць» (у сярмязе-світцы) даволі кепскай якасці; аўтар са шкадаваннем адзначаў, што «фатаграфія ў сярмязе ці хоць добрая з яе кліша — гэта ўжо вялікая сяння рэдкасць»[160].

Есць надзвычай цікавыя звесткі, што датаванне, а дакладней храналагічнае суаднясенне здымкаў, аспрэчвалася дачкой пісьменніка Канстанцыяй (па мужу Мніховіч). У 1933 г. аўтару нататкі ў газеце «Беларуская крыніца» паказвалі ў сям'і Мніховічаў у Ашмянах фатаграфіі Багушэвіча. «Пры гэтым пераглядзе фатаграфіяў,— гаварылася ў нататцы,— гр[амадзян]ка М[іховіч] звярнула мне ўвагу на тое, што беларускія літараты, услед за Гарэцкім, памяшчаючы ў сваіх працах аб Багушэвічу дзве ягоныя падабізны і кіруючыся вонкавым выглядам паэта, мыльна іх падпісваюць: падаюць раней-

---

[158] Мальдзіс А. Таямніца шклянога слоіка // Літ. і мастацтва. 1972. 27 кастр.

[159] Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літаратуры. Вільня, 1920. С. 106.

[160] Станкевіч А. Францішак Багушэвіч, яго жыццё і творчасць: У трыццатыя ўгодкі смерці. Вільня, 1930. С. 10.

шую за пазнейшую і наадварот»[161]. Гэта яшчэ адзін прыклад таго, што дараванне здымкаў — справа вельмі няпростая і вымагае вялікай асцярожнасці, а часам і спецыяльных даследаванняў.

Па звестках некралога, змешчанага ў 1900 г. у часопісе «Край», трэці паэтычны зборнік Багушэвіча «Скрыпачка» выйшаў «з партрэтам аўтара» (Пачынальнікі, *414*). Выдання гэтага ніхто з нашых даследчыкаў не бачыў. У артыкуле «Бібліяграфічная загадка» С. Александровіч разважаў у сувязі з гэтым: «...хацелася праверыць усе выданні кніг беларускага паэта ўключна па 1900 год, каб высветліць, ці няма сярод іх зборніка «Дудкі беларускай» ці «Смыка беларускага» з партрэтам аўтара, які памылкова названы «Скрыпачкай»? І вось цяпер я магу сказаць, што ні ў адной вядомай кнізе Ф. Багушэвіча, выдадзенай пры жыцці паэта, няма яго партрэта. Гэта наводзіць на думку, што, магчыма, сапраўды ў 1900 г. пасля смерці паэта «Скрыпачка беларуская» пабачыла свет і была выдадзена з партрэтам Ф. Багушэвіча»[162]. Аднак, мяркуючы па ўсім, «Край» усё-такі пісаў пра выданне, якое так і не ўдалося здзейсніць.

Унікальнай іканаграфічнай крыніцай з'яўляецца вядомы сямейны альбом Багушэвіча, першае паведамленне пра які з'явілася ў друку на пачатку 50-х гадоў[163]. Альбом быў адшуканы ў сваячкі пісьменніка С. Чайкоўскай у Ашмянскім раёне і паступіў спачатку ў Інстытут літаратуры імя Я. Купалы АН БССР. Потым ён зберагаўся ў Ашмянскім краязнаўчым музеі імя Багушэвіча, цяпер — у Дзяржаўным музеі БССР у Мінску, дзе выстаўлены ў экспазіцыі, што ўскладняе, дарэчы, яго навуковае даследаванне і выкарыстанне.

За час сваіх блуканняў з установы ва ўстанову альбом меў страты. С. Александровіч, які знаёміўся з альбомам у Ашмянскім музеі, адзначаў «на адным здымку паэта, які зроблены ў віленскіх фатографаў братоў Чыжоў, прысвячэнне Ф. Багушэвіча дачцэ Канстанцыі, напісанае 29 сакавіка 1889 года»[164]. Цяпер гэтага здымка ў альбоме няма.

---

[161] Міцька Л. Ёсць яшчэ недрукаваныя творы Фр. Багушэвіча // Беларуская крыніца. 1933. 17 снеж.

[162] Александровіч С. Бібліяграфічная загадка // Літ. і мастацтва. 1961. 7 лют.

[163] Гарэцкі І. Цікавая знаходка // Беларусь. 1953. № 1. С. 25.

[164] Александровіч С. Незабыўнымі сцежкамі. С. 68.

Альбом складаецца з 12 лістоў тоўстай паперы ці нават кардону з прымацаванымі да іх фатаграфіямі. Належаў, відаць, спачатку самому пісьменніку, а потым яго дачцэ Канстанцыі. У альбоме 70 фатаграфій 1860—1920-х гадоў, на якіх зняты пісьменнік, яго жонка, іхнія бацькі, дзеці, сваякі і іншыя блізкія людзі. У музейным пашпарце альбома ёсць спіс фатаграфій. Апазнанне знятых асоб рабіла на пачатку 70-х гадоў унучка пісьменніка С. Тамашэўская па ініцыятыве і пры ўдзеле А. Мальдзіса [165]. Некаторыя фота засталіся нерасшыфраванымі, асобныя апазнаны памылкова.

Цяпер у альбоме 5 здымкаў пісьменніка:

№ 5 — партрэт.

№ 6 — групавое фота 1864 г. Знята 7 чалавек, Францішак — другі злева. Мяркуецца (У. Содаль і інш.), што гэта сям'я пісьменніка (дзед, бацькі, браты, сястра). Але, на нашу думку, некаторыя асобы на здымку вымагаюць удакладнення: дзед у дакументах перыяду паўстання 1863 г. нідзе не згадваецца, брат Валяр'ян выглядае тут значна старэйшым, чым быў у жыцці.

№ 10 — здымак 1863 г. (седзячы).

№ 14 — добры, настраёвы партрэт 1898 г. Упершыню рэпрадуктаваны ў альбоме «Францішак Бенядзікт Багушэвіч: Жыццё і творчасць» (1986, с. 68).

№ 17 — Багушэвіч і М. Насенка, Чарнігаў 1867—1868 гг. Спачатку меркавалася, што Насенка — студэнт Нежынскага ліцэя (Пачынальнікі, *524*). Службовая біяграфія Насенкі (дробнага службоўца-чыноўніка, у той час судовага прыстава) устаноўлена У. Содалем [166]. Дакументы не адзначаюць пакуль што яго сувязяў з Нежынскім ліцэем.

Здымкі блізкіх людзей, змешчаныя ў альбоме, адкрываюць перад даследчыкамі багатыя магчымасці для высвятлення сямейных і сяброўскіх сувязяў пісьменніка. У прыватнасці, намі ўстаноўлена, што здымкі № 49 і 50 уяўляюць сабой партрэты Юліі і Габрыеля Радзевічаў, блізкіх сяброў і сваякоў пісьменніка, якія належалі да першых марксісцкіх гурткоў у Пецярбургу [167]. Яны ж, як

---

[165] Мальдзіс А. Таямніца шклянога слоіка // Літ. і мастацтва. 1972. 27 кастр.

[166] Содаль У. Сябра з Украіны // Літ. і мастацтва. 1984. 16 сак.

[167] Кісялёў Г. З сузор'я Багушэвіча // Літ. і мастацтва. 1982. 6 жн.; Ён жа. За вокладкай сямейнага альбома // Там жа. 1983. 25 сак.

высветлілася, зняты на здымку № 2 альбома (раней лічылася, што гэта — пляменнікі Багушэвіча Я. Мніховіч і М. Тарчэўская, дзеці Багушэвічавай сястры Ганны)[168].

Цікавы сямейны здымак Багушэвіча апублікаваны таксама С. Майхровічам у 1957 г.[169] Здымак адносіцца да 90-х гадоў. Зняты, апрача пісьменніка, жонка, дачка, сын і сяброўка сям'і Г. Галяеўская (?), удзельніца паўстання 1863 г. Паходжанне здымка няяснае.

Да гэтага ж прыблізна часу адносіцца публікацыя здымка Багушэвіча гімназічнай пары. Здымак надрукаваны ў газеце «Літаратура і мастацтва» разам з артыкулам С. Майхровіча[170] і пазначаны так: «Неапублікаванае фота, якое захоўвалася да гэтага часу ў пляменніка паэта Альхімовіча Станіслава Канстанцінавіча».

Як адзначалася ў друку, асобныя здымкі пісьменніка і яго блізкіх знаходзяцца ў нашчадкаў Багушэвіча ў Польшчы[171]. У 1982 г. унучаты пляменнік Багушэвіча Я. Тарчэўскі, прыехаўшы пагасцяваць на радзіму, перадаў У. Содалю экземпляр вядомага здымка Багушэвіча 1863 г. і партрэтны здымак брата Францішка Казіміравіча Апалінара 1876 г.[172]

У 1974 г. супрацоўнік Беларускай Савецкай Энцыклапедыі М. Шавыркін выявіў у хатнім архіве Пятра Глебкі, што захоўваўся ў яго жонкі Н. Глебкі, тры невядомыя здымкі Багушэвіча. Зроблены яны ў Кушлянах ўлетку 1898—1899 гг.: два на ганку кушлянскага дома (побач з Багушэвічам З. Нагродскі, жонка, дачка, нейкі гімназіст або рэаліст — як потым было прызнана, сын Тамаш). Яны апублікаваны ў БелСЭ і газеце «Літаратура і мастацтва»[173]. На трэцім, паводле першапачатковага апісання У. Содаля, Багушэвіч сфатаграфаваны на нейкім

---

[168] Содаль У. Здымак № 2: З сямейнага альбома Ф. Багушэвіча // Звязда. 1984. 26 жн.

[169] Майхровіч С. Нарысы беларускай літаратуры XIX ст. Мн., 1957. Уклейка пасля с. 144.

[170] Майхровіч С. Творы Францішка Багушэвіча на польскай мове // Літ. і мастацтва. 1956. 29 верас.

[171] Канапацкі М. Інтэрв'ю з унучкамі Багушэвіча // Ніва (Беласток). 1962. 28 студз.

[172] Содаль У. Пяць дзён з Багушэвічавым унукам // Літ. і мастацтва. 1982. 19 лют.

[173] БелСЭ. Мн., 1975. Т. 12. С. 546; Содаль У. Невядомыя здымкі Францішка Багушэвіча // Літ. і мастацтва. 1975. 4 крас.

узгорку, ён стаіць у профіль і «дзівіцца на працу людзей, што завіхаюцца каля вялізных камянёў — ці не тых, што пасля пойдуць на будаўніцтва гумна»[174]. Потым здымак ідэнтыфікаваўся так: «Ф. Багушэвіч на Лысай гары (стаіць злева). 1898 або 1899 г.»[175]. Здымкі цікавыя таксама тым, што паказваюць, як выглядаў кушлянскі дом пры жыцці Багушэвіча. Хутчэй за ўсё гэтыя здымкі былі атрыманы ад сваякоў пісьменніка ў 1940 г. літаратурнай брыгадай, што выязджала на радзіму Багушэвіча[176].

Надзвычай багаты выяўленчы матэрыял сабраны ў альбоме «Францішак Бенядзікт Багушэвіч: Жыццё і творчасць», выпушчаным у 1986 г. выдавецтвам «Народная асвета». У прадмове У. Содаль піша: «Пад адной вокладкай ніколі яшчэ не збіралася іканаграфічная спадчына паэта. Гэты альбом — першая такая спроба»[177]. Такія ж альбомы варта выдаць і пра іншых пісьменнікаў XIX ст. (Я. Чачот, В. Дунін-Марцінкевіч, Я. Лучына) або выпусціць агульны альбом па літаратуры XIX ст.

Апошнім часам У. Содаль пазнаёміў грамадскасць з яшчэ адным унікальным здымкам Багушэвіча: пісьменнік зняты на ўлонні прыроды з удзельнікамі вядомай экскурсіі на лодках па Віліі ў Коўна (1897). На здымку дзевяць чалавек, пакуль ідэнтыфікаваны двое — сам паэт (надзвычай рэалістычная, чымсьці нечаканая выява) і Г. Радзевіч. «Безумоўна, хацелася б аканкрэтызаваць і іншых удзельнікаў вандроўкі, — піша У. Содаль.— Усе яны Багушэвічавы прыяцелі, яго сімпатыкі. Усе яны вартыя нашай увагі. Вядомыя нам і іхнія імёны. Але для апазнавання іх нам не стае адпраўных здымкаў, дакументальна выверанных, якія б дапамаглі нам звесці ў адно імёны з выявамі людзей. Думаецца, агульнымі намаганнямі даследчыкаў нам гэта ўдасца неўзабаве зрабіць...»[178] Словам, выяўленчая Багушэвічыяна паступова папаўняецца, даследуецца і расшыфроўваецца. Гэта ж, хоць

---

174 Літ. і мастацтва. 1975. 4 крас.

175 Францішак Бенядзікт Багушэвіч: Жыццё і творчасць / Склад. У. Содаль і Е. Мацюш. Мн., 1986. С. 79.

176 Гл.: На радзіме Ф. К. Багушэвіча // Літ. і мастацтва. 1940. 23 крас.

177 Содаль У. Праўдашукальнік // Францішак Бенядзікт Багушэвіч: Жыццё і творчасць. С. 3.

178 Содаль У. Ажылі радкі // Беларусь. 1986. № 7. С. 25.

і ў рознай ступені, датычыць і іншых пісьменнікаў — сучаснікаў Багушэвіча.

Доўгі час беларускім літаратуразнаўцам была вядома толькі адна фатаграфія паэта-рэвалюцыянера Адама Гурыновіча. На здымку — малады чалавек у студэнцкім мундзіры. Галава павернута ў левы бок. Акуляры ў тонкай аправе. Ледзь пазначана маладая бародка, якую добра відаць на рэтушаваных рэпрадукцыях[179]. Пра пошукі здымкаў і іншых матэрыялаў Гурыновіча расказваў Я. Шутовіч, які, паводле ўласных слоў, «летам 1935 года» наведаў родныя мясціны паэта. «У Кавалях,— пісаў Я. Шутовіч,— дзе жыла сястра Адама Канстанцыя Странкоўская з мужам, я знайшоў толькі фотакартку паэта, якую пазней змясціў у друку»[180]. А ці не адбылася гэта паездка крыху раней? Бо, як вядома, фотапартрэт Гурыновіча Шутовіч апублікаваў у газеце «Беларуская крыніца» яшчэ ў сакавіку 1934 г.[181], а таксама ў 1-й кніжцы часопіса «Калосье» за 1935 г.

Вельмі важнай для іканаграфіі паэта была публікацыя А. Мальдзіса[182], які атрымаў з бібліятэкі Торуньскага універсітэта копіі сямі здымкаў, што знаходзяцца ў сямейным альбоме Гурыновічаў (архіў прафесара Яніны Гурыновіч). Усе гэтыя здымкі рэпрадуктуюцца А. Мальдзісам. Даследчык наступным чынам характарызуе іх: «Адзін з іх ([№]5) аказаўся вядомы. На ім паэт сфатаграфаваны ў мундзіры студэнта Пецярбургскага тэхналагічнага інстытута. Другі (6) зроблены, відаць, адначасова з першым і адрозніваецца ад яго толькі паваротам галавы[183]. На трэцяй фатаграфіі (7) паэт таксама ў форме таго ж інстытута[184]. Чыясьці рука засведчыла, што на здымку менавіта Адам Гурыновіч і што памёр ён 14 (26) студзеня 1894 г. (гэта мае значэнне ў сувязі з тым,

---

[179] Майхровіч С. Нарысы беларускай літаратуры XIX ст. Мн., 1957. Уклейка пасля с. 400; Лушчыцкі І. Н. Нарысы па гісторыі грамадска-палітычнай і філасофскай думкі ў Беларусі ў другой палавіне XIX ст. Мн., 1958. С. 327.

[180] Шутовіч Я. Адам Гурыновіч // Полымя. 1966. № 11. С. 156.

[181] Шутовіч Я. Адам Гурыновіч: У 40-я ўгодкі смерці // Беларуская крыніца. 1934. 18 сак.

[182] Мальдзіс А. І. Невядомыя здымкі Адама Гурыновіча // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1983. № 4. С. 18—20.

[183] З рэпрадукцыі відаць, што здымак зроблены ў Вільні, у майстэрні Р. Бачанскага.

[184] Унізе — фірменная паметка фатографа: Борель, Невский пр., 54.

што ў некаторых крыніцах указваецца іншая дата — 17(29) студзеня). Найбольш цікавыя здымкі 3 і 4, невядомыя дагэтуль даследчыкам. На першым з іх А. Гурыновіч зняты ў час вучобы ў Віленскім вучылішчы (хутчэй за ўсё ў 1887 г.). Другі зроблены ў Петрапаўлаўскай крэпасці. Са здымка відаць, што Гурыновіча пры допытах білі. А фатаграфіі ж пад нумарамі 1 і 2 даюць нам уяўленне пра сядзібу ў Крыстынопалі, дзе жыла сям'я Гурыновічаў. Гэта быў драўляны дом на два канцы, крыты дранкай і ўпрыгожаны ганкам з калонамі — дом сярэдняй рукі засцянкоўца. Варта звярнуць увагу, што вокны і ганак на другім здымку іншыя, чым на першым. Можа, тут мы маем справу з рознымі дамамі — старым і новым, а можа, на фатаграфіі пад нумарам два — іншая сядзіба..»[185]

У адрозненне ад іканаграфічнай спадчыны Багушэвіча або Гурыновіча вядомая нам іканаграфія Янкі Лучыны і Аляксандра Ельскага пакуль што вельмі бедная.

Адзіны вядомы фотапартрэт Я. Лучыны быў апублікаваны ўпершыню разам з некралогам у «Краі»[186]. Гэты ж партрэт пададзены ў «Кароткай гісторыі» В. Ластоўскага (1910), а таксама ў прысвечанай Лучыне паштоўцы, выпушчанай у 1906 г. выдавецтвам «Загляне сонца і ў наша аконца»[187]. Пад партрэтам на паштоўцы подпіс: «Янка Лучына (Іван Неслухоўскі). Пясняр Беларусі, напісаў «Вязанку». Змешчаны таксама тэкст верша Лучыны «Роднай старонцы». Графічную перамалёўку паводле гэтай фатаграфіі змясціў у 1920 г. у сваёй «Гісторыі...» М. Гарэцкі[188]. З мадыфікацыямі рэтушораў фотапартрэт шырока выкарыстоўваецца і цяпер у выданнях па гісторыі беларускай літаратуры.

Фотапартрэт А. Ельскага змешчаны ў кнізе, прысвечанай 25-годдзю літаратурнай дзейнасці Э. Ажэшка, дзе надрукаваны публіцыстычны артыкул Ельскага «Вязанка заўваг земляўласніка» [189]. У беларускім друку партрэт пакуль не рэпрадуктаваўся. Думаецца, што з цягам часу будуць выяўлены і іншыя партрэты Ельскага. У прыват-

---

185 Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1983. № 4. С. 20.
186 Kraj. 1897. 12(24) września. Dział informacyjno-ilustrowany.
187 Рэпрадукцыю гл.: Пачынальнікі. С. 466.
188 Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літаратуры. Вільня, 1920. С. 118.
189 Upominek: Książka zbiorowa na cześć Elizy Orzeszkowej (1866—1891). Kraków; Petersburg, 1893. S. 259.

насці, фатаграфія групы асоб з Ельскім, змешчаная перад першай сусветнай вайной у адным з польскіх тыднёвікаў, успамінаецца ў кнізе «Уняхоўскі расказвае»[190].

Такім чынам, пісьменніцкая іканаграфія мінулага стагоддзя, нягледзячы на яе адносную сціпласць, прадстаўлена разнастайнымі ў тэхнічных адносінах матэрыяламі: малюнкі, жывапісныя партрэты, літаграфіі, гравюры. З 50-х гадоў як вялікая навіна XIX стагоддзя з'яўляюцца фатаграфіі, спачатку строгія, парадныя, а ў канцы стагоддзя і бытавыя, блізкія да аматарскіх (кушлянскія здымкі Ф. Багушэвіча, яго ж здымак з таварышамі на беразе Віліі пад час экскурсіі на лодках у Коўна).

У той жа час выявы далёка не ўсіх беларускіх літаратараў XIX ст. мы маем. Калі паставіць задачу стварыць поўную партрэтную галерэю пачынальнікаў нашай літаратуры, то ў некаторых месцах прыдзецца павесіць пустыя рамы: часам да нас не дайшло абсалютна ніякіх выяў. У асобных выпадках удаецца запоўніць прабелы партрэтамі, створанымі сёння на падставе апісанняў знешнасці і іншых дадатковых крыніц. Гэта датычыць партрэтаў В. Равінскага, П. Багрыма, А. Абуховіча.

*

*     *

Нарэшце, звернемся да такіх катэгорый гісторыка-літаратурных крыніц, як памятныя мясціны, асабістыя рэчы пісьменнікаў. Як бачым, тут мяняецца сам характар крыніц. Раней мы мелі справу з пісьмовымі, дакументальнымі крыніцамі, цяпер з крыніцамі рэчавымі або нават геаграфічным асяроддзем. Іканаграфічныя матэрыялы ў гэтым сэнсе маюць як бы пераходны характар ад пісьмовых да рэчавых крыніц.

Агульнапрызнана, што родныя мясціны пісьменніка, ацалелыя будынкі з усім наваколлем, самі краявіды, дарогі і сцежкі, з якімі было звязана яго жыццё, маюць вялікае значэнне для разумення творчасці пісьменніка, узнаўлення яго жыццёвай і творчай біяграфіі. Геаграфічнае асяроддзе ў даным выпадку — гэта таксама адметная, надзвычай каштоўная першакрыніца, якая дапамагае наблізіцца да пісьменніка, пранікнуць у яго унікальны мастацкі свет.

---

[190] Uniechowska K. Uniechowski opowiada, czyli tajemnice mafii antykwarskiej. Warszawa, 1975. S. 24.

Нездарма родныя мясціны вялікіх пісьменнікаў (Міхайлаўскае і Ясная Паляна ў Расіі, Вязынка і коласаўскія мясціны на Беларусі) становяцца сапраўднымі нацыянальнымі святынямі, аб'ектамі масавага паломніцтва.

Памятныя мясціны многіх беларускіх пісьменнікаў адзначаны ў падрыхтаваным нядаўна шматтомным «Зборы помнікаў гісторыі і культуры Беларусі». У нас паспяхова развіваецца літаратурнае краязнаўства, жанр падарожжа па пісьменніцкіх мясцінах, прадстаўлены найперш імёнамі такіх даследчыкаў-літаратараў, як С. Александровіч, Г. Каханоўскі, К. Цвірка, У. Содаль. Літаратурным краязнаўствам на месцах (бяром толькі літаратуру XIX ст.) з поспехам займаюцца А. Падліпскі, М. Плавінскі, Г. Равінскі, Р. Родчанка, А. Цыхун, А. Шоцкі і інш. Спецыялісты ў галіне літаратурнага краязнаўства адзначаюць наступную важную рысу гэтай працы: «Літаратура дапамагае пазнаць край, а край, у сваю чаргу,— пазнаць літаратуру і тых, хто стварае яе: менавіта ж у краі, дзе жыў і тварыў пісьменнік, у першую чаргу адкладваюцца многія *дакументы і сведчанні*, якія спрыяюць уразуменню тых або іншых бакоў яго біяграфіі, яго творчасці» [191]. Справядлівасць гэтага не раз даказвалі сваімі знаходкамі нашы краязнаўцы.

Паступова да нас прыходзіць усведамленне, што сама зямля Беларусі з яе шматлікімі, як сказаў Г. Каханоўскі, «салаўінымі гнёздамі» (Вязынка, Мікалаеўшчына, Ракуцёўшчына, Крошын, Люцінка-Люцынка, Кушляны і г. д. і г. д.) — ні з чым не параўнальны курс гісторыі роднага пісьменства.

У кнізе «Спасцігаючы Дуніна-Марцінкевіча» мы акрэслілі памятныя мясціны першага класіка новай беларускай літаратуры, вылучыўшы асабліва Панюшкавічы пад Бабруйскам, дзе ён нарадзіўся, Люцынку і Мінск, дзе пражыў большую частку жыцця і напісаў свае лепшыя творы. Былі адзначаны таксама некаторыя музейныя рэчы, што паходзяць з Люцынкі і звязваюцца з Дуніным-Марцінкевічам і яго сям'ёй. Вывучэнне і папулярызацыя памятных мясцін Дуніна-Марцінкевіча працягваецца ў новых публікацыях даследчыкаў і краязнаўцаў [192].

---

[191] Милонов Н. А. Литературное краеведение. М., 1985. С. 10.

[192] Янушкевіч Я. Магіла Беларускага дудара // Беларуская мова і літаратура ў школе. 1989. № 12; Дзянісаў У. Дзе знаходзіўся дом В. Дуніна-Марцінкевіча // Шляхам гадоў. Мн., 1990. [Вып. 1]; Грынкевіч В. Сцежкамі Дудара // Літ. і мастацтва. 1990. 13 крас.

Для нас важна ў даным выпадку падкрэсліць самую цесную сувязь родных аколіц Беларускага дудара з яго творчасцю. Люцынка і яе наваколле апеты пісьменнікам у паэмах «Люцынка, або Шведы на Літве» (1857), «З-над Іслачы, або Лекі на сон» (1868). Модную тады рамантычную арыентацыю на старадаўнія мясцовыя легенды і паданні адзначыў сам аўтар у прадмове да паэмы «Люцынка»: «Калі набыў [redacted] маленькі мой фальварчык Люцынку, пры аглядзе яго зацікавіла мяне перш за ўсё мясцовасць; дзеля гэтага стараўся я ад старых людзей, якія здаўна тут жывуць, дапытацца, ці не мае яна якіх гістарычных паданняў... Дужа шануючы ўсялякія гістарычныя паданні пра наш край, заахвоціўся я, можа на бяду шаноўнага чытача, з паданняў гэтых саснаваць няздольным маім пяром наступную маленькую аповесць...» [193]

Гэтаксама ж узнёсла апяваў у сваёй творчасці родны куток паўночна-ўсходняй Беларусі з яго некранутай прыродай і самабытнай гісторыяй папярэднік Дуніна-Марцінкевіча пісьменнік-рамантык Ян Баршчэўскі. У «Нарысе паўночнай Беларусі» (1844) ён пісаў:

«У гэтых краях прайшлі дзіцячыя мае гады. Тут я пасля таго, як расстаўся з маладымі сваімі таварышамі па Полацкай акадэміі, не могучы мець пры сабе іншых кніг, апрача некалькіх лацінскіх і грэчаскіх класікаў, блукаў у прыемных марах дзе-небудзь у цёмным бары або на бязлюдным беразе возера... На зямлі, пакрытай незлічоным мноствам раслін і жывёл, я чытаў аб міласэрнасці і волі творцы. Гэта кніга прыроды вучыла мяне сапраўднай паэзіі, сапраўдным пачуццям лепей, чым сённяшнія балбатлівыя крытыкі, якія чужыя пачуцці і розныя здольнасці, дадзеныя чалавеку ад бога, хочуць, быццам фрак, перашыць на сваю фігуру.

Апавяданні старых пра розныя здарэнні ў народных іх аповесцях, якія перайшлі з вуснаў у вусны з старадаўніх часоў, былі для мяне гісторыяй гэтай зямлі, характару і пачуццяў беларусаў» (Пачынальнікі, *42—43*).

У наш час радзіму Баршчэўскага з літаратурна-краязнаўчымі мэтамі наведаў Г. Каханоўскі [194]. Руплівым абследаваннем на месцы яму ўдалося ўдакладніць назву роднай вёскі пісьменніка — Мурагі, цяпер у Расонскім

---

[193] Дунін-Марцінкевіч В. Творы. Мн., 1984. С. 300.

[194] Каханоўскі Г. Пуцявінамі Баршчэўскага // Літ. і мастацтва. 1981. 25 верас.

раёне, на беразе апетага Баршчэўскім возера Нешчарда. «Імя Яна Баршчэўскага варта таго, каб на яго радзіме адзначыць памятнае месца хоць сціплым мемарыяльным знакам» [195],— слушна прапануе вучоны. Г. Каханоўскаму давялося таксама пабываць і ў далёкім Чуднаве на Валыні (раней, услед за матэрыяламі старой перыёдыкі, пісалі Цуднаў, на польскі лад), дзе Баршчэўскі жыў апошнія гады, прыгрэты пад старасць багатай графіняй-мецэнаткай. Цяпер Чуднаў — раённы цэнтр Жытомірскай вобласці.

Дарэчы, у тым жа Чуднаўскім раёне, у мястэчку Януш-паль (цяпер г. Іванопаль), скончыў жыццё пад час эпідэміі халеры і паэт-рэвалюцыянер Францішак Савіч, які хаваўся тут ад царскіх улад пад імем доктара Гельгега. Памятныя мясціны Савіча нашымі краязнаўцамі пакуль не абследаваліся.

Яшчэ да Кастрычніцкай рэвалюцыі ў друку з'яўляліся апісанні вёскі Мазалава пад Віцебскам, дзе жыў беларускі публіцыст Ігнат Манькоўскі, а таксама размешчаных там сямейных могілак Манькоўскіх. У наш час гэтыя мясціны наведаў віцебскі краязнавец М. Плавінскі [196].

Вывучэнне памятных мясцін Яна Чачота ў сувязі з яго біяграфіяй таксама пачалося яшчэ ў мінулым стагоддзі. У 1899 г. Ч. Янкоўскі ў кнізе «З зямлі лясных пагоркаў...», што выйшла на польскай мове ў Варшаве, змясціў артыкул «Чачот і Зан у Лепелі». Як вядома, Чачот працаваў там некалі ў дырэкцыі Бярэзінскага канала, плённа займаўся фальклорыстычнымі зборамі. Знаходжанню Чачота і Зана ў Лепелі прысвечаны і старадаўнія ўспаміны М. Кусцінскага (рукапіс у ЦБАН ЛітССР, ф. 151—1029).

Значны грамадскі рэзананс меў невялікі артыкул настаўніка-краязнаўца з Баранавіч А. Шоцкага «Ян Чачот у Рэпіхаве» (Літ. і мастацтва, 1982, 27 жн.). У Рэпіхаве, дзе бацька будучага пісьменніка працаваў аканомам у графскім маёнтку, прайшло дзяцінства Чачота. Доўгі час нават лічылася, што Чачот у Рэпіхаве і нарадзіўся, пакуль не высветлілася сапраўднае месца яго нараджэння — Малюшычы. Як устанавіў А. Шоцкі, Рэпіхава знаходзіцца ў Ляхавіцкім раёне па дарозе з Крывошына

---

[195] Каханоўскі Г. На Расоншчыну і Валынь да Яна Баршчэўскага // Каханоўскі Г. Адчыніся, таямніца часу. С. 69.

[196] Бас І. Літаратурныя пошукі, знаходкі, даследаванні. Мн., 1969. С. 144; Кісялёў Г. Разыскивается классик... Мн., 1989. С. 97—100.

ў Нетчын. Ад даўніны тут захаваўся стары здзічэлы парк. «Хочацца верыць,— завяршаў свой допіс А. Шоцкі,— што ў хуткім часе прыйдзе сюды дбайны гаспадар. Памаладзее стары парк і будзе служыць людзям. Дзесьці на відным месцы з'явіцца мемарыяльная дошка, якая павведаміць, што тут жыў Ян Чачот — адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры, сябра вялікага польскага паэта Адама Міцкевіча».

Думкі А. Шоцкага горача падтрымаў пісьменнік Віктар Гардзей у нарысе «Запусценне» (Літ. і мастацтва, 1987, 18 верас.) і вершы «Рэпіхава» (Полымя, 1988, № 11), напісаных з вострым адчуваннем неабходнасці ашчаднага стаўлення да нацыянальных гісторыка-культурных святынь.

Рэпіхаву і ў сувязі з ім постаці Чачота адведзена пэўнае месца ў кнізе «Памяць», прысвечанай Ляхавіцкаму раёну, дзе слушна гаворыцца: «...калі добра прыгледзецца да творчасці Яна Чачота, то няцяжка ўбачыць, што ў былым Наваградскім павеце, на Ляхаўшчыне, у Рэпіхаве, у ваколіцах сённяшніх Баранавіч яе самыя глыбокія карані»[197]. Словы гэтыя належаць Кастусю Цвірку, які на пачатку 80-х гадоў спецыяльна аб'ехаў многія чачотаўскія мясціны Беларусі. Вынікам паездкі быў надзвычай змястоўны і карысны нарыс «Там возера Свіцязь, як шыбіна лёду...», надрукаваны першапачаткова ў «Полымі» (1984, № 4), а потым у Цвіркавай кнізе «Той курган векавечны...» (1985).

Перш за ўсё ў нарысе прадстаўлены чачотаўскія Малюшычы, сёння даволі вялікая вёска ў Карэліцкім раёне. Бацька Чачота ў канцы XVIII ст. арандаваў тут фальварак, рэшткі якога можна было бачыць тут яшчэ перад вайной. Цяпер ад яго не засталося і знаку. «Затое,— працягвае К. Цвірка,— навокал ляжалі тыя ж узгоркавыя палеткі, якія бачыў некалі малы Ян Чачот. За фермай, у лагчыне, відаць быў пасак маленькай рачулкі Малюшыца, якая і сёння, пэўна, вабіць да сябе вясковую дзятву...»[198]

На думку Цвіркі, заснаванай на глыбокім вывучэнні жыцця і творчасці Чачота, дзіцячыя гады паэта праходзі-

---

[197] Цвірка К. Карані // Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Ляхавіцкага раёна. Мн., 1989. С. 87.

[198] Цвірка К. «Той курган векавечны...»: Сцяжыны вандровак. Мн., 1985. С. 12.

лі не толькі ў Рэпіхаве, а яшчэ і ў іншых недалёкіх аколіцах на рацэ Мышанка: бацьку не раз даводзілася мяняць месца службы. Так або інакш, да ад'езду на вучобу ў Наваградак Чачот жыў з бацькамі ў Навамышанскай каталіцкай парафіі, у якую ўваходзіла і Рэпіхава. Нездарма А. Міцкевіч называў Чачота «Ян з Мышы».

«Тут,— піша К. Цвірка,— у аколіцах Новай Мышы, Ян Чачот і пазнаў жыццё беларускага селяніна, яго мову, назаўсёды палюбіў і запомніў яго песні, казкі, паданні. Пра зацікаўленасць Яна Чачота яшчэ ў дзіцячыя гады беларускім фальклорам сведчаць яго балады «Калдычэўскі шчупак», «Мышанка», «Узногі», напісаныя паводле мясцовых паданняў і пачутых ад людзей расказаў» [199]. Хіба не характэрна, што нават у саміх назвах згаданых балад Чачота адлюстраваліся родныя паэтавы аколіцы.

Не знаю, дзе буду, памру дзе, не знаю,
Ды ўдзячны зямлі я, дзе вырас,
Я ў думках лячу зноў да роднага краю,
Здалёк мне відаць яго вырыс.

Мышанка мая! За ўсе краскі, за тое,
Што жыў тут, табою прыгрэты,
За светлае ранне сваё залатое,—
Прымі ж ты вянок мой во гэты [200],—

пісаў паэт (пераклад К. Цвіркі). Мноства рэгіянальных рэалій таксама ў баладзе «Падземны звон на горцы ў Пазяневічах». Па творах Чачота можна літаральна вывучаць мясцовую геаграфію.

Школьныя гады Чачота, як вядома, прайшлі ў Наваградку. Тут захаваўся, хоць і ў напаўразбураным выглядзе, колішні дамініканскі касцёл св. Міхала, да якога прымыкала тая школа, дзе вучыліся ў пачатку XIX ст. Ян Чачот з Адамам Міцкевічам (пазней тут нейкі час набіраўся школьнай прамудрасці і У. Сыракомля). Дні вучобы, вясёлае незабыўнае школьнае брацтва чулліва апісаны Чачотам у вершы «Трэн XVI. Развітанне з Наваградкам». Драматычнай мінуўшчыне старажытнага горада, якая невымоўна вабіла Чачота і яго таварышаў, будзіла маладую фантазію, паэт прысвяціў баладу «Наваградскі замак».

---

[199] Цвірка К. «Той курган векавечны...» С. 19.

[200] Чачот Я. Мышанка // Чачот Я. Наваградскі замак: Творы. Мн., 1989. С. 139.

Цесна звязаны з біяграфіяй і творчасцю Чачота і іншыя мясціны Беларусі: легендарнае возера Свіцязь (ёсць у Чачота, як і ў Міцкевіча, аднайменная балада), Туганавічы, урочышча Кут з вядомым «Каменем філарэтаў», Шчорсы, дзе Чачот працаваў бібліятэкарам у графскай бібліятэцы пасля вяртання з ссылкі. З імем Чачота звязваюць вячысты дуб у Гродзенскай пушчы каля вёскі Парэчча. Паэт нібыта ў свае апошнія гады любіў тут адпачываць, пісаў вершы, марыў пра будучыню [201]. Легенда вымагае праверкі.

Чачотаўскія мясціны ёсць і за межамі Беларусі. У Літве гэта Вільнюс, дзе захаваўся стары будынак універсітэта — там Чачот нейкі час вучыўся разам са сваімі шматлікімі сябрамі-філаматамі. Дагэтуль стаіць тут і будынак былога базыльянскага кляштара — месца зняволення Чачота і іншых філаматаў. Тапаграфія і сам дух каларытнага горада жыва прадстаўлены паэтам у баладах «Бекеш», «Радзівіл, альбо Заснаванне Вільні». У Друскеніках (цяпер Друскінінкай) пісьменнік памёр (1847), побач у Ротніцы на старых могілках яго магіла з помнікам, пастаўленым праз дзесяць гадоў пасля пахавання [202]. На помніку натхнёныя і дакладныя радкі польскамоўнай вершаванай эпітафіі, складзенай паэтам А. Адынцом (колішнім філарэтам):

Сваю маладосць прысвяціў ён навукам і цноце,
Век сталы ён мужна пражыў у няспынных цярпеннях.
Любоў да сяброў і да Бога — істоты яго была зместам.
Цяжкое жыццё яго ўсё — да збавення дарогай.
Імя яго злучана будзе навекі ў айчыне
З Адамам Міцкевічам і Томашам Занам.
Хто ведае іх, перад каменем гэтым схіліся,
Падумай, уздыхні і за ўсіх іх траіх памаліся.

*(Пераклад М. Танка)* [203]

Вывучаюцца і сувязі Чачота з іншымі месцамі нашай краіны, у прыватнасці з Уралам і Башкірыяй, дзе пісьменнік быў у ссылцы [204].

---

[201] Цыхун А. Растуць дубы-волаты // Голас Радзімы. 1984. 26 крас.

[202] Świrko S. Z Mickiewiczem pod rękę czyli Życie i twórczość Jana Czeczota. Warszawa, 1989. S. 293.

[203] Танк М. Лісткі календара. Мн., 1970. С. 131. У 1858 г. Адынец упісаў поўны тэкст эпітафіі ў Альбом А. Вярыгі-Дарэўскага (Пачынальнікі, 247).

[204] Кахановскі Г. Ян Чачот на Урале // Беларусь. 1979. № 1.

Што да асабістых рэчаў Чачота, то ў навуковай літаратуры прыводзіцца такі факт. Пакідаючы Лепель, Чачот падарыў былому філарэту С. Лышчынскаму крышталёвы кубак, прысланы яму ў 1835 г. А. Міцкевічам з Парыжа. Гэтую рэліквію Лышчынскі ў сваю чаргу ахвяраваў перад смерцю даследчыку даўніны М. Кусцінскаму, жыхару лепельскіх аколіц. Апошні перадаў кубак Нацыянальнаму музею ў Кракаве [205].

Прыцягвае пастаянную ўвагу нашых даследчыкаў і культурнай грамадскасці Крошын — авеяная легендамі радзіма паэта-самародка Паўлюка Багрыма. Крошын двойчы згадваецца ў славутым Багрымавым вершы. Некалі гэта было мястэчка Наваградскага павета Гродзенскай (пасля Мінскай) губерні, цяпер вёска Баранавіцкага раёна Брэсцкай вобласці, цэнтр калгаса «Перамога».

Сама гісторыя вывучэння Крошына і ўшанавання памяці паэта налічвае ўжо не адно дзесяцігоддзе.

У 1956 г. тут пабываў Сцяпан Александровіч, запісаў успаміны землякоў пра Багрыма, пра яго кавальскае майстэрства. Вучоны даў адно з ранніх апісанняў знакамітай Багрымавай жырандолі. «Паводле сведчання местачковага насельніцтва,— пісаў С. Александровіч,— гэту люстру Багрым рабіў доўга, некалькі год, старанна працаваў над яе афармленнем» [206].

У 1968 г. на магіле Багрыма ў Крошыне пастаўлены помнік [207], праз два дзесяцігоддзі заменены новым, больш выразным у мастацкіх адносінах. Імя П. Багрыма носіць вуліца ў вёсцы. У 1983 г. у вёсцы адкрыўся калгасны музей, дзе прадстаўлены і некаторыя матэрыялы пра паэта. Там была змешчана на нейкі час і згаданая люстра-жырандоль з былога касцёла [208].

Вялікі ўклад у спасціжэнне і папулярызацыю мастацкай спадчыны і жыццёва-творчага падзвігу Багрыма зрабіў мастак-габеленшчык Сымон Свістуновіч, які ў выніку карпатлівых пошукаў давёў, што з Багрымавай кузні выйшлі арыгінальныя высокамастацкія каваныя агароджы, адшуканыя Свістуновічам на старых могілках як у Крошы-

---

[205] Świrko S. Z Mickiewiczem pod rękę... S. 243—244.

[206] Александровіч С. Слядамі легенды // Александровіч С. Незабыўнымі сцежкамі. С. 17.

[207] Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Брэсцкая вобласць. Мн., 1984. С. 84—85.

[208] Юнчык Л. Далягляды памяці // Звязда. 1983. 11 верас.

не, так і ў недалёкіх вёсках Калпеніца і Юшкавічы [209]. Па ініцыятыве Свістуновіча ў Крошынскай сярэдняй школе створаны музей народных мастацтваў і рамёстваў імя П. Багрыма [210]. Адначасова з адкрыццём музея (1985) у вёсцы праведзена абласное свята паэзіі [211]. Шмат гасцей сабрала паэтычнае свята ў Крошыне ў 1988 г., калі быў адкрыты новы помнік на магіле Багрыма (аўтар С. Свістуновіч) [212].

З'яўляюцца ўсё новыя публікацыі пра паэта і яго кара-ні. Далёкай гісторыі Крошына прысвечаны артыкул Анатоля Сыса «Радзіма Паўлюка Багрыма ў мінуласці» (Полымя, 1988, № 12). Спецыяльныя даследаванні прысвячаюцца Багрымавай жырандолі. Яўген Сахута зрабіў падрабязнае мастацтвазнаўчае апісанне гэтага выдатнага помніка, у прыватнасці, прывёў тэкст надпісу, выбітага на жырандолі самім майстрам: «Павел Багрым выканаў у Крошыне над Шчарай года божага 1881». (Перад намі яшчэ адзін тэкст — эпіграфічны — Багрыма.) На думку даследчыка, «надзвычай арыгінальная мастацкая дэталь — аб'ёмныя фігуркі птушак, якія рытмічна чаргуюцца з крыжыкамі і свечачнікамі. Гэта жаўранкі. І ў кавальстве ярка выявілася паэтычная натура майстра» [213]. Мастацтвазнаўчы аналіз дазволіў аднесці жырандоль Багрыма да шэдэўраў беларускага народнага мастацтва.

Багаты іцінерарый (ад лацінскага iter — дарога) у нашага паэта, фалькларыста і мастака XIX ст. Аляксандра Рыпінскага: суровы эмігранцкі лёс закінуў яго ў Парыж і Лондан. У 1982 г. лонданскія мясціны Рыпінскага наведаў А. Мальдзіс. Яго гідам быў англійскі славіст Гай дэ Пікарда, які ў свой час правёў цікавыя архіўныя і бібліятэчныя росшукі, звязаныя са знаходжаннем Рыпінскага ў Лондане і яго аколіцах. Беларускі паэт у 1849—1857 гг. жыў у Тотнэме. Калісьці гэта быў асобны гарадок, а цяпер

---

[209] Свістуновіч С. Каваў Багрым // Літ. і мастацтва. 1984. 9 лістап.

[210] Ягоўдзік У. Вясёлкаю ніткі і душы // Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Ляхавіцкага раёна. С. 428—432.

[211] Ягоўдзік У. Жаўрукі Багрыма // Літ. і мастацтва. 1985. 20 верас.; Сыс А. Мастак верша і кавадла // Голас Радзімы. 1985. 10 кастр.; Задарожны С. Памяць Крошына // Звязда. 1985. 19 кастр.

[212] Ягоўдзік У. «Народнай памяці не струшчыць»... // Літ. і мастацтва. 1988. 7 кастр.

[213] Сахута Я. Жырандоль Паўлюка Багрыма // Мастацтва Беларусі. 1986. № 3. С. 48.

раён Лондана. Як устанавіў Гай дэ Пікарда, аўтар «Беларусі» працаваў тут выкладчыкам французскай мовы і малявання ў школе Ігл-хаўс. У 1851 г. Рыпінскі жыў у маленькім будынку пад нумарам 3 па Чанс-роў разам са сваім земляком Станіславам Руткоўскім. Высветлілася нават такая дэталь: у 1855 г. паэт плаціў 20 фунтаў арэнднай платы за дом пад нумарам 5 па Гроўв-плэйс. Тут жа, у Тотнэме, знаходзіліся друкарня і фатаграфічная майстэрня Рыпінскага.

А. Мальдзіс паведамляе ў сваім «Англійскім дзённіку»: «У Тотнэмскім музеі, размешчаным у замку Брус, нам ласкава (рабочы дзень ужо канчаўся) паказалі дзве гравюры А. Рыпінскага, на якіх з розных бакоў відаць будынак школы Ігл-хаўс, а таксама ўпрыгожанае партрэтам каралевы Вікторыі пасведчанне, якое беларускі паэт выдаў адной з вучаніц школы. Гравюры сведчаць аб вялікіх мастацкіх здольнасцях аўтара. Хавальнік музейных фондаў пазнаёміў нас таксама са старымі картамі Тотнэма, па якіх мы ўстанавілі, дзе знаходзілася сама школа, а таксама дамы, у якіх жыў Рыпінскі. Будынак школы не захаваўся (на яго месцы цяпер тэхнічны каледж), а дом нумар 5 па Гроўв-плэйс збярогся да нашага часу. Мы агледзелі яго наперакор праліўному дажджу (да ведама будучых наведвальнікаў: дом двухпавярховы, а ўнізе — магазін кветак)» [214].

Віцебскімі мясцінамі Рыпінскага зацікавіўся Г. Каханоўскі. Даследчык пабываў у Кукавячыне, дзе паэт жыў у брата пасля вяртання ў 1859 г. з эміграцыі. Па прыведзеных Каханоўскім архіўных звестках 1862 г., тут было ўсяго 87 дзесяцін зямлі, да фальварка належалі Запальскі лес, млын на канале, сядзіба Рыпінскіх прылягала да бешанковіцкага гасцінца. Межамі фальварка «былі запальскае балота, палі фальварка Запалля, а з усходняга боку канал, які ідзе з возера Запалля на млын і далей у Дзвіну» [215]. Зрэшты, паводле іншых архіўных звестак, за памешчыкам Віцебскага павета адстаўным штабс-капітанам Віктарам Феліксавічам Рыпінскім (братам паэта) лічылася ў 1863 г. 355 дзесяцін зямлі [216]. Цяпер Кукавячына — вёска ў Ноўкінскім сельсавеце Віцебскага раёна.

---

[214] Мальдзіс А. З літаратуразнаўчых вандраванняў. С. 145—146.
[215] Каханоўскі Г. Вандраванні // Маладосць. 1984. № 10. С. 150.
[216] ЦДГА БССР у Мінску, ф. 1430, воп. 1, спр. 31383, л. 101 адв.

Як устанавіў Г. Каханоўскі, старая сядзіба Рыпінскіх не захавалася.

Апошнія гады свайго надзвычай багатага на падзеі жыцця Рыпінскі пражыў у ціхай вёсцы Страганы (цяпер Лёзненскі раён). Там быў некалі маёнтак Ксаверыі Аляксандраўны Рыпінскай, сваячкі паэта. Зараз гэта досыць глухое месца, куды руплівому даследчыку Г. Каханоўскаму па вясеннім часе давялося дабірацца вярхом на кані. «Я ўжо ведаў,— піша Каханоўскі,— што ў Страганах трэба пытацца «Гумно», а гэта і будзе сядзіба Рыпінскага. Мой мілы конік-спадарожнік давёз на парослае кустарнікам узвышша. Злез я, агледзеў мясціну, рэшткі падмурка і нешырокую дарожку, якая некалі вяла да гэтай сядзібы»[217]. У іншым месцы Г. Каханоўскі паведамляе: «Па расказах старажылаў, сама К. А. Рыпінская жыла тут да канца 1920-х гадоў. Працавала рахункаводам. У доме, ад якога зараз засталіся толькі рэшткі падмуркаў ды плянты, была дарагая бібліятэка, альбомы, карціны, рукапісы. Многае страцілася ў пазнейшыя часы ліхалецця»[218].

Неадольная прага да пазнання народнага побыту, жывога беларускага слова прыводзіла Рыпінскага і ў іншыя мясціны Віцебшчыны. У запісцы на беларускай мове Арцёму Вярыгу, які жыў пад Віцебскам у Стайках, ён пісаў (захоўваем асаблівасці мовы): «Іду, брат, па-твойму на мужыцкую свадзьбу аж у Бутрымова, так грошы табе после сам прывязу, а цяпер ня маю часу. Гутаркі адсылаю, але после мне дасі. Сусед Рыпінскі» (Пачынальнікі, *274*).

Тут якраз дарэчы перайсці да размовы пра памятныя мясціны Арцёма Вярыгі, творчасць якога таксама непарыўна знітавана з роднай зямлёй, з родным куткам Беларусі, з «Дзвіной серабрыстай». Паводле звестак яго біёграфа Д. Васілеўскага, у Стайках, набытых Вярыгам каля 1843 г., было 106 дзесяцін зямлі[219]. Знойдзенае ў архіве апісанне Стаек за 1857 г. дае іншую карціну: 402 дзесяціны і 54 душы сялян мужчынскага полу. Праўда, апісанне гэтае зроблена для атрымання пазыкі з Пецярбургскага апякунскага савета, і не выключана, што лічбы ў ім, нягледзячы на самыя аўтарытэтныя подпісы, завышаны.

---

217 Маладосць. 1984. № 10. С. 154.

218 Каханоўскі Г. А., Малаш Л. А., Цвірка К. А. Беларуская фальклАрыстыка: Эпоха феадалізму. Мн., 1989. С. 172.

219 Васілеўскі Д. Арцём Ігнатавіч Вярыга і яго літаратурна-грамадская чыннасць // Полымя. 1929. № 6. С. 189.

У апісанні прыгадваецца драўляны панскі дом, крыты гонтай і абмураваны знадворку цэглай, на 9 пакояў, кузня, вятрак, сад [220]. У ведамасці канфіскаваных маёнткаў удзельнікаў паўстання 1863 г. на Віцебшчыне пра Вярыгавы Стайкі зноў жа пазначана: 106 дзесяцін зямлі, з іх 782 сажні пад садам [221]. Так што звесткі, як бачым, супярэчлівыя, і гісторык, як і ў многіх іншых выпадках, аказваецца перад праблемай выбару больш верагодных версій.

У нашы часы Стайкі абследаваў Г. Каханоўскі, які адзначыў у сваіх дарожных нататках: «Сфатаграфаваў я прыкметы старых падмуркаў Вярыгавай хаты, адзічэлыя плянты, што аточвалі ўязную дарогу, якой штодня хадзіў беларускі пісьменнік і паўстанец. Як населены пункт Стайкі даўно перасталі існаваць, і толькі гэтыя асколкі колішняга жыцця наводзяць нас на роздум, што тут пульсаваў нейкі асяродак культурнага жыцця» [222]. Сапраўды, Стайкі ў Вярыгавы часы былі досыць важным для нашай гісторыі літаратурна-культурным асяродкам, які прыцягваў аматараў беларушчыны.

Многае звязвала А. Вярыгу і з Віцебскам. Тут ён падоўгу жыў, напярэдадні 1863 г. знаходзіўся ў цэнтры грамадска-культурнага жыцця старадаўняга горада. Многія свае віцебскія адрасы пісьменнік назваў на допытах пасля арышту пад час паўстання Кастуся Каліноўскага. «Постоянное жительство имею в имении Стайках,— зазначыў Вярыга ў паказанні ад 1 чэрвеня 1863 г.— В городе Витебске, по близости расстояния от него моего местожительства, по разным делам, как собственным, так опекунским, бываю часто, останавливаюся по заездным домам на разных улицах, а чаще на Замковой в домах Меера Баренблята, Чертка и Кушнера. В прошлом и запрошлом году по подряду на исправление семи православных церквей некоторое время проживал я в Витебске постоянно, в доме Яковицкой на Замковой улице прежде, а после при шоссе противу Казенной палаты в доме Шапиры» (Пачынальнікі, *283*).

Краязнавец А. Падліпскі дадае да гэтых адрасоў яшчэ тры: дом Бабіча на Афіцэрскай вуліцы, дзе жыў сябра

---

[220] Кісялёў Г. Арцём Вярыга-Дарэўскі // Кісялёў Г. Загадка беларускай «Энеіды». Мн., 1971. С. 159.

[221] Витебские губернские ведомости. 1868. 16 февр.

[222] Маладосць. 1984. № 10. С. 152.

пісьменніка Л. Сулістроўскі; будынак тэлеграфнай станцыі, начальнікам якой быў добры знаёмы пісьменніка Абрампальскі; будынак Дваранскай зборні, дзе Вярыга ў свой час працаваў.

А. Падліпскі ўстанавіў месцы, дзе знаходзіліся ў часы Вярыгі Кушнераўская гасцініца (потым «Брыстоль»), дом Якавіцкай, апякуном якой быў пісьменнік, а таксама Дваранская зборня. «Ва ўсякім разе,— піша дасведчаны краязнавец,— адзін «вярыгаўскі» будынак у Віцебску захаваўся да нашых дзён». Гэта былая тэлеграфная станцыя. Яе будынак знаходзіўся на рагу вуліц Смаленскай і Дварцовай (цяпер Леніна і Савецкая). Праўда, пасля вайны ён перабудоўваўся, быў узведзены трэці паверх. Але адна з старых паштовак данесла да нас від гэтага будынка, якім яго бачыў пісьменнік [223].

Цікавяцца даследчыкі таксама акалічнасцямі ссылкі Вярыгі, яго сібірскімі мясцінамі (Усолле, Іркуцк і інш.) [224].

Даволі рупліва на сённяшні дзень, хоць у рознай ступені, вывучаны і дагледжаны памятныя мясціны вялікага нацыянальнага пісьменніка, найбольш яркага прадстаўніка літаратуры XIX ст. Францішка Багушэвіча.

На самым пачатку 1960-х гадоў нашым літаратуразнаўствам (найперш тут прычыніўся С. Александровіч) было ўсвядомлена, што Багушэвіч нарадзіўся не ў Кушлянах, як доўгі час лічылася, а ў Свіранах [225], непадалёк ад Вільні (цяпер гэта ў Рукайнскай апілінцы Вільнюскага раёна Літвы). Першае апісанне Свіран у сувязі з багушэвічазнаўствам зроблена ў нашым артыкуле пра юнацтва і маладосць Багушэвіча: «На 25-ым кіламетры ад Вільнюса па Мінскай шашы, управа ад дарогі, збягае ўніз да невялікай рэчкі, атуленай хмызнякамі, палявая дарога. Абапал яе ляжаць валуны. Перад рэчкай пад старымі высокімі ліпамі стаяць тры хаты... Гэта і ёсць радзіма Багушэвіча...» [226] У наступным пра Свіраны пісалі С. Александровіч, У. Содаль, іншыя даследчыкі і папулярызатары роднай

---

[223] Падліпскі А. Вярыгаўскія мясціны Віцебска // Літ. і мастацтва. 1980. 31 кастр.

[224] Тагаров З. Каторжанин // Нёман. 1969. № 9.

[225] У заходнебеларускім і польскім друку пра гэта пісалася яшчэ да вайны.

[226] Кісялёў Г. Гімназічныя і студэнцкія гады Францішка Багушэвіча // Полымя. 1960. № 10. С. 161.

літаратуры [227]. У маі 1990 г. з удзелам гасцей з Беларусі тут урачыста адзначана 150-годдзе з дня нараджэння нашага класіка.

Метрычныя кнігі бліжэйшага ад Svіран Рукойнскага (Рукайнскага) касцёла (захоўваюцца ў ЦДГА, Вільнюс) дапамаглі ўстанавіць, што бацькі паэта жылі тут даволі доўга. У 1836 г. у Свіранах у іх нарадзіліся блізняты Анастас і Нарцыс, якія, відаць, хутка памерлі. Праз два гады прыйшла на свет Ганна, у 1840 г. нарадзіўся Францішак, у наступным годзе — Валяр'ян. Малодшы брат Апалінар нарадзіўся ў 1846 г. ужо ў Кушлянах. Вось у гэтае пяцігодзе паміж нараджэннем Валяр'яна і Апалінара (1841—1846) сям'я перабралася з Свіран у Кушляны, якія бацька атрымаў у спадчыну яшчэ ў 1837 г. Тут прайшло дзяцінства будучага паэта, адбылося станаўленне яго як асобы.

У 1863 г. Кушляны, як і Люцынка В. Дуніна-Марцінкевіча, сталі своеасаблівым апорным пунктам паўстанцаў Каліноўскага. Улады арыштавалі блізкіх пісьменніка. Маёнтак на нейкі час быў секвестраваны [228]. Існуе легенда, што ў памяць аб гэтых падзеях Францішак са сваімі блізкімі пабудаваў тут капліцу.

Вымушаны ратавацца ад царскіх шпікоў, Багушэвіч знайшоў прытулак на Украіне. Толькі праз дваццаць гадоў, ужо сталым чалавекам, вярнуўся Францішак Казіміравіч на радзіму. Уладкаваўся адвакатам у Вільні і зноў пачаў наведвацца ў родныя Кушляны. К моманту смерці бацькі (1884) у маёнтку заставалася 170 дзесяцін зямлі. Акрамя таго, каля 69 дзесяцін было ў агульным валоданні з суседнімі дробнымі памешчыкамі — Маркоўскімі, Ясевічамі і Кулешамі. У адпаведнасці з законам Віленскі акруговы суд размеркаваў спадчыну: 1/14 частка — Ганне і па 13/28 — Францішку і Апалінару. Для Францішка Казіміравіча Кушляны былі любімым месцам адпачынку пасля ўсіх нялёгкіх віленскіх клопатаў.

У 1896 г. пісьменнік атрымаў пасля нейкага сваяка пэўную суму грошай, што дазволіла яму разлічыцца

[227] Александровіч С. Незабыўнымі сцежкамі. С. 44—46; Содаль У. Сцежкамі песняра // Голас Радзімы. 1979. 5 крас.; Цвірка Н. «Аб сабе хачу пакінуць памяць...» // Літ. і мастацтва. 1990. 12 студз.; Яна ж. Доля паэта // Беларусь. 1990. № 3; Цвірка К. Тут грала дудка Бурачка // Полымя. 1990. № 5. С. 153—156.

[228] Тагачасную справу «О принятии в казну имения Кушляны помещика Богушевича» гл. ЦДГА ЛітССР, ф. 525, воп. 15, спр. 794.

з братам і сястрой і стаць у Кушлянах поўным гаспадаром. Тут будуецца новы дом. У маі 1898 г. Багушэвіч, будучы ўжо цяжка хворым, перабраўся туды на сталае жыццё. Вясной 1900 г. тут ён памёр, пахаваны ў недалёкіх Жупранах.

Кушлянскі дом, якому ўжо каля сотні гадоў, на шчасце, захаваўся да нашых дзён. Калі не лічыць дома У. Сыракомлі ў Барэйкаўшчыне (Літва), гэта адзіная ўцалелая вясковая сядзіба беларускага пісьменніка XIX ст. Дом адлюстроўвае як традыцыі беларускай народнай архітэктуры, так і погляды Багушэвіча на тое, якім павінна быць жытло вясковага інтэлігента. Паводле ацэнкі спецыялістаў, «незамыславаты па архітэктуры аднапавярховы будынак» адрозніваецца ад сялянскіх хат хіба што «большымі памерамі і вышынёй даху»[229].

Дом адлюстраваны на фотаздымках канца XIX ст., якія мы ўжо згадвалі. У 1929 г. у сувязі з надыходзячым юбілеем Багушэвіча цікавыя замалёўкі на радзіме песняра зрабіў мастак Язэп Драздовіч. Усяго было зроблена 20 малюнкаў (у двух сшытках). У наступным годзе некаторыя малюнкі былі апублікаваны ў прысвечанай Багушэвічу кнізе А. Станкевіча[230]. На іх прадстаўлены: дом у Кушлянах з пасаджаным самім пісьменнікам вязам; камень-помнік Багушэвічу паблізу Кушлян; капліца ў Кушлянах, звязаная з імёнамі пісьменніка і яго бацькі; сямейная магіла Багушэвічаў у Жупранах.

Пасля Вялікай Айчыннай вайны нашчадкі Багушэвіча выехалі ў Польшчу, дом прыйшоў у запусценне. Пастановай Савета Міністраў БССР ад 12 снежня 1950 г. сядзіба Багушэвіча была прынята пад дзяржаўную ахову. У 1951 г. пасля адпаведнага рамонту ў доме была адкрыта вясковая бібліятэка імя Ф. Багушэвіча. Шмат намаганняў для захавання Багушэвічавай сядзібы прыклаў стары мясцовы селянін М. Ляпёха. У 1987 г. часопіс «Беларусь» прысвяціў Ляпёху цэлую старонку з выдатным здымкам-партрэтам А. Кляшчука. «Без малога тры дзесяткі гадоў Міхал Сымонавіч Ляпёха — захавальнік сядзібы паэта-дэмакрата Францішка Багушэвіча,— пісаў А. Кляшчук.—

---

[229] Кулагін А. На радзіме Багушэвіча // Беларуская мова і літаратура ў школе. 1989. № 10. С. 64.

[230] Станкевіч А. Францішак Багушэвіч, яго жыццё і творчасць: У трыццатыя ўгодкі смерці. Вільня, 1930.

Намаганнямі гэтага бескарыслівага чалавека зроблена нямала, каб існаваў гэты куток як памяць пра вялікага сына беларускага народа: адноўлены і захаваны парк з алеямі, па якіх хадзіў калісьці паэт, альтанкі, у якіх любіў адпачываць, думаць. Агароджаны і дагледжаны камень-валун у гонар паэта. Але галоўнае — дом. Прысутнасць чалавека ў ім сцеражэ старыя сцены, падоўжвае іх жыццё»[231].

Тым не менш многае ўсё-такі паступова разбуралася, страчвалася (сажалка, часткова капліца). Унучка пісьменніка С. Тамашэўская, пабываўшы ў Кушлянах у 1972 г., пасля не без падставы пісала У. Содалю: «Не разумею, з аднаго боку, вы шануеце дзядулю, ставіце помнікі і надгробкі, з другога ж боку, нішчыце ўсё, што ўзнікла па яго задуме і ініцыятыве»[232].

У 1980 г., калі адзначалася 140-я гадавіна з дня нараджэння Багушэвіча, наша культурная грамадскасць захапілася ідэяй аднавіць сядзібу ў Кушлянах на сучаснай навуковай аснове і адкрыць там літаратурны музей песняра. Гродзенскі абласны гісторыка-археалагічны музей атрымаў заданне скласці план экспазіцыі, потым гэтая работа была даручана рэспубліканскаму літаратурнаму музею, дзе выканана пад кіраўніцтвам Н. Цвіркі. Навукова-вытворчыя майстэрні «Белрэстаўрацыя» распрацавалі праект аднаўлення дома і сядзібы. Аўтар праекта — архітэктар В. Слюнчанка[233]. Пытанне жыва дыскутавалася ў прэсе[234]. Багата клопатаў было ў першага дырэктара музея-сядзібы паэта і даследчыка Багушэвічавай спадчыны А. Жамойціна. Адкрыццё музея ў чэрвені 1990 г. стала значнай культурнай падзеяй у рэспубліцы[235].

Шмат зрабіў для вывучэння і папулярызацыі багушэвічаўскіх родных мясцін Уладзімір Содаль, змястоўныя публікацыі і кніжка якога «Кушлянскі кут» (1990), прасякнутыя любоўю да кожнага найменшага лапіка кушлян-

---

[231] Кляшчук А. Кушлянскі руплівец // Беларусь. 1987. № 12. С. 25.

[232] Полымя. 1990. № 3. С. 165.

[233] Рэпрадукцыі некаторых эскізаў: Францішак Бенядзікт Багушэвіч: Жыццё і творчасць. С. 77—78; Маладосць. 1990. № 3. С. 4; Содаль У. Кушлянскі кут. Мн., 1990. С. 34, 44, 53. На заключным этапе працу В. Слюнчанкі працягвала Я. Ханіна.

[234] Мальдзіс А. Аднавіць Багушэвічаву сядзібу ў Кушлянах // Літ. і мастацтва. 1986. 3 студз.; Карповіч Т. Была я з вучнямі ў Кушлянах... // Літ. і мастацтва. 1986. 8 жн.

[235] Крук У., Марціновіч А. «Мы ўсе выйшлі з Багушэвіча...» // Літ. і мастацтва. 1990. 8 чэрв.

скай зямлі, сталі адметным укладам у багушэвічазнаўства. Што асабліва імпануе, даследчыку ўдалося выявіць нямала мясцовых рэалій, якія знайшлі тое або іншае адлюстраванне ў творчасці нашага песняра, правесці адпаведныя цікавыя паралелі.

Надзвычай прыцягальнымі для беларускай інтэлігенцыі, для кожнага свядомага беларуса з'яўляюцца Жупраны — месца апошняга спачыну песняра. Жупранам, як і Кушлянам, прысвечана нямала ўсхваляваных радкоў нашых паэтаў, пісьменнікаў. Вось, напрыклад, пачатак вядомай мініяцюры Янкі Брыля:

«Учора быў першы раз у Жупранах. Магіла, помнік, і, у касцёле, партрэт Багушэвіча.

Радасна, дзіўна, што ён — не легенда, не гістарычнае штосьці, а чалавек, які зусім паблізу жыў, памёр і пахаваны тут вось... на звычайных вясковых магілках, дзе на кожным помніку па некалькі пацешных памылак...»[236]

Разнастайныя матэрыялы дазваляюць досыць паслядоўна прасачыць гісторыю ўпарадкавання Багушэвічавай магілы, ушанавання песняра ў Жупранах.

Магілы Багушэвіча і яго блізкіх, пахаваных побач на старых жупранскіх могілках, з навуковай стараннасцю адлюстраваны на згаданым малюнку Я. Драздовіча 1929 г. Мастак наступным чынам пералічыў асоб, пахаваных у гэтым кутку могілак: I — Францішак Багушэвіч, II — Казімір Багушэвіч, III — бацька паэта (тут нейкая загадкавая памылка, бо бацька Казімір ужо названы ў папярэднім пункце), IV — брат паэта Уладзіслаў, V — сын Тамаш, пахаваны ў бацькавай магіле (памёр у 1929 г.), VI — жонка Габрыеля (памерла таксама ў 1929 г.). У пасляваенны перыяд аб стане магіл не аднойчы пісала тагачасная прэса[237]. У наш час магілы добраўпарадкаваны. У 1975 г. тут пастаўлены надмагільны помнік з барэльефам Багушэвіча (скульптары В. Данянкоў і В. Пятраеў)[238].

Як ужо гаварылася, неўзабаве пасля смерці пісьменніка яго памяць была ўшанавана адпаведнай мемарыяль-

---

[236] Літ. і мастацтва. 1964. 16 чэрв.

[237] Сорак пяць год з дня смерці Ф. Багушэвіча // Беларусь. 1945. № 4; Александровіч С. На Жупранскіх могілках // Беларусь. 1946. № 11—12.

[238] У часопісе «Беларуская мова і літаратура ў школе» (1990, № 3, 3-я старонка вокладкі) аўтарам названы скульптар К. Асадаў.

най дошкай у Жупранскім касцёле. Апошнім часам яна знаходзілася ў Ашмянскім краязнаўчым музеі. Прынята слушнае рашэнне вярнуць яе ў касцёл. У 1958 г. у Жупранах на плошчы быў пастаўлены помнік Багушэвічу (бюст работы З. Азгура на высокім пастаменце ружовага граніту)[239]. Імя Багушэвіча носіць школа ў Жупранах (ёсць адпаведны школьны музей), краязнаўчы музей у Ашмянах, дзе таксама ёсць прысвечаная пісьменніку экспазіцыя.

Вывучаюцца і мемарыялізуюцца багушэвічаўскія мясціны на Украіне. У будынку былога Нежынскага юрыдычнага ліцэя (Чарнігаўская вобласць), дзе атрымаў у свой час вышэйшую адукацыю Багушэвіч, цяпер размяшчаецца педагагічны інстытут імя М. В. Гогаля. У 1960 г. тут адкрыта мемарыяльная дошка з надпісам на ўкраінскай мове: «У гэтым будынку з 1865 па 1868 год у ліцэі вучыўся выдатны беларускі паэт Францішак Казіміравіч Багушэвіч»[240].

Нядаўна вуліца Францішка Багушэвіча з'явілася ў Канатопе (Сумская вобласць, былая Чарнігаўская губерня), дзе пісьменнік доўгі час (1874—1884) працаваў следчым, дзе ён спазнаў паўнату сямейнага жыцця, дзе нарадзіліся яго дзеці[241].

Як вядома, біяграфія нашага песняра была звязана таксама з Вільняй, Пецярбургам, многімі іншымі гарадамі, мястэчкамі і вёскамі Беларусі, Літвы, Украіны, Расіі. Цікавая схема «Жыццёвыя дарогі Ф. Багушэвіча» (мастак В. Катовіч, 1984 г.) змешчана ў альбоме «Францішак Бенядзікт Багушэвіч: Жыццё і творчасць» (с. 101). На схеме паказаны: Свіраны (1840—1846), Кушляны (1846—1851, 1898—1900), Вільня (1851—1861, 1864—1865, 1884—1898), Пецярбург (1861), Ліда і Доцішкі (1861—1863), Сувалкі і Аўгустоў (1863), Нежын (1865—1868), Чарнігаў (1868—1869), Кралявец (1869), Старадуб (1870), Волагда (1871), Гразявец (1871—1872), Барзна (1872—1874), Канатоп (1874—1884), Гродна (1887), нарэшце, апошні прытулак пісьменніка Жупраны. Няцяжка заўважыць, што тут зафіксаваны далёка не ўсе шляхі-

[239] Содаль У. Помнік на вясковай плошчы // Беларуская мова і літаратура ў школе. 1989. № 10.

[240] Александровіч С. Незабыўнымі сцежкамі. С. 54.

[241] Карнюшчанка І. Імя Францішка Багушэвіча // Літ. і мастацтва. 1989. 11 жн.

дарогі нашага песняра, не ўсе мясціны, дзе — гаворачы высокім стылем — ступала яго нага. Скажам, прапушчана Вішнева, дзе Багушэвіч не раз бываў па справах свайго сябра Я. Карловіча. Зусім не ўлічана экскурсія на лодках па Віліі ў Коўна. Не адлюстраваны польскія мясціны Багушэвіча (Варшава, Кракаў), яго замежныя паездкі. Варта ўдакладніць і некаторыя ўказаныя на схеме даты. Напрыклад, у змешчаных у тым жа альбоме «Асноўных датах жыцця і творчасці Францішка Багушэвіча» (с. 102) прыезд у Вільню ў сувязі з паступленнем у гімназію больш дакладна датуецца 1852 г., пачатак настаўнічання ў Дошішках 1862 г., што таксама больш адпавядае наяўным крыніцам.

Да нас дайшло некалькі асабістых рэчаў Багушэвіча, частка старадаўняй мэблі з кушлянскага дома. Зберагліх кушлянскія старажылы, супрацоўнікі Дзяржаўнага музея БССР і Ашмянскага краязнаўчага музея імя Ф. Багушэвіча. Гэтаму пытанню прысвечаны спецыяльны раздзел пад назвай «З Багушэвічавага дому» ў кнізе У. Содаля «Кушлянскі кут». Уцалелыя рэчы, піша Содаль, «не могуць не ўразіць нас: гэтулькі падзей пранеслася над Кушлянскім краем, гэтулькі пажараў адшугала над нашай зямлёй, а людзі ўсё ж такі зберaглі нямала памятак па Багушэвічу. Гэтыя рэчы дапамагаюць уявіць побыт, у якім жыў паэт, зразумець яго час, эпоху, нават яго настрой, густ, душу»[242]. Вось канкрэтны прыклад. Захаваўся настольны, у пазалоце, гадзіннік пісьменніка. Вядома, што некалі на ім была фігурка французскага паэта Беранжэ. «Думаецца, Багушэвіч не выпадкова набыў гадзіннік з постаццю славутага француза,— слушна разважае Содаль.— Мабыць, яму імпанавала творчасць гэтага паэта»[243]. Сапраўды, творчасць Беранжэ блізкая беларускім літаратарам сваім дэмакратызмам і народнымі вытокамі, да яго вершаў звярталіся яшчэ старэйшыя сучаснікі Багушэвіча У. Сыракомля і В. Каратынскі.

Некаторыя асабістыя рэчы Багушэвіча ставяць перад даследчыкамі новыя загадкі, хаваюць нейкія таямніцы, якія раней або пазней будуць раскрыты. Вось, напрыклад, характэрная памятка — шматгранны з горнага базальту са светлым прожылкам настольны прэс-камень. Зверху на камені, на вузенькай шліфаванай палосцы значацца іні-

---

[242] Содаль У. Кушлянскі кут. С. 45.
[243] Там жа. С. 41.

цыялы Багушэвіча (дзве лацінскія літары) і дата «XII 1896». Якую падзею ў жыцці пісьменніка знамянуе гэтая дата — невядома. «Магчыма, на гэтым камені Багушэвіч увекавечыў дату атрымання спадка або час забудовы новага дома?»[244] — пытаецца У. Содаль. Але цалкам пераканаўчага адказу пакуль няма.

Апошнім часам са змястоўным літаратурна-краязнаўчым нарысам пра Багушэвіча выступіў Кастусь Цвірка. Ён заклікае працягваць вывучэнне багушэвічаўскіх мясцін, часцей бываць там, зноў і зноў вяртацца да вытокаў суровай і мужнай песні: «...гэта вялікая радасць — яшчэ раз прайсці ўсімі тымі дарогамі, дзе, прарываючы гнятлівую немату маўчання, на ўвесь голас грала чыстая і непадкупная беларуская дудка Мацея Бурачка»[245].

Родныя мясціны таленавітага сучасніка Багушэвіча Фелікса Тапчэўскага даследаваў у наш час Г. Каханоўскі. Кіруючыся, як самым дакладным арыенцірам, паэтавым псеўданімам «Хвэлька з Рукшэніц», даследчык адшукаў гэтыя Рукшэніцы, або Рукшаніцы, ва Ушацкім раёне. «Рукшаніцы амаль зліліся з вёскай Глыбачкай,— зазначыў вучоны ў сваіх дарожных нататках.— Мне здавалася, што Рукшаніцы большыя. Тут сельсавет, магазін, сталоўка, бальніца і нават прыпынак аўтобуса. Аказваецца, і аўтобус сюды ходзіць з Ушачаў, толькі Рукшаніцы сышлі з афіцыйных дакументаў і ўступілі месца Глыбачцы»[246].

Г. Каханоўскі запісаў успаміны старажылаў пра паэта. Фальварак самога Тапчэўскага, паводле гэтых успамінаў, быў на гары ва ўрочышчы Лёсава — вялікі драўляны дом, абнесены мураваным плотам. Пабываў Г. Каханоўскі і ў Вухвішчы, дзе Тапчэўскі служыў некалі ўпраўляючым. У дарожных нататках даследчыка ёсць па-майстэрску — некалькімі штрыхамі — зробленае лірычнае апісанне гэтай вёскі: «Вухвішча — прыгажосць якая. Возера, домікі наўкола туляцца да яго. Толькі адна вулачка адскочыла ўбок, нібы паказваючы дарогу на Полацк, а правільней — каб сустракаць і праводзіць гасцей»[247].

---

[244] Содаль У. Імпульсы // Полымя. 1989. № 6. С. 204.

[245] Цвірка К. Тут грала дудка Бурачка... // Полымя. 1990. № 5. С. 180.

[246] Каханоўскі Г. Рукшаніцы і Вухвішча // Каханоўскі Г. Адчыніся, таямніца часу. С. 87.

[247] Там жа. С. 91.

Пасля паездкі Г. Каханоўскага клопатамі мясцовага настаўніка І. Законнікава на могілках паблізу Рукшаніц быў адшуканы магільны камень паэта з дакладнай датай смерці (17. XII. 1892) і ўказаннем узросту нябожчыка. Адкрыццё краязнаўцаў натхніла Р. Барадуліна на верш «Камень Фелікса Тапчэўскага» з прысвячэннем І. Законнікаву:

І слова крэўнасцю пачэснае
Іскрынкай радасці былой,
Як камень Фелікса Тапчэўскага,
З зямлі
Узыдзе над зямлёй.

Часаны любасцю івераю
Валун —
Пястун ледавіка
Не лёг над прахам
Глыбай шэраю,
А ўстаў — нямы працяг радка...[248]

Літаратурна-краязнаўчыя пошукі Г. Каханоўскага і мясцовых рупліўцаў-следапытаў садзейнічаюць высвятленню акалічнасцей жыцця і творчасці шмат у чым яшчэ загадкавага «Хвэлькі з Рукшэніц».

Абуховічаўскія мясціны Беларусі даследаваў слуцкі краязнавец Р. Родчанка. Не адразу, з немалымі прыгодамі, знайшоў ён у Глускім раёне вёску Калацічы, дзе пісьменнік у свой час нарадзіўся. Родчанкам устаноўлена: «Панскія пакоі стаялі яшчэ да 1948—1950 гадоў. У час вайны ў іх размяшчаўся варожы гарнізон. Па памерах гэта быў вялікі будынак, дзе пасля вайны знаходзіўся інтэрнат для трактарыстаў МТС і жылі сем'і рабочых. Ад былога панскага парку засталося ўсяго некалькі дрэў...»[249] Настойлівы краязнавец высветліў дакладнае месца ў Слуцку, дзе жыў апошнія гады Абуховіч,— дом Хведаровічаў на былой Іванаўскай, цяпер вуліца Розы Люксембург. Сам дом не захаваўся — згарэў у час Айчыннай вайны[250]. Нарэшце, Р. Родчанка адшукаў на слуцкіх могілках Абуховічаву магілу. Указаная на помніку дата смерці — 10 жніўня 1898 г.[251] — зрабіла цэлы пераварот не толькі ў вывучэнні біяграфіі пісьменніка, але і ў тэкста-

---

[248] Літ. і мастацтва. 1982. 30 ліп.
[249] Родчанка Р. Альгерд Абуховіч-Бандынэлі. С. 24.
[250] Там жа. С. 44.
[251] Там жа. С. 12.

логіі яго твораў (пра гэта мы будзем мець яшчэ нагоду гаварыць).

Жыццё Янкі Лучыны найперш звязана з Мінскам. Тут, што называецца, яго помніць кожны камень: у Мінску ён нарадзіўся, вучыўся ў гімназіі, пад канец жыцця працаваў ва ўпраўленні чыгункі.

Вядома, што бацькі Лучыны Неслухоўскія жылі ў Мінску ва ўласным доме па Юр'еўскай вуліцы. У прыватнасці, у 1870 г. бацька паэта як паверанмы князёў Радзівілаў напісаў два прашэнні ў сенат і ўказаў у іх свой адрас: Мінск, 1-я частка, 1-ы квартал, Юр'еўская вуліца, дом № 23 (на другім прашэнні чамусьці, можа, праз механічную памылку, указаны нумар дома 22) [252]. Гэты ж адрас (Юр'еўская, 23) падае У. Мархель, са спасылкай на дакументы радаводнай справы Неслухоўскіх у мінскім гістарычным архіве [253]. Можна думаць, што бацькі валодалі гэтым домам досыць даўно, хутчэй за ўсё там і нарадзіўся будучы паэт. А. Мальдзіс разважае пра месца нараджэння Я. Лучыны так: «Сёння мы, на жаль, не можам дакладна сказаць, дзе адбылася гэта падзея, дзе ж у Мінску стаяў дом бацькоў будучага паэта — адваката Люцыяна Юр'евіча Неслухоўскага і яго жонкі Антаніны, родам з Лукашэвічаў. Але паколькі іх сям'я пражывала, паводле крыху пазнейшых дакументаў, ва ўласным доме пад нумарам 23 па вуліцы Юр'еўскай, паколькі Юр'еўская вуліца ішла паралельна цяперашняму Ленінскаму праспекту і вуліцы Інтэрнацыянальнай, можна прыблізна вылічыць, што знаходзіўся ён дзесьці там, дзе сёння ўзвышаецца Музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны» [254].

У 1865—1870 гг. будучы паэт вучыўся ў Мінскай класічнай гімназіі. Яго імя, побач з імёнамі А. Ельскага і Ядвігіна Ш., ёсць на мемарыяльнай дошцы ў гонар Мінскай гімназіі і яе выхаванцаў. Дошка з'явілася ў 1989 г. на старадаўнім будынку № 23 на плошчы Свабоды, дзе некалі, у 1803 г., гімназія была адкрыта [255]. У часы Лучыны гімназія знаходзілася на Францысканскай, або інакш Губернатарскай, вуліцы (сёння вуліца Леніна). Будынак тых

---

[252] ЦДГА БССР у Мінску, ф. 694, воп. 4, спр. 5436, л. 66—68.
[253] Мархель У. Крыніцы памяці. Мн., 1990. С. 150.
[254] Мальдзіс А. З кагорты пачынальнікаў: Да 130-годдзя з дня нараджэння Янкі Лучыны // Літ. і мастацтва. 1981. 3 ліп.
[255] Варава А. Плошча Свабоды, 23 // Чырв. змена. 1988. 5 сак.; Ен жа. Вяртаючыся да надрукаванага // Літ. і мастацтва. 1989. 18 жн.

часоў не захаваўся, яго апісанне і здымак можна бачыць у «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі» [256], здымак — у кнізе: Лучына Я. Творы. Мн., 1988. С. 11.

Пад канец жыцця Лучына, будучы сур'ёзна хворым, працаваў інжынерам у Мінску ва ўпраўленні Лібава-Роменскай чыгункі. Сваім службовым адрасам ён карыстаўся ў прыватнай перапісцы (так, мабыць, пісьмы хутчэй даходзілі). Напрыклад, у пісьме да З. Пшасмыцкага ён указаў па-польску: «Адрас заўсёды пэўны: губ. Мінск. Кантора тракцыі Ліб.-Ром. чыг. Івану Люцыянавічу Неслухоўскаму» [257]. Той жа адрас па-руску знаходзім у пісьме да М. Доўнар-Запольскага: «Губ. г. Минск, Контора тяги Л.-Р. ж. д. Ивану Люциановичу Неслуховскому» [258]. Як паведаміў нам знаўца старога Мінска У. Дзянісаў, будынак канторы цягі (па-польску — тракцыі) Лібава-Роменскай чыгункі захаваўся да нашых дзён — Інтэрнацыянальная, 29. Гэта якраз па суседству з домам Неслухоўскіх на былой Юр'еўскай, і хвораму паэту, які карыстаўся мыліцамі, было не так цяжка дабірацца да службы.

Карыстаўся Лучына для перапіскі і другім мінскім адрасам — «кнігарня п. Савіцкай» [259] (варта было б нашым даследчыкам пацікавіцца, дзе знаходзілася гэтая кнігарня).

Памёр Янка Лучына таксама ў Мінску і пахаваны на Кальварыйскіх могілках. Пасля вайны яго магіла на нейкі момант аказалася згубленай сярод іншых пахаванняў. У 1951 г., да 100-годдзя з дня нараджэння паэта, спробу адшукаць магілу Лучыны рабіў пісьменнік В. Вольскі, які працаваў тады ў Інстытуце мовы, літаратуры і мастацтва АН БССР. Захавалася яго дакладная запіска аб абследаванні з гэтай мэтай Кальварыйскіх могілак. Магілу Лучыны знайсці тады не ўдалося, Вольскі адзначыў толькі магілы блізкіх паэта: Люцыян Неслухоўскі [бацька], нарадзіўся 13 сакавіка 1817 г., памёр 8 лютага 1880 г. Антон Неслухоўскі [брат], памёр 15 верасня 1895 г. Антаніна з Неслухоўскіх Трэпка [сястра], нарадзілася 12 чэрвеня 1855 г., памерла 15 лютага 1879 г. [260]. Праз некаторы час

---

256 Дзянісаў У. М. Мінскай мужчынскай гімназіі будынак // ЭЛіМБел. Мн., 1986. Т. 3. С. 558.

257 Лучына Я. Творы. Мн., 1988. С. 200.

258 Там жа. С. 202.

259 Там жа. С. 196, 198.

260 ЦДАМЛіМ БССР, ф. 100, воп. 2, спр. 156, л. 46.

магіла Лучыны была ўсё-такі адшукана намаганнямі гісторыка-мемарыяльнай камісіі Саюза пісьменнікаў БССР. Вялікую дапамогу ў гэтым аказала старая мінчанка, якая доўгі час працавала ў апараце Саюза пісьменнікаў, М. Хайноўская. Да 130-годдзя з дня нараджэння Лучыны (1981) на яго магіле была ўстаноўлена часовая пліта [261]. Плануецца паставіць тут адпаведны помнік з адначасовым упарадкаваннем размешчаных побач магіл сваякоў.

Янка Лучына жыў і за межамі Беларусі. Даследчыкі вывучаюць акалічнасці яго вучобы ў Пецярбургу (універсітэт, тэхналагічны інстытут), службы на Каўказе (Тыфліс?). «Грандыёзны воблік Каўказа» (В. Бялінскі) не мог не адбіцца на творчасці паэта. Прасякнуты моцнымі каўказскімі ўражаннямі верш Лучыны «Пышны малюнак» (надрук. у 1887 г.) лічыцца важнай вяхой беларуска-грузінскіх літаратурна-культурных сувязей.

Родныя мясціны паэта-рэвалюцыянера Адама Гурыновіча (Кавалі, або Кавалькі, на Мядзельшчыне, Крыстынопаль на Смаргоншчыне) вывучаліся ў 30-я гады Я. Шутовічам, у наш час Г. Каханоўскім [262]. Сядзібны дом у Крыстынопалі можна бачыць на старых здымках, апублікаваных А. Мальдзісам. З роднымі аколіцамі сюжэтна звязаны верш паэта «Раз у Зольках, у дзярэўні...» Спецыялісты каменціруюць: «Зولькі — вёска на Вілейшчыне (маецца на ўвазе былы Вілейскі павет.— *Г. К.*), недалёка ад фальварка Кавалі, дзе нарадзіўся паэт. У аснову верша пакладзена здарэнне, якое мела месца на самай справе» [263]. На Смаргоншчыне, у межах былога Свянцянскага павета, паэт збіраў фальклорныя матэрыялы. Геаграфічныя каардынаты надзвычай падрабязна і канкрэтна адлюстраваны ў назве яго фалькларыстычнай працы: «Збор беларускіх твораў (з Вішнеўскай воласці, Жодзішскай парафіі, Свянцянскага павета, Віленскай губерні)» (1893).

Магіла паэта на фамільных могілках у Крыстынопалі была разбурана яшчэ у час першай сусветнай вайны і цяпер невядомая.

Землякі шануюць памяць паэта-рэвалюцыянера. Імем

---

[261] Мальдзіс А. З кагорты пачынальнікаў // Літ. і мастацтва. 1981. 3 ліп.

[262] Шутовіч Я. Адам Гурыновіч // Полымя. 1966. № 11; Каханоўскі Г. Дзе нарадзіўся Адам Гурыновіч? // Літ. і мастацтва. 1968. 14 чэрв.

[263] Беларуская літаратура XIX ст.: Хрэстаматыя. Мн., 1971. С. 364.

Гурыновіча названа вуліца ў Старым Мядзелі. Есць думка стварыць музей Гурыновіча ў вёсцы Слабада на Мядзельшчыне, непадалёк ад Кавалькоў, дзе паэт нарадзіўся [264].

У перыяд вучобы ў рэальным вучылішчы (1879—1887) будучы паэт жыў у Вільні, дзе ў Гурыновічаў быў уласны невялікі дом па Пірамонцкаму завулку, 22. У гэтым жа доме Гурыновіч быў арыштаваны ў 1893 г., калі студэнтам Пецярбургскага тэхналагічнага інстытута прыехаў у Вільню на канікулы. Як устанавіў у 60-я гады Я. Шутовіч, дом захаваўся пад старым нумарам, толькі былы Пірамонцкі завулак стаў называцца вуліцай Мельнікайце. Як сапраўдны следапыт, Я. Шутовіч падрабязна раскрыў гісторыю гэтага дома: «Не раз яго рамантавалі пазнейшыя ўласнікі — Бужынскія, сваякі жонкі Яна Гурыновіча, брата Адама, але істотных змен не рабілі. Адно яны — Бужынскія — кепска зрабілі: знішчылі, спаліўшы на дровы, вельмі прыгожы сад, які займаў даволі вялікі (да дваццаці сотак) кавалак зямлі і так разросся, што будыніна некалі зусім хавалася ў яго цені. Сад садзілі Калікст і Элеанора (бацькі паэта.— *Г. К.*).

Не адно дрэўца ў садзе пасадзілі і Адам з братамі, калі прыехалі вучыцца ў Вільню. Сёння ад саду асталіся толькі дзве высокія грушы — нямыя сведкі, як і сам дамок, жыццёвых радасцей і смуткаў сям'і Гурыновічаў» [265].

Як бачым, «салаўіныя гнёзды» беларускай літаратуры XIX ст., рознага роду літаратурна-краязнаўчыя матэрыялы шмат што даюць як спецыялістам-літаратуразнаўцам, так і аматарам роднай культуры. Цікавай дадатковай крыніцай могуць з'явіцца матэрыялы археалагічных раскопак на месцы старых сядзіб, звязаных з жыццём дзеячаў беларускай літаратуры і культуры. Гэта бліскуча даказаў археолаг М. Ткачоў сваімі нядаўнімі раскопкамі на месцы былой сядзібы Каліноўскіх у Якушоўцы (Свіслацкі раён) [266]. У выніку раскопак не толькі дэталёва акрэслены план былога сядзібнага дома, што згарэў пад час першай сусветнай вайны, не толькі знойдзены разнастайныя матэрыялы, якія красамоўна характарызуюць штодзённы побыт сям'і Каліноўскіх, але адшукана нават пячатка, якой бацька вялікага рэвалюцыянера і публіцыста маркі-

---

[264] Лахманенка Л. Інтуіцыя душы // Звязда. 1990. 4 сак.

[265] Полымя. 1966. № 11. С. 154.

[266] Ткачоў М. Аб чым шумяць векавыя ліпы: Дом-сядзіба Кастуся Каліноўскага // Літ. і мастацтва. 1989. 10 ліст.

раваў сувоі палатна сваёй фабрычкі, з адпаведным надпісам. На падставе сабраных матэрыялаў плануецца аднавіць сядзібу Каліноўскіх і стварыць там музей Кастуся Каліноўскага (праект аднаўлення дома зрабіла архітэктар Гродзенскіх рэстаўрацыйных майстэрань А. Ермаковіч).

Як ужо гаварылася ў папярэднім раздзеле, мэтавыя раскопкі ў Багушэвічавых Кушлянах для адшукання шклянога слоіка са старымі дакументамі праводзіў у свой час Адам Мальдзіс.

Нядаўна пад час абследавання і ўпарадкавання падмурка старога дома на тэрыторыі кушлянскай сядзібы Багушэвічаў, які быў галоўным жытлом гаспадароў да 1896—1898 гг. (да пабудовы новага дома), знойдзены старадаўні штык-багнет — яго можна бачыць цяпер у экспазіцыі кушлянскага музея-сядзібы. Адкапаны таксама камень з пазначаным на ім годам «1898», які можа азначаць дату завяршэння будаўніцтва новага дома або пераезду Багушэвіча ў Кушляны.

Падобную працу варта працягваць і ў іншых літаратурных мясцінах Беларусі. У прыватнасці, не менш цікавыя матэрыялы, думаецца, маглі б быць здабыты археалагічнымі даследаваннямі на месцы былой сядзібы В. Дуніна-Марцінкевіча ў Люцынцы (сёння в. Малая Люцінка ў Валожынскім раёне).

Крыніцы можна параўнаць з залатым забеспячэннем фактычных звестак. Іх сукупнасць у гэтым сэнсе складае «залаты запас» літаратуразнаўства. Мы зрабілі інвентарызацыю залатога запасу гісторыка-літаратурнай навукі мінулага стагоддзя, разгледзелі разнастайныя крыніцы — сведчанні пра літаратуру эпохі Чачота, Дуніна-Марцінкевіча, Багушэвіча. Крыніцы па свайму характару і прыродзе розныя, пачынаючы ад тэкстаў мастацкіх твораў і пісьмовых дакументаў да партрэтаў, асабістых рэчаў і памятных мясцін пісьменніка. Думаецца, што наш агляд садзейнічаў удакладненню самога паняцця «крыніца», усведамленню, што толькі комплексным выкарыстаннем крыніц markup рознага роду можна ўзнавіць поўны і жывы вобраз эпохі, стварыць праўдзівую і шматфарбную карціну зараджэння і станаўлення нашай літаратуры, як і вызначыць уклад у гэты працэс кожнага асобнага пісьменніка.

# Прага дакладнасці

*Прынцыпы дакументальна-біяграфічных даследаванняў*

Ян Скрыган эпіграфам да сваёй вядомай аўтабіяграфічнай аповесці «Кругі» выбраў характэрныя словы Максіма Танка: «Біяграфія ў песні маёй і ў мяне — адна» [1]. Сапраўды, творчасць кожнага пісьменніка як бы вырастае з яго жыцця, непарыўна знітавана з яго асобай, якая сфарміравалася ў пэўных сацыяльна-гістарычных і бытавых умовах, пад уплывам тых або іншых біяграфічных акалічнасцей. У створаных мастаком вобразах так ці інакш перадаюцца яго жыццёвыя ўражанні. Пра гэта ёсць нямала цікавых сведчанняў саміх пісьменнікаў. Вось адно з іх, якое належыць самабытнаму, хоць і недастаткова вядомаму ў нас да апошняга часу пісьменніку так званага рускага зарубежжа: «Пісанне — як добрая святлоадчувальная пласцінка. Усё прымаецца і адзначаецца. Кожны дадатковы жыццёвы вопыт, кожная горыч сэрца, кожная зморшчынка на лобе адразу ж адгукаецца на фарбах, гуках, на архітэктуры таго, што ствараецца» [2]. Паводле слоў І. Эрэнбурга, «ніколі не было буйнога і прытым сумленнага аўтара, які мог бы добра пісаць пра падзеі, што ляжаць па-за яго душэўным светам, пра людзей далёкіх і чужых» [3]. «Увогуле, у пісьменніцкім лёсе шмат яўнага, але не менш і тайнага,— дзеліцца сваім роздумам І. Чыгрынаў.— Гэта той бяздонны калодзеж, з якога чэрпаецца, кладучыся на старонкі твораў разам, і светлае, і цёмнае» [4]. Можна прывесці і нядаўняе выказванне іспанскага пісьменніка, лаўрэата Нобелеў-

---

[1] Скрыган Я. Выбр. тв.: У 2 т. Мн., 1975. Т. 1. С. 6.

[2] Зайцев Б. О себе // Лит. газ. 1989. 3 мая.

[3] Юрий Тынянов: Писатель и ученый: Воспоминания, размышления, встречи. М., 1966. С. 183.

[4] Чыгрынаў І. Яшчэ адзін крок // Звязда. 1989. 13 кастр.

скай прэміі Каміла Хасэ Селы: «... літаратурны твор застаецца і застанецца цесна звязаным з аўтарам, з асобаснай крыніцай... аўтар падобны фільтру, які прапускае ўсе токі навакольнага свету» [5].

Усё гэта дазваляе сцвярджаць, што аўтабіяграфізм у той або іншай ступені, прама або апасродкавана ўласцівы ўсім пісьменнікам. Адсюль вынікае надзвычай сур'ёзны метадалагічны вывад. Не прымаючы крайнасцей так званага біяграфічнага метаду ў літаратуразнаўстве, некаторыя прадстаўнікі якога (Ю. Айхенвальд і інш.) вырывалі мастака з кантэксту эпохі, мы разам з тым не можам не прызнаць важнасці для літаратурнай навукі руплівых біяграфічных даследаванняў, самай пільнай увагі да асобы пісьменніка. «Я перакананы, што асаблівасці кніг пісьменніка напрамую звязаны з асаблівасцямі яго характару, нам далёка не бескарысна ведаць усё істотнае пра яго асабістае жыццё...» [6],— сцвяржае У. Самерсет Моэм. Даследчык літаратуры павінен быць і біёграфам. «Гэта важны раздзел літаратуразнаўства, таму што ў біяграфіі пісьменніка хаваюцца многія тлумачэнні ягоных твораў» [7],— падкрэслівае акадэмік Д. Ліхачоў. Настойліва праводзяць гэтую ж думку і іншыя літаратуразнаўцы. «Каб ведаць тварэнне, неабходна наблізіцца да творцы» [8],— лічыць, напрыклад, Б. Бурсаў. «Увага да асобы мастака,— адзначае ён у іншым месцы,— зусім не цягне за сабой адыход ад гістарычных умоў, якія яе сфарміравалі і ў якіх ёй даводзіцца дзейнічаць. Наадварот, толькі такі шлях забяспечвае нам сапраўдны гістарызм у вывучэнні літаратурнага працэсу ў цэлым, як і кожнага значнага пісьменніка паасобку» [9]. На Беларусі гэтыя праблемы займалі яшчэ акадэміка І. Замоціна, які разглядаў «біяграфію пісьменніка не толькі як храналагічную канву, але і як матэрыял для асвятлення пытання аб генезісе данае творчасці» і намячаў тыя «біяграфічныя моманты, з якіх фактычна складаецца ўвязка жыцця і дзейнасці пісьменніка з яго літаратурнай прадукцыяй» [10]. Найперш яго ціка-

---

[5] Села К.-Х. Да здравствует литература! // Лит. газ. 1989. 8 нояб.

[6] Моэм У. Сомерсет. Искусство слова. М., 1989. С. 211.

[7] Лихачев Д. С. Еще о точности в литературоведении // Лихачев Д. С. Литература — реальность — литература. Л., 1984. С. 249.

[8] Бурсов Б. И. Избр. работы. Л., 1982. Т. 1. С. 24.

[9] Там жа. С. 9.

[10] Замоцін І. М. Багдановіч: Крытычна-біяграфічны нарыс // Багдановіч М. Творы. Мн., 1928. Т. 2. С. VII.

вілі ў гэтых адносінах сацыяльная і псіхафізіялагічная спадчыннасць, абстаноўка ранняга дзяцінства, гады вучобы, навакольнае асяроддзе і грамадскія сувязі розных часоў, характар разумовых інтарэсаў пісьменніка, яго працы па спецыяльнасці (калі меў нейкую прафесію) і грамадская дзейнасць, літаратурныя сувязі і ўплывы, кола інтымных перажыванняў і г. д. Карацей кажучы, размова ідзе пра самую падрабязную і featureнабаковую распрацоўку рэалій жыццяпісу.

Біяграфіі выдатных пісьменнікаў каштоўныя і самі па сабе, а не толькі як ключ да разумення творчасці. Асабістае і грамадскае, інтымнае і публічнае жыццё Пушкіна, Талстога, а на Беларусі Купалы, Коласа, Багдановіча, Дуніна-Марцінкевіча, Каліноўскага, Багушэвіча цікавіць кожнага да самых малых драбніц. Гэта таксама дарагі здабытак нацыі.

У сувязі з неспрыяльнымі ўмовамі, у якіх доўгі час развівалася беларуская літаратура, перарывістасцю традыцый, стратай многіх гісторыка-літаратурных крыніц узнаўленне біяграфій пісьменнікаў XIX ст.— пачынальнікаў новай нацыянальнай літаратуры — было нялёгкай справай для наступных пакаленняў даследчыкаў. На прыкрую беднасць біяграфічных звестак пра пісьменнікаў мінулага стагоддзя ўказваў яшчэ В. Ластоўскі ў артыкуле «Памажыця!», змешчаным у 1913 г. у «Нашай Ніве». Матэрыялы пра пісьменнікаў рупліва збіралі Я. Карскі, Р. Зямкевіч, М. Гарэцкі і інш. І ўсё-такі звестак катастрафічна не хапала. У 20-х гадах прафесар М. Піятуховіч, адзначыўшы агромністае значэнне для ўсёй беларускай культуры буйнейшага пісьменніка XIX ст. Ф. Багушэвіча, са шкадаваннем пісаў: «На правялікі жаль, нягледзячы на ўсю велізарнасць гэтага значэння, мы стаім перад фактам амаль што поўнай адсутнасці біяграфічных і ўсялякіх іншых матэрыялаў, патрэбных для аб'ектыўнага высвятлення асобы паэта і яго творчасці. У даным пытанні, як і наогул у галіне беларускага пісьменства, даследчым плугам прыходзіцца араць амаль што зусім няворaную глебу, узнімаць свежую цаліну» [11]. Прывёўшы вядомыя на той час элементарныя біяграфічныя звесткі пра Багушэвіча, Піятуховіч слушна адзначыў іх аднабаковасць: «Гэтыя матэрыялы прадстаўляюць сабой хутчэй паслужбовы спіс паэты, а не біягра-

[11] Піятуховіч М. М. Нарысы гісторыі беларускай літаратуры. Мн., 1928. Ч. I. С. 85.

фію яго ва ўласным сэнсе. Шмат вельмі цікавых пытанняў, звязаных з асобай паэты, застаюцца для нас адкрытымі»[12].

За наступныя дзесяцігоддзі, асабліва за пасляваенны час, нашы літаратуразнаўцы шмат зрабілі для пашырэння кола крыніц і распрацоўкі жыццяпісаў пачынальнікаў беларускай літаратуры.

Перад даследчыкамі-біёграфамі стаялі ды і цяпер, хоць можа і не ў такой вострай форме, стаяць задачы рознага ўзроўню. У адным выпадку ўся ці амаль уся біяграфія пісьменніка была невядомая (В. Равінскі, І. Манькоўскі, Я. Вуль, Ф. Тапчэўскі, П. Шпілеўскі), у другім існавалі, як часткова існуюць і цяпер, вялікія прабелы, запоўненыя легендарнымі звесткамі, якія датычаць цэлых перыядаў жыцця (П. Багрым, у нейкай ступені Я. Лучына, А. Абуховіч і інш.), у трэцім (і такіх выпадкаў асабліва шмат) удакладняюцца асобныя больш-менш істотныя моманты біяграфіі, узнімаюцца новыя пласты біяграфічных звестак.

Часам даводзіцца пачынаць літаральна з нуля, з аднаго толькі імя, каб знайсці ў першую чаргу нейкі апорны пункт, зыходны момант і паступова высветліць потым усе асноўныя біяграфічныя каардынаты. Так было, напрыклад, з Канстанцінам Вераніцыным, актыўным удзельнікам літаратурнага жыцця на Віцебшчыне сярэдзіны мінулага стагоддзя, найбольш верагодным аўтарам славутай паэмы «Тарас на Парнасе». Атрымаўшы звестку пра спіс паэмы з гэтым прозвішчам і не маючы больш абсалютна ніякіх даных, мы распачалі мэтанакіраваны пошук. Пасля знаходкі гэтага імя ў спісах студэнтаў Горы-Горацкага земляробчага інстытута астатняе было, як кажуць, справай тэхнікі, клубок загадкавага жыццяпісу стаў паспяхова раскручвацца далей. Цяпер мы ведаем пра яго ўжо нямала[13], хоць нельга сказаць, што не хацелі б ведаць болей. Біяграфічнае даследаванне, мабыць, невычарпальнае.

Вельмі стаpанна «ўтойваў» сваю біяграфію Павел Шпілеўскі, нідзе ў шматлікіх публікацыях не прагаварыўшыся, што быў сынам вясковага святара з Мінскай губерні (відаць, гэта лічылася не асабліва рэспектабельным). І толькі кароткая згадка М. Дабралюбава пра службу Шпілеўскага ў Галоўным педагагічным інстытуце ў Пецяр-

---

[12] Піятуховіч М. М. Нарысы гісторыі беларускай літаратуры. С. 86.

[13] Гл.: Кісялёў Г. Пошукі імя. Мн., 1978. С. 205—246; Киселев Г. Разыскивается классик... Мн., 1989. С. 356—401.

бургу і наступныя архіўныя пошукі дазволілі раскрыць таямніцу яго жыцця [14].

Галоўны прынцып біяграфічнай працы — строгі дакументалізм, пастаянная апора на першакрыніцы, руплівая праверка ўсіх фактаў, звязаных з тым або іншым пісьменнікам. Дакладнасць, выверанасць матэрыялу — элементарнае патрабаванне як для навуковай, так і для папулярнай біяграфіі, як для вялікай працы біяграфічнага жанру, так і для самай лапідарнай даведкі аб жыцці літаратара. «Максімум дакладных фактаў «знешняга» жыцця неабходны пры любым падыходзе да біяграфіі, апрача антынавуковага» [15],— з поўнай падставай сцвярджаюць крыніцазнаўцы.

Адна з небяспек, якая падпільноўвае даследчыка,— неабгрунтаванае перанясенне звестак з біяграфіі адной асобы ў жыццяпіс асобы другой, штучнае аб'яднанне дзвюх біяграфій, своеасаблівая біяграфічная кантамінацыя. А. Мальдзіс указаў у свой час на характэрную памылку выдаўцоў надзвычай аўтарытэтнага польскага бібліяграфічнага даведніка «Новы Корбут», якія неабачліва «аб'ядналі» полацкага паэта Я. Аношку (памёр не пазней 1828 г.) з яго аднафамільцам і цёзкам — рэктарам Варшаўскай духоўнай семінарыі, які быў жывы яшчэ ў 1831 г. «Значыць, былі два Аношкі, злучаныя ў «Новым Корбуце» ў адну асобу» [16],— робіць слушны вывад даследчык. І гэта далёка не адзіны прыклад. Творы Арцёма Вярыгі-Дарэўскага нярэдка прыпісваліся яго сучасніку Аляксандру Вярыгу-Дароўскаму, які жыў на Украіне. Паэта-мінчаніна Івана Іванавіча Гольца-Мілера (1842—1871) часам блыталі з яго бацькам, таксама Іванам Іванавічам, правінцыяльным літаратарам. Дарэчы, гэтым «грашаць» не толькі літаратуразнаўцы. Нават вельмі дасведчаны гісторык В. Грыцкевіч, аўтар многіх цікавых публікацый, неабачліва прыпісаў вядомаму рэвалюцыйнаму дзеячу, удзельніку паўстання 1863 г. І. Анцыпу, расстралянаму тады ж у Магілёве, некаторыя рысы, факты з біяграфіі

---

[14] Маляўка М. А. М. А. Дабралюбаў і П. М. Шпілеўскі // Беларуская літаратура і літаратуразнаўства. Мн., 1973. Вып. 1; Кісялёў Г. Пошукі імя. С. 247—287.

[15] Петровская И. Ф. Еще раз об источниках биографических сведений о русских писателях и их окружении // Русская литература. 1984. № 2. С. 192.

[16] Мальдзіс А. Таямніцы старажытных сховішчаў. Мн., 1974. С. 84.

магілёўскага фармацэўта Анцыпы, сасланага за ўдзел у паўстанні ў Сібір [17].

У артыкуле В. Ластоўскага «Людвік Кандратовіч (Сыракомля)» ёсць наступны пасаж, вельмі важны для нашых уяўленняў як пра Сыракомлю, так і пра другога беларускага пісьменніка той эпохі — А. Абуховіча. Цытуем: «З папераў, астаўшыхся па Абуховічу (гэтаксама ніколі не друкаваўшым сваіх твораў беларускім паэце з-пад Слуцка), мы ведаем, што Кандратовіч многа пісаў па-беларуску і пісаў хораша. Абуховіч пасылаў свае беларускія вершы Кандратовічу і сам праглядаў беларускія вершы Кандратовіча; у пісьме да Кандратовіча ён пісаў:

У гаворцы ёсць ружніца
Між маею і тваей:
Маей — пушчы, Птыч граніца;
Ты — Панарскі салавей». [18]

Адсюль сцвярджэнні некаторых даследчыкаў пра цесныя сувязі Абуховіча з Сыракомлем [19]. Але ж з апублікаваных праз чатыры гады пасля гэтага артыкула мемуараў («Папераў») Абуховіча відаць, што прыведзенае чатырохрадкоўе адрасавана не Кандратовічу-Сыракомлю, а Ф. Багушэвічу, менавіта з ім, а не з Сыракомлем, паводле ўласных слоў, абмяркоўваў Абуховіч творчыя пытанні [20], хаця не выключана і знаёмства зусім маладога яшчэ Абуховіча са славутым вясковым лірнікам незадоўга да смерці апошняга [21]. Зразумела ж, нават улічваючы пэўную паэтычную ўмоўнасць, цяжка дапусціць, каб учарашні гімназіст Абуховіч назваў на «ты» знакамітага на ўвесь край і нават далёка за яго межамі паэта, куміра тагачасных аматараў літаратуры. Іншая справа Абуховічаў равеснік Багушэвіч. Дарэчы, да Багушэвіча больш стасуецца і ўжыты ў чатырохрадкоўі тытул «Панарскі салавей»

---

[17] Грицкевич В. П. С факелом Гиппократа: Из истории белорусской медицины. Мн., 1987. С. 203.

[18] Наша Ніва. 1912. 6 (19) верас.

[19] Wilczyński W. Władysław Syrokomla a literatury wschodnio-słowiańskie // Studia polono-slavica-orientalia: Acta literaria III. Wrocław etc., 1976. S. 95.

[20] Пра ўзаемаадносіны А. Абуховіча з Ф. Багушэвічам гл.: Содаль У. Пясняр шукае песняра // Літ. і мастацтва. 1980. 1 жн.

[21] Ёсць звесткі, што Абуховіч прыязджаў у Вільню ў верасні 1862 г., калі хавалі Сыракомлю. Гл.: Мархель У. Крыніцы памяці. Мн., 1990. С. 97.

(Панары ёсць у аколіцах Вільні і паблізу Кушлян), а Сыракомлю называлі «барэйкаўскім Авідзіем». Памылка Ластоўскага (пэўная кантамінацыя звестак) несумненная.

Быў свой «двайнік» у Яна Чачота. У вядомай дарэвалюцыйнай манаграфіі па гісторыі Віленскага універсітэта, у раздзеле пра знакамітых студэнтаў, што навучаліся ў яго сценах, чытаем: «*Чачот Ян*. Нарадзіўся ў вёсцы Рэпіхава ў Наваградскім павеце. Першую адукацыю атрымаў у Наваградку разам з Міцкевічам, потым разам з ім быў у Віленскім універсітэце, дзе карыстаўся высокай пашанай і любоўю калегаў. У 1823 выехаў у Арэнбург, дзе знаходзіўся больш як дзесяць гадоў. Так сцвярджаюць усе біёграфы. Тым часам паводле «Календажыка палітычнага» на 1825 год настаўнікам гісторыі і геаграфіі ў Свіслацкай гімназіі лічыцца Ян Чачот, кандыдат філасофіі. Пэўна, у гэтым апошнім выпадку памылка; цяжка ўявіць існаванне двух Янаў Чачотаў, кандыдатаў філасофіі, адначасова» [22]. У сапраўднасці цёзка і аднафамілец нашага паэта настаўнік Ян (Іван) Чачот сапраўды існаваў [23], да таго ж паэт не быў кандыдатам, бо універсітэта не скончыў (у прыведзенай даведцы ёсць іншыя недакладнасці, якія мы тут пакуль абмінаем).

Тут мы падыходзім да такой значнай праблемы біяграфічнай працы, як ідэнтыфікацыя асобы. Давесці, што $A=B$, у біяграфіцы, здараецца, вельмі няпроста. Часам для гэтага даводзіцца рабіць сапраўднае дэтэктыўнае расследаванне. Напрыклад, у працэсе росшукаў біяграфічных матэрыялаў пра К. Вераніцына ўдалося ўстанавіць, што спачатку яго прозвішча было Васільеў. Прыгонны селянін з-пад Віцебска, падлеткам ён быў адпушчаны на волю і пад прозвішчам Вераніцын запісаўся пасля ў мяшчане г. Гарадка. У даным выпадку, як бачым, змянілася не толькі прозвішча, але і сацыяльнае становішча Васільева-Вераніцына, што яшчэ больш ускладніла ідэнтыфікацыю.

У кнізе «Пачынальнікі» ў свой час мы выказалі меркаванне, што Юльян Ляскоўскі, аўтар паэтычнага зборніка «Беларускі бандурыста» (Вільня, 1861), і Ю. Карабіч, які праз дваццаць гадоў выступіў у варшаўскай прэсе з артыкулам пра беларускую мову і фальклор, апублікаваўшы там два, відаць, уласныя вершы,— адна і тая ж асоба:

---

[22] Bieliński J. Uniwersitet wileński (1579—1831). Kraków, 1899—1900. T. 3. S. 387.

[23] Гл.: ЦДГА ЛітССР, ф. 567, воп. 2, спр. 1857.

Карабіч — псеўданім Ю. Ляскоўскага (Пачынальнікі, *180, 340*). Гэтае меркаванне прынята цяпер беларускай навукай [24], хаця ў жыццяпісе Ляскоўскага-Карабіча яшчэ шмат нявысветленага.

З праблемай ідэнтыфікацыі звязана пытанне аб устанаўленні дакладных прозвішчаў і іменаў і правільным іх напісанні. Не трэба думаць, што гэта простыя пытанні. Вядома цэлая дыскусія (У. Казбярук — А. Жураўскі) пра тое, як называў сябе Скарына — Францыск або Францішак. Скарыну ж без належных падстаў прыпісвалася другое імя — Георгій. Есць свае складанасці і з напісаннем прозвішчаў і імёнаў нашых пісьменнікаў XIX ст. У першых багрымазнаўчых публікацыях, калі даследчыкі абапіраліся толькі на ўспаміны і яшчэ не дабраліся да адпаведных архіўных матэрыялаў, Павел Багрым называўся Петраком з Крошына (у М. Багдановіча: Пятрук з-пад Крошына [25]). І. Басу ў свой час давялося даказваць, што аўтэнтычнае напісанне прозвішча паэта-самародка з Крошына не «Бахрым», а «Багрым» [26]. Прозвішча Дуніна-Марцінкевіча ў часы засілля вульгарнага сацыялагізму, калі агульны ўзровень нашага літаратуразнаўства вельмі і вельмі знізіўся, недакладна пісалася як «Марцынкевіч». У прозвішчы Лявона Вітана-Дубейкаўскага, паэта і архітэктара, аўтара сацыяльна вострых вершаў канца XIX ст. «Цягне воўк — пацягнуць воўка» (1892) і «Бура» (1893), рабіўся няправільны націск — Дубяйкоўскі (на польскі лад). Не ўсталявалася напісанне прозвішча паэтэсы З. Тшашчкоўскай (псеўд. Адам М-скі), якая параўнальна нядаўна, дзякуючы знаходкам У. Казберука, трапіла ў поле зроку беларускіх даследчыкаў. «Сёння яе прозвішча называецца ў даследаваннях па гісторыі беларускай літаратуры XIX ст.,— зазначае У. Казбярук.— Але кожны аўтар піша яго па-свойму: Тшашчкоўская, Трашчкоўская, Тжащковская (на рускай мове). Думаецца, што па аналогіі з такімі прозвішчамі, як Пшэсмыцкі ці Тшэцескі, найбольш правільнай трэба лічыць форму: Тшашчкоўская

---

[24] Мальдзіс А. І. Ляскоўскі Юльян // ЭЛіМБел. Мн., 1986. Т. 3. С. 328.

[25] Власт. [В. Ластоўскі] Пятрок з Крошына // Наша Ніва. 1911. 28 ліп.; Багдановіч М. Зб. тв.: У 2 т. Мн., 1968. Т. 2. С. 167, 221. Есць звесткі, што мясцовыя жыхары і дагэтуль называюць Багрыма Петраком. Гл.: Свістуновіч С. Каваў Багрым // Літ. і мастацтва. 1984. 9 ліст.

[26] Бас І. Літаратурныя пошукі, знаходкі, даследаванні. Мн., 1969. С. 63.

(а па-руску Тшэшчковская)»[27]. Прапанаваная вучоным форма прынята «Энцыклапедыяй літаратуры і мастацтва Беларусі» (т. 5, 1987). Аднак у другім выданні хрэстаматыі беларускай літаратуры XIX ст. (1988) паэтэса называецца дзявочым прозвішчам — Зоф'я Манькоўская.

Р. Родчанка прапануе называць А. Абуховіча Абуховічам-Бандынэлі, далучаючы да «пашпартнага» прозвішча яго псеўданім[28]. Гэтую праблематычную і крыху штучную прапанову падтрымаў крытык А. Сідарэвіч[29]. Нам здаецца, што спалучэнне Абуховіч-Бандынэлі падыходзіць для назвы кнігі (тут ёсць пэўная канцэптуальнасць), але не для паўсядзённага ўжытку, як гэта спрабуюць рабіць Родчанка і Сідарэвіч.

Разам з тым для беларускай шляхты XIX ст. сапраўды характэрныя падвойныя прозвішчы (прозвішча плюс так званы «прыдомак»; В. Савіч-Заблоцкі прэтэндаваў нават на трайное прозвішча: Суліма-Савіч-Заблоцкі), прычым у адных выпадках «прыдомак» выкарыстоўваўся больш актыўна (нават без прозвішча), у другіх — менш ці нават зусім не выкарыстоўваўся. Тое ж датычыць і падвойных-патройных каталіцкіх імёнаў. Вядома, напрыклад, што Кастусь Каліноўскі шырока карыстаўся ў афіцыйных паперах другім сваім імем Вінцэнт (Вікенцій)[30]. У той жа час ні Чачот, ні Багушэвіч, ні Дунін-Марцінкевіч другімі сваімі імёнамі практычна не карысталіся, таму наўрад ці слушна зрабілі ўкладальнікі альбома пра Францішка Багушэвіча, калі вынеслі на тытул гэтага выдання другое імя пісьменніка — Бенядзікт[31]. Заслугоўвае пільнай увагі і форма пісьменніцкага імя. Скажам, Вуль падпісаўся пад сваім вершам «К дудару Арцёму...» па-беларуску: Ялегі Пранціш Вуль (Пачынальнікі, *263*). Гэтага мы і павінны

---

[27] Казбярук У. Невядомыя беларускія вершы Зоф'і Тшашчкоўскай // Літ. і мастацтва. 1980. 4 крас.

[28] Родчанка Р. Альгерд Абуховіч-Бандынэлі: Нарыс жыцця і творчасці. Мн., 1984. С. 3. Дарэчы, шырока пашырана і іншае, мяккае напісанне псеўданіма — Бандзінелі.

[29] Сідарэвіч А. Неад'емная частка карціны // Полымя. 1985. № 10. С. 221.

[30] Шалькевіч В. Калі з'явілася імя Кастусь? // Голас Радзімы. 1990. 1 лют.

[31] Францішак Бенядзікт Багушэвіч: Жыццё і творчасць / Склад. У. Содаль і Е. Мацюш. Мн., 1986. Хіба толькі яшчэ адзін з некралогаў (у варшаўскай газеце «Век») носіць назву «Францішак Бенедыкт Багушэвіч» (Хрэст. Ал., *96—98*).

прытрымліваецца. Каратынскі сам выбраў сабе беларускую форму свайго імя — Вінцэсь — пры публікацыі ў 1858 г. верша «Найяснейшаму яго міласці гаспадару...» («Уставайма, братцы!..»). Для імя Дуніна-Марцінкевіча найбольш аптымальнай формай мы лічым форму Вінцэнт (гл. зборнік «Пачынальнікі», «Творы» 1984 г.), але шырока ўжываюцца і формы Вінцэнты і асабліва Вінцук. За межамі нашай працы пакідаем размову пра рускія варыянты прозвішчаў і імёнаў беларускіх пісьменнікаў, дзе ёсць свае складанасці (Барщевский і Борщевский, Рыпинский і Рипинский і г. д.).

Кожны чалавек непарыўна звязаны з часам, у які ён жыве. Эпоха ўладарна накладвае характэрны адбітак на ўсе біяграфіі сучаснікаў, памячае іх сваімі, уласцівымі ёй прыкметамі, напаўняе адметнымі, спецыфічнымі рэаліямі. Таму веданне гістарычных рэалій з'яўляецца неабходнай умовай паспяховай працы біёграфа. Чым глыбейшае ў даследчыка агульнае веданне і адчуванне эпохі, тым больш ён застрахаваны ад памылак у рэканструкцыі канкрэтнай біяграфіі. Напрыклад, многія даследчыкі жыцця і творчасці В. Дуніна-Марцінкевіча зусім нядаўна пісалі, што ён скончыў Бабруйскую гімназію [32], хоць яшчэ ў 1932 г. славіст Ю. Галомбак слушна запярэчыў: «У Бабруйску не было на той час ніводнай гімназіі, як пра тое пішуць біёграфы Марцінкевіча...» [33] Вялікая няяснасць да апошняга часу была ў даследчыкаў наконт таго, як называлася навучальная ўстанова ў Свіслачы ў часы заканчэння яе Кастусём Каліноўскім (гімназія, прагімназія, павятовая школа), пакуль не высветлілася, што паступіў ён у гімназію, якая акурат у часы яго вучобы (у 1851 г.) была ператворана ў павятовае вучылішча. Так што скончыў ён павятовае вучылішча. Пазней (з 1858 г.) гэтая ж навучальная ўстанова стала называцца прагімназіяй [34].

Словам, дакумент, факт, рэалія — асноўны будаўнічы матэрыял даследчыка. Разам з тым пры недахопе звестак біёграф мае права і на гіпотэзу. «...Гіпотэзамі пасоўваец-

---

[32] Майхровіч С. Нарысы беларускай літаратуры XIX стагоддзя. Мн., 1957. С. 77.

[33] Gołąbek J. Wincenty Dunin-Marcinkiewicz, poeta polsko-białoruski. Wilno, 1932. S. 32.

[34] Бобровский П. Гродненская губерния: Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба. Спб., 1863. Ч. 2. С. 474—484; Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Гродзенская вобласць. Мн., 1986. С. 285.

ца наперад усякая думка; тым болей не ўнікнуць іх маладой навуцы гісторыі беларускай літаратуры»[35],— слушна пісаў у 20-х гадах прафесар М. Піятуховіч. Важна, каб гіпотэза таксама не адрывалася ад рэалій, ад вядомых фактаў, а, наадварот, была б іх натуральным працягам. У. Содаль у сваіх крыніцазнаўчых нататках, звязаных з Ф. Багушэвічам, прысвячае гэтаму пытанню спецыяльны невялікі раздзел пад назвай «Гіпотэзы і праўда», дзе прыводзіць цікавыя прыклады ўдалых гіпотэз. «У даследчыцкай працы,— піша У. Содаль,— часта з-за недахопу дакументаў, фактычнага матэрыялу даводзіцца выказваць інтуітыўныя меркаванні. Гэтыя меркаванні, безумоўна, грунтуюцца не на пустым месцы. Для кожнай развагі знаходзіцца хоць які канкрэтны, адпраўны факт. Так, напрыклад, калі вядомаму даследчыку С. Александровічу ў шасцідзесятыя гады патрапілі ў часопісе «Kraj» нататкі з подпісам «Huszicz», ён выказаў меркаванне, што гэта Багушэвічаў псеўданім. Для такога меркавання ў С. Александровіча былі ўсе падставы. Па-першае, ён адчуў знешняе і ўнутранае сугучча між паэтавым прозвішчам і яго псеўданімам, а па-другое, яму ўбачылася ўся тэхналогія ўтварэння псеўданіма. Ад свайго прозвішча паэт адкінуў першы склад «Bo», апусціў суфікс «ew» і атрымалася «Huszicz». Праз шмат гадоў другому даследчыку — Язэпу Янушкевічу трапляецца Багушэвічаў ліст, у якім паэт менавіта так і тлумачыць гісторыю ўзнікнення свайго журналісцкага псеўданіма, як пра гэта меркаваў светлай памяці С. Александровіч. «Найперш пахвалюся,— пісаў Багушэвіч да Яна Карловіча ў лісце за 15 (27) красавіка 1885 года,— што пачынаю прабаваць пісаць па-друкаванаму ў «Kraj» і падпісваюся, як трэба, выкідваючы склады «Bo» і «ew», і застаецца ў мяне яшчэ аж лішне, бо «Huszicz»[36].

Сапраўды, прыклад вельмі і вельмі паказальны. Трэба дадаць толькі, што важным аргументам для С. Александровіча была ў даным выпадку сама тэматыка, або нават дакладней — праблематыка, карэспандэнцый у «Краі», падпісаных гэтым псеўданімам, іх адпаведнасць жыццёваму вопыту і грамадскім поглядам Багушэвіча[37].

---

[35] Піятуховіч М. М. Нарысы гісторыі беларускай літаратуры. Ч. 1. С. 86.

[36] Содаль У. Імпульсы // Полымя. 1989. № 6. С. 204.

[37] Александровіч С. Старонкі братняй дружбы. Мн., 1960. С. 200—202; Ен жа. Гісторыя і сучаснасць. Мн., 1969. С. 142—145.

А вось яшчэ характэрны прыклад больш шырокага плана. У 1926 г. Цішка Гартны ў адным са сваіх артыкулаў выказаў такую думку: «Безумоўна, што пакаленне беларускае інтэлігенцыі, у васяродку якога стаіць Ф. Багушэвіч, таксама для сваёй працы атрымала багата натхнення ў ідэях К. Каліноўскага. Пакуль няма ўказанняў гісторыі на тое, як Ф. Багушэвіч і яго адначаснікі непасрэдна ўбіралі ў сябе веянні 63 году, але лагічна неадмоўна, што гэткае здарэнне, як паўстанне 63 году, не абмінула і не магло абмінуць ніводнага, нават больш-менш свядомага чалавека. Тым болей Ф. Багушэвіч не мог не быць захопленым ідэямі паўстання як ідэямі вызвалення айчыны. Паэтычная душа яго ды узрост (яму было ў час паўстання 22 гады) маглі толькі спрыяць гэтаму»[38]. Працамі наступных даследчыкаў, знойдзенымі пасля шматлікімі разнастайнымі матэрыяламі інтуіцыя Гартнага бліскуча пацвердзілася як у адносінах Багушэвіча, так і ў адносінах усяго пакалення тагачаснай дэмакратычнай беларускай інтэлігенцыі, якое прымала ў падзеях 1863 года самы шырокі ўдзел.

Але, на вялікі жаль, далёка не заўсёды вывады і меркаванні даследчыкаў бываюць дастаткова карэктнымі, абапіраюцца на паказанні крыніц, вынікаюць з іх.

У 1946 г. вядомы беларускі культурны дзеяч Я. Хлябцэвіч напісаў у адной з публікацый пра таго ж Багушэвіча: «З успамінаў Б. Кубалава ў артыкуле яго «Ветэран народнай волі» (гл. часопіс «Каторга и ссылка», «Историко-революционный вестник», книга 12, М., 1924 г., стар. 81) відаць, што Ф. Багушэвіч быў звязаны з дзеячамі Народнай волі. З гэтага артыкула відаць, што вядомы рэвалюцыянер Мышкін, ратуючыся ад арышту, звярнуўся па парадзе Вайнаральскага і Багушэвіча да рэвалюцыянера М. П. Аўчыннікава з просьбай дастаць для яго які-небудзь пашпарт. М. П. Аўчыннікаў здабыў пашпарт і аддаў яго Мышкіну»[39].

Зразумела, падобны факт, калі б ён пацвердзіўся, вывеў бы наша багушэвічазнаўства на шматабяцаючыя прасторы міжнацыянальных рэвалюцыйных сувязей перыяду славутай «Народнай волі». Ва ўказаным Хлябцэві-

---

[38] Жылуновіч З. Беларуская інтэлігенцыя ў гістарычным аспекце // Полымя. 1926. № 6. С. 77—78.

[39] Хлябцэвіч Я. Царскі суд над творамі Ф. Багушэвіча // Беларусь. 1946. № 11—12. С. 94.

чам матэрыяле на адпаведнай старонцы сапраўды знахо-дзім прозвішча Багушэвіча, прычым пераконваемся, што Хлябцэвіч даволі дакладна пераказаў гэтую мясціну: «Тогда же М. П. [Аўчыннікаў] знакомится с Мышкиным. Мышкин, спасаясь от ареста, обращается по совету Войнаральского и Богушевича к М. П. [Аўчыннікаву] с просьбой достать для него какой-либо паспорт»[40].

Але размова ідзе пра пецярбургскія падзеі 1874 г. Наш Францішак Багушэвіч спакойна працаваў тады следчым на Украіне, і адносіць да яго гэты пасаж ніяк нельга. Не-сумненна, маецца на ўвазе нейкі іншы Багушэвіч, дзеяч рускіх народніцкіх гурткоў. Крыніцы сярэдзіны 1870-х гадоў называюць, у прыватнасці, вайскоўца Багушэвіча, які вёў у гэты час рэвалюцыйную работу ў Пецярбургу і быў звязаны з коламі, блізкімі Мышкіну[41].

Вывучаючы крыніцы і гісторыка-літаратурныя працы, нярэдка з усёй відавочнасцю бачыш, як тыя або іншыя недакладнасці не толькі пераходзяць з працы ў працу, але увесь час наслойваюцца, павялічваюцца. Вось прыклад. У 1890 г. К. Равінскі паведаміў у газеце «Смоленский вестник» (артыкул «Забыты твор»), што яго дзед Вікенцій Паўлавіч Равінскі — аўтар «Энеіды навыварат» — «па-мёр, маючы за 60 год» (Пачынальнікі, *15*). Улічваючы ўказаную ў артыкуле дату нараджэння — 1782 г., можна было меркаваць, што памёр Вікенцій Паўлавіч недзе хутка пасля 1842 г. Я. Карскі, пераказваючы гэтыя звесткі, надае ім больш пэўную форму: нарадзіўся ў 1782 г., памёр у 60 год (Карский, 3/3, *14*), хаця «за 60» і «ў 60» — гэта не адно і тое ж. Маленькая, здавалася б, даравальная не-дакладнасць, нязначны сэнсавы зрух пацягнулі за сабой больш сур'ёзную памылку. Наступныя даследчыкі (М. Га-рэцкі, М. Ларчанка, С. Майхровіч) ужо без усякіх агаво-рак хаваюць паэта ў 1842 г. Пазней было ўстаноўлена, што Равінскі памёр у 1855 г., а паколькі нарадзіўся ён не ў 1782, а, як высветлілася, у 1786 г., то, выходзіць, дажыў ён да 69 год (па сутнасці, сапраўды — унук у гэтых адносі-нах не так ужо і памыляўся — меў «за 60 год»). Усё гэта не толькі фармальныя, малазначныя падлікі і выкладкі, як можа некаму падацца. Устанаўленне дакладных дат

---

[40] Кубалов Б. Ветеран Народной Воли: М. П. Овчинников // Каторга и ссылка: Историко-революционный вестник. М., 1924. Кн. 5 (12). С. 81.

[41] Революционное народничество 70-х годов XIX века: Сб. докумен-тов и материалов: В 2 т. М., 1964. Т. 1. С. 458.

жыцця Равінскага мае вельмі важнае значэнне для праверкі сведчанняў аб ім як аўтару «Энеіды навыварат» [42]. Выходзіць, гэта надзвычай істотна для ўсёй гісторыі нашай літаратуры.

*

* *

Устанаўленне зыходных фактаў жыцця — дакладных дат і месцаў нараджэння, смерці і пахавання — з'яўляецца наогул важнай праблемай біяграфічных росшукаў. Усё гэта, побач з дакладным прозвішчам і імем, так сказаць, «установачныя» элементы жыццяпісу, неабходныя нават для ідэнтыфікацыі асобы. Нездарма з гэтых элементаў пачынаюцца артыкулы ў біяграфічных слоўніках. Першаступеннае значэнне ў гэтых адносінах маюць метрычныя дакументы — афіцыйныя запісы ў метрычных кнігах, якія вяліся ў тыя гады пры касцёлах і цэрквах. «Адзінай абсалютна верагоднай крыніцай, што дазваляе дакладна меркаваць аб даце нараджэння, з'яўляюцца запісы ў царкоўных метрычных кнігах» [43],— лічаць спецыялісты.

Невыпадкова метрычныя дакументы прыцягваюць увагу крыніцазнаўцаў, якія, даследуючы гісторыю і прыроду гэтай дакументацыі, зноў жа адзначаюць яе непасрэдную сувязь з праблемай ідэнтыфікацыі асобы. «Сутнасць працы органаў запісу актаў грамадзянскага стану,— чытаем у адным са спецыяльных артыкулаў,— заключаецца найперш у фіксаванні інфармацыі, неабходнай для стварэння як бы «пошукавага вобраза» асобы, запісе ў дакументах таго мінімуму адметных адзнак, якія дазволілі б адрозніваць кожную пэўную асобу ад іншай» [44]. Словам, пытанні, дзе і калі нарадзіўся чалавек, дзе і калі ён памёр і пахаваны, маюць не толькі чыста знешняе, пазнавальнае зна-

---

[42] Гл.: Кісялёў Г. Загадка беларускай «Энеіды». Мн., 1971. С. 118—121, 132—136.

[43] Мироненко С. В. Биографический справочник декабристов: Принципы издания // Декабристы: Биографический справочник. М., 1988. С. 385.

[44] Елпатьевский А. В. К истории документирования актов гражданского состояния в России и СССР: с XVIII в. по настоящее время // Актовое источниковедение: Сб. статей. М., 1979. С. 56.

чэнне, але і больш глыбокі, схаваны (у пэўнай ступені — юрыдычны) сэнс.

Нельга думаць, што ўстанаўленне дакладных зыходных дат у адносінах пісьменнікаў далёкага мінулага лёгкая справа. Нават у рускім літаратуразнаўстве, якое мае куды большы вопыт біяграфічных росшукаў і даследаванняў, ёсць яшчэ нямала нявысветленых і спрэчных пытанняў, звязаных з вызначэннем асноўных дат жыцця самых буйных пісьменнікаў. Напрыклад, існуюць даволі вялікія разыходжанні адносна даты нараджэння А. Грыбаедава (у навуковых працах і крыніцах называюцца самыя розныя даты: ад 1790 да 1796 г.). Указаўшы на гэты разнабой і няўдалае прыняцце ў якасці найбольш верагоднай даты 1795 г. (яна пазначана на пастаўленым у савецкі час помніку аўтару «Гора ад розуму» у Маскве), пісьменнік і даследчык Г. Шторм слушна пісаў: «Замацаванне памылковай даты нараджэння А. С. Грыбаедава — прыклад уяўна дакладных звестак, з якіх нярэдка складаюцца біяграфіі вядомых і знакамітых асоб» [45]. Задача біёграфа-крыніцазнаўца — якраз выявіць усе гэтыя спрэчныя мясціны, не пацверджаныя дакладнымі дакументамі і не падмацаваныя — да чаго трэба заўсёды імкнуцца — усёй сукупнасцю аб'ектыўных звестак.

Што датычыць дат нараджэння і смерці, то адшукаць аўтэнтычную метрыку — неабвержную, так сказаць, у даным выпадку «царыцу доказаў»,— на жаль, не заўсёды, па розных прычынах, удаецца.

Для Беларусі цяжкасць адпаведных росшукаў заключаецца не толькі ў тым, што значная частка метрычнай дакументацыі загінула, але і ў рознай канфесійнай прыналежнасці літаратараў (католікі, праваслаўныя, да 1839 г. уніяты і г. д.). Пэўную цяжкасць складае рознамоўе дакументацыі. Метрычныя запісы рабіліся святарамі на розных (лацінская, польская, руская) мовах. Мова залежала не толькі ад канфесійнай прыналежнасці, але і ад перыяду, калі рабіўся запіс. Скажам, у касцельных кнігах на пачатку стагоддзя мы бачым лацінскія запісы, потым польскамоўныя, а ў другой палове стагоддзя — на рускай мове (давалася ў знакі царская палітыка асіміляцыі, імперскае імкненне да аднастайнасці). Пры ўстанаўленні дакладных дат неабходна таксама ўлічваць,

---

[45] Шторм Г. Потаённый Радищев: Вторая жизнь «Путешествия из Петербурга в Москву». М., 1965. С.132.

што на Беларусі пасля далучэння яе да Расіі, як і ва ўсёй Расійскай імперыі, святары (і праваслаўныя свяшчэннікі, і ксяндзы) карысталіся старым стылем. Каб перавесці знойдзеную дату на новы стыль, да даты XVIII ст. дадаецца 11 дзён, для кожнага наступнага стагоддзя гэтая розніца павялічваецца яшчэ на 1 дзень (для XIX ст. розніца складае 12 дзён, для XX ст.—13). Існаванне дат рознага стылю, а таксама нярэдкія памылкі даследчыкаў пры пералічэнні дат з аднаго стылю на другі выклікаюць дадатковыя цяжкасці і блытаніну.

Разам з тым памылкі робяць не толькі даследчыкі. Самі пісьменнікі не заўсёды дакладна ведаюць некаторыя факты сваёй біяграфіі, а часам наўмысна садзейнічаюць стварэнню пэўных легенд вакол сябе. Гэта датычыць і звестак пра час і месца нараджэння.

Любіў ахутаць свой жыццяпіс вэлюмам фантазіі і шматзначнасці В. Савіч-Заблоцкі. Ён называў свой род графскім, паводле яго слоў, маці яго паходзіла з княжацкага роду. Гэта не знаходзіць пакуль пацвярджэння ў архіўных дакументах, звязаных з яго дзяцінствам. У аўтабіяграфічнай нататцы пісьменнік падае, здаецца, дакладную дату нараджэння —3 сакавіка 1850 г. (Пачынальнікі, *452*), але паводле іншых матэрыялаў можна меркаваць, што ён быў, прынамсі, на год старэйшы.

А вось характэрны прыклад з больш блізкіх нам часоў. Яшчэ зусім нядаўна лічылася, што вядомая паэтэса Канстанцыя Буйло нарадзілася ў 1898 г. на Ашмяншчыне. Так сцвярджала сама пісьменніца. Цяпер, на падставе выяўленай метрычнай дакументацыі, якая добра ўзгадняецца з іншымі разнастайнымі матэрыяламі, высветлілася, што нарадзілася яна ў 1893 г. у Вільні [46]. Істотная, як бачым, папраўка. Але, беручы за аснову дакументальныя звесткі, аддаючы ім рашучую перавагу, біёграф, зразумела, павінен так або інакш улічваць і версію, якой прытрымліваўся сам пісьменнік або пісьменніца, бо гэта (само існаванне версіі) таксама надзвычай цікавы рэальны факт біяграфіі. Словам, даследчыка цікавіць усё — і дакумент, і легенда, і ўвесь паступовы, часам даволі пакручасты і пакутлівы, працэс пошукаў ісціны даследчыкамі многіх пакаленняў.

---

[46] Чаркасава Д. «Не хачу варушыць попелу»: Старонкі жыцця паэтэсы Канстанцыі Буйло // Голас Радзімы. 1988. 14 студз.; Гардзіцкі А. Расказвае сын: Гутарка з Яўгенам Калечыцам // Літ. і мастацтва. 1990. 26 студз.

Такім чынам, можна зрабіць асноватворны метадалагічны вывад: як у юрыспрудэнцыі прызнанне падследнага само па сабе не можа служыць канчатковым доказам віны і патрабуе іншых грунтоўных пацвярджэнняў, так і ў навуковым крыніцазнаўстве звесткі, якія паходзяць ад асобы, чыю біяграфію мы даследуем, таксама патрабуюць уважлівай крытычнай праверкі. І ў юрыспрудэнцыі, і ў крыніцазнаўстве вырашальнымі з'яўляюцца не асобныя, няхай, на першы погляд, самыя аўтарытэтныя сведчанні, а ўся сукупнасць фактаў. Як юрыст, так і крыніцазнавец заўсёды павінен пакінуць месца для сумненняў, быць гатовым для перагляду пытання ў выніку з'яўлення новых сведчанняў, высвятлення новых, не вядомых раней акалічнасцей. Кола доказаў павінна заўсёды быць як бы рухомым, заставацца адкрытым для новых магчымых аргументаў, звестак, меркаванняў і г. д.

У нашым літаратуразнаўстве назапашаны значны вопыт, існуюць цікавыя распрацоўкі, звязаныя з устанаўленнем дакладных дат жыцця старэйшых беларускіх пісьменнікаў новага часу. Пачнём перш за ўсё з Яна Баршчэўскага і Яна Чачота.

Асноўнымі крыніцамі для біяграфіі Яна Баршчэўскага з'яўляюцца артыкулы Рамуальда Падбярэскага «Беларусь і Ян Баршчэўскі» (1844) і Юльяна Барташэвіча «Ян Баршчэўскі» (1851). Абодва аўтары асабіста ведалі Баршчэўскага. Барташэвіч паўтараў у многіх частках сваёй працы Падбярэскага, што дазволіла пры публікацыі гэтых матэрыялаў у кнізе «Пачынальнікі» зрабіць у тэксце артыкула Барташэвіча скарачэнні за кошт такіх паўтораў.

Архіўныя біяграфічныя матэрыялы пра Баршчэўскага зусім невядомыя. Адзінае выключэнне, відаць,— пахавальная метрыка, знойдзеная апошнім часам у Жытомірскім абласным архіве [47].

Розныя гады нараджэння Баршчэўскага (1794 і 1790), указаныя Падбярэскім і Барташэвічам, даюць падставу для спрэчак па гэтаму пытанню. Р. Зямкевіч у брашуры «Ян Баршчэўскі першы беларускі пісьменнік XIX ст.» (1911) і Н. Перкін у працы «Літаратурная спадчына Яна Баршчэўскага і Яна Чачота» (напісана ў 1946, апублікавана ў 1980 г.) прымаюць 1790 г. [48] Іншай думкі пры-

---

[47] Табачнік Б. Ян Баршчэўскі на Валыні // Літ. і мастацтва. 1981. 10 крас.

[48] Перкін Н. Абсягі думкі. Мн., 1980. С. 184.

трымліваецца А. Мальдзіс. «Каму ж аддаць перавагу? — пытаецца ён.— Відаць, усё-такі Падбярэскаму: ён чэрпаў інфармацыю з першых вуснаў — ад самога пісьменніка. Апрача таго, ёсць і ўскосны доказ. Вядома, што ў 1809 годзе, будучы вучнем Полацкай езуіцкай калегіі, Баршчэўскі напісаў свой першы вершаваны твор — псеўдакласічную паэму на польскай мове «Пояс Венеры». А наўрад ці мог быць вучнем калегіі дзевятнаццацігадовы юнак...» [49]

На гэта можна было б запярэчыць, што і Барташэвіч быў асабіста знаёмы з Баршчэўскім, але несумненна, што дата 1794 г. праставулена Падбярэскім з ведама Баршчэўскага: не забудземся, што артыкул Падбярэскага — гэта прадмова да кнігі Баршчэўскага, і Баршчэўскі павінен быў бы ім пацікавіцца, «аўтарызаваць» змешчаныя там звесткі. Аднак, нягледзячы на гэта, 1790 г. здаецца нам больш верагодным. Насуперак словам А. Мальдзіса, мы не знайшлі ў крыніцах указання на тое, што паэма «Пояс Венеры» напісана Баршчэўскім у 1809 г. Падобнае ўказанне ў Падбярэскага ёсць, але адносіцца яно да беларускага верша «Да чым жа твая, дзеванька, галоўка занята?» і гучыць наступным чынам: «...склаў песеньку... напісаную ў Марогах з нагоды залётаў да маладой панны Максімавічанкі, калі яшчэ будучы студэнтам, каля 1809 г., меў не больш 18 год» (Пачынальнікі, *66*). Такім чынам, у артыкуле Падбярэскага была храналагічная супярэчнасць, заўважаная, дарэчы, у свой час акадэмікам Я. Карскім (Карский, 3/3, *46*): нарадзіўся пісьменнік нібыта ў 1794 г., а каля 1809 г. меў 18 год. Так што другое ўказанне на ўзрост у артыкуле Падбярэскага гаворыць хутчэй на карысць 1790 г. нараджэння. Характэрна, што 1794 г. у якасці даты нараджэння Падбярэскі падаў у кнізе 1844 г., магчыма, таму, каб не вельмі старыць яе аўтара, каб аўтар не пераступіў пяцідзесяцігадовы рубеж жыцця. Цікава, што 1790 г. нараджэння Баршчэўскага падаваўся па свежых слядах у Энцыклапедыі Аргельбранда (1860). Улічваючы ўсё сказанае, у кнізе «Пачынальнікі» (гл. шмуцтытул, с. 39) мы прынялі 1790 г. за асноўны, 1794 даецца там як дадатковы. У дванаццацітомніку БелСЭ (артыкул А. Мальдзіса), наадварот, 1794 г. бярэцца за асноўны, 1790 г. — дадатковы. У «Кароткай энцыклапедыі» захаваны толькі адзін 1794 г.

---

[49] Мальдзіс А. Падарожжа ў XIX стагоддзе. Мн., 1969. С.25.

Пасля знаходкі пахавальнай метрыкі да сказанага дабавілася яшчэ адна акалічнасць. У гэтым дакуменце адзначана, што Баршчэўскі памёр 28 лютага 1851 г., маючы ад роду каля 54 год. «Калі верыць у дакладнасць лічбы «54», то выходзіць, што Ян Баршчэўскі нарадзіўся ў 1797 годзе, а верагодней — 1796. Гэта ўжо новая дата нараджэння, аб якой дасюль нідзе не ўпаміналася»[50],— разважае Г. Каханоўскі. Новы атрыманы факт гаворыць на карысць даты Падбярэскага, але, з другога боку, у Чуднаве на Валыні, дзе памёр Баршчэўскі, маглі і не ведаць яго сапраўднага ўзросту і вызначаць яго вельмі прыблізна. У кожным разе прыняць за дату нараджэння Баршчэўскага 1797 г., як прапануе ў сваёй новай публікацыі Г. Каханоўскі[51], наўрад ці правільна. Для канчатковага вырашэння пытання неабходна прыцягнуць новыя архіўныя матэрыялы. Калі не захаваліся касцельныя метрычныя кнігі, то хросную метрыку можна паспрабаваць знайсці ў радаводных дваранскіх справах у гістарычных архівах Мінска і Ленінграда. Такой спробы, наколькі нам вядома, не рабілася.

Адносна даты і месца нараджэння Яна Чачота ў гісторыка-літаратурных даследаваннях таксама былі разыходжанні. Прапаноўваліся розныя даты пачынаючы з 1794 і канчаючы 1797 г. У якасці месца нараджэння называліся то Рэпіхава ў сённяшнім Ляхавіцкім раёне, то Малюшыцы (Малюшычы) паміж Карэлічамі і Варончай. Мы ўжо не гаворым пра варыянты: Макушыцы[52], Малкошыцы[53].

Увядзенне ў навуковы ўжытак матэрыялаў радаводнай справы Чачотаў[54] дазволіла нашым навукоўцам спыніцца на даце 17 ліпеня 1796 г. і вырашыць спрэчку пра месца нараджэння на карысць Малюшыцаў (Малюшычаў)[55].

---

[50] Каханоўскі Г. Пуцявінамі Баршчэўскага // Літ. і мастацтва. 1981. 25 верас.

[51] Каханоўскі Г. А., Малаш Л. А., Цвірка К. А. Беларуская фалькларыстыка: Эпоха феадалізму. Мн., 1989. С. 127, 128.

[52] Wybór pism filomatów: Konspiracje studenckie w Wilnie. 1817—1823. Wyd. 2. Wrocław; Kraków, 1959. S. 413.

[53] Малаш Л. А. Ян Чечот и его рукописные сборники // Мат-лы науч. конф.: К сорокалетию б-ки. [АН БССР] Мн., 1965. С. 102.

[54] Бравер Я. Звесткі з біяграфіі Яна Чачота // Літ. і мастацтва. 1966. 28 студз.

[55] Мальдзіс А. Піянер беларускай фалькларыстыкі: 120 год з дня смерці Яна Чачота // Літ. і мастацтва. 1967. 11 жн.; Ён жа. Падарожжа ў XIX стагоддзе. С. 12.

Але з цягам часу высветлілася, што ў радаводнай справе ёсць толькі чарнавая паметка пра метрыку (сапраўды з датай 17 ліпеня 1796 г.) [56]. Між тым выявілася, што яшчэ ў 1937 г. польскі паэт і даследчык Л. Падгорскі-Аколаў апублікаваў аўтэнтычную касцёльную метрыку аб дапаўненні абраду хрышчэння над Чачотам ад 19 ліпеня 1796 г., з якой вынікала, што паэт перад гэтым быў ахрышчаны скарочаным спосабам 6 ліпеня 1796 г. Першы паводле храналогіі абрад выканаў сэрвацкі уніяцкі святар, другі — каталіцкі ксёндз у Варончы. Даты нараджэння ў надрукаванай метрыцы няма. Л. Падгорскі-Аколаў выказаў меркаванне, што паэт нарадзіўся каля 1 ліпеня, магчыма, 24 ці 26 чэрвеня, на святога Яна — таму і атрымаў імя Ян [57].

Нагадаўшы гэтыя факты, Кастусь Цвірка, які шмат зрабіў для вывучэння і папулярызацыі творчасці Чачота, цалкам пагадзіўся з думкай Падгорскага-Аколава і дапоўніў яе новымі меркаваннямі. «Даследчыка,— разважае Цвірка,— прывяла да гэтага вываду — і прывяла правільна — сама логіка фактаў. Але і яму — у сваю чаргу — не трэба б было ламаць галавы, калі б ён разгарнуў другі том «Паэзіі філаматаў», які падрыхтаваў і выдаў у 1922 годзе ў Кракаве Ян Чубак: там на некалькіх старонках даецца апісанне імянін Яна Чачота, якія спраўляліся 24 чэрвеня 1819 года і дзе Адам Міцкевіч прачытаў у яго гонар свае «Ямбы». 24 чэрвеня, або па новаму стылю 7 ліпеня, відаць, і трэба лічыць днём нараджэння паэта» [58]. Дата 7 ліпеня як бясспрэчная дата нараджэння Чачота ўвайшла ў ЭЛіМБел (артыкул пра Чачота К. Цвіркі). «Чачот сапраўды нарадзіўся ў дзень св. Яна — 24 чэрвеня, або «выбраў сабе імя сам», гэтак сама ж зрэшты, як Міцкевіч, які прыйшоў на свет 24 снежня на Адама і Еву» [59],— сцвярджае і сучасны польскі даследчык С. Свірка. А між тым дзень нараджэння і імяніны не заўсёды цалкам супадаюць. 24 чэрвеня адзначалі імяніны ўсе Яны, а нараджаліся яны не абавязкова ў адзін дзень. Напрыклад, Янка Лучына сапраўды прыйшоў на свет 24 чэрвеня (хрышчоны 25 ліпеня). А вось Янка Купала

---

[56] Гл.: Пачынальнікі. С. 108.

[57] Podhorski-Akółów L. Czeczot nieznany // Lech. 1937. N 3—4. S. 69.

[58] Цвірка К. Той курган векавечны...: Сцяжыны вандровак. Мн., 1985. С. 7.

[59] Świrko S. Z Mickiewiczem pod rękę... Warszawa, 1989. S. 14.

нарадзіўся 25 чэрвеня (хрышчоны 12 ліпеня)[60]. Новае пацвярджэнне таму, што Чачот нарадзіўся менавіта 24 чэрвеня 1796 г., знаходзім у публікацыях Л. Малаш, якая спасылаецца на выяўленае ў архіве сведчанне Чачотавага брата[61]. Тым не менш у перспектыве варта было б пашукаць першы запіс аб хрышчэнні Чачота, зроблены уніяцкім святаром (у метрычнай кнізе адпаведнай уніяцкай царквы). Магчыма, там усё-такі прыведзена дакладная дата[62].

Былі ў даследчыкаў свае складанасці з датай нараджэння класіка нашай літаратуры В. Дуніна-Марцінкевіча. Першыя яго біёграфы (А. Ельскі, А. Слупскі, Р. Зямкевіч) дружна падаюць адзін і той жа год — 1807, без указання месяца і дня. Гэты год і быў прыняты ў нашым літаратуразнаўстве.

Але параўнальна нядаўна намі быў знойдзены метрычны запіс на лацінскай мове, у якім сцвярджалася, што 23 студзеня 1808 г. «Ігнат-Якуб Даліва-Садкоўскі, прэлат, кантар мінскі, канонік Жытомірскай кафедры, доктар філасофіі, краснасельскі настаяцель, ахрысціў адной вадой дзеля небяспекі для жыцця дзіця, названае двума імёнамі Вінцэнт-Якуб, якое нарадзілася ў вышэйуказаны дзень. Сына яго міласці Івана Марцінкевіча, падчашага наваградскага, і Марцыяны з Нядзведскіх» (Пачынальнікі, *118*). Размова, несумненна, ідзе пра з'яўленне на свет нашага выдатнага пісьменніка. Паводле гэтага тэксту, Дунін-Марцінкевіч нарадзіўся ў дзень хрышчэння 23 студзеня (4 лютага па новаму стылю) 1808 г.

Гэты запіс знаходзіцца ў рукапіснай кнізе пад назвай «Копія метрык Бабруйскага касцёла», якая захоўваецца ў Цэнтральным гістарычным архіве БССР, у фондзе Мінскай каталіцкай кансісторыі[63]. У кнізе не зусім поўныя тэксты метрычных запісаў. У многіх з іх указваюцца толькі даты хрышчэння, а даты і месцы нараджэння не называюцца. Таму, друкуючы гэты дакумент у зборніку «Пачына907-

---

[60] Пачынальнікі. С. 467; Пуцявінамі Янкі Купалы: Дакументы і матэрыялы. Мн., 1981. С. 45.

[61] Малаш Л. Пачынальнік беларускай фалькларыстыкі: Да 190-годдзя з дня нараджэння Яна Чачота // Мастацтва Беларусі. 1986. № 7. С. 57; Каханоўскі Г. А., Малаш Л. А., Цвірка К. А. Беларуская фалькларыстыка: Эпоха феадалізму. С. 108.

[62] Часам, па інерцыі, усё яшчэ ўжываецца і дата «17 ліпеня». Гл.: Мархель У. Крыніцы памяці. С. 113.

[63] ЦДГА БССР у Мінску, ф. 937, воп. 4, спр. 13, л. 27 адв.

нікі», мы выказалі думку, што ў сувязі са своеасаблівым характарам крыніцы, побач з засведчанай дакументам датай нараджэння не варта пакуль што цалкам адмаўляцца і ад традыцыйнай даты — 1807 г., якую называлі людзі, блізкія да пісьменніка.

Аднак больш уважлівы аналіз пераканаў, што матэрыялы Ельскага, Слупскага і Зямкевіча, пры ўсёй іх аўтарытэтнасці, не ва ўсім дакладныя. Таму можна было паставіць пад сумненне і прыведзеную імі дату нараджэння.

Адкуль жа ўсё-такі ўзяўся гэты 1807 г.?

Бывае, сам чалавек не ведае дакладна года свайго нараджэння, не маючы адпаведных дакументаў [64]. Сказаць гэта адносна Дуніна-Марцінкевіча мы не можам, таму што нам вядома, што ў 1832 г. ён падаў у Мінскую дваранскую дэпутацкую зборню копію сваёй метрыкі (Пачынальнікі, *123*). Але жонка і дзеці пісьменніка маглі дакладнай даты і не ведаць, вызначаць год яго нараджэння прыблізна [65]. Хутчэй за ўсё ў даным выпадку так яно і было: пра прыблізнасць даты ў нейкай меры можа гаварыць яе непаўната — адсутнасць дня і месяца.

Да таго ж звяртае на сябе ўвагу адна акалічнасць у метрычным запісе: як і ў выпадку з Чачотам, Дунін-Марцінкевіч быў ахрышчаны скарочаным спосабам — «адной вадой» (звычайна хрысцілі яшчэ «святымі алеямі») «дзеля небяспекі для жыцця». Відаць, ён прыйшоў на свет слабым і яго спяшаліся ахрысціць адразу пасля нараджэння, у той жа дзень, каб, крый божа, не памёр няхрышчаным. (Мабыць, па гэтай жа прычыне бацькі Чачота звярнуліся да бліжэйшага уніяцкага святара, бо мясцовы каталіцкі ксёндз у той момант, пэўна, адсутнічаў.)

Адным словам, трэба прыняць усё ж дату нараджэння Дуніна-Марцінкевіча, засведчаную метрычным запісам.

Ёсць разыходжанні ў крыніцах адносна даты смерці пісьменніка. Прынятая цяпер дата — 17 снежня 1884 г.—

---

[64] Гл., напрыклад, цікавае сведчанне нашага сучасніка паэта Р. Няхая пра тое, як ён вылічаў дату свайго нараджэння, у кн.: Пяцьдзесят чатыры дарогі: Аўтабіяграфіі беларускіх пісьменнікаў. Мн., 1963. С. 402.

[65] Напрыклад, дачка Ядвігіна Ш. Ванда Лявіцкая (Лёсік), чалавек у грамадскіх адносінах вельмі актыўны і блізкі да беларускай культуры, пісала ў сваіх успамінах: «Год нараджэння свайго бацькі я не ведаю — прыблізна 1868 (1869). Дакументаў ніякіх у мяне няма» (Ядвігін Ш. Выбр. тв. Мн., 1979. С. 397).

упершыню была пададзена Ельскім у артыкуле пра Панюшкевічы (Панюшкавічы) для польскага «Слоўніка геаграфічнага» (1886). Аднак у 1889 г. у артыкуле «Гапон», аповесць у вершах на беларускай мове...»[66] М. Доўнар-Запольскі напісаў, што Дунін-Марцінкевіч памёр у сакавіку 1885 г. Не інакш, ён датаваў смерць пісьменніка часам апублікавання некралога. Дата 17 снежня 1884 г. зноў была названа ў 1910 г. у прадмове да другога выдання «Шчароўскіх дажынак» і «Купалы». Добра ведаў гэты артыкул Зямкевіч, меў да таго ж у гэты час пад рукой іншыя матэрыялы, дзе, трэба думаць, прыводзілася тая ж дата 17 снежня, і ўсё-такі ў сваім вядомым артыкуле пра пісьменніка, надрукаваным у «Нашай Ніве» ў лістападзе 1910 г., паўтарыў памылку Доўнар-Запольскага: «Марцінкевіч апошнія свае гады дажыў у Люцынцы, аддаўшы богу душу ў месяцы сакавіку (марцы) 1885 года». Можа, ён паддаўся на нейкі час аўтарытэтнаму ўплыву Доўнар-Запольскага, але хутчэй за ўсё перад намі памылка наўмысная або міжвольная, вымушаная акалічнасцямі. Нашаніўцам карцела правесці першы літаратурны юбілей, але спахапіліся яны позна, калі сапраўдная 25-я гадавіна з дня смерці Дуніна-Марцінкевіча прайшла (яна прыпадала на снежань 1909 г.). Таму была выкарыстана дата Доўнар-Запольскага. Пазней у артыкуле «Стары Мінск у беларускіх успамінах» (1919) Зямкевіч прыняў усё-такі дату Ельскага, перавёўшы яе на новы стыль («...памёр 29—17 снежня 1884 года»)[67]. Гэту дату падае і Галомбак. Метрычныя дакументы па Мінскаму павету 80-х гадоў не захаваліся. Яны загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны разам з іншымі матэрыяламі Мінскага архіва ЗАГС. Так што дакументальна праверыць паказанні крыніц цяпер нельга. І ўсё ж перавагу мы аддаём сведчанню Ельскага, які пабываў у Люцынцы адразу пасля пахавання пісьменніка, а можа нават і сам удзельнічаў у пахаванні.

Апошнім часам зямляк пісьменніка, былы вучань Пяршайскай сярэдняй школы В. Грынкевіч у літаратурна-краязнаўчым артыкуле «Сцежкамі Дудара» (Літ. і мастацтва, 1990, 13 крас.) прывёў змест надпісу на старым крыжы на магіле Дуніна-Марцінкевіча, памятны яму са школьных гадоў: «Жыў 78 гадоў. Памёр 1 студзеня 1885 года». У пацвярджэнне даты «1 студзеня» прыводзяцца

---

[66] Календарь Северо-Западного края на 1889 год. М., 1889. С. 99.

[67] Пачынальнікі. С. 23.

ўспаміны старога селяніна, што пісьменнік памёр «за тыдзень, калі не больш», да Каляд. Але Каляды, як сцвярджаюць спецыялісты, гэта «час з 24 снежня па 6 студзеня (с. ст.)»[68]. Калі адняць тыдзень ад 24 снежня, то якраз і будзе 17 снежня — дата, засведчаная многімі крыніцамі. Відаць, надпіс на крыжы рабіўся значна пазней, калі дакладная дата смерці пісьменніка ўжо не помнілася. У сувязі з гэтым губляе грунт і наступнае разважанне В. Грынкевіча: «Калі дату смерці прыняць за 1 студзеня 1885 года, то, адмінусаваўшы гады жыцця — 78 гадоў, атрымаецца 1807 год. Значыць, Беларускі Дудар нарадзіўся ў 1807 годзе».

Выходзіць, дакументальна пацверджанымі на сённяшні дзень усё-такі з'яўляюцца наступныя даты жыцця Дуніна-Марцінкевіча: 23 студзеня (4 лютага) 1808 г.— 17 (29) снежня 1884 г. Пісьменнік нейкі месяц не дажыў да 77 гадоў.

Абследуем цяпер «пашпартныя» звесткі пісьменнікаў другой паловы XIX ст. За апошнія дзесяцігоддзі інтэнсіўных навуковых пошукаў выяўлены і апублікаваны запісы аб нараджэнні (хрышчэнні) Ф. Багушэвіча, А. Абуховіча, Я. Лучыны (Пачынальнікі, *382, 444—445, 466—467)*, А. Гурыновіча[69].

Зноў пераконваемся, што ўвядзенне ў навуковы ўжытак метрычнага запісу здымае многія спрэчныя пытанні, звязаныя з часам і месцам нараджэння пісьменніка.

Напрыклад, доўгі час у беларускім літаратуразнаўстве лічылася, што наш класік Ф. Багушэвіч нарадзіўся ў Кушлянах. Вывучаныя С. Александровічам некралагічныя матэрыялы, у прыватнасці артыкулы-некралогі Н. Роўбы і Л. Уземблы, дазволілі паставіць пытанне аб недакладнасці ранейшых звестак. У артыкуле «Новае пра Ф. Багушэвіча» С. Александровіч пісаў: «Л. Уэмбла і Н. Роўба ў сваіх артыкулах адносна месца нараджэння беларускага паэта прыводзяць новыя звесткі: радзімай Ф. Багушэвіча яны лічаць не Кушляны, а вёску Свіраны, якая знаходзіцца непадалёку ад Вільні. Можна было б браць пад сумненне верагоднасць гэтага сцвярджэння, але справа ў тым, што

---

[68] Гурскі А. І. Каляды // Этнаграфія Беларусі: Энцыклапедыя. Мн., 1989. С. 237.

[69] Гульман Р. І. Новыя архіўныя матэрыялы пра Адама Гурыновіча // Беларуская літаратура: Даследаванні і публікацыі. Мн., 1958. Вып. 1. С. 234.

адначасова розныя аўтары ў розных выданнях... пісалі пра Свіраны як радзіму Ф. Багушэвіча. Трэба ўлічваць і той немалаважны факт, што адным з аўтараў артыкулаў пра беларускага паэта быў польскі літаратар і краязнаўца Напалеон Роўба, які не толькі быў асабіста знаёмы з Ф. Багушэвічам, але і сябраваў з ім: у прыватнасці, Н. Роўба разам з беларускім песняром прымаў удзел у падарожжы на лодках па Віліі да Коўна і Нёманам да Юрбурга (ліпень 1897 г.). Такія блізкія сяброўскія адносіны Н. Роўбы з Ф. Багушэвічам даюць падставу меркаваць, што ён ад самога паэта атрымаў дакладныя звесткі пра месца нараджэння беларускага пісьменніка»[70]. Неўзабаве слушнасць меркаванняў С. Александровіча, лагічнасць яго крыніцазнаўчага аналізу знайшлі дакументальнае пацвярджэнне. У матэрыялах Цэнтральнага гістарычнага архіва Літоўскай ССР сярод «Выпісаў хросных метрык Рукойнскага парафіяльнага касцёла за 1840 год» (пасля публікацыі С. Александровіча мы ўжо ведалі, дзе шукаць) знайшоўся аўтэнтычны запіс аб нараджэнні Ф. Багушэвіча. Такім чынам, было канчаткова ўстаноўлена, што выдатны беларускі паэт прыйшоў на свет у Свіранах[71].

Дата нараджэння Альгерда Абуховіча была вядомая з яго мемуараў. Але пра месца нараджэння можна было толькі меркаваць, бо маёнткі ў Абуховічаў былі ў розных паветах. З мемуараў пісьменніка відаць, што яго дзяцінства было звязана з Калатычамі, адкуль потым Альгерд з маці пераехаў у Слуцк. «Альгерд Абуховіч быў сынам заможнага землеўласніка на Случчыне»,— сцвярджалася ва ўспамінах Я. Дылы (Пачынальнікі, *448*). Відаць, на падставе гэтых звестак, у першым выданні Беларускай Савецкай Энцыклапедыі гаварылася, што Абуховіч «нарадзіўся ў памешчыцкай сям'і на Случчыне»[72]. Але неўзабаве з'явіліся сумненні ў правільнасці гэтага сцвярджэння. У артыкуле «Па слядах Альгерда Абуховіча» слуцкі краязнавец і літаратуразнавец Рыгор Родчанка пісаў: «Я доўга шукаў на Случчыне гэтую вёску. Але няма ў нашых мясцінах такога населенага пункта, няма і ў суседніх раёнах Міншчыны — Старадарожскім, Ка-

---

[70] Александровіч С. Старонкі братняй дружбы. Мн., 1960. С. 186—187.

[71] Кісялёў Г. Гімназічныя і студэнцкія гады Францішка Багушэвіча // Полымя. 1960. № 10. С. 160—161.

[72] БелСЭ. Мн., 1969. Т. 1. С. 44.

пыльскім і Любанскім, тэрыторыя якіх некалі ўваходзіла ў Слуцкі павет. Нарэшце, Қалатычы (цяпер Қалацічы) адшукаліся ў Глускім раёне Магілёўскай вобласці»[73]. Гэтыя Қалацічы Р. Родчанка і прапанаваў лічыць радзімай Абуховіча, але поўнай упэўненасці не было, пакуль у Цэнтральным гістарычным архіве БССР у Мінску не знайшлася радаводная справа Абуховічаў з метрыкай пісьменніка, з якой відаць, што нарадзіўся ён «у двары Қалацічы» і хрышчоны ў Глускім касцёле Бабруйскага павета (Пачынальнікі, *444—445*).

Здараецца, звесткі метрычных дакументаў ўдакладняюцца абследаваннем на месцы і прыцягненнем іншых матэрыялаў. Згодна з метрыкай Адам Гурыновіч нарадзіўся «у фальварку Кавалях Ваўкалацкага прыхода»[74]. У спецыяльнай публікацыі «Дзе нарадзіўся Адам Гурыновіч?» Генадзь Қаханоўскі прывёў матэрыялы аб тым, што фальварак Гурыновічаў называўся не Қавалі, а Қавалькі і знаходзіцца цяпер каля вёскі Кавалі Мядзельскага раёна[75]. Папраўка прынята энцыклапедычнымі выданнямі[76].

Вядомая ў прынцыпе дата часам да непазнавальнасці трансфармуецца на ўзроўні папулярызацыі. Напрыклад, дата нараджэння Я. Лучыны — 24 чэрвеня (6 ліпеня н. ст.) 1851 г.,— засведчаная некралогамі, ■ пазней і публікацыяй метрыкі, у дзіўнай, амаль непазнавальнай форме паўстае ў хранікальнай нататцы 1926 г.: «19 ліпня (так.— *Г. К.*) бягучага года мінула 75 год з дня нараджэння вядомага беларускага паэта Янкі Лучыны (Івана Неслухоўскага). Паэта памёр у Менску ў 1897 г.»[77]. Гадавіна вызначана правільна: 1851+75=1926. Але адкуль жа ўзялося 19 ліпня (ліпеня)? Відаць, у даным выпадку сапраўдная дата 6 ліпеня была прынята за дату старога стылю і яшчэ раз пераведзена на новы стыль, прычым з памылкай (6+13, а не 6+12, як належала б). Словам, крыніцазнаўцы, відаць, павінны не толькі здабываць новыя факты, але яшчэ і несці пільную службу кантролю.

---

[73] Родчанка Р. Па слядах Альгерда Абуховіча // Літ. і мастацтва. 1976. 10 верас.

[74] Гульман Р. І. Новыя архіўныя матэрыялы пра Адама Гурыновіча // Беларуская літаратура. Вып. 1. С. 234.

[75] Қаханоўскі Г. Дзе нарадзіўся Адам Гурыновіч? // Літ. і мастацтва. 1968. 14 чэрв.

[76] БелСЭ. Мн., 1971. Т. 4. С. 90; Беларуская ССР: Қароткая энцыклапедыя. Мн., 1981. Т. 5. С. 184; ЭЛіМБел. Мн., 1985. Т. 2. С. 235.

[77] Полымя. 1926. № 6. С. 180.

Пры адсутнасці метрыкі дата і месца нараджэння ўстанаўліваецца па іншых матэрыялах. Дакладныя звесткі пра час і месца нараджэння Аляксандра Ельскага, як і іншыя асноўныя факты яго біяграфіі, прыведзены ў прысвечаным яму артыкуле 1903 г. у «Вялікай агульнай ілюстраванай энцыклапедыі», якія, паводле сцвярджэння «Польскага біяграфічнага слоўніка», заснаваны на аўтабіяграфіі Ельскага[78].

Зусім невядомай доўгі час была біяграфія Фелікса Тапчэўскага. Толькі апошнім часам з'явіліся сякія-такія біяграфічныя звесткі аб ім. У 1972 г. Генадзь Каханоўскі па ўспамінах землякоў меркаваў, што памёр паэт увосень 1910 г., маючы 64—65 год, гэта значыць нарадзіўся каля 1845—1846 гг.[79] Потым аказалася, што звесткі гэтыя вымагаюць значнай карэкціроўкі. Нам удалося адшукаць некаторыя архіўныя дакументы, звязаныя з Тапчэўскім (Пачынальнікі, *378—380*). Нягледзячы на іх фрагментарнасць, яны дазволілі па-новаму падысці да пытання пра час нараджэння паэта. У спісе валасных пісараў Лепельскага павета ад 27 студзеня 1862 г. пісару Ульскага валаснога праўлення Феліксу Феліксавічу Тапчэўскаму лічылася 27 год (Пачынальнікі, *378*). Калі меркаваць па гэтаму дакументу, Тапчэўскі нарадзіўся ў 1835 або хутчэй нават у 1834 г. Але дакументы пра вучобу Тапчэўскага ў Лепельскім вучылішчы дазволілі яшчэ больш удакладніць год нараджэння. Вядома, што ў канцы 1849 г. Тапчэўскі вучыўся ў I класе, яму было 11 год[80]. У адным з дакументаў пачатку 1852 г. адзначана, што вучню II класа Лепельскага вучылішча Ф. Тапчэўскаму 13 год[81]. У кнізе «Пачынальнікі» (с. 378) у сувязі з гэтым зроблены вывад: «Такім чынам, Тапчэўскі нарадзіўся хутчэй за ўсё ў 1838 г. На пачатку 1862 г., калі складаўся спіс валасных пісараў Лепельскага павета, яму павінна было быць не 27, а 23 гады». Відаць, з-за беднасці сям'і ён вымушаны быў вельмі рана, яшчэ падлеткам, паступіць на службу і дабавіць сабе 3—4 гады, якіх не хапала да ўзроставага цэнзу. Але гэтыя меркаванні спачатку былі прыняты толькі ча-

---

[78] Bieńkowski W. Jelski Aleksander // Polski Słownik Biograficzny. Wrocław etc., 1964. T. 11. Z. 48. S. 150.

[79] Каханоўскі Г. Па сцежках Фелікса Тапчэўскага // Беларусь. 1972. № 9. С. 28.

[80] ЦДГА Літ ССР, ф. 567, воп. 2, спр. 6122, л. 292 адв.

[81] ЦДГА БССР у Мінску, ф. 2507, воп. 1, спр. 463, л. 154.

ткова. У аўтарытэтных энцыклапедычных выданнях яшчэ не так даўно называліся такія даты жыцця Тапчэўскага: «1835 ці 1836—1910» [82]. Дату «каля 1838 года» прыняў А. Лойка [83]. Нядаўна ў вёсцы Рукшаніцы Ушацкага раёна клопатамі Г. Каханоўскага і настаўніка І. Законнікава знойдзена надмагільная пліта з надпісам: «Фелікс Тапчэўскі памёр 17 снежня 1892 г., маючы 54 гады» [84]. Надпіс на надмагільнай пліце, калі ён не зроблены адвольна ў пазнейшыя часы, з'яўляецца дакументам, у пэўнай ступені раўнацэнным метрычнаму запісу. Такім чынам, даследчыкі атрымалі дакладную дату смерці і новае пацвярджэнне, што Тапчэўскі нарадзіўся ў 1838 г. Абноўленыя зыходныя звесткі аб Тапчэўскім (1838—17. 12. 1892) у «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі» (1987) сведчаць аб інтэнсіўнасці пошукавай працы нашых літаратуразнаўцаў, хуткім назапашванні і асэнсаванні даных. Разам з тым у працэсе аналізу і супастаўлення розных звестак высветліўся цікавы дадатковы факт, што Тапчэўскі, вымушаны па беднасці рана пайсці на казённы хлеб, прыбавіў сабе ў афіцыйных паперах гады. Тое ж самае было з аўтарам нашай «Энеіды навыварат» В. Равінскім (нарадзіўся ў 1786 г., а паводле паслужных спісаў, на 4 гады старэйшы) [85]. Здабыванне з крыніц, шляхам іх уважлівага супастаўлення, дадатковых фактаў — важная задача крыніцазнаўца.

Дата смерці Ф. Багушэвіча дакументавана метрычным выпісам [86], так званай «клепсідрай» (спецыяльнай жалобнай друкаванай абвесткай) [87] і некралогамі (Пачынальнікі, *414, 422*). Праўда, трэба агаварыцца, што часам у некралогі трапляюць і не зусім дакладныя даты. Некралог Н. Роўбы ў «Тыгодніку ілюстраваным» ад 9 чэрвеня (27 мая) 1900 г. пачынаўся словамі: «18 красавіка гэтага года памёр вядомы віленскі адвакат і народны пісьменнік

---

[82] БелСЭ. Мн., 1974. Т. 10. С. 230; Беларуская ССР: Кароткая Энцыклапедыя. Т. 5. С. 594. Апошнім часам гэтыя ж састарэлыя звесткі прыведзены ў другім выданні хрэстаматыі беларускай літаратуры XIX ст. (Мн., 1988, с. 472) і ў зборніку тэкстаў: Вытокі. Мн., 1988. С. 225.

[83] Лойка А. А. Гісторыя беларускай літаратуры: Дакастрычніцкі перыяд. Мн., 1977. Ч. 1. С. 217.

[84] Каханоўскі Г. Адчыніся, таямніца часу. Мн., 1984. С. 93.

[85] Гл.: Кісялёў Г. Загадка беларускай «Энеіды». С. 118—121.

[86] Тэкст гл. у кн.: Кісялёў Г. З думай пра Беларусь. Мн., 1966. С. 316.

[87] ЦБАН ЛітССР, ф. 151—1862, л. 4—5. Тэкст на французскай мове. Падказана У. Казберуком.

Францішак Багушэвіч» (Пачынальнікі, *420*). У сапраўднасці пісьменнік памёр 15 (28) красавіка, а 18 красавіка адбылося пахаванне.

Дзень, калі памёр Альгерд Абуховіч, засведчаны надпісам на помніку на слуцкіх могілках. Пра дзень смерці Аляксандра Ельскага — 27 жніўня 1916 г.— вядома з нешматлікіх некралогаў [88]. Трэба адзначыць, што Ельскі памёр у цяжкую пару першай сусветнай вайны, калі Ігуменшчына знаходзілася па сутнасці ў прыфрантавой паласе, што ўскладніла атрыманне дакладных звестак пра яго смерць. Напрыклад, Эдвард Малішэўскі інфармаваў у 1919 г. у даведніку па Мінскай губерні:

«Вёска *Замосце,* за 56 вёрст ад Іг[умена], даўняя спадчына Ельскіх, з іх Аляксандр, які памёр тут у 1917 г., аўтар многіх каштоўных прац пра Міншчыну, сабраў цудоўныя зборы і вялікую бібліятэку разам з архівам» [89].

Аналагічная недакладная дата трапіла таксама ў гісторыка-краязнаўчую кнігу Л. Жыцкай і М. Лэнскай пра Міншчыну, дзе, дарэчы сказаць, прыводзіўся каштоўны ў цэлым матэрыял пра Ельскага [90].

Дата смерці Янкі Лучыны ў некралогах не змяшчалася. У энцыклапедычных выданнях да апошняга часу з-за адсутнасці (а лепш сказаць — з прычыны недастатковай даступнасці) дакладных звестак называўся толькі год — 1897-ы [91]. Гэта ж датычыць акадэмічнага двухтомніка гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры, «Гісторыі...» А. Лойкі [92]. Публікуючы ў сваёй хрэстаматыі крытычных матэрыялаў прадмову да пасмяротнага зборніка польскай паэзіі Лучыны, укладальнікі С. Александровіч і В. Александровіч зрабілі да адной мясціны заўвагу: «Пасля гэтага абзаца зроблена прыпіска ад рукі: «Памёр 16 ліпеня 1897 г.» Гэта адзінае сведчанне пра дакладны

---

[88] Гоман. 1916. 29 верас.; Беларускі каляндар на 1917 год. Вільня, 1916. С. 36.

[89] Maliszewski E. Przewodnik po gubernji Mińskiej: Zarys statystyczno-opisowy. Warszawa, 1919. S. 21.

[90] Życka L., Łęska M. Działalność popowstaniowa polaków na ziemi Mińskiej. Warszawa, 1939. S. 21. Дакладны год указаны ў гэтай жа кнізе на с. 247—248.

[91] БелСЭ. Мн., 1972. Т. 6. С. 446; Беларуская ССР: Кароткая Энцыклапедыя. Т. 5. С. 375.

[92] Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Т. 2. С. 151; Лойка А. А. Гісторыя беларускай літаратуры: Дакастрычніцкі перыяд. Мн., 1977. Ч. 1. С. 268.

дзень смерці пісьменніка» (Хрэст. Ал., *117*). У сапраўднасці дата смерці Лучыны (як і нараджэння) прыводзілася ў мінскім польскім календары на 1907 год, дзе апублікаваны тры яго польскія вершы [93]. Упершыню ў нашым літаратуразнаўстве яна пададзена А. Мальдзісам у «Истории белорусской дооктябрьской литературы» [94].

Адносна даты смерці Адама Гурыновіча ў крыніцах і літаратуразнаўчых працах існуюць разыходжанні.

Б. Тарашкевіч у артыкуле 1921 г. у газеце «Беларускі звон» на падставе звестак, атрыманых ад сваякоў Гурыновіча, паведаміў: «...памёр 14 студзеня 1894 г.» (Пачынальнікі, *481*).

Р. Гульман: «Справа аб праследаванні А. Гурыновіча была спынена ў 1894 г. у сувязі са смерцю паэта. Гэта відаць з запісу, які зроблены на 179-м лісце справы «О водворении в пределы России преступных воззваний из заграницы» (ЦГИАМ, ДП, 7-е делопроизводство, д. 229 за 1893 г.) — «Гуринович Адам Каликстович, дворянин, бывший студент С.-Петербургского технологического института, 24 года, 23 января 1894 г. умер. Прекратить за смертью» [95].

У зборніку тэкстаў 1956 г.: «Паэт памёр раптоўна, па адных звестках, 19 студзеня (адкуль гэтая дата? 14 студзеня? — *Г. К.*), а па другіх — 23 студзеня» [96].

Я. Шутовіч: «Браніслаў Тарашкевіч у сваім артыкуле пра Адама Гурыновіча піша, што паэт памёр 14 студзеня 1894 года. Паліцэйскія дакументы падаюць дату 29.I.1894 года (23.I? — *Г. К.*). На гэтую дату смерці ўказвае і прафесар Яніна Гурыновіч у пісьме да мяне ў жніўні 1963 года. Я звярнуў на гэту недакладнасць увагу праф. Гурыновіч. Яна адпісала мне, што ў яе ёсць фотакартка паэта, на якой рукой маткі яго ці сястры Канстанцыі выпісана такая дата: «Св. п. 17 студзеня 1894 г.» Такім чынам, мы атрымліваем новую дату смерці паэта — 17 студзеня 1894 года. Можна лічыць, што яна найбольш верагодная, бо аснавана на аўтэнтычнай крыніцы і выводзіцца ад людзей, найбліжэйшых да паэта» [97].

---

[93] Kalendarz miński na rok zwyczajny 1907. Mińsk, 1907. S. 184—187.

[94] История белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977. С. 366.

[95] Гульман Р. І. Новыя архіўныя матэрыялы пра Адама Гурыновіча... С. 233.

[96] Беларускія пісьменнікі другой паловы XIX ст.: Зб. тэкстаў. Мн., 1956. С. 342.

[97] Полымя. 1966. № 11. С. 156.

Заўважым, што супярэчнасць паміж датамі 29 і 17 студзеня можна зняць, калі прыняць першую з іх за дату новага стылю, а другую — старога стылю. У такім духу вырашана пытанне ў энцыклапедыі: «14 (26). 1. 1894, па інш. крыніцах 17 (29). 1. 1894» [98]. Але тут не ўлічана паліцэйская дата — 23.1. (4. 2). 1894. Так або інакш, але вельмі пажадана ў будучым адшукаць пахавальны метрычны запіс паэта. Гэта дазволіць канчаткова вырашыць спрэчнае пытанне.

І апошні прыклад — з біяграфіі Вітана-Дубейкаўскага. Прынятая дата яго нараджэння — 7 ліпеня 1869 г. Але маюць хаджэнне і іншыя даты. Нават у пашпарце, як высвятляецца, стаяла дата, далёкая ад сапраўднай, яна падмалоджвала яго на цэлых 8 гадоў. Ягоная жонка К. Вітан тлумачыла гэта наступным чынам (пакідаем своеасаблівую стылістыку аўтаркі): «Калі ў 1918 г. Л. Вітан-Дубейкаўскі выязджаў із Імсціслаўля да Менску, яму ў дакуменце абмыльна напісалі 1876 г. нараджэння, і гэтая дата засталася ў ягоных лістох (дакументах). Новай метрыкі (старая была згублена) ён із Імсціслаўля адзержыць ня мог, дарма што туды пісаў. Гэтак, папраўка ня была зробленая, і пасьлей у польскім пашпарце застаўся 1876 г. нараджэння» [99]. Перад намі новае сведчанне таго, што нават да афіцыйных дакументаў (здавалася б, што можа быць дакладней за пашпарт) крыніцазнавец павінен ставіцца досыць асцярожна.

Мы ўвесь час гаворым пра дакументаванне фактаў. Слушнае, неаспрэчнае патрабаванне. Разам з тым ні ў якім разе не трэба фетышызаваць дакумент. У навуцы ўсё патрабуе праверкі, у тым ліку і дакументы. «Ёсць дакументы парадныя, і яны хлусяць, як людзі» [100],— казаў Ю. Тынянаў. Ён жа настойліва звяртаў увагу на непаўнату, аднабаковасць дакументальных сведчанняў: «Уяўленне пра тое, што ўсё жыццё дакументавана, ні на чым не заснавана: бываюць гады без дакументаў... І потым сам чалавек — колькі ён утойвае, як часам падобныя яго пісьмы на паспешлівыя адпіскі! Чалавек не гаворыць галоўнага...» [101] Суадносіны дакумента і факта, дакумента і паў-

---

[98] БелСЭ. Мн., 1971. Т. 4. С. 90.

[99] Kvetka Vitan. Lavon Vitan-Dubiejkauski: Da 85 uhodkaŭ naradžeńnia. New York, 1954. S. 3.

[100] Юрий Тынянов: Писатель и ученый. С. 196.

[101] Там жа. С. 197.

наты жыцця — надзвычай важныя пытанні крыніцазнаўства, якія ў аднолькавай меры цікавяць гісторыкаў і літаратараў. «Дакумент неабходны. Але яго не заўсёды можна тут жа атаясамліваць з фактам. Абсалютызаваць дакумент нельга. Дакументы сутыкаюцца між сабой, супярэчаць адзін другому, памыляюцца»[102],— слушна гаварылася на адной з сустрэч гісторыкаў і пісьменнікаў апошняга часу. Так што, здараецца, трэба папраўляць, дапаўняць, карэкціраваць і дакумент. У сувязі з гэтым нам падаліся метадалагічна цікавымі спрэчкі Г. Ахматавай са сваімі біёграфамі, пра якія згадвае яе сябра і сакратар А. Найман. Паводле яго слоў, Ахматава апошнія гады рэвізавала працы сваіх біёграфаў, «папраўляла біяграфію»; біёграфы лічылі, «што наступнае ўмяшальніцтва ў дакумент так або інакш скажае сканструяваную імі карціну, пасягае на ісціну...»[103] Але Ахматава, абараняе яе А. Найман, ведала цану дакументам, «ведала, да якой дэзінфармацыі, міжвольнай або наўмыснай, прыводзіць іх непаўната, памылковае, «сучаснымі вачыма», прачытанне і тэндэнцыйны падбор. Яна не верыла, што ахматазнавец разумнейшы за Ахматаву...»[104] Цяжка вырашыць, хто тут больш мае рацыю — Ахматава або яе біёграфы,— каб адказаць на гэтае пытанне, трэба грунтоўна вывучаць адпаведныя канкрэтныя матэрыялы, але прыгаданая сітуацыя красамоўна сведчыць пра няпростыя задачы літаратурнага крыніцазнаўства і біяграфічнай працы.

* * *

Паспрабуем цяпер намаляваць зборны вобраз-партрэт беларускага літаратара часоў Чачота — Дуніна-Марцінкевіча — Багушэвіча, даць спробу своеасаблівай калектыўнай біяграфіі. Дарэчы, першы накід такога партрэта знаходзім у акадэміка І. Навуменкі ў артыкуле «З народных крыніц»[105].

---

[102] Великая Отечественная война: Факт и документ в исторических исследованиях и художественной литературе: Беседа историков и писателей за «круглым столом» // История СССР. 1988. № 4. С. 32.

[103] Найман А. Рассказы о Анне Ахматовой // Новый мир. 1989. № 2. С. 101.

[104] Там жа.

[105] Навуменка І. Я. Пісьменнікі-дэмакраты. Мн., 1967. С. 10—15.

Пачнём з графы «Сацыяльнае паходжанне», паводле якой беларускія пісьменнікі XIX ст. маюць нямала агульнага. Па паходжанню гэта, як правіла, яшчэ шляхціцы. Зрэдку сустракаліся таксама дзеці святароў (Ф. Савіч, П. Шпілеўскі). Толькі асобныя прадстаўнікі працоўных нізоў (П. Багрым, В. Каратынскі, К. Вераніцын) прабіваліся ў літаратуру. Масавы «прызыў» у літаратуру ад плуга і варштата пачнецца на пачатку XX ст., у нашаніўскі перыяд. Найбольш сярод пісьменнікаў XIX ст. прадстаўнікоў дробнай, небагатай шляхты, без маёнткаў або з невялікімі маёнткамі-фальваркамі, але былі асобныя выхадцы з радавітага дваранства — А. Абуховіч, В. Савіч-Заблоцкі (ды і тыя з цягам часу, як вядома, страцілі свае маёнткі). Не грэбавалі беларускай лірай прадстаўнікі буйных шляхецкіх родаў Э. Плятар, А. Перасвет-Солтан.

Жанчын у нашай тагачаснай літаратуры яшчэ параўнальна няшмат: Э. Плятар, Адэля з Устроні (на вялікі жаль, яшчэ нерасшыфраваны псеўданім), З. Тшашчкоўская, М. Косіч.

А. Мальдзіс у артыкуле пра Я. Лучыну заўважыў яшчэ адзін сацыялагічны аспект. «Важна падкрэсліць,— піша вучоны,— што Янка Лучына — першы прадстаўнік новай беларускай літаратуры, які нарадзіўся ў горадзе. І Дунін-Марцінкевіч, і Багушэвіч, і Гурыновіч, і Баршчэўскі, і іншыя іх сучаснікі паходзілі з вёскі; у вёсцы, у шляхецкіх фальварках прайшла большая або меншая частка іх творчага жыцця. Лучына ж быў карэнным гараджанінам, патомным інтэлігентам»[106]. Зробім папраўку — першым быў, бадай што, віцябчанін Я. Вуль (нар. у 1838 г.). І Лучына, і Вуль выйшлі з гарадскіх чыноўніцкіх сем'яў шляхецкага паходжання.

Прыналежнасць большасці пісьменнікаў XIX ст. да дваранства накладвае свой адбітак і на кола крыніц, якімі карыстаецца сёння даследчык-біёграф. Калі царква ў пэўнай ступені мела дэмакратычны характар, аднолькава прымаючы ў сваё ўлонне ўсіх прыхаджан незалежна ад паходжання (у адных і тых жа метрычных кнігах запісваліся і «працавітыя» сяляне, і «высакародныя» дваране), то ў цэлым Расійская імперыя XIX ст. (асабліва дарэформеннага часу, але і ў парэформенны перыяд

---

[106] Мальдзіс А. З кагорты пачынальнікаў: Да 130-годдзя з дня нараджэння Янкі Лучыны // Літ. і мастацтва. 1981. 3 ліп.

таксама) была прасякнута саслоўным духам (дарэчы, адзнака аб саслоўнай прыналежнасці была абавязковай і для метрычных запісаў). Па саслоўнаму прынцыпу будавалася сістэма дзяржаўных устаноў са сваёй у кожным выпадку адметнай дакументацыяй. Для біяграфій пісьменнікаў XIX ст. вялікае значэнне мае шляхецкая генеалагічная дакументацыя, матэрыялы дваранскіх дэпутацкіх збарняў, якія існавалі ў кожнай губерні. Асабліва добра захаваліся, дайшлі да нашага часу дакументы Мінскай дэпутацкай зборні з надзвычай змястоўнымі радаводнымі справамі шляхецкіх родаў, якія вылучылі беларускіх пісьменнікаў. Гэта справы аб шляхецкім паходжанні Чачотаў, Дуніных-Марцінкевічаў, Абуховічаў, Неслухоўскіх (з гэтага роду, як вядома, выйшаў Я. Лучына), Каstравіцкіх (К. Каганец), нарэшце, Луцэвічаў (Я. Купала). Архіўныя фонды мінскіх, а таксама віцебскіх і магілёўскіх шляхецкіх саслоўных устаноў захоўваюцца ў Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве БССР (ЦДГА БССР) у Мінску, гродзенскіх — у ЦДГА БССР у Гродна, віленскіх — у ЦДГА ЛітССР у Вільнюсе. Істотным дапаўненнем да дакументацыі мясцовых дваранскіх устаноў з'яўляюцца матэрыялы пецярбургскай герольдыі (ЦДГА СССР у Ленінградзе), дзе выяўлены радаводныя справы Равінскіх, Дуніных-Марцінкевічаў, Багушэвічаў, Каліноўскіх і інш. Пэўнае значэнне (асабліва, напрыклад, для біяграфіі А. Вярыгі-Дарэўскага) маюць даволі шматлікія на той час друкаваныя працы па генеалогіі[107]. Цяжэй узнаўляюцца радаводы выхадцаў з сялянскіх, мяшчанскіх, свяшчэнніцкіх родаў. Для гэтага даследчыкі карыстаюцца архіўнымі спісамі падатковага насельніцтва (так званыя «рэвізскія сказкі», пасямейныя спісы і г. д.), кліравымі ведамасцямі.

Выхадцы з шляхецкіх родаў, нават небагатых, імкнуліся, як правіла, атрымаць досыць высокую па тагачасных мерках адукацыю, вучыліся ў мясцовых павятовых дваранскіх вучылішчах, гімназіях, у сталічных універсітэтах і іншых сярэдніх і вышэйшых навучальных установах. У біяграфіях пісьменнікаў першай трэці XIX ст. фігуруюць Віленскі універсітэт (І. Легатовіч, Я. Чачот), Полацкі езуіцкі калегіум (Я. Баршчэўскі). З навучальнымі ўстановамі

---

[107] Параўн.: Петровская И. Ф. Труды по генеалогии как источник биографических сведений о русских писателях XIX — начала XX в. и их окружении // Русская литература. 1982. № 2.

звязана сваё, адметнае кола крыніц. Адпаведная дакументацыя (спісы навучэнцаў, перапіска аб вызваленні ад платы за навучанне і інш.) шмат дае для пісьменніцкіх жыццяпісаў. У адным толькі Ленінградскім дзяржаўным гістарычным архіве (былым абласным) захоўваюцца студэнцкія справы К. Каліноўскага, Ф. Багушэвіча, Я. Лучыны, А. Гурыновіча, якія вучыліся ва універсітэце і інстытутах Пецярбурга. У склад студэнцкіх спраў уваходзяць нярэдка самыя розныя біяграфічныя дакументы — метрыкі аб нараджэнні, выпісы з радаводных спраў, атэстаты аб папярэдняй вучобе.

Больш-менш высокая адукацыя ў XIX ст. заставалася ўсё яшчэ пераважна прывілеяй пануючых класаў. У той жа час таленавіты выхадзец з сялян В. Каратынскі вымушаны быў самавукам узнімацца да вяршынь культуры, адукацыя П. Багрыма абмежавалася крошынскай парафіяльнай школай. Малапісьменным аўтарам напаўлітаратурных гутарак быў у канцы стагоддзя па-свойму даравіты М. Марозік. Сярод прыгонных толькі адукацыя К. Вераніцына склалася па больш удаламу ўзору: прыходскае вучылішча (гэта яшчэ для сялян), а потым губернская гімназія, Пецярбургская медыка-хірургічная акадэмія, Горы-Горацкі земляробчы інстытут. Адметны шлях да адукацыі дзяцей святароў. П. Шпілеўскі скончыў Мінскую семінарыю і Пецярбургскую духоўную акадэмію. Сын уніяцкага святара Ф. Савіч рана страціў бацьку, гадаваўся ў інтэлігентнага апекуна. Таму пайшоў іншым шляхам: вучыўся ў Пінскім павятовым вучылішчы і потым у Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі. Дваранін А. Рыпінскі абраў вайсковую кар'еру, паступіўшы ў Дзінабургскую школу прапаршчыкаў. Жанчыны-дваранкі вучыліся дома або ў спецыяльных пансіёнах (М. Косіч — у жаночым інстытуце ў Пецярбургу).

Многія беларускія пісьменнікі XIX ст., каб здабываць хлеб надзённы, былі вымушаны гадамі і дзесяцігоддзямі цягнуць чыноўніцкую (радзей — вайсковую) лямку, служыць у разнастайных дзяржаўных установах, узнімацца па прыступках службовай іерархіі. Чачот і Вярыга-Дарэўскі, паводле тагачаснай «Табелі аб рангах», былі губернскімі сакратарамі, Дунін-Марцінкевіч і Тапчэўскі калежскімі рэгістратарамі, Багушэвіч надворным саветнікам, надзвычай таленавіты Вуль лічыўся «не имеющим чина канцелярским служителем», Равінскі палкоўнікам і калежскім саветнікам, Вераніцын стацкім саветнікам.

Гэта было наогул тыповым для тагачаснай Расійскай імперыі (Пушкін з пункту погляду той жа «Табелі» ўсяго толькі тытулярны саветнік і камер-юнкер). Нездарма да 1-га тома біяграфічнага слоўніка «Русские писатели. 1800—1917» (М., 1989) прыкладзены спецыяльныя даведачныя звесткі «Чыны і дзяржаўная служба ў Расіі ў XIX — пач. XX стст.» Дакументы аб службовай дзейнасці пісьменнікаў (фармулярныя спісы, атэстаты аб службе, асабістыя справы, адпаведная перапіска і інш.) — каштоўная крыніца для біёграфа.

Характэрная рыса беларускай літаратуры XIX ст., як і наступнага перыяду,— яе непарыўная сувязь з перадавымі ідэямі свайго часу, з вызваленчым рухам. Я. Чачот быў адным з кіраўнікоў палітычна-асветніцкіх філаматскіх арганізацый. Таленавітага паэта-самародка П. Багрыма вылучыў, абудзіў да творчасці бунтоўны, свабодалюбны сялянскі Крошын. У паўстанні 1831 г. прымалі ўдзел А. Рыпінскі і Э. Плятар. Паплечнікам вядомага рэвалюцыянера 1830-х гадоў Ш. Канарскага быў Ф. Савіч. Масавым, калі так можна сказаць, быў удзел беларускіх літаратараў у паўстанні 1863 г.: К. Каліноўскі, Ф. Ражанскі, В. Дунін-Марцінкевіч, А. Вярыга-Дарэўскі, Я. Вуль, Ф. Багушэвіч, Ф. Тапчэўскі, па некаторых звестках, А. Абуховіч. На баявых традыцыях паўстання 1863 г. былі выхаваны Я. Лучына (яго бацька прыцягваўся ў часе паўстання да следства, сам Лучына выдаў пазней брашуру пра падзеі паўстання ў Мінску) і сын ссыльнага паўстанца К. Каганец, творчасць якога як бы злучае літаратуру XIX ст. з літаратурай нашаніўскага перыяду. З многімі перадавымі людзьмі свайго часу, у тым ліку рэвалюцыйнымі дзеячамі, падтрымліваў разнастайныя кантакты В. Савіч-Заблоцкі. З рэвалюцыйным рухам апошняй чвэрці XIX ст., з народніцкімі і першымі марксісцкімі гурткамі звязаў свой лёс А. Гурыновіч.

Шырокі ўдзел беларускіх пісьменнікаў у вызваленчым руху знайшоў адлюстраванне ў дакументах царскіх карных органаў. Гэта такая спецыфічная дакументацыя, як жандарская і паліцэйская перапіска, пратаколы допытаў, судовыя прыгаворы, заключэнні палявых аўдытарыятаў, канфірмацыі, матэрыялы аб секвестры і канфіскацыі маёмасці, справы аб паднаглядных і ссыльных і г. д. Істотным дапаўненнем у гэтых, як і ва ўсіх іншых, адносінах служаць успаміны.

Беларускую літаратуру ніяк нельга назваць любімай

пястухай эпохі. Яе, як маглі, праследавалі, зневажалі рэакцыянеры ўсіх масцей, успрымалі як нонсенс многія недальнабачныя сучаснікі. Упартае непрыманне маладой літаратуры царскімі ўладамі красамоўна адлюстроўваюць дакументы цэнзурных устаноў. Няўдалыя спробы прабіцца праз цэнзурныя рагаткі ўносілі драматычныя штрыхі ў многія пісьменніцкія біяграфіі (класічныя прыклады — забарона Марцінкевічавага перакладу «Пана Тадэвуша» (1859), «Беларускіх расказаў» Ф. Багушэвіча (1899)). Да таго ж увесь час даводзілася змагацца з беднасцю, цяжкімі хваробамі, фізічнымі недахопамі (І. Легатовіч страціў зрок, Г. Марцінкевіч і Я. Лучына зазналі паралюш, К. Каліноўскі пакутваў ад нервовай хваробы, В. Дунін-Марцінкевіч і К. Каганец мелі свае комплексы, А. Абуховіч нарадзіўся з «заячай губой», у сувязі з чым давялося звярнуцца да кіеўскіх хірургаў і г. д. і г. д.). І ўсё ж, нягледзячы на гэта, пісьменнікі мінулага стагоддзя — людзі, як правіла, апантаныя і нават, кожны па-свойму, гераічныя. Нездарма Васіль Быкаў у выступленні на юбілейным пленуме СП БССР 1984 г. аддаў належнае пачынальнікам беларускай літаратуры, «тым, хто стаяў ля яе вытокаў, хто рабіў сваю справу з годнасцю і самаахвярнасцю, а славу сваю прыдбаў хіба што пасля смерці, маючы пры жыцці толькі нязбыўны клопат, нястачу, сухоты, паліцэйскія праследаванні, суды і турмы»[108].

Такі агульны погляд на дакументальную аснову біяграфій беларускіх пісьменнікаў мінулага стагоддзя. У той жа час кожны пісьменніцкі жыццяпіс мае сваю непаўторнасць, свае адметныя рысы, свае праблемы, свой набор крыніц.

* * *

Мы ўжо гаварылі пра спрэчкі даследчыкаў адносна даты нараджэння Яна Чачота, пра пэўнае значэнне для вырашэння гэтага пытання архіўных радаводных матэрыялаў.

Параўнальна нядаўна асобныя матэрыялы з радаводнай справы Чачотаў, якая захоўваецца ў Цэнтральным гістарычным архіве ў Мінску, апублікаваны ў кнізе «Пачынальнікі». Гэта складзеныя самім пісьменнікам «Рада-

---

[108] Літ. і мастацтва. 1984. 16 лістап.

водная фаміліі Чачотаў», «Пасямейны спіс дваран Даніелевічаў-Чачотаў 1842 года» і інш. У кнізе рэпрадуктуецца ўрадавы патэнт 1838 г. аб наданні Чачоту «за ревность и прилежность к службе» чына губернскага сакратара.

Са справы канцылярыі віленскага генерал-губернатара «...Пра дазвол... Чачоту... вярнуцца...» (зберагаецца ў Цэнтральным гістарычным архіве ЛітССР) у кнізе «Пачынальнікі» пададзена пісьмо Міністэрства ўнутраных спраў генерал-губернатару ад 31 жніўня 1839 г. пра тое, што Чачоту, які знаходзіўся тады ў Лепелі, дазволена нарэшце вярнуцца на радзіму ў Наваградскі павет без устанаўлення над ім паліцэйскага нагляду.

Крыніцы для біяграфіі Чачота друкаваліся і ў іншых дакументальных выданнях. Прыгадаем трохтомнае выданне «Матэрыялы да гісторыі Таварыства філаматаў» (1920—1934) з серыі «Архівум філаматаў». Без апублікаваных там дакументаў філамацкіх арганізацый нельга ўявіць сабе дзейнасць Чачота-філамата.

Публікаваліся ў розных выданнях матэрыялы следства па справе філаматаў, у тым ліку Чачота, якія захоўваюцца ў Цэнтральным гістарычным архіве ЛітССР (фонд № 567 — папячыцеля Віленскай навучальнай акругі), а таксама ў рукапісным аддзеле бібліятэкі Вільнюскага універсітэта. У паказанні ад 10 кастрычніка 1824 г. Чачот, напрыклад, прывёў наступныя аўтабіяграфічныя звесткі, якія добра перадаюць яго нялёгкія жыццёвыя абставіны:

«Завуць мяне Ян Чачот, узрост мой — 27-мы год. Паходжання шляхецкага, доказы на гэта ёсць у фаміліі (у сваякоў.— *Г. К.*); ведаю, што ёсць радавод, у якім я змешчаны. Родам з Гродзенскай губерні Наваградскага павета. Маёнтка не маю, служу ў Радзівілаўскай камісіі [109] пры кантролі і з гэтай пасады ўтрымліваюся. Вучыўся ў школе айцоў дамініканцаў у Наваградку. Пасля прыбыцця ў Вільню наведваў у 1816 г. універсітэт, таксама і пазней у 1817 г., наколькі мне дазваляла мая служба пры адвакаце Турскім; у 1818 г., паступіўшы ў камісію, спыніў свае навукі і не маю ніводнай навуковай ступені і звання» [110].

---

[109] Радзівілаўская камісія (інакш «маса», «пракураторыя») была створана ўладамі для разбору заблытаных спадчынна-маёмасных спраў князёў Радзівілаў.

[110] ЦДГА ЛітССР, ф. 567, воп. 2, спр. 1317 (паводле кн.: Świrko S. Z Mickiewiczem pod rękę... S. 34—35).

Дакументы пра знаходжанне Чачота ў ссылцы захоўваюцца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве Башкірскай АССР (фонд канцылярыі арэнбургскага цывільнага губернатара) [111].

У Цэнтральным гістарычным архіве горада Масквы (колішнім абласным) выяўлена «Справа пра былога студэнта Віленскага універсітэта Чачота» 1831 г., якая расказвае пра спробы пісьменніка пасля уфімскай ссылкі адшукаць сабе службу ў Маскве і Цверы. У Цверы Чачот пад час халерных беспарадкаў страціў каштоўны зборнік з тэкстамі беларускіх песень, запісанымі ў Бортніках на Наваградчыне, а таксама рукапісы некаторых сваіх твораў [112].

Даследчыкамі выкарыстоўваюцца таксама ўспаміны пра Чачота (напрыклад, каларытныя мемуары філамата Ігната Дамейкі, «Успаміны» Міхала Кусцінскага [113] або прыведзенае намі ў папярэднім раздзеле мемуарнае сведчанне Стэфана Каверскага).

Каштоўныя крыніцы, у тым ліку і біяграфічныя, надрукаваны К. Цвіркам у першым на беларускай мове зборніку твораў Чачота [114]. Назавём толькі месцы, адкуль Чачот пасылаў свае надзвычай цікавыя пісьмы сябрам, апублікаваныя ў зборніку: Мінск, Вільня, Наваградак, Варшава, Кізіл, Уфа, Лепель, Бортнікі. Усё гэта значныя этапы, вехі Чачотавага жыццяпісу.

У 1983 г. Цвірка зрабіў паездку па беларускіх мясцінах Чачота і расказаў шмат цікавага ў літаратурна-краязнаўчым нарысе «Там возера Свіцязь, як шыбіна лёду...» А ў цэлым трэба пагадзіцца з Цвіркам, які выказаў у гэтым нарысе меркаванне, што «Ян Чачот яшчэ па-сур'ёзнаму ў нас не вывучаўся. Па сутнасці, мы не толькі не паднялі архіўныя матэрыялы, якія расказваюць пра аднаго з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры, але не прачыталі нават таго, што аб ім напісана ў літаратурных крыніцах...» [115] Бадай што, больш у гэтых адносінах

---

[111] Кахаyоўскі Г. Ян Чачот на Урале // Беларусь. 1979. № 1. С. 14.

[112] Малаш Л. А. Ян Чечот и его рукописные сборники // Мат-лы науч. конф.: К сорокалетию б-ки. [АН БССР] С. 107—108; Świrko S. Z Mickiewiczem pod rękę... S. 233, 310.

[113] Мальдзіс А. Падарожжа ў XIX стагоддзе.С. 17; Мархель У. Крыніцы памяці. С. 112—113.

[114] Чачот Я. Наваградскі замак: Творы. Мн., 1989.

[115] Цвірка К. Той курган векавечны...: Сцяжыны вандровак. Мн., 1985. С. 7.

зрабілі польскія вучоныя, у прыватнасці С. Свірка, які апублікаваў апошнім часам надзвычай сур'ёзную працу, прысвечаную жыццю і творчасці Чачота, на якую мы ўжо спасылаліся [116]. Але на многіх беларускіх аспектах фенамена Чачота Свірка спецыяльна не спыняўся.

Пяройдзем да іншых пісьменнікаў першай паловы мінулага стагоддзя. Ёсць нявысветленыя пытанні і ў жыццяпісе Аляксандра Рыпінскага: мы не ведаем дакладна датаў і месцаў яго нараджэння і смерці. Лічыцца, што ён нарадзіўся каля 1811 г. на Віцебшчыне, але адпаведнага запісу ў метрычных кнігах (Цэнтральны гістарычны архіў БССР у Мінску) адшукаць пакульшто не ўдалося (яны захаваліся няпоўнасцю).

Да нядаўняга часу не была вядома дакладна дата яго вяртання на радзіму з эміграцыі. «Каля 1860 г. прыняў амністыю, абвешчаную царскім урадам пасля смерці Мікалая I, і вярнуўся ў край» [117],— пісалася звычайна ў біяграфіях. З выяўленай намі ў Цэнтральным гістарычным архіве ў Мінску справы канцыляры віцебскага губернатара «...Аб устанаўленні строгага сакрэтнага нагляду за ... Рыпінскім» (ф. 1430, воп. 1, спр. 30114) відаць, што Рыпінскі прыбыў з-за мяжы на Віцебшчыну ў жніўні 1859 г. (Пачынальнікі, *183—184*).

З іншых біяграфічных і аўтабіяграфічных матэрыялаў Рыпінскага трэба прыгадаць яго кнігу «Беларусь» (1840), дзе ўспамінаецца пра сустрэчы яго з дзекабрыстам В. Кюхельбекерам, альбом Ю. Страшэвіча «Les Polonais et Polonaises de la révolution du 29 novembre 1830» (Палякі і полькі ў рэвалюцыі 29 лістапада 1830 г. Парыж, 1832—1836), у якім падаюцца звесткі пра ўдзел Рыпінскага і яго таварышаў па Дзінабургскай школе прапаршчыкаў у паўстанні 1830—1831 гг. (артыкул «Прапаршчыкі Дзінабурга» і адпаведныя іканаграфічныя матэрыялы).

Шэраг цікавых звестак змяшчаецца ў пісьме Рыпінскага А. Плугу за 1883 г., у дакументах царскай цэнзуры пра забарону ў Расіі надрукаванай за мяжою беларускай балады Рыпінскага «Нячысцік» (Пачынальнікі, *174—183*).

Біяграфічныя крыніцы, якія адносяцца да Паўлюка Багрыма, падзяляюцца на некалькі груп.

---

[116] Świrko S. Z Mickiewiczem pod rękę czyli Życie i twórczość Jana Czeczota. Warszawa, 1989.

[117] Zbiór poetów polskich XIX w. Warszawa, 1961. Ks. 2. S. 548.

Па-першае, гэта ўспаміны Ігната Яцкоўскага, змешчаныя ў яго кнізе «Аповесць з майго часу, або Літоўскія прыгоды» (Лондан, 1854; Познань, 1858). Кніга выйшла ананімна, прыпісвалася розным аўтарам (Станіславу Рэйтану, мемуарысту і празаіку Леану Патоцкаму). У наш час аўтарства Яцкоўскага не выклікае сумненняў [118]. Гэта пісьменнік, юрыст, грамадска-палітычны дзеяч. Родам з Навагрудчыны, дзе займаўся адвакацкай дзейнасцю. Удзельнік паўстання 1831 г. У 1831—1857 гг. знаходзіўся ў эміграцыі ў Лондане, удзельнічаў у польскіх эмігранцкіх арганізацыях. Быў кампаньёнам А. Рыпінскага па польскай друкарні і кнігарні. Выступаў у друку з публіцыстычнымі творамі, успамінамі і вершамі на польскай мове. Вярнуўшыся па амністыі ў Расію, памёр у Навагрудку. Тэкст кнігі гаворыць пра даволі блізкае асабістае знаёмства аўтара з сямейнымі абставінамі Радзівілаў, якім належаў Крошын, з крошынскімі падзеямі 1828 г. У зборніку «Пачынальнікі» надрукаваны ў перакладзе цалкам 29-ы раздзел кнігі па познаньскаму выданню, якое захоўваецца ў Цэнтральнай бібліятэцы АН ЛітССР. Раздзел мае назву «Працяг, кс. Магнушэўскі, Юрага, Пётрак-паэт». Мемуарыст гаворыць аб сваёй бесстароннасці: «Паколькі мы ведалі ўсіх асоб, што дзейнічалі ў гэтай драме, з найлепшага боку і ў наўмыснай жорсткасці ніводную з іх не абвінавачваем, а жорсткасць усё-такі адбылася, то, не адважваючыся самі выносіць прысуд, падаём справу, як была па сутнасці» (Пачынальнікі, *186*). Цікава, што Паўлюка Багрыма Яцкоўскі называе Пётракам. Мабыць, за даўнасцю часу ён забыў сапраўднае імя сялянскага паэта, але магчыма, што аўтар наўмысна змяніў імя свайго героя, каб не накліканць на яго новую бяду.

Другую групу багрымаўскіх крыніц складаюць архіўныя матэрыялы.

У сувязі з падзеямі 1828 г. у Крошыне праводзіліся два следствы. Спачатку агульнае следства пра хваляванне крошынскіх сялян вялі чыноўнікі ведамства унутраных спраў на чале з гродзенскім губернатарам. Адпаведная следчая справа пад назвай «Аб непадпарадкаванні сялян мястэчка Крошына свайму памешчыку Юрагу» захоўваец-

[118] Гл. артыкулы пра Яцкоўскага: Polski Słownik Biograficzny. Wrocław etc., 1963. T. 10. S. 273; Nowy Korbut. Warszawa, 1968. T. 7. S. 478, а таксама артыкул А. Мальдзіса ў «Полымі» (1970. № 9. С. 229).

ца ў Цэнтральным гістарычным архіве БССР у Гродна (ф. 1, воп. 2, спр. 1334), асобныя дакументы з яе надрукаваны ў кнізе І. Баса «Літаратурныя пошукі, знаходкі, даследаванні» (1969).

У ходзе агульнага следства выявілася, што ў Крошыне распаўсюджваўся верш «Размова хлопаў» (варыянт паэмы Я. Баршчэўскага «Рабункі мужыкоў», або «Бунт хлопаў»), што да гэтых падзей мела дачыненне крошынская школа, і паралельна пачалося новае следства — па лініі Міністэрства народнай асветы. Дакументы другога следства захоўваюцца ў Цэнтральным гістарычным архіве ЛітССР (ф. 567, воп. 2, спр. 2341). Справа з гэтымі матэрыяламі пад назвай «Аб прыходскім вучылішчы, што знаходзіцца ў Наваградскім павеце ў мястэчку Крошыне, і аб непадпарадкаванні крошынскіх сялян уладальніку іх, памешчыку Юрагу» зберагаецца ў фондзе папячыцеля Віленскай навучальнай акругі, але склад дакументаў сведчыць, што яна паходзіць з канцылярыі рэктара універсітэта. Першасныя матэрыялы следства прадстаўлены ў справе ў выглядзе копій, аўтэнтычныя ж былі перасланы рэктарам папячыцелю Віленскай навучальнай акругі М. Навасільцаву ў Варшаву (Пачынальнікі, *209*) і, відаць, не захаваліся. Асноўныя дакументы справы апублікаваны ў кнізе «Пачынальнікі».

Дакументы пра крошынскія падзеі 1828 г. ёсць таксама ў Цэнтральным архіве Кастрычніцкай рэвалюцыі, вышэйшых органаў дзяржаўнай улады і органаў дзяржаўнага кіраўніцтва СССР (раней знаходзіліся ў Цэнтральным гістарычным архіве СССР у Маскве). Гэта справа «Па данясенню гродзенскага цывільнага губернатара аб непадпарадкаванні сялян у мястэчку Крошыне Наваградскага павета» (ф. 1286, 1828 г., воп. 4, спр. 455) і «Асобы журнал Камітэта Міністраў 27 кастрычніка 1828 года аб прыгаворы камісіі ваеннага суда па справе аб сялянах Гродзенскай губерні памешчыкаў Юрагаў, асуджаных за непаслушэнства» (ф. 1263, 1828 г., воп. 45, спр. 560) [119].

Параўнанне мемуарнай крыніцы з архіўнымі матэрыяламі дапамагае біёграфу Багрыма, паказваючы недакладнасць мемуарыста. Безумоўна, маюць рацыю крыніцазнаўцы, калі гавораць, што мемуары «...заўсёды вымагаюць

---

[119] Гл.: Бас І. Літаратурныя пошукі, знаходкі, даследаванні. С. 62—63, 139—140.

праверкі і супастаўлення з аўтэнтычнымі дакументамі эпохі»[120]. Але адначасова з'яўляецца думка, што і ва ўрадавыя дакументы трапляла далёка не ўсё і многія моманты ў іх не знайшлі адлюстравання.

У прыватнасці, у даным выпадку ў дакументах успамінаецца толькі пра прачытаны Багрымам верш «Размова хлопаў» (варыяцыі з Баршчэўскага). Яцкоўскі ж гаворыць пра адабраны сенатарам Навасільцавым і рэктарам Пеліканам у юнага паэта сшытак з яго ўласнымі вершамі: «Пасля прачытання сенатар загадаў аддаць яму сшытак, і абодва паехалі з абяцаннем, што падумаюць пра лёс такога надзвычайнага паэта» (Пачынальнікі, *189*). Можна спрачацца, былі або не былі Навасільцаў з Пеліканам у Крошыне, але на баку Яцкоўскага неаспрэчная рэалія — прыведзены ім класічны верш з гэтага сшытка «Заграй, заграй, хлопча малы», пра які няма ніводнай згадкі ва ўрадавых дакументах.

Цікава, што ў нашых даследчыкаў гэты сшытак ператварыўся чамусьці ўжо ў яўна легендарныя «тры сшыткі», якія ўпарта «вандруюць» з выдання ў выданне:

«...у Паўлюка Багрыма былі адабраны ў 1828 г. сенатарам Навасільцавым, тагачасным папячыцелем Віленскай вучэбнай акругі, тры сшыткі вершаў. Сшыткі гэтыя не знойдзены і да сённяшняга дня»[121].

Або: «Затым яны забралі ў паэта тры сшыткі з яго вершамі і паехалі»[122].

Ці яшчэ: «Як успамінаў польскі мемуарыст Ігнат Яцкоўскі, у Багрыма былі тры сшыткі вершаў, якія ў яго адабралі сенатар Навасільцаў і рэктар Віленскага універсітэта Пелікан. Сшыткі гэтыя дагэтуль не адшуканы»[123].

Здзіўляючая паслядоўнасць! Але ёсць і варыянты: «Са следчых матэрыялаў вядома, што паліцыя канфіскавала некалькі сшыткаў маладога паэта, якія яшчэ дагэтуль не знойдзены»[124]. «Пры вобысках і арыштах у Паўлюка

---

[120] Петрова М. Г. Мемуарная версия при свете архивных документов: Чехов, Михайловский и другие //Изв. АН СССР: Сер. лит. и яз. 1987. Т. 46, № 2. С. 156.

[121] Майхровіч С. Нарысы беларускай літаратуры XIX стагоддзя. Мн., 1957. С. 28.

[122] Бас І. Літаратурныя пошукі, знаходкі, даследаванні. С. 62.

[123] История белорусской дооктябрьской литературы. С. 331.

[124] Беларуская літаратура XIX ст.: Хрэстаматыя. 2-е выд. Мн., 1988. С. 454.

Бахрыма былі знойдзены рэвалюцыйныя вершы (4 сшыткі)...»[125]

Асобную групу крыніц пра Багрыма складаюць успаміны або, дакладней, паданні яго аднавяскоўцаў, якія дайшлі да нашага часу. Гэта звесткі пра жыццё Багрыма ў Крошыне пасля вяртання з войска, пра яго кавальскае майстэрства, пра зробленую ім для крошынскага касцёла люстру. Аднавяскоўцы ўспомнілі таксама, што памёр Багрым каля 1891 г. Гэтыя ўспаміны былі прыведзены С. Александровічам у нарысе «Слядамі легенды» (Літ. і мастацтва, 1956. 4 жн.) і неаднаразова ўваходзілі потым у яго гісторыка-літаратурныя кнігі.

Нарэшце, зусім нядаўна корпус крыніц пра Багрыма нечакана атрымаў надзвычай каштоўнае папаўненне. У 1988 г. у Інстытут літаратуры імя Я. Купалы АН БССР прыслаў з Польшчы свае, без перабольшання, унікальныя матэрыялы стары ксёндз-пенсіянер К. Жураўскі[126]. Аказалася, перад другой сусветнай вайной, будучы святаром у Крошыне, ён зацікавіўся мясцовымі паданнямі і пачаў збіраць матэрыялы пра беларускага паэта-самародка. Зазірнуў ён, само сабой, у касцельныя кнігі, дзе адшукаліся запісы, звязаныя з Багрымам і яго сям'ёй. Прысланы ім сшытак называецца «Копіі чатырох дакументаў пра сям'ю Багрымаў з мястэчка Крошына Навагрудскага павета. У снежні 1939 года апрацаваў кс. Караль Жураўскі». У сшытку фотакопіі наступных дакументаў:

1) Хросная метрыка Паўлюка Багрыма, з якой вынікае, што паэт нарадзіўся 2 лістапада 1812 г. і назаўтра ахрышчаны ў Крошыне ксяндзом Войцахам Магнушэўскім, тым самым, які прымаў, як вядома, вялікі ўдзел і ў далейшым лёсе Паўлюка, і ў крошынскіх падзеях 1828 г. Такім чынам, мы ўпершыню даведаліся пра дакладную дату нараджэння Багрыма. Раней, на падставе паказанняў паэта ў следчай камісіі ад 3 ліпеня 1828 г.: «От роду мне 15 лет...» (Пачынальнікі, *196*), лічылася, што ён нарадзіўся ў 1813 г. (або каля 1813 г.). Цяпер мы атрымалі магчымасць пераканацца, што паэт дакладна ўказаў свой узрост — 16 гадоў яму сапраўды споўнілася толькі ўвосень 1828 г. Адпадаюць, такім чынам, і ўсе іншыя меркаванні пра дату нараджэння Багрыма (на па-

---

[125] Беларуская літаратура XIX ст.: Зб. тэкстаў. Мн., 1940. С. 21.

[126] Гл.: Янушкевіч Я. «Ледзьве здымкі ўратаваў...»: Новае пра сям'ю Паўлюка Багрыма // Літ. і мастацтва. 1988. 4 лістап.

стаўленым у 1960-х гадах помніку пазначаны 1811 г., называўся ў якасці магчымай даты нараджэння нават 1805 г.)[127].

2) Метрычны запіс аб смерці і пахаванні маці Багрыма Марыяны (у хроснай метрыцы паэта яна названа Ганнай), якая памерла ў 1832 г. ва ўзросце 40 год і пакінула пасля сябе 5 сыноў, у тым ліку Паўла (мяркуючы на парадку імёнаў, ён быў старэйшы), і 2 дачок.

3) Такі ж дакумент адносна бацькі паэта: Юзаф Багрым памёр у 1855 г., маючы 68 год; пакінуў пасля сябе 3 сыноў і 2 дачок (відаць, двух братоў Паўла ўжо не было да гэтага часу ў жывых). Гэты дакумент канчаткова разбурае старую легенду літаратуразнаўцаў пра тое, што бацька паэта загінуў пад час жорсткага падаўлення ўладамі крошынскага бунту. Даследчыкі занадта літаральна разумелі радок Багрымавага верша: «Бацька кіямі забіты». Яшчэ раней І. Бас меркаваў на падставе аналізу архіўных звестак: «У матэрыялах следства аб бацьку Багрыма гаворыцца не як аб памёршым, а як аб жывым чалавеку. Калі б бацькі паэта не было ў жывых, аб Багрыме не гаварылі б як аб «сыне тутэйшага слесара». Сам Багрым у сваіх паказаннях таксама ні слова не гаворыць аб тым, што бацька яго памёр. Заўважым адначасова,— працягвае І. Бас,— што ў спісах бунтаваўшых сялян м. Крошына імя бацькі Паўла Багрыма няма: не знайшлі мы яго і ў спісах тых сялян, якія панеслі тое ці іншае пакаранне ад ваенна-судовай камісіі за непадпарадкаванне ўладам і памешчыку Станіславу Юрагу. Выходзіць, што «кіямі забіт» бацька Багрыма быў пазней 1829 года. Не пацвярджаецца, апрача таго, думка некаторых іншых літаратуразнаўцаў, якія толькі на падставе верша Багрыма лічаць, што бацька паэта прымаў актыўны ўдзел у бунце крошынскіх сялян»[128]. Разважанні І. Баса ў цэлым вельмі абгрунтаваныя. Аднак цяпер мы ведаем, што не быў «забіты» бацька паэта і пасля 1828—1829 гг., памёр ён, паводле метрычнага запісу, праз шмат гадоў пасля крошынскіх хваляванняў «от старости». Такім чынам, новыя біяграфічныя крыніцы дапамагаюць высвятліць, «расшыфраваць» мастацкую прыроду Багрымавага вер-

---

[127] Гл.: Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Брэсцкая вобласць. Мн., 1984. С. 84—85.

[128] Бас І. Літаратурныя пошукі, знаходкі, даследаванні. С. 76.

ша. Што ж уяўляе сабой паэтычны шэдэўр крошынскага самародка? Гэта не літаральнае аўтабіяграфічнае сведчанне, паэт дасягае тут высокай ступені мастацкага абагульнення. Я. Янушкевіч прыводзіць ў сувязі з гэтым слушныя, у сваёй аснове, словы А. Лойкі: «Мастацкае абагульненне — спецыфічнае абагульненне, і яно не абавязкова абапіраецца (мы ўдакладнілі б тут — не абавязкова поўнасцю, ва ўсіх дэталях абапіраецца.— *Г. К.*) на факты біяграфіі аўтара. Ад таго, ці бацька П. Багрыма быў забіты карнікамі ці іх сусед, выкрывальная антыпрыгонніцкая сіла верша П. Багрыма не зніжаецца, жахлівасць яго вобразаў не здрабняецца, зарад паэтычнага хараства не змяншаецца. П. Багрым не фантазіраваў, не выдумляў страхаў і болю. Ён бачыў трагедыю роднага сяла і пісаў пра яе, раскрываючы гэтым лёс усяго зняволенага беларускага прыгоннага сялянства»[129].

4) Нарэшце, апошні дакумент у сшытку ксяндза Жураўскага зусім нечаканы. Перад намі шлюбны пратакол: 52-гадовы крошынскі мешчанін Павел Юзафавіч Багрым бярэ шлюб з 26-гадовай удавой-шляхцянкай з-пад Крошына Карнэліяй Шышлоўскай. Маладая якраз удвая маладзейшая за маладога. Як слушна адзначыў Я. Янушкевіч, гэтым самым разбураецца (мы скажам — прынамсі, падвяргаецца сур'ёзнаму выпрабаванню) яшчэ адна багрымаўская легенда, якая трывала ўвайшла ў нашу свядомасць,— рамантычна-трагічная легенда пра «адзінокую непатрэбную старасць адстаўнога паўстанца-салдата», замацаваная ў выдатным вершы У. Караткевіча. Разам з тым трэба падкрэсліць: незалежна ад сямейных акалічнасцей Багрыма Караткевіч дакладна, з вартай яго пяра мастацкай сілай перадаў трагедыю геніяльнага мастака, які не змог у тагачасных умовах належным чынам рэалізаваць свайго магутнага паэтычнага таленту. Тым больш — з дакумента высвятляецца, што да 52 год паэт чамусьці не жаніўся (быў у салдатах?), і невядома, як склалася яго далейшае сямейнае жыццё з бойкай удавой-шляхцянкай.

Даволі шырокае кола крыніц дапамагае ўзнавіць жыццяпіс Арцёма Вярыгі-Дарэўскага.

---

[129] Лойка А. А. Гісторыя беларускай літаратуры: Дакастрычніцкі перыяд. Мн., 1977. Ч. 1. С. 72.

Большасць з іх адшуканы за апошнія дзесяцігоддзі.
Нашаніўцы ўяўлялі Вярыгу даволі расплывіста. Публікуючы ў 1912 г. верш Я. Вуля «К дудару Арцёму...», рэдакцыя «Нашай Нівы» зрабіла заўвагу: «Верш гэты напісаны Арцёму Вярызе-Дарэўскаму ў яго альбом. Вярыга-Дарэўскі ў сярэдзіне XIX сталецця быў цэнтрам беларускага руху; сам ён шмат пісаў па-беларуску, але з яго твораў цяпер вядомы адны, бадай што, загалоўкі... і пераклад «Конрада Валенрода» А. Міцкевіча. Калі б хто з нашых чытачоў і прыхільнікаў ведаў што аб А. Вярызе-Дарэўскім ці меў бы якія творы яго ў сябе, то вельмі бы мы прасілі прысласць у рэдакцыю для апрацавання яго біяграфіі»[130]. У наступным годзе запытанне было канкрэтызавана: «Калі радзіўся і дзе, і калі памёр і дзе? Яго жыццеапісанне, яго творы... Усе яго паэмы (апрача «Братом Літвіном», каторай арыгінал знаходзіцца ў рэдакцыі «Н. Н.») невядомы; родам быў з Віцебшчыны; жыў у сярэдзіне XIX ст.»[131]. Вось і ўсё, што тады ведалі.

Рыхтуючы ў другой палове 20-х гадоў сваю працу пра Вярыгу, літаратуразнавец і краязнавец Д. Васілеўскі карыстаўся справай № 215 Віцебскай дваранскай дэпутацкай зборні аб шляхецкім паходжанні роду Вярыгаў 1841 г., якая захоўвалася ў той час у віцебскім архіве. Справа гэтая, па ўсім відаць, не пражыла Вялікую Айчынную вайну, таму сам надзвычай змястоўны артыкул Васілеўскага «Арцём Ігнатавіч Вярыга і яго літаратурна-грамадская чыннасць» (Полымя. 1929. № 6) з'яўляецца для нас цяпер у гэтых адносінах пэўнай першакрыніцай. У Цэнтральным гістарычным архіве БССР у Мінску, у фондзе Віцебскай дэпутацкай зборні, намі выяўлена падрабязная пастанова 1841 г. аб прызнанні Вярыгаў у дваранстве, якая змяшчае шмат звестак з гісторыі роду, у тым ліку і пра Арцёма Вярыгу[132]. Апрача таго, вядомыя два дакументальныя выданні пра род Вярыгаў[133].

Шмат дае біёграфу Вярыгі яго славуты Альбом. Гэты унікальны помнік фіксуе маршруты шматлікіх паездак

---

[130] Наша Ніва. 1912. 9(22) лістап.

[131] Власт. [Ластоўскі В.] Памажыцця! // Наша Ніва. 1913. 12 верас.

[132] ЦДГА БССР у Мінску, ф. 2512, воп. 1, спр. 275, л. 339 і наступныя.

[133] Veryha A. I. Acta et chronika. I. Вериги — Weryhowie — Verigos. Kaunas, 1934; Weryha A. Ród kniaziów Weryhów: Monografja na tle dziejowym. Warszawa, 1937.

Вярыгі, паказвае яго дзелавыя і сяброўскія сувязі, сведчыць пра высокі аўтарытэт пісьменніка ў сучаснікаў.

Напярэдадні паўстання Вярыга стаў аб'ектам пільнай увагі з боку жандараў. Дакументы тагачаснага жандарскага цэнтра — III аддзялення царскай канцылярыі захоўваюцца цяпер у Цэнтральным архіве Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Маскве. 6-я частка шматтомнай справы № 303 («Пра беспарадкі ў заходніх губернях»), заведзенай у 1861 г. у 1 экспедыцыі, прысвечана падзеям у Віцебскай губерні. З яе дакументаў відаць, што жандары лічылі Вярыгу адным з галоўных завадатараў палітычных дэманстрацый у Віцебску перад паўстаннем. Напрыклад, 13 красавіка 1862 г. віцебскі губернскі жандарскі штаб-афіцэр Турцэвіч паведамляў у Пецярбург: «...мне ўказваюць як на вельмі шкоднага ў Віцебскай губерні ў палітычных адносінах на памешчыка Віцебскага павета Арцёма Вярыгу, што жыве за 17 вёрстаў ад горада ў сваім маёнтку Стайках... Вярыга вызначаецца асаблівым розумам, адукацыяй, начытанасцю і асцярожнасцю ў сваіх дзеяннях; ён вельмі часта прыязджае ў Віцебск і да яго па вечарах збіраюцца... асобы, выключна заўважаныя ці падазраваемыя ў шкодных палітычных дзеяннях. Арцём Вярыга, быць можа, мае дачыненне да складання бунтоўных брашур, якія з'яўляюцца з нядаўняга часу даволі часта ў тутэйшай губерні, мяне запэўнівалі, што ў вучняў тутэйшай гімназіі ёсць нейкі твор Арцёма Вярыгі на беларускай гаворцы, але дагэтуль я не меў яшчэ магчымасці атрымаць яго...» [134] У 1863 г. у 1 экспедыцыі III аддзялення вялася цэлая серыя спраў пад агульным № 23 і назвай «Аб беспарадках у Царстве Польскім і ў заходніх губернях». У частцы 29 гэтай справы (або, дакладней, серыі спраў), прысвечанай Віцебскай губерні, зноў знаходзім цікавыя дакументы пра Вярыгу: данос, што Вярыга стаіць на чале антыўрадавай змовы ў Віцебску, данясенне пра арышт пісьменніка [135].

Удзел Вярыгі-Дарэўскага ў паўстанні адлюстраваны ў дзвюх вялікіх справах часовага палявога аўдытарыята пры штабе войск Віленскай ваеннай акругі, што захоўваюцца ў Цэнтральным гістарычным архіве ЛітССР: «Аб

---

[134] ЦДАКР СССР, ф. III аддз., 1 эксп., 1861 г., спр. 303, ч. 6, л. 48; Кісялёў Г. Загадка беларускай «Энеіды». С. 195.

[135] ЦДАКР СССР, ф. III аддз., 1 эксп., 1863 г., спр. 23, ч. 29, л. 88—89, 135.

20 чалавеках, што жылі ў Віцебску і спрабавалі далучыцца да мяцежніцкай шайкі...» (ф. 1248, воп. 2, спр. 482) і «Аб былым станавым прыставе 1 стана Віцебскага павета адстаўным тытулярным саветніку Ігнаце Рачынскім» (там жа, спр. 1247). Справы гэтыя ўзаемна звязаны паміж сабою. Прыстаў Рачынскі быў звольнены з пасады і аддадзены пад суд за недастаткова энергічнае супрацьдзеянне антыўрадавым планам Вярыгі. І здарылася так, што якраз многія аўтэнтычныя матэрыялы, звязаныя са следствам над Вярыгам (рэчавыя доказы, адабраныя пры яго арышце, протаколы допытаў і г. д.), трапілі ў справу Рачынскага. Сярод іх такія каштоўныя біяграфічныя матэрыялы, як фатаграфія, на якой Вярыга зняты з групай аднадумцаў, атэстат аб службе Вярыгі і г. д. Нарэшце, матэрыялы абедзвюх спраў вычарпальна малююць усе акалічнасці следства і суда над Вярыгам і яго таварышамі. Гэты судова-следчы матэрыял шырока выкарыстаны намі пры напісанні нарыса жыцця і дзейнасці Вярыгі-Дарэўскага (Полымя, 1966, № 4—5, а таксама ў кнізе «Загадка беларускай «Энеіды», 1971). У зборніку «Пачынальнікі» са справы Рачынскага надрукаваны згаданы атэстат аб службе, акт вобыску ў Вярыгі, складзены ў момант яго арышту, асобныя пратаколы допытаў і іншыя матэрыялы, якія характарызуюць паслядоўную цвёрдую абарончую тактыку Вярыгі ў час следства і суда, урывак з заключэння часовага палявога аўдытарыята, дзе падсумаваны абвінавачанні царскіх ваенных юрыстаў супраць Вярыгі.

З матэрыялаў пра жыццё Вярыгі-Дарэўскага ў Сібіры, апрача ўспомненых ужо яго сібірскіх рукапісаў, мае значэнне выяўленая ў свой час А. Семяновічам перапіска аб ім III аддзялення 1869—1870 гг., якая захоўваецца ў Цэнтральным архіве Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Маскве[136]. У прыватнасці, з прашэння дачкі пісьменніка Габрыелі ад 8 лютага 1869 г. відаць, што Вярыга быў тады вызвалены ад катаргі і знаходзіўся ў Іркуцку на пасяленні. Габрыеля дамагалася, каб бацьку перавялі бліжэй да Еўрапейскай Расіі, але планам гэтым не было суджана здзейсніцца.

Некаторыя звесткі пра сібірскі перыяд жыцця Вярыгі ёсць у Дзяржаўным архіве Іркуцкай вобласці. У нас

[136] Семяновіч А. Пра Арцёма Вярыгу-Дарэўскага // Беларусь. 1959. № 8. С. 27.

захоўваецца наступная сціслая даведка гэтага архіва ад 22 студзеня 1966 г.:

«Из личного дела № 361 архивного фонда иркутского полицмейстера на Вериго Артемия видно, что он, политический ссыльный Уриковской волости Иркутской губернии, временно проживал в г. Иркутске (1876—1881 гг.). В 1881 г. Артемий Вериго был принят на службу на золотые промысла Олекминской системы, Мачинскую резиденцию Андрея Адамовича Буковского. Иркутское губернское правление своим отношением № 2340 от 25 апреля 1881 г. просило иркутского полицмейстера сделать соответствующее распоряжение «об установлении за ним надлежащего полицейского надзора» и просило «выдать названному Вериге вид с годичным сроком для проживания на вышеуказанных промыслах» и чтобы об этом было «сообщено якутскому губернатору».

Основание: ф. 91, оп. 1, д. 361.

В неполных документальных материалах архивного фонда римско-католического костела г. Иркутска сведений о смерти Вериго А. не обнаружено».

З. Тагараў, аўтар артыкула пра Вярыгу «Катаржанін» (Неман, 1969, № 9), выявіў у Іркуцкім архіве дадатковыя матэрыялы, у прыватнасці «білет» паліцэйскага спраўніка 70-х гадоў, па якому Вярыга пражываў у Іркуцку.

Традыцыя сцвярджае, што Вярыга памёр у 1884 г. у Іркуцку. Як мы толькі што бачылі, праверыць гэта па матэрыялах Іркуцкага архіва не ўдалося, таму што дакументацыя мясцовага касцёла там захавалася не цалкам. Дарэчы, як высветлілася, метрычныя кнігі Іркуцкага парафіяльнага касцёла за 1883—1884 гг. зберагаюцца ў Мінску, у Цэнтральным гістарычным архіве[137]. У гэтым няма нічога дзіўнага, паколькі магілёўскі каталіцкі мітрапаліт быў кіраўніком усіх каталіцкіх цэркваў Расіі і таму ў архіўным фондзе Магілёўскай каталіцкай кансісторыі збіраліся метрычныя матэрыялы касцёлаў з усёй краіны. Дык вось, у метрычных кнігах аб памёрлых па Іркуцкай каталіцкай парафіі за 1883—1884 гг. імя Вярыгі не значыцца. На жаль, метрычных кніг за 1885 і наступныя гады ў Мінску няма, але ўжо і на падставе таго, што мы ведаем, можна сцвярджаць, што звесткі аб смерці Вярыгі ў Іркуцку ў 1884 г. не адпавядаюць праўдзе. Магчыма, маюць рацыю С. Баркоўскі і А. Мальдзіс, якія пішуць: «Апош-

[137] ЦДГА БССР у Мінску, ф. 1781, воп. 36, спр. 134, 135.

нія гады жыцця (1881—1884) ён правёў на залатых капальнях, у Віцімскай тайзе; там, верагодней за ўсё, і памёр»[138].

Архіўных матэрыялаў пра маладзейшага сучасніка Вярыгі Вінцэся Каратынскага вядома няшмат. Апублікаваныя ў зборніку «Пачынальнікі» дакументы справы Мінскай каталіцкай кансісторыі пра ўзнаўленне хроснай метрыкі В. Каратынскага, якая захоўваецца ў Цэнтральным гістарычным архіве ў Мінску (ф. 1781, воп. 24, спр. 7848), змяшчаюць нямала цікавых звестак пра паходжанне пісьменніка. Некаторыя факты свайго жыцця, у прыватнасці сведчанне пра тое, як адбылося вырашальнае для яго знаёмства з У. Сыракомлем, прывёў сам Каратынскі ў нарысе «Карціны з берагоў Нёмана» (Тыгоднік повшэхны, 1882—1884). Пра гэта ж пісаў М. Гембажэўскі ў артыкуле «Сакратар Сыракомлі» (Просто з мосту, 1935, № 6). Інакш падаюць акалічнасці знаёмства Я. О. [бст] і М. С. [інарадскі] у сваіх артыкулах 1912—1913 гг. пра экскурсіі ў Барэйкаўшчыну (Літва і Русь, 1912, т. 3, сш. 2; Бесяда літэрацка, 1913, № 8). Даследчыкі лічаць іх звесткі менш верагоднымі[139]. Вялікае значэнне для біёграфа В. Каратынскага маюць успаміны яго сына Бруна «Аб людзях і рэчах» (Архіў г. Варшавы і Варшаўскага ваяводства, рук. № 181) і ўнука Генрыка (у кнізе «Па рознаму бывала...», Варшава, 1972).

Нарэшце, пра сувязі Каратынскага з віленскімі канспіратыўнымі арганізацыямі напярэдадні паўстання 1863 г. сведчыць пісьмо ад 12 (24) жніўня 1862 г. з Вільні ў Парыж, перахопленае і скапіраванае царскім агентам Баларушэвічам-Патоцкім. Невядомы ўдзельнік вызваленчага руху, які падпісаўся літоўскім прывітаннем «Свейкас», расказваў аб становішчы ў віленскай гарадской арганізацыі, і, між іншым, пісаў: «Сыракомля хворы, і на час яго хваробы займаецца Каратынскі, слаўны і адданы чалавек»[140].

---

[138] Борковский С. А., Мальдис А. И. Поэтическое наследие Артема Вериги-Даревского //Сов. славяноведение. 1971. № 2. С. 36.

[139] Гл.: Мальдзіс А. Падарожжа ў XIX стагоддзе. С. 64—65; Мархель У. Творчасць Вінцэся Каратынскага ў ацэнцы сучаснікаў і нашчадкаў // Белороссика: книговедение, источники, библиография. Мн., 1980. С. 56—57.

[140] Тальвирская З. Я. Некоторые вопросы общественного движения в Литве и Белоруссии в конце 50-х — начале 60-х годов и подпольная литература // Революционная Россия и революционная Польша: Вторая половина XIX в. М., 1967. С. 59. Дакумент знаходзіцца ў Галоўным архіве старажытных актаў у Варшаве.

Размова ідзе, трэба думаць, пра нейкія літаратурныя паслугі, якія рабілі Сыракомля і Каратынскі для рэвалюцыйнай арганізацыі. Хутчэй за ўсё мелася на ўвазе складанне пракламацый.

Яшчэ нядаўна нам было вядома толькі прозвішча таленавітага беларускага паэта сярэдзіны XIX ст. Элегія-Францішка Карафа-Корбута, які пад псеўданімам Ялегі Пранціш Вуль упісаў у «Альбом» Вярыгі-Дарэўскага свой выдатны верш «К дудару Арцёму...»

Цяпер, дзякуючы знойдзеным архіўным крыніцам, мы ведаем пра яго нямала. Бацька паэта Маўрыкій Фаміч Карафа-Корбут, дробны віцебскі чыноўнік, меў дачыненне да падзей 1863 г. і быў асуджаны ў Сібір па той жа судовай справе, што і Арцём Вярыга. У паўстанні ўдзельнічалі таксама яго сыны Элегій і Вільгельм. Яны праходзяць па выяўленай намі справе віленскага палявога аўдытарыята аб чатырнаццаці маладых віцябчанах, якія выйшлі з горада са зброяй, каб далучыцца да паўстанцаў (ЦДГА ЛітССР, ф. 1248, воп. 2, спр. 394). У справе ёсць чыноўніцкі паслужны спіс Маўрыкія Фаміча (л. 291—294), дзе пазначана, што яго сын Франц нарадзіўся 5 красавіка 1835 г. Паколькі Маўрыкій Фаміч незадоўга перад нараджэннем сына перабраўся ў Дзінабург, дзе служыў нейкі час у гарадавым магістраце, то можна было думаць, што Элегій-Францішак там, у Дзінабургу, і нарадзіўся [141], але крыху пазней у мінскім гістарычным архіве знайшлася хросная метрыка паэта, якая дазволіла ўдакладніць, што нарадзіўся ён 9 красавіка 1835 г. у Віцебску (Пачынальнікі, *368*).

Судова-следчая справа Вуля і яго таварышаў змяшчае шмат звестак з біяграфіі паэта, пра акалічнасці следства і суда над ім, яго братам і іншымі супольнікамі. Некаторыя дакументы справы апублікаваны ў зборніку «Пачынальнікі»: атэстат аб службе ў Віцебскай палаце дзяржаўных маёмасцей, пратакол допыту, напісаныя ў турме тлумачальныя запіскі.

Важнымі для жыццяпісу Вуля з'яўляюцца таксама знойдзеныя ў гістарычным архіве ў Мінску матэрыялы аб так званых «літаратурных гутарках» у Віцебскай гімназіі першай паловы 50-х гадоў [142]. На іх абмяркоўваліся спецыяльна напісаныя сачыненні гімназістаў старэйшых

---

[141] Гл.: Кісялёў Г. Загадка беларускай «Энеіды». С. 167.
[142] Гл.: Кісялёў Г. Пошукі імя. С. 138—139.

класаў. Самі сачыненні да нас не дайшлі, але з данясенняў пра гутаркі, якія захоўваюцца ў фондах дырэкцыі народных вучылішчаў Віцебскай губерні і папячыцеля Беларускай навучальнай акругі (ЦДГА БССР у Мінску, ф. 2507, воп. 1, спр. 462; ф. 3157, воп. 1, спр. 594), відаць, што Вуль прымаў у іх самы актыўны ўдзел. У яго рана з'явіліся літаратурныя інтарэсы.

Сістэма крыніц, звязаных з жыццяпісам В. Дуніна-Марцінкевіча, раскрыта намі ў манаграфіі «Спасцігаючы Дуніна-Марцінкевіча» (раздзел «Крыніцы да біяграфіі»)[143].

Супастаўляючы раннія біяграфічныя сведчанні аб Дуніне-Марцінкевічу А. Ельскага (некралог 1885 г. і інш.), А. Слупскага (артыкул «Стары Мінск» 1895 г.), Р. Зямкевіча (артыкулы «Вінцук Дунін-Марцінкевіч, яго жыццё і літаратурнае значэнне» 1910 г., «Стары Мінск у беларускіх успамінах» 1919 г.), даныя разнастайных архіўных дакументаў, мы паспрабавалі даць крытычную ацэнку розных крыніц, паказаць іх узаемасувязь, устанавіць ступень дакладнасці, вычленіць з іх верагодныя факты. Да ліку біяграфічных крыніц адносіцца і манаграфія польскага славіста Ю. Галомбака пра Дуніна-Марцінкевіча (1932), паколькі ў ёй выкарыстоўваюцца некаторыя сведчанні, што не дайшлі да нас (у прыватнасці, напісаны Ельскім «Успамінак аб Вінцэнтым Дуніне-Марцінкевічу, беларускім пісацелю і аўтару» 1909 г.).

Цікавыя ў святле крыніцазнаўства даўнія спрэчкі біёграфаў пра тое, дзе, у Вільні або ў Пецярбургу, спрабаваў атрымаць медыцынскую адукацыю будучы аўтар «Гапона» і «Пінскай шляхты». Прамых архіўных сведчанняў на гэты конт, як вядома, пакуль што няма. Яго сувязі з дзядзькам мітрапалітам С. Богушам-Сестранцэвічам, які жыў стала ў Пецярбургу, прымушаюць аддаць у гэтай спрэчцы перавагу Пецярбургу, а паколькі медыцынскага факультэта ў Пецярбургскім універсітэце не было, то вучыўся пісьменнік, трэба думаць, у сталічнай Медыка-хірургічнай акадэміі, ганаровым членам якой з 1814 г. быў якраз Богуш-Сестранцэвіч.

Параўнальна нядаўна ў віленскім гістарычным архіве выяўлена адметная крыніца — так званая «Księga wpiso-

---

143 Кісялёў Г. В. Спасцігаючы Дуніна-Марцінкевіча. Мн., 1988. С. 77—125.

wa studentów czyli Albóm akademickie» за 1822—1832 гг.[144]. Гэта абавязковыя штогоднія подпісы ўсіх без выключэння студэнтаў Віленскага універсітэта пад правіламі паводзін, своеасаблівая студэнцкая прысяга. Прозвішча Дуніна-Марцінкевіча сярод іх няма. Гэта дазваляе яшчэ больш катэгарычна сцвярджаць, што пісьменнік у Віленскім універсітэце не вучыўся. Таму можна прагназіраваць, што больш перспектыўным будзе зварот даследчыкаў да матэрыялаў Пецярбургскай медыка-хірургічнай акадэміі. Мы маем тут справу з метадам, які ў крыніцазнаўстве называецца argumentum ex silentio («аргумент ад умаўчання», вывад з маўчання крыніц)[145].

Калі вядома, што тая або іншая значная крыніца існавала раней, але потым была згублена, абавязак крыніцазнаўца сабраць аб ёй магчыма поўныя звесткі, паспрабаваць рэканструяваць яе. Так было, напрыклад, у выпадку з тэатральнай афішай першай пастаноўкі «Сялянкі» («Ідыліі») Дуніна-Марцінкевіча ў 1852 г., якая знамянуе надзвычай важную вяху не толькі творчай біяграфіі Дуніна-Марцінкевіча, але і гісторыі нацыянальнага тэатра, усёй беларускай культуры. На пачатку нашага стагоддзя афіша знаходзілася ў вядомага паэта-нашаніўца А. Паўловіча, які ў 20-х гадах перадаў яе на захаванне ў Інбелкульт. Да нашага часу яна не дайшла, хутчэй за ўсё, загінула ў часы вайны. На вялікі жаль,не была ў свой час зроблена поўная копія з яе. Але асобныя фрагменты яе тэксту, разнастайныя іншыя звесткі аб ёй захаваліся ў артыкулах і перапісцы людзей, што яе бачылі, знаёміліся з ёй. Сабраны і прааналізаваны намі ўвесь даступны матэрыял, з аднаго боку, дае, у пэўных межах, магчыма поўнае ўяўленне аб гэтым надзвычай цікавым дакуменце, а з другога, дазваляе праверыць верагоднасць прыведзеных у афішы звестак, зрабіць вывад аб яе аўтэнтычнасці, аб тым, што яна сапраўды рэальна існавала[146].

Асобна трэба спыніцца на ролі мемуараў у высвятленні біяграфіі і грамадскага вобліку Дуніна-Марцінкевіча.

---

[144] ЦДГА ЛітССР, ф. 720, воп. 1, спр. 998.

[145] Гл.: Topolski J. Metodologia historii. Wyd. 3. Warszawa, 1984. S. 399—400; Плигузов А. И. Умолчание источника как историографический аргумент // Тез. докл. и сообщ. научн. совещания «Комплексные методы в исторических исследованиях». М., 1987.

[146] Падрабязней гл.: Кісялёў Г. Спасцігаючы Дуніна-Марцінкевіча. С. 103—106.

Найперш гэта хлапечыя ўспаміны Ядвігіна Ш., што дайшлі да нас у складзе ягоных «Лістоў з дарогі» 1910 г. і напісанага тады ж артыкула «В. Марцінкевіч у практычным жыцці»[147]. Далей — успаміны Я. Васільева пра тэатральны гурток Дуніна-Марцінкевіча і першую пастаноўку «Сялянкі». Сам Я. Васільеў Дуніна-Марцінкевіча, мабыць, не ведаў, ■ пераказаў уражанні свайго бацькі Авяр'яна Васільева, прыяцеля Дуніна-Марцінкевіча, удзельніка яго тэатральнага гуртка. Расказ Я. Васільева дайшоў да нас у сваю чаргу не непасрэдна, а ў перадачы А. Паўловіча. Такім чынам, прыведзеныя ў гэтай крыніцы факты мы ведаем нават не з другіх, а з трэціх рук. Між іншым гэта не рэдкі выпадак у крыніцазнаўстве. П. Беркаў называе ў ліку важнейшых літаратуразнаўчых крыніц успаміны не толькі сучаснікаў пісьменніка, але і «асоб, што ведалі сучаснікаў пісьменніка»[148]. Успаміны Васільева ў запісе Паўловіча — гэта унікальны матэрыял, без якога не могуць абысціся ні літаратуразнаўцы, ні гісторыкі тэатра.

Часткова мемуарны характар маюць біяграфічныя матэрыялы Ельскага, які асабіста ведаў Дуніна-Марцінкевіча. Гэта ж у нейкай меры датычыць і матэрыялаў Слупскага: ён атрымаў звесткі для свайго артыкула «Стары Мінск» ад дачок пісьменніка. Так што мы маем тут справу як бы з сямейнымі ўспамінамі.

Цікавы мемуарны фрагмент надрукаваў у 1896 г. Адам Плуг у артыкуле «Манюшка ў Мінску» (Тыгоднік ілюстраваны, № 19). Размова ў ім ідзе пра прыезд Манюшкі і Концкага ў Мінск у кастрычніку 1856 г. і наладжаны ў іх гонар прыём у доме Дуніна-Марцінкевіча. У кнізе «Спасцігаючы Дуніна-Марцінкевіча» мы паказалі, што адной з крыніц для мемуараў 1896 г. паслужыў артыкул Плуга «Некалькі ўражанняў з падарожжа па Літве» («Ліст Феліксу Пяткевічу»), надрукаваны ў 1858 г. Есць прамыя тэкстуальныя супадзенні. Праўда, у мемуарах за даўнасцю гадоў Плуг дапускае асобныя прыватныя недакладнасці.

Тым не менш яго каштоўныя ўспаміны ў цэлым заслу-

---

[147] Ядвігін Ш. Выбр. тв. Мн., 1976. С. 238—241, 297—298; Пачынальнікі. С. 170—172.

[148] Берков П. Н. Введение в технику литературоведческого исследования. Л., 1955. С. 53.

гоўваюць даверу. Яны багата выкарыстоўваліся А. Мальдзісам у нарысе пра Манюшку [149].

Акалічнасці знаёмства Дуніна-Марцінкевіча з Сыракомлем раскрываюцца ў мемуарах Ю. Гарайна «З жыцця паэта», надрукаваных у 1886 г. у Львове. Некаторыя даследчыкі лічаць вартым увагі сцвярджэнне мемуарыста, што марцінкевічаўскі «Гапон» быў інсцэніраваны ў Мінску [150]. У якасці пацвярджэння называюцца «Успаміны» Э. Вайніловіча (Вільня, 1931), але Вайніловіч (1847—1928) у Мінску ў часы Марцінкевіча не жыў і яго вельмі кароткая згадка магла засноўвацца на няпэўных чутках або нават на тых жа мемуарах Гарайна. Цікава, што Р. Зямкевіч у артыкуле «Стары Мінск у беларускіх успамінах» паведамляе, што ў Мінску ставілася пераробка «Гапона» пад загалоўкам «Рэкруцкі набор» (Пачынальнікі, *25*), але вядома, што ў сапраўднасці «Рэкруцкі набор» не звязаны сюжэтна з «Гапонам».

У шэрагу мемуараў успамінаецца дачка пісьменніка Каміла Вінцэнтаўна, якая адыгрывала прыкметную ролю сярод перадавой моладзі Мінска напярэдадні 1863 г. Побач з яе імем, як правіла, ставілася і імя бацькі-пісьменніка.

Ва ўспамінах паўстанца Апалінара Свентаржэцкага, запісаных З. Кавалеўскай, з удзячнасцю адзначаецца, што Люцынка Марцінкевічаў была адным з апорных пунктаў паўстання 1863 г. у Ракаўскай акрузе [151]. Гэта яскравая дэталь, якая істотна дапаўняе паказанні архіўных дакументаў, уплывае на іх прачытанне і ацэнку.

*

* *

Беларускімі літаратуразнаўцамі выяўлены і вывучаны досыць багаты і разнастайны матэрыял аб жыцці і дзейнасці Ф. Багушэвіча.

Дакументы Цэнтральнага гістарычнага архіва Літоўскай ССР аб заканчэнні пісьменнікам у 1861 г. Віленскай губернскай гімназіі, апублікаваныя ў зборніку «Пачынальнікі» (с. 382—389), дапаўняюцца, падсвечваюцца звестка-

---

[149] Мальдзіс А. Падарожжа ў XIX стагоддзе. С. 119—120.
[150] Мальдзіс А. Творчае пабрацімства. Мн., 1966. С. 113.
[151] Гл.: Кісялёў Г. Сейбіты вечнага. С. 182.

мі аб бурных грамадска-палітычных падзеях таго часу ў Літве і на Беларусі, аб актыўным удзеле ў іх многіх гімназічных таварышаў Багушэвіча [152]. Важнай для разумення працэсу фарміравання светапогляду юнага Багушэвіча з'яўляецца знаходка Г. Каханоўскага, які адшукаў прозвішча будучага пісьменніка ў «Спісе добраахвотных прынашэнняў Віленскаму музею з 1 студзеня па 1 чэрвеня 1856 года» (Записки Виленской археологической комиссии, Вільня, 1856, ч. 1). Такім чынам, высветлілася, што Багушэвіч-гімназіст цікавіўся краязнаўствам, супрацоўнічаў з Віленскай археалагічнай камісіяй і музеем старажытнасцей, збіраў для музея экспанаты [153].

Значную цікавасць для біёграфа Багушэвіча мае студэнцкая справа пісьменніка, выяўленая перад вайной у фондзе Пецярбургскага універсітэта (Дзяржаўны гістарычны архіў Ленінградскай вобласці, цяпер — Ленінградскі дзяржаўны гістарычны архіў) [154]. Асноўныя дакументы гэтай справы апублікаваны ў зборніку «Пачынальнікі» (с. 389—395). Уважлівае крыніцазнаўчае прачытанне гэтых дакументаў дае падставу гаварыць пра дачыненне Багушэвіча да славутых восеньскіх хваляванняў студэнтаў Пецярбургскага універсітэта ў 1861 г. Як вядома, штуршком для студэнцкіх хваляванняў з'явілася ўвядзенне ў 1861 г. новых правіл для універсітэтаў. Студэнты адмовіліся прыняць матрыкулы (заліковыя кніжкі), у якіх гэтыя правілы былі надрукаваны. Не прыняў матрыкулы і Багушэвіч (яна так і засталася ў яго студэнцкай справе), але яму ўдалося прыкрыць свой удзел у хваляваннях пасведчаннем аб хваробе. Тым не менш з універсітэтам яму давялося развітацца.

Разнастайныя крыніцы засведчылі ўдзел пісьменніка ў паўстанні Кастуся Каліноўскага і перадпаўстанцкім руху. Спачатку была згадка ў мемуарным артыкуле Багушэвічавага сябра — журналіста Напалеона Роўбы «Паэт Белай Русі», надрукаваным у 1906 г., пасля смерці пісьменніка, у «Кур'еры літэвскім»: «У 1862 г., гэтым годзе шырока развітога грамадскага жыцця ў Літве і Беларусі, Ф. Багушэвіч займае пасаду настаўніка народнай школы

---

152 Кісялёў Г. Гімназічныя і студэнцкія гады Францішка Багушэвіча // Кісялёў Г. Сейбіты вечнага. С. 266—284.

153 Каханоўскі Г. Адчыніся, таямніца часу. С. 42—44.

154 Кузьмін I. У Пецярбургскім універсітэце: Новыя матэрыялы біяграфіі Багушэвіча // Літ. і мастацтва. 1940. 23 сак.

ў Доцішках, якую заснавалі і ўтрымлівалі муж і жонка памешчыкі пп. Звяровічы... Надышоў 1863 г. ... Ф. Б[агушэвіч] уступіў у паўстанцкія шэрагі і дайшоў ажно да Сувалкскай (тады Аўгустоўскай) губерні. Будучы параненым у нагу, на шчасце, аднак, знайшоў там гасціннасць і апеку ў доме пп. Крушынскіх, якія потым дапамаглі яму вярнуцца ў Вільню» (Пачынальнікі, *424*). У наш час былі зроблены шматлікія знаходкі сярод дакументаў царскіх карных органаў у віленскім гістарычным архіве [155]. Даволі вялікая падборка такіх матэрыялаў пад агульнай назвай «Дакументы пра ўдзел сям'і Ф. Багушэвіча ў паўстанні 1863 г.» апублікавана ў зборніку «Пачынальнікі» (с. 395—409). Дакументы расказваюць, што бацька пісьменніка Казімір Іосіфавіч, сястра Ганна і малодшы брат Апалінар былі арыштаваны і прыцягнуты да следства і суда за дапамогу паўстанцам, брат Валяр'ян быў паўстанцам і расшукваўся ўладамі, але паспеў уцячы за мяжу. Называлася на следстве і імя пісьменніка. У прыватнасці, 2 лістапада 1863 г. Казімір Іосіфавіч прызнаўся ў Ашмянскай следчай камісіі, што мае сына «Францішка, 23 год, які пайшоў у мяцеж» (Пачынальнікі, *396*). Але гэтая згадка згубілася ў стосах архіўных папер, будучы пісьменнік удала пазбег рэпрэсій, праўда, яму давялося выехаць на Украіну, як мага далей ад роднага дома. Тая шчаслівая акалічнасць, што Багушэвіч не быў злоўлены і не даваў паказанняў у следчых камісіях, ставіць цяпер у цяжкое становішча біёграфа. Важна ўстанавіць, у якім менавіта паўстанцкім атрадзе ваяваў Багушэвіч: атрады ж былі і паблізу Кушлян на Ашмяншчыне, і паблізу Доцішак на Лідчыне, дзе пісьменнік настаўнічаў перад паўстаннем. Абедзве гэтыя версіі, як аднолькава магчымыя, разглядаліся ў свой час у нашым артыкуле пра юнацтва і маладосць Багушэвіча [156]. Зусім нядаўна А. Жамойцін, які настаўнічаў у Доцішках, пазнаёміў грамадскасць з успамінамі селяніна Яна Свечкі — той запомніў расказы свайго бацькі Міхала Свечкі, што вучыўся ў 1861—1863 гг. у доцішскай школе Звяровіча (у мясцовым вымаўленні — Жвіровіч). Вось вялікі фрагмент з гэтых успамінаў:

---

[155] Семяновіч А. Новае з біяграфіі Ф. Багушэвіча // Літ. і мастацтва. 1958. 19 сак.; Кісялёў Г. Гімназічныя і студэнцкія гады Францішка Багушэвіча // Полымя. 1960. № 10; Бікуліч В. «Ідзіце ў Кушляны смела...»: Новыя матэрыялы аб удзеле сям'і Ф. Багушэвіча ў паўстанні 1863 года // Беларусь. 1967. № 3.

[156] Кісялёў Г. Сейбіты вечнага. С. 288—302.

«З апавядання майго бацькі, Міхала, Жвіровіч на свой кошт трымаў у двары ў Доцішках двух настаўнікаў-педагогаў дворных: прафесара Багдзевіча Адама і... Багушэвіча Францішка.

Жвіровіч з прафесарам Багдзевічам параконна ездзілі ў Варшаву па польскія школьныя чытанкі, якія давялося распакоўваць у той час вучню Міхалу (майму бацьку). З апавядання старых людзей і... майго бацькі, Міхала, Жвіровіч быў кіраўніком паўстання на Віленшчыне 1863 года. Разам са Жвіровічам актыўны ўдзел у паўстанні браў і малады ў той час Багушэвіч Францішак — настаўнік майго бацькі. ...Бацька мой быў сведкам (меў тады 12 поўных гадоў), калі аднойчы летнім днём 1863 года рота царскіх казакоў наляцела на двор Жвіровіча ў Доцішках і грміла заспетых знянацку паўстанцаў Жвіровіча, узброеных пістаноўкамі, шляхецкімі шаблямі і пікамі. Паўстанцы спрабавалі схавацца ад казакаў у дворскі лес Зялёна Сола. Там атрымаў рану ў нагу Багушэвіч Францішак — настаўнік майго бацькі ў Доцішках, які, на сваё шчасце, паспеў схавацца за забітага каня. Жвіровіча казакі схапілі. Пасля царскага суда яго вывезлі на Сібір. Маёнтак Жвіровіча канфіскавалі і аддалі царскаму палкоўніку жандармерыі Шпееру, які жыў у Вільні»[157].

Шмат з таго, што данесла памяць Я. Свечкі, пацвярджаецца, з невялікімі карэктывамі, архіўнымі дакументамі. Сапраўды, Аляксандр Звяровіч меў дачыненне да паўстання, у прыватнасці, згодна з паўстанцкай праграмай, на самым пачатку паўстання абвясціў сялянам поўную волю і аддаў ім зямлю. Вядома таксама, што ён хаваў у сябе параненага паўстанца. Пасля арышту быў высланы, праўда, не ў Сібір, а ў Арэнбургскую губерню. Сапраўды, маёнткам пасля валодаў падпалкоўнік Шпеер. Паколькі вядома, што бой у раёне Доцішак улетку 1863 г. вялі паўстанцы Парадоўскага-Астрогі, значыць, Багушэвіч быў якраз у гэтым атрадзе. Гэта быў галоўны атрад Лідскага павета, які ўзначальваў спачатку (да гібелі ў красавіку 1863 г.) славуты тагачасны партызан Людвік Нарбут. Дарэчы, далейшы шлях атрада Астрогі ляжаў якраз на Аўгустоўшчыну, што пераклікаецца з цытаванымі вышэй звесткамі Н. Роўбы.

---

[157] Жамойцін А. Паўстанцкі шлях Францішка Багушэвіча // Літ. і мастацтва. 1983. 14 студз.

Высвятленне паўстанцкага шляху Францішка Багушэвіча — яскравы прыклад таго, як прыцягненне шырокага кола крыніц (архіўных і мемуарных, прамых і ўскосных), іх крытычнае прачытанне і ўзаемаправерка дазваляюць гісторыку літаратуры ўзнавіць, здавалася б, зусім сцёртую часам старонку жыццяпісу пісьменніка.

Цікава, што ў нарысе С. Александровіча «Незабыўныя мясціны», датаваным 1961 г., прыводзіцца размова аўтара з доцішскім селянінам Іванам Свечкам (відаць, той самы Ян Свечка):

«Невысокі рухавы стары, да якога мы заглянулі ў хату, сустрэў нас ветліва.

— Быў, быў такі Звяровіч,— адказаў Іван Свечка на наша запытанне.— Мой дзед хадзіў да яго ў двор адрабляць паншчыну... Адзін з паноў, кажуць, быў у мяцяжы, зрабіў засаду на казакоў. Потым таго Звяровіча казакі злавілі і ў Сібір саслалі, а тут гаспадарыў палкоўнік жандармеры Шпеер...

— А пра школу, што была некалі ў Звяровіча, вы нічога не чулі?

— Чаму не чуў... Старыя людзі гаварылі, што вучыў сялянскіх дзяцей у гэтай школцы нейкі нетутэйшы чалавек. Жыў ён у двары, часта хадзіў на паляванне разам з панам...»[158]

Як бачым, сёе-тое тут пераклікаецца з матэрыялам А. Жамойціна, але ў апошнім шмат важных дэталяў, якія забыў або не захацеў успомніць Іван (Ян) Свечка ў размове з С. Александровічам у 1961 г.

У сувязі з выяўленай супярэчнасцю можа паўстаць пытанне пра неабходнасць дадатковай праверкі матэрыялу А. Жамойціна. З дасланай нам А. Жамойціным фотакопіі відаць, што арыгінал уяўляе сабой невялікі (3 старонкі) дакумент у форме аўтабіяграфіі Я. Свечкі. Напісаны дакумент па-польску. На першай старонцы зверху стаіць: «Свечка Ян — «Доцішкі — Сола», пав. Ліда, зямля Наваградская (даўней Віленская), старадаўняя Літва», потым яшчэ адзін своеасаблівы загаловак: «Мая аўтабіяграфія — у кароткіх палітычных дэталях у Доцішках». На пачатку і ў канцы Я. Свечка паведамляе кароткія звесткі аб сабе. Цэнтральную частку дакумента займае ўжо знаёмы нам фрагмент пра Звяровіча — Жвіровіча,

---

[158] Александровіч С. Незабыўнымі сцежкамі. 2-е выд. Мн., 1962. С. 49—50.

доцішскую школу і Ф. Багушэвіча. Між іншым, з заключнай часткі дакумента відаць, што Я. Свечка ў 20-я гады ўдзельнічаў у польскай прагрэсіўнай прэсе. Канцом 20-х гадоў можа быць датавана і яго аўтабіяграфія з успамінамі пра бацьку. Дакумент атрыманы А. Жамойціным ад дачкі Я. Свечкі.

Параўнанне ўспамінаў Я. Свечкі 20-х гадоў і тых, якія запісаў у 1961 г. С. Александровіч, дае цікавы матэрыял для роздуму пра своеасаблівасць і пэўную суб'ектыўнасць мемуарных крыніц, паўната і дакладнасць якіх залежыць ад многіх фактараў.

У 1950-х гадах Сцяпан Александровіч выявіў у Дзяржаўным архіве Чарнігаўскай вобласці, яго Нежынскім філіяле, а таксама на старонках «Черниговских губернских ведомостей» багаты дакументальны матэрыял пра вучобу Ф. Багушэвіча ў Нежынскім юрыдычным ліцэі, яго службу ў Чарнігаўскім губернскім праўленні судовым следчым на Чарнігаўшчыне[159]. Праз некаторы час з'явіліся адпаведныя дакументальныя публікацыі ўкраінскіх даследчыкаў[160]. Трэба, аднак, адзначыць, што больш-менш поўнай навуковай публікацыі біяграфічных матэрыялаў пра Багушэвіча з украінскіх архіваў, зробленай на сучасным археаграфічным узроўні, яшчэ не было. Відавочна, што гэта — адна з наспелых задач беларускага літаратурнага крыніцазнаўства XIX ст.

Важны біяграфічны матэрыял змяшчае справа Міністэрства юстыцыі 1884—1885 гг. пра звальненне пісьменніка са службы, адшуканая ў свой час У. Казберуком у Цэнтральным гістарычным архіве СССР у Ленінградзе[161]. Асноўныя дакументы гэтай справы надрукаваны ў зборніку «Пачынальнікі» (с. 409—413). Яе архіўна-справаводчая назва на вокладцы: «О пособии б. судебному следователю 1 уч. Конотопского уезда коллежскому секретарю Францу Богушевичу». Аднак змест справы куды шырэйшы. Сярод дакументаў — вельмі цікавае прашэнне

---

[159] Александровіч С. Матэрыялы да біяграфіі Багушэвіча // Літ. і мастацтва. 1956. 23 чэрв.

[160] Васильківський Г. П. Францішек Казiмiровiч Богушевич: До 120-річчя з дня народження письменника // Наукові записки Ніжинського державного педагогичного інститута ім. М. В. Гоголя. 1960. Т. 2, вып. 1. С. 157—167; Новое о жизни Франца Богушевича / Публикацию подготовила И. И. Рабинович // Советские архивы, 1971. № 4. С. 91—95.

[161] Казбярук У. М. Францішак Багушэвіч у Пецярбургу і на Украіне // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1966. № 2. С. 63—69.

Багушэвіча аб адстаўцы ад 2 лютага 1884 г., якое паказвае, што пісьменніку-праўдашукальніку не давалі ходу на службе: «Страціўшы здароўе на доўгачасовай службе на пасадзе следчага (13 год) і не маючы магчымасці працягваць яе з-за мізернасці сродкаў для задавальнення службовых і жыццёвых патрэб, згубіўшы і надзею дажыць больш здавальняючых умоў, я вырашыў шукаць хлеба ў прыватнай працы і таму маю гонар пакорліва прасіць Акруговы суд прыняць і перадаць начальству гэтае маё хадайніцтва аб звальненні мяне ў адстаўку...» (Пачынальнікі, *409—410*). Шмат звестак змяшчаецца ў «Фармулярным спісе аб службе судовага следчага 1-га ўчастка Канатопскага павета, у акрузе Нежынскага суда, Франца Казіміравіча Багушэвіча». Гэта дакладная храналогія ўсіх яго перамяшчэнняў па службе з 1868 па 1883 гг., звесткі аб узнагародах і адпачынках, аб маёмасным і сямейным становішчы. «Жанаты першым шлюбам з дваранкай Габрыэляй Міхайлаўнай Шкленік, мае дачку Канстанцыю, што нарадзілася 2 кастрычніка 1875 года...»,— такія дакладныя звесткі пра сям'ю пісьменніка падаюцца, напрыклад, у адной з граф дакумента (Пачынальнікі, *412—413*). Праўда, варта ўдакладніць усё-такі, што ў гэты дакумент, які датуецца 1883 г., чамусьці не трапіў сын Тамаш, які нарадзіўся ў канцы 1881 г.

Як вядома, некаторы час у 1871—1872 гг. Багушэвіч працаваў следчым у Валагодскай губерні. Тут, несумненна, хаваецца адна з загадак біяграфіі пісьменніка. Задача адшукаць адпаведныя матэрыялы ў Валагодскім абласным архіве літаратуразнаўцамі ставілася. Але выяўлена пакуль што параўнальна няшмат — некалькі згадак у журнале пасяджэнняў Гразявецкага павятовага суда ды невялікая інфармацыя ў «Вологодских губернских ведомостях» за 1871 г. «Мы не маем пакуль усіх архіўных матэрыялаў пра валагодскі перыяд жыцця Багушэвіча і можам толькі хіба выказаць меркаванне, што гэты перавод быў ці то выкліканы чыста службовай неабходнасцю — пуставала месца, спатрэбіўся тэрмінова работнік, ці то сам Багушэвіч па нейкіх прычынах меў патрэбу перабіцца сякі-такі час менавіта там, у валагодскай глухамані»,— разважае знаўца крыніц аб жыцці і дзейнасці Багушэвіча У. Содаль [162]. Магчыма, адказ на гэтыя

[162] Содаль У. Ф. Багушэвіч у Волагдзе // Беларусь. 1980. № 7.

пытанні знойдзецца з часам у архівах Міністэрства юстыцыі XIX ст. Праўда, У. Казбярук пасля азнаямлення з матэрыяламі гэтага фонду ў Цэнтральным гістарычным архіве ў Ленінградзе зазначыў: «Наогул жа сярод многіх і многіх тысяч дакументаў гэтага фонду было звыш 15 спраў, заведзеных на Багушэвічаў. Але хоць і ўдалося знайсці іх архіўныя адрасы, саміх дакументаў ужо не аказалася»[163]. Будзем спадзявацца на новыя знаходкі.

Надзвычай важны віленскі перыяд жыцця Багушэвіча, калі пісьменнік працаваў адвакатам пры Віленскім акруговым судзе і адначасова шмат сіл аддаваў літаратуры, дакументуецца матэрыяламі Цэнтральнага гістарычнага архіва ЛітССР у Вільнюсе. Многія з іх былі ўведзены ў навуковы ўжытак у нашым артыкуле «Мужыцкі адвакат», надрукаваным у 1964 г. у часопісе «Полымя»[164].

Справа аб прыняцці калежскага сакратара Франца Казіміравіча Багушэвіча ў лік прысяжных павераных пры Віленскім акруговым судзе, на жаль, да нас не дайшла, хоць і значыцца ў архіўным «Алфавите дел по общему собранию отделений Виленского окружного суда и дисциплинарных производств с 1883 по 1908 г.»[165] Затое ў агульнай перапісцы канцылярыі суда захаваліся асобныя цікавыя дакументы, звязаныя з гэтым паваротам у жыцці Багушэвіча. Найбольш каштоўны з іх — канфідэнцыяльны адказ пракурора Нежынскага акруговага суда М. Кобцава ад 5 студзеня 1884 г. на запытанне старшыні Віленскага суда аб асобе і дзелавых якасцях судовага следчага Багушэвіча ў сувязі з яго намерам уладкавацца прысяжным павераным у Вільні. У згаданым пісьме з архіва Віленскага акруговага суда («Наряд бумагам конфиденциальным» за 1884 г.) гаворыцца: «...пан Багушэвіч, знаходзячыся на гэтай пасадзе (судовага следчага.— *Г. К.*) далёка больш за 10 гадоў, сваёю выдатнаю службовою дзейнасцю пастаянна звяртаў на сябе ўвагу начальства, яшчэ ў 1875 годзе былы старшыня Нежынскага акруговага суда... рэкамендаваў Багушэвіча як дзеяча, што заслугоўвае заняць месца члена акруговага суда. З таго часу, на працягу амаль 10 гадоў, некалькі разоў паўтараліся запытанні з Міністэрства юстыцыі пра тое, ці можа

---

163 Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1966. № 2. С. 67.

164 Гл. таксама: Кісялёў Г. З думай пра Беларусь. Мн., 1966. С. 284—317.

165 ЦДГА ЛітССР, ф. 448, воп. 6, спр. 34, л. 6.

быць дадзена п. Багушэвічу павышэнне на службе, і заўсёды даваліся адны і тыя ж пахвальныя водзывы пра Багушэвіча, што кожны суд зробіць набытак сабе, калі прыме ў свае члены такога здольнага і выдатнага дзеяча. Затым, страціўшы ўсякія надзеі, Багушэвіч вырашыў пакінуць службу, якая не абяцае яму ніякай будучыні і не дае неабходных для яго, як чалавека беднага, сродкаў для жыцця. Таму ён вырашыў паступіць у лік прысяжных павераных, у складзе якіх, я ўпэўнены, Багушэвіч, маючы веды і вялікі такт, пры яго добрых маральных якасцях і напрамку, здабудзе сабе таксама выдатную рэпутацыю»[166]. Пісьмо яшчэ раз паказвае, што Багушэвіч меў сярод сваіх калег як непрымірымых ворагаў, так і людзей, якія яму сімпатызавалі. Цікава будзе адшукаць у далейшым згаданую перапіску пра Багушэвіча ў фондах Нежынскага акруговага суда і Міністэрства юстыцыі.

Некаторыя матэрыялы пра дзейнасць Багушэвіча-адваката захаваліся ў справаводстве камісіі прысяжных павераных пры Віленскім акруговым судзе (фонд № 451, частка матэрыялаў у фондзе суда — № 448). Найперш гэта асабістая справа пісьменніка, якая носіць назву: «Комиссия присяжных поверенных при Виленском окружном суде. Дело о присяжном поверенном Франце Казимировиче Богушевиче» (ф. 448, воп. 9, спр. 236). Яна даволі бедная па колькасці дакументаў. Тым не менш у ёй ёсць тры каштоўныя аўтографы-заявы Багушэвіча: 1) пра ад'езд яго з 20 жніўня 1893 г. за мяжу на 16 дзён; 2) заява ад 20 лютага 1897 г. пра паездку ў Варшаву «на няпэўную колькасць дзён» і 3) заява ад 20 мая 1898 г. пра ад'езд з Вільні ў Кушляны «з прычыны цяжкай хваробы». Кожная з гэтых заяў фіксуе немалаважныя падзеі ў жыцці пісьменніка. У прыватнасці, апошні дакумент дазваляе ўдакладніць час, калі цяжка хворы Багушэвіч не змог ужо болей працягваць работу ў Вільні і пераехаў у Кушляны. Праз два няпоўныя гады ён там і памёр.

Не пазбаўленыя цікавасці звесткі змяшчаюцца таксама ў пратаколах агульных адвакацкіх сходаў, у пратаколах і справаздачах камісіі прысяжных павераных.

Імя Ф. Багушэвіча неаднаразова сустракаецца ў судовых справах, а таксама ў агульнай перапісцы Віленскага акруговага суда. Надзвычай характэрны дакумент — прашэнне селяніна Крэўскай воласці Міхала Вольскага да

[166] Кісялёў Г. З думай пра Беларусь. С. 286—287.

старшыні суда ад 10 жніўня 1892 г. аб тым, каб адвакатам яму абавязкова прызначылі Ф. Багушэвіча: «...асмельваюся маліць ваша правасхадзіцельства прыняць велікадушна і паблажліва маю ўсепакорлівейшую просьбу наступнага зместу. Прысяжны паверены п. Багушэвіч, тутэйшы ўраджэнец, хаця і не ведае мяне, але вядомы мне сваёй цярплівасцю і сваёй спагадлівасцю выслухоўваць на роднай беларускай гаворцы тых, хто звяртаецца да яго дапамогі наконт абароны, таму, пры маёй неразвітасці, старэчых гадах, і ўжо тугаватасці на вуха, я, просьбіт, быў бы зусім шчаслівы, калі б выбар выпаў на яго...» На прашэнні выведзена рэзалюцыя: «Прасіць пр. пав. Багушэвіча напісаць тут жа, ці згодзен ён весці справу просьбіта па беднасці без чаргі. Ст[аршыня] Катлярэўскі». І далей надпіс-аўтограф пісьменніка: «Весці справу Вольскага бясплатна згодзен. Прыс. павер. Багушэвіч»[167]. Перад намі кранальны доказ лучнасці паэта са сваім народам.

Дапаўненнем да архіўных судовых матэрыялаў служаць рэпарцёрскія справаздачы аб судовых працэсах, якія публікаваліся ў «Виленском вестнике». У іх адлюстраваны і адвакацкія выступленні Багушэвіча[168].

У архіве Віленскага акруговага суда, яго цывільнага аддзялення, захоўваюцца яшчэ дзве справы, якія дадаюць шмат новага да характарыстыкі матэрыяльнага становішча Багушэвіча, яго сямейных узаемаадносін: 1) «Дело об утверждении надворного советника Франца Казимировича Богушевича в правах наследства к имуществу, оставшемуся после дворянина Казимира Осиповича Богушевича, и о вводе во владение тем имуществом» 1886 г. (ф. 448, воп. 2, спр. 1505) і 2) «Дело об утверждении дв. Томаша-Вильгельма Францевича и Габриели Михайловны Богушевичей в правах наследства к имуществу, оставшемуся после смерти дв. Франца Казимировича Богушевича, и о вводе» 1901 г. (там жа, спр. 38889).

У першай справе змяшчаюцца копіі метрычных выпісаў аб смерці бацькі пісьменніка Казіміра Восіпавіча, аб нараджэнні Францішка Казіміравіча, яго сястры Ганны і брата Апалінара, копія пасведчання аб шлюбе Ганны Казіміраўны, а таксама разнастайны матэрыял па гісторыі багушэвічаўскіх Кушлян, пачынаючы з копіі ўводнага ліста, якім Багушэвічы былі ўведзены ва ўладанне Кушлянамі

---

[167] ЦДГА ЛітССР, ф. 448, воп. 3, спр. 222, л. 75.

[168] Виленский вестник. 1886. 21 дек.; 1893. 27 мая; 1894. 16 марта.

ў 1837 г. Завяршаецца справа пастановай Віленскага акруговага суда ад 17 сакавіка 1886 г. пра падзел спадчыны, што засталася пасля смерці Казіміра Восіпавіча. Яго сыну Францішку Казіміравічу дасталася частка (13/28) Кушлян, што ў пераводзе на грошы склала каля 3 600 рублёў.

Другая справа была заведзена праз пятнаццаць год, у сувязі са смерцю пісьменніка. У справе ёсць метрычныя выпісы аб шлюбе Францішка Казіміравіча і Габрыелі Міхайлаўны (1874), аб нараджэнні ў іх дзяцей Канстанцыі (1875) і Тамаша (1881). Каштоўны біяграфічны дакумент — метрычны выпіс аб смерці Францішка Казіміравіча 15 красавіка 1900 г. і пахаванні яго 18 красавіка на жупранскіх парафіяльных могілках.

У гэтай справе таксама ёсць цікавы, унікальны матэрыял па гісторыі Кушлян. Доўгі час, як вынікае са справы, пісьменнік валодаў Кушлянамі супольна з братам Апалінарам і сястрой Ганнай. Толькі ў лютым 1898 г., калі, відаць, у пісьменніка ўжо з'явіўся план перабрацца ў Кушляны на сталае жыццё, быў складзены акт аб фактычным падзеле спадчыны. Ганна ўзяла сваю (вельмі невялікую) долю зямлёй, Апалінар грашыма, і такім чынам Францішак Казіміравіч атрымаў асноўную частку Кушлян (151 дзесяціна бясспрэчнай зямлі і 69 спрэчнай) у сваю поўную ўласнасць. Гэта было амаль усё, што ён пакінуў сваёй жонцы і дзецям. «Наяўных капіталаў», як гаварылася ў заяве спадчыннікаў, пасля яго не засталося. Згадваецца толькі хатняя рухомасць, што складалася з вопраткі і бялізны коштам у 300 рублёў, ды грашовая прэтэнзія да аднаго з кліентаў за вядзенне справы[169].

Надзвычай важнымі крыніцамі аб жыцці і дзейнасці Францішка Багушэвіча, як і іншых пісьменнікаў, з'яўляюцца некралогі і ўспаміны сучаснікаў.

Некралогі як біяграфічная крыніцы былі досыць шырока выкарыстаны ў артыкуле пра Багушэвіча, надрукаваным у 1936 г. у другім томе «Польскага біяграфічнага слоўніка» (аўтар артыкула вядомы віленскі краязнавец М. Браништэйн)[170]. Некралог, надрукаваны ў газеце «Сын Отечества», цытаваўся перад вайной у адным з ар-

---

[169] Гл.: Кісялёў Г. З думай пра Беларусь. С. 313—316.

[170] Brensztejn M. Bohuszewisz Franciszek Benedykt // Polsk Słownik Biograficzny. Kraków, 1936. T. 2. S. 233—234.

тыкулаў М. Ларчанкі[171]. Гэты некралог, а таксама выяўлены ў газеце «Северо-Западное слово» некралагічны артыкул М. Радзіна плённа выкарыстоўваліся ў манаграфіях В. Барысенкі, С. Майхровіча, М. Ларчанкі, што з'явіліся ў 1957—1959 гг.[172]

Але шырокае выкарыстанне ў нашым літаратуразнаўстве даволі вялікай некралогіі пісьменніка пачалося з артыкула С. Александровіча «Новае пра Францішка Багушэвіча», надрукаванага ў 6-м нумары часопіса «Полымя» за 1960 г.[173] С. Александровіч тлумачыў прычыну даволі позняга засваення беларускім літаратуразнаўствам гэтых матэрыялаў недастатковай на той час увагай нашых літаратуразнаўцаў да праблем беларуска-польскіх літаратурных сувязей. «Нягледзячы на тое, што крытычная літаратура пра творчасць беларускага паэта даволі шматлікая, пытанне сувязей Ф. Багушэвіча з польскай літаратурай не атрымала пакуль што дастатковага асвятлення і ўздымалася толькі ў агульным плане,— пісаў С. Александровіч у згаданым артыкуле.— Можа, па гэтай прычыне па-за ўвагай нашага літаратуразнаўства асталіся матэрыялы польскага друку, у якіх ёсць надзвычай цікавыя звесткі, што значна дапаўняюць і ўдакладняюць нашы ўяўленні пра жыццё і літаратурна-грамадскую дзейнасць Ф. Багушэвіча»[174]. Прычына заключалася таксама ў агульнай запаволенасці развіцця беларускага літаратуразнаўства, у тых стратах, якія яно панесла ў перыяд засілля вульгарнага сацыялагізму і сталінскіх беззаконняў.

Таму артыкул С. Александровіча быў па-сапраўднаму адкрывальніцкім. Даследчык пераканаўча паказаў, што пасля смерці выдатнага пісьменніка некралогі і артыкулы, прысвечаныя яго памяці, з'явіліся не толькі ў рускіх газетах «Северо-Западное слово» і «Сын Отечества», але і ў польскіх часопісах і газетах «Тыгоднік ілюст-

---

171 Ларчанка М. На радзіме Ф. К. Багушэвіча // Звязда. 1940. 26 верас.

172 Барысенка В. В. Францішак Багушэвіч і праблема рэалізма ў беларускай літаратуры XIX ст. Мн., 1957. С. 179, 181—183; Майхровіч С. Нарысы беларускай літаратуры XIX ст. Мн., 1957. С. 249; Ларчанка М. Па шляху рэалізма. Мн., 1959. С. 117—118.

173 Гл. таксама: Александровіч С. Старонкі братняй дружбы. Мн., 1960.

174 Александровіч С. Старонкі братняй дружбы. С. 185—186.

раваны», «Край», «Бесяда літэрацка», «Век», «Кур'ер варшавскі». «Цікавы і паказальны,— адзначаў С. Александровіч,— не толькі сам факт увагі вядомых літаратурных часопісаў да памяці Ф. Багушэвіча, але і тое, што яны змясцілі не проста некралогі, а змястоўныя артыкулы польскіх літаратараў...»[175]

Па свайму характару некралогі вельмі блізкія да мемуарных крыніц. У гэтай жа публікацыі С. Александровіч прывёў звесткі пра мемуарны артыкул Н. Роўбы «Паэт Белай Русі», апублікаваны праз шэсць гадоў пасля смерці пісьменніка ў газеце «Кур'ер літэўскі».

Уведзеныя С. Александровічам у навуковы ўжытак матэрыялы моцна пашырылі крыніцазнаўчую базу даследчыкаў жыцця і творчасці Багушэвіча. Па-першае, як ужо адзначалася, было пастаўлена пытанне пра ўдакладненне месца нараджэння пісьменніка (Свіраны, а не Кушляны, як традыцыйна лічылася ў нашым літаратуразнаўстве). Вялікая блытаніна і рознагалосіца існавала адносна таго, дзе настаўнічаў Багушэвіч перад паўстаннем 1863 г. Артыкулы Н. Роўбы дапамаглі ўстанавіць, што гэта было ў Доцішках былога Лідскага павета (цяпер Воранаўскі раён). Як ужо гаварылася, праясніўся з большага і паўстанцкі шлях Багушэвіча, прынамсі, гісторыкі літаратуры атрымалі ключ для раскрыцця гэтай загадкі. З'явіліся таксама новыя цікавыя сведчанні пра адвакацкую дзейнасць пісьменніка, яго высокі маральны воблік, пастаяннае жаданне дапамагчы ўсім пакрыўджаным і прыніжаным. Падрабязна апісвалася ў крыніцах пахаванне Багушэвіча, развітанне з ім роднага народа. Каштоўныя факты дазволілі канкрэтызаваць уяўленне аб творчасці пісьменніка, яго псеўданімах, аб падрыхтоўцы да выдання трэцяга паэтычнага зборніка «Скрыпачка». Атрымаўшы з гэтых крыніц звесткі пра выданне Багушэвічам празаічнай кніжкі — апавядання «Тралялёначка», С. Александровіч расшукаў у Польшчы і само гэтае выданне, чым, па-першае, істотна пашырыў кола вядомых твораў пісьменніка, а па-другое, давёў верагоднасць саміх крыніц.

Кожнае значнае адкрыццё, кожны буйны «прарыў» да новых пластоў гісторыка-літаратурных крыніц надзвычай стымулюе далейшыя крыніцазнаўчыя пошукі і даследаванні, дае імпульсы для плённых роздумаў і спрэ-

---

[175] Александровіч С. Старонкі братняй дружбы. С. 186.

чак, навуковых гіпотэз і іх далейшай праверкі. Так было і ў гэтым выпадку.

Скажам, Л. Уэмбла прывёў у сваім некралагічным артыкуле ў часопісе «Век» надзвычай высокую ацэнку літаратурна-грамадскай дзейнасці Багушэвіча, дадзеную польскай пісьменніцай Элізай Ажэшка: «Памяць памерлага Францішка Багушэвіча ўшаноўваю глыбока і вестку пра яго смерць прыняла з сардэчнай слязою. Быў ён адным з высакароднейшых людзей, якія служылі нашай зямлі, і для мяне асабіста адным з вельмі нешматлікіх сяброў. Успаміны пра яго для мяне дарагія і самотныя» (Хрэст. Ал., *96*). Перад намі вельмі важнае гістарычнае сведчанне, якое заслугоўвае самай пільнай увагі крыніцазнаўцаў. Паўстае пытанне — адкуль і наколькі дакладна Уэмбла працытаваў гэтыя словы? У якой форме (вуснай, пісьмовай) зрабіла Ажэшка свае выказванне? Адным словам, размова, як заўсёды, ідзе пра першакрыніцу.

У артыкуле «Новае пра Ф. Багушэвіча» С. Александровіч разважаў у сувязі з гэтым: «Гэтае выказванне дапаўняе нашыя звесткі пра дружбу і сяброўскія адносіны Ф. Багушэвіча і Э. Ажэшка, вядомыя з лістоў польскай пісьменніцы да Я. Карловіча. Шкада толькі, што аўтар артыкула нічога не гаворыць адносна таго, адкуль ён цытуе поўныя шчырага смутку і павагі прачулыя радкі Э. Ажэшка пра беларускага паэта. Магчыма, гэта была спачувальная тэлеграма (па свайму зместу і форме гэта выказванне нагадвае тэлеграму) славутай польскай пісьменніцы сям'і Багушэвіча. Калі гэта так і тэлеграма трапіла ў рукі аўтара артыкула, напрошваецца вывад, што ён быў у сяброўскіх адносінах не толькі з сям'ёю паэта, але і з самім Багушэвічам, а гэта значыць і іншыя звесткі ў матэрыялах Л. Уэмблы дасталверныя. Калі ж дапусціць меркаванне іншага характару, што выказванне пра смерць Ф. Багушэвіча ўзята з невядомага пакуль што нам артыкула Э. Ажэшка пра беларускага паэта, дык патрэбны далейшыя пошукі матэрыялаў у польскім друку, якія дадуць дадатковыя звесткі пра сувязі аўтара «Дудкі беларускай» з польскай літаратурай»[176]. Публікуючы артыкул Уэмблы ў хрэстаматыі крытычных матэрыялаў, яе ўкладальнікі С. Александровіч і В. Александровіч зрабілі да цытаты з Ажэшка

[176] Александровіч С. Старонкі братняй дружбы. С. 188—189.

наступную заўвагу: «Відаць, Л. Уембла выкарыстаў у сваім артыкуле спачувальны ліст ці тэлеграму, якую прыслала Эліза Ажэшка сям'і Ф. Багушэвіча ў сувязі са смерцю беларускага паэта» (Хрэст. Ал., *97*). Думка лагічная, таму што непасрэднае спачуванне Ажэшка сям'і Багушэвіча ў той або іншай форме сапраўды магло быць, але з няменшай падставай можна было меркаваць, што Уембла прывёў у сваім артыкуле радкі з нейкага пісьма Ажэшка да яго самога. Артыкул у «Веку» надрукаваны 4(17) чэрвеня 1900 г., а якраз напярэдадні, у красавіку — маі, Уембла вёў перапіску з Ажэшка пра смерць Багушэвіча і ўшанаванне яго памяці. У архіве Ажэшка захаваліся два адпаведныя пісьмы Уемблы [177]. Былі ж, трэба думаць, і адказы Ажэшка. Так яно аказалася і на самой справе. У. Казбярук падказаў нам, што адпаведнае пісьмо Ажэшка да Уемблы сапраўды існуе, захоўваецца ў вільнюскай акадэмічнай бібліятэцы сярод іншых папер архіва Уемблы [178]. Датавана яно 6 мая 1900 г. Параўнаўшы тэксты, прыходзім да высновы, што Уембла ў цэлым дакладна працытаваў радкі пра Багушэвіча. Варта ўдакладніць толькі апошнюю фразу. Вось як гучыць яна ў блізкім да арыгінала перакладзе У. Казберука: «Успамін аб ім для мяне дарагі і жалосны» [179].

Магчыма, не ўсе некралогі, прысвечаныя Багушэвічу, мы яшчэ ведаем. Па-за ўвагай нашага літаратуразнаўства застаецца, напрыклад, невялікі, але цікавы некралог, апублікаваны А. Ельскім у польскім календары каталіцкага таварыства дабрачыннасці ў Пецярбургу на 1902 г. [180]

Да некралагічных крыніц можна аднесці таксама ананімны верш на беларускай мове «На памяць зычліваму ў сям'і», які захавала для нас вядомая Хрэстаматыя Б. Эпімах-Шыпілы. Пад тэкстам пазначана: Вільня, 14.VII.1900. Верш перадае не толькі смутак у сувязі са смерцю Багушэвіча, але і даносіць многія дэталі апошніх гадоў жыцця і хваробы Багушэвіча. Твор уведзены

---

[177] Александровіч С. Лісты Ф. Багушэвіча да Э. Ажэшкі // Літ. і мастацтва. 1961. 21 лют.

[178] ЦБАН ЛітССР, ф. 151—222, л. 3—4.

[179] Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Мн., 1969. Т. 2. С. 133; Казбярук У. М. Ступені росту. Мн., 1974. С. 77.

[180] Выразку гл.: ЦНБ АН БССР, ф. 4, воп. 1, спр. 84.

каваўся ў хрэстаматыі беларускай літаратуры XIX ст. С. Александровіча, А. Лойкі і В. Рагойшы[182], цалкам (54 радкі) у кнізе В. Рагойшы «Кантакты»[183]. Пра аўтарства верша мы будзем мець нагоду яшчэ сказаць.

Значны матэрыял некралагічнага і мемуарнага характару прыведзены ў наш час у зборніку «Пачынальнікі». Тут (с. 415—417) надрукаваны цалкам на мове арыгінала артыкул М. Радзіна «Памяти Ф. К. Богушевича», у якім з вялікай цеплынёй намаляваны вобраз пісьменніка, паказана дзейнасць Багушэвіча як юрыстадэмакрата. Прыведзеная ў зборніку даведка, а таксама дадатковыя росшукі ў архівах паказваюць, што Мікалай-Калмен Ісакавіч Радзін пасля заканчэння Пецярбургскага універсітэта працаваў у Вільні памочнікам прысяжнага паверанага, а потым заняўся журналістыкай, быў сакратаром рэдакцыі газеты «Северо-Западное слово», пазней выдаваў газеты «Виленский курьер — Наша копейка», «Северо-Западный голос»[184]. Цікава, што ў газеце «Северо-Западное слово» апрача артыкула М. Радзіна змешчаны яшчэ кароткі некралог Багушэвічу за подпісам *Т. Ш.* (Пачынальнікі, *414*). Не выключана, што ў іншых выданнях Радзіна таксама знойдуцца з цягам часу матэрыялы, звязаныя з Багушэвічам. У кожным разе асоба Радзіна павінна быць на відавоку ў крыніцазнаўцаў нашай літаратуры гэтага перыяду.

У зборніку «Пачынальнікі» надрукаваны таксама ў перакладзе на беларускую мову некралог у «Краі» (с. 414—415), некралагічны артыкул Л. Уземблы «Паэт-юрыст» (с. 415—417) і цэлая падборка пад назвай «Артыкулы Н. Роўбы пра Ф. Багушэвіча» (с. 420—433). Напалеон-Казімір Роўба (1860 — пасля 1928) — віленскі журналіст, публіцыст, белетрыст. Сын удзельнікаў паўстання 1863 г., супрацоўнічаў у варшаўскіх перыядычных выданнях, а з 1905 г. у віленскіх газетах «Кур'ер літэвскі»

---

[181] Бэндэ Л. Верш аб Ф. Багушэвічу // Літ. і мастацтва. 1945. 2 жн.

[182] Беларуская літаратура XIX ст.: Хрэстаматыя. Мн., 1971. С. 358—359.

[183] Рагойша В. Кантакты. Мн., 1982. С. 50—51.

[184] ЦДГА ЛітССР, ф. 445, воп. 1, спр. 3697; ф. 446, воп. 1, спр. 853, 1290.

і «Кур'ер віленьскі». Аўтар краязнаўчых прац[185]. У 90-я гады падтрымліваў прыяцельскія адносіны з Багушэвічам, разам з пісьменнікам удзельнічаў у экскурсіі 1897 г. па Віліі і Нёману, выступіў з прамовай на пахаванні Багушэвіча. Шмат зрабіў для ўшанавання памяці Багушэвіча, надрукаваў некралог у варшаўскім часопісе «Тыгоднік ілюстрованы», у 1906 і 1928 гг. апублікаваў у віленскай перыёдыцы вялікія артыкулы пра Багушэвіча: «Паэт Белай Русі» і «Беларускі пясняр». Усе тры згаданыя матэрыялы (некралог і пазнейшыя артыкулы) пададзены ў зборніку «Пачынальнікі». Іх параўнанне сведчыць пра залежнасць мемуарыста ад многіх акалічнасцей, у першую чаргу ад агульнай грамадска-палітычнай атмасферы ў краіне. Кожны з гэтых матэрыялаў з'явіўся ў сваіх, зусім адметных, умовах. Некралог напісаны ў 1900 г., калі царызм адчуваў сябе яшчэ надзвычай упэўнена і кожная згадка пра ўдзел таго або іншага дзеяча ў антыўрадавых акцыях магла пашкодзіць гэтаму дзеячу і яго блізкім. Таму ў некралогу найбольш яскравыя ў палітычных адносінах старонкі жыцця Багушэвіча выкладзены вельмі прыблізна, зрушаны нават даты (хутчэй за ўсё наўмысна):

«Пасля заканчэння гімназіі адправіўся ў Пецярбург ва універсітэт, каб заняцца вывучэннем матэматычных і прыродазнаўчых навук.

У 1860 г. (у сапраўднасці ў самым канцы 1861 г.— *Г. К.*) вярнуўся дамоў, дзе неўзабаве быў запрошаны настаўнікам у школу, заснаваную спецыяльна для сялян у Доцішках (Лідскі павет) багатым і асвечаным памешчыкам Звяровічам.

У 1863 г. (у 1865-м. — *Г. К.*) адправіўся ў Нежын і паступіў у юрыдычны ліцэй, які з гонарам скончыў.

З таго часу стаў Ф. Б[агушэвіч] юрыстам па прафесіі і застаўся такім да канца жыцця, хоць з некалькімі зменамі» (Пачынальнікі, *421*).

Такім чынам, самы небяспечны для рэпутацыі ва ўмовах царызму перыяд жыцця Багушэвіча выглядае тут цалкам рэспектабельна, хоць згадка Звяровіча, рэпрэсіраванага ў свой час царскімі ўладамі, і была крыху рызыкоўнай, але Роўба ўмела яе абставіў: Багушэвіч служыў усяго толькі ў «багатага і асвечанага памешчыка» і было гэта каля 1860 г., яшчэ да розных смутаў. З некра-

[185] Гл. яго аўтабіяграфію 1911 г.: ЦДГА ЛітССР, ф. 1135, воп. 8, спр. 27, л. 97.

лога выходзіла, што ў 1863 г., калі многія ў краі пайшлі ў паўстанцы, Багушэвіч думаў толькі пра навуку і з гэтай марай адправіўся ў Нежын.

Цікава, што прыблізна так асвятляецца гэты перыяд і ў артыкуле Люцыяна Узембла «Паэт-юрыст»: «...скончыў гімназію. Распачаў потым вучобу на матэматычным факультэце Пецярбургскага універсітэта, але неўзабаве мусіў яе спыніць. Каля 1863 г. з поспехам заняўся прыватным настаўніцтвам у Доцішках у Лідскім пав. Праз год давялося юнаку перабрацца ў Нежын, дзе скончыў юрыдычны ліцэй» (Пачынальнікі, *417—418*).

Даводзіцца здзіўляцца, што ў многіх некралогах 1900 г., у тым ліку і ў напісаным Роўбам, раскрыты псеўданімы Багушэвіча — Мацей Бурачок і Сымон Рэўка, гаворыцца пра прыналежнасць яму сацыяльна і палітычна вострых кніг, якія выйшлі за мяжою (праўда, апошняя акалічнасць утойвалася). Але без гэтага, відаць, было проста немагчыма гаварыць пра Багушэвіча-пісьменніка.

Наступны матэрыял Роўбы — артыкул «Паэт Белай Русі» надрукаваны ў віленскай польскай газеце «Кур'ер літэўскі» ў красавіку 1906 г. Гэта быў час рэвалюцыі 1905—1907 гг., калі царызм быў вымушаны пайсці на велізарныя ўступкі ў розных галінах грамадска-палітычнага жыцця, у тым ліку і ў галіне друку і цэнзуры. Дарэчы, само ўзнаўленне польскай прэсы ў Вільні — гэта непасрэдны вынік рэвалюцыйных падзей. У гэтых умовах Роўба выкарыстаў першую, якая трапілася, гадавіну Багушэвіча (няхай зусім някруглую — шэсць год з дня смерці), каб выступіць з вялікім артыкулам пра беларускага пісьменніка. Вось тады і былі прыведзены Роўбам кароткія, але надзвычай каштоўныя звесткі пра ўдзел Багушэвіча ў падзеях 1863 г. У асноўным гэта мясціна цытавалася намі вышэй, калі размова ішла пра крыніцы, якія датычаць удзелу Багушэвіча ў паўстанні 1863 г. Таму дадзім толькі заканчэнне гэтага фрагмента: «Неўзабаве і навальніца крыху аслабела: толькі водгаласы, што засмучалі і душылі, толькі крыкі хвілёвыя і кароткія... Фр. Б[агушэвіч] здолеў спакойна, на водшыбе, перачакаць гэты найгоршы час і ў першую хвіліну, калі вярнулася сякое-такое жыццё, выехаў на вучобу ў юрыдычны ліцэй у Нежын...» (Пачынальнікі, *424*). Як бачым, Роўба ведаў пра Багушэвіча вельмі шмат. Дзе менавіта «на водшыбе» хаваўся Багушэвіч, застаецца загадкай. З пісьма Багушэвіча да маці Яна Карловіча ад 26 жніўня 1865 г. вынікае,

што гэта была Вільня, асяроддзе, блізкае да Яна Карловіча: «...мабыць, і цяпер я абіваў бы без карысці віленскі брук, калі б не яго (Яна Карловіча — *Г. К.*) высокародная дапамога, якую ён мне аказаў, даючы грошы на дарогу ў Нежын...» [186]

З новых акцэнтаў артыкула 1906 г. варта адзначыць прызнанне таго факта, што кніжкі Багушэвіча друкаваліся за мяжою ў Кракаве і Познані (Пачынальнікі, *426*), што на пахаванні пісьменніка была сказана прамова на забароненай тады ў Літве і на Беларусі польскай мове. Хоць у выніку рэвалюцыі 1905—1907 гг. польская мова атрымала правы грамадзянства, асцярожлівы Роўба яшчэ не адважваецца назваць прамоўцу: «А нехта з прысутных кароткімі, але вельмі сардэчнымі словамі ўшанаваў памяць нябожчыка па-польску. Па-польску... Было гэта тады яшчэ злачынствам» (Пачынальнікі, *423*).

Як высвятляецца з трэцяга матэрыялу Роўбы — артыкула 1928 г., прамоўцам быў сам аўтар, прычым у артыкуле вельмі падрабязна разгортваўся гэты сюжэт, не без гонару апісваліся ўсе страхі, якія давялося перажыць яму і іншым прысутным у сувязі з прамовай. Паводле артыкула, небяспека заключалася яшчэ ў тым, што прамоўца «хваліў заслугі Францішка Багушэвіча, які ўпотай спрабаваў уздзейнічаць на народ у непрыхільным для ўрада напрамку» (Пачынальнікі, *429*). Пра ўсё гэта можна было адкрыта гаварыць у польскім друку ў 1928 г., бо буржуазная Польшча ўзнікла на руінах былой імперыі цароў. Пэўнай пашанай карысталіся ў тагачаснай Польшчы і ўдзельнікі паўстання 1863 г., але Роўба чамусьці не скарыстаў новай магчымасці расказаць падрабязней аб удзеле Багушэвіча ў паўстанні. Ды і ўвогуле ў эсэістычным артыкуле 1928 г. біяграфія пісьменніка не падавалася. Затое ўжо не проста паведамлялася, і падкрэслівалася, што кнігі Багушэвіча «друкаваліся за мяжою, і была вялікая цяжкасць пераправіць іх адтуль. Толькі пасля 1905, так званага вызваленчага года, можна іх было друкаваць у Пецярбургу, але, бадай што, поўнае іх выданне ніколі не выйшла» (Пачынальнікі, *430*).

Вось некаторыя крыніцазнаўчыя назіранні над матэрыяламі Роўбы пра Багушэвіча. Трэба адзначыць, што колькасць мемуарных крыніц пра Багушэвіча, бадай што,

---

[186] Багушэвіч Ф. Творы. Мн., 1967. С. 166.

самая большая ў параўнанні з іншымі пісьменнікамі XIX ст.

Вялікая падборка мемуарных матэрыялаў была апублікавана ў 1938 г. у «Запісах Беларускага навуковага таварыства». Тут з'явіліся ўспаміны ўкраінскага дзеяча Д. Дарашэнкі, які сустракаўся з пісьменнікам у 1898 г. у Вільні, будучы гімназістам [187]. Вялікую цікавасць уяўляюць успаміны пляменніцы Багушэвіча Ю. Радзевіч і яго прыяцеля З. Нагродскага, апублікаваныя ў гэтай жа кнізе «Запісаў» і ў наш час перадрукаваныя, з асобнымі скарачэннямі, у зборніку «Пачынальнікі» [188]. Асабліва шматаспектныя і багатыя фактамі ўспаміны Нагродскага.

Паступова збіраецца гісторыкамі літаратуры і матэрыял для ацэнкі асобы мемуарыстаў. Напрыклад, пры каменціраванні ўспамінаў Ю. Радзевіч у нас былі вялікія цяжкасці з біяграфічнымі звесткамі аб ёй. Цяпер высветлілася, што гэта ўдзельніца рэвалюцыйнага руху, якая са сваім мужам Габрыелем Радзевічам належала да першых марксісцкіх гурткоў у Пецярбургу [189]. Адшукана нямала матэрыялаў і аб рознабаковай дзейнасці Зыгмунта Нагродскага [190]. В. Рагойша прыйшоў да абгрунтаванага вываду, што менавіта Нагродскі быў аўтарам верша пра Багушэвіча «На памяць зычліваму для сям'і», пра які гаворка была вышэй. Вось аргументацыя даследчыка: «Аўтар гэтага верша добра ведаў абставіны хваробы і смерці Ф. Багушэвіча... Безумоўна, так ведаць падрабязнасці жыцця паэта мог толькі вельмі блізкі чалавек, сябра сям'і... Усе факты, пададзеныя ў вершы,— абсалютна дакладныя, знаходзяць пацверджанне ў лістах Багушэвіча, успамінах пра яго. З другога боку, каб апісаць гэтыя падрабязнасці вершам, і ўвогуле неблагім, патрэбна было валодаць яшчэ і пэўным талентам, творчымі здольнасцямі. Такім чалавекам, які паядноўваў у адной асобе паэтычныя здольнасці з глыбокім веданнем бытавых пад-

---

[187] Дарашэнка Д. Старонка з маіх успамінаў: Светлай памяці Францішка Багушэвіча // Запісы Беларускага навуковага таварыства. Вільня, 1938. Сш. 1. С. 30—33.

[188] З успамінаў пляменніцы паэта Ю. Радзевіч і З. Нагродскага // Пачынальнікі. С. 433—442. Успаміны запісаны А. Луцкевічам.

[189] Кісялёў Г. З сузор'я Багушэвіча // Літ. і мастацтва. 1982. 6 жн.; Ен жа. За вокладкай сямейнага альбома // Там жа. 1983. 25 сак.

[190] Мальдзіс А. Сярод віленскіх рукапісаў // Літ. і мастацтва. 1971. 16 ліп.; Содаль У. Зыгмунт Нагродскі — сябра Багушэвіча // Содаль У. Людзьмі звацца. Мн., 1977. С. 41—45.

рабязнасцей жыцця Багушэвіча, у той час мог быць, на маю думку, толькі Зыгмунт Нагродскі»[191]. Трэба, бадай што, пагадзіцца з Рагойшам[192].

Пасля уз'яднання Заходняй Беларусі з БССР запісваюцца ўспаміны землякоў Багушэвіча[193]. Асабліва інтэнсіўна разгарнулася гэтая праца ў пасляваенны перыяд, у выніку чаго навука ўзбагацілася новымі матэрыяламі аб папулярнасці пісьменніка ў сялянскім асяроддзі, аб яго народалюбстве, побыце і г. д.[194] Пачынаючы з 50—60-х гадоў даследчыкамі беларускай літаратуры запісана нямала ўспамінаў нашчадкаў Багушэвіча — унучак С. Тамашэўскай і К. Пшаднікоўскай і інш.[195].

Эдмундам Янкоўскім у кнізе пра Ажэшка прыведзены цікавыя ўспаміны польскай грамадскай дзяячкі Стэфаніі Сэмпалоўскай (1870—1944) пра ўдзел Ф. Багушэвіча ў юбілейных урачыстасцях у Гродне ў 1892 г., прысвечаных 25-годдзю літаратурнай дзейнасці Ажэшка. Нягледзячы на вялікую розніцу ў гадах, на маладосць мемуарысткі, яна з усіх прысутных вылучыла якраз Багушэвіча, адразу адчула да яго сімпатыю. «Сярод гасцей,— расказвае Сэмпалоўская,— з якімі я пазнаёмілася ўжо ў Гродне, зацікавіў мяне адзін чалавек, які адрозніваўся вопраткай — крыху па-сялянску (у высокіх ботах і старасвецкай світцы) — ад элегантнага акружэння, паколькі толькі я адна была ў дарожнай чорнай сукенцы. Гэта быў Францішак

---

[191] Рагойша В. П. Зыгмунт Нагродскі і яго вершы // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1978. № 2. С. 19; Ён жа. Кантакты. Мн., 1982. С. 49—50.

[192] Апошнім часам гэтая атрыбуцыя замацавана публікацыяй у новым выданні хрэстаматыі беларускай літаратуры мінулага стагоддзя (Беларуская літаратура XIX ст. / Уклад. А. Лойка, В. Рагойша, Мн., 1982. С. 49—50.

[193] Ларчанка М. На радзіме Ф. К. Багушэвіча // Звязда. 1940. 26 верас. Першыя запісы рабіліся яшчэ ў 20-я гады. Гл.: Успаміны аб Мацею Бурачку / Запісаў Ант. Н-на // Сын Беларуса. 1924. 27 ліп.

[194] Вольскі В. На радзіме паэта // Літ. і мастацтва. 1950. 13 мая; Басс И., Ермолович Н. Богушевич в воспоминаниях крестьян-земляков // Изв. АН БССР. 1950. № 3. С. 43—46; Александровіч С. Незабыўныя мясціны // Александровіч С. Незабыўнымі сцежкамі. С. 44—70; Содаль У. Ён іграў на Багушэвічавай дудцы // Звязда. 1987. 7 крас.

[195] Канапацкі М. Інтэрв'ю з унучкамі Багушэвіча // Ніва (Беласток). 1962. 28 студз. (тое ж — Беларускі каляндар 1966 г. Беласток. [1965] С. 235—242); Мальдзіс А. Таямніца шклянога слоіка // Літ. і мастацтва. 1972. 27 кастр.; Содаль У. Людзьмі звацца. С. 39—41; Ён жа. Пяць дзён з Багушэвічавым унукам // Літ. і мастацтва. 1982. 19 лют.; Ён жа. Унук Мацея Бурачка // Там жа. 1982. 12 лістап.

Багушэвіч... беларускі паэт. Відаць, пан Багушэвіч адчуў, што нас аб'ядноўвае агульнасць у вопратцы, таму што сеў пры стале каля мяне, і мы пачалі доўгую размову, якая працягвалася некалькі гадзін...»[196] Надзвычай праніклівa характарызуе Сэмпалоўская адносіны Багушэвіча да моладзі, яго арганічнае імкненне ісці ў нагу з часам: «Ён быў таксама *малады* — таксама прадстаўляў мала-дыя памкненні маладога пакалення»[197].

У рэцэнзіі на першае выданне кнігі Янкоўскага А. Мальдзіс прывёў яшчэ адзін вялікі ўрывак з успамінаў Сэмпалоўскай, тэкст якіх быў прысланы яму з Польшчы. У гэтым фрагменце Сэмпалоўская занатавала гутарку з Багушэвічам, яго апавяданне пра Беларусь, пра пісьменніцкі подзвіг Ажэшка, якая з адкрытай душой спачувала беларускаму народу. «Якімі ж беззмястоўнымі здаліся мне потым выступленні паноў, апранутых у фракі»[198],— завяршае Сэмпалоўская. Успаміны Сэмпалоўскай (па кнізе Янкоўскага) выкарыстоўвае ў сваім эсе пра Багушэвіча польскі пісьменнік Ян Гушча[199]. Уладзімір Казбярук цытуе іх паводле кнігі «Жыццё і дзейнасць Стэфаніі Сэмпалоўскай» (Варшава, 1960)[200].

Хоць, на жаль, і кароткія, але надзвычай цікавыя звесткі данеслі да нас успаміны польскага прафесара-батаніка Вітальда Славінскага (1888—1962), запісаныя М. Канапацкім. Аказваецца, Багушэвіч неаднаразова гасцяваў у доме бацькоў Славінскага ў Кене (цяпер на тэрыторыі Літвы паблізу мяжы з Беларуссю). Тут ён нібыта напісаў верш «Хрэсьбіны Мацюка». «Ва ўспамінах яго (Славінскага.— *Г. К.*) бацькоў,— піша Канапацкі,— Багушэвіч застаўся як чалавек, які страсна ненавідзеў царызм. Аб ім таксама расказвалі як аб любіцелю мінулага роднага краю»[201]. Відаць, Кена вабіла Багушэвіча сваімі культурнымі традыцыямі. Тут пахаваны вядомы віленскі астраном П. Славінскі (1795—1881). Цікава, што ў нашаніўскі перыяд В. Славінскі вельмі зблізіўся з Я. Купалай. Зна-

---

[196] Jankowski E. Eliza Orzeszkowa. Wyd. 2. Warszawa, 1966. S. 396.

[197] Там жа. С. 398.

[198] Мальдзіс А. Жывы вобраз Элізы Ажэшка // Полымя. 1965. № 12. С. 184.

[199] Huszcza J. Poeta Białej Rusi // Huszcza J. Opowieści w czarnych ramkach: Okruchy, epizody, szkice. Łódź, 1979. S. 175.

[200] Казбярук У. М. Ступені росту. Мн., 1974. С. 75—76.

[201] Канапацкі М. Сэрца, якое не ведала стомы // Ніва (Беласток). 1962. 23 верас.

ёмства з Багушэвічам і Купалай ён лічыў адной з самых цікавых старонак свайго жыцця.

Мемуарны характар мае таксама цікавая крыніца, знойдзеная ў свой час А. Мальдзісам у вільнюскім гістарычным архіве [202]. Перад намі ўспаміны-справаздача. Гэта машынапісны сшытак на польскай мове пад загалоўкам: «Будаўніцтва помніка Адаму Міцкевічу ў касцёле святога Яна ў Вільні ў 1898 г.» Складзены ў жніўні 1900 г. скарбнікам камітэта К. Панятоўскім дакумент пачынаецца такімі словамі: «Гэтыя ўспаміны, па даручэнні камітэта будаўніцтва, пішу ў Закапане, у адсутнасць астатніх членаў камітэта, паколькі пісанне ў Вільні лічым небяспечным, бо можа падвесці многіх асоб пад праследаванні...» [203]. У дакуменце расказваецца пра актыўны ўдзел у гэтым камітэце Багушэвіча, адзначаецца, што ён падпісаў справаздачы камітэта ўжо на смяротным ложку: «Гэта два апошнія подпісы гэтага высакароднага патрыёта і сябра народа» [204].

*

* *

На дакументальную, навуковую аснову пастаўлена вывучэнне біяграфій і іншых беларускіх пісьменнікаў гэтага перыяду, у прыватнасці Янкі Лучыны.

Паходжанне Я. Лучыны раскрываюць дакументы радаводнай справы Неслухоўскіх, якая захоўваецца ў Цэнтральным гістарычным архіве БССР у Мінску [205]. Два дакументы з гэтай справы (метрычны выпіс аб нараджэнні Я. Лучыны, а таксама акт 1865 г. аб прылічэнні пісьменніка з братамі і сястрой да роду) апублікаваны ў зборніку «Пачынальнікі» (с. 466—468).

Даўно вывучаецца даследчыкамі студэнцкая справа Лучыны, што захоўваецца ў Ленінградскім гістарычным архіве, у фондзе Пецярбургскага універсітэта [206]. З яе да-

---

[202] Мальдзіс А. Новае пра Ф. Багушэвіча // Беларусь. 1962. № 1. С. 26; Ён жа. Беларускі паэт — ініцыятар ушанавання памяці Адама Міцкевіча // Slavia Orientalis. 1981. N 2. S. 379—381.

[203] ЦДГА ЛітССР, ф. 1135, воп. 4, спр. 460, л. 2.

[204] Там жа, л. 30.

[205] Бравер Я. Архівы расказваюць: Новыя матэрыялы да біяграфіі Янкі Лучыны // Полымя, 1971. № 7. С. 225—227.

[206] Бэндэ Л. Новыя матэрыялы аб Янку Лучыну // Полымя. 1945. № 9.

кументаў (Пачынальнікі, *469—474*) відаць, што Янка Лучына паступіў у Пецярбургскі універсітэт у 1870 г. пасля заканчэння Мінскай гімназіі (гімназічны атэстат — уласнаручная копія Лучыны — ёсць у справе). Правучыўся ён ва універсітэце няпоўны год, пасля чаго перайшоў у тэхналагічны інстытут. У тым жа Ленінградскім гістарычным архіве нашымі літаратуразнаўцамі выяўлены асобныя дакументы пра навучанне Лучыны ў тэхналагічным інстытуце [207], якія паказалі, што інстытут ён скончыў у досыць сталым узросце, у 1877 г. Архіўных дакументаў аб службе Лучыны на чыгунцы на Каўказе, а пасля ў Мінску, літаратуразнаўцы, на жаль, не маюць, хоць падобныя пошукі рабіліся.

Важнымі крыніцамі для ўзнаўлення жыццяпісу Лучыны, як і Ф. Багушэвіча, з'яўляюцца некралогі. Яны невялікія, але звестак прыводзяць шмат. Некралог у «Краі», падпісаны крыптанімам *A.* (не раскрыты), наступным чынам пераказвае знешнія факты яго жыцця пасля заканчэння інстытута: «Пазней атрымаўшы пасаду на Каўказе, прабыў там два гады, пасля чаго, знаходзячыся ў Мінску, захварэў паралічам ног. Нягледзячы на гэта, паступіў на службу ў мясцовае тэхнічнае бюро Лібава-Роменскай чыгункі, дзе і працаваў да канца жыцця» (Пачынальнікі, *474*). Менш біяграфічных фактаў у некралогу, апублікаваным у польскім тыднёвіку «Правда» за подпісам *p.* (Хрэст. Ал., *117—118*). А. Мальдзісам устаноўлена, што некралог напісаны пісьменнікам і тэарэтыкам літаратуры, рэдактарам «Правды» А. Свентахоўскім [208]. У некралогу даецца сінтэтычная ацэнка асобы і творчасці Лучыны. Такі ж характар, наколькі можна меркаваць па фрагменце, прыведзеным У. Казберуком [209], меў некралог, надрукаваны польскім паэтам А. Лянге ў тыднёвіку «Глос». У. Казбяpук згадвае таксама некралогі Лучыны ў часопісах «Пшэглёнд літэрацкі» (Кракаў) і «Тыгоднік ілюстраваны» (Варшава) [210]. Да некралогаў прымыкае ўступны артыкул «Замест прадмовы» да пасмяротнага выдання польскай паэзіі Лучыны, якое выйшла ў 1898 г. у Варшаве. Тут

---

[207] Бас І. Пецярбург — Тыфліс: З жыцця Янкі Лучыны // Бас. І. Літаратуразнаўчыя эцюды. Мн., 1977. С. 19—29.

[208] Мальдзіс А. Творчае пабрацімства. С. 135—136.

[209] Казбярук У. Літаратурныя клопаты Янкі Лучыны // Полымя. 1981. № 8. С. 235.

[210] Там жа.

змешчаны кароткі, але вельмі ёмісты біяграфічны матэрыял. Для параўнання з біяграфічнымі звесткамі «Краю» прывядзём адпаведны фрагмент: «Цяпер (пасля заканчэння тэхналагічнага інстытута.— *Г. К.*) адкрылася дарога да самастойнай працы. Як інжынер-тэхнолаг паволі ўздымаўся па службовай лесвіцы, служыў на Каўказе і пасля двух год дасягнуў пасады начальніка чыгуначных складоў. Ніколі не думаў, што так хутка прыдзецца пакінуць выбраную службу. У часе гасціявання ў Мінску пры выхадзе з канцэрта быў паралізаваны і доўгачасовае лячэнне прывяло толькі да таго, што змог хадзіць, абапіраючыся на два кіі. Такі стан здароўя дазволіў яму заняць у родным Мінску пасаду толькі ў тэхнічным бюро Лібава-Роменскай чыгункі. На той пасадзе ён дажыў да смерці.

Але душа паэта не замыкалася ў халодным коле матэматычных лічбаў, вырывалася да яснага неба, на сонечныя прасторы, з вялікай ахвотай займаўся ён паляваннем, а пад канец жыцця рыбацтвам і ўсёй душой захапляўся прыгажосцю прыроды» (Хрэст. Ал., *116*). Як бачым, тут значна болей розных дэталяў і падрабязнасцей. На жаль, імя аўтара прадмовы даследчыкам невядомае, але несумненна, што ён блізка ведаў Лучыну або атрымаў неабходныя звесткі ад асоб, што блізка яго ведалі. Такім чынам, перад намі свайго роду мемуарныя сведчанні.

З іншых мемуараў пра Лучыну трэба прыгадаць запісаныя ў наш час Г. Каханоўскім успаміны І. Атрашкевіча, 1872 г. нараджэння, які ў канцы мінулага стагоддзя служыў пасыльным ва ўпраўленні Лібава-Роменскай чыгункі ў Мінску і не адзін раз гутарыў з інжынерам Неслухоўскім (Лучынай): «...пачуўшы маё якое-небудзь вясковае слова, ён тут жа ўстаўляў: а што гэта ў вас азначае? Любіў паслухаць тутэйшую легенду, цікавіўся песнямі. Аднойчы я бачыў у яго нейкія зборы старадаўніх грошай і невядомых значкоў ці медалёў. Магчыма, гэта яму прыносілі службоўцы. Пытаўся таксама, ці ёсць каля маёй вёскі даўнія курганы, як іх называюць і што пра іх гавораць людзі. Я тады не ведаў, што Іван Люцыянавіч паэт, але ён мне падабаўся сваёй прастатой...» [211].

На прыкладзе біяграфіі Янкі Лучыны добра відаць, як паступова вучоныя пачынаюць аддзяляць звесткі аўтэнтычныя ад звестак легендарных, якія не вытрымліваюць

---

[211] Каханоўскі Г. Салаўіныя гнёзды Міншчыны // Каханоўскі Г. Адчыніся, таямніца часу. С. 190—191.

праверкі з прыцягненнем несумненных дакументальных крыніц.

Адна з такіх легенд заключаецца ў тым, што Лучына ў перыяд сваёй службы на Каўказе пазнаёміўся нібыта з М. Горкім, пасябраваў з ім. Гэтай легендзе папярэднічала другая — што Лучына ў той перыяд займаў даволі высокую пасаду начальніка Галоўных майстэрняў Закаўказскай чыгункі. Дамо слова С. Майхровічу:

«Аб тым, што Янка Лучына быў блізкім да рабочых чыгуначных майстэрняў Тыфліса, ведаў іх побыт і настроі, сведчыць такі выдатны факт з яго біяграфіі, як асабістае знаёмства з Максімам Горкім, тагачасным рабочым гэтых майстэрняў. Знаёмства, мабыць, насіла характар даволі працяглага сяброўства, калі аб ім успамінаў вялікі пралетарскі пісьменнік на трыццаць першым годзе пасля смерці Янкі Лучыны.

Вяртаючыся з Італіі на радзіму ў маі 1928 года, Аляксей Максімавіч сказаў у час сустрэчы яго рабочай дэлегацыяй Мінска,— гутарка адбывалася 27 мая, у цягніку на перагоне Негарэлае — Мінск:

— У мяне тут (на Беларусі.— *Г. К.*) шмат знаёмых было. Янка Купала, Якуб Колас, дзе яны?..

І, не дачакаўшыся адказу, запытаўся:

— А дзе Лучына? Я асабіста ведаў яго. Ці жыве Максім Багдановіч?

На адказ, што абодва памерлі, Горкі сказаў:

— Шкада..»

С. Майхровіч спасылаецца тут на рэпартаж газеты «Звязда» ад 29 мая 1928 г. і, канстатуючы факт, што аб гэтым знаёмстве ні М. Горкі, ні Я. Лучына больш нідзе не гавораць, працягвае:

«Нам зусім невядомы акалічнасці і падрабязнасці гэтага знаёмства,— іх праглынула тая глухая эпоха, калі яны адбываліся...

Як бы там ні было, відавочным застаецца адно: вялікі пісьменнік ведаў не толькі інжынера Неслухоўскага, з якім звёў яго лёс, а, што больш істотна, Неслухоўскага-Лучыну, беларускага паэта, імя якога ўспамінаў разам з імёнамі іншых песняроў нашага народа»[212].

---

[212] Майхровіч С. Нарысы беларускай літаратуры XIX ст. Мн., 1957. С. 326.

Факт гэты прыводзіўся некалі, бадай, ва ўсіх біяграфіях Лучыны. Але апошнім часам даследчыкі-крыніцазнаўцы пачынаюць «падкопвацца» пад яго. Найперш І. Бас у артыкуле «Янка Лучына на Каўказе» канстатаваў пасля азнаямлення з матэрыяламі Закаўказскай чыгункі ў Цэнтральным гістарычным архіве Грузінскай ССР у Тбілісі: «Некаторыя дакументы былой Закаўказскай чыгункі захаваліся: «Матрыкульная кніга Тыфліскіх Галоўных чыгуначных майстэрань», «Журналы здарэнняў на Закаўказскай чыгунцы», «Вопіс дакументальных матэрыялаў Галоўных чыгуначных майстэрань» і іншыя. З іх можна даведацца, хто і калі займаў пасаду начальніка тыфліскіх майстэрань. Ёсць там і загады на прызначэнне на гэтую пасаду... Прозвішча Неслухоўскага ў гэтых паперах нідзе не сустракаецца» [213]. На думку даследчыка, калі Лучына і працаваў у майстэрнях, дык на іншай пасадзе, напрыклад начальнікам чыгуначных складоў, як пра тое гаворыцца ў прадмове да зборніка польскай паэзіі Лучыны. «Дзе адбылося знаёмства Горкага і Лучыны? — пытаецца даследчык.— Лагічна думаць, што сустрэліся яны ў тых самых чыгуначных майстэрнях. У такім выпадку горад Тыфліс Іван Люцыянавіч пакінуў не раней 1891 года, бо ў канцы гэтага года малады Аляксей Пешкаў толькі быў прыняты ў майстэрню маляром. Апошняе зафіксавана ў «Матрыкульнай кнізе тбіліскіх Галоўных чыгуначных майстэрань», якая захоўваецца ў ЦДГА Грузінскай ССР.

Але пазнаёміцца яны маглі і ў другім месцы Каўказа. Чыгуначныя склады меліся не толькі ў Тыфлісе, але і ў Міхайлаўскім, Кутаісі, Батумі. Не выключана магчымасць, што Янка Лучына працаваў начальнікам аднаго з гэтых складоў і сустрэўся з Горкім, калі той летам 1892 года падарожнічаў па Закаўказзю» [214].

Наступны крок у высвятленні гэтага пытання зрабіў У. Казбярук у артыкуле «Пра каго казаў М. Горкі». Ён звярнуў увагу на паведамленне ў некралогу аб тым, што Лучына прабыў на Каўказе ўсяго два гады. «Такім чынам, ён пакінуў Тыфліс у 1879 г., на 12 гадоў раней, чым туды трапіў Максім Горкі! — робіць вывад даслед-

---

[213] Бас І. Янка Лучына на Каўказе // Літ. і мастацтва. 1977. 4 сак.

[214] Там жа.

чык.— Дык ці маглі яны сустрэцца на Каўказе? І дзе маглі скрыжавацца іх дарогі?»[215]

Далей ідзе лагічнае разважанне: «...дапусцім, што яны сапраўды пазнаёміліся ці ў Тыфлісе, ці дзе-небудзь яшчэ. Дык каго ўспамінаў вялікі рускі пісьменнік? Янка Лучына пры жыцці быў вядомы ўсюды толькі як Ян (Ясь, Іван) Неслухоўскі... Пры жыцці паэта было апублікавана ўсяго толькі некалькі вершаў, падпісаных псеўданімам. І думаецца, што калі б Максім Горкі ўспамінаў інжынера, з якім пазнаёміўся асабіста, то назваў бы тое прозвішча, якім карысталіся ўсе, а не псеўданім, мала каму вядомы. Толькі пасля выхаду ў свет зборніка «Вязанка» (1903 г.) яго ўсюды пачалі называць Янкам Лучынай»[216].

У выніку У. Казбярук прыходзіць да меркавання, што М. Горкі быў знаёмы не з Янкам Лучынай, а з рускім пісьменнікам Лучынай, аўтарам аповесці «Верачка», якая выйшла ў Маскве ў 1900 г. і прыпісвалася нейкі час Янку Лучыну.

Але ж чакайце — Максім Горкі, несумненна, меў на ўвазе менавіта беларускага паэта, а не каго-небудзь іншага. Гэта вынікае з ўсяго кантэксту выказвання Горкага, з акалічнасцей, пры якіх Горкі прыгадаў імя Лучыны. У. Казбярук адказвае на гэта сумненне: «Яно, вядома, так. Але мы не павінны забываць, што вялікі рускі пісьменнік уважліва чытаў «Нашу Ніву» і там сустракаў прозвішча Лучыны. І чаму нельга ўявіць, што ён лічыў беларускага паэта той рэальнай асобай, з якой недзе сустракаўся»[217].

Мы лічым, што многія моманты жыцця Я. Лучыны, яго службовая храналогія вымагаюць удакладнення па архіўных дакументах і такія дакументы з цягам часу будуць знойдзены, але і цяпер можна пагадзіцца з асноўнымі палажэннямі артыкула У. Казберука: М. Горкі хутчэй за ўсё з Я. Лучынай не сустракаўся, а ведаў яго імя, таму што цікавіўся беларускай літаратурай і меў звесткі аб ёй з самых розных крыніц (сяброўства з А. Багдановічам, знаёмства з настаўнікам А. Посахам, перапіска з рэдакцыяй «Нашай Нівы», чытанне беларускай перыёдыкі і г. д.). У трывалым ланцужку разваг вучонага нам зда-

---

[215] Казбярук У. Пра каго казаў М. Горкі: Штрыхі да біяграфіі Янкі Лучыны // Літ. і мастацтва. 1983. 26 жн.

[216] Там жа.

[217] Там жа.

ецца лішнім, прынамсі, неабавязковым, толькі меркаванне пра знаёмства Горкага з рускім Лучынай — аўтарам «Верачкі». Размова ішла менавіта пра беларускага Лучыну. Вось і польскі даследчык У. Вільчыньскі падкрэслівае, што «ў памяці рускага пісьменніка Неслухоўскі (Лучына) заставаўся перш за ўсё беларускім паэтам» [218]. На нашу думку, словы Горкага маглі быць проста недакладна перададзены рэпарцёрам. Фраза «я асабіста ведаў яго» з вялікай доляй верагоднасці павінна была стасавацца да Максіма Багдановіча, якога Горкі сапраўды ведаў, бо сябраваў сем'ямі з яго бацькам. А спачатку Горкі назваў трох буйных прадстаўнікоў беларускай літаратуры (Купала, Колас, Лучына), якіх асабіста не ведаў, але якіх чытаў, пра якіх чуў. Такім чынам, словы Горкага можна было б рэканструяваць наступным чынам:

« — А дзе Лучына? Ці жыве Максім Багдановіч? Я асабіста ведаў яго».

Звернемся да першакрыніцы, да старой падшыўкі «Звязды». Цікава, што пунктуацыя самога рэпартажу аб'ядноўвае і Лучыну і Багдановіча ў адным сказе. А далей Горкі гаварыў якраз пра сяброўства з Адамам Ягоравічам Багдановічам:

« — А дзе Лучына, я асабіста ведаў яго, ці жыве Максім Багдановіч?

— Абодва ўжо памерлі...

— Шкода... Бацька Максіма — мой вялікі прыяцель! Я з ім перапісваюся. Нядаўна атрымаў ад яго ліст. У мяне з ім назначана спатканне ў Калузе» [219].

Словам, тут ёсць яшчэ патрэба ў далейшых карэктывах. Для канчатковага высвятлення ісціны было б вельмі карысна, па магчымасці, прыцягнуць дадатковыя матэрыялы (рэпартажы ў іншых газетах, успаміны) пра сустрэчу Горкага з беларускімі дзеячамі на мяжы ў 1928 г.

Дарэчы, сітуацыя яшчэ больш ускладнілася нядаўнім паведамленнем Л. Зубарава, што бацька паэта, А. Багдановіч, узнавіўшы у 1923 г. перапіску з Горкім, перапыненую ў 1905 г., пісаў яму пра смерць Максіма [220]. Але

---

[218] Wilczyński W. Z polsko-wschodniosłowiańskiego pogranicza literackiego: Szkice. Zielona Góra, 1986. S. 89.

[219] Асьмоў Я. У вагоне ў Горкага // Звязда. 1928. 29 мая.

[220] Зубараў Л. «Бацька Максіма — мой прыяцель...» // Літ. і мастацтва. 1988. 28 кастр.

ўсхваляваны сустрэчай далёка не малады ўжо пісьменнік мог пра гэта проста забыць.

У кожным жыццяпісе свае крыніцы і свае праблемы, суадносіны бясспрэчнага і гіпатэтычнага, зусім пэўных звестак і «белых плям».

Надзвычай каштоўнай крыніцай для ўзнаўлення біяграфіі Альгерда Абуховіча з'яўляюцца яго мемуары. Дапаўненнем да іх служыць радаводная справа Абуховічаў, што захоўваецца ў ЦДГА БССР у Мінску [221]. У зборніку «Пачынальнікі» (с. 444—445) надрукаваны дакумент з гэтай справы — метрычны выпіс аб нараджэнні Альгерда Абуховіча. Справа аб дваранскім паходжанні роду Абуховічаў выяўлена таксама Р. Родчанкам у Цэнтральным гістарычным архіве СССР у Ленінградзе, у фондзе дэпартамента герольдыі [222]. Цікавыя звесткі па гісторыі роду ёсць і ў справе аб удзеле Іосіфа Абуховіча, дзеда пісьменніка, у паўстанні 1830—1831 гг., выяўленай Г. Каханоўскім у ЦДГА БССР у Мінску [223]. Ён жа ў адной з папулярных публікацый пазнаёміў грамадскасць з такой своеасаблівай крыніцай, як друкаваная абвестка Віленскага зямельнага банка 1883 г. аб продажы абуховічаўскіх маёнткаў за даўгі [224].

Каштоўны матэрыял змяшчаецца ва ўспамінах Язэпа Дылы (Тодара Кулешы) «Пісьменнік-дэмакрат Альгерд Абуховіч», якія з'явіліся ўпершыню ў часопісе «Беларусь» № 3 за 1958 г. З навуковым каментарыем яны перадрукаваны ў 1977 г. у зборніку «Пачынальнікі», а праз чатыры гады — у зборы твораў Я. Дылы, падрыхтаваным А. Мальдзісам [225]. Прычым Мальдзісу ўдалося ўнесці ў тэкст некаторыя істотныя папраўкі ў напісанні прозвішчаў: «У параўнанні з часопіснай і кніжнай публікацыямі выпраўлена: Тэрэль — на Піярэль, Вострасайлін — на Вострасаблін»,— канстатуецца ў каментарыях [226]. Гэтыя папраўкі грунтаваліся, у прыватнасці, на вялікай працы па вывучэнні творчай спадчыны і сувязей Абуховіча, прароб-

---

221 ЦДГА БССР у Мінску, ф. 319, воп. 2, спр. 2292.

222 Родчанка Р. Альгерд Абуховіч-Бандынэлі. С. 66—68.

223 Каханоўскі Г. Альгерд Абуховіч на тэлеэкране // Літ. і мастацтва. 1981. 5 чэрв.

224 Каханоўскі Г. Радок у біяграфію Альгерда Абуховіча // Чырвоная змена. 1986. 6 снеж.

225 Дыла Я. Творы. Мн., 1981. С. 270—274.

226 Там жа. С. 349.

ленай слуцкім краязнаўцам Рыгорам Родчанкам, пошукавая кніга якога «Альгерд Абуховіч-Бандынэлі» (1984) шмат дае для высвятлення жыццёвага шляху Абуховіча.

Тым не менш недакументаванымі яшчэ застаюцца многія важныя моманты жыцця Абуховіча, у прыватнасці яго ўдзел у паўстанні 1863 г., у сувязі з чым яму нібыта давялося зазнаць нейкія кары, пра якія гаворыць у сваіх успамінах Дыла. Прычым Дыла піша пра рэпрэсіі ў даволі агульнай форме: «Разам з Казімірам Аколавым ён прымаў удзел у паўстанні 1863 года. Пасля адбыцця кары і вяртання ў сям'ю...» (Пачынальнікі, *448*). Даследчыкі ж чамусьці вельмі канкрэтна гавораць пра ссылку ў Сібір. Нашы спробы знайсці імя Абуховіча ў дакументах царскіх карных органаў таго перыяду былі пакуль што беспаспяховыя. Р. Родчанка разважае:

«Як сведчыць Я. Дыла, пасля задушэння паўстання А. Абуховіч-Бандынэлі быў сасланы ў Сібір (недакладна.— *Г. К.*). Дзе адбываў ён ссылку і колькі гадоў, невядома. Мае пісьмы ў розныя архівы пакуль што станоўчых вынікаў не далі. Ускосныя ж звесткі сведчаць, што ссылка ў Сібір была нядоўгаю — не болей трох гадоў. Маё меркаванне грунтуецца вось на чым. У раздзеле «Мая жонка» 4. 4. 1894 г. (у першапублікацыі: 4. 4. 1904, але з папраўкай Р. Родчанкі мы згодныя.— *Г. К.*) Альгерд Абуховіч адзначыў: «Сягоння раніцай скончыўся 21 год ад смерці св. памяці маёй жонкі. Сем не споўна гадоў трывала гэта нешчаслівае пажыццё».

«Калі ад 4. 4. 1894 адняць 21 год,— працягвае Р. Родчанка,— то мы даведаемся, што яго жонка памерла 4. 4. 1873 года. Улічыўшы, што пісьменнік пражыў з жонкаю «сем не споўна гадоў», мы прыблізна вызначым дату яго шлюбу: 1866 ці 1867. Вядома, не ў дзень звароту з Сібіры ажаніўся пісьменнік. Значыць, вярнуўся ён з ссылкі ці ў 1865, ці ў 1866 годзе. Але магло, вядома, стацца і так, што ажаніўся ён у ссылцы...» [227].

Сапраўды, толькі апошняя заўвага і можа неяк яшчэ выратаваць легенду пра сібірскую ссылку Абуховіча, бо з Сібіры так хутка не вярталіся.

Кола біяграфічных крыніц пра Фелікса Тапчэўскага да апошняга часу абмяжоўвалася нешматлікімі архіўнымі дакументамі, апублікаванымі ў зборніку «Пачынальнікі»,

---

[227] Родчанка Р. Альгерд Абуховіч-Бандынэлі. С. 90.

успамінамі землякоў, запісанымі Г. Каханоўскім [228], ды надпісам-эпітафіяй на надмагільным помніку, пра які мы гаварылі ўжо на пачатку раздзела. У жыцці Тапчэўскага шмат нявысветленага. Мы не ведалі, напрыклад, прычыны і вынікі яго арышту ў 1864 г. (дакументы зборніка «Пачынальнікі» маўчаць аб гэтым). Нядаўна ў Цэнтральным гістарычным архіве ЛітССР выяўлена справа «О дворянке Лепельского уезда Еве Камионко и других лицах, оговоренных ею в преступных действиях против правительства» [229], матэрыялы якой прасвятляюць гэтае пытанне. Аказваецца, Фелікс Тапчэўскі і яго брат Мікола былі арыштаваны ў сувязі з паказаннямі жыхаркі Лепельскага павета Е. Камёнкі, якая сцвярджала, што ў красавіку 1863 г. браты Тапчэўскія далучыліся да паўстанцкага атрада О. Грабніцкага. Але давесці гэта царскім следчым не ўдалося і братоў праз некаторы час выпусцілі з турмы. Справа змяшчае нямала розных дэталяў з жыцця маладога «Фэлькі з Рукшэніц» [230]. Тым не менш выяўленне новых крыніц аб жыцці і дзейнасці Тапчэўскага — надзённая задача нашага літаратуразнаўства, асабліва калі ўлічыць, што некаторыя даследчыкі звязваюць з яго імем такі выдатны помнік беларускай літаратуры, як паэма «Тарас на Парнасе» [231].

Першыя звесткі пра паэта-рэвалюцыянера Адама Гурыновіча прывёў у 1913 г. В. Ластоўскі ў артыкуле «Памажыця!»: «Родам з Вілейскага павета. Пісаў вершы і прозу, памёр у 1894 гаду. У 1893 г. сядзеў паўгода ў Пецярбурзе ў крэпасці, скончыўшы тэхналагічны інстытут. У крэпасці пісаў па-беларуску, былі яго беларускія рукапісы з крэпастнымі штэмплямі. Належаў да рэдакцыі нелегальнай беларускай газеты «Гоман». Патрэбна яго жыццеапісанне, партрэт, рукапісы і газетка «Гоман» (Наша Ніва. 1913. 19 верас.). Указанне на сувязь занадта маладога Гурыновіча з «Гоманам» 1880-х гадоў нельга прызнаць рэальным. М. Гарэцкі дадаў новыя факты, таксама часткова легендарныя: «...збіраў народныя песні

---

[228] Каханоўскі Г. Рукшаніцы і Вухвішча // Каханоўскі Г. Адчыніся, таямніца часу. С. 86—93.

[229] ЦДГА ЛітССР, ф. 378, Паліт. аддз., 1864 г., спр. 1506.

[230] Кісялёў Г. Вакол загадкі «Фэлькі з Рукшэніц» // Шляхам гадоў. Мн., 1990. [Вып. 2]

[231] Казбярук У. Міфы і рэальнасць: Яшчэ раз пра аўтарства паэмы «Тарас на Парнасе» // Літ. і мастацтва. 1985. 29 сак.

ў Лідскім (у сапраўднасці — у Свянцянскім.— *Г. К.*) павеце... Выдаў кніжку: «Дзядзька Антон, або гутарка аб усім чыста, што баліць»[232].

Надзвычай важныя звесткі падаў у 1921 г. у газеце «Беларускі звон» Браніслаў Тарашкевіч[233]. Яны засноўваліся на ўспамінах бліжэйшых сваякоў Гурыновіча, якія пазнаёмілі Тарашкевіча з матэрыяламі асабістага архіва паэта, з яго творчымі рукапісамі. Упершыню публікаваліся вершы паэта.

Старыя і новыя звесткі цікава сышліся ў «Беларусах» Я. Карскага (1922). Па-першае, ён выкарыстаў (не заўсёды крытычна) матэрыялы Гарэцкага і Ластоўскага: «*Адам Гурыновіч* (+1894) належаў да рэдакцыі нелегальнай газеты «Гомон» (але ў ёй нічога беларускага не было [маецца на ўвазе мова выдання.— *Г. К.*]). Выдаў лацінкай кніжку «Dziaćka Anton, albo hutarka ab usim czysta szto balić» (у 90-х гадах). У «Zbior wiadomości» (XVI, 239—251) надрукаваны народныя песні, сабраныя ім у Лідскім павеце» (Карский, 3/3, 77). Тут падаспела згаданая публікацыя Тарашкевіча ў «Беларускім звоне», і Карскі спасылаецца на яе ў канцы кнігі (у слоўніку пісьменнікаў) з залішне асцярожлівай заўвагай: «Можа быць, гэтыя вершы таго ж аўтара, пра якога ў нас гаворыцца на стар. 77, толькі надрукаваны яны са значным спазненнем» (Карский, 3/3, *389*).

У 30-х гадах да вывучэння жыцця Гурыновіча і папулярызацыі яго творчасці падключыўся Я. Шутовіч[234], які прадоўжыў гэту працу ў 60-я гады[235]. Публікацыі Я. Шутовіча, як і Тарашкевіча, каштоўныя найбольш звесткамі і матэрыяламі, атрыманымі ад сваякоў паэта, у першую чаргу ад яго пляменніцы Яніны Гурыновіч (1894—1967), вядомага дзеяча навукі і захавальніцы сямейнага архіва. У наш час архіў Гурыновіча ў розных яго частках вывучалі А.Мальдзіс[236] і некаторыя іншыя даследчыкі.

---

[232] Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літаратуры. Вільня, 1920. С. 101.

[233] Новую публікацыю артыкула Б. Тарашкевіча «Адам Гурыновіч» гл.: Пачынальнікі. С. 480—482.

[234] Шутовіч Я. Адам Гурыновіч: У 40-я ўгодкі смерці // Беларуская крыніца. 1934. 18 сак.; Ён жа. Адам Гурыновіч // Калоссе. 1935. Кн. 1. С. 27—33.

[235] Шутовіч Я. Адам Гурыновіч: Паводле старых і новых архіўных матэрыялаў // Полымя. 1966. № 11. С. 149—157.

[236] Мальдзіс А. Польскія вершы А. Гурыновіча // Беларусь. 1963. № 3. С. 29; Ён жа. Таямніцы старажытных сховішчаў. С. 63—70.

Вялікі ўклад у вывучэнне жыцця і дзейнасці Гурыновіча зрабіла Р. Гульман, якая ў 1956 г. выявіла ў архівах Масквы, Ленінграда і Вільнюса значную колькасць каштоўных дакументаў пра паэта. Яны публікаваліся ў газеце «Літаратура і мастацтва» [237], зборніку тэкстаў «Беларуская пісьменнікі другой паловы XIX ст.» [238] Найбольш поўная іх публікацыя зроблена ў 1958 г. у зборніку «Беларуская літаратура. Даследаванні і публікацыі» [239].

Найперш гэта студэнцкая справа Адама Гурыновіча, знойдзеная ў Дзяржаўным гістарычным архіве Ленінградскай вобласці (цяпер Ленінградскі дзяржаўны гістарычны архіў). Сярод дакументаў, што захоўваюцца ў справе, ёсць копія метрычнага выпісу аб нараджэнні, атэстат аб заканчэнні паэтам 14 чэрвеня 1886 г. поўнага курса Віленскага рэальнага вучылішча, атрыманае праз год пасведчанне аб заканчэнні механіка-тэхнічнага аддзялення дадатковага класа гэтага ж рэальнага вучылішча, прашэнне ад 5 жніўня 1887 г. аб залічэнні ў студэнты Пецярбургскага тэхналагічнага інстытута, перапіска 1888 г. у сувязі з хваробай Гурыновіча пра паўторнае залічэнне на I курс інстытута.

У гэтым жа фондзе тэхналагічнага інстытута (Ленінградскі гістарычны архіў) захоўваецца яшчэ невялікая перапіска 1893 г. Пецярбургскага жандарскага упраўлення з дырэкцыяй інстытута ў сувязі з арыштам Гурыновіча [240].

З матэрыялаў Цэнтральнага гістарычнага архіва ЛітССР у Вільнюсе ў публікацыі Р. Гульман пададзены пастанова жандарскага ротмістра ад 16 чэрвеня 1893 г. аб арышце Гурыновіча і адпраўцы яго ў будынак № 14 Віленскай цытадэлі і рапарт наглядчыка будынка № 14 аб выбыцці арыштанта Гурыновіча ў Пецярбург для далейшага следства [241].

Але найбольш важны матэрыял выяўлены ў фондзе Дэпартамента паліцыі (ЦДГА СССР у Маскве, цяпер

---

237 Гульман Р. З архіўных матэрыялаў пра Адама Гурыновіча // Літ. і мастацтва. 1956. 26 мая.

238 Архіўныя дакументы аб А. Гурыновічу // Беларускія пісьменнікі другой паловы XIX ст.: Зб. тэкстаў. Мн., 1956. С.324—328.

239 Гульман Р. І. Новыя архіўныя матэрыялы пра Адама Гурыновіча //Беларуская літаратура: Даследаванні і публікацыі. Мн., 1958. Вып. 1. С. 229—260.

240 Там жа. С. 244—245.

241 Там жа. С. 244.

Цэнтральны архіў Кастрычніцкай рэвалюцыі СССР). Гэта шматлікія дакументы са следчых спраў аб рэвалюцыйнай дзейнасці А. Гурыновіча і яго сяброў у пецярбургскім гуртку «Кола польскае» («Гурток моладзі польска-літоўскай, беларускай і маларускай»), цесна звязаным з першымі рускімі і польскімі марксісцкімі арганізацыямі. Сярод іх апублікавана паліцэйская выпіска з надзвычай цікавага пісьма Гурыновіча да С. Пяткевіч у Цюрых ад 12 лістапада 1892 пра набыццё рэвалюцыйнай, у тым ліку марксісцкай, літаратуры на польскай, рускай, украінскай і беларускай мове. З гэтага пісьма па сутнасці і пачынаецца ўся аб'ёмістая (на 215 старонках) справа Дэпартамента паліцыі пад назвай «О водворении в пределы России преступных воззваний из заграницы» (ДП, 7-е справаводства, спр. 229 за 1893 г.) [242]. Далей публікуюцца дакументы сакрэтнай сочкі за Гурыновічам перад арыштам, тэлеграфны загад Дэпартамента паліцыі ў адрас Віленскага губернскага жандарскага ўпраўлення арыштаваць студэнта-тэхнолага Адама Калікставіча Гурыновіча, які выехаў у Вільню і спыніцца на вуліцы Пірамонт у доме Гурыновічаў [243], перапіска Дэпартамента паліцыі з Мінскім жандарскім упраўленнем пра разгляд васьмі сшыткаў на беларускай гаворцы, адабраных у Гурыновіча пры арышце, пратаколы допытаў А. Гурыновіча, даклады цару ўпраўляючага Міністэрствам юстыцыі П. Бутоўскага за 1895 г. па выніках расследавання справы Гурыновіча і яго таварышаў. Некаторыя новыя матэрыялы аб рэвалюцыйнай дзейнасці Гурыновіча, яго інтэрнацыянальных сувязях адшукаў Р. Семашкевіч, які даў свежае прачытанне і ўжо вядомым фактам [244]. У нашых публікацыях пра аднаго з першых расійскіх марксістаў Г. Радзевіча, сваяка і сябра Ф. Багушэвіча, выказваецца думка, што Гурыновіч у часы сваёй рэвалюцыйнай дзейнасці ў Пецярбургу павінен быў мець кантакты з Г. Радзевічам (праз апошняга ён мог пазнаёміцца з Багушэвічам) [245].

Беларускае літаратуразнаўства назапасіла шмат разнастайных крыніц пра Гурыновіча, трэба чакаць абагуль-

---

[242] Беларуская літаратура. Даследаванні і публікацыі. Вып. 1. С. 230.

[243] Там жа. С. 243.

[244] Семашкевіч Р. Інтэрнацыянальныя сувязі Адама Гурыновіча // Полымя. 1971. № 9. С. 249—252; Ён жа. Беларускі літаратурна-грамадскі рух у Пецярбурзе. Мн., 1971. С. 27—39.

[245] Кісялёў Г. З сузор'я Багушэвіча // Літ. і мастацтва. 1982. 6 жн.

няльных прац пра яго (на жаль, распачатая Р. Семашкевічам манаграфія пра паэта-рэвалюцыянера не была завершана), у працэсе якіх будуць удакладнены і некаторыя спрэчныя моманты біяграфіі Гурыновіча (напрыклад, сядзеў або не сядзеў ён у Петрапаўлаўскай крэпасці, рэальны гэта факт або зноў жа легенда, якіх нямала ў гісторыі нашай літаратуры?).

Назавём таксама некаторыя крыніцы аб жыцці і дзейнасці Аляксандра Ельскага. Адна з самых важных — артыкул аб Ельскім Леанарда Лепшага ў «Вялікай агульнай ілюстраванай энцыклапедыі»[246], які заснаваны на аўтабіяграфіі Ельскага 1902 г. Гэта ж крыніца выкарыстоўваецца ў змястоўным артыкуле пра Ельскага ў «Польскім біяграфічным слоўніку»[247]. Больш раннія ўласнаручныя аўтабіяграфічныя нататкі Ельскага (1900), як ужо гаварылася, захоўваюцца ў аддзеле рукапісаў Цэнтральнай бібліятэкі АН ЛітССР. Цікавы матэрыял змяшчаецца ў некралогах[248], у кнізе (часткова мемуарнай) Л. Жыцкай і М. Лэнскай пра дзейнасць палякаў на Міншчыне пасля паўстання 1863 г.[249] У згаданай кнізе прыведзена, у прыватнасці, апісанне збораў Ельскага, зробленае яго ўнукам. Рукапісны матэрыял, на якім грунтуецца кніга Жыцкай і Лэнскай, захоўваецца ў Цэнтральным гістарычным архіве ЛітССР у Вільнюсе[250]. Апошнім часам намі паводле гэтага матэрыялу зроблена публікацыя «Замосце: скарбы Аляксандра Ельскага»[251].

З крыніц больш прыватнага характару можна ўказаць на архіўную справу канцылярыі віленскага генерал-губернатара 1860 г. пра выдачу Ельскаму замежнага пашпарта[252]. Сувязі Ельскага, яго аўтарытэт у навуковым свеце характарызуе «Кніга для запісу асоб, якія аглядаюць зборы ў Замосці, пачатая ў 1882 годзе», выяўленыя А. Маль-

---

[246] zy. [Lepszy L.] Jelski Aleksander // Wielka encyklopedya powszechna ilustrowana. Warszawa, 1903. T. 31—32. S. 845.

[247] Bieńkowski W. Jelski Aleksander // Polski Słownik Biograficzny. Wrocław etc., 1964. T. 11. Z. 48. S. 148—150.

[248] Гоман. 1916. 29 верас.; Беларускі каляндар на 1917 год. С. 36—37.

[249] Życka L., Łęska M. Działalność popowstaniowa polaków na ziemi mińskiej. S. 21, 123—126, 247—248.

[250] ЦДГА ЛітССР, ф. 1135, воп. 21, спр. 63, 64.

[251] Шляхам гадоў. Мн., 1990. [Вып. 1]

[252] ЦДГА ЛітССР, ф. 378, Агульн. аддз., 1860 г., спр. 1084.

дзісам у Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве [253]. Паводле характарыстыкі А. Мальдзіса, у кнізе 255 запісаў. Музей наведалі вядомыя вучоныя Катарбінскія, Здзяхоўскі, Федароўскі, Талька-Грынцэвіч, пісьменнік Вайсангоф. Ёсць запісы на рускай, французскай, нямецкай, дацкай мовах. Звяртаюць на сябе ўвагу асобныя запісы на беларускай мове, у тым ліку вершаваны запіс ад 12 верасня 1892 г. С. П. Ельскага. Музей Ельскага даволі каларытна апісаны ва ўспамінах калекцыянера Антона Уняхоўскага, запісаных яго дачкой і апублікаваных у кнізе «Уняхоўскі расказвае, або Таямніцы антыкварскай мафіі» (1975). Прывядзём для прыкладу характэрны невялікі фрагмент, выкарыстаны А. Мальдзісам у артыкуле «Гісторыі унікальных рэчаў»: «Гэта быў аднапавярховы дом, у які заходзілі праз вялікую, ашклёную з усіх бакоў веранду. На верандзе стаялі велізарныя карэтныя куфры — чорныя, шасціграныя, акаваныя жалезам. Куфры гэтыя калісьці прывязвалі пасамі ззаду фурманкі або карэты. Дзверы з правага боку цёмнай пярэдняй вялі ў кабінет старога. Гэта быў вялізны пакой, які займаў амаль палову дома, застаўлены ўсюды лабірынтам паліц з кнігамі. Зверху на гэтых паліцах стаялі і ляжалі розныя прадметы і памятныя рэчы: археалагічныя знаходкі з мясцовых курганаў, бюсты, гаршкі, узоры народнай керамікі» [254]. Уняхоўскі характарызуе Ельскага як чалавека, які «ясна прадбачыў канец, які напаткае царскі ўрад і пануючы клас» [255]. Гэтая характарыстыка не супярэчыць таму, што нам вядома з яго пісьмаў да Я. Карловіча, апублікаваных у зборніку «Пачынальнікі». У прыватнасці, 16 (28) лютага 1890 г. Ельскі пісаў Карловічу: «Свет знаходзіцца напярэдадні катаклізмаў, пасля якіх павінны прыйсці новыя грамадскія групоўкі. Ад гэтага паваротнага пункту пачнецца свабодны нацыянальны рух, дык і некалькімільённы беларускі народ разаўе свой дух у натуральным кірунку» (Пачынальнікі, *355*).

Несумненна, наспела пара для стварэння манаграфічнай працы пра Аляксандра Ельскага, у працэсе якой будуць занава прачытаны, належным чынам расшыфраваны вядомыя крыніцы пра яго і выяўлены новыя.

---

[253] Мальдзіс А. Падарожжа ў XIX стагоддзе. С. 162—163.

[254] Мальдзіс А. Гісторыі унікальных рэчаў // Беларусь. 1979. № 4. С. 17; Uniechowska K. Uniechowski opowiada, czyli tajemnice mafii antykwarskiej. Warszawa, 1975. S. 21.

[255] Uniechowska K. Uniechowski opowiada... S. 25.

За межамі нашага разгляду засталіся разнастайныя біяграфічныя матэрыялы К. Каліноўскага (гэта спецыяльная тэма[256]), крыніцы, звязаныя з біяграфіямі некаторых іншых пісьменнікаў XIX ст., але прыведзеных фактаў і назіранняў дастаткова для вываду, што наша гісторыка-літаратурная навука мае ўжо немалы вопыт працы ў гэтых адносінах. Літаральна на вачах адбываецца дабратворны і плённы працэс пашырэння кола крыніц, выяўлення новых, больш глыбокага вывучэння і асэнсавання ўжо вядомых матэрыялаў. Мы бачым, як пастунова, але няўхільна — самымі рознымі шляхамі — запаўняюцца «белыя плямы» ў нашых ведах аб літаратуры мінулага, у жыццяпісах пісьменнікаў надзвычай адказнага і дынамічнага перыяду складвання нацыі. Важна падкрэсліць, што працы нашых вучоных у галіне біяграфічных даследаванняў усё больш становяцца на цвёрдую навуковую аснову. Легенды, малаабгрунтаваныя меркаванні ўсё больш саступаюць месца дакладным, выверaным звесткам, другасныя матэрыялы — першакрыніцам.

Але зрабіць яшчэ трэба шмат. Беларуская літаратуразнаўчая біяграфіка ўсё яшчэ знаходзіцца як бы на падрыхтоўчым этапе. Нямала прабелаў рознага характару выявілася ў працэсе падрыхтоўкі універсальных энцыклапедычных выданняў, «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі», «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі», біябібліяграфічнага слоўніка беларускіх пісьменнікаў. Значэнне згаданых даведачных выданняў для актывізацыі працы біёграфаў заключаецца ў тым, што яны патрабуюць ад біяграфічных распрацовак пэўнай сістэматычнасці, увагі да многіх дэталяў, якія ў іншых выпадках могуць даследчыкамі абмінацца. Наша XIX стагоддзе ўсё яшчэ нельга лічыць да канца даследаваным не толькі ў сэнсе пазнання агульных заканамернасцей літаратурнага працэсу, але і ў адносінах вывучэння саміх дзеячаў літаратуры гэтага перыяду як пэўных асоб з індывідуальнымі чалавечымі рысамі і біяграфіямі. Па сутнасці, у нас няма ніводнай падрабязнай навуковай пісьменніцкай біяграфіі гэтага перыяду. Кожны значны пісьменнік

---

[256] Кісялёў Г. Летапіс жыцця і дзейнасці Кастуся Каліноўскага // Кісялёў Г. З думай пра Беларусь. Мн., 1966; Киселев Г. В. К характеристике революционного мировоззрения К. С. Калиновского: «Сведения» В. Ф. Ратча как исторический источник // Славянское источниковедение. М., 1965.

XIX ст.— Чачот, Дунін-Марцінкевіч, Багушэвіч, Лучына, Ельскі, Гурыновіч і інш.— заслугоўвае важкай біяграфічнай манаграфіі, дзе б з вычарпальнай паўнатой, грунтоўна, без небяспечнай у такіх выпадках скорагаворкі асвятляліся ўсе этапы не толькі творчасці, але і жыццёвага шляху літаратара.

Гэтай працы магло б садзейнічаць дадатковае расшуканне гісторыка-літаратурных крыніц, іх далейшае паглыбленае вывучэнне і публікацыя ў зборніках тыпу «Пачынальнікі» або ў персанальных зборніках, прысвечаных буйным пісьменнікам: «Дунін-Марцінкевіч у дакументах і матэрыялах», «Дакументы і матэрыялы аб Багушэвічу» і г. д. Надзвычай карыснымі былі б таксама зборнікі па відах крыніц, напрыклад «Эпісталярная спадчына беларускіх пісьменнікаў XIX ст.», «Пісьменнікі XIX ст. ва ўспамінах». Вялікім укладам у літаратуразнаўчую біяграфіку была б і падрыхтоўка падрабязных, навукова выверaных летапісаў жыцця і творчасці пісьменнікаў мінулага стагоддзя, дзе кожны факт быў бы ўзгоднены з іншымі і забяспечаны дакладнымі спасылкамі на першакрыніцы.

# І дух, і літара

*Яшчэ пра тэксталогію*

Прадоўжым размову пра тэксталагічныя праблемы, распачатую ў раздзеле «Інвентарызацыя ведаў».

Ад XIX ст. захавалася вельмі мала аўтографаў беларускіх пісьменнікаў. Чарнавікі, якія найлепш раскрываюць сам працэс напісання твора, інакш кажучы, творчую лабараторыю, ёсць хіба ў архіве А. Гурыновіча. Звычайна тэкстолагі карыстаюцца друкаванымі выданнямі або рукапіснымі копіямі твораў — вынікам вуснага і рукапіснага бытавання літаратуры.

Апошняя акалічнасць збліжае нашу тэксталогію XIX ст. з тэксталогіяй сярэдневяковай літаратуры, калі тэкстолаг мае справу амаль выключна з пазнейшымі спісамі і рэдакцыямі і толькі шляхам іх уважлівага супастаўлення атрымлівае магчымасць у большай або меншай ступені наблізіцца да першапачатковага аўтарскага тэксту [1]. Гэта характэрна найперш для тэксталогіі ананімных паэм.

Справа ўскладняецца ў даным выпадку яшчэ тым, што, у адрозненне ад сярэдневякоўя, калі літаратура была здабыткам толькі абмежаванага кола адукаваных людзей, у XIX ст. папулярныя творы нашай літаратуры ішлі шырока ў народ і іх спісаў, у тым ліку недастаткова пісьменных, было вельмі шмат. Асабліва гэта датычыць паэмы «Тарас на Парнасе». «И до того, брахнийки [брахочкі], дайшло,— пісаў Е. Раманаў,— што «Тараса» — усё ровно, як «Сон Богородицы»,— найдеш уво ўсякой хати. Письменные щиро пишуть его сабе на паперку, тёмные ще щирей вучутца яго на памяць» (Пачынальнікі, *16*). Да гэтага трэба дадаць поўную неўсталяванасць

---

[1] Гл.: Рейсер С. А. Основы текстологии. 2-е изд. Л., 1978. С. 4—7; Лихачев Д. С. Текстология: На материале русской литературы X—XVII веков. 2-е изд. Л., 1983. С. 43—47.

арфаграфічных норм беларускай мовы ў XIX ст., а таксама наяўнасць дзвюх графічных сістэм («гражданка» і лацінка).

Асновы навуковай тэксталогіі паэмы «Энеіда навыварат» яшчэ на пачатку нашага стагоддзя заклаў акадэмік Я. Карскі. Ён уважліва апісаў і прааналізаваў усе вядомыя на той час рукапісныя і друкаваныя тэксты паэмы, падзяліў іх на дзве рэдакцыі (віцебскую і смаленскую), пераканальна давёў, што абедзве яны ўзыходзяць да аднаго і таго ж тэксту. Параўнальны тэкст быў надрукаваны ў якасці дадатку да артыкула пра беларускую «Энеіду» ў «Сборнике Харьковского историко-филологического общества». Ва ўступнай нататцы Карскі тлумачыў: «У аснове выдання тэксту ляжыць запіс Барыса Залескага 1851 г., як самы акуратны і поўны; варыянты падводзяцца па ўсіх астатніх спісах і двух друкаваных урыўках, прычым адзначаюцца толькі лексічныя адрозненні і часткова ў формах, але не ў гуках, не гаворачы ўжо пра арфаграфію. Апошняя ва ўсіх спісах ды й у надрукаваных урыўках вызначаецца крайняй нявытрыманасцю і непаслядоўнасцю» [2]. Прапрацаваная Карскім тэксталагічная праца, удалы выбар асноўнага спіса («Енеида с малороссийского на смоленский крестьянский язык переложенная Викентием Ровинским (помещиком Духовщинского уезда)») дапамаглі вучонаму падысці да паспяховага вырашэння вельмі няпростага пытання пра аўтарства паэмы.

Праз дзесяць гадоў тэкст «Энеіды» быў перададзены В. Ластоўскім у часопісе «Крывічанін». За аснову Ластоўскі ўзяў тэкст Карскага, але ўнёс у яго некаторыя змены «паводле маючыхся ў рэдакцыі рукапісных тэкстаў з Дзісенскага і Вяліжскага [Веліжскага] паветаў» [3]. На жаль, новыя прыцягнутыя спісы не былі апісаны, як таго патрабуе тэксталагічная навука. Тэкст страціў некаторыя архаічныя дэталі, важныя для ўстанаўлення акалічнасцей узнікнення паэмы. Так, радок «І ў Сташкаў Ніле пакланісь» быў папраўлены такім чынам: «І ў Сташкаў Нёбе пакланісь». Замест рэальнай Нілавай пустэльні, якая знаходзілася ў горадзе Асташкаў па суседству са Смаленшчынай, у тэксце з'явілася чамусьці гераіня старажытнагрэчаскай міфалогіі Нёба (Ніябея). Рэальная карціна была дэфармавана.

---

[2] Карский Е. Белорусская Энеида наизнанку // Сборник Харьковского историко-филологического общества. Харьков, 1909. Т. 18. С. 158.

[3] Крывічанін. 1918. № 1. С. 24.

У публікацыі Карскага ёсць радок: «І плыць япрэйтару казаў». Гэта сапраўды камічна (наш вельмі празаічны «япрэйтар» — яфрэйтар — раптам трапляе ў часы Энея) і да таго ж можа навесці на думку пра прыналежнасць аўтара паэмы да саслоўя вайскоўцаў, прынамсі, пра яго працяглы вайсковы вопыт. У «Крывічаніне» радок выглядае інакш: «І плыць надкорніку казаў». Здаецца, «надкорнік» (рулявы) больш, чым сухапутны «япрэйтар», падыходзіць да сітуацыі, бо размова ідзе пра марское судна, але ў паэтыцы камічных твораў важную ролю адыгрываюць якраз алагізмы. Механічная логіка можа ў даным выпадку падвесці тэкстолага. У тэксталогіі падобныя небяспечныя для навукі змены-кан'ектуры называюцца папраўкамі асэнсавання.

Выдаўцы нашых ананімных паэм пераважна ішлі па лініі стварэння «зводных рэдакцый». Гэта творчы акт хутчэй папулярызатарскага, чым навуковага характару. Тут усё залежала ад густу публікатара. «Па зводнай рэдакцыі» паэма «Энеіда навыварат» друкавалася, напрыклад, у зборніку тэкстаў «Беларуская літаратура XIX стагоддзя» (1940) і ў некаторых іншых выданнях.

Глыбокае разуменне праблемы «зводных рэдакцый» выказаў У. Казбярук. «На чарзе стаіць задача правядзення сур'ёзнай, складанай і адказнай тэксталагічнай работы,— слушна ставіць пытанне даследчык. — Паасобныя ананімныя творы, перш чым трапіць у друк, прайшлі праз рукі многіх людзей, часта недастаткова кампетэнтных і ўважлівых да тэксту, да мастацкага слова наогул. Кожны правіў так, як яму хацелася — часта з найлепшымі намерамі, каб зрабіць твор па-мастацку больш дасканалым, каб садзейнічаць яго папулярнасці... Аднак сёння важна ведаць не тое, якім твор мог быць пасля адпаведнай дапрацоўкі, а тое, якім ён быў на самай справе ў час свайго нараджэння: як у ім адлюстравалася эпоха, светапогляд і светаўспрыманне аўтара, якія былі рэальныя мастацка-вобразныя асаблівасці твора. Вызначаць гэтыя асаблівасці з так званых «зводных рэдакцый», апрацаваных у наш час,— справа вельмі ненадзейная і неперспектыўная. Гэта прыблізна тое ж самае, што разглядаць мастацкія каштоўнасці нейкага твора паводле перакладу» [4].

Іншая справа — навуковыя параўнальныя спісы, прыклад якіх даў Я. Карскі.

---

[4] Казбярук У. Заняпад і адраджэнне // Полымя. 1990. № 6. С. 224.

У наш час новы параўнальны спіс «Энеіды навыварат» надрукаваў І. Бас[5]. За аснову ён узяў спіс Б. Залескага (паводле публікацыі Карскага) і прывёў варыянты паводле хрэстаматыі М. Гарэцкага 1922 г. і зборніка тэкстаў 1940 г. Праца І. Баса ў даным выпадку мае абмежаванае значэнне, паколькі ён не прыводзіць варыянтаў надзвычай важных старадаўніх спісаў, пададзеных у свой час у публікацыі Карскага. Да таго ж кола вядомых спісаў паэмы з цягам часу пашыраецца, напрыклад, фалькларыст І. Цішчанка нядаўна пазнаёміў нас са старадаўнім якасным спісам паэмы, выяўленым ім у ленінградскім акадэмічным архіве. Спіс называецца: «Энеида, с малорусского на Смоленский крестьянский язык переложенная В. П. Ров...»[6] Варта чакаць новых тэксталагічных прац, звязаных з «Энеідай навыварат».

Надзвычай складаная тэксталогія паэмы «Тарас на Парнасе». Надрукаваная ўпершыню ў 1889 г. паэма доўгі час перад гэтым распаўсюджвалася вусна і ў рукапісах. Спісаў, а пасля 1889 г. і выданняў паэмы было вельмі шмат. У працэсе бытавання паэмы яе тэкст у той або іншай ступені дэфармаваўся, рэдагаваўся перапісчыкамі і рэдактарамі.

У адным з характэрных варыянтаў, напрыклад, пералік выдатных пісьменнікаў, якія па праву ўзыходзілі на Парнас («Сам Пушкін, Лермантаў, Жукоўскі і Гогаль»), атрымаў зусім іншую рэдакцыю: «Міцкевіч, Пушкін, Каханоўскі і Гогаль» (вынік бытавання паэмы ў асяроддзі польскай культурнай арыентацыі). Першы варыянт, несумненна, больш адпавядаў аўтарскай задуме, паколькі ў паэме паказвалася барацьба лагераў у рускай літаратуры сярэдзіны XIX ст. Ды і ўсёй сваёй формай і зместам паэма звязана з традыцыямі рускай, а не польскай літаратуры[7]. Тым не менш другі варыянт да самага апошняга часу таксама даволі шырока ўжываўся ў навукова-папулярных выданнях.

Важным этапам літаратурнай гісторыі «Тараса на Парнасе» была «зводная рэдакцыя», прапанаваная ў 1896 г. Е. Раманавым. Ён надрукаваў даволі спраўны тэкст паэмы, прывёўшы варыянты паводле многіх спісаў, якія

---

[5] «Энеіда навыварат»: Параўнальны спіс // Бас І. Літаратурныя пошукі, знаходкі, даследаванні. Мн., 1969. С. 124—133.

[6] Гл.: Киселев Г. Разыскивается классик... Мн., 1989. С. 222.

[7] Гл.: Казбярук У. М. Ступені росту. Мн., 1974. С. 34.

былі ў яго распараджэнні. На жаль, гэтыя спісы ім ніякім чынам не пашпартызаваліся і не характарызаваліся. Тым не менш сваю працу ён выканаў са значным мастацкім густам, з глыбокім разуменнем паэтыкі твора, аўтарскай задумы. Яго даволі дасканалая з мастацкага боку «зводная рэдакцыя» была пакладзена ў аснову ўсіх пазнейшых выданняў паэмы.

Аднак задачы навуковай тэксталогіі паэмы заставаліся нявырашанымі. Тэкстолаг абавязаны перадаць не толькі дух, але, скажам так, і «літару» твора. Надзвычай карыснай у гэтым плане была тэксталагічная праца І. Баса, які падрыхтаваў і апублікаваў у 1960 г. «Параўнальны спіс» паэмы. У прадмове даследчык пісаў: «Для «Параўнальнага спіса» паэмы «Тарас на Парнасе» намі выкарыстана 16 найбольш цікавых і характэрных, на наш погляд, друкаваных тэкстаў гэтага твора, а таксама два неапублікаваныя рукапісныя варыянты. Як правіла, даюцца разначытанні (лексічныя і часткова фанетычныя і арфаграфічныя), захавана арфаграфія і пунктуацыя друкаваных і рукапісных тэкстаў паэмы»[8]. У якасці асноўнага даследчык выбраў тэкст паэмы, выдадзены ў Мінску ў 1945 г. Руплівае супастаўленне варыянтаў дазволіла вучонаму зрабіць даволі важную тэксталагічную прапанову. «У пераважнай большасці дарэвалюцыйных друкаваных варыянтаў паэмы,— адзначаў І. Бас у сваёй працы,— ёсць чатырохрадкоўе, якое, як правіла, адсутнічае ў тэкстах паэмы, што апублікаваны за апошнія 30—35 год. У віцебскіх выданнях гэтыя радкі чытаюцца так:

Ина страпухой ўзята ў небо,
Каб есть варыць и платьтя мыть,
Небось, на тяжким живеть хлеби,
Ти шутка-ж стольких накармить.

Радкі гэтыя ёсць,— працягваў вучоны,— і ў дайшоўшых да нас рукапісных спісах паэмы, толькі ў спісе Шэйна замест слова *страпуха* іншае — *наймітка*.

У плане сацыяльнай характарыстыкі персанажаў, паказу ў паэме беларускага сялянскага побыту часоў прыгонніцтва прыведзеныя вышэй радкі маюць важнае значэнне і павінны быць, на нашу думку, уключаны ў тэкст

---

[8] Бас І. Друкаваныя і рукапісныя варыянты паэмы «Тарас на Парнасе» // Беларуская літаратура: Даследаванні і публікацыі. Мн., 1960. Вып. 3. С. 217.

усіх наступных выданняў. Думаецца, што яны былі і ў арыгінале твора» [9]. Нельга не пагадзіцца з гэтай трапнай прапановай.

Зусім новую рэдакцыю паэмы апублікаваў у 1971 г. журналіст П. Шаўцоў, які пазнаёміў грамадскасць з сямейным паданнем пра тое, што аўтарам як «Энеіды навыварат», так і «Тараса на Парнасе» з'яўляецца продак Шаўцовых, які ўдзельнічаў у дзекабрысцкім руху і пад імем Яўхіма Крупенькі хаваўся ад царскіх улад у Клімавіцкім павеце былой Магілёўскай губерні. У пацвярджэнне прыводзіўся тэкст паэмы, нібыта запісаны П. Шаўцовым ад сваякоў у 1945 г. Там мноства новых радкоў і нават дыялогаў. Іх аналіз [10] паказвае, што перад намі хутчэй за ўсё своеасаблівая літаратурная містыфікацыя, пазнейшы (не раней 1930-х гадоў) тэкст, які не ўяўляе вялікай каштоўнасці для тэкстолага, а цікавы найбольш з пункту погляду гісторыі бытавання паэмы ў часе, яе папулярнасці, «функцыяніравання» [11].

Шмат новага ўносіць у тэксталогію твора спіс паэмы з матэрыялаў А. Рыпінскага, апублікаваны нядаўна В. Скалабанам ў гісторыка-літаратурным зборніку «Шляхам гадоў» [12]. Тэкст мае ў публікацыі назву «Узлезшы на Парнас, што відзіў там Тарас?», але, мяркуючы па надрукаванаму ў гэтым жа зборніку артыкулу М. Піятуховіча 1929—1930 гг., перад невялікай прадмовай Рыпінскага да паэмы была яшчэ больш звыклая для нас назва: «Тарас» з падзагалоўкам па-польску: «Прытча [opowiastka] Канстанціна Вераніцына» [13]. Гэты спіс цікавы не толькі тым, што мае ўказанне на аўтара і надзвычай каштоўную храналагічна-тапаграфічную паметку (15 красавіка 1855 г., Гарадок), але і самім сваім характарам і зместам.

Па-першае, перад намі даволі акуратны тэкст, які можна разглядаць як блізкі да аўтарскага, а па-другое, у гэтым спісе ёсць дзве дадатковыя страфы, якія добра гарманіруюць з астатнім тэкстам паэмы. У сцэне ўзыходжання літаратараў на Парнас дабаўлена наступнае чатырохрадкоўе (падаём яго з усімі асаблівасцямі; у квадратных

---

[9] Беларуская літаратура: Даследаванні і публікацыі. Вып. 3. С. 216.

[10] Кісялёў Г. Пошукі імя. Мн., 1978. С. 162—164; Киселев Г. Разыскивается классик... С. 305—307.

[11] Бельчиков Н. Ф. Литературное источниковедение. М., 1983. С. 136.

[12] Шляхам гадоў. Мн., 1990. [Вып. 1.] С. 236—245.

[13] Там жа. С. 221.

дужках — наша тэксталагічная прапанова-ўдакладненне [14], прынятая і ў публікацыі В. Скалабана):

Вось нехта, сеўшы ў тарантаси,
На гару цягнецца трушком;
Знаць, любяць ты[х] и на Парнасе,
Хто езьдзиць конна,— а ни пяшком [15].

У гэтых радках даволі лёгка пазнаецца постаць тагачаснага рускага пісьменніка Уладзіміра Салагуба, аўтара знакамітай аповесці «Тарантас» (1845). Наш паэт-разначынец, не інакш, падсмейваецца з арыстакратызму Салагуба (граф) і яго паплечніка па выданні кніжкі — ілюстратара князя Гагарына. Як вядома, кнізе папярэднічала сумеснае падарожжа аўтара і мастака. Здаецца, наш вельмі чуйны і назіральны паэт у курсе ўсіх гэтых акалічнасцей.

Другая дадатковая страфа ўкладзена ў вусны палясоўшчыка Тараса — ён просіць Зявеса адпусціць яго з Парнаса дамоў:

Да и сварытца будзиць жонка,
Што я дасюличка ня йду;
Куды-ж итци, у яку старонку,
Кали дароги не знайду? [16]

Відавочна, дадатковыя радкі не супярэчаць аўтарскаму стылю, паэтыцы славутага твора. Калі яны з'явіліся? Як нам здаецца, мы маем справу з першапачатковай рэдакцыяй паэмы, якая захавала імя аўтара і паметку пра час і месца напісання. Магчыма, пазней сам аўтар яшчэ раз вярнуўся да свайго твора, адкінуў строфы, якія патрабавальнаму мастаку падаліся чамусьці лішнімі. Зрабіў ён, мабыць, і стылістычныя папраўкі. Для запісанай Рыпінскім рэдакцыі, у цэлым, як ужо адзначалася, даволі добрай, характэрна, напрыклад, не зусім удалая форма «палесаўнік» замест «палясоўшчык».

Палесауник я з Пуцявишча,—

тлумачыць Тарас парнаскім багам. Тут гучанне радка яшчэ даволі натуральнае. Але на пачатку паэмы гэтае слова робіць радок цяжкім, груваcткім:

---

[14] Киселев Г. Разыскивается классик... С. 408.
[15] Шляхам гадоў. Мн., 1990. [Вып. 1] С. 239.
[16] Там жа. С. 244.

Чы знаў з вас, браты, хто Тараса,
Што ў палесауниках быў?

Таму пасля гэтае слова (мабыць, самім аўтарам) было заменена на больш лёгкае «палясоўшчык».

Гэта ж рэдакцыя нашай паэмы з пералічанымі тэксталагічнымі «прыметамі» (двума дадатковымі строфамі і словам «палесаўнік») нядаўна выяўлена Я. Янушкевічам у Ягелонскай бібліятэцы ў Кракаве [17]. Пазначаны на кракаўскім спісе год напісання (1854) вельмі блізкі да храналогіі спіса Рыпінскага. Есць там і заўвага перапісчыка, якая пацвярджае правільнасць нашага суаднясення першай дадатковай страфы з У. Салагубам. Паколькі кракаўскі спіс узнік у польскім асяроддзі, то заўвага гэтая ў дэталях не вельмі дакладная. Вось, у перакладзе з польскай мовы, яе тэкст, які сведчыць пра даволі прыблізнае знаёмства каментатара з рускай літаратурай: «*Салагубаў* [так!] — аўтар выдання [pisma] у Расіі пад назвай «Тарантас» — сярэдняй вартасці. Багаты гэта чалавек, які, здаецца, грашмі схіляў да сябе меркаванні прадажных крытыкаў».

Знаходка ранняй рэдакцыі «Тараса на Парнасе», якая дагэтуль заставалася, па сутнасці, невядомай нашай навуковай грамадскасці, без перабольшання адкрывае новы этап у тэксталогіі гэтага твора. Дарэчы, тэксталогія спіса Рыпінскага ўжо разглядалася ў свой час у дысертацыі літаратуразнаўцы В. Мачульскага «Даследаванні па гісторыі беларускай літаратуры» (1946), які ўважліва параўнаў гэты спіс з некаторымі іншымі рэдкімі спісамі, што захоўваліся перад вайной у рукапісных аддзелах Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. І. Леніна і Беларускай Акадэміі навук (спісы А. Багдановіча, К. Даўкшы, А. Шлюбскага). На жаль, абароненая за межамі Беларусі дысертацыя не была надрукавана і беларускія даследчыкі аб ёй зусім не ведалі. Нядаўна яна паступіла на захаванне ў Цэнтральны архіў-музей літаратуры і мастацтва БССР [18]. У сувязі з указанымі апошнімі знаходкамі ствараецца грунтоўная аснова для новых абагульняючых прац у галіне тэксталогіі паэмы «Тарас на Парнасе».

---

[17] Янушкевіч Я. «Тарас на Парнасе» ў Кракаве: Да 100-годдзя першай публікацыі паэмы // Літ. і мастацтва. 1989. 2 чэрв.

[18] Скалабан В. Новыя матэрыялы з гісторыі беларускай літаратуры XIX стагоддзя // Шляхам гадоў. Мн., 1990. [Вып. 1] С. 212—217; Киселев Г. Разыскивается классик... С. 401—404.

Не менш складаная тэксталогія ананімнага антыпрыгонніцкага верша «Вясна гола перапала», які хранагічна адносіцца да пярэдадня сялянскай рэформы і па сваёй высокай літаратурнай тэхніцы, культуры сілаба-танічнай версіфікацыі (вытрыманы харэй) можа быць пастаўлены ў адзін шэраг з паэмай «Тарас на Парнасе» (не выключана нават, што яны належаць аднаму аўтару). Раннія публікацыі верша па розных крыніцах належалі М. Доўнар-Запольскаму (1896) і Е. Раманаву (1900). Былі копіі верша, зробленыя рукой В. Дуніна-Марцінкевіча, што давала падставу прыпісваць яму аўтарства гэтага твора[19]. Пра варыянтнасць тэкстаў сведчыць нават першы радок: у адных выпадках — «Вясна гола перапала...» (што больш натуральна), у другіх — «Вясна, голад перапала...» Над тэксталогіяй твора раздумваў яшчэ Р. Зямкевіч, які пісаў: «Гэтага верша вядомы дзве рэдакцыі ўласнай рукі Марцінкевіча, і розніца іх у тым, што адзін напісаны спакойна, бо з пропускамі, а другі вельмі востра» (Пачынальнікі, *26*). Апошнім часам высветлілася, што верш цалкам увайшоў у п'есу «Адвячорак» (1858) віцебскага літаратара Г. Марцінкевіча — там верш прыпісваецца нейкаму магілёўцу і асуджаецца за сацыяльную вастрыню[20]. Для нас п'еса «Адвячорак» з'яўляецца, такім чынам, дадатковай крыніцай тэксту верша «Вясна гола перапала». Наша літаратуразнаўства мае патрэбу ў навуковай публікацыі гэтага верша з улікам усіх тэксталагічных крыніц.

Дарэчы, сама п'еса «Адвячорак» — самабытны твор беларускай літаратуры сярэдзіны XIX ст.— дайшла да нас усяго толькі ў выглядзе пазнейшага спіса, які ўзыходзіць да рукапісных зборнікаў А. Рыпінскага. Твор перапісаны Рыпінскім па невядомай нам крыніцы ў 1877 г. у вёсцы Страганы на Віцебшчыне, дзе ён тады жыў. Каля 1929 г. прафесар М. Піятуховіч паводле рукапісаў Рыпінскага (цяпер у арыгінале невядомых) рыхтаваў п'есу разам з іншымі тэкстамі для публікацыі ў акадэмічным гісторыка-літаратурным зборніку. Зборнік не выйшаў, машынапіс працы Піятуховіча «Рукапісы Рыпінскага» з тэксталагічнымі дадаткамі захаваўся ў Маскве ў літаратуразнаўцы В. Мачульскага і нядаўна (дзякуючы

---

[19] Кісялёў Г. Спасцігаючы Дуніна-Марцінкевіча. Мн., 1988. С. 55—57.

[20] Шляхам гадоў. Мн., 1990. [Вып. 1] С. 266—271.

В. Скалабану і Г. Сурмач) трапіў у ЦДАМЛіМ БССР. Машынапіс Піятуховіча стаў, такім чынам, унікальнай тэксталагічнай першакрыніцай.

У рукапісе Рыпінскага (і адпаведна ў машынапісе Піятуховіча) аўтар п'есы не называўся, п'еса мела падзагаловак: «Аказія ў карчме пад Фалковічамі» (тапонім рэальны — пад Віцебскам сапраўды ёсць такая вёска). Гэты падзагаловак і даў магчымасць атрыбуціраваць п'есу: было вядома, што віцебскаму літаратару Гераніму Марцінкевічу належала беларуская п'еса «Аказія пад палкоўніцам», або «Аказія пры палкоўніцах». Цяпер ёсць усе падставы думаць, што гэта ўсяго толькі перакручаны падзагаловак п'есы «Адвячорак» (гукавое супадзенне амаль поўнае).

Схематычна гісторыя тэксталагічных крыніц п'есы «Адвячорак» выглядае так: 1) аўтарскі тэкст (1858 г.[21]) невядомы, 2) спіс Рыпінскага 1877 г. (з аўтографа? з копіі?) прапаў, 3) засталася машынапісная копія, зробленая Піятуховічам каля 1929 г. са спіса Рыпінскага.

Па такой жа прыблізна схеме складвалася гісторыя тэксталагічных крыніц вершаваных аповесцей В. Дуніна-Марцінкевіча «Быліцы, расказы Навума» і «Травіца брат-сястрыца». Творы напісаны ў 1857 г., але ў друк з-за цэнзурных ускладненняў тады не трапілі. У 1929 г. цэнзурныя рукапісы аповесцей былі набыты кафедрай гісторыі беларускай літаратуры нашай Акадэміі навук. І. Замоцін адразу стаў рыхтаваць іх да публікацыі ў тым жа акадэмічным зборніку, у якім тэксты Рыпінскага збіраўся апублікаваць Піятуховіч. Зборнік быў нават часткова набраны, але, як ужо гаварылася, у свет не выйшаў. Рукапісы Дуніна-Марцінкевіча загінулі, аднак засталіся падрыхтоўчыя матэрыялы Замоціна (часткова ў выглядзе наборнага рукапісу, а часткова нават у выглядзе друкарскага адбітка). Захаваліся яны ў асабістым архіве Л. Бэндэ, матэрыялы якога ў 60-х гадах паступілі ў ЦДАМЛіМ БССР.

Тэкст камедыі Дуніна-Марцінкевіча «Залёты» таксама збярогся толькі ў выглядзе копіі (надзвычай акуратнай), зробленай у 1893 г. з арыгінала Б. Эпімах-Шыпілам (архіў Л. Бэндэ ў ЦДАМЛіМ БССР). Было вядома, што польскамоўныя тэксты камедыі ў свой час пераклаў на беларускую мову Янка Купала. Параўнанне «купалаўска-

---

[21] Шляхам гадоў. Мн., 1990. [Вып. 1] С. 232.

га» тэксту камедыі з першакрыніцай (сёння такой першакрыніцай з'яўляецца копія Эпімах-Шыпілы) паказала, што Купала не толькі перакладчык, ён закрануў і структуру твора, даў сваю версію, сваю апрацоўку «Залётаў».

Падрабязна тэксталогія твораў Беларускага дудара раскрыта намі ў кнізе «Спасцігаючы Дуніна-Марцінкевіча» і ў некаторых іншых публікацыях [22]. У ходзе крыніцазнаўчых і тэксталагічных даследаванняў была выказана думка, што вядомы вільнюскі рукапіс «Пінскай шляхты» — не пераклад славутай камедыі на ўкраінскую мову, як лічылася, а аўтарскі тэкст гэтага твора, напісанага Дуніным-Марцінкевічам на пінскай гаворцы. Пасля было даведзена нават, што гэта ўласнаручны аўтограф Дуніна-Марцінкевіча [23]. Крыніцазнаўча-тэксталагічныя даследаванні прывялі, такім чынам, да важных адкрыццяў, якія ўносяць шмат новага ў нашы ўяўленні пра творчы шлях Беларускага дудара.

Цікавую тэксталагічную працу прарабіў У. Мархель адносна вядомага беларускага верша У. Сыракомлі «Добрыя весці». У даным выпадку аўтографаў таксама няма. Есць толькі публікацыі і спісы рознага часу, якія тэкстуальна розняцца паміж сабой. «Такім чынам,— паставіў даследчык задачу,— даўно наспела патрэба вызначыць асноўны тэкст «Добрых весцяў», супаставіць яго з вядомымі варыянтамі, выявіць разначытанні, паходжанне якіх звязана з недакладна пачутым, прачытаным ці запісаным словам, а таксама з памылкамі друку, і на падставе іх літаратурна-моўнага аналізу па магчымасці рэканструяваць тэкст, набліжаны да кананічнага» [24]. За аснову тэксту У. Мархель узяў прыжыццёвую публікацыю верша ў нелегальнай брашуры «Гутарка старога дзеда» (1862). Уважлівым супастаўленнем даследчыку ўдалося выявіць дзве структурна адрозныя рэдакцыі тэксту (дыялагічную і маналагічную), паказаць два перыяды працы Сыракомлі над творам — 1848 і 1861 гг. Адпаведная «рэканструкцыя» як вынік карпатлівага тэксталагічнага даследавання апублікавана У. Мархелем

---

[22] Кісялёў Г. «Паслухайце, браткі, Навума старога...» // Свитязь. Мн., 1989. С. 124—132.

[23] Янушкевіч Я. Арыгінал «Пінскай шляхты» // Літ. і мастацтва. 1982. 30 ліп.

[24] Мархель У. І. Лірнік вясковы: Сыракомля ў беларуска-польскім літаратурным узаемадзеянні. Мн., 1983. С. 105.

у кнізе «Лірнік вясковы» (1983) і — больш поўны варыянт — у другім выданні хрэстаматыі беларускай літаратуры XIX ст. (1988). Можна спрачацца з асобнымі прыватнымі тэксталагічнымі рашэннямі (нам здаецца больш пераканаўчым варыянт: «Годзе ж вам, годзе мужыцкія дзеці / З хаткі астаткі брацъ на пабор»[25]), але нельга не прызнаць значнай метадалагічнай каштоўнасці праробленай У. Мархелем тэксталагічнай працы.

Праблема рэканструкцыі тэксту паўстае і перад даследчыкамі верша Ф. Савіча «Там блізка Пінска...», апублікаванага ўпершыню ў кнізе Э. Паўловіча «Успаміны з-над Віліі і Нёмана» (1882). Аўтографа, на жаль, не захавалася, Э. Паўловіч меў усяго толькі нялепшую копію. Справа ўскладняецца своеасаблівасцю мовы Савіча (пінскі дыялект). Гісторык А. Смірноў піша ў сувязі з гэтым: «Дайшоўшыя да нас копіі вершаў [верша] Савіча (нам вядомы дзве ў следчых справах, адна ў запісе Э. Паўловіча) маюць нязначнае розначытанне ў асобных радках. Перад філолагамі стаіць задача — рэканструяваць гэтыя вершы па захаваўшыхся спісах з улікам палескага дыялекту аўтара»[26]. Але, на нашу думку, розначытанняў існуе больш, што адзначае і С. Александровіч: «Пры аналізе мовы верша трэба мець на ўвазе, што ён быў напісаны ў сярэдзіне 30-х гадоў мінулага стагоддзя і дайшоў да нас у непісьменных копіях сярод іншых следчых матэрыялаў, а ў друк трапіў значна пазней. Таму ў гэтым творы побач з моцным уплывам жывой мовы Піншчыны, некаторымі паланізмамі ёсць мясціны, якія перададзены проста недакладна, вельмі прыблізна»[27]. Так што тэкстолагаў і тут чакае сур'ёзная праца.

Нярэдка неабходнасць рэканструкцыі тэксту выклікаецца памылкамі наборшчыкаў, якія часта не ведалі беларускай мовы і моцна псавалі тэкст. Тым больш калі твор выдаваўся за мяжою. Так было з некаторымі творамі А. Вярыгі-Дарэўскага, А. Ельскага. Ды і тэкстолагу Ф. Багушэвіча даводзіцца з гэтым сутыкацца.

Бывае і свядомае «ўдасканальванне» тэксту публікатарамі. Напрыклад, развітальны верш Кастуся Каліноўскага, надрукаваны ўпершыню ў 1867 г. у Парыжы разам

---

[25] Гл.: Кісялёў Г. Сейбіты вечнага. Мн., 1963. С. 130.

[26] Смірноў А. Франц Савіч. Мн., 1961. С. 58.

[27] Александровіч С. Францішак Савіч // Александровіч С. Старонкі братняй дружбы. Мн., 1960. С. 171.

з «Пісьмамі з-пад шыбеніцы» (аўтограф верша невядомы), цікавы сваёй двухпланавасцю — змагар звяртаецца ў сваіх медытацыях то да каханай дзяўчыны, то да любімага «мужыцкага народа». Гэта выдатна гарманіруе з цэльнасцю натуры Каліноўскага, які непарыўна злучаў асабістае з грамадскім. Але публікатарам 1916—1922 гг. (В. Ластоўскі, М. Гарэцкі) гэта, відаць, здавалася супярэчнасцю, і зварот «Марыська чарнаброва» замяняўся зваротам «Беларуска зямелька». Апошні варыянт з'явіўся нядаўна зноў у зборніку тэкстаў «Вытокі» (1988). Сляды такога падыходу знаходзім і ў другім выданні хрэстаматыі беларускай літаратуры XIX ст. (1988). Першы радок тут пададзены правільна: «Марыська чарнаброва, галубка мая...», але пачатак трэцяга чатырохрадкоўя выглядае так:

Не наракай, *народзе,* на сваю бяздолю...

У першапублікацыі:

Не наракай, *Марыся,* на сваю бяздолю...

Розніца, як бачым, вялікая.

*
* *

Пэўныя тэксталагічныя праблемы, цяжкасці, складанасці ўзнікаюць пры даследаванні творчай спадчыны амаль кожнага беларускага пісьменніка XIX ст.

Аўтографы твораў Яна Баршчэўскага, як і многіх іншых пісьменнікаў, у большасці да нас не дайшлі, таму крыніцамі тэкстаў служаць галоўным чынам іх першапублікацыі.

Два яго вядомыя беларускія вершы, «Дзеванька» і «Гарэліца», упершыню надрукаваны ў пецярбургскім альманаху «Рочнік літэрацкі» за 1843 г. Апошнім часам А. Каўка выказаў гіпотэзу, што гэта народныя песні [28], а не творы Баршчэўскага, але літаратурнае паходжанне гэтых вершаў не выклікае сумненняў, да таго ж «Дзеванька»

---

[28] Каўка А. Якімі скарбамі багатыя... // Шляхам гадоў. Мн., 1990. [Вып. 1] С. 331.

трывала звязана з Баршчэўскім нават біяграфічна (Пачынальнікі, *66, 79*).

Даволі складанай з'яўляецца тэксталогія галоўнага беларускага твора Баршчэўскага «Рабункі мужыкоў».

Упершыню два невялікія ўрыўкі з гэтай паэмы былі прыведзены А. Рыпінскім у кнізе «Беларусь» (Парыж, 1840). Паэма называлася тут «Бунт мужыкоў супроць аканома». Вялікі ўрывак (67 радкоў) надрукаваў праз чатыры гады Р. Падбярэскі ў сваім артыкуле «Беларусь і Ян Баршчэўскі», які з'яўляецца прадмовай да кнігі Баршчэўскага «Шляхціц Завальня» (Пачынальнікі, *72—73*). Запісаны з вуснаў народа варыянт пададзены ў артыкуле краязнаўца А. Семянтоўскага «Віцебск», надрукаваным у «Памятной книжке Витебской губернии» на 1864 г. У гэтым варыянце значна завостраны сацыяльны момант. Тут ёсць, напрыклад, такія радкі:

Досяць нас бізуном сеч,
Цяпер і мы будзем іх печ,
Цяпер наша пара жыць, гуляць,
А эканомаў у саху запрагаць.

На думку Н. Перкіна, мы маем у даным выпадку справу з рэдакцыяй, аддаленай ад першапачатковага аўтарскага тэксту [29].

Яшчэ адзін варыянт паэмы Бяршчэўскага, урывак з 72 радкоў, захоўваецца ў Цэнтральным гістарычным архіве БССР у Гродна, у следчай справе аб хваляванні крошынскіх сялян ў 1828 г. [30] Гэта копія тэксту, запісанага П. Багрымам для следчага Нечвалодава. Назва твора тут новая — «Размова хлопаў». У гэтым варыянце, які блізкі да варыянтаў Семянтоўскага, таксама ёсць сацыяльна дзёрзкія радкі:

Дзяцюкі! Худо нам жыць,
Пакіньмо прыгон служыць,
Зробім вольнасць і урэч
Нас урадпік ніе будзе сеч;
Ці мы людзі не такія,
Што нам угрозы усякія.

---

[29] Перкін Н. Літаратурная спадчына Яна Баршчэўскага і Яна Чачота // Перкін Н. Абсягі думкі. Мн., 1980. С. 199—200.

[30] ЦДГА БССР у Гродна, ф. 1, воп. 2, спр. 1334, л. 42—43; публікацыя: Бас І. Літаратурныя пошукі, знаходкі, даследаванні. С. 135—137.

Выказвалася думка, што гэтыя радкі маглі быць унесены ў тэкст самім П. Багрымам[31]. У першым выданні хрэстаматыі беларускай літаратуры XIX ст. (1971) яны пададзены як асобны ананімны верш.

У публікацыі Р. Зямкевіча (гл. яго кнігу «Ян Баршчэўскі — першы беларускі пісьменнік XIX ст.», Вільня, 1911) твор Баршчэўскага мае 83 радкі, публікацыя ў хрэстаматыі беларускай літаратуры[32] налічвае 111 радкоў. Канкрэтныя крыніцы апублікаванага тэксту публікатары, на жаль, не называюць.

Такім чынам, у тэксталогіі гэтага твора, які займае значнае месца ў гісторыі беларускай літаратуры, ёсць нямала нявырашаных пытанняў. Існуць розныя думкі наконт назвы твора. Напрыклад, укладальнікі хрэстаматыі, адштурхоўваючыся ад назвы, пададзенай Рыпінскім, назвалі сваю публікацыю «Бунт хлопаў». Неабходна ў будучым навуковае выданне твора з усімі варыянтамі.

Польскамоўная творчасць Баршчэўскага, якая складае адно цэлае з яго беларускай творчасцю, прадстаўлена найперш чатырма томікамі яго галоўнага твора «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях» (Пецярбург, 1844—1846) і зборнікам «Проза і вершы», выдадзеным у Кіеве ў 1849 г. У зборнік уваходзяць аповесць «Душа не ў сваім целе» і паэма «Жыццё сіраты».

Нямала асобных твораў Баршчэўскага на польскай мове раскідана па перыядычных выданнях. Напрыклад, Н. Перкін у свой час выявіў у альманаху «Незабудка» (1840—1844) наступныя яго вершы і балады:

У першым томе — вершы «У дзень імянін Юзі О.», «Да Юліі», «Напамін маткі».

У другім томе — балады «Русалка-варажэйка», «Дзявочая крыніца», «Пачаноўская гара ў Невельскім»; вершы «Да Элізы Л.», «Знак», «Да Мадэсты Л-скай» і інш.

У трэцім томе — вершы «Падарожжа», «Кветкі», «Пакуты» (санет), «Да Іаанны А...віч» (як цяпер відаць — Іаанна Абрамовіч, сястра кампазітара[33]), «Да Станіслава Юрэвіча»[34], «Смутак», «Да моладзі»; балады «Дзве

---

[31] Бас І. Каму належаць вершы? // Беларусь. 1963. № 11. С. 29.

[32] Беларуская літаратура XIX ст.: Хрэстаматыя // Мн., 1971. С. 81—83.

[33] Кісялёў Г. Героі і музы. Мн., 1982. С. 82—85.

[34] Юр'евіч Станіслаў Осіпавіч значыцца сярод знаёмых А. Пушкіна (Черейский Л. А. Пушкин и его окружение. Л., 1976. С. 493). У 50-х гадах быў віцебскім губернскім маршалкам шляхты.

бярозы», «Роспач», «Курганы», «Прысяга», «Фантазія з часоў першага нашэсця татараў».

Нарэшце, у чацвёртым томе — вершы «Паўночнае ззянне», «Санеты», «Да Юзэфы Шапялевіч», «Вясна ў сталіцы» і інш.; балады «Партрэт», «Зарослае возера», «Рыбак», «Помста», «Ніна — фантазія» [35].

Арыгінальная «філасофска-беларуская», паводле вызначэння Р. Падбярэскага (Пачынальнікі, *71*), аповесць Баршчэўскага «Драўляны Дзядок і кабета Інсекта» ўбачыла свет у «Незабудцы» (т. 5) і «Рубоне» (т. 8).

Беларускіх даследчыкаў і літаратараў чакае вялікая праца па перакладу польскамоўнай творчасці Баршчэўскага на беларускую мову, па падрыхтоўцы збору яго твораў. Першыя крокі ў гэтым кірунку зроблены ў 1916 г. віленскай беларускай газетай «Гоман», якая апублікавала ў перакладзе Я. Станкевіча шэраг легенд са «Шляхціца Завальні». У 1917 г. дзве легенды выйшлі нават асобнымі брашурамі. У хрэстаматыі 1971 г. надрукаваны фантастычныя апавяданні са «Шляхціца Завальні» «Пра чарнакніжніка і змяю, што вывелася з яйка, знесенага пеўнем» (пераклад М. Гарэцкага) і «Белая сарока» (пераклад В. Рагойшы), у «Пачынальніках», у нашым перакладзе, пададзены аўтарская прадмова і ўступныя нарысы (у тым ліку «Нарыс паўночнай Беларусі») да «Шляхціца Завальні». Апошнім часам у нашай перыёдыцы сталі з'яўляцца ўдалыя пераклады са «Шляхціца Завальні», зробленыя маладым філолагам М. Хаустовічам. Нарэшце, у 1990 г. выдавецтва «Мастацкая літаратура» выпусціла ў перакладзе М. Хаустовіча кнігу Баршчэўскага «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях», куды, апрача самога «Шляхціца Завальні», увайшла яшчэ згаданая аповесць «Драўляны Дзядок...» Гэта вельмі значны этап засваення сучаснай культурай творчай спадчыны Яна Баршчэўскага.

Пры жыцці Яна Чачота з'явіліся наступныя яго кнігі (усе яны друкаваліся ў Вільні):

1) «Сялянскія песенькі з-над Нёмана» (1837).

2) «Сялянскія песенькі з-над Нёмана і Дзвіны» (1839).

3) «Сялянскія песенькі з-над Дзвіны» (1840).

4) «Сялянскія песенькі з-над Нёмана і Дзвіны, з дадаткам арыгінальных на славяна-крывіцкай мове» (1844).

5) «Сялянскія песенькі з-над Нёмана, Дняпра і Днястра» (1845).

---

[35] Перкін Н. Абсягі думкі. С. 178—179.

6) «Сялянскія песенькі з-над Нёмана і Дзвіны, некаторыя прыказкі на славяна-крывіцкай мове і яе самабытныя словы, з назіраннямі над гэтай мовай» (1846).

7) «Маральныя аповесці для дзяўчат, з французкай мовы і ўласныя» (1845).

8) «Песні дзедзіча» (1846). Гэта вершы асветніцка-павучальнага характару на польскай мове, звернутыя да шляхты («Навука», «Чалавецтва», «Вада і пара», «Буракі», «Чай», «Сярмяга» і інш.).

9) Даследаванне аб паэме Ю. Крашэўскага «Баі Вітаўта» (1846; папярэдне друкавалася ў часопісе «Тыгоднік пэтэрсбурскі»).

Найбольшае значэнне для беларускай літаратуры і культуры маюць «Сялянскія песенькі». У гэтых зборніках надрукавана каля 1000 беларускіх песень у перакладзе на польскую мову, а часткова (у зборніку 1846 г.) у арыгінале. У зборніках 1844 і 1846 гг. Чачот апублікаваў таксама 29 сваіх арыгінальных вершаў на беларускай мове. Сем з іх увайшлі ў хрэстаматыю беларускай літаратуры XIX ст. (1971, 1988): вершы «Пакуль сонца ўзыдзе...», «Нашто нам дым выядае вочкі?..», «Як то добра, калі мужык...», «Быў я калісь кавалём...», «Плакала бяроза ды гаварыла», «Калі ў зямлю зерне кінеш...» са зборніка 1844 г. і верш «Да мілых мужычкоў» са зборніка 1846 г.

У прадмовах і каментарыях да зборнікаў раскрываюцца асветніцкія мэты Чачота, яго захапленне народнай творчасцю, падаюцца яго назіранні над беларускай мовай. У 1968 г. урыўкі з каментарыяў Чачота да зборнікаў 1844 і 1845 гг. апублікаваны на рускай мове ў перакладзе А. Мальдзіса ў аўтарытэтным выданні АН СССР «Гісторыя эстэтыкі. Помнікі сусветнай эстэтычнай думкі»[36]. Найбольш каштоўная прадмова да зборніка 1846 г.— у нашым перакладзе надрукавана на беларускай мове ў кнізе «Пачынальнікі» (1977).

Назавём некаторыя іншыя першапублікацыі.

У 1898 г. у выдадзенай у Варшаве «Памятнай кнізе на ўшанаванне сотай гадавіны з дня нараджэння Адама Міцкевіча» друкуецца ўрывак з празаічнага твора Чачота — няскончанага сатырычнага рамана «Жмудзь

---

[36] Чечот Я. Из комментариев к «Крестьянским песенкам». Вступительный текст А. И. Мальдиса // История эстетики: Памятники мировой эстетической мысли. М., 1968. Т. 4, полутом 2. С. 84—85.

і Літва ў карыкатуры», які быў распачаты пісьменнікам у ссылцы.

Звыш 20 твораў Чачота філамацкага часу было апублікавана ў 1922 г. Я. Чубакам у зборніку «Паэзія філаматаў» з серыі «Архівум філаматаў». Тады ўбачыў свет шэраг польскамоўных паэтычных твораў Чачота (напрыклад, лібрэта аперэты «Малгажата з Зэмбоціна») і тры творы на беларускай мове. Гэта даволі вялікі вершаваны твор, напісаны ў 1819 г. з нагоды імянін філамата Ю. Яжоўскага, верш «Да пакіньце горла драць» да імянін Д. Хлявінскага і верш на прыезд А. Міцкевіча. Апошні паводле публікацыі Чубака са скарачэннямі пададзены ў хрэстаматыі беларускай літаратуры 1971 г. На падставе гэтай жа крыніцы (зб. «Паэзія філаматаў» Чубака) У. Казбярук апублікаваў згаданы твор Чачота да імянін Яжоўскага [37], прычым назваў гэты твор «драматычнай паэмай», хоць паэт, хутчэй за ўсё, ставіў перад сабой больш сціплыя мэты. Тым не менш гэтае жанравае вызначэнне ўвайшло ва ўжытак. У другім выданні хрэстаматыі (1988) твор атрымаў назву: «У дзень імянін. Драматычная паэма». К. Цвірка назву твора акрэсліў наступным чынам: «Яжовыя. Драматычная паэма-віншаванне, прысвечаная імянінам старшыні Таварыства філаматаў Юзафа Яжоўскага, якія адзначаліся 7 сакавіка 1819 г.» Як бачым, нават выбар назвы — сур'ёзная тэксталагічная праблема.

Цікава, што асобныя хоры з гэтага твора сталі папулярнымі філамацкімі песнямі. Адну з іх (песню «Ах, што ж мы вашэці скажам...» — у Чачота ёй адпавядае «хор дзяўчат» «Што ж мы вашэці скажам...») задоўга да публікацыі Чубака ўзнавіў па памяці ў сваіх успамінах «Філарэты і філаматы» (1870) І. Дамейка [38]. Гэта таксама своеасаблівая крыніца тэксту, звесткі пра якую варта прывесці ў каментарыях да твора. А з пункту погляду тэорыі мы маем справу з вуснай традыцыяй, якая пасля фіксацыі ў мемуарах стала пісьмовай.

Творчасць Чачота настолькі цесна пераплецена з творчасцю яго вялікага сябра Адама Міцкевіча, што ў даследчыкаў былі цяжкасці атрыбуцыйнага характару. Так, калі на пачатку XX ст. быў адкрыты рукапіс Чачотавай

---

[37] Казбярук У. М. Драматычная паэма Яна Чачота // Беларуская літаратура. Мн., 1977. Вып. 5. С. 144—149.

[38] Гл.: Перкін Н. Абсягі думкі. С. 262.

балады «Калдычэўскі шчупак», узнікла цэлая палеміка наконт аўтарства твора, у якой удзельнічалі Я. Квятнеўскі, Л. Мэе і інш. Галасы падзяліліся: адны лічылі аўтарам балады Міцкевіча, другія — Чачота. У канцы канцоў было даведзена неаспрэчнае аўтарства Чачота [39].

У наш час поўную навуковую публікацыю польскамоўных балад Чачота (паводле яго так званага «Рапсодыя тутэйшага») зрабіў польскі даследчык С. Свірка ў кнізе «З кола філаматаў, прэрамантызму» (1972).

Сапраўднай культурнай падзеяй, надзвычай важнай вяхой у засваенні творчай спадчыны Яна Чачота стала выданне першай кнігі яго выбраных твораў на беларускай мове. Гэта зборнік «Наваградскі замак: Творы» (1989), падрыхтаваны Кастусём Цвіркам. Ён жа даслаў усіх змешчаных у кнізе польскамоўных мастацкіх тэкстаў і пераважнай большасці тэкстаў навукова-публіцыстычных і эпісталярных. У зборніку ёсць раздзелы: «Песні, вершы, віншаванні» (у сваю чаргу гэты раздзел складаецца з падраздзелаў: «Творы, напісаныя па-беларуску» і «Творы, напісаныя па-польску»); «Балады»; «Публіцыстыка, навуковыя працы»; «Пісьмы». Кніжка ўпершыню пазнаёміла беларускага чытача з сабранай пад адной вокладкай багатай творчай спадчынай Чачота. Беларуская творчасць прадстаўлена амаль вычарпальна. Змешчаны «Яжовыя», верш «На прыезд Адама Міцкевіча», усе 28 вершаў са зборніка 1844 г., верш «Да мілых мужычкоў» са зборніка 1846 г. Але чамусьці не прыведзена песня «Да пакіньце горла драць», хоць укладальнік даволі падрабязна гаворыць аб ёй у прадмове [40]. У будучым збор твораў Чачота можна будзе папоўніць за кошт дадатковага перакладу польскамоўных твораў і далёка не вычарпанага эпісталярыя.

Аляксандр Рыпінскі выдаў у эміграцыі некалькі кніг:

1) «Беларусь. Колькі слоў аб паэзіі простага люду гэтай нашай польскай правінцыі: аб яго музыцы, спевах, танцах і г. д.» (Парыж, 1840). Экземпляр гэтага надзвычай рэдкага выдання ёсць у Публічнай бібліятэцы імя Салтыкова-Шчадрына ў Ленінградзе (шыфр:

---

[39] Гл.: Чачот Я. Наваградскі замак: Творы. Мн., 1989. С. 294; Świrko S. Z kręgu filomackiego preromantyzmu. Warszawa, 1972. S. 21—23.

[40] Цвірка К. Песня з Наваградчыны // Чачот Я. Наваградскі замак. С. 14.

13.8.6.12). Урыўкі з кнігі неаднаразова перадрукоўваліся ў наш час на мове арыгінала і ў перакладзе на рускую мову [41].

2) «Прарок» (Лондан, 1851).

3) «Poezije», ч. 1—2. (Лондан, 1853). Два вершы з гэтага зборніка («Лісток да...» і «Да Польшчы. На апошняй мяжы княства Пазнанскага») перадрукаваны ў 1961 г. у анталогіі польскай паэзіі XIX ст. [42] Апрача польскіх вершаў у зборнік уключана беларуская балада Рыпінскага «Нячысцік».

4) «Нячысцік» (Познань, 1853). У гэтым жа годзе балада двойчы выходзіла ў Лондане асобным выданнем як «Wyjątek z jego Poezij» [43].

5) «Сяржант-філосаф» (Лондан, 1856). З прысвячэннем А. Міцкевічу.

6) «Перамагаюць нашы!» (Лондан, 1857).

7) «Два адкрыцці. Гістарычная паэма» (Лондан, 1857). Гэта рэдкая кніжка ёсць у бібліятэцы Вільнюскага універсітэта.

У 1860 г., вярнуўшыся на радзіму, Рыпінскі ўпісаў у Альбом Вярыгі-Дарэўскага свой польскамоўны верш «Для Арцёма Вярыгі ў альбоме», які завяршаецца беларускім шасцірадкоўем «Ты ж сам, суседзька, хацеў...»

У хрэстаматыі беларускай літаратуры 1971 г. змешчаны як творы Рыпінскага макаранічныя вершы «Плач пакінутага каханай» і «За пенкнай паненкай аж душа сумуе...», узятыя з яго кнігі «Беларусь». Але ніякіх доказаў, што гэта творы Рыпінскага, у нас няма. У свой час М. Гарэцкі адносіў іх да XVIII ст. Іншай думкі прытрымліваўся Р. Зямкевіч — «першы верш віцебскага польска-беларускага вершапісца Аношкі, каторы пісаў у пачатку XIX сталецця, а другі невядомага аўтара з Дзісеншчыны, не пазнейшы за 1820 год» [44]. Ёсць таксама

---

[41] Krzyżanowski J. «Tyrteusz» polski i dekabryści // Kwartalnik Instytutu Polsko-Radzieckiego. 1954. N 2(7). S. 74—81; Воспоминания А. Рыпинского о встречах с Кюхельбекером в Динабургской крепости // Публикация Д. Б. Кацнельсон // Литературное наследство. 1954. Т. 59. С. 513—516; Rypiński A. Wspomnienie o Küchelbeckerze // Pamiętniki dekabrystów. Warszawa, 1960. T. 3. S. 270—272; Рыпинский А. Из воспоминаний // Писатели-декабристы в воспоминаниях современников. М., 1980. Т. 2. С. 304—305.

[42] Zbiór poetów polskich XIX w. Warszawa, 1961. Ks. 2. S. 549—550.

[43] Кніга Беларусі: 1517—1917: Зводны каталог. Мн., 1986. С. 253.

[44] Зямкевіч Р. Гутаркі аб беларускай літаратуры // Новае жыццё. 1923. З сак. (Карэктура артыкула ёсць у ЦБАН ЛітССР, ф. 21—754).

прапанова лічыць іх творамі віцябчаніна Францішка Рысінскага [45].

З твораў Рыпінскага ў хрэстаматыі 1971 г. змешчаны пачатак «Нячысціка» (16 радкоў, «толькі як узор верша») і — разам з Альбомам Вярыгі-Дарэўскага — шасцірадкоўе «Ты ж сам, суседзька, хацеў...», а таксама запіска да Вярыгі «Іду, брат, па-твойму на мужыцкую свадзьбу...» Шасцірадкоўе і запіска пададзены і ў зборніку «Пачынальнікі».

Тэксталагічны матэрыял, звязаны з творчасцю Рыпінскага, няспынна папаўняецца. У 1985 г. поўны тэкст «Нячысціка» з'явіўся ў зборніку «Беларуская літаратура» (вып. 13; публікацыя І. Штэйнера). Больш поўна прадстаўлены таксама «Нячысцік» у другім выданні хрэстаматыі беларускай літаратуры XIX ст. (1988).

Перад беларускімі літаратуразнаўцамі і выдаўцамі стаяць немалыя задачы ў засваенні творчасці Рыпінскага. Неабходна перавыдаць у беларускім перакладзе яго «Беларусь» і ўсё лепшае з польскамоўных твораў, якія з'яўляюцца мастацкімі дакументамі той далёкай эпохі.

Як вядома, са спадчыны таленавітага сялянскага паэта Паўлюка Багрыма да нас дайшоў усяго адзін толькі верш «Заграй, заграй, хлопча малы...» Яго захавала для нашчадкаў кніга наваградчаніна І. Яцкоўскага (дарэчы, паплечніка А. Рыпінскага па эміграцыі), выдадзеная ананімна ў Лондане ў 1854 і ў Познані ў 1858 г., адкуль верш «выпырхнуў» у шырокі свет (апошнія публікацыі ў хрэстаматыі беларускай літаратуры 1971 і 1988 гг. і ў кнізе «Пачынальнікі»).

Неаднаразова рабіліся спробы пашырыць кола твораў Багрыма за кошт ананімных. Прыпісвалася, напрыклад, паэту вядомая ананімная «Гутарка Данілы са Сцяпанам» [46]. Мы ўжо ўспаміналі вышэй пра выказаную некаторымі даследчыкамі думку, што Багрыму магла належаць сацыяльна вострая ўстаўка «Дзецюкі! Худа нам жыць...» да беларускай паэмы Баршчэўскага. С. Александровіч гаварыў у свой час пра блізкасць Багрыму беларускіх вершаў «Зямелька мая...» і «Пад дуду», апублікаваных

---

[45] Мархель У. І. Рысінскі // ЭЛіМБел. Мн., 1987. Т. 4. С. 552.

[46] Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літаратуры. Вільня, 1920. С. 61; Карский Е. Ф. Белорусы. Т. 3, вып. 3. С. 74; Майхровіч С. Нарысы беларускай літаратуры XIX ст. Мн., 1957. С. 19—20.

у 1882 г. Ю. Карабічам у газеце «Навіны» [47]. Сёння лічыцца ўстаноўленым, што Ю. Карабіч — псеўданім Ю. Ляскоўскага, якому хутчэй за ўсё і належаць згаданыя вершы. Як творы Ляскоўскага яны пададзены ў другім выданні хрэстаматыі беларускай літаратуры мінулага стагоддзя (1988).

Як ўжо гаварылася ў папярэдніх раздзелах, беларускія творы А. Вярыгі-Дарэўскага амаль не захаваліся.

У копіі Р. Зямкевіча 1913 г. да нас дайшоў верш Вярыгі «Літвінам, запісаўшымся ў мой Альбом, на пажагнанне», напісаны паэтам у кастрычніку 1858 г. пры ад'ездзе з Вільні і «ахвяраваны» ім М. Рэніеру. Праўда, у тым жа 1913 г. у нашаніўскім артыкуле «Памажыця!» пісалася, што ў рэдакцыі знаходзіцца «арыгінал» паэмы Вярыгі «Братом літвіном», але ёсць усе падставы думаць, што мелася на ўвазе ўсё тая ж копія верша «Літвінам, запісаўшымся...» У міжваенны перыяд гэта копія захоўвалася ў Беларускім музеі ў Вільні, пасля Вялікай Айчыннай вайны яе адшукаў у сваім архіве Я. Шутовіч, ад якога яна трапіла ў Цэнтральную навуковую бібліятэку АН БССР, дзе цяпер і знаходзіцца. У 1971 г. у хрэстаматыі беларускай літаратуры XIX ст. зроблена публікацыя гэтага арыгінальнага гісторыка-літаратурнага дакумента (надрукаваны верш з купюрамі, назва адвольна мадэрнізавана: «Літвінам, што запісаліся ў мой «Альбом», на развітанне»).

Два беларускія творы Вярыгі-Дарэўскага выяўлены параўнальна нядаўна на старонках варшаўскага часопіса «Рух музычны», у карэспандэнцыі Вярыгі з Віцебска ад 4 лістапада 1859 г., надрукаванай у № 49 часопіса за гэты год. Падпісана карэспандэнцыя вядомым псеўданімам Вярыгі-Дарэўскага «Беларуская Дуда». Пазнаёміўшы чытачоў з навінамі музычнага жыцця ў родным горадзе, Вярыга пытаецца: «А, можа, вам, браты надвіслянцы, цікавай будзе паэзія вашых наддзвінскіх братоў, сялян Белай Русі? Змяшчаем тут узоры са шчырым пажаданнем, каб вы з імі пазнаёміліся, — і не сумняваюся, што зразумееце іх» (Пачынальнікі, *220*). Далей ідуць тэксты двух твораў — «Гімн да абраза цудоўнай маткі боскай бялыніцкай» і ўрывак з камічнай оперы «Грэх 4-ты гнеў» пад назвай «Думка. Салдатка». Хоць пра аўтарства гэтых

[47] Александровіч С. Па слядах паэтычнай легенды. Мн., 1965. С. 172—174.

твораў у карэспандэнцыі не гаворыцца, а Вярыга ў вельмі агульнай форме намякае нават на іх фальклорнае паходжанне, не даводзіцца сумнявацца, што гэта творы самога Вярыгі-Дарэўскага. Пра гэта гаворыць не толькі змест і агульны каларыт твораў, прасякнутых спачуваннем да сялян, да ўсіх абяздоленых. Назва оперы «Грэх 4-ты гнеў» выразна кладзецца ў адзін рад з вядомымі нам назвамі драматургічных твораў Вярыгі — драмы «Гордасць» і камедыі «Хцівасць». Відаць, Вярыгам быў задуманы цэлы драматургічны цыкл па матывах сямі смяротных грахоў хрысціянскай этыкі. Маючы вялікія цяжкасці з друкаваннем сваіх беларускіх твораў, Вярыга-Дарэўскі знайшоў на гэты раз своеасаблівую форму публікацыі, без указання аўтара.

Упершыню на гэтыя творы Вярыгі указаў М. Канапацкі, які ў 1962 г. надрукаваў урывак з оперы «Грэх 4-ты гнеў» пад назвай «Думка салдаткі» ў беластоцкай беларускай газеце «Ніва»[48]. Пазней гэты ўрывак друкаваўся ў нашым артыкуле пра Вярыгу ў «Полымі»[49] і — паводле нашай публікацыі — у хрэстаматыі беларускай літаратуры 1971 і 1988 гг. (у хрэстаматыі назва ўрыўка няпоўная — «Думка»). Абодва беларускія творы Вярыгі-Дарэўскага разам з карэспандэнцыяй з «Руху музычнага» апублікаваны цалкам у кнізе «Пачынальнікі».

Як і ў іншых выпадках, для тэксталогіі Вярыгі мае значэнне вусная традыцыя. У памяці сваякоў захавалася яго чатырохрадкоўе:

Бо шчасце, бо долю
Калі ж мы забачым,
Няўжо ж то мы з гора
Ўсё плачам і плачам.

Яно прыведзена ў зборніку дакументаў і матэрыялаў па гісторыі роду Вярыгаў, выдадзеным у 1934 г. у Каўнасе[50]. Вось і ўсё беларускае з творчасці Вярыгі-Дарэўскага (калі не лічыць прыведзенага Карскім радка з «Думкі хлопка...»), што дайшло да нас.

---

[48] Канапацкі М. Арцём Дарэўскі-Вярыга // Ніва. 1962. 5 жн.

[49] Кісялёў Г. Арцём Вярыга-Дарэўскі: З гісторыі літаратурнага Віцебска // Полымя. 1966. № 5. С. 167. Параўн.: Кісялёў Г. Загадка беларускай «Энеіды». Мн., 1971. С. 191.

[50] Veryha A. I. Acta et chronika. Kaunas, 1934. S. 58—59.

Паэтычная творчасць Вярыгі на польскай мове прадстаўлена «Гавэндкай аб сваяку», баладай пра Ружыцкага і некалькімі вершамі.

«Гавэндка аб сваяку» — адзіная кніжка Вярыгі-Дарэўскага, якая ўбачыла свет. Выдадзена яна ў 1858 г. магілёўскім кнігагандляром Сыркіным, друкавалася ў Завадскага ў Вільні. Падпісана псеўданімам «Беларуская Дуда». Як адзначаў яшчэ Р. Зямкевіч у пісьме 1913 г., польскія бібліёграфы зусім забыліся пра існаванне Арцёма Вярыгі-Дарэўскага і прыпісалі яго твор і разам з тым псеўданім «Беларуская Дуда» яго сучасніку Аляксандру Вярыгу-Дароўскаму (1815—1874), які жыў на Украіне. На жаль, гэтая блытаніна мае месца і ў наш час. Як твор Аляксандра Вярыгі-Дароўскага фрагмент з «Гавэндкі» надрукаваны, напрыклад, у 1961 г. у анталогіі польскай паэзіі XIX ст. [51]

Пры публікацыі «Гавэндкі» тэкстолаг павінен улічыць таксама наяўнасць яе цэнзурнага рукапісу з цэнзарскімі выкрэсліваннямі (гл. пра гэта ў папярэдніх раздзелах).

Тэкст балады Вярыгі пра Ружыцкага дайшоў да нас дзякуючы публікацыі ў кнізе М. Дубецкага «Эдмунд Ружыцкі» (Кракаў, 1895), крыніцамі тэкстаў астатніх польскамоўных вершаў Вярыгі («Марку Сакалоўскаму і Аляксандру Хадэцкаму...», «Прыгожаму капялюшыку...», верш да Жалігоўскага і інш.) з'яўляюцца Вярыгавы аўтографы (у адным выпадку копія А. Хадэцкага), што захоўваюцца ў Цэнтральным гістарычным архіве ЛітССР, бібліятэцы АН ЛітССР і бібліятэцы Чартарыскіх у Кракаве.

Вярыга-Дарэўскі быў яшчэ публіцыстам і журналістам, актыўна супрацоўнічаў у 50—60-х гадах у польскім перыядычным друку — варшаўскім часопісе «Рух музычны», пецярбургскай газеце «Слово», газеце «Кур'ер віленьскі», а таксама, трэба думаць, у іншых газетах і часопісах. Гэта неад'емная частка яго літаратурнай спадчыны, выяўленне якой яшчэ толькі пачалося. Пяць карэспандэнцый Вярыгі, выяўленых у «Руху музычным» за 1859—1861 гг., апублікавана ў перакладзе на беларускую мову ў кнізе «Пачынальнікі». Гэтыя матэрыялы паказваюць, што пісьменнік-дэмакрат імкнуўся выйсці за рамкі праграмы часопіса, не абмяжоўваўся толькі музычнай тэ-

---

[51] Zbiór poetów polskich XIX w. Ks. 2. S. 748, 751—753.

матыкай. Напрыклад, паведамляючы ў допісе за снежань 1860 г. аб адкрыцці ў Віцебску нядзельнай школы, Вярыга пісаў: «Хто-небудзь скажа, што гэта не мае адносін да «Ruchu Muzycznego»? На нашу думку, за асветай ідзе прага музыкі, а надзея на такую прагу і ўвогуле яшчэ адзін довад руплівасці пра занядбаных дагэтуль меншых братоў хіба не павінны таксама хваляваць чытачоў «Ruchu»?» (Пачынальнікі, *224*). Як ужо гаварылася, пісьменнік спрабаваў уключыць у карэспандэнцыі свае беларускія творы.

У «Кур'еры віленьскім» за 1860 г. выяўлены два матэрыялы Вярыгі: карэспандэнцыя ў № 8 за 26 студзеня, заснаваная на яго пісьме Кіркору ад 23 снежня 1859 г., якое захавалася (Пачынальнікі, *238—241*), і карэспандэнцыя ў № 86 за 1 лістапада, у якой Вярыга, між іншым, успамінаў грамадскую чытальню ў Віцебску, арганізаваную ў свой час яго братам Сямёнам.

Нарэшце, у № 7 газеты «Слово» за 24 студзеня (9 лютага) 1859 г. надрукавана без подпісу карэспандэнцыя з Віцебска. У ёй, у прыватнасці, гаварылася пра творчасць пісьменніка-віцябчаніна Гераніма Марцінкевіча. Несумненна, гэта допіс Вярыгі-Дарэўскага, які быў звязаны са «Словам»[52]. Да таго ж гэту карэспандэнцыю Вярыга ўспамінаў пазней у пісьме Кіркору (Пачынальнікі, *239*).

Да нас дайшлі тры беларускія вершы таленавітага паэта і публіцыста сярэдзіны XIX ст. Вінцэся Каратынскага:

1) Верш, выдадзены ў 1858 г. у Вільні асобным адбіткам у якасці дадатку да вядомага «Альбома» А. Кіркора і іншых віленскіх дзеячаў у гонар прыезду цара Аляксандра II. Верш надрукаваны рускім шрыфтам і лацінкай разам з адпаведным вершам літоўца М. Акялайціса. Поўная назва верша (і ўсяго адбітку): «Найяснейшаму яго милосьци гаспадару императару Александру Микалаявичу песьня з паклонам ад литовско-русинскаи мужыцкаи грамады. Списав Винцесь Коротыньски». Экземпляр адбітка ёсць у бібліятэцы АН ЛітССР. Апошнім часам пад загалоўкам «Уставайма, братцы!..» (па першых словах) верш друкаваўся ў хрэстаматыі беларускай літаратуры 1971, 1988 гг. і ў «Творах» В. Каратынскага 1981 г. З «Твораў» можна зразумець, што «Уставайма, братцы!..» укла-

[52] Гл.: Мальдзіс А. Творчае пабрацімства. Мн., 1966. С. 84.

дальнік лічыць аўтарскім загалоўкам. Першая частка сапраўднага загалоўка ў кнізе не прыводзіцца, у каментарыях паведамляецца толькі, што ў 1858 г. верш друкаваўся з падзагалоўкам «Песня з паклонам ад літоўска-русінскай мужыцкай грамады», што не зусім дакладна, бо гэта хутчэй не падзагаловак, а другая частка загалоўка.

2) Верш без загалоўка, упісаны Каратынскім 23 кастрычніка 1858 г. у Альбом Вярыгі-Дарэўскага. Апошнім часам друкаваўся па арыгіналу ў хрэстаматыі 1971 і 1988 гг. і ў кнізе «Пачынальнікі». У «Творах» Каратынскага верш надрукаваны паводле кнігі «Пачынальнікі» пад загалоўкам «Далібог-то, Арцім...» (па першаму радку).

3) Верш «Туга на чужой старане». Упершыню надрукаваны ў газеце «Наша Ніва», № 49—50 за 1912 г., з паметкай пасля тэксту: 10 студзеня 1864 г.— і заўвагай: «Да гэтага верша В. Каратынскага напісаў музыку селянін з Наваградскага павета Вінцэсь Клімовіч. Музыку В. Клімовіч пасвячае п. Машчынскаму «на памятку». Арыгінал верша і нотаў знаходзіцца ў рэдакцыі «Н. Н.» Указаныя рэдакцыяй рукапісы не захаваліся. Намі ўстаноўлена, што Вінцэнт Клімовіч (нар. каля 1830 г.) — прыяцель Каратынскага, удзельнік рэвалюцыйнага руху на Міншчыне, арыштаваны ў сакавіку 1863 г. і праз некаторы час сасланы ў Сібір. У студзені 1864 г., калі, паводле паметкі «Нашай Нівы», напісаны верш, Клімовіч сядзеў якраз у мінскай турме [53]. З датай 1864 г. верш змешчаны ў хрэстаматыі 1971 і 1988 гг. У. Мархель у каментарыях да «Твораў» Каратынскага пярэчыць: «Дата ўзнікнення верша (1864), прынятая гісторыкамі літаратуры, відаць, не адпавядае праўдзе: на музыку твор мог быць пакладзены Клімовічам да 1864 г., бо 5 сакавіка 1863 г. кампазітар быў арыштаваны і знаходзіўся пад следствам да 21 чэрвеня 1864 г., пасля чаго яго саслалі на пасяленне ў Сібір» (Каратынскі В. Творы. Мн., 1981. С. 159). Такім чынам, У. Мархель мяркуе, што верш узнік яшчэ да вясны 1863 г., гэта значыць, да пачатку масавага паўстання на Беларусі і Літве. Гэтыя пярэчанні здаюцца нам неперахаканаўчымі. Усёй сваёй танальнасцю верш надзвычай звязаны з атмасферай мураўёўскіх рэпрэсій 1863—1864 гг. А. Мальдзіс слушна

---

[53] Гл.: Кісялёў Г. Вінцэсь Клімовіч з вёскі Перасека... // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1971. № 1. С. 45—47.

адзначыў: «На наш погляд, «Тугу на чужой старане» не абавязкова звязваць з нейкім канкрэтным момантам у біяграфіі аўтара. У 1864 годзе, пасля паражэння паўстання, у сібірскую ссылку адпраўляліся тысячы і тысячы патрыётаў. І магчыма, словы жальбы-тугі па роднай «зямельцы» паэт укладвае ў вусны аднаго з іх»[54]. Як пішуць каментатары хрэстаматыі 1971 і 1988 гг., у вершы «надзвычай яскрава выяўлены сум чалавека, насільна адарванага ад родных мясцін. Відаць, гэты чалавек — удзельнік нядаўняга паўстання 1863 г.» Магчыма, верш меў якраз канкрэтнага адрасата — Клімовіча. Каратынскі, мабыць, знайшоў спосаб пераслаць сваю журботную элегію ў турму, дзе Клімовіч і паклаў гэтыя словы на музыку.

Новыя архіўныя матэрыялы сведчаць, што створаная ва ўмовах зняволення песня вельмі прыйшлася даспадобы вязням і тады ж была перакладзена на польскую мову. Пераклад (тэкст яго невядомы) зрабіў узяты ў палон паўстанец з атрада А. Трусава Стэфан Пянькевіч, які пісаў з турмы мінчанцы А. Шышцы (пісьмо, на жаль, без даты): «Г-же Антонине посылаю на память стихи — перевод слов с народного (г. зн. з беларускай.— *Г. К.*) на польский мой собственный, музыка сочинена одним из товарищей моих лишенным свободы г. Климовичем»[55]. Адначасова з Клімовічам і Пянькевічам у турме знаходзіўся кандыдат Пецярбургскага універсітэта Іван Машчынскі, які пад час паўстання быў касірам мінскай рэвалюцыйнай арганізацыі[56]. Яму, трэба думаць, і прысвяціў Клімовіч песню на словы Каратынскага.

Сярод твораў Каратынскага ў хрэстаматыі 1971 і 1988 гг. змешчана і вядомая паўстанцкая «Гутарка старога дзеда» (урывак; месцам выдання памылкова названы Кракаў). Складальнікі грунтаваліся на ўспамінах сына пісьменніка Бруна Каратынскага, уведзеных у навуковы ўжытак М. Канапацкім[57]. Аб аўтарстве Каратынскага гаварыў яшчэ значна раней акадэмік Я. Карскі (Карский, 3/3, *72, 86, 87*). У свой час намі былі прыведзены

---

[54] Мальдзіс А. Падарожжа ў XIX стагоддзе. Мн., 1969. С. 66.
[55] ЦДГА ЛітССР, ф. 378, Паліт. аддз., 1863 г., спр. 1565, л. 62.
[56] Там жа, л. 129, 224, 232 адв., 276.
[57] Канапацкі М. Над мемуарамі Бруна Каратынскага // Ніва (Беласток). 1961. 8 кастр.

аргументы на карысць таго, што аўтарам «Гутаркі» мог быць В. Дунін-Марцінкевіч [58], але маскоўская даследчыца З. Тальвірская апублікавала дадатковыя матэрыялы пра сувязі Каратынскага з канспіратыўнымі арганізацыямі (мы гаварылі пра гэта ў папярэднім раздзеле). Так што пазіцыі прыхільнікаў аўтарства Каратынскага ўзмацніліся. З другога боку, за аўтарства Дуніна-Марцінкевіча выказаўся польскі даследчык У. Вільчынскі, які прывёў некаторыя новыя аргументы [59]. Тым не менш пытанне нельга лічыць канчаткова вырашаным, таму, на нашу думку, правільна зрабіў укладальнік «Твораў» У. Мархель, змясціўшы фрагменты «Гутаркі старога дзеда», а таксама блізкай да яе «Гутаркі двух суседаў» у раздзеле «Творы, якія прыпісваюцца В. Каратынскаму».

Большасць сваіх твораў В. Каратынскі выдаў па-польску. Гэта паэтычны зборнік «Чым хата багата, тым рада» (Вільня, 1857), паэма «Таміла» (там жа, 1858), дыдактычны вершаваны твор «Выпіў Куба да Якуба» (там жа, 1859), а таксама мноства асобных вершаў, перакладаў, артыкулаў і даследаванняў на гістарычныя, гісторыка-літаратурныя, краязнаўчыя і іншыя тэмы.

Вялікае значэнне ў азнаямленні беларускай грамадскасці з творчай спадчынай Каратынскага меў выхад у свет у 1981 г. яго «Твораў». Гэта прыклад таго, як беларуская і польская творчасць пісьменніка XIX ст. можа быць сабрана ў адной кнізе і данесена да сённяшняга чытача. Апрача беларускамоўных твораў тут змешчаны ў добрых, арганічных перакладах У. Мархеля (укладальнік кнігі), Р. Барадуліна, Г. Тумаса выбраныя раздзелы з паэмы «Таміла», вершы «Пастрыжаны», «Над калыскай», «Прытулак шчасця», «Першы дзень вясны», «Любасць», «Віціннік увесну», «Сірата», «Маёй свіце», «Два каханні», «Віціннік увосень», «У альбоме», «Сваты», «Сон наяве», «Пасля сватання», «Бярозка», «Уладзіславу Сыракомлю», «Новы год», «Хочаш вялікае штось сатварыць...» (са зборніка «Чым хата багата...» і з перыёдыкі), удала падабраныя ўкладальнікам нарысы і артыкулы «З каментарыяў да паэмы «Таміла», «Некалькі падрабязнасцяў пра сям'ю, месца нараджэння і маладосць

[58] Кісялёў Г. Сейбіты вечнага. Мн., 1963. С. 136—145.

[59] Wilczyński W. Syrokomla a literatury wschodniosłowiańskie // Studia polono-slavica-orientalia. Acta literaria III. Wrocław etc., 1976. S. 87.

Адама Міцкевіча», «Саламон Рысінскі», «Віцебск», «Канстанцін Тышкевіч», «Рамуальд Зянькевіч», «Яўстафій Тышкевіч», «Карціны з берагоў Нёмана» (фрагмент), «Дзве будоўлі» (фрагменты). Зборнік атрымаўся надзвычай ёмістым. У. Мархелем, такім чынам (як і К. Цвіркам адносна Я. Чачота), упершыню вырашана праблема беларускай кніжкі Каратынскага. У будучым, пры падрыхтоўцы новага выдання кнігі, кола твораў Каратынскага можна будзе істотна пашырыць.

Вуль (Элегій Францішак Карафа-Корбут) — аўтар толькі аднаго беларускага верша, што дайшоў да нас, але твор гэты настолькі выдатны ў мастацкіх і ідэйных адносінах, што забяспечвае паэту годнае месца ў гісторыі нашай літаратуры XIX ст. Размова ідзе пра верш «Дудару Арцёму ат наддзвінскага мужыка», упісаны паэтам у Альбом Вярыгі-Дарэўскага 23 сакавіка 1859 г. Адначасова ён упісаў верш «Няновая думка» на польскай мове. Беларускі верш упершыню надрукаваны (мяркуем, Б. Тарашкевічам) у «Нашай Ніве», № 45 за 1912 г. Апошнія публікацыі — у хрэстаматыі беларускай літаратуры 1971 і 1988 гг. і ў кнізе «Пачынальнікі». У абодвух выданнях хрэстаматыі ёсць тэксталагічныя недакладнасці: замест сакавітага дыялектнага «пяі» двойчы надрукавана ўнармаванае «спявай». У хрэстаматыі 1971 г. памылкова перададзены подпіс і паметкі пасля тэксту: «23 сакавіка 1859 г. у панядзелак. Віцебск. Ялегі Францішак Уль, з-над Заходняй Дзвіны. У адхланні». У сапраўднасці гэта прыпіска была пасля польскага верша, прычым у арыгінале «У адхланні» стаіць пасля слова «Віцебск». Пад беларускім жа вершам прыпіска такая: «23 марца 1859 года, у панідзелак, Віцябск. У псярні. Ялегі Пранціш Вуль». «У псярні» — надзвычай важная паметка, якая ўзмацняе сацыяльнае гучанне верша. У выданні хрэстаматыі 1988 г. недакладнасці ў перадачы паметак папраўлены, але не да канца.

Згаданы верш «Няновая думка» надрукаваны ў кнізе «Пачынальнікі». У бібліятэцы Чартарыскіх у Кракаве захоўваецца таксама рукапіс верша Вуля на польскай мове, прысвечаны паэту-рэвалюцыянеру Э. Жалігоўскаму (А. Саве). У артыкуле Э. Мартынавай і А. Мальдзіса прыведзены радкі з гэтага верша: «Няхай усюды, дзе ў цемры праімчаць крыллі Савы, праз цемру ночы

праб'юцца ясныя промні дня»[60]. Цалкам верш не друкаваўся.

Сваімі літаратурнымі здольнасцямі Вуль вылучаўся ўжо ў гімназіі. Яго гімназічныя «сачыненні» на вольныя тэмы «Успамін дзяцінства і юнацтва», «Віцебск», «Хрэсьбіны ў беларускіх сялян», «Пра Дзяржавіна наогул і пра оду «Бог» у прыватнасці» на рускай мове (1851—1854) высока цаніліся настаўнікамі-славеснікамі і як узорныя накіроўваліся ў Пецярбург, ва ўпраўленне навучальнай акругі. На жаль, дагэтуль яны не расшуканы[61].

* * *

Звернемся цяпер да літаратуры так званага парэформеннага перыяду.

Асноўнымі крыніцамі для ўзнаўлення тэкстаў мастацкіх твораў Ф. Багушэвіча з'яўляюцца першадрукі. Аўтографаў вядома мала — пераважна тыя вершы, што Багушэвіч пасылаў з пісьмамі Яну Карловічу.

Кнігі Багушэвіча выходзілі па цэнзурных меркаваннях за мяжою. У 1891 г. пры пасрэдніцтве Я. Карловіча Багушэвічу ўдалося выпусціць свой першы паэтычны зборнік — славутую «Дудку беларускую». Кніга выйшла пад псеўданімам «Мацей Бурачок» у кракаўскім выдавецтве У. Анчыца. Кракаўскія наборшчыкі не ведалі беларускай мовы, што, вядома ж, адбівалася на якасці набору. У пісьме ад 23 жніўня (4 верасня) 1891 г. паэт скардзіўся Карловічу: «Карэктура «Дудкі» вельмі няўдалая, процьма памылак»[62]. У 1896 г. выданне было паўторана[63]. Яно і лічыцца цяпер найбольш аўтарытэтным у тэксталагічных адносінах. У каментарыях да выдання «Твораў» Багушэвіча 1967 г. Сцяпан Александровіч пісаў: «Тэксты зверана з апошнім прыжыццёвым выданнем зборніка. Аўтарскіх рукапісаў зборніка «Дудка беларуская» не захавалася, таму дакладная дата напісання большасці твораў невядо-

---

[60] Мартынава Э., Мальдзіс А. Шаўчэнка і Жалігоўскі: З гісторыі беларуска-украінска-польскіх літаратурных сувязей // Тарас Шаўчэнка і беларуская літаратура. Мн., 1964. С. 186—187.

[61] Гл.: Кісялёў Г. Пошукі імя. С. 244—245.

[62] Багушэвіч Ф. Творы. Мн., 1967. С. 184.

[63] Аб акалічнасцях перавыдання «Дудкі беларускай» у 1896 г. гл. успаміны З. Нагродскага (Пачынальнікі, *440—441*).

ма. У лістах Ф. Багушэвіча да Яна Карловіча (Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў Літоўскай ССР, фонд 1135, вопіс 10, справа 92) ёсць толькі першапачатковыя варыянты вершаў «У судзе», «Воўк і авечка» і «Думка», а таксама звесткі пра гісторыю і час напісання казкі «Хцівец і скарб на святога Яна», якія даюць падставу меркаваць, што зборнік «Дудка беларуская» напісаны ў 1886—1890 гг.»[64] С. Александровічам прыведзены ў каментарыях галоўныя варыянты згаданых вершаў па аўтографах. Аўтограф сведчыць, што верш «Думка» меў першапачатковую назву «Якась яно будзе!» Рыхтуючы «Творы», С. Александровіч увёў у асноўны тэкст гэтага верша заключныя радкі «Паглядзецъ, як людзі ў бядзе сабе радзяць, / Абсяду цца ў дому і лад заправадзяць», якія ёсць у аўтографе і, на думку С. Александровіча, выпалі са зборніка «па тэхнічных прычынах»[65].

Яшчэ не паспелі выйсці ў свет «Творы» 1967 г., як Я. Саламевіч дадаткова выявіў у фондзе Карловіча пісьмо Багушэвіча ад 4 лютага 1890 г. з тэкстам верша «Мая дудка». Такім чынам, цяпер нам вядомыя аўтографы чатырох вершаў са зборніка «Дудка беларуская». Пра выяўлены аўтограф верша «Мая дудка» Я. Саламевіч піша: «Гэта, як відаць, адзін з першых варыянтаў вядомага багушэвічаўскага верша. Рыхтуючы яго да друку, паэт паглыбіў і значна ўзмацніў сацыяльнае гучанне твора. Пісьмо дае магчымасць удакладніць, што верш быў напісаны не пазней 4 лютага 1890 г.»[66]

У 1894 г. Багушэвіч пад псеўданімам «Шымон Рэўка з-пад Барысава» выдаў за мяжою другі паэтычны зборнік — «Смык беларускі». У якасці месца выдання на тытуле пазначана Познань, але А. Мальдзіс пераканаўча давёў, што гэта ўсяго толькі містыфікацыя, каб увесці ў зман царскія ўлады, а ў сапраўднасці зборнік быў выдадзены ў нейкім іншым месцы[67]. Даследчык дапускаў, у прыватнасці, што кніга магла быць выдадзена ва Усходняй Прусіі, дзе друкавалі свае творы літоўцы[68]. На падставе некаторых новых матэрыялаў гэта думка атрымала

---

[64] Багушэвіч Ф. Творы. Мн., 1967. С. 209.
[65] Там жа. С. 210.
[66] Саламевіч І. А. Д.— псеўданім Багушэвіча // Літ. і мастацтва. 1967. 3 кастр.
[67] Мальдзіс А. Творчае пабрацімства. С. 146.
[68] Мальдзіс А. Падарожжа ў XIX стагоддзе. С. 171.

далейшае развіццё ў нашай публікацыі «Прыгоды «Смыка»[69]. Аднак У. Содаль выказаў нядаўна плённую думку, што «Смык» выйшаў у тым жа выдавецтве, што і «Дудка». «За тое, што «Смык Беларускі» выдаваўся ў Кракаве, сведчыць і параўнанне шрыфтоў,— разважае даследчык.— У «Смыку Беларускім» яны тыя ж, што і ў «Дудцы Беларускай». Аднолькава аздоблены ў абедзвюх кніжках і першыя загалоўныя літары прадмоў. Усё гэта гаворыць, што «Дудка Беларуская» і «Смык Беларускі» выходзілі ў адным горадзе, у адной друкарні, і менавіта — у Кракаве»[70].

З вершаў, што ўвайшлі ў «Смык беларускі», намі ў свой час выяўлены аўтографы двух — «Калыханка» і «Ахвяра». Яны былі дасланы Багушэвічам Карловічу ў 1891 г. і захаваліся сярод папер Карловіча разам з пісьмамі Багушэвіча (віленскі гістарычны архіў). У 1967 г. Я. Саламевіч знайшоў у тых жа матэрыялах Карловіча аўтограф верша «Сватанне», які захоўваўся асобна ад пісьмаў. Даследчык прыйшоў да высновы, што гэты тэкст быў прысланы Багушэвічам Карловічу з ужо вядомым пісьмом ад 17 (29) лістапада 1891 г. Пазней паэт змясціў гэты верш у «Смыку беларускім» пад назвай «Сватаны», дадаўшы адну страфу[71].

Тады ж, у 1967 г., Я. Саламевічам быў выяўлены тэкст славутага верша Багушэвіча «Хмаркі», перапісаны, як адзначыў даследчык, «не рукою Багушэвіча (магчыма, некім з дзяцей паэта)»[72]. Гэтае меркаванне пацвердзіў У. Содаль, які ўстанавіў, што верш перапісала паэтава дачка Туня[73]. Перасланы Карловічу тэкст, вядома ж, зацверджаны паэтам і мае, такім чынам, статус аўтарскага тэксту.

Пры жыцці Багушэвіча выйшла таксама асобным выданнем апавяданне «Траляленачка» (Кракаў, выдавецтва Анчыца, 1892). Кніга выпушчана ананімна і налічвае ўсяго 11 старонак. Ужо даўно даследчыкі беларускай літаратуры, хоць часам вельмі няпэўна, згадвалі «Траляленачку» ў сувязі з творчасцю Багушэвіча, аднак заслуга

---

[69] Гл.: Кісялёў Г. Героі і музы. С. 230—232.
[70] Содаль У. Імпульсы // Полымя. 1989. № 6. С. 197—198.
[71] Саламевіч І. А. Д.— псеўданім Багушэвіча // Літ. і мастацтва. 1967. 3 кастр.
[72] Там жа.
[73] Содаль У. Імпульсы // Полымя. 1989. № 6. С. 202.

ўвядзення гэтага выдання ў наш навуковы ўжытак належыць цалкам Сцяпану Александровічу, які адшукаў яго ў Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве, у 1960 г. пазнаёміў з тэкстам апавядання нашу грамадскасць [74], прывёў разнастайныя доказы, што твор належыць Багушэвічу [75].

С. Александровіч адкрыў таксама шматлікія карэспандэнцыі Багушэвіча ў польскім пецярбургскім часопісе «Край», якія друкаваліся там у 1885—1891 гг. пад псеўданімамі «Б. Гушыч», «Гушыч», «Дэмас», «Тэн», «А. Д.» і інш. Гэта дазволіла ўвесці ў выданне «Твораў» Багушэвіча 1967 г. новы раздзел — «Публіцыстыка». На думку даследчыка, гэта толькі пачатак работы па выяўленні публіцыстыкі пісьменніка. «Напрошваецца вывад аб тым,— пісаў ён,— што, магчыма, Ф. Багушэвіч побач з выступленнямі ў гэтым часопісе друкаваўся ў віленскіх і варшаўскіх выданнях, а таксама змяшчаў публіцыстычныя матэрыялы на Украіне ў часе працы ў Канатопе. Тым больш што нам удалося пакуль што прасачыць яго публіцыстычную дзейнасць за вельмі кароткі прамежак часу...» [76] Невялікую навуковую публікацыю Ф. Багушэвіча С. Александровіч выявіў у польскім этнаграфічным часопісе «Вісла» (1889, т. 3). У нататцы, падпісанай поўным прозвішчам пісьменніка, паведамляецца, як клічуць і паганяюць дамашнюю жывёлу на Беларусі і Украіне.

Даўно займае нашых даследчыкаў пытанне аб паэтычным зборніку Ф. Багушэвіча «Скрыпачка беларуская». У некаторых некралогах гаварылася, што гэта кніга паспела выйсці ў свет. Некралог, апублікаваны ў часопісе «Край», паведамляў нават, што «Скрыпачка» выйшла з партрэтам аўтара (Пачынальнікі, *414*). У 1961 г. у артыкуле «Бібліяграфічная загадка» С. Александровіч усебакова разгледзеў гэта пытанне і параўнаў лёс «Скрыпачкі» з лёсам «Траляленачкі». «...Ці не здарылася са «Скрыпачкай беларускай» яшчэ больш сумная гісторыя, чым з апавяданнем «Траляленачка», якое было выдадзена ў Кракаве ў 1892 г. і толькі праз семдзесят год стала здабыткам беларускай літаратуры? — задаваў пытанне вучоны.— Праўда, сляды «Траляленачкі» не згубіліся таму,

---

[74] Багушэвіч Ф. Траляленачка // Полымя. 1960. № 6. С. 173—175.

[75] Александровіч С. Новае пра Ф. Багушэвіча // Александровіч С. Старонкі братняй дружбы. Мн., 1960. С. 194—197; Багушэвіч Ф. Творы. Мн., 1967. С. 215.

[76] Александровіч С. Старонкі братняй дружбы. С. 204—205.

што кніга была палічана за польскі твор (апавяданне было выдадзена лацінкай і ананімна) і трапіла ў польскія бібліяграфічныя даведнікі (напрыклад, у бібліяграфію польскай літаратуры К. Эстрайхера).

Трэба адзначыць і той факт,— працягваў С. Александровіч,— што «Тралялёначкі» няма *ні ў адной* бібліятэцы Савецкага Саюза. Відаць, сапраўды з перавозам кніг Ф. Багушэвіча, выдадзеных за мяжой, было нялёгка. Магчыма, «Скрыпачка» таксама выйшла за мяжой, але па розных прычынах не трапіла на Беларусь»[77].

С. Александровіч звярнуў таксама ўвагу на яшчэ адзін цікавы факт. Выдавецтва «Загляне сонца і ў наша аконца» 2 снежня 1906 г. паведамляла на старонках «Нашай Нівы», што ў падпіснoй серыі «Беларускія песняры» побач з «Дудкай» і «Смыком» надрукуе і «Скрыпачку беларускую», але «Скрыпачка» ў гэтай серыі не выйшла. Вучоны схільны тлумачыць гэта тым, што выдаўцы серыі не мелі тэкстаў гэтага зборніка ні ў друкаваным (калі дапусціць, што зборнік ужо выходзіў раней), ні ў рукапісным выглядзе. «Ці не застаўся рукапіс «Скрыпачкі» разам з іншымі матэрыяламі (у прыватнасці, з картатэкай да слоўніка беларускай мовы) у архівах сям'і паэта, якая непрыхільна ставілася да творчай дзейнасці Ф. Багушэвіча на беларускай мове?»[78] — меркаваў С. Александровіч. Але думаецца, што рукапіс зборніка ў выдаўцоў серыі, а менавіта ў Б. Эпімах-Шыпілы, усё ж быў. Пра гэта ёсць нямала сведчанняў. М. Піятуховіч пісаў, у прыватнасці, у 1925 г.: «Некаторыя творы Багушэвіча да гэтай пары яшчэ захоўваюцца ў рукапісах, напр. «Беларуская скрыпачка» (знаходзіцца ў Б. І. Эпімах-Шыпілы, у Ленінградзе)...»[79] Гэта ж фраза паўторана вучоным у «Нарысах...» 1928 г.[80] (толькі выпала ўдакладненне «у Ленінградзе», бо Эпімах-Шыпіла жыў і працаваў ужо ў Мінску). Безумоўна, М. Піятуховіч асабіста ведаў Эпімах-

---

[77] Александровіч С. Бібліяграфічная загадка // Літ. і мастацтва. 1961. 7 лют.

[78] Александровіч С. Х. Пуцявіны роднага слова: Праблемы развіцця беларускай літаратуры і друку другой паловы XIX — пачатку XX ст. Мн., 1971. С. 100—101.

[79] Піятуховіч М. М. Францішак Багушэвіч як ідэёлаг беларускага адраджэння і як мастак // Працы Беларускага дзяржаўнага універсітэта. 1925. № 6—7. С. 20.-

[80] Піятуховіч М. М. Нарысы гісторыі беларускай літаратуры. Мн., 1928. Ч. 1. С. 86.

Шыпілу і не стаў бы рабіць падобнай заявы без належных падстаў. У «Запісах Беларускага навуковага таварыства» 1938 г. паведамлялася пра лёс спадчыны Багушэвіча: «...пасля (на пачатку XX ст.— *Г. К.*) «Дудку» перадрукавала суполка «Загляне сонца і ў наша ваконца» ў Пецярбургу, закупіўшы ад сям'і Багушэвічавай права на выданне ўсіх твораў паэта, у тым ліку і пакіненае да сягонняшняга дня ў рукапісе «Беларускай скрыпачкі». Апошняя перахоўвалася ў архіве Браніслава Эпімах-Шыпілы і разам з усім архівам перайшла да Беларускай Акадэміі навук у Мінску» (Пачынальнікі, *441*). Тут рэальнае пераплецена са здагадкамі, а то і проста з фантазіяй. Звесткі аб закупцы ў сям'і Багушэвіча права на выданне яго твораў знаходзяцца, напрыклад, у супярэчнасці з вядомымі нам фактамі пра адмоўнае стаўленне сям'і пісьменніка да яго беларускай творчасці. Трэба думаць, што рукапіс «Скрыпачкі» трапіў да Эпімах-Шыпілы нейкімі іншымі шляхамі (ёсць нават звесткі аб асабістым знаёмстве яго з Багушэвічам [81]). У 1929 г. у друку з'явілася паведамленне, што Эпімах-Шыпіла перадаў у Беларускую Акадэмію навук сваю бібліятэку [82], але рукапісныя зборы, можна думаць, ён пакінуў пры сабе. У кожным выпадку цытаванае паведамленне «Запісаў...», што рукапіс «Скрыпачкі» трапіў у Беларускую Акадэмію навук, не адпавядае сапраўднасці. У зборніку тэкстаў «Беларуская літаратура XIX ст.», выдадзеным Інстытутам мовы і літаратуры АН БССР у 1940 г., гаворыцца: «У значнай колькасці лірычныя творы паэта да гэтага часу яшчэ не надрукаваны і нават не знойдзены. Аднак нам вядома, што зборнік лірычных вершаў Багушэвіча «Беларуская скрыпачка» знаходзіўся ў г. Мінску ў прыватнай бібліятэцы...» [83] Такім чынам, «Скрыпачкі» напярэдадні вайны ў зборах АН БССР не было. Пад «прыватнай бібліятэкай» хутчэй за ўсё меліся на ўвазе ўсё тыя ж зборы Эпімах-Шыпілы, які ў другой палове 20-х гадоў працаваў у Мінску, а потым зноў вярнуўся ў Ленінград (адкрыта назваць прозвішча

---

[81] Семашкевіч Р. М. Браніслаў Эпімах-Шыпіла. Мн., 1968. С. 23; Ліс А. Вечны вандроўнік. Мн., 1984. С. 168—169; Содаль У. Імпульсы // Полымя. 1989. № 6. С. 205.

[82] Полымя. 1929. № 6. С. 217.

[83] Беларуская літаратура XIX ст.: Зборнік тэкстаў. Мн., 1940. С. 149.

«нацдэма» Эпімах-Шыпілы ў 1940 г. не было магчымасці).

Шмат пытанняў выклікае і паведамленне заходняга друку пра «Скрыпачку», прыведзенае ў «Англійскім дзённіку» А. Мальдзіса: «...рукапіс яе перахоўваў праф. Бранілаў Эпімах-Шыпіла, пакуль не аддаў у Беларускую Акадэмію навук. Рукапіс гэты выкарыстоўваў і дэманстраваў студэнтам на сваіх лекцыях праф. М. Піятуховіч у 1929—30 акадэмічным годзе ў Беларускім дзяржаўным універсітэце»[84]. Але ж толькі што мы бачылі, што сам Піятуховіч, гаворачы пра «Скрыпачку», спасылаўся на Эпімах-Шыпілу. Калі ён сапраўды і дэманстраваў сваім студэнтам «Скрыпачку», то хутчэй за ўсё пазычыў яе ў Эпімах-Шыпілы. Так або інакш далейшы лёс рукапісу «Скрыпачкі» невядомы.

Асобныя творы Багушэвіча з'явіліся ў друку пасля яго смерці.

У 1907 г. у «Нашай Ніве» былі надрукаваны апавяданні Багушэвіча «Сведка», «Палясоўшчык», «Дзядзіна». Паколькі аўтографы не захаваліся, газетныя першапублікацыі з'яўляюцца для нас цяпер адзінымі крыніцамі гэтых тэкстаў.

Невядомыя сёння аўтографы верша на польскай мове «Дагарае рэшта вецця...», у 1899 г. дасланага паэтам З. Нагродскаму і надрукаванага ўпершыню ў 1900 г. Л. Уземблам у артыкуле-некралогу «Паэт-юрыст» (Пачынальнікі, *418*), перакладу байкі А. Бартэльса «Свінні і бараны», апублікаванага ў газеце «Гоман» (1916), верша «Яснавяльможнай пані Арэшчысе» (часопіс «Варта», 1918).

Аўтограф верша «Каб я мог напісаць...», упісанага паэтам у 1897 г. у альбом С. Пятровіч, не захаваўся, але яго да пэўнай ступені замяняе факсіміле, прыкладзенае да першапублікацыі[85].

Значная колькасць вершаў Багушэвіча ўбачыла свет у 1938 г. у «Запісах Беларускага навуковага таварыства»: беларускія вершы «Хто над жалезнай струной запануе...», «Каму дудка паслушна...», «Сабраўшыся на тры чоўна...», упісаныя паэтам у 1897 г. у альбом сясцёр Пятровіч, «Ота ж, браце, давядзецца...», «Вецер дзьме і вые...», «Эпіграма на Т. Урублеўскага»; польскія — «Жыццё — вандроўка на

---

[84] Мальдзіс А. З літаратуразнаўчых вандраванняў. Мн., 1987. С. 123.
[85] Душ-Душэўскі К. Аўтограф Францішка Багушэвіча // Крывіч. 1923. № 5. С. 51.

чоўне па моры» (з альбома М. Пятровіч), «Песня», «Праўдзівая гісторыя аб замучаным дукаце». Аўтографы ўсіх пералічаных вершаў да нас не дайшлі, таму «Запісы Беларускага навуковага таварыства» застаюцца важнай тэксталагічнай крыніцай.

Нарэшце, некалькі аўтографаў вершаў Багушэвіча на польскай мове захавалася ў Цэнтральнай бібліятэцы АН ЛітССР (сярод матэрыялаў Т. Урублеўскага — «Запавет», «Верабей і каша»), Цэнтральным гістарычным архіве ЛітССР (сярод матэрыялаў Карловіча — «Што-дзень слабнуць сілы...», «Лютня» айчыны!..»), Інстытуце літаратурных даследаванняў Польскай АН (сярод матэрыялаў Э. Ажэшка — «Шумяць сосны»), Львоўскай навуковай бібліятэцы імя В. Стафаніка (у пісьмах Карловічу).

Ф. Багушэвічу прыпісваецца таксама тэкст беларускай пракламацыі, выпушчанай у 1893—1894 гг. у сувязі з антынароднымі дзеяннямі царскіх улад у м. Крожы (Кражай) у Літве. Пракламацыя выдадзена ананімна, без загалоўка. У навуковай літаратуры называецца па першых словах: «Гаспадары, для вас пішу гэта апавяданне...» Адзін экземпляр яе захоўваецца ў Цэнтральнай бібліятэцы АН ЛітССР [86]. Тэкст надрукаваны нядаўна Я. Янушкевічам у часопісе «Маладосць» (1990, № 3) і зборы твораў Багушэвіча (1991; раздзел твораў, якія прыпісваюцца пісьменніку). Усебакова гэта канспіратыўнае выданне ў нашым літаратуразнаўстве яшчэ не даследавалася, не вырашана канчаткова і пытанне аб аўтарстве.

Багушэвіч шырока знаёміў са сваёй творчасцю суседзяў-сялян. Гэля Касперавічанка-Горыт, у прыватнасці, успамінала: «Меў ён грубы сшытак з рознымі беларускімі вершамі — апрача друкаваных у «Дудцы» і «Смыку», памятаю, што між імі былі вершы «Шаршуны улетку, шаршуны ўзімку», «Вясковая баба» і шмат іншых» (Сын Беларуса. 1924. 27 ліп.). Як заўважыў Я. Саламевіч, назвы вершаў Касперавічанка хутчэй за ўсё пераблытала з тэматыкай першых беларускіх паштовак, выпушчаных выдавецтвам «Загляне сонца і ў наша аконца» ў 1906 г.: «Шчарсуны [жыхары вядомай в. Шчорсы на Навагрудчыне] улетку», «Шчарсуны ўзімку», «Вясковая баба з Трыбужкоў». Гэта надзвычай цікавая дэталь для ацэнкі

---

[86] Гл.: Александровіч С. Х. Пуцявіны роднага слова. С. 103—104; Лапінскене А. П., Мальдзіс А. І. Неразовы сяброўскіх галасоў. Мн., 1988. С. 59—61.

ўспамінаў як гісторыка-літаратурнай крыніцы. Тым не менш несумненна, што многія знаёміліся з творамі Багушэвіча яшчэ ў рукапісах ці ў вуснай перадачы і ведалі іх напамяць. Таму корпус твораў паэта можа быць сёння пашыраны за кошт вершаў, якія захаваліся ў народнай памяці і прыпісваюцца Багушэвічу або могуць быць аднесены да яго творчасці па тыпалогіі, па мастацкіх асаблівасцях. Так, параўнальна нядаўна У. Содаль запісаў ад земляков Багушэвіча байку «Пан і блыха»[87]. Польскі славіст Ф. Сяліцкі прыпісвае Багушэвічу цікавы вершаваны твор «Доля жабрака», запісаны ў 1976 г. пад Даўгінавым[88]. Даследчык упэўнены нават, што гэты твор быў у адной з першых кніжак паэта — «Дудцы» або «Смыку». Л. Тарасюк ставіць пытанне аб блізкасці Багушэвічу некалькіх твораў, якія бытуюць у наш час у вуснай форме на Смаргоншчыне[89].

Найбольш поўным выданнем творчай спадчыны Багушэвіча на сёння з'яўляюцца «Творы» 1991 г. Укладальніку Я. Янушкевічу (пры ўдзеле У. Содаля) удалося значна пашырыць кола публікуемых твораў, надрукаваць шэраг твораў, якія па розных прычынах не ўваходзілі ў папярэдняе выданне (напрыклад, верш «Немец»), вычарпальна прадставіць выяўленую эпісталярную спадчыну, забяспечыць выданне грунтоўнымі каментарыямі.

* * *

Аўтографаў мастацкіх твораў сучасніка Багушэвіча, другога выдатнага пісьменніка той эпохі Янкі Лучыны амаль не захавалася. Выключэнне складаюць толькі асобныя аўтографы на польскай мове, што знаходзяцца ў Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве. Як паведамляе А. Мальдзіс[90], там у папцы пад назвай «Розныя паперы са збораў А. Валіцкага» (адз. зах. 2981) захоўваецца некалькі арыгінальных і перакладных польскамоўных твораў

---

[87] Содаль У. З памяці народнай // Дзень паэзіі-77. Мн., 1977. С. 172—174.

[88] Sielicki F. Legendy, przypowieści i opowiadania o zjawach na Wilejszczyźnie w okresie międzywojennym // Lud. 1963. T. 67. S. 251—252.

[89] Тарасюк Л. У памяці народнай // Літ. і мастацтва. 1990. 23 сак.

[90] Мальдзіс А. Пісьмы Я. Лучыны да З. Пшасмыцкага // Садружнасць літаратур. Мн., 1968. С. 153—166.

Лучыны: «На ласёў на прынаду», «Восень», «Май», «І шумяць, і з ветрам хвалююцца», «На цецерукоў у час такавання», «З маламестачковых плётак», пераклады «Забытай вёскі» М. Някрасава, «Псалма» А. Хамякова і вершаў В. Чумінай. Рукапісы датаваны 1882 г. і падпісаны псеўданімам «Тутэйшы». У іншай папцы (адз. зах. 2975) ёсць вершаванае пісьмо-пасланне да таго ж А. Валіцкага 1884 г. Некалькі твораў ёсць у пісьмах Лучыны да польскага паэта, рэдактара варшаўскага тыднёвіка «Жыце» З. Пшасмыцкага (адз. зах. 2856): вершаванае пасланне 1887 г., пераклад верша У. Салаўёва «Ex oriente — lux», санет «Winiary», верш «Вісла», карэктурны адбітак верша «Сённяшні вясковы лірнік», які ў змененым выглядзе трапіў пазней у зборнік польскіх вершаў Лучыны 1898 г. Апрача таго, у паперах Пшасмыцкага захоўваюцца арыгіналы некалькіх «Замалёвак з паляўнічага жыцця на Палессі» на польскай мове, якія пасылаліся Лучынай у рэдакцыю часопіса «Жыце» і там часткова друкаваліся.

Пераважна ж крыніцамі мастацкіх тэкстаў Лучыны для нас служаць прыжыццёвыя і пасмяротныя першапублікацыі яго твораў у газетах, часопісах, альманахах. Частка яго беларускіх паэтычных твораў увайшла ў зборнік «Вязанка», выдадзены ў Пецярбургу ў 1903 г., польскамоўныя творы былі часткова сабраны ў зборніку «Poezye», які выйшаў у свет у Варшаве ў 1898 г.

Сярод многіх легенд, якімі поўніцца гісторыя нашай літаратуры XIX ст., ёсць таксама легенда аб існаванні выдання Лучынавай «Вязанкі» 1891 г. Пра гэта выданне згадвалі ў 20-х гадах У. Ігнатоўскі, Ю. Бібіла, звесткі аб ім трапілі ў «Гісторыю СССР», выдадзеную ў 1949 г. пад рэдакцыяй акадэміка М. Нечкінай. У 50-х гадах С. Майхровіч нават наракаў на бібліёграфаў і вучоных, якія нібыта забыліся пра «Вязанку» 1891 г. «А між тым,— сцвярджаў ён,— такое выданне існуе... Другое выданне «Вязанкі» было паўторана добраахвотным гуртком пецярбургскіх студэнтаў-беларусаў у 1903 годзе і нічым, відаць, не адрозніваецца ад першага»[91]. Даследчык спрабаваў нават рабіць з гэтага досыць важныя канцэптуальныя вывады: «Сам факт выдання «Вязанкі» ў 1891 годзе

---

[91] Майхровіч С. Нарысы беларускай літаратуры XIX ст. Мн., 1957. С. 3[illegible]

набывае істотнае значэнне для літаратуразнаўства, бо прымушае перагледзець няправільную ацэнку літаратурнай дзейнасці Янкі Лучыны як «малодшага брата» і паслядоўніка Багушэвіча» [92].

Перад намі лагічная, на першы погляд, пабудова без належнай дакументальнай асновы. Сёння аб існаванні выдання 1891 г. ужо ніхто не ўспамінае — легенда не пацвердзілася.

Адзначым яшчэ адну цікавую дэталь адносна «Вязанкі». У хрэстаматыі беларускай літаратуры М. Гарэцкага (1922) да публікацыі твораў Лучыны зроблена наступнае ўказанне на крыніцу, якой карыстаўся Гарэцкі: «Вязанка» з дапіскамі па архіву Ант. Луцкевіча...» Паколькі браты Луцкевічы прымалі ўдзел у выданні «Вязанкі» 1903 г. [93], у іх маглі застацца нейкія рукапісы або, прынамсі, падрыхтоўчыя матэрыялы, блізкія да аўтарскага тэксту. Так што хрэстаматыя Гарэцкага можа быць, такім чынам, дадатковай тэксталагічнай крыніцай.

Газетна-часопісныя публікацыі Лучыны станавіліся здабыткам нашага літаратуразнаўства паступова. Напрыклад, у перадваенным артыкуле «Новыя матэрыялы аб беларускай літаратуры XIX ст.» маладыя тады даследчыкі М. Ларчанка і Л. Фіглоўская пісалі пасля навуковай камандзіроўкі ў архівы і бібліятэкі Ленінграда: «Да гэтага часу не былі вядомы такія творы Янкі Лучыны, як «Па поваду стогадовай гадавіны з дня нараджэння лорда Байрана», «Не ради славы иль расчёта», «Вясна», «У памяць бенефіса» і «Роднай старонцы», якія не ўвайшлі ў яго зборнік «Вязанка» [94]. Пра характар знойдзеных матэрыялаў у папулярным артыкуле не паведамлялася. У. Абрамавічус у машынапіснай бібліяграфіі 1949 г. меркаваў, што меліся на ўвазе аўтографы, выяўленыя ў справах цэнзурнага камітэта [95], але, трэба думаць, размова ішла ўсё ж пра першапублікацыі ў «Минском листке» і «Северо-Западном календаре».

З творчай спадчынай Янкі Лучыны звязаны цікавыя

---

[92] Майхровіч С. Нарысы беларускай літаратуры XIX ст. С. 333.

[93] Гл.: Навіна А. [Луцкевіч А.] Роля моладзі ў пачатках адраджэнскага руху // Родныя гоні. 1927. Кн. 5. С. 21; Зямкевіч Р. Ян Неслухоўскі (Янка Лучына) і яго невядомыя вершы // Нёман. 1932. № 2. С. 59.

[94] Ларчанка М., Фіглоўская Л. Новыя матэрыялы аб беларускай літаратуры XIX ст. // Літ. і мастацтва. 1939. 9 сак.

[95] Абрамавичюс В. Библиография по белорусской литературе XIX века. Вильнюс. 1949. [Машинопись.] С. 82.

атрыбуцыйныя распрацоўкі беларускіх літаратуразнаўцаў.

Зыходным пунктам для аднаго з пошукаў з'явіліся згаданыя пісьмы Лучыны да З. Пшасмыцкага, выяўленыя ў пасляваенны час у Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве. У пісьме ад 1 (12) лютага[96] (год не пазначаны, па зместу і аналогіі з іншымі пісьмамі — каля 1889 г.) Лучына паведамляў: «Напісаў я абразок аб падзеях 1863 г. і так задаў перцу і імбіру, што, напэўна, адбыў бы падарожжа на ўрадавы кошт, калі б мая пісаніна трапіла ў належныя рукі... Аднак я не меў бы нічога супраць, каб гэтых некалькі слоў прыязні да нашых дабрадзеяў пусціць пад вялікім сакрэтам у ход за кардонам»[97]. Далей Лучына прасіў садзеяння Пшасмыцкага ў перасылцы рукапісу абразка ў Кракаў, каб уручыць «Ал. Валіцкаму ў друкарні Анчыца». Пасля вывучэння гэтага пытання А. Мальдзіс прыйшоў да высновы, што гэтым «абразком» можа быць толькі брашура на польскай мове: «З крывавых дзён: Эпізод з паўстання 1863 г. на Міншчыне, расказаны праз *. S.» (Кракаў, друк і кошт В. Карнецкага, 1889). Экземпляр гэтага рэдкага выдання знайшоўся ў бібліятэцы Ягелонскага універсітэта (ксеракопія ёсць цяпер у Цэнтральнай навуковай бібліятэцы АН БССР). Гэта расказ відавочцы і, бадай што, удзельніка тых рэвалюцыйных падзей аб эпізодах паўстання на Міншчыне. Цікава, што пасля прадмовы, падпісанай зноў крыптанімам *.S., пазначана: «Пісана ў Кракаве дня 8 жніўня 1889 г.» Аб знаходжанні Лучыны ў гэты час у Кракаве звестак няма. Тым не менш, на думку А. Мальдзіса, «можна сёння з упэўненасцю сказаць, што ён («абразок».— *Г. К.*) належыць пяру Янкі Лучыны. Аб гэтым у першую чаргу сведчыць тое, што па часе выданне прыкладна супадае з цытаваным вышэй пісьмом да Пшасмыцкага, дзе даволі трапна ўказана ідэйная накіраванасць «абразка». І сапраўды, калі б гэты твор трапіў у рукі царскіх улад, калі б аўтар не схаваўся за крыптанімам і не дадаў яшчэ для надзейнасці, што пісаў ён кнігу ў Кракаве,— не пазбегнуць бы Лучыне «падарожжа за кошт урада»[98]. У іншым месцы

---

[96] Відаць, памылка Лучыны пры пераводзе са старога стылю на новы. Павінна быць — 1 (13) лютага.

[97] Садружнасць літаратур. С. 163.

[98] Мальдзіс А. «Закардоннае» выданне Лучыны // Літ. і мастацтва. 1965. 24 верас.

А. Мальдзіс праводзіць думку, што літаратурныя вартасці брашуры не супярэчаць аўтарству Лучыны. «Многія старонкі кнігі (апісанне веснавой ночы, нягод у Зялёным Лузе) уражваюць вобразнасцю і эмацыянальнасцю,— піша даследчык.— Адчуваецца, што створаны яны вопытнай рукой» [99]. Звяртае на сябе ўвагу, што «абразок» выйшаў у свет не ў выдавецтве Анчыца, як можна было меркаваць з цытаванага вышэй пісьма, а ў выдавецтве Карнецкага. Тым не менш з атрыбуцыяй А. Мальдзіса варта, відаць, на даным узроўні нашых ведаў пагадзіцца. Трэба думаць, што Лучына запісаў і апрацаваў расказ удзельніка тых падзей. Сам ён у часы паўстання быў дванаццацігадовым хлапчуком, і яго асабістага вопыту і памяці для напісання такога нарыса было недастаткова.

А вось другі характэрны прыклад атрыбуцыйнай практыкі, ужо іншага роду.

У 1956 г. у зборніку тэкстаў «Беларускія пісьменнікі другой паловы XIX стагоддзя» сярод твораў Янкі Лучыны была змешчана аповесць «Верачка» на рускай мове. Тэкст падаваўся па выданні: Верочка: Повесть для детей старшего возраста / Сочинение Лучины (псевдоним). Москва, типография И. И. Родзевича, 1900. Доўгі час ніякіх пярэчанняў супраць аднясення гэтай аповесці да спадчыны Лучыны не было. Сярод яго твораў выданне зафіксавана ў слоўніку псеўданімаў Я. Саламевіча [100]. Апошнім часам У. Казбярук больш уважліва перачытаў гэту аповесць і зрабіў вывад, што яна не магла быць напісана беларускім паэтам Янкам Лучынай. Па-першае, наш паэт ніколі не падпісваўся скарочанай формай псеўдаціма «Лучына» — без імя. Па-другое, дзеянне ў аповесці адбываецца ў Маскве і Падмаскоўі. Там Янка Лучына не быў. Ды і ідэйныя пазіцыі Я. Лучыны і аўтара аповесці «Верачка» розныя. Беларускі паэт быў куды бліжэй да народа [101]. З меркаваннямі У. Казберука нельга не пагадзіцца. Тым не менш даследаванне гэтага пытання трэба працягваць. Цікава даведацца, хто быў той рускі друга-

---

[99] Мальдзіс А. З кагорты пачынальнікаў // Літ. і мастацтва. 1981. 3 ліп.

[100] Саламевіч Я. Слоўнік беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў: XVI—XX стст. Мн., 1983. С. 83.

[101] Казбярук У. Пошукі працягваюцца: Штрыхі да біяграфіі Янкі Лучыны // За передовую науку. 1983. 29 ліп.; Ён жа. Пра каго казаў М. Горкі: Штрыхі да біяграфіі Янкі Лучыны // Літ. і мастацтва. 1983. 26 жн.

радны пісьменнік, які карыстаўся псеўданімам «Лучына» («Лучина»).

Яшчэ прыклад атэтэзы, «пераадрасоўкі» аўтарства, звязаны з Я. Лучынай. С. Кузняева, вывучаючы перыёдыку Беларусі канца мінулага стагоддзя («Минский листок», выпускі «Северо-Западного календаря» — «Календаря Северо-Западного края»), звярнула ўвагу на верш «Родной Белоруссии» («Ты глаз не радуешь волшебною красою...»), які да апошняга часу звыкла прыпісваўся Лучыне. Але на якой падставе? «Таму, напэўна,— разважае даследчыца,— што ён быў надрукаваны без подпісу ў календары на 1893 год, дзе шмат было змешчана вершаў паэта» [102]. Сумненні ўзніклі ў сувязі з цікавай бібліяграфічнай знаходкай: аказалася, верш гэты публікаваўся раней у календары на 1888 год, і пад ім стаяў подпіс: «М. З-ч». Што гэта — псеўданім Лучыны? Чаму ён так падпісаўся? Што ў такім выпадку азначаюць гэтыя літары? Канчатковую разгадку даследчыца знайшла на старонках «Минского листка», дзе ў 1886 г. упершыню надрукаваў свой верш (у газеце ён меў назву «Родному краю») мясцовы паэт Міхаіл Зяльдовіч.

Такім чынам, кола творчага набытку Янкі Лучыны пастаянна ўдакладняецца як шляхам адкрыцця яго новых твораў, так і за кошт «пераадрасоўкі» твораў, якія раней яму няправільна прыпісваліся.

Важным этапам у засваенні і папулярызацыі спадчыны Лучыны быў выпуск у 1988 г. аднатомніка яго твораў (укладальнік У. Мархель). Дастаткова сказаць, што аб'ём гэтага выдання ў шэсць разоў перавышае папярэднюю Лучынаву кнігу (Лучына Я. Выбраныя творы. Мн., 1953). У зборнік 1988 г. увайшлі амаль усе творы, напісаныя паэтам на беларускай, рускай і польскай мове (апошнія ў перакладах). Чытач упершыню змог пазнаёміцца з галоўным тварэннем Лучыны — паэмай «Паляўнічыя акварэлькі з Палесся» (пераклад Г. Тумаша), з яго гістарычным «абразком» пра паўстанне 1863 г. «З крывавых дзён». Гэта не значыць, што зборнік не мае прабелаў. Некаторыя творы пададзены са скарачэннямі, у тым ліку беларускі верш «Каршун», што чамусьці не агаворана. Не трапіла ў кнігу адметная частка творчасці Лучыны — яго пераклады на польскую мову. А між тым паэт займаўся

---

[102] Кузняева С. «Калі родная вам міла старонка...» // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1986. № 1. С. 36.

перакладамі шмат і з захапленнем. Сам укладальнік кнігі ў адной з публікацый досыць падрабязна акрэслівае кола перакладных твораў Лучыны — гэта змешчаныя ў кнізе «Паэзія» пераклады баек І. Крылова «Асёл і Салавей» і «Сабачая дружба», твораў В. Чумінай-Міхайлавай «У сеці» і «Маракі», наследаванне А. Хамякову «Псалм», верш «На дварэ завея...», напісаны паводле матываў Г. Гейнэ, апублікаваны ў польскім альманаху «Эхо музычнэ, тэатральнэ і артыстычнэ» (1898) пераклад камедыі Т. Банвіля «Сакрат і яго жонка», а таксама захаваныя ў рукапісах пераклады з М. Някрасава («Забытая вёска»), У. Салаўёва («З усходу — святло»), В. Чумінай («Цішыня») і з Гамеравай «Іліяды». «У тым,— лічыць У. Мархель,— што гэтая частка спадчыны аднаго з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры ўсё-такі не трапіла пад вокладкі кнігі, выявілася жывучасць (нават у асяроддзі літаратараў) інертных адносін да іншамоўнай творчасці аўтараў, якія пісалі не толькі па-беларуску» [103]. Нельга з гэтым не пагадзіцца. Але, думаецца, тут паўплываў сам характар навукова-масавага выдання. У будучым, спадзяёмся, будзе падрыхтавана паслядоўна навуковае, акадэмічнае выданне твораў Лучыны, куды ўвойдзе і ўсё багацце яго перакладаў на польскую мову.

«Творы» Лучыны 1988 г. выявілі яшчэ адну цікавую тэксталагічную праблему. Як мы ужо сказалі, там змешчана цалкам у беларускім перакладзе польскамоўная паэма Лучыны «Паляўнічыя акварэлькі з Палесся». Але ж вядома, што ў свой час паэт сам перастварыў па-беларуску цэлы раздзел з гэтай паэмы — «Стары ляснік». Як паступіць тэкстолагу ў такім выпадку? Было вырашана надрукаваць гэтае аўтарскае перастварэнне як асобны твор, а паэму даць цалкам у сучасным перакладзе. Відаць, у прынцыпе гэта правільнае рашэнне, хоць не ўсе з ім пагадзіліся [104]. «Нельга пахваліць тое, што паэма «Паляўнічыя акварэлькі з Палесся» перакладзена не тым вершаваным памерам, якім яна была напісана самім паэтам» [105],— заўважае, са свайго боку, У. Казбярук.

Ён жа адзначае некаторыя адвольныя праўкі аўтарскага тэксту і заклікае да гранічнай ашчаднасці ў гэтых адносінах. «Лучынаўскія граматычныя формы і лексіка,—

---

[103] Мархель У. Крыніцы памяці. Мн., 1990. С. 173—174.
[104] Тычка Г. Колас па коласу... // Полымя. 1989. № 1. С. 214.
[105] Казбярук У. Заняпад і адраджэнне // Полымя. 1990. № 6. С. 218.

абгрунтоўвае сваю пазіцыю вучоны,— гэта ўжо з'ява гісторыі нашай літаратуры і мовы, і мы іх сёння павінны не механічна прыстасоўваць да сучасных густаў і ўяўленняў — яны заўсёды мяняюцца,— а даваць па магчымасці такімі, якімі яны былі ў свой час. Бо нам трэба найбольш дакладна ўзнавіць эпоху, яе каларыт, каб асэнсаваць асаблівасці і шляхі выпрацоўкі і станаўлення моўных норм і форм мастацкай вобразнасці»[106]. Несумненна, гэта асноватворнае тэксталагічнае патрабаванне датычыць не аднаго Янкі Лучыны, а мае універсальны характар.

Шмат цікавага прасочваецца ў тэксталогіі твораў Адама Гурыновіча. Як ужо гаварылася, многія яго творы дайшлі да нас у выглядзе чарнавых накідаў. Гэта адкрывае магчымасць пранікнуць у творчую лабараторыю паэта і адначасова стварае немалыя цяжкасці для тэкстолагаў. Прыкладам удумлівага падыходу да тэксталагічных крыніц з'яўляецца артыкул М. Маляўкі «Аб некаторых пытаннях вывучэння творчасці Адама Гурыновіча»[107]. Вывучыўшы архіў паэта ў вільнюскай акадэмічнай бібліятэцы, даследчык выказаў каштоўныя меркаванні пра датаванне асобных твораў («Ох, наконец-то, слава богу», «Пора, пора нам встрепенуться», «Ох-ох-ох, умру ад смеху...»), унёс вартыя ўвагі тэксталагічныя прапановы. На яго думку, тэкст, які пачынаецца словамі «Перш душылі паны», з'яўляецца канцом верша «Што ты спіш, мужычок». Даследчык звярнуў таксама ўвагу на ўрывак «Сцямнела на дворы і ціха кругом», які друкуецца ў якасці самастойнага твора. Вывучэнне архіва Гурыновіча дазволіла М. Маляўку зрабіць вывад, што гэта частка незакончанай вершаванай навелы, якая пачынаецца словамі «Паслухайце, дзеўкі, што вам я скажу». М. Маляўка ставіць таксама пытанне аб атрыбуцыі некаторых твораў з рукапісаў Гурыновіча. «Зразумела,— піша ён,— што аўтарства як апублікаваных, так і неапублікаваных вершаў на рускай мове яшчэ патрэбна ўстанавіць, а дакладней кажучы, пацвердзіць, паколькі ў архіве Гурыновіча маглі быць вершы іншых паэтаў. Так, напрыклад, сярод пералічаных вышэй вершаў знаходзіцца твор М. П. Розенгейма «Плач откупщика». Але ўжо цяпер можна сцвярджаць, што такія вершы, як «Ох, зачем, почто», «Ох,

[106] Полымя. 1990. № 6. С. 218.
[107] Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1969. № 1. С. 91—97.

наконец-то, слава богу», «Зачем мученья ты вселила», «Как мало тех, кто искренней душой», «Пора, пора нам встрепенуться», «Не сине море всколыхалося», напісаны А. Гурыновічам. Аб гэтым сведчаць чарнавікі твораў, папраўкі і перакрэсліванні»[108].

Яшчэ першы даследчык творчасці паэта Б. Тарашкевіч лічыў Гурыновіча аўтарам надзвычай папулярнага ў народзе гумарыстычнага верша «Панскае ігрышча». Пытанне гэта спрэчнае, бо ёсць усе падставы адносіць гэты верш да творчай спадчыны Фелікса Тапчэўскага.

Упершыню верш быў надрукаваны ананімна ў газеце «Виленский вестник» ў 1889 г. як твор, які меў пашырэнне ў народзе. Апублікаваў яго нехта І. Сіротка. Неўзабаве — сярод іншых твораў Ф. Тапчэўскага — верш трапіў у рукапісную Хрэстаматыю Б. Эпімах-Шыпілы. Праўда, наконт аўтарства поўнай упэўненасці ў Эпімах-Шыпілы не было. У 1894 г. верш перадрукаваў у сваім «Смыку беларускім» Ф. Багушэвіч, каб даць водпаведзь яго аўтару, які схаваўся пад псеўданімам «Юрка». У прадмове да «Смыка» Багушэвіч пісаў: «...аж злосць узяла, што Юрка спадабаў тое, што толькі блазну можа спадабацца. Я тыкі і чыркнуў яму «Адказ», але так думаю, што гэта ён, смеючыся з нашага цёмнага брата, напісаў...»[109] Відавочна, Багушэвіч не прымае эстэтыкі Юркі, як не прымаў ён некаторых ідэй свайго выдатнага папярэдніка Дуніна-Марцінкевіча. Калі паглядзець на праблему атрыбуцыі «Панскага ігрышча» з гэтага пункту погляду, то большыя шансы на аўтарства ў Тапчэўскага, бо Гурыновіч і Багушэвіч мелі больш агульнага, чым Багушэвіч і Тапчэўскі. Менавіта так разумеў сітуацыю Р. Семашкевіч, які не сумняваўся ў аўтарстве Тапчэўскага. «Як бачым, Багушэвіч вельмі крытычна паставіўся да верша Тапчэўскага,— пісаў ён.— Гэта былі розныя натуры і паэты розных творчых індывідуальнасцей. Багушэвіч — палымяны паэт і ўдзельнік паўстання 1863 г., Тапчэўскі — разумны, відаць, таленавіты і адукаваны (аб гэтым гавораць устаўкі на французскай мове ў яго вершах), але з патрыярхальнай абмежаванасцю пана з мужыкоў... Рэаліст Тапчэўскі і рэаліст Багушэвіч мелі пад сабой розную сацыяльную глебу, што не магло не адбіцца на іх творчасці»[110].

---

[108] Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1969. № 1. С. 96—97.

[109] Багушэвіч Ф. Творы. Мн., 1967. С. 74.

[110] Семашкевіч Р. М. Беларускі літаратурна-грамадскі рух у Пецярбурзе. Мн., 1971. С. 53.

Але ёсць сур'ёзныя аргументы і на карысць аўтарства Гурыновіча. У 1921 г. Б. Тарашкевіч знайшоў у паперах Гурыновіча вершаваны накід «Ох-ох-ох, умру ад смеху...», які ён палічыў пачаткам «Панскага ігрышча». У артыкуле «Адам Гурыновіч» ён пісаў:

«Аўтарства «Панскага ігрышча» даказуецца: 1) сямейнай традыцыяй Гурыновічаў; 2) псеўданімам А. Гурыновіча, які ў сваёй перапісцы падпісваўся Jerzy або Jurka; 3) вершам «Ох-ох-ох, умру ад смеху...»

Гэты верш дзеля свайго зместу, размеру і мовы не можа быць палічаны нічым іншым, як пачаткам «Панскага ігрышча». Дзеля вялікай пластычнасці самога ігрышча аўтар адкідае папярэднія моманты і пачынае адразу ад музыкі і скокаў» (Пачынальнікі, *482*).

Пасля азнаямлення з архівам А. Гурыновіча, у прыватнасці з адрасаванымі яму пісьмамі, А. Мальдзіс пераканаўся, што ў Гурыновіча сапраўды быў псеўданім «Ежы», «Юрка»,— так называлі яго знаёмыя. Даследчык прывёў у сваёй кнізе «Таямніцы старажытных сховішчаў» згаданы вершаваны фрагмент «Ох! ох! ох! Умру ад смеху!..» (транскрыпцыя А. Мальдзіса). Сапраўды, па змесце і форме гэтыя радкі вельмі блізкія да «Панскага ігрышча». Разам з тым А. Мальдзіс падыходзіць да праблемы аўтарства выдатнага твора досыць цвяроза. «Вядома, з усёй катэгарычнасцю сказаць, што «Панскае ігрышча» належыць Гурыновічу, пакуль што нельга,— піша даследчык.— Гурыновіч мусіў бы напісаць гэты верш у раннім узросце, яшчэ да дваццаці год, бо ўжо ў 1889 годзе нехта Іван Сіротка з-пад Крэва апублікаваў пашыраны варыянт гэтага верша ў газеце «Виленский вестник». А можа, паэт напісаў толькі пачатак стылізаванага «Панскага ігрышча»? Можа, ён узяў сабе псеўданім, дзесьці пабачыўшы копію «Панскага ігрышча», напісанага Тапчэўскім» [111]?

Як мяркуе М. Маляўка, фрагмент «Ох-ох-ох, умру ад смеху...» напісаны Гурыновічам у 1887 г., калі паэт заканчваў Віленскае рэальнае вучылішча [112]. Тады ж ён мог напісаць і «Панскае ігрышча». Але хутчэй за ўсё «Ох-ох-ох, умру ад смеху...» — спроба напісаць верш па

---

[111] Мальдзіс А. Таямніцы старажытных сховішчаў. Мн., 1974. С. 69.

[112] Маляўка М. А. Аб некаторых пытаннях вывучэння творчасці Адама Гурыновіча // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1969. № 1. С. 92.

ўзору «Панскага ігрышча». Даследчыкі чамусьці не звярнулі ўвагі на тое, што «Панскае ігрышча» напісана ў форме размовы з «братам-кумішчам», а фрагмент Гурыновіча — дыялог паміж бацькам і сынам.

Для паўнаты карціны нагадваем таксама, што з'яўляліся ў друку звесткі пра дачыненне да «Панскага ігрышча» даволі загадкавага і дагэтуль пісьменніка Яна Шэмета-Палачанскага (1826—1905) [113], а акадэмік Я. Карскі дапускаў нават аўтарства самога Ф. Багушэвіча: «...впервые появилось в его сочинении и, очень может быть, что и составлено им же» (Карский, 3/3, *210*).

Аднак найбольш пашырана на сённяшні дзень думка, што «Панскае ігрышча» напісаў Тапчэўскі. Сярод твораў апошняга гэты помнік беларускай гумарыстыкі пададзены ў зборніку тэкстаў «Беларускія пісьменнікі другой паловы XIX стагоддзя» (1956). «Сцверджанне пра аўтарства Гурыновіча малаверагоднае...» [114],— пераканана заяўляе А. Лойка. Да яго далучаецца Я. Саламевіч, які зусім пэўна адносіць псеўданім «Юрка» да Тапчэўскага [115].

Да нядаўняга часу Адам Гурыновіч лічыўся і аўтарам ананімнай рэвалюцыйнай брашуры «Дзядзька Антон», выдадзенай у 1892 г. Такой думкі прытрымліваліся вядомыя беларускія вучоныя М. Ларчанка, І. Лушчыцкі, С. Майхровіч. У 1961 г. у артыкуле «Гісторыя з «Дзядзькам Антонам» С. Александровіч давёў, што беларуская брашура — гэта пераклад польскага агітацыйнага выдання «Бацька Шыман». Надрукаваў яе ў Тыльзіце, магчыма, і пераклаў М. Абрамовіч [116]. Праз дзесяць гадоў Г. Каханоўскі адкрыў, што першы варыянт «Дзядзькі Антона» пад назвай «Старая прысказка» быў надрукаваны ў 1887 г. у Львове [117]. Нарэшце, апошнім часам В. Скалабан прывёў цікавыя звесткі аб тым, што яшчэ больш ранні варыянт «Дзядзькі Антона» быў выдадзены прыблізна ў 1885 г. у Слуцку на гектографе і што да

---

[113] Власт. [Ластоўскі В.] Памажыця! // Наша ніва. 1913. 19 верас.; Карский Е. Ф. Белорусы. Т. 3, вып. 3. С. 77.

[114] Лойка А. Гісторыя беларускай літаратуры: Дакастрычніцкі перыяд. Мн., 1977. Ч. 1. С. 217.

[115] Саламевіч Я. Слоўнік беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў. С. 132.

[116] Александровіч С. Гісторыя з «Дзядзькам Антонам» // Літ. і мастацтва. 1961. 4 жн.

[117] Каханоўскі Г. Львоўскае рэха // Полымя. 1971. № 11. С. 222—225.

гэтага выдання, як і да тыльзіцкага выдання 1892 г., меў непасрэдныя адносіны ураджэнец Ляхаўскага раёна Н. Чарноцкі (1866—1937), будучы перакладчык на беларускую мову п'ес Крапіўніцкага і Чэхава [118]. Незалежна ад В. Скалабана надзвычай грунтоўнае даследаванне па гэтых пытаннях напісаў Ю. Туронак у Польшчы [119]. Такім чынам, па ўсім відаць, што А. Гурыновіч не меў непасрэдных адносін да напісання і выдання «Дзядзькі Антона». Атрыманыя вынікі — досыць пераканальны прыклад дасягненняў нашых вучоных на канкрэтнай дзялянцы крыніцазнаўства і тэксталогіі.

*

* *

Цікавыя крыніцазнаўчыя і тэксталагічныя праблемы паўстаюць пры вывучэнні творчай спадчыны Альгерда Абуховіча, перш за ўсё яго вядомых мемуараў.

Перад намі калі не адзіныя (ёсць яшчэ ўспаміны Ф. Савіча), то вельмі рэдкія і характэрныя беларускія пісьменніцкія мемуары XIX ст. Гэта параўнальна невялікі, але надзвычай ёмісты твор. Мемуары Абуховіча прываблівуюць не толькі цікавым зместам, але і каларытнасцю замалёвак, свабоднай, раскаванай формай, жывой, сакавітай мовай, шчырасцю, спавядальнасцю. Кавалкі ўспамінаў вельмі лёгка і натуральна спалучаюцца тут з дзённікавымі запісамі, з роздумам па розных пытаннях, з вершаванымі радкамі.

Твор гэты, як і само жыццё Альгерда Абуховіча, мае свае загадкі. У мемуарах ёсць запісы 1904 г., і на гэтай падставе лічылася, што пісьменнік памёр каля 1905 г. Але не так даўно краязнавец Рыгор Родчанка адшукаў на старых могілках у Слуцку магілу Альгерда Абуховіча. [120] На помніку пазначана дата смерці — 10 жніўня 1898 г. У Слуцку пабываў таксама Адам Мальдзіс, які пацвер-

---

[118] Скалабан В. Працяг гісторыі з «Дзядзькам Антонам» // Голас Радзімы. 1983. 18 жн. Разгорнуты варыянт: Полымя. 1988. № 2. С. 183—194.

[119] Turonek J. Wokół genezy «Dziadźki Antona» // Slavia orientalis. R. 32, Nr 3. Warszawa, 1983. [Скончана друкам у 1985 г.] S. 267—274.

[120] Родчанка Р. Магіла Альгерда Абуховіча // Літ. і мастацтва. 1966. 11 лістап. Ен жа. Усталяванне адной даты // Беларуская літаратура. Мн., 1979. Вып. 7. С. 154—157.

дзіў адкрыццё краязнаўца: так, знойдзеная Р. Родчанкам магіла сапраўды, па ўсім відаць, належыць пісьменніку Абуховічу і памёр той, выходзіць, у 1898 г.[121] Адсюль вынікаў важны лагічны вывад: 1904 г. у мемуарах Абуховіча — памылка публікатараў. Але ёсць і апаненты, якія прытрымліваюцца іншай думкі. Калі выйшаў першы том БелСЭ, Уладзімір Юрэвіч пісаў у рэцэнзіі: «Дайсці да першакрыніцы ў высвятленні таго ці іншага факта бывае цяжка. Але ж гэта неабходна, каб не паступацца аўтарытэтам навуковага выдання. Калі, напрыклад, не высветлена дата смерці беларускага пісьменніка Альгерда Абуховіча, дык навошта яе і заносіць на паперу, бо той, хто памятае публікацыі яго апошніх твораў, пазначаных 1904 годам, ніколі не дасць веры, што пісьменнік памёр у 1898 годзе. Спасылка на 1905 год, мабыць, дакладнейшая, і яе трэба было прасвятліць да канца»[122]. Усё гэта прымушае нас зноў вярнуцца да гэтага пытання.

Нагадаем, што ўпершыню мемуары Абуховіча былі надрукаваны ў чэрвені 1916 г. у віленскай беларускай газеце «Гоман» (№ 33—40) пад назвай «З папераў Альгерда Абуховіча». Ніякіх выдавецкіх заўваг не было зроблена. Пасля апошняга ўрыўка рэдакцыя абяцала працяг: «Далей будзе». Працяг пад такой жа назвай «З папераў Альгерда Абуховіча» з'явіўся праз месяц у № 49, але гэта былі ўжо не мемуары, а публікацыя верша «Дума а Каралю XII», якой папярэднічала нататка нейкага Язэпа Гулевіча пра адмоўнае нібыта значэнне Палтаўскай бітвы для гістарычнага лёсу ўкраінскага і беларускага народаў. Можна думаць, што гэты Гулевіч прычыніўся і да публікацыі мемуараў.

Рукапіс мемуараў не захаваўся, прынамсі, цяпер невядомы, і публікацыя ў «Гомане» з'яўляецца для нас адзінай першакрыніцай тэксту.

У. Абрамавічус у машынапіснай бібліяграфіі беларускай літаратуры XIX ст. чамусьці назваў публікацыю «Гомана» перакладам з польскай мовы на беларускую[123], але ніякіх указанняў на гэта ў самой публікацыі няма. Мова твора самая натуральная, арганічна спалучаецца

---

[121] Мальдзіс А. Таямніцы старажытных сховішчаў. С. 26—27.

[122] Юрэвіч У. Беларуская Савецкая: Чытаючы першы том энцыклапедыі // Полымя. 1970. № 5. С. 186.

[123] Абрамавичюс В. Библиография по белорусской литературе XIX века. С. 57.

з беларускай мовай вершаваных радкоў, якія ўжо несумненна належаць Абуховічу. Нашы літаратуразнаўцы, мабыць, слушна лічаць, што мемуары Абуховіча напісаны па-беларуску і стаяць ля вытокаў не толькі нацыянальнай мемуарыстыкі новага часу, але і мастацкай прозы.

Несумненна, што першая газетная публікацыя няякасная. Няцяжка ўбачыць у ёй яўныя памылкі, якіх не магло быць у аўтографе. Кепска, што гэтыя памылкі пераносяцца з выдання ў выданне, таму даўно наспела неабходнасць пра іх пагаварыць.

Вось радкі з І раздзела: «...жыў у нашым баку п. Пушчык, абывацель (землеўласнік, памешчык.— *Г. К.*), расіец, эксдзекабрыст, скінуты з палкоўніка гвардыі ў салдаты (знача мучэнік ідэі, сын свабоды)»[124]. Такім чынам, размова ідзе пра былога дзекабрыста. Але ж імёны дзекабрыстаў вядомыя[125] і лёгка праверыць, што дзекабрыста Пушчыка не было, а былі знакамітыя дзеячы дзекабрысцкага руху Пушчыны: Іван Іванавіч — ліцэйскі таварыш, блізкі сябра А. Пушкіна — і яго брат Міхаіл Іванавіч, які і маецца тут на ўвазе.

Міхаіл Іванавіч Пушчын (1800—1869) — капітан лейб-гвардыі Конна-піянернага батальёна, за дачыненне да паўстання 14 снежня быў пазбаўлены дваранства і аддадзены ў салдаты. Служыў нейкі час у Краснаярскім гарнізоне ў Сібіры, потым на Каўказе, дзе за храбрасць і вайсковы талент атрымаў афіцэрскі чын. Быў цяжка паранены. На пачатку 30-х гадоў працаваў чыноўнікам у Пскове, потым выйшаў у адстаўку і пасяліўся ў бацькоўскім маёнтку Парычы Бабруйскага павета (гэта непадалёк ад абуховічаўскіх Калацічаў). Цар Мікалай трымаў яго пад наглядам паліцыі. Толькі пасля смерці Мікалая дзекабрысты былі амнісціраваны. Новы цар Аляксандр II успомніў заслугі М. Пушчына ў Каўказскай вайне, вярнуў яму ранейшы чын гвардыі капітана, потым нават зрабіў яго генералам і прызначыў камендантам Бабруйскай крэпасці. На гэтай пасадзе М. Пушчын знаходзіўся да канца жыцця[126].

Міхаіл Іванавіч вядомы як мемуарыст. Яго цікавыя

---

[124] Беларускія пісьменнікі другой паловы XIX ст.: Зб. тэкстаў. Мн., 1956. С. 263. У далейшым спасылкі на гэта выданне падаюцца ў тэксце (у дужках старонка).

[125] Гл.: Декабристы: Биографический справочник. М., 1988.

[126] Там жа. С. 149—150, 306.

ўспаміны, дзе між іншым расказваецца і аб жыцці ў Парычах, надрукаваны ў 1908 г. у часопісе «Русский архив» (№ 11—12).

У 1857 г. Міхаіл Іванавіч сустрэўся на швейцарскім курорце з Л. Талстым, і той падахвоціў яго напісаць успаміны пра сустрэчы на Каўказе з А. Пушкіным. Перасылаючы нататкі Пушчына П. Аненкаву, Талстой пісаў: «Записка забавная, но рассказ его — изустная прелесть... Пущин этот — прелестный и добродушный человек. Они с женой здесь трогательно милы, и я ужасно рад их соседству»[127].

Дык вось менавіта з гэтым Міхаілам Іванавічам Пушчыным і быў, аказваецца, знаёмы наш Альгерд Абуховіч. Веданне гістарычных рэалій надзвычай узбагачае тэкст літаратурнага помніка, яго ўспрыманне. У мемуарах Абуховіча ўспамінаецца нават каўказская рана Пушчына, толькі недакладна называецца чын: у 1825 г. Пушчын быў не палкоўнікам, а гвардыі капітанам. Цікава, што Абуховіч малюе Пушчына ардынарным прадстаўніком памешчыцкага асяроддзя, які мог з усмешкай расказваць пра цялесныя пакаранні пакаёвак у сваёй сядзібе. У гэтым заключаліся супярэчнасці эпохі. Дарэчы, Л. Талстой падмеціў у сваім новым знаёмым не толькі дабрадушнасць, але і залішнюю самаўпэўненасць і схільнасць да перабольшанняў (гл. дзённік пісьменніка 1857 г.). 14 снежня 1825 г. М. Пушчын абяцаў вывесці на Сенацкую плошчу свой эскадрон, але абяцання не выканаў. Таму і пакараны ён быў усё-такі значна мягчэй за свайго брата, які вельмі актыўна дзейнічаў 14 снежня на Сенацкай плошчы і толькі пасля амністыі 1856 г. змог вярнуцца з Сібіры. У сваіх мемуарах, якія пісаліся, калі М. Пушчын быў генералам і камендантам Бабруйскай крэпасці, Міхаіл Іванавіч увогуле імкнуўся паказаць выпадковасць свайго ўдзелу ў дзекабрысцкім руху[128].

Матэрыялы пра сувязі з Беларуссю дзекабрыста Міхаіла Іванавіча Пушчына, чалавека, які сябраваў з А. Пушкіным і Л. Талстым, цікавыя самі па сабе.

---

[127] Толстой Л. Н. Полн. собр. соч. М., 1949. Т. 60. С. 182. Запіска М. Пушчына «Сустрэча з Пушкіным за Каўказам» надрукавана, у прыватнасці, у выданні: Пущин И. И. Записки о Пушкине; Письма. М., 1989.

[128] Падрабязней пра М. Пушчына і яго сувязі з Беларуссю гл.: Кісялёў Г. Дзекабрыст у мемуарах Абуховіча // Кісялёў Г. Героі і музы. Мн., 1982. С. 233—236.

А ў даным выпадку яны асабліва заслугоўваюць нашай увагі, бо дазваляюць паправіць памылку ў публікацыях успамінаў Абуховіча.

Яшчэ адзін прыклад скажэння прозвішча ў Абуховічавых мемуарах, дакладней, у публікацыях гэтага твора. У раздзеле III, дзе Абуховіч успамінае сваё знаходжанне ў Жэневе і пералічвае людзей, што знаходзіліся там у той час, гаворыцца: «Быў нават і [звер] Бобікаў, б. начальнік кіеўскага округу, і, як звычайны старэнькі чалавечык, аціраўся аб іншых смяротнікаў» (*266*). Тут, безумоўна, маецца на ўвазе вядомы царскі саноўнік Дзмітрый Гаўрылавіч Бібікаў (1792—1870), які быў у 1837—1852 гг. кіеўскім генерал-губернатарам (і адначасова папячыцелем Кіеўскай навучальнай акругі), а ў 1852—1855 гг. міністрам унутраных спраў. «Круты і ўладарны адміністратар,— гаворыцца пра яго ў «Савецкай гістарычнай энцыклапедыі»,— Бібікаў актыўна праводзіў палітыку вялікадзяржаўнага шавінізму. З мэтай аслаблення польскага ўплыву і русіфікацыі Украіны Бібікаў замяніў мясцовых чыноўнікаў рускімі, правёў праверку правоў польскай шляхты на дваранства, у выніку якой частка шляхты была пераведзена ў падатковае саслоўе»[129]. «Капралам Гаўрылавічам Бязрукім» называў Бібікава Т. Шаўчэнка (Бібікаў страціў у час вайны 1812 года руку). Паэт гнеўна заклеймаваў у накідзе да паэмы «Юродзівы» (1857) гэтага «старога сатрапа», «п'янага капрала» і ўсю эпоху «фельдфебеля-цара». Увасабленнем горшых рысаў змрочнага мікалаеўскага царавання лічыў Бібікава А. Герцэн, які адносіў яго да «мікалаеўскіх катаў і інквізітараў», называў «заплечным генерал-губернатарам», «тэрарыстам унутраных спраў»[130]. Як генерал-губернатар і міністр унутраных спраў Бібікаў скампраметаваў сябе перад грамадствам настолькі, што Аляксандр II вымушаны быў у 1855 г. звольніць яго ў адстаўку, і апошнія 15 гадоў да самай смерці былы мікалаеўскі сатрап быў выключаны з грамадскага жыцця. Менавіта ў гэты перыяд і малюе яго Абуховіч у далёкай Жэневе, дзе Бібікаў, «як звычайны старэнькі чалавечык, аціраўся аб іншых смяротнікаў». Так звяртанне да гістарычных рэалій і паралеляў узбагачае тэкст, адкрывае ў ім новыя пласты.

---

[129] Советская историческая энциклопедия. М., 1962. Т. 2. С. 397.

[130] Герцен А. И. Собр. соч.: В 30 т. М., 1958. Т. 14. С. 80—81; Т. 16. С. 93.

Такім чынам, мы заўважылі дзве кур'ёзныя памылкі публікатараў у напісанні прозвішчаў: у публікацыях мемуараў Абуховіча — «Пушчык», «Бобікаў», трэба — «Пушчын», «Бібікаў».

Такой жа памылкай публікатараў, як слушна лічаць Р. Родчанка і А. Мальдзіс, з'яўляецца ў тэксце ўспамінаў 1904 год.

Прааналізуем твор Абуховіча з пункту погляду гісторыі яго ўзнікнення. Трапныя назіранні ў гэтых адносінах ёсць у Р. Родчанкі (артыкул «Усталяванне адной даты»).

Дык вось, у нейкі момант жыцця Абуховіч вырашыў занатаваць на паперы свае ўспаміны, думкі і назіранні ў сувязі з рознымі акалічнасцямі.

Запісы вяліся фрагментарна.

І фрагмент, або раздзел, мае назву «Успаміны Кіева». Абуховіч пачынае са свайго нараджэння і адразу пераходзіць да аднаго з самых яркіх уражанняў дзяцінства — паездкі ў 1852 г. у Кіеў да хірурга Караваева. Стары Кіеў параўноўваецца з «сённяшнім» Слуцкам, з чаго відаць, што ўспаміны рабіліся ў Слуцку. Ёсць і каштоўнае для нас указанне на час запісу, заўважанае Р. Родчанкам. Успамінаючы аднаго са спадарожнікаў паездкі — маладога фурмана, Абуховіч гаворыць, што добра запомніў яго: «...сягоння бы паказаў яго, каб ён быў гэткі малады і гожы, як перад 40 з гарой гадамі (было гэта ў 1852 г.)» (*261*). Выходзіць, запіс зроблены недзе ў сярэдзіне 90-х гадоў.

Закрануўшы ў І раздзеле пытанне аб бяспраўным становішчы сялян у эпоху мікалаеўскага царавання, расказаўшы пра «пастаянны на ўсе бакі свіст розаг», Абуховіч палічыў патрэбным прадоўжыць гэту размову: «Гэткія парадкі трывалі ў нас яшчэ цэлы год пасля нашай падарожжы ў Кіеў, а перамена на лепшае, якая пасля сталася, варта таго, каб яе апісаць у асобным раздзеле» (*264*). ІІ раздзел носіць якраз назву «Палажэнне сялян». У фрагменце расказваецца аб становішчы сялян у маёнтках Абуховічаў: Калатычы (Калацічы) Бабруйскага павета і Грабова на Мазыршчыне, гаворыцца аб пераменах у сувязі са смерцю Мікалая І і надыходам эпохі рэформ. З піетэтам характарызуецца тагачасная атмасфера грамадскага ўздыму: «Растучы, я развіваўся, а перада мною штораз харашэй рассцілаўся свет: на царскім троне сеў, слаўнай памяці, Аляксандр ІІ, насталі часы, аб каторых можна сказаць, што

людзей нікчэмных яны не бачылі... Няхай цяперашняе пакаленне зайздросціць, што я на гэта глядзеў сваімі вачамі» (*265*). З тэксту мемуараў відаць, што II раздзел пісаўся адразу ўслед за I раздзелам, гэта значыць у сярэдзіне 90-х гадоў.

III раздзел — «Мая кніжка» — пераносіць нас у Жэневу, але храналагічна ён з'яўляецца, як мы ўбачым, працягам папярэдняга раздзела. Абуховіч закранае тут праблему сваіх духоўных пошукаў, з удзячнасцю ўспамінае англічанку пані Roberts, яна падарыла яму кніжку «Аб наследаванні Хрыста», якая на ўсё жыццё зрабілася любімай настольнай кнігай Абуховіча. У раздзеле таксама ёсць каштоўны матэрыял для храналагічных супастаўленняў. «...Я быў тады яшчэ мала што не рабёнкам» (*266*),— паведамляе Абуховіч. Несумненна, размова ідзе пра юнацтва, раннюю маладосць аўтара, які нарадзіўся ў 1840 г. Гэта прыблізна 1857—1858 гг. Такому датаванню не супярэчыць і супастаўленне біяграфічных звес-так пералічаных у раздзеле асоб: згаданы ўжо Бібікаў малюецца адстаўнікам, гэта значыць пасля 1855 г.; у ліку жывых называецца вядомы італьянскі дзяржаўны дзеяч Кавур, які памёр у 1861 г. Да таго ж Абуховіч указвае, што кніга, якая яго так моцна ўразіла, «40 блізка гадоў заўсёды знаходзіцца пры мне» (*266*). Выходзіць, і гэты запіс рабіўся недзе ў сярэдзіне 90-х гадоў.

У IV раздзеле — «Мой дзед» — Абуховіч палічыў неабходным расказаць пра слаўнага прадстаўніка свайго роду Юзафа Абуховіча, які быў паслом Рэчы Паспалітай у Францыі, а потым удзельнічаў у паўстанні Касцюшкі. Фрагмент цікава арганізаваны. Спачатку Абуховіч прыводзіць уласнае, несумненна, чатырохрадкоўе:

Дзед мой бачыў Робесп'ера
Адвакатам і акторам,
Ды не думаў, што кар'ера
Яго зробіць дыктаторам,—

а потым нібы з гэтымі радкамі спрачаецца: «Дзед мой Юзаф Абуховіч граф Бандзінелі мабыць ніколі не бачыў Робесп'ера, калі быў у Парыжы і Версалі, як шамбеляна польскага двара, то гэта будучая знамянітасць сядзела недзе яшчэ ў Аррас. Калі ж закіпела рэвалюцыя, і Робесп'ер выплыў наверх, то дзед мой быў на іншым становішчы: спярша быў жаўнерам пад Касцюшкам, а пасля, як баніта, выняты з-пад права, пад

прыдуманым прозвішчам тры гады быў фурманам у ваяводзіхі Хадкевічыхі на Падолі...» (*266—267*). Далей натуральны пераход да парыжскіх сустрэч 1860 г. са стаўпом польскай арыстакратычнай эміграцыі князем Адамам Чартарыйскім (Чартарыскім), які ведаў Юзафа Абуховіча. Як бачым, у мемуарыста асацыятыўнае мысленне. Не выключана, што якраз парыжскія ўспаміны 1860 г. (у папярэднім раздзеле былі жэнеўскія ўспаміны канца 50-х гадоў) і выклікалі ў памяці Абуховіча цень дзеда.

V раздзел — «Мая жонка» — у адрозненне ад папярэдніх мае дзённікавы характар: «Сягоння раніцай скончыўся 21 год ад смерці св. памяці маей жонкі» (*267*). Далей аўтар расказвае пра сваё нешчаслівае сямейнае жыццё і спрабуе аналізаваць прычыны гэтага. Запіс датаваны 4 красавіка 1904 г. Думаецца, што дакладная толькі першая частка гэтай даты, а год пераблытаны выдаўцамі дакумента. Для канчатковага ўстанаўлення ісціны важна было б у далейшым высветліць па архіўных дакументах дату смерці жонкі пісьменніка (калі жонка памерла ў $x$ годзе, то ясна, што фрагмент пісаўся ў $x+21$ годзе).

У VI раздзеле Абуховіч тлумачыць, чаму падпісвае свае беларускія творы прозвішчам «Граф Бандзінелі». Аказваецца, гэта не псеўданім у поўным сэнсе слова, а тытул яго продкаў, звязаных з італьянскім родам Бандзінелі, з якога выйшлі, як сцвярджае Абуховіч, вядомы ў гісторыі папа Аляксандр III Бандзінелі (XII ст.) і творца «Лаакаона», гэта значыць фларэнтыйскі скульптар Бачо Бандзінелі (1488—1560), які зрабіў копію з антычнай скульптурнай групы Лаакаона (Фларэнтыйскі музей). У канцы раздзела смешнаватыя для нас прэтэнзіі Абуховіча, што яго род больш славуты, чым род Пушкіна. Завяршаецца раздзел вершаванымі радкамі:

Не Сібір, астрог, не кнут
І не цела цяжкі мукі,
Але дух народа струт... (*268*)

Калі ў IV раздзеле ўспамінаюцца сустрэчы з Адамам Чартарыйскім, то VI раздзел Абуховіч вырашыў прысвяціць другому стаўпу польскай эміграцыі Людвіку Мераслаўскаму (у публікацыях напісанне прозвішча недакладнае — Міраслаўскі), з якім сустракаўся прыблізна ў той жа час («Пазнаў я яго каля 1860 году ў Парыжы»).

Як вядома, Мераслаўскі злучаў «чырвоныя», здавалася б, дэмакратычныя погляды са шляхецкім нацыяналізмам і шавінізмам. Яго пазёрства («камедыянства») трапна адзначана Абуховічам, хоць мемуарыст заўважае і дадатныя якасці Мераслаўскага, напрыклад асабістую бескарыслівасць. Агульная ж ацэнка Мераслаўскага як асобы і палітычнага дзеяча была не на яго карысць. «Не гэткага крою павінны быць стаўпы народаў, уваскрасіцелі Бацькаўшчыны!» (*269*) — рашуча заключае Абуховіч.

VIII раздзел зноў мае дзённікавы характар: «Зваліліся дзве навіны, як гром з яснага неба, аб дзвюх смерцях: пп. Адам Перасвет Солтан і Марка Узлоўскі ўчора развіталіся са светам» (*269—270*). Далей расказваецца аб абодвух нябожчыках, якія былі жыхарамі слуцкіх ваколіц, паведамляецца, што Солтан пісаў беларускія вершы (трэба сказаць, гэта наогул цікавая постаць — як высвятляецца, ён карэспандаваў нават з герцэнаўскім «Колоколом»[131]). Дата запісу ўказана ў загалоўку: «Дзве смерці (3 мая 1894 г.)» (*269*).

IX раздзел у першапублікацыі мае назву «П. П. Дашкевічы», у публікацыі 1956 г. «П. П. Дашкевічу» (*270*), у некаторых іншых публікацыях «Дашкевічы». Відаць, трэба: «П. п. [паны або панства] Дашкевічы», бо ў раздзеле ідзе гаворка пра блізкіх знаёмых Абуховіча — Ігната Дашкевіча і яго жонку з роду Мерэсаў. Хутчэй за ўсё Абуховіч успомніў Дашкевічаў па асацыяцыі, расказаўшы ў VIII раздзеле пра сваіх прыяцеляў Солтана і Узлоўскага.

У X раздзеле — як і папярэднім, недатаваным — Абуховіч выказвае свае погляды на перспектывы развіцця беларускай літаратурнай мовы, спрачаецца з Ф. Багушэвічам, які, прагледзеўшы вершы Абуховіча, указаў на недастатковую чысціню яго мовы. Абуховіч адказаў сваім вядомым чатырохрадкоўем, дзе адзначыў розную дыялектную арыентацыю іх «гаворак»:

...Маей — пушчы, Птыч граніца,
Ты — Панарскі салавей!.. (*272*)

Гэта значыць, Багушэвіч карыстаецца мовай Віленшчыны, а Абуховіч — мовай цэнтральнай Беларусі. «У канцы невядома яшчэ, каторы дыялект беларускі пера-

---

[131] Герцен А. И. Собр. соч. Т. 14. С. 439—440.

можа,— сцвярджаў Абуховіч.— У Францыі — спярша дыялект правінцыі Langeu [Langue] d'Oc меў перавагу ў французскай літаратуры, а пазней Langeu d'Oni [Langue d'Oui] — цяперашняя французшчына. Гэта трэба памятаць і нашым літаратарам і пурытанізмам не забаўляцца!» (*273*; у дужках удакладненні У. Казберука).

XI раздзел называецца «Спас 20/VII-1904». Першая частка запісу — дзённікавая: «Сягонняшні дзень умацаваўся ў маёй памяці: першы раз пачуў я, як да мяне сказана: «Дзеду, дзедку!» (*273*). Гэта было на дажынках у маёнтку Зарэчча на Глушчыне, які некалі належаў Абуховічам.

Наведанне Зарэчча выклікала ў Абуховіча шмат успамінаў, якія прыводзяцца ў раздзеле.

Год, указаны ў публікацыі, можа насцярожыць уважлівага чытача: у ліпені 1904 г. Абуховічу споўнілася б 64 гады, а звычайна ўпершыню людзей называюць дзедам раней, тым больш што жыццё Абуховіча не песціла і ён не павінен быў выглядаць занадта маладжавым.

XII, апошні раздзел, таксама дзённікавы, хоць ён і не датаваны. Відаць толькі, што запіс зроблены ўвосень (у канцы кастрычніка па старому стылю), калі адзначаецца свята Дзядоў. «Я, дзеля пашанавання сягонняшняга вечару дзядоў, вышаў на мост (трэба думаць, у Слуцку.— *Г. К.*), каб падумаць аб памёршай радзіне і прыяцелях» (*278*). Па асацыяцыі Абуховіч успомніў, як аднойчы, у маладыя гады, святкаваў гэта беларускае свята з таварышамі ў далёкай Францыі.

Адным словам, нягледзячы на фрагментарнасць і разнароднасць запісаў, твор робіць уражанне пэўнага адзінства. Пісаўся ён, відаць, без вялікай разбежкі ў часе. Прасочым храналогію напісання раздзелаў:

I — без даты. Па зместу відаць, што запіс зроблены ў сярэдзіне 90-х гадоў.

II — без даты. З'яўляецца непасрэдным працягам I раздзела, гэта значыць напісаны ў сярэдзіне 90-х гадоў.

III — без даты. Па зместу — таксама ўзнік у сярэдзіне 90-х гадоў.

IV — без даты.

V — 4/IV-1904.

VI i VII — без даты.

VIII — 3 мая 1894 г.

IX і X — без даты.

XI — 20/VII-1904, але па зместу можна меркаваць,

што год указаны недакладна, запіс узнік значна раней.

XII — кастрычнік, без года.

Такім чынам, большасць запісаў, што маюць тыя або іншыя храналагічныя прывязкі, адносяцца да сярэдзіны 90-х гадоў (адзін з іх проста ўказвае на 1894 г.), толькі два запісы пазначаны 1904 г., прычым змест другога запісу 1904 г. дае падставу меркаваць, што тут мы маем справу з памылкай публікатараў, а ў сапраўднасці запіс зроблены значна раней.

Звернем увагу таксама на тое (гэта заўважыў Р. Родчанка), што месяцы ў датаваных запісах ідуць паслядоўна: красавік, май, ліпень, кастрычнік. Улічваючы графічную блізкасць напісання гадоў 1904 і 1894 [132], пэўнае кампазіцыйнае адзінства і невялікі памер літаратурнага помніка, прыходзім да меркавання, што ўвесь гэты дакумент пісаўся ў 1894 г. (1904 — памылка публікатараў), прычым раздзелы I—IV напісаны да пачатку красавіка, а астатнія з пачатку красавіка да канца кастрычніка. Большасць запісаў рабілася хутчэй за ўсё ў Слуцку; адзін — у Зарэччы каля Глуска.

Далучаемся да думкі Р. Родчанкі і А. Мальдзіса, што 1904 г. у новых публікацыях помніка трэба паправіць на 1894-ы, як паправіць і некаторыя іншыя кур'ёзныя памылкі папярэдніх публікатараў. На прыкрыя тэксталагічныя пагрэшнасці, няўважлівасць публікатараў да тэксту выдатнага твора звяртае ўвагу і У. Казбярук у артыкуле «Заняпад і адраджэнне» (Полымя, 1990, № 6, с. 224—225).

Мемуары Абуховіча, як і іншыя яго творы, вымагаюць новага, навукова выверанага выдання з кваліфікаваным каментарыем. Як крок у гэтым напрамку трэба разглядаць выхад у свет першай аўтарскай кніжкі Абуховіча — «Творы» (1991; укладальнік Р. Родчанка).

Аўтографы сучасніка А. Абуховіча Фелікса Тапчэўскага не захаваліся. Вядомая Хрэстаматыя Б. Эпімах-Шыпілы, якая зберагаецца цяпер у Цэнтральным архіве-музеі літаратуры і мастацтва БССР [133], данесла да нас наступныя тэксты, звязаныя з імем Тапчэўскага:

1) Старонкі 34—43 (лісты 18 адварот — 23) Хрэстаматыі — верш «Саўсім ня тоя, што было». Твор пазна-

---

[132] Магчыма, у рукапісе Абуховіч пазначаў год скарочана дзвюма апошнімі лічбамі ці нават адной.

[133] ЦДАМЛіМ БССР, ф. 66, воп. 1, спр. 1256.

чаны парадкавым № 5. Як і іншыя матэрыялы Хрэстаматыі, перапісаны лацінкай. Тэкст завяршаецца паметкай па-беларуску: «Ухвішчы. 12-га января 1890. Хвэлька з Рукшэніц». Далей надпіс Эпімах-Шыпілы па-польску: «Перапісаў з аўтографа аўтара п. Фелікса Тапчэўскага (?), упраўляючага ва Ухвішчах, маёнтку пані Селявіны, аўтографа, пісанага рускімі літарамі. Меў той рукапіс ад Аскеркаў у Лявонаўшчыне. Перапісваў у Востраве 25-га ліпеня 1890-га года». Пастаўлены Эпімах-Шыпілам пытальнік пасля прозвішча можа азначаць сумненні ў правільнасці напісання прозвішча, як лічыў Р. Семашкевіч [134], або паказваць, што ўкладальнік Хрэстаматыі нічога пра аўтара не ведае ці нават не ўпэўнены ў такой атрыбуцыі.

2) Старонкі 44—46 (лісты 23 адварот — 24 адварот), парадкавы № 6 — верш «Грошы і праца». Пасля тэксту, па-беларуску: «Хвэлька з Рукшэніц. Ухвішчэ. 27-ага апрэля 1890». Па-польску: «Перапісана таксама з рукапісу аўтара, польскімі літарамі пісанага і атрыманага ад п. Аскеркаў у Лявонаўшчыне,— у Востраве 25 ліпеня 1890-га года».

3) Старонкі 47—51 (лісты 25—27), № 7 — верш «Йон і Йіна». Подпіс: «Хвэлька з Рукшэніц». Надпіс па-польску: «Перапісаў з рукапісу аўтара, па-польску пісанага, у Востраве 27-га ліпеня 1890».

4) Старонкі 61—63 (лісты 32—33), № 11 — верш «Вічарынка». Подпіс: «Хвэлька з Рукшэніц». Паметка па-польску: «Апісанне балю, адбытага ва Ухвішчы. Паніч-барон Эрдман; пан у акулярах=Шырын».

5) Старонкі 64—68 (лісты 33 адварот — 35 адварот), № 12 — верш «Панскае ігрышча». Подпісу няма. Нататка Эпімах-Шыпілы па-польску:

«Таксама быццам бы твор Фелікса Тапчэўскага. Спісаў у Лявонаўшчыне ад п. Міхаліны Стасёвай Аскеркавай, народжанай Давідсон 18 $\frac{25}{VI}$ 89 г.; перапісаў у Пецярбургу 18 $\frac{25}{X}$ 90 г.»

Далей Эпімах-Шыпіла працягваў:

«Верш гэты надрукаваны ў «Виленском Вестнике» 1889-га года № 70-тым і падпісаны: «Ив. Сиротко».

[134] Семашкевіч Р. М. Браніслаў Эпімах-Шыпіла. С. 19; Ён жа. Беларускі літаратурна-грамадскі рух у Пецярбурзе. С. 51.

Толькі рэдакцыя тут крыху іншая і горшая. Важнейшыя адрозненні наступныя: замест чацвёртай страфы там дзве, за якімі ідзе яшчэ трэцяя, а менавіта:

Як заграюць усе разам
Музыканты казачка,
Ажно цёмна станець глазам,
І ня помніш языка.
Сэрца б'ецца як цэпамі,
Ногі дражаць пад табой
І у танец ідуць самі
Ажно (станеш) [135] сам не свой.
Тут яшчэ адна скрыпіца,
У абхват яна якраз,
Вот на ей так бас-басішчэ,
Як аборына у нас.

Затое перадапошняй страфы: «У другі па просту валюць etc» там няма».

Такім чынам, Эпімах-Шыпіла праявіў сябе не толькі ардынарным перапісчыкам цікавых твораў, але і ўдумлівым тэкстолагам, што павялічвае значэнне зробленых ім копій.

Трэба думаць, што ў Хрэстаматыю Эпімах-Шыпілы трапілі не ўсе творы Тапчэўскага. У прыватнасці, перад першай сусветнай вайной у нашаніўскім асяроддзі ведалі яго верш «Гаспадыня». У артыкуле В. Ластоўскага «Памажыця!» гэты верш называўся ў ліку лепшых твораў Тапчэўскага: «Пісаў многа па-беларуску вершаў. Некаторыя надта добрыя, як «Вечарынка», «Саўсім не тое, што было», «Гаспадыня» (Наша ніва, 1913, 12 верас.). Але ўжо Карскі заўважыў пра «Гаспадыню»: «...якога зместу гэты твор, мне невядома» (Карский, 3/3, *76*).

У твораў Фелікса Тапчэўскага досыць даўняя эдыцыйная гісторыя. Калі прызнаць яго аўтарам «Панскага ігрышча», то гэты верш, як мы згадвалі, быў надрукаваны ў 1889 г. яшчэ пры жыцці аўтара, які памёр у 1892 г. [136] У «Беларускім календары на 1915 год» (варыянт лацінкай) друкуецца верш «Вечарынка» з паметкай: «Хвэльська з Рукшэніц. Лепельшчына, 188* г.» У 1954 г. часопіс «Полымя» апублікаваў вершы «Саўсім не тое, што было»,

---

[135] Дужкі Эпімах-Шыпілы.

[136] У 1894 г. верш друкаваўся ў зборніку Ф. Багушэвіча «Смык беларускі», у 1896 г. у брашуры Е. Раманава «Міласцівы Восіп». Гл. таксама публікацыю Раманава ў кн.: Тарас на Парнасе и другие белорусские стихотворения. Изд. новое, доп. Могилев, 1902. С. 16—18.

«Грошы й праца», «Ён і яна» (публікацыя Л. Бэндэ, паводле Хрэстаматыі Эпімах-Шыпілы). Найбольш поўна творчасць Тапчэўскага прадстаўлена ў зборніку тэкстаў «Беларускія пісьменнікі другой паловы XIX стагоддзя» (1956). Тут надрукаваны ўсе пяць ягоных вершаў, уключаючы «Панскае ігрышча».

Аляксандр Ельскі выдаў пры жыцці наступныя беларускія кніжкі:

1) Пераклад 1-й часткі «Пана Тадэвуша»: Адам Міцкевіч. Пан Тадэвуш: Паэма / Пералажыў з польскага на беларускі язык А. Е. [A. J.] Кніга 1. Львоў, 1892 [137].

2) «Сынок. Расказ з праўдзівага здарэння. Усім бацькам і дзецям для перасторогі» (Пецярбург, 1895).

3) «Выбіраймася ў прочкі! Скарэй у Томск!» (Пецярбург, 1896).

4) «Нашы перасяленцы (Скарэй у Томск)» (Віцебск, 1896, варыянт папярэдняй кнігі).

5) «Слова аб праклятай гарэлцы і аб жыцці і смерці п'яніцы. Добраму беларускаму народу на пакрапленне яго душы і розуму» (Пецярбург, 1900).

6) «100 прыказак, загадак, прыдумак і гавэндаў, для пажытку беларускага (крывіцкага) народу» (Вільня, 1908).

Асобныя беларускія рукапісы Ельскага захоўваюцца ў Цэнтральным гістарычным архіве УССР у Кіеве, сярод папераў М. Доўнар-Запольскага (ф. 262). Найперш гэта рукапіс «Аб жыцці і смерці п'яніцы» за подпісам «Аляксандр з Замосця» (спр. 153). Трэба думаць, што мы маем справу з рукапісам брашуры «Слова аб праклятай гарэлцы...» або з яе варыянтам. Справа № 151 мае загаловак: «Беларускія казкі, запісаныя ў Ігуменскім павеце Ельскім А. К., на 97 лістах». Прагляд паказаў, што тут не толькі казкі, але і іншыя фальклорныя і этнаграфічныя матэрыялы, што прызначаліся, магчыма, для апублікавання ў «Календаре Северо-Западного края» Доўнар-Запольскага.

У 1979 г. В. Рагойша адшукаў у гэтым жа фондзе рукапіс лацінкай: «Бура на моры, санет Адама Міцкевіча, пералажыў з польскага на беларускі язык А. Ельскі».

---

[137] Пачатак перакладу (22 радкі) змешчаны А. Ельскім у 1885 г. у часопісе «Край» у тэксце артыкула «Пра беларускую гаворку» (Пачынальнікі, *337*).

Гэта пераклад вядомага санета Міцкевіча «Бура» з цыкла «Крымскія санеты»[138].

Па звестках У. Абрамавічуса[139], у свой час у Цэнтральным дзяржаўным архіве ЛітССР сярод матэрыялаў Віленскага таварыства сяброў навукі захоўваўся аўтограф зробленага Ельскім перакладу паэмы А. Мальчэўскага «Марыя». Цяпер такога рукапісу мы, на жаль, не ведаем. Два ўрыўкі з перакладу надрукаваны самім Ельскім у літаратурным дадатку да «Краю» «Пшэглёнд літэрацкі» (1889, № 7). Гэта публікацыя і з'яўляецца для нас пакуль адзінай тэксталагічнай крыніцай.

Фрагмент свайго перакладу верша А. Міцкевіча «Дудар» (8 радкоў) А. Ельскі змясціў у 1885 г. у часопісе «Край», у тэксце артыкула «Адам Міцкевіч на Беларусі». У 1890 г. артыкул без змен увайшоў у выпушчаны рэдакцыяй «Краю» зборнік «Памяці Адама». Беларускіх літаратуразнаўцаў з гэтай публікацыяй упершыню пазнаёміў А. Мальдзіс. Праўда, даследчык палічыў, што гэта невядомы верш В. Дуніна-Марцінкевіча[140]. Атрыбуціраваны верш у зборніку «Пачынальнікі». Там жа (с. 344—345) зроблена спроба рэканструкцыі тэксту, моцна папсаванага наборшчыкамі.

Важкае месца ў беларускамоўнай творчасці Ельскага займае верш-пасланне «Вінцуку Дунін-Марцінкевічу, беларускаму паэту», напісаны ў 1872 г. Гэты цікавы гісторыка-літаратурны дакумент сведчыць аб пэўнай пераемнасці, якая існавала паміж беларускімі пісьменнікамі розных пакаленняў. Апублікаваў верш у 1920 г. Р. Зямкевіч, у тэксце свайго артыкула «Стары Мінск у беларускіх успамінах» (газета «Беларусь», № 2). Публікацыя здзейснена паводле копіі, атрыманай Зямкевічам ад зяця Ельскага вядомага гісторыка і этнографа Зыгмунта Глогера. Ні згаданая копія, ні тым больш аўтограф верша да нас не дайшлі (прынамсі, цяпер невядомыя). Публікацыя Зямкевіча стала, такім чынам, адзінай першакрыніцай тэксту гэтага твора[141].

Трэба адзначыць, што некаторыя тэксты Ельскага,

---

[138] Гл.: Рагойша В. Невядомы пераклад // Літ. і мастацтва. 1979. 2 лют.

[139] Абрамавичюс В. Библиография по белорусской литературе XIX века. С. 79.

[140] Мальдзіс А. Падарожжа ў XIX стагоддзе. С. 181—182.

[141] Апошняя публікацыя ў кн.: Беларуская літаратура XIX ст.: Хрэстаматыя. Мн., 1988. С. 357—358.

як і іншых пачынальнікаў нашай літаратуры, перайшлі ў народ. У 1903 г. вядомы збіральнік беларускага фальклору Міхал Федароўскі змясціў у сваім славутым выданні «Люд беларускі» твор Ельскага «Аб жыцці і смерці п'яніцы», запісаны ў Ваўкавыскім павеце, з наступнай заўвагай: «Толькі праз некалькі год пасля запісання гэтай сатыры даведаўся я ад заўсёды прыхільнага да навукі сябра майго графа Людвіка дэ Гэлькві [de Gelqui] (яму я абавязаны дапамогай у даследаванні многіх цікавых мясцовасцей Гродзенскага павета), што гэта твор (адзін з многіх дагэтуль неапублікаваных) асвечанага грамадзяніна і літаратара, і прытым вялікага аматара беларушчыны, пана Аляксандра Ельскага з Замосця; я не меў толькі магчымасці параўнаць яго з арыгіналам, каб пераканацца, як ён мог змяніцца ў гэтым такім далёкім падарожжы ад берагоў Бярэзіны, выкліканым пэўна нейкай асаблівай нагодай» [142]. М. Федароўскі, відаць, не ведаў аб публікацыі твора ў 1900 г., хаця, з іншага боку, твор сапраўды запісаны ім хутчэй за ўсё яшчэ да выхаду брашуры Ельскага, бо фальклярыстычныя запісы рабіліся Федароўскім у апошніх дзесяцігоддзях XIX ст.

Пісаў А. Ельскі таксама па-руску, у 1879 г. выдаў у Мінску на рускай мове публіцыстычна-маралізатарскую брашуру «Наколькі развіццё пачуцця жалю да жывёл забяспечвае маральнасць чалавецтва, яго разумовыя і сацыяльныя інтарэсы», якая атрымала сярэбраны медаль Расійскага таварыства апекі над жывёламі; часам змяшчаў артыкулы ў «Виленском вестнике» [143]. Ім выдадзены ў Мінску ў перакладзе на рускую мову, са сваімі прадмовамі, дзве кнігі польскага філосафа Юльяна Ахаровіча [144].

Але найбольш выступаў на польскай мове. Ім напісана і надрукавана велізарная колькасць прац, артыкулаў, рэцэнзій, нататак па самых розных пытаннях гісторыі і культуры Беларусі. У рукапісах захаваліся толькі нямногія польскамоўныя творы Ельскага. У Цэнтральнай

[142] Federowski M. Lud białoruski na Rusi Litewskiej. Kraków, 1903. T. 3, cz. 2. S. 32.

[143] Гл. напр.: Виленский вестник. 1884. № 52.

[144] Охорович Ю. Любовь, преступлениие ■ нравственность: Несколько задач из области «уголовной психологии». Мн., 1876; Ён жа. Об основных противоречиях в наших знаниях о вселенной: Публичная лекция Юлиана Охоровича, читанная в Варшаве ■ 1873 г. Мн., 1877.

бібліятэцы АН ЛітССР (ф. 9—2367) ёсць яго вершаваны аўтограф — два чатырохрадкоўі 1898 г. У друку пісалася аб рукапісу Ельскага «Паведамленне пра беларускія казанні», што захоўваецца ў Цэнтральным гістарычным архіве УССР у Львове [145]. У асноўным жа мы можам пазнаёміцца з працамі пісьменніка-краязнаўца толькі ў друкаваным выглядзе. Пры гэтым трэба адзначыць, што колькі-небудзь поўнай бібліяграфіі прац Ельскага мы пакуль не маем, хоць яшчэ Р. Зямкевіч гаварыў аб важнасці для беларускай культуры такой бібліяграфіі. «Звернем толькі ўвагу на страшэнную патрэбу сабрання ўсіх бібліяграфічных даных аб працах аўтара,— пісаў ён пра Ельскага ў артыкуле «Стары Мінск у беларускіх успамінах».— Павінна быць выдадзена велізарная кніга з поўнай бібліяграфіяй яго прац. Пішам «велізарная», бо, папраўдзе, спіс прац Ельскага, адных толькі друкаваных, зложыць вялікі том, не кажучы аб яго рукапісах» (Пачынальнікі, *30*).

Лепшыя гісторыка-культурныя і краязнаўчыя працы Ельскага, якія захавалі сваё значэнне да сённяшняга дня, павінны быць перавыдадзены ў перакладзе на беларускую мову (пра гэта зноў пісаў нядаўна Г. Каханоўскі [146]). Першы крок у гэтых адносінах зроблены ў зборніку «Пачынальнікі», дзе пададзены з адпаведнымі каментарыямі поўныя тэксты трох артыкулаў Ельскага: «Беларускі песняр» (пра В. Дуніна-Марцінкевіча), «Пра беларускую гаворку», «Адам Міцкевіч на Беларусі». Два апошнія артыкулы ўвайшлі таксама ў другое выданне хрэстаматыі беларускай літаратуры XIX ст.

Мы разгледзелі некаторыя аспекты тэксталогіі і эдыцыйнай практыкі беларускай літаратуры мінулага стагоддзя. Праблем тут існуе вельмі шмат. Па сутнасці, у нас няма ніводнага поўнага навуковага выдання спадчыны класікаў XIX ст., не гаворачы ўжо пра спадчыну пісьменнікаў не першай велічыні. Творчасць нашых пачынальнікаў, як правіла, шматмоўная. Пры навуковым выданні неабходна падаваць усе тэксты пісьменніка на мове арыгінала, з наступным перакладам, дзе гэта трэба, на беларускую мову. Сур'ёзных тэксталагічных распрацовак і ўдакладненняў чакаюць многія асобныя творы, як пэў-

---

[145] Мальдзіс А. Таямніцы старажытных сховішчаў. С. 11.

[146] Каханоўскі Г. Ці пакажам грамадзянскую спеласць? // Голас Радзімы. 1990. 13 верас.

ных аўтараў («Рабункі мужыкоў» Я. Баршчэўскага, «Там блізка Пінска...» Ф. Савіча), так і ананімныя або з яшчэ няпэўным аўтарскім статусам («Энеіда навыварат», «Тарас на Парнасе», «Вясна гола перапала»).

З цікавай прапановай выступіў У. Казбярук: «...для нашых бібліятэк і даследчыкаў падрыхтаваць факсімільную энцыклапедыю беларускай літаратуры XIX ст., уключыўшы ў яе ўсе творы беларускіх аўтараў, апублікаваныя ў XIX ст., усе мастацкія рукапісныя тэксты XIX ст. ...» [147] Для пачатку, лічыць даследчык, трэба скласці поўную бібліяграфію ўсіх тэкстаў з указаннем іх бібліятэчных і архіўных адрасоў.

Цэлы шэраг факсімільных выданняў беларускіх пісьменнікаў XIX ст. (Ф. Багушэвіч, В. Дунін-Марцінкевіч, Я. Чачот, А. Гурыновіч, У. Сыракомля) на працягу 1990—2000 гг. мяркуецца здзейсніць у рэспубліканскай комплекснай праграме адраджэння роднай культуры «Спадчына» [148].

І, безумоўна, дзеля вырашэння пастаўленых задач неабходна працягваць даследаванні па расшыфроўцы псеўданімаў, удакладненню аўтарства твораў.

Таму наступны раздзел мы і прысвячаем адной з важнейшых атрыбуцыйных праблем.

---

[147] Казбярук У. З клопатам пра спадчыну // Літ. і мастацтва. 1988. 24 чэрв.

[148] Спадчына: Прапановы для распрацоўкі рэспубліканскай комплекснай праграмы даследавання, захавання і прапаганды культурнай спадчыны беларускага народа // Літ. і мастацтва. 1990. 15 чэрв.

# Даўняя загадка літаратуразнаўства

## *Праблема атрыбуцыі паэм «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе»*

Ананімнасць была пэўнай заканамернасцю, прынамсі, характэрнай рысай беларускай літаратуры XIX ст. Выклікана яна многімі прычынамі. Найперш гэта рукапіснае і вуснае бытаванне літаратурных твораў, негатыўнае стаўленне да маладой беларускай літаратуры з боку царскіх улад і рэакцыі. Спрыялі ананімнасці ўзровень мастацкай і нацыянальнай свядомасці аўтараў, несур'ёзныя адносіны некаторых літаратараў, што пісалі галоўным чынам па-польску або па-руску, да сваёй беларускай творчасці. Думаецца, што гэта агульныя цяжкасці для ўсіх новых літаратур, якія робяць свае першыя крокі і яшчэ не заваявалі прызнання ў грамадстве.

Разгорнутых прац аб прыродзе ананімнасці ў беларускай літаратуры XIX ст. няма. Цікавыя думкі па гэтаму пытанню выказаў В. Каваленка. У адной з прац пачатку 70-х гадоў ён адзначаў: «Рамантычнаму пафасу спадарожнічала ананімнасць твораў. Яна не была звязана з бояззю праследавання з боку ўлад і г. д. У той час, калі пісалася ананімная паэма «Энеіда навыварат», беларускае слова яшчэ не было пад забаронай. Тым не менш з усіх вядомых у сусветнай літаратуры травесційных пераробак паэмы Вергілія, здаецца, толькі беларуская — ананімная»[1]. Гэтае меркаванне знайшло свой працяг і ў яго манаграфіі «Вытокі. Уплывы. Паскоранасць». «Пафас рамантычнага ўслаўлення чалавечай індывідуальнасці,— разважае вядомы літаратуразнавец,— ужываецца з ананімнасцю твораў.

[1] Коваленко В. А. Литературные влияния и проблема ускоренного развития: К вопросу о становлении белорусской литературы нового времени // Сравнительное изучение славянских литератур: Мат-лы конф. 18—20 мая 1971 г. М., 1973. С. 358.

Аднак ананімнасць гэта асаблівая. Яна не «чыста» фальклорная, хоць гнасеалагічная сувязь з адчуваннем аўтара сябе як калектыўнага творцы ў нейкай ступені захоўваецца. Гэта сведчыла і пра пэўны агульны ўзровень мастацкай свядомасці. Катлярэўскі не схаваў свайго аўтарства ўкраінскай «Энеіды». Беларуская «Энеіда», а таксама паэма «Тарас на Парнасе» — ананімныя.

Можна зрабіць дапушчэнне, што прычына ананімнасці «Энеіды» чыста суб'ектыўная. Проста аўтар схаваў сваё імя з-за сціпласці. Адсутнасць літаратурнай вядомасці ў беларускага аўтара магла паслужыць прычынай сціплага ўчынку — не абвяшчаць імя. Але гэта малаверагодна, бо ананімнасць у беларускай літаратуры XIX ст. прадстаўлена не адзінкавымі фактамі. Меркаваць, што ва ўсіх выпадках ананімнасць выяўляе рысу сціпласці ў характары аўтара, было б нелагічна. Прычыны таго, чаму аўтары засталіся невядомымі, мабыць, куды глыбейшыя. У апошні час гісторыкі нашай літаратуры настойліва ўзяліся за ўстанаўленне аўтарства ананімных паэм. У выніку павінна высветліцца пытанне, чаму магчымай стала ў XIX ст. ананімнасць відавочна літаратурных, а не фальклорных твораў, прычым твораў буйных»[2].

На старонках сваёй манаграфіі В. Каваленка вяртаецца да гэтай праблемы неаднаразова, выказваючы меркаванне, што ананімнасць магла быць «знакам» (праявай, вынікам) таго, што аўтар свядома сцвярджае і ўвасабляе ў творы народны погляд на свет, прычым робіць гэта нават падкрэслена. Сама ананімнасць, паводле В. Каваленкі, якраз і была падкрэсліваннем народнага ладу твора ў адрозненне ад ананімнасці фальклорнай, якая не з'яўляецца ўсвядомленай, наперад зададзенай эстэтычнай задачай. У народнай творчасці ананімнасць узнікае сама сабой, з'яўляецца сутнаснай рысай самога твора. Знакам больш высокай формы ўсведамлення народнасці ў беларускай літарарурры сталі пазней псеўдонімы з выразным сялянскім каларытам. Па тым, развівае гэтую цікавую думку В. Каваленка, як дарэвалюцыйныя беларускія пісьменнікі звярталіся да чытача, якім імем прадстаўляліся яму, можна прасачыць важныя ўнутраэстэтычныя змены ў развіцці літаратуры. Ананімнасць — гэта жаданне аўтара раствярыцца ў масе народа, поў-

---

[2] Каваленка В. А. Вытокі. Уплывы. Паскоранасць: Развіццё беларускай літаратуры XIX—XX стагоддзяў. Мн., 1975. С. 106—107.

насцю адмаўляючыся ад індывідуальнасці, ад асабовасці. Псеўданімы тыпу «Яська Гаспадар з-пад Вільні», «Сымон Рэўка з-пад Барысава» — гэта ўжо самапрызнанне асобы аўтара, але яшчэ асобы масавай, такой, як і ўсе. Назва мясцовасці, адкуль паходзіць аўтар,— самае індывідуальнае ў яго асобе, самае характэрнае. Аўтар абвяшчае сябе звычайным селянінам, чалавекам масы, але абавязкова ўспамінае, адкуль ён. Апошняе і з'яўляецца атэстацыяй індывідуальнасці. Наступны этап — усвядомленае права гаварыць ад імя ўсяго народа. Цётка, Бядуля — гэта ўжо адзнака прыналежнасці да ўсяго народа, але з падкрэсліваннем індывідуальнасці аўтара. Лучына, Купала, Колас — сцверджанне аўтарскай індывідуальнасці, але такой індывідуальнасці, якая намякае на ўсебеларускі сэнс.

Думкі В. Каваленкі для разумення прыроды ананімнасці вельмі глыбокія і каштоўныя, але галоўным чынам у агульным плане. Пераходзячы да канкрэтнага матэрыялу, мы павінны ўнесці ў гэтыя палажэнні пэўныя карэктывы.

Па-першае, неабходны, відаць, дыферэнцыраваны падыход да ананімных твораў у сувязі з рознай ступенню іх, так сказаць, літаратурнасці. Большасць ананімных твораў XIX ст.— гэта напаўлітаратурныя гутаркі, для якіх якраз і будзе характэрны невысокі ўзровень аўтарскай свядомасці іх творцаў. Твораў высокай літаратурнай культуры параўнальна няшмат: «Энеіда навыварат», «Тарас на Парнасе», «Вясна гола перапала» ды, можа, яшчэ некалькі іншых.

Ананімнасць, бадай што, адна з прыкмет гутарак як жанру. «Беларускія гутаркі,— піша, напрыклад, А. Лойка,— спецыфічны жанр новай беларускай літаратуры: ананімны, спакойна-эпічны, апісальна-падрабязны, з выяўленнем «калектыўнай» псіхалогіі масы, масава-народнага пункту погляду на свет, з'явы, падзеі, людзей» [3].

Калі ў адносінах да гутарак высвятляць аўтарства — справа, як правіла, безнадзейная (хоць ёсць выпадкі і аўтарскіх гутарак), то спробы атрыбуцыі ананімных паэм павінны мець у рэшце рэшт свае вынікі.

Што датычыцца высокамастацкіх твораў з ярка выражанай аўтарскай індывідуальнасцю, то, відаць, не трэба

---

[3] Лойка А. А. Гісторыя беларускай літаратуры: Дакастрычніцкі перыяд. Мн., 1977. Ч. 1. С. 20.

змешваць два віды ананімнасці: ананімнасць, так сказаць, прынцыповую, калі аўтар сам хаваў сваё імя (прычым ён мог рабіць гэта па-рознаму: скажам, наогул ва ўсіх выпадках адмаўляць сваё аўтарства або давершыцца ўсё-такі больш-менш шырокаму колу сяброў), і ананімнасць выпадковую, калі аўтар жадаў, каб яго імя ведалі, але потым яно згубілася ў выніку рукапіснага і вуснага бытавання твора.

Гаворачы пра ананімнасць як заканамернасць беларускай літаратуры XIX ст., В. Каваленка адзначае, што з усіх нацыянальных «Энеід» толькі беларуская — ананімная. Такім чынам, даследчык лічыць ананімнасць беларускай «Энеіды» невыпадковай, заканамернай, хоць, здавалася б, зробленая ім слушная згадка аб неананімнасці ўсіх астатніх нацыянальных «Энеід» прымушае задумацца, ці няма тут таксама агульнай заканамернасці, характэрнай рысы, і чаму беларуская паэма — выключэнне з гэтай другой заканамернасці.

Разгляд канкрэтнага матэрыялу паказвае, што, відаць, гэтая апора на папярэднікаў — стваральнікаў ранейшых нацыянальных «Энеід», добра прынятых перадавым грамадствам,— садзейнічала таму, што аўтар беларускай «Энеіды» не хаваў свайго імя. Калі з'явілася беларуская «Энеіда», грамадства было ўжо прывучана да травесцій. Дарэчы, характар твора такі, што аўтар мог пісаць па-беларуску, адначасова як бы знаходзячыся *над* беларускім грамадствам. І ў украінскай, і ў беларускай «Энеідах» ёсць элемент гумарыстычнага стаўлення да мовы: што там руская травесція Осіпава, паслухайце, як смешна выходзіць, калі старажытныя героі гавораць неапрацаванай гаворкай украінскай або беларускай вёскі. Прынамсі, такі погляд мог мець месца. Іншая справа, што пад пяром вельмі таленавітых аўтараў украінская і беларуская мовы самі абаранілі сябе, паказаўшы сваю велізарную выяўленчую моц. Беларуская травесція была настолькі дасціпная, традыцыі травесціравання «Энеіды» такія папулярныя, што з'явіліся нават людзі, якія не супраць былі прыпісаць твор сабе. «Энеіда навыварат» — гэта якраз той выпадак ананімнасці, калі аўтарскі спачатку твор толькі пазней згубіў імя аўтара і стаў ананімным.

Больш складаная і няясная прырода ананімнасці паэмы «Тарас на Парнасе». Таму падыход да атрыбуцыі гэтых дзвюх паэм — розны.

Разам з тым выразна відаць, што аўтар «Тараса на Парнасе», ствараючы свой арыгінальны твор, абапіраўся на традыцыі травесційных «Энеід». Несумненна, так лягчэй яму было выступіць пад уласным імем.

* *
*

Пытанне аўтарства паэмы «Энеіда навыварат» выра-шана ў агульных рысах яшчэ на пачатку нашага ста-годдзя акадэмікам Я. Карскім [4].

Карскі карыстаўся наступнымі тэкстамі паэмы і звесткамі пра яе (пададзім іх у храналагічнай паслядоўнасці):

1. Спіс лацінкай з архіва славіста О. Бадзянскага з надпісам рускімі літарамі: «Отривок из 1-ой песни Енеиды, вывороченной наизнанку на Белорусский язык, по образцу Малороссийской Котляревского, г. Мысловским (в г. Витебске)».

Спіс не датаваны. Дзе ён цяпер — невядома. Згадваецца ў апісанні рукапісаў бібліятэкі Маскоўскага таварыства гісторыі і старажытнасцей расійскіх 1905 г. [5]

2. Спіс паэмы з архіва чэшскага славіста П. Шафарыка з надпісам: «П. И. Шафарику — И. Бодянский. Декабря 9/21 дня 1837. Прага».

Карскім устаноўлена, што гэта копія папярэдняга, толькі што згаданага намі спіса, зробленая Бадзянскім рускімі літарамі. Матэрыял каштоўны тым, што дае магчымасць датаваць папярэдні спіс не пазней снежня 1837 г. Падораны Шафарыку спіс-копія і цяпер знаходзіцца сярод папер яго архіва ў Празе [6].

3. Згадка ў вядомым артыкуле Р. Падбярэскага 1844 г. «Беларусь і Ян Баршчэўскі» (Пачынальнікі,

---

[4] Карский Е. Белорусская Энеида наизнанку // Сборник Харьковского историко-филологического общества. Харьков, 1909. Т. 18. С. 143—172 (У далейшым спасылкі на гэта выданне падаюцца ў тэксце (у дужках старонкі)); Ен жа. Белорусы. Пг., 1992. Т. 3, вып. 3. С. 9—22.

[5] Соколов Е. И. Библиотека импер. Общества истории и древностей российских. М., 1905. Вып. 2. С. 627.

[6] Мольнар М. Перші чехословацькі відгукі про творчісць І. Котляревського // Дружно вперед (Пряшів, ЧССР). 1979. № 3. С. 20—21; Кабашнікаў К., Кісялёў Г. Пражскі манускрыпт // Літ. і мастацтва. 1984. 20 студз.

*59—60*). Прыводзіцца двухрадкоўе з паэмы, аўтарам называецца Манькоўскі, «спачатку саветнік у Магілёве, а потым у Віцебску віцэ-губернатар». Аўтограф паэмы, паводле артыкула, нібыта знаходзіўся ў памешчыцы Дышлеўскай.

4. Публікацыя ў пецярбургскім часопісе «Маяк» 1845 г. Публікатар — «А. Кавелін». Тэкст ён атрымаў ад ураджэнца Беларусі «К. Ф. [«фіта»] Мыслоўскага». Аўтарам, услед за Падбярэскім, названы Манькоўскі.

5. Спіс з архіва Бадзянскага пад загалоўкам: «Енеида, с Малороссийского на Смоленский крестьянский язык переложенная Викентием Ровинским (помещиком Духовщинского уезда)». На адвароце загаловачнага ліста надпіс: «От кандидата Бориса Залеского. 1851 г., августа 11 дня. Москва».

Дзе гэты спіс цяпер—таксама невядома. У апісанні бібліятэкі Таварыства гісторыі і старажытнасцей расійскіх 1905 г. пададзена крыху іншая дата — 11 жніўня 1854 г.[7], што не мае, зрэшты, прынцыповага значэння.

6. Згадка ў артыкуле П. Шастакова «Духовщинское подречие», надрукаваным у канцы 1853 г. у газеце «Смоленские губернские ведомости». У артыкуле прыведзены два невялікія ўрыўкі з паэмы і названы рукапіс, якім карыстаўся Шастакоў: «Энеида, на смоленское крестьянское наречие переложенная В. П. Р-ским».

7. Публікацыя ў газеце «Смоленский вестник» 1890 г. Публікатар К. Равінскі ва ўступным артыкуле «Забыты твор» сцвярджаў, што паэму напісаў яго дзед Вікенцій Паўлавіч Равінскі. Прыводзіліся кароткія звесткі пра яго: нарадзіўся ў Смаленскай губерні ў 1782 г.; атрымаў хатняе выхаванне; з 18 гадоў на вайсковай службе, удзельнік Айчыннай вайны 1812 года і замежных паходаў 1813—1814 гг.; у 1816 г. выйшаў у адстаўку палкоўнікам; у 1826—1833 гг. на цывільнай службе ў Арэнбургскай, Пензенскай і Кастрамской губернях; потым зноў жыў на радзіме, у маёнтку, «дзе, маючы шмат вольнага часу, прысвячаў яго заняткам па гісторыі, якой ён лічыўся знаўцам, і ўважліва сачыў за пачаткам росквіту рускай літаратуры. На вёсцы ж ім былі напісаны ўсе творы і ў тым ліку «Энеіда» на смаленскай гаворцы» (Пачынальнікі, *15*). З іншых твораў К. Равінскі згадвае вершы пра

---

[7] Соколов Е. И. Библиотека импер. Общества истории и древностей российских. Вып. 2. С. 629.

дзівацтвы старога панства і камічныя эпізоды з памешчыцкага жыцця і камедыю «Шлюб паняволі», сюжэтам для якой паслужыў сапраўдны выпадак, што здарыўся ў Смаленскай губерні.

Вось такі матэрыял меў у сваім распараджэнні Карскі, калі пісаў працу пра «Энеіду навыварат». За гонар прызнання аўтарам паэмы «змагаліся» тры прэтэндэнты: Мыслоўскі, Манькоўскі і Равінскі.

Перш за ўсё вучоны адхіліў кандыдатуру Мыслоўскага. Дарэчы, перад Карскім непазбежна павінна было паўстаць пытанне, ці адзін і той жа Мыслоўскі фігуруе ў спісах Бадзянскага і ў публікацыі «Маяка». Вучоны выказаў меркаванне, што гэта адна і тая ж асоба. Ён знайшоў некаторыя лексічныя адрозненні ў звязаных з Мыслоўскім тэкстах Бадзянскага і «Маяка» і прыйшоў да высновы: «Думаю, што Мыслоўскі, не аўтар «Энеіды» (насуперак прыпісцы ў Бадзянскага), зрабіў абодва запісы па памяці, а не па рукапісу яе аўтара...» (*145*).

Цяпер пра Мыслоўскага вядома значна больш. Намі ўстаноўлена, што паэму апублікаваў у «Маяке» Леў Аляксандравіч Кавелін (прыведзены ў «Маяке» ініцыял «А» — памылка друку), будучы слынны палеограф архімандрыт Леанід (1822—1891), а тэкст ён атрымаў ад Каетана Осіпавіча Мыслоўскага (у «Маяке» таксама памылка друку: «фіта» графічна падобная на «о»). Іх знаёмства адбылося ў Аранiенбаўме, дзе Кавелін нёс службу гвардзейскага афіцэра, а Мыслоўскі служыў павятовым страпчым.

Каетан Мыслоўскі нарадзіўся ў 1817 г. на Віцебшчыне, вучыўся ў Віцебскай гімназіі, якую не скончыў. З 1836 г. на службе ў Пецярбургу і яго ваколіцах. З 1843 г. страпчы ў Араніенбаўме, пасля ў Пецяргофе. У 60-х гадах, як сведчаць адрас-календары, быў чыноўнікам асобых даручэнняў пры дзяржаўным кантралёры. Памёр у 1886 г. Адзіная яго заслуга, адзначаная на надмагільным помніку ў Пецяргофе,— «учредитель дома призрения в память императора Николая I» [8]. Крыніцы не выяўляюць якіх-небудзь яго сувязей са светам літаратуры і мастацтва. Апошнім часам ў Дзяржаўнай бібліятэцы імя У. І. Леніна ў Маскве выяўлены яго пісьмы 1848—1854 гг. да ваеннага гісторыка і драматурга А. Віскаватава [9], але яны носяць

[8] [Саитов В.] Петербургский некрополь. Спб., 1912. Т. 3. С. 191.

[9] ДБЛ, ф. 53, М. 6339, л. 228—235.

прыватны характар і не закранаюць навукова-літаратурных пытанняў.

Такім чынам, новыя матэрыялы пацвярджаюць вывад акадэміка Карскага, што Мыслоўскі не быў аўтарам «Энеіды». Гэта толькі аматар беларушчыны, які перапісваў і распаўсюджваў «Энеіду», добра ведаў беларускую мову. Тэкст паэмы ў «Маяке» пададзены даволі акуратна, аўтарам жа яе ва ўступным артыкуле Кавеліна называецца Манькоўскі, гэта значыць, што сам Мыслоўскі на аўтарства не прэтэндаваў.

Што да звязаных з Мыслоўскім тэкстаў Бадзянскага, то тут вывад Карскага вымагае ўдакладнення. Мяркуючы па ўсім, спіс для Бадзянскага зрабіў не Каетан Мыслоўскі, а яго брат Іван. Звесткі пра вучобу Івана Мыслоўскага ў Віцебскай гімназіі намі былі прыведзены ў свой час у кнізе «Загадка беларускай «Энеіды». Тады мы выказалі думку, што перапісаны Мыслоўскім тэкст паэмы трапіў да Бадзянскага праз віцябчан Т. Заблоцкага, К. Касовіча і іншых, што вучыліся ў Віцебскай гімназіі разам з Мыслоўскім і пасля ў Маскоўскім універсітэце разам з Бадзянскім. Цяпер жа ў Цэнтральным гістарычным архіве Масквы знойдзена студэнцкая справа Івана Мыслоўскага [10], якая сведчыць, што ён пасля заканчэння Віцебскай гімназіі ў 1834 г. вучыўся ў Маскоўскім універсітэце. Праўда, вучоба была даволі кароткай, бо ў лістападзе таго ж 1834 г. ён «волею божию помре» ва універсітэцкай бальніцы.

З дакументаў справы відаць, што Іван Мыслоўскі нарадзіўся ў 1815 г. у Веліжы Віцебскай губерні. Вучыўся ў Веліжскім павятовым вучылішчы, а ў 1828—1834 гг. у губернскай гімназіі. Вучыўся добра, апошні год быў «старшиною гимназии» (відаць, нешта накшталт нашага старасты). У прашэнні ад 9 жніўня 1834 г. выказаў жаданне паступіць на славеснае аддзяленне універсітэта, аднак вучыўся на аддзяленні маральна-палітычных навук. Пра бацьку вядома, што ён нарадзіўся каля 1771 г., дробны дваранін, які набыў у Веліжскім павеце невялікі маёнтак з некалькімі сялянскімі «душамі». З 1802 г. служыў у павятовых судах Веліжскага і Суражскага паветаў. Нам цікава ўсё гэта, бо захапленне Івана і Каетана Мыслоўскіх «Энеідай» магло ісці яшчэ ад бацькі.

---

[10] ЦДГА г. Масквы, ф. 418, воп. 104, спр. 166.

Такім чынам, Бадзянскі меў магчымасць атрымаць спіс «Энеіды» ўвосень 1834 г. ад самога Мыслоўскага. Важна, што загаловак рукапісу: «...Энеиды, вывороченной... Мысловским...» — Бадзянскі разумеў не ў сэнсе аўтарства. Відаць, адпаведная інфармацыя была дадзена ім пры асабістай сустрэчы з Шафарыкам у 1837 г. у Празе, бо чэшскі вучоны ў сваім «Славянскім народапісе» (1842) пісаў пра *«невядомага»*, які спрабаваў травесціраваць на беларускую мову «Энеіду».

Пяройдзем да далейшага разгляду звязаных з «Энеідай» крыніц, прасочым за ходам даследчыцкай думкі Карскага.

Спісы Мыслоўскіх ён назваў віцебскай рэдакцыяй паэмы, спісы, дзе аўтарам называўся Равінскі,— смаленскай рэдакцыяй. Вучоны задаў пытанне: «У якіх адносінах адна да адной знаходзяцца абедзве рэдакцыі беларускай «Энеіды»? *(146)*. Прааналізаваўшы адрозненні, ён прыйшоў да заключэння, што «яны ўвогуле нязначныя і ў аснове абедзвюх рэдакцый — калі можна іх так назваць — ляжыць адзін і той жа тэкст» *(147—148)*. Значыць, «асноўная рэдакцыя належыць толькі адной асобе» *(148)*.

Хто ж — віцябчанін Манькоўскі або смалянін Равінскі — быў аўтарам асноўнай рэдакцыі?

Карскі праводзіць моўны аналіз тэкстаў і робіць вывад, што ўсе рэдкія словы «Энеіды», як «хупавы», «украсіў», «кавярзенькі», «кацатыг», «хвігурная», «мякотнае», «паршні», «вядомы Смаленшчыне і, відаць, незнаёмы віцебскай мове» *(150)*.

Потым разглядаюцца «матэрыяльныя ўказанні» (мясцовыя рэаліі): «Бахціха», «Ушэсце», «чыжаўскія харомы», «духоўскія цыгане». Усе яны так або інакш звязаны са Смаленшчынай.

«Пасля ўсяго сказанага не ведаю, ці можа яшчэ быць размова пра тое, да якой мясцовасці належаў аўтар беларускай «Энеіды»,— рабіў вывад Карскі.— Калі б пералічаных месцаў не было ў віцебскай рэдакцыі, а знаходзіліся б толькі ў смаленскай, то можна б бачыць у іх і пазнейшую перапрацоўку «Энеіды», што прыпісваецца Манькоўскаму; але гэтыя месцы ўласцівыя і спісам віцебскай рэдакцыі; выходзіць, яны належалі і першапачатковаму тэксту. Значыць, аўтарам беларускай «Энеіды» трэба прызнаць смаленскага ўраджэнца, г. зн. Равінскага. У Віцебск яна магла быць занесена Манькоўскім і тут дастасавалася да яго імя. На сваёй першапачатковай

радзіме і захавалася «Энеіда» ў больш дакладным выглядзе, чым у Віцебскай Беларусі» *(150—151).*

Такім чынам, Карскі даволі катэгарычна вырашыў пытанне аб аўтарстве на карысць Равінскага.

Далейшае даследаванне пытання вялося літаратуразнаўцамі па некалькіх лініях:

1. Дадатковае выяўленне і вывучэнне мясцовых рэалій «Энеіды».
2. Даследаванне акалічнасцей узнікнення яе спісаў.
3. Вывучэнне біяграфіі Манькоўскага.
4. Даследаванне жыццяпісу Равінскага.

Цяпер сабраны значны матэрыял пра мясцовыя рэаліі паэмы. Даволі падрабязна вывучана, напрыклад, характэрнае для Смаленска свята Ушэсця, якое маецца на ўвазе ў паэме. Важна падкрэсліць, што смаленскае Ушэсце як мясцовая «достопримечательность» спыняла ўвагу амаль усіх краязнаўцаў і мемуарыстаў, якія пісалі пра Смаленск [11]. Аўтар, згадваючы Ушэсце ў паэме, якую адрасаваў перш за ўсё землякам, меў усе падставы разлічваць на эфект пазнавання.

Адшуканы ў Смаленску сляды рэальнай «Бакціхі» [12], канкрэтызаваліся нашы ўяўленні пра «чыжаўскія харомы» на ахутанай легендамі радзіме «святлейшага князя» Р. Пацёмкіна-Таўрычаскага [13].

Выяўлены дадатковыя мясцовыя рэаліі, якія зноў звязваюць паэму са Смаленшчынай, напрыклад возера Шчучча, дзе даўней працвітаў і дзягцярны промысел («смоль» паэмы). Або вось гэты радок: «І ў Сташкаў Ніле пакланісь!..» Акадэмік Карскі гаворыць пра «Нілу»: «Нейкі мясцовы намёк, мне незразумелы» *(168)*. Цяпер даследчыкі ведаюць, што Ніла — гэта Нілава пустэльня, знакамітая ў свой час праваслаўная святыня ў горадзе Асташкаве па суседству са Смаленшчынай [14]. У паэме ёсць камізм сітуацыі, зразумелы сучаснікам паэта: старажытнарымская багіня Венера з далёкіх дахрысціянскіх часоў раптам з'яўляецца ў рускім правінцыяльным манастыры XIX ст. Адчуваецца тут і даволі фры-

---

[11] Кісялёў Г. Загадка беларускай «Энеіды». Мн., 1971. С. 83—85; Ен жа. Пошукі імя. Мн., 1978. С. 10—13.

[12] Кісялёў Г. Пошукі імя. С. 17—18.

[13] Кісялёў Г. Загадка беларускай «Энеіды». С. 85—90.

[14] Там жа. С. 90—91; Бас. І. Літаратурныя пошукі, знаходкі, даследаванні. Мн., 1969. С. 16.

вольнае стаўленне аўтара паэмы да афіцыйнай рэлігіі і яе святыняў.

Спроба П. Шаўцова насуперак фактам давесці магілёўскае паходжанне паэмы была прызнана ненавуковай [15].

Ёсць поспехі ў вывучэнні гісторыі ўзнікнення спісаў паэмы. Так, даведзена, што ўсе людзі, якія давалі інфармацыю пра смаленскія спісы паэмы, распаўсюджвалі або публікавалі іх, былі звязаны калі не з самім В. Равінскім, то з яго дзецьмі, г. зн. атрымлівалі звесткі, можна сказаць, з першых рук. Напрыклад, Б. Залескі, які перадаў у 1851 (або 1854) г. спіс паэмы Бадзянскаму, быў гімназічным сябрам сына В. Равінскага Канстанціна (абодва з медалямі скончылі гімназію ў 1847 г.) [16].

П. Шастакоў, аўтар артыкула 1853 г. у «Смоленских губернских ведомостях», разам з другім сынам В. Равінскага Уладзімірам Вікенцьевічам выкладаў у гімназіі.

Канстанцін Іпалітавіч Равінскі, які апублікаваў паэму ў 1890 г., быў родным унукам Вікенція Паўлавіча. Сам ён не застаў дзеда ў жывых, але ведаў пра яго ад свайго бацькі Іпаліта Вікенцьевіча, сваякоў і знаёмых Вікенція Паўлавіча. Публікуючы тэкст паэмы, ён не меў пад рукой аўтографа. У яго быў толькі не вельмі якасны спіс. Да публікацыі зроблена заўвага: «З прычыны няяснасці рукапісу, рэдакцыя просіць асоб, якія ведаюць «забыты твор» напамяць, дапамагчы ёй узнавіць правільны тэкст яго,— у месцах памылак» [17]. Гаворачы, што апрача «Энеіды» Вікенцій Равінскі быў аўтарам камедыі «Шлюб паняволі», Канстанцін Іпалітавіч дадае: «На няшчасце, мы не маем поўнага рукапісу гэтай камедыі, таксама ненадрукаванай, хоць вядомай у свой час далёка за межамі Смаленскай губерні» (Пачынальнікі, *13*).

Трэба думаць, што якраз публікацыя ў «Смоленском вестнике» выклікала новую цікавасць да В. Равінскага і садзейнічала збіранню яго рукапісаў і матэрыялаў аб ім.

Вельмі каштоўны матэрыял пра гэта выяўлены нядаўна ва ўспамінах Канстанціна Іпалітавіча, што захоўваюц-

---

[15] Шаўцоў П. Дзе нарадзілася «Энеіда навыварат»? // Беларусь. 1971. № 5; Ён жа. Спрадвечнае. Мн., 1973; Цішчанка І. К., Грыцкевіч А. П., Прашковіч М. І. Факты і іх інтэрпрэтацыя // Літ. і мастацтва. 1973. 21 верас.; Кісялёў Г. В. Некаторыя пытанні вывучэння паэмы «Энеіда навыварат» // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1975. № 4; Ён жа. Пошукі імя. С. 8—21.

[16] Бас І. Літаратурныя пошукі, знаходкі, даследаванні. С. 13.

[17] Смоленский вестник. 1890. 28 янв.

ца ў Дзяржаўнай бібліятэцы імя У. І. Леніна ў Маскве. На пачатку 90-х гадоў Канстанцін Іпалітавіч атрымаў прызначэнне на пасаду ў родны Духаўшчынскі павет і рабіў візіты мясцовым службовым асобам. Ва ўспамінах апісваецца візіт да гарадскога суддзі Іосіфа Яўменавіча Крыштафовіча, які належаў да вядомага мясцовага роду (з яго бацькам сябраваў яшчэ В. Кюхельбекер і прысвячаў яму вершы). «Яму [Крыштафовічу] было пад семдзесят гадоў, але ён быў бадзёрым і працаздольным чалавекам...— чытаем ва ўспамінах.— І. Я. добра ведаў майго нябожчыка-дзеда Вікенція Паўлавіча, шмат мне аб ім расказваў і перадаў мне некалькі рукапісаў з яго творамі ў вершах і прозе» [18].

У 1913 г. у аўтабіяграфіі, напісанай для С. Вянгерава (рукапіс яе захоўваецца ў Пушкінскім доме), Канстанцін Іпалітавіч прывёў новыя, удакладненыя і дапоўненыя звесткі пра Вікенція Паўлавіча: нарадзіўся ў 1786 г., пісаў вершамі і прозай; апрача «Энеіды», вершаванай камедыі «Шлюб паняволі», некалькіх вершаў і разважанняў на гістарычныя тэмы, напісаў сатыру на аракчэеўскія парадкі «Вялікі муж субардынацыі» [19].

Прыведзены матэрыял прымушае з даверам паставіцца да паведамленняў, што аўтарам «Энеіды навыварат» быў Вікенцій Паўлавіч Равінскі.

Важнымі напрамкамі карпатлівай працы па праверцы версій наконт аўтарства нашай «Энеіды» было вывучэнне біяграфій Манькоўскага і Равінскага.

Шматлікі і разнастайны матэрыял, выяўлены ў гістарычных архівах Мінска і Ленінграда, а таксама ў рэдкіх старадаўніх выданнях, дазваляе наступным чынам абмаляваць жыццёвы шлях Ігната Антонавіча Манькоўскага.

Нарадзіўся каля 1765 г. недзе на Віцебшчыне ў сям'і небагатага дваранiна. З 1783 г. на службе, перакладчык у штаце беларускага генерал-губернатара, старшыня дэпартамента Магілёўскага губернскага магістрата. З 1797 г. саветнік Беларускага губернскага праўлення. Кароткі час быў падольскім губернскім пракурорам, з 1801 г. на такой жа пасадзе ў Віцебску, у 1813—1817 гг. віцебскі віцэ-губернатар, потым у адстаўцы, жыве ў сваёй сядзібе Мілае каля Віцебска. Памёр у канцы 1831 г.

Манькоўскі меў літаратурныя здольнасці і супрацоў-

---

[18] ДБЛ, ф. 218, № 1368.2, л. 75.

[19] ІРЛІ, архіў С. Вянгерава, № 2337.

нічаў у рускіх часопісах. У 1813 г. ён надрукаваў у пецярбургскім часопісе «Сын Отечества» публіцыстычны артыкул «Пісьмо з Віцебска», у якім асудзіў агрэсію Напалеона, уславіў гістарычны подзвіг народаў Расіі у Айчыннай вайне. У 1831 г. Вольнае эканамічнае таварыства ў Пецярбургу ўзнагародзіла яго залатым медалём за конкурсны твор, у якім ён патрабаваў паляпшэння бытавых умоў сялян, дзяліўся вопытам сельскага гаспадара. Надрукаваны ў 1833 г. (пасля смерці аўтара) у «Трудах» таварыства, гэты твор сведчыць аб шырокай адукаванасці і дэмакратычных сімпатыях Манькоўскага. Устаноўлена, што Дышлеўская, якая нібыта мела спіс (нават аўтограф?) «Энеіды» (Пачынальнікі, *60*), была сваячкай Манькоўскага, жыла нейкі час у яго сядзібе.

Што ж дае даследчыкам даволі багаты сабраны матэрыял? Думаецца, па сваіх здольнасцях і светапоглядзе Манькоўскі мог бы быць аўтарам «Энеіды», але яго біяграфія не выяўляе якіх-небудзь сувязей са Смаленшчынай, таму пытанне пра яго аўтарства адпадае. Паказальна, што ўпершыню аб яго аўтарстве, мяркуючы па наяўных крыніцах, загаварылі пасля яго смерці. Відаць, Манькоўскі цікавіўся «Энеідай», пашыраў яе (нездарма спіс паэмы апынуўся ў яго сваячкі Дышлеўскай). Гэта акалічнасць, а таксама яго слава мясцовага літаратара і незвычайнага чалавека паслужылі асновай для версіі аб яго аўтарстве.

Шмат прароблена для ўзнаўлення біяграфіі Вікенція Паўлавіча Равінскага, якога і трэба лічыць сапраўдным аўтарам «Энеіды навыварат». Прыцягнуты дакументальны матэрыял (архівы Смаленска, Ленінграда і інш.) складваецца ў пэўную карціну.

Ураджэнец заходняй Смаленшчыны, сумежнай з Беларуссю, Равінскі, як і Катлярэўскі, значную частку жыцця правёў на вайсковай службе, праявіў сябе храбрым і энергічным афіцэрам, у часы Айчыннай вайны і вызваленчага замежнага паходу рускай арміі быў ад'ютантам вядомага генерала Дохтурава, удзельнікам Барадзінскай бітвы і іншых векапомных падзей 1812 г. Узнагароджаны залатой шпагай з надпісам «За храбрасць» і многімі баявымі ордэнамі. Біяграфія ў Равінскага такая ж, як і ў большасці дзекабрыстаў: баі з ворагам, замежны паход, узмацнелае пачуццё ўласнай годнасці. Унук піша: «Жыццё за граніцай як у час акупацыі Францыі, так і ў часе паходаў, у Аўстрыі і Германіі, не прайшло бясследна для В. П.: ён не толькі вывучыў французскую і нямецкую мовы, якімі

валодаў дасканала, але пры ўсякім зручным выпадку стараўся папоўніць недахопы сваёй адукацыі і прытым апрача набыцця навуковых звестак стараўся вывучаць умовы грамадскага і дзяржаўнага жыцця Заходняй Еўропы, чаму спрыялі яго жывы, дапытлівы розум і назіральнасць. Вярнуўшыся на радзіму, В. П. смела мог назваць сябе перадавым чалавекам, так рэзка адрозніваўся ад большасці памешчыкаў таго часу» (Пачынальнікі, *14*).

Схільнасць Вікенція Паўлавіча да камічнага адзначаў у сваіх мемуарах яго зямляк, вялікі кампазітар М. Глінка, які пісаў: «...ён у маладосці быў чалавек вясёлы, дасціпны і любіў смяшыць featured рознымі мудрагелістымі выхадкамі, прычым захоўваў заўсёды сур'ёзны выгляд» [20].

Намі адшукана ў Смаленскім архіве рэвізская сказка за 1834 г. радавога маёнтка Вікенція Паўлавіча Елісеевічы. Аказалася, што імёны траянцаў — герояў «Энеіды навыварат» Саўка, Апанас, Піліп, Ракоп маюць адпаведнікі сярод імёнаў прыгонных сялян В. Равінскага. Магчыма, Вікенцій Паўлавіч вывеў у паэме сваіх сялян [21].

Неабходна адзначыць яшчэ адзін важны факт. Як цяпер устаноўлена, Вікенцій Паўлавіч памёр у 1855 г. (раней датай яго смерці лічыўся 1842 г.). Гэта значыць — калі Б. Залескі перадаваў свой спіс Бадзянскаму і П. Шастакоў друкаваў артыкул у «Смоленских губернских ведомостях», В. Равінскі быў яшчэ жывы і мог засведчыць сваё аўтарства.

Паэма магла быць напісана Равінскім у 1816—1826 гг., калі ён жыў у адстаўцы на радзіме, або ў 1827—1828 гг., калі быў звольнены з пасады інспектара піцейных збораў Арэнбургскай губерні і стажыраваўся ў Смаленскай удзельнай канторы [22]. Тады ім быў, відаць, напісаны вядомы цяпер урывак (палова першай песні) з абяцаннем працягу («Продолжение вперед»). Пасля канчатковага выхаду ў адстаўку (1833) Равінскі мог працягваць працу над паэмай, але гэты працяг невядомы.

У канцы 20-х, а хутчэй нават на пачатку 30-х гадоў паэма з'явілася ў Віцебску, дзе была з энтузіязмам сустрэта мясцовым гуртком аматараў беларушчыны. Пра гэта ўспамінаў пазней віцябчанін М. Маркс (гл. яго ўспа-

---

[20] Гл.: Кісялёў Г. Пошукі імя. С. 7.
[21] Там жа. С. 7—8.
[22] Падрабязней гл.: Кісялёў Г. Загадка беларускай «Энеіды». С. 137—140; Киселев Г. Разыскивается классик... Мн., 1989. С. 197—203.

міны ў польскім часопісе «Люд», т. 21 за 1922 г.). Імя Равінскага нічога не гаварыла віцябчанам і было адкінута, паэма звязалася тут з імем нядаўна памёршага літаратара-земляка Манькоўскага, яе ахвотна перапісвалі таварышы М. Маркса па гімназіі браты Мыслоўскія.

Такім чынам, ад пагляду на паэму «Энеіда навыварат» як на ананімны твор час ужо адмовіцца. Як мы бачылі, аўтарскі твор стаў на нейкі час «ананімным» толькі з-за перарывістасці культурных традыцый, а таксама недастатковай увагі, інертнага стаўлення да гэтага пытання нашага літаратуразнаўства.

Рашучы крок для ўзнаўлення гістарычнай ісціны зроблены ў хрэстаматыі беларускай літаратуры XIX ст.: у першым выданні (1971) паэма яшчэ ананімная, у другім (1988) — змяніла свой статус, друкуецца як твор пэўнага аўтара.

Разам з тым пошукі новых крыніц па праблеме аўтарства «Энеіды навыварат» застаюцца актуальнымі. Магчыма, яны ўвянчаюцца некалі знаходкай аўтографа паэмы, іншых рукапісаў яе аўтара Вікенція Паўлавіча Равінскага.

*

* *

Надрукаваны ўпершыню ў 1889 г. беларускі паэтычны шэдэўр — паэма «Тарас на Парнасе» вось ужо цэлае стагоддзе прыцягвае ўвагу даследчыкаў.

Атрыбуцыя шмат у чым загадкавай паэмы — справа надзвычай складаная. Агульная вялікая праблема складаецца з некалькіх асобных праблем. Найперш нас цікавяць час і месца напісання твора, асяроддзе, у якім ён узнік. Толькі беспамылковае вырашэнне гэтых пытанняў паступова падводзіць да поўнай разгадкі аўтарства.

Наша літаратуразнаўства мае пэўныя поспехі ў датаванні твора, хоць пытанне гэта зусім няпростае.

Ясна, што перад апублікаваннем паэма мела даволі шырокае бытаванне на Беларусі, але з якога часу яна распаўсюджвалася, калі ўпершыню з'явілася — ніякіх дакладных крыніц да самага апошняга часу не было: першая публікацыя паэмы з'яўлялася адначасова і яе першай фіксацыяй. У прынцыпе да 1889 г. пра паэму

не было ніводнай згадкі. Лічылася ўстаноўленым толькі, што існаваў спіс паэмы, зроблены рукой В. Дуніна-Марцінкевіча. Да нас не дайшоў і гэты спіс, тым не менш указаны факт дазваляў сцвярджаць, што паэма існавала, была вядомай на Беларусі ўжо да 1884 г.

Вялікае значэнне для датавання твора мелі рэтраспектыўныя сведчанні 90-х гадоў. Належалі яны вядомаму этнографу і фалькларысту Е. Раманаву (1855—1922), выдатнаму знаўцу Беларусі, які пісаў у 1896 г. у артыкуле «Спроба пяра»: «Уже годов боли як сорок [закрэслена: пятьдесят] белоруськая байка ета стала ўсим вядома ў трох губернях: Могилевськой, Витебськой и Миньской...» (Пачынальнікі, *16*). У прадмове да магілёўскага выдання 1900 г. той жа Раманаў указваў, што паэма напісана «ў часы Гогаля, Булгарына і Грэча», «у пачатку 50-х ці ў канцы 40-х гадоў мінаючага стагоддзя».

Сам Раманаў, які па ўзросту мог помніць паэму толькі з 60-х гадоў, пры ўстанаўленні храналогіі твора абапіраўся на ўспаміны іншых аматараў беларушчыны, часткова ён іх называе (самы старэйшы — А. Маслоўскі 1843 г. нараджэння). Значны ўплыў на вызначэнне часу напісання аказваў і сам змест паэмы, у якой адлюстравана барацьба ў рускай літаратуры 30—50-х гадоў.

Акадэмік Карскі, перш за ўсё паводле зместу, адносіў паэму «да другой чвэрці XIX стагоддзя» (Карский, 3/3, *79*). Падставай для датавання яму служылі словы паэмы «Як Гогаля ў прошлым леце», укладзеныя аўтарам у вусны Булгарына. «У адзначаным намёку на Булгарына,— пісаў Карскі,— ёсць указанне і на час напісання гэтага твора («у прошлым леце») — у першай палове XIX стагоддзя, і не пазней 40-х гадоў». У падрадковай заўвазе вучоны канкрэтызаваў: «Ф. Булгарын няўхвальна выказаўся аб «Рэвізоры» у «Сев. пчеле» 1836 г. (№ 97, 98); гэтаксама ж паставіўся ён да «Жаніцьбы» (ib. 1842, № 247); няўхвальна пісаў ён і пра «Мёртвыя душы» (Карский, 3/3, *83*).

Прыведзеныя Карскім прыклады варожага стаўлення Булгарына да Гогаля нашы літаратуразнаўцы доўгі час разумелі занадта літаральна і вырашалі пытанне пра час узнікнення твора прыкладна так: калі Булгарын крытыкаваў Гогаля ў 1836 і 1842 гг., а было гэта «ў прошлым леце», значыць, паэма напісана ў 1837 або 1843 г.

Доўгі час спрэчка вялася пераважна вакол пытання, які год прыняць — 1837 або 1843. Нават у рамках гэтай, як

высветліцца ніжэй, даволі штучнай дылемы літаратуразнаўства рабіла пэўныя поспехі. Напрыклад, яшчэ перад вайной малады даследчык Б. Іофе рашуча адкідаў 1837 г. і спыняўся на 1843 г. Асноўны аргумент: у 1837 г. Лермантаў, які пастаўлены ў паэме нароўні з Пушкіным, Гогалем і Жукоўскім, толькі-толькі стаў вядомым, а шырокая слава яго пачынаецца з 1839—1840 гг., калі чытачы пазнаёміліся з галоўнымі творамі пісьменніка [23].

У нашы дні яшчэ больш тонка і доказна зрабіў выбар паміж 1837 і 1843 гг. даследчык руска-беларускіх літаратурных сувязей М. Маляўка [24]. Вывучаючы ўплыў ідэй Бялінскага на аўтара «Тараса на Парнасе», даследчык заўважыў, што ў паэме адлюстраваліся ідэі, выказаныя крытыкам у 40-я гады. Месца Лермантава ў рускай літаратуры Бялінскі (першы ў рускай крытыцы) вызначыў у 1840 г. Самая поўная і глыбокая ацэнка творчасці Жукоўскага ў дарэвалюцыйным літаратуразнаўстве таксама належыць Бялінскаму, прычым упершыню ва ўсёй паўнаце свае погляды на ролю і месца паэта-рамантыка ў рускай літаратуры ён выклаў у 1843 г. у другім артыкуле з цыкла «Творы Аляксандра Пушкіна». У паэме ўвасоблены эстэтычныя крытэрыі, развітыя Бялінскім у барацьбе з псеўдалітаратурай розных адценняў, у тым ліку камерцыйнай, «макар'еўскай» літаратурай. «Такім чынам,— падсумоўвае даследчык,— паэма «Тарас на Парнасе» ўсім сваім ідэйным зместам самым цесным чынам звязана з літаратурнай барацьбой 1840-х гадоў, прасякнута ідэямі Бялінскага таго ж перыяду. Таму з дзвюх магчымых дат напісання твора першая (1837) не можа быць прынята. Найбольш верагоднай датай стварэння паэмы з'яўляецца 1843 г., хаця не выключана магчымасць, што яна напісана годам-двума пазней (словы «як Гогаля ў прошлым леце» не трэба, відаць, разумець занадта літаральна)» [25].

Цяпер устаноўлена, што выступленні Булгарына супраць Гогаля далёка не абмяжоўваліся прыведзенымі

---

[23] Іофе Б. Паэма «Тарас на Парнасе»: Аб часе і месцы напісання і гісторыка-літаратурным значэнні // Полымя рэвалюцыі. 1940. № 7.

[24] Малявко Н. Когда была написана поэма «Тарас на Парнасе»? // Неман. 1966. № 6. С. 107—110; Ён жа. Русские революционеры-демократы и белорусская литература XIX века. Автореферат дис. ... канд. филол. наук. Мн., 1968. С. 11—12.

[25] Малявко Н. А. Русские революционные демократы и белорусская литература XIX ст. С. 11—12.

Карскім прыкладамі. Па сутнасці, гэта быў няспынны ланцуг нападак, паклёпу, інсінуацый, якія працягваліся і ў 50-я гады нават пасля смерці вялікага пісьменніка [26]. Ды можна было думаць, што аўтар паэмы і н^ меў на ўвазе якое-небудзь канкрэтнае выступленне Булгарына.

Новым крокам наперад у разуменні і датаванні выдатнага твора было даследаванне М. Лазарука «Станаўленне беларускай паэмы» (1968). На думку М. Лазарука, «Тарас на Парнасе» — гэта паэма аб літаратуры, вельмі змястоўны і глыбокі твор, дзе закранаюцца важнейшыя эстэтычныя праблемы, у прыватнасці праблема народнасці літаратуры. Сатыра паэмы нацэлена супраць афіцыйнай народнасці, адным з праваднікоў якой быў Булгарын, супраць славянафільскага замілавання патрыярхальным побытам. Многія дэталі паэмы нагадваюць апісанні жыцця вялікіх патрыярхальных сем'яў у рускай этнаграфічнай літаратуры пачатку 50-х гадоў мінулага стагоддзя. Паводле слоў даследчыка, «паэма цалкам прасякнута тымі ідэямі, якія хвалявалі грамадскасць у сярэдзіне XIX ст., прасякнута пафасам барацьбы за народнасць літаратуры, у духу таго часу, калі літаратура непасрэдна звярнулася да рэалістычнага адлюстравання жыцця народных мас» [27]. Гэта самы канец 40-х ці 50-я гады.

Далей М. Лазарук праводзіць выказаную ў агульнай форме яшчэ ў 1929 г. Д. Васілеўскім [28] думку, што паэма напісана пасля смерці выдатных пісьменнікаў, якія ў ёй успамінаюцца.

«У паэме выдатныя рускія пісьменнікі,— піша ён,— паказаны ўжо ў падагульненні іх творчай дзейнасці. Яны ідуць на Парнас, закончыўшы свой творчы і жыццёвы шлях...

Наўрад ці мог аўтар паэмы так вольна абыходзіцца з паважанымі ім пісьменнікамі, паказваць іх у дарозе «на той свет», калі яны яшчэ жылі. А, як вядома, апошнія з названых у паэме чатырох выдатных пісьменнікаў — Гогаль і Жукоўскі памерлі ў 1852 г. З гэтага можна зра-

---

[26] Падборку адпаведных матэрыялаў гл.: Кісялёў Г. Пошукі імя. С. 90—96.

[27] Лазарук М. А. Станаўленне беларускай паэмы: Жанр паэмы і некаторыя асаблівасці развіцця беларускай літаратуры ў першай палавіне XIX ст. Мн., 1968. С. 187.

[28] Васілеўскі Д. Арцём Ігнатавіч Вярыга і яго літаратурна-грамадская чыннасць // Полымя. 1929. № 6. С. 199.

біць вывад, што паэма «Тарас на Парнасе» не магла быць напісана раней 1852 г. І тут яшчэ ўзнікае думка, ці не была смерць гэтых пісьменнікаў, гэта вялікая страта, якая моцна адчувалася ў літаратуры, дадатковым штуршком, каб адзначыць іх заслугі і супрацьпаставіць іх творчасць, гэтак жа як і творчасць Пушкіна і Лермантава, дзейнасці рэакцыянераў Булгарына і Грэча. Аўтар, можа быць, таму і ўключыў у паэму карціну ўзыходжання на Парнас, каб яшчэ пры жыцці гэтых рэакцыянераў едка высмяяць іх, адпомсціць ім за траўлю Гогаля, Пушкіна, Лермантава» [29].

Такім чынам, М. Лазаруком унесена зусім новая дэталь у пытанне пра датаванне паэмы: паэма напісана пасля смерці Пушкіна, Лермантава, Жукоўскага і Гогаля, але пры жыцці Булгарына і Грэча. У гэтым адрозненне меркаванняў М. Лазарука ад палажэнняў У. Казберука, які выказаў у свой час думку, што твор узнік пасля смерці ўсіх названых у паэме пісьменнікаў, г. зн. не раней 1867 г., калі памёр Грэч [30].

Намі ўстаноўлена, што граматыка Грэча, якая згадваецца ў паэме, ужывалася як дапаможнік у духоўных семінарыях з 1840 па 1859 г. [31] Выходзіць, паэма не магла быць напісана пазней 1859 г. Трэба пагадзіцца з М. Лазаруком, які прапануе датаваць паэму «прыкладна сярэдзінай 50-х гадоў» [32]. Думка гэта стала апошнім часам пануючай [33], хаця даследчыкі паэмы ўлічваюць і наяўнасць другой думкі (Д. Васілеўскі, У. Казбярук) аб больш позднім, аж да трэцяй чвэрці XIX ст. [34], часе ўзнікнення твора.

Беспадстаўнай на фоне апошніх дасягненняў літаратуразнаўчай навукі выглядае прапанова П. Шаўцова датаваць паэму 1837 г.[35]

---

[29] Лазарук М. А. Станаўленне беларускай паэмы. С. 189.

[30] Казбярук У. Беларуская літаратура XIX— пачатку XX стагоддзя: Дакастрычніцкі перыяд // Выбраныя творы XIX і пачатку XX стагоддзяў. Мн., 1966. С. 6.

[31] Кісялёў Г. Пошукі імя. С. 96—105. Прычым характэрна, што ў 50-я гады яна была выгнана з гімназій, яе вывучалі толькі ў семінарыях.

[32] Лазарук М. А. Станаўленне беларускай паэмы. С. 191.

[33] История белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977. С. 330; Лойка А. А. Гісторыя беларускай літаратуры: Дакастрычніцкі перыяд. Мн., 1977. Ч. 1. С. 121; Гісторыя беларускай літаратуры XIX— пачатку XX ст. Мн., 1981. С. 27.

[34] Казбярук У. Нялёгкі шлях // Літ. і мастацтва. 1971. 20 жн.

[35] Шаўцоў П. Спрадвечнае. С. 161—181.

Праблема месца напісання паэмы пакуль што выраша- лася толькі ў агульнай форме.

Устаноўлена, што ў аснове мовы твора ляжаць паўночна-ўсходнія беларускія гаворкі [36], пашыраныя ў той перыяд на тэрыторыі Віцебскай і Магілёўскай губерняў, а таксама ў заходніх паветах Смаленскай губерні. Менавіта такі арэал пашырэння ўжытага ў паэме «Тарас на Парнасе» слова «балота» ў значэнні «лес» [37]. Аднак Смаленская губерня як месца ўзнікнення паэмы, відаць, адпадае, таму што ў творы згадваецца яўрэйская «школа» — малітоўны дом («...як у школе галасуюць»), а гэта зусім не характэрна для Смаленшчыны сярэдзіны XIX ст., паколькі Смаленская губерня не ўваходзіла ў так званую «черту оседлости» і не мела ў той час колькі-небудзь сканцэнтраванага яўрэйскага насельніцтва. Такім чынам, тэрыторыя, дзе мог узнікнуць гэты твор, абмяжоўваецца Віцебшчынай і Магілёўшчынай, але яшчэ больш звузіць гэту тэрыторыю на падставе тэксту паэмы не ўдаецца. Праўда, у паэме згадваецца тапонім «Пуцявішча», зафіксаваны як назва вёскі толькі на Віцебшчыне, але мы не ўпэўнены, ці меў аўтар паэмы на ўвазе канкрэтную мясцовасць, тым больш што гэтая назва выразна працуе на сюжэт.

Водгукі спрэчак паміж Віцебшчынай і Магілёўшчынай за гонар быць радзімай выдатнай паэмы даносіць ужо прадмова Е. Раманава да першага віцебскага выдання «Тараса на Парнасе» 1896 г.: «...несумненна адно — што «Тарас» быў напісаны або ў Віцебску, або ў Магілёве, але хутчэй у Віцебску, як пра тое гаворыць вуснае паданне». У першапачатковым варыянце гэтай прадмовы пад назвай «Спроба пяра» прыводзяцца канкрэтныя версіі як віцебскага, так і магілёўскага паходжання твора: «...другие дейкають, што «Тараса» сочинив один витебец, нейкий Даревский. Говоруть, што яго написали у Горках, студэнты, тогды, як там была, до мятежа, большая школа. И это, можа, больш усяго похожа на правду. Чули мы ще, што бытто яго написали могилевськие бурсаки. Можа, ето и была коли правда, да заржавела...» (Пачынальнікі, *18*). У прадмове да магілёўскага выдання паэмы 1900 г. Е. Раманаў яшчэ больш катэгарычна выказаўся за горы-горацкую версію: «...больш верагодным трэба прызнаць

---

[36] Крамко І. І., Юрэвіч А. К., Яновіч А. І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Мн., 1988. Т. 2. С. 22—27.

[37] Кісялёў Г. Пошукі імя. С. 66—67.

меркаванне, што «Тарас» напісаны ў Горках, у пачатку 50-х ці ў канцы 40-х гадоў мінаючага стагоддзя, менавіта ў першыя гады існавання Горацкага земляробчага інстытута, які быў у той час вышэйшай навучальнай установай».

У 1929 г. краязнавец і літаратуразнавец Д. Васілеўскі ў артыкуле «Паэма «Тарас на Парнасе» ў краязнаўчым асвятленні» (Наш край. № 5) прывёў багаты этнаграфічны, лінгвістычны і іншы матэрыял, які яскрава сведчыў пра блізкасць паэмы Віцебшчыне. У даследчыка не было сумнення, што паэма нарадзілася на Віцебшчыне. Але ў тыя ж самыя 20-я гады збіраў матэрыялы для свайго «Краёвага слоўніка ўсходняй Магілёўшчыны» І. Бялькевіч. Слоўнік выйшаў у свет толькі ў нашы дні, у 1970 г., і тады высветлілася, што многія словы і выразы, якія Д. Васілеўскі лічыў выключна віцебскімі, не ў меншай ступені характэрны і для Магілёўшчыны.

Відавочна, сам тэкст паэмы не дае магчымасці прывязаць твор да больш вузкага рэгіёну. Таму, відаць, была непераканальнай спроба П. Шаўцова ў кнізе «Спрадвечнае» (1971) давесці, што «Тарас на Парнасе» напісаны ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губерні. Гэтаксама ж выклікае сумненні і тапаграфічная прывязка паэмы да Горак у згаданым артыкуле Б. Іофе 1940 г., хоць у цэлым ён быў для свайго часу значным крокам наперад у высвятленні пытанняў аб часе і месцы напісання, гісторыка-літаратурным значэнні «Тараса на Парнасе».

Большасць даследчыкаў услед за Раманавым лічыць, што паэма хутчэй за ўсё нарадзілася ў Горках, але не таму, што ў яе тэксце ёсць нейкія ўказанні на гэта (у сапраўднасці такіх указанняў, можа, і няма), а таму, што якраз у Горках утварылася асяроддзе, найбольш падыходзячае для з'яўлення такога твора, як «Тарас на Парнасе».

Праблема асяроддзя, адрасата вельмі важная для атрыбуцыі. Сапраўды — для каго і ў якіх умовах твор пісаўся?

Паэма прызначалася не для сялян, амаль цалкам непісьменных у сярэдзіне мінулага стагоддзя. Сяляне не ведалі тады ні Пушкіна, ні Гогаля і не зразумелі б многіх тонкасцей паэмы. Раманаў нават у 90-х гадах, уключаючы паэму ў адрасаваную народу брашуру «Міласцівы Восіп», не адважваецца пакінуць у тэксце твора сцэны літаратурнай барацьбы (гэтыя радкі прыведзены ім у прадмове да брашуры). Паэма пісалася для беларускай дэмакратыч-

най інтэлігенцыі, перш за ўсё для той яе часткі, якая арыентавалася на рускую культуру. Лепш за ўсё гэты твор маглі прыняць і ацаніць у студэнцкім асяроддзі (Горкі) або ў асяроддзі гімназістаў-старшакласнікаў і перадавых педагогаў. Паэма магла знайсці водгалас і сярод прагрэсіўна настроеных вучняў беларускіх духоўных семінарый, тым больш што яна закранала руціну семінарскага навучання («А сам граматыку нясе, / Што ў семінар'ях навучаюць»). Вельмі хутка цудоўны твор выйшаў за межы першапачатковай аўдыторыі, атрымаў папулярнасць сярод інтэлігенцыі польскай культурнай арыентацыі (тут паэма была адпаведным чынам адрэдагавана, у тэксце з'явіліся Міцкевіч і Каханоўскі), трапіў у «напаўнароднае» (выраз М. Доўнар-Запольскага і Я. Карскага), а потым і народнае асяроддзе.

На тэрыторыі былых Віцебскай і Магілёўскай губерняў у сярэдзіне XIX ст. былі тры гімназіі (Віцебская, Дзінабургская і Магілёўская) і, нарэшце, Горы-Горацкі земляробчы інстытут. З гімназій нас найбольш цікавяць Віцебская і Магілёўская, бо ў Дзінабургскай навучаліся пераважна жыхары латышскіх паветаў Віцебскай губерні.

Найменш мы ведаем пра асяроддзе семінарскае, хоць Е. Раманаў і прыводзіў у сваім артыкуле «Спроба пяра» няпэўную звестку аб напісанні паэмы «магілёўскімі бурсакамі». Адчуваецца, што сам Раманаў ставіцца да гэтай версіі іранічна («Можа ета и была кали правда, да заржавела...»). Праверыць гэту версію цяжка з-за адсутнасці крыніц (архіўных дакументаў, успамінаў) аб атмасферы жыцця тагачасных беларускіх семінарыстаў, але ў цэлым з гісторыі мы ведаем, што з семінарый выходзілі не толькі цемрашалы, але і выдатныя прагрэсіўныя дзеячы. Да таго ж існуе даволі багаты, тыпалагічна блізкі матэрыял, звязаны з рускімі семінарыямі гэтага часу.

Больш паспяхова вывучаецца гімназічнае асяроддзе. Шматлікія архіўныя матэрыялы, мемуары і іншыя крыніцы паказваюць цікавасць беларускіх гімназістаў як да фальклору, так і да рускай літаратуры, да творчасці Жукоўскага, Пушкіна, Лермантава, Гогаля. Сярод настаўнікаў былі перадавыя людзі, якія плённа ўплывалі на духоўнае фарміраванне моладзі, заахвочвалі вучняў да ўласнай творчасці, да заняткаў літаратурай [38].

---

[38] Кісялёў Г. Пошукі імя. С. 137—145.

Напрыклад, вядомы педагог Д. Сямёнаў, які вучыўся ў Віцебскай гімназіі ў канцы 40-х — пачатку 50-х гадоў, успамінаў пра настаўніка славеснасці Л. Лебедзева, выхаванца Галоўнага педагагічнага інстытута: «Заахвочваў ён сярод нас і вершапісанне, дапускаючы нават эпіграмы на сябе і іншых настаўнікаў». І далей: «У мой час, дзеля развіцця ў гімназістах старэйшага класа густу і любові да заняткаў рускай мовай і славеснасцю... былі ўведзены ў нас літаратурныя гутаркі. На гэтых гутарках вучні чыталі свае сачыненні, апрацаваныя па крыніцах, указаных Л. І. Лебедзевым, і падвяргаліся крытыцы таварышаў і настаўнікаў... Лепшыя сачыненні пасылаліся ў акругу і друкаваліся ў асобных зборніках. Помню, што і маё сачыненне «Аб адкрыцці Амерыкі» таксама ўдастоілася гэтага высокага гонару. Такая ўвага да пяра юных пісьменнікаў не магла не запаліць у некаторых з нас імкненне да літаратурнай нівы...

Такім чынам,— працягваў Д. Сямёнаў,— дзякуючы майму бацьку [таксама настаўніку-славесніку] і Л. І. Лебедзеву, руская мова і славеснасць квітнелі ў нашай беларуска-польскай гімназіі: мы выходзілі з яе цалкам пісьменнымі і дастаткова адукаванымі ў літаратурных адносінах людзьмі, набывалі любоў і густ да чытання айчыннай літаратуры, ставячыся да яе нават крытычна»[39].

Найбольшая ўвага, што зусім апраўдана, накіравана на вывучэнне горы-горацкага студэнцкага асяроддзя[40]. Горкі збіралі перадавую, найбольш здольную разначынскую моладзь як з Беларусі, так і з усёй Расіі. Значная частка студэнтаў паходзіла, натуральна, з суседняй Віцебшчыны і Магілёўшчыны (выпускнікі тых жа самых усходнебеларускіх гімназій) і добра ведала мову, на якой напісаны «Тарас на Парнасе». Невялікі гарадок у магілёўскай глушы жыў у той жа духоўнай атмасферы, што і ўся перадавая Расія.

Як і ў кожным студэнцкім асяроддзі, у горацкай моладзі была вялікая цяга да літаратуры. Існавалі літаратурныя гурткі, выпускаліся рукапісныя часопісы і газеты. У глухой частцы гарадка студэнты арганізавалі беларускую школу для сялян, дзе навучанне вялося па нешматлі-

---

[39] Семенов Д. Из школьных воспоминаний старого педагога // Русская школа. 1890. № 10. С. 41—42. (Указана С. Букчыным)

[40] Кісялёў Г. Пошукі імя. С. 164—189.

кіх тады беларускіх кніжках, друкаваных лацінкай (відаць, В. Дуніна-Марцінкевіча).

Сярод студэнтаў было нямала людзей з літаратурным талентам. Вось, напрыклад, пензенец М. Затмілаў, які паступіў у Горы-Горацкі інстытут у 1849 г. Пра яго чытаем у рукапісных успамінах былога студэнта В. Малцужынскага: «Меў ён вялікую цягу да пісання, і пэўны талент у ім выяўляўся, нешта быццам у духу Гогаля, які тады панаваў у літаратуры і меў шматлікіх паслядоўнікаў.

Некаторыя спробы Зат [мілава], нягледзячы на прэтэнцыёзнасць, звычайную ў пачынаючых літаратараў, вызначаліся досціпам і гумарам і ахвотна чыталіся калегамі. У сваім гуртку забаўляў ён усіх фантастычнымі апавяданнямі, заўсёды знаходзіў нейкі новы дасціпны выраз, які выклікаў агульны смех. Гэта не быў, аднак, паважны правадыр, а толькі любімы калега. Небарака, ужо будучы на трэцім курсе, памёр ад тыфу, шкадаваны ўсімі»[41].

Прывядзём таксама жывую замалёўку студэнцкага літаратурнага вечара пачатку 60-х гадоў з успамінаў Ф. Сурына. Невялікі пакойчык на студэнцкім «Алімпе». «Атмасфера тытунёвага дыму напаўняла яго ад падлогі да столі; на некалькіх крывых крэслах, на адзінай канапе, на падаконніках, сталах, нават на падлозе размяшчалася, як магло, таварыства. Слуга Бартак, не спец у сваёй справе, мучыўся над непаслухмяным самаварам, а мы, сярод гоману, смеху і найвесялейшай у свеце размовы, чакалі пачатку чытання. Прадметам жа яго бывалі перш за ўсё мясцовыя рукапісныя газеткі, якія рэдагаваліся безыменна і рассылаліся ў запячатаных канвертах. Найбольш у іх прыцягвалі ўвагу бягучыя мясцовыя горацкія справы або палеміка аб больш важных рэчах, аб грамадскіх пытаннях, часам канспект і ацэнка якой больш сур'ёзнай гістарычнай працы, а часта вершык або арыгінальнае апавяданне. Не былі гэта шэдэўры стылю і думкі, але часта, сярод шматлікіх грымзолаў, трапляўся верш, поўны глыбокага пачуцця, або пырскаючая досціпам гумарэска. Кушалеўскі спрабаваў свае сілы ў лірычных вершах, і быў гэта сапраўдны талент. Пазнейшыя вершы яго, поўныя чуллівай меланхоліі і пранізлівага болю, паўсюдна цаніліся на Беларусі, і вельмі шкада, што ён не стаў вядомым

---

[41] ЦДГА ЛітССР, ф. 1135, воп. 21, спр. 132, л. 125.

больш шырокаму колу, друкуючы свае творы» [42]. Удалося высветліць, што размова тут ідзе пра выхадца з Валыні Аўгуста Кушалеўскага, які пазней прыняў актыўны ўдзел у падзеях 1863 г. у Горках і быў сасланы на катаргу ў Сібір.

Высветлілася таксама, што ў 40-х гадах у Горках вучыўся здольны паэт з рускіх семінарыстаў Д. Градусаў (потым выкладчык Яраслаўскай семінарыі). Ён напісаў надзвычай папулярную ў свой час сярод бурсакоў паэму «Семінарыяда», якая разыходзілася ў шматлікіх спісах. Пры ўсёй тэматычнай розніцы паэма семінарыста мае нямала агульнага з «Тарасам на Парнасе» і ў гучанні верша, і ў гарманічным, пушкінскім успрыняцці свету [43].

Зразумела, ні пензенец Затмілаў, ні валынец Кушалеўскі, ні яраславец Градусаў не маглі напісаць выдатнай беларускай паэмы «Тарас на Парнасе», і ўсё-такі прыведзеныя факты надзвычай важныя для разумення той атмасферы, таго асяроддзя, у якіх узнік, дакладней, мог узнікнуць, гэты твор.

Пра тое, што сярод горацкіх студэнтаў былі і беларускія паэты, мы даведваемся з выяўленага нядаўна пісьма Т. Чудоўскага (удзельніка вызваленчага руху на Магілёўшчыне, прыяцеля В. Дуніна-Марцінкевіча) А. Кіркору, напісанага ў лютым 1857 г. Чудоўскі павінен быў падабраць у Горках карэспандэнта для кіркораўскіх перыядычных выданняў і не сумняваўся ў поспеху, паколькі, як гаварылася ў пісьме, «з цяперашніх вучняў ёсць двое зусім здольных, а пра трэцяга таксама чуў, што з незвычайным паэтычным талентам [z niepospolitym talentem poetycznym] піша па-беларуску» [44]. На жаль, імя гэтага студэнта-паэта ў пісьме не названа. Якраз гэта і мог быць аўтар «Тараса на Парнасе». Чудоўскі быў чалавекам досыць адукаваным і не стаў бы марна кідацца словамі пра «незвычайны талент». Дарэчы, спачатку ён напісаў: «з незвычайным талентам піша вершы па-беларуску» — і толькі потым надаў фразе больш агульную форму,

---

[42] Suryn F. Wspomnienia horeckie // Tygodnik ilustrowany. 1879. T. 8. N 189.

[43] Петров Н. К истории внутренней жизни духовных семинарий: Значение поэзии А. С. Пушкина в сей жизни // Чтения в Обществе истории и древностей российских. 1899. Кн. 3. Отд. «Смесь». С. 28; Киселев Г. Разыскивается классик... С. 311.

[44] ЦДГА ЛітССР, ф. 1135, воп. 11, спр. 2, л. 89 адв.—90.

магчыма, успомніўшы, што той студэнт піша не проста вершы, а цэлыя паэмы. Яшчэ раней намі выказана думка, што Дунін-Марцінкевіч мог атрымаць тэкст «Тараса на Парнасе» ад Чудоўскага, які быў сваім чалавекам у Горках [45]. Цяпер гэта здагадка знаходзіць новае пацвярджэнне.

У кнігах «Пошукі імя» (с. 203) і «Разыскивается классик...» (с. 354—355) намі зроблена наступная спроба ўявіць сабе ў найбольш агульнай форме жыццяпіс і воблік паэта, якога мы шукаем:

*Ананім* (нарадзіўся не пазней 30-х гадоў — памёр не раней 50-х гадоў XIX ст.) — беларускі паэт, у 50-я гады напісаў паэму «Тарас на Парнасе». Быў цесна звязаны з усходняй Беларуссю (Віцебшчына, Магілёўшчына), цудоўна валодаў паўночна-ўсходняй беларускай гаворкай. Глыбока ведаў сялянскі побыт. Хутчэй за ўсё разначынец, выхадзец з народа, якому ўдалося атрымаць даволі высокую па тым часе адукацыю, прынамсі, у памеры гімназіі (Віцебская? Магілёўская?). або духоўнай семінарыі (Полацкая? Магілёўская?) Па некаторых звестках, вучыўся ў Горы-Горацкім земляробчым інстытуце. Быў цесна звязаны з рускай дэмакратычнай культурай, успрыняў ідэі перадавой тагачаснай крытыкі (Бялінскі і яго школа), добра адчуваў расстаноўку сіл у рускай літаратуры. Магчыма, некаторы час жыў у Пецярбургу, бо здолеў намаляваць жывы воблік Булгарына. Меў выдатныя літаратурныя здольнасці і немалы літаратурны вопыт (іншыя творы яго пакуль не ўстаноўлены; не выключана, што ім напісаны таксама верш «Вясна гола перапала»). Магчыма, гэта беларус, які выступаў у рускай літаратуры.

Разгледзім цяпер некаторыя персанальныя версіі наконт аўтарства паэмы, якія прапаноўваліся ў розныя часы.

Ужо ў 90-х гадах мінулага стагоддзя А. Ельскі, а потым М. Доўнар-Запольскі сцвярджалі, што паэму напісаў В. Дунін-Марцінкевіч. Ельскі меў перапісаны рукой Дуніна-Марцінкевіча тэкст «Тараса на Парнасе», які перадаў для апублікавання Доўнар-Запольскаму. Пазней версію пра аўтарства Дуніна-Марцінкевіча падтрымаў Р. Зямкевіч, у свой час быў схільны да яе М. Гарэцкі.

Апрача наяўнасці рукапісу Дуніна-Марцінкевіча на прыхільнікаў гэтай версіі ўплывала, несумненна,

---

[45] Кісялёў Г. Пошукі імя. С. 184—185.

шырокая вядомасць Беларускага дудара. Падмечана такая агульная заканамернасць атрыбуцыі непадпісаных твораў: з магчымых аўтараў твор стыхійна прыпісваецца найбольш папулярнаму. У прыватнасці, з гісторыі рускай літаратуры вядома, што многія свабодалюбівыя рукапісныя творы прыпісваліся Пушкіну, што ўскладняла потым іх навуковую атрыбуцыю. А становішча Дуніна-Марцінкевіча ў беларускай літаратуры сярэдзіны XIX ст. увогуле цяжка з чым-небудзь параўнаць. Можна сказаць, што гэта адзіны пісьменнік 50-х гадоў, які друкаваўся, які выступаў у літаратуры прафесійна.

Супраць гэтай версіі адразу пасля яе з'яўлення рашуча выступіў Е. Раманаў, потым Я. Карскі, перад Вялікай Айчыннай вайной яе абгрунтавана крытыкаваў Б. Іофе. Сапраўды, В. Дунін-Марцінкевіч не мог быць аўтарам нашай паэмы, гэтаму супярэчыць і яго мова, звязаная найперш з мінскімі гаворкамі, і тэхніка верша, і, нарэшце, культурная арыентацыя пісьменніка (яму бліжэй была польская літаратура).

У 1896 г. Е. Раманаў у артыкуле «Спроба пяра» зафіксаваў версію, якая мела пашырэнне сярод віцебскіх старажылаў, што паэму напісаў А. Вярыга-Дарэўскі. У 20-х гадах гэта версія ўсплыла зноў у сувязі са знаходкай Р. Зямкевічам успамінаў віцябчаніна М. Маркса (сёння гэтыя ўспаміны невядомыя). Тады ж гэту версію падтрымаў і развіў краязнавец і літаратуразнавец Д. Васілеўскі, які на падставе архіўных матэрыялаў стварыў першую біяграфію Вярыгі-Дарэўскага, цікавага беларускага пісьменніка і дзеяча вызваленчага руху 50—60-х гадоў, творы якога да нас амаль не дайшлі. Апошнім часам узняты новыя матэрыялы пра Вярыгу-Дарэўскага [46], выяўлены асобныя беларускія творы, якія паказалі, што ён не дасягаў, відавочна, таго ўзроўню паэтычнага майстэрства, якое характэрна для «Тараса на Парнасе». Да таго ж, як і Дунін-Марцінкевіч, гэта быў чалавек польскай культурнай арыентацыі, што супярэчыць нашым уяўленням пра аўтара загадкавай паэмы.

У прынцыпе, мог напісаць «Тараса на Парнасе» аўтар «Энеіды навыварат» В. Равінскі. Нягледзячы на многія адрозненні, у абедзвюх паэмах усё-такі нямала агульнага.

---

[46] Кісялёў Г. Загадка беларускай «Энеіды». С. 144—212; Борковский С. А., Мальдис А. И. Поэтическое наследие Артемия Вериги-Даревского // Сов. славяноведение. 1971. № 2.

У такім выпадку гэта было б для Равінскага нешта накшталт лебядзінай песні: ён памёр у 1855 г., а паэма, як мы высветлілі вышэй, напісана пасля 1852 г. Аднак у цэлым гэта версія не здаецца нам перспектыўнай: паэму не згадаў у ліку твораў свайго дзеда К. Равінскі, хаця меў для гэтага ўсе магчымасці; вышэй мы з пэўнымі падставамі выказалі сумненні, каб «Тарас на Парнасе» мог узнікнуць на Смаленшчыне.

Пачынаючы з 1958 г. атрымлівае вядомасць яшчэ адна цікавая версія: спачатку ў пісьмах у выдавецкія і навуковыя ўстановы, а потым у друку браты А. і П. Шаўцовы расказалі пра паданне, якое захавалася ў іх сям'і, што абедзве выдатныя паэмы «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе» напісаны іх прадзедам, удзельнікам дзекабрысцкага руху, які пад імем селяніна (або мешчаніна) Яўхіма Крупенькі жыў у Клімавіцкім павеце на Магілёўшчыне. Тады ж нібыта паэмы былі надрукаваны ў падпольнай друкарні. У сям'і, у вуснай перадачы, захаваўся тэкст «Тараса на Парнасе», які моцна адрозніваецца ад звычайнага [47].

Легенда Шаўцовых выклікала ў навуковых колах вялікія сумненні. У прыватнасці, вышэй мы паказалі, што паэма «Энеіда навыварат» нарадзілася на Смаленшчыне і ніяк не магла быць напісана жыхаром Клімаўшчыны, продкам Шаўцовых.

Што да паэмы «Тарас на Парнасе», то ўвогуле дзекабрыст, які зрадніўся з Беларуссю, мог быць яе аўтарам. Тады б знайшлі сваё тлумачэнне некаторыя асаблівасці твора: і кроўная зацікаўленасць аўтара ў справах рускай літаратуры, і намаляваны ў паэме жывы партрэт Булгарына (дзекабрыст мог жыць некаторы час у Пецярбургу), і асобныя рускія дэталі ў паказе побыту. Да таго ж збегламу дзекабрысту не было патрэбы афішыраваць сваё імя, таму паэма і магла застацца ананімнай.

Калі ж перайсці менавіта да Яўхіма Крупенькі, то тут справа менш ясная. П. Шаўцоў наогул не піша, калі ён памёр. Куды старэйшы і, значыць, больш інфармаваны ў сямейных справах А. Шаўцоў у пісьмах у Вучэбна-педагагічнае выдавецтва БССР і Інстытут літаратуры імя Я. Купалы паведамляў, што Крупенька скончыў жыццё каля 1841—1842 гг., у кожным разе не пазней 1850 г. Калі

---

[47] Александровіч С. Пісаў Хімка, пісаў Яўтух... // Літ. і мастацтва. 1961. 3 кастр.; Шаўцоў П. Сямейнае паданне // Полымя. 1971. № 10.

гэта сапраўды так, то наўрад ці ён мог быць аўтарам нашай паэмы, бо, мяркуючы па ўсім, яна ўзнікла ў сярэдзіне 50-х гадоў, г. зн. пасля смерці Крупенькі.

Трэба адзначыць і надта познюю фіксацыю легенды. Толькі ў 1958 г. прадстаўнікі сям'і Шаўцовых адкрылі, нарэшце, сваю сямейную тайну — што іх продак быў дзекабрыст і да таго ж выдатны беларускі паэт, аўтар дзвюх жамчужын нацыянальнай паэтычнай класікі.

Звяртае на сябе ўвагу таксама відавочная непаслядоўнасць носьбітаў легенды. Версія А. Шаўцова значна адрозніваецца ад версіі П. Шаўцова. Сапраўднае прозвішча продка невядома, магчыма, Ягораў,— прызнаецца старэйшы брат. П. Шаўцоў упэўнена называе гэта прозвішча — Крупеннікаў, яўна ўзятае ім з літаратурных крыніц (зборнікі дакументаў пра М. Кутузава і дзекабрыстаў, раман Л. Нікуліна «Расіі верныя сыны»). Калі ў пісьмах А. Шаўцова размова ідзе пра нейкае загадкавае выданне «Тараса на Парнасе», якое пераходзіла ў сям'і Шаўцовых з рук у рукі (прычым выявілася, што А. Шаўцоў цьмяна помніць, што гэта такое), то П. Шаўцоў ужо распавядае пра цэлы скрутак з паперамі і выданнямі, знойдзены нібыта ў 1938 г. на хутары Шаўцовых. Прычым скрутак гэты папаўняецца літаральна на нашых вачах. Некаторыя важныя дакументы П. Шаўцоў, напрыклад, успомніў толькі ў інтэрв'ю для «Книжного обозрения» [48]. Зразумела, ўсё гэта здольна выклікаць недавер да сямейнага падання Шаўцовых.

Неабходна адзначыць, што пакуль што не знойдзена ніякіх пераканаўчых дакументаў не толькі пра сувязі продка Шаўцовых Я. Крупенькі з дзекабрысцкім рухам, але нават пра само існаванне Крупенькі. Легенда, не знаходзячы падмацавання ў дакументах, губляе пад сабой грунт.

Яшчэ адна версія заснавана на звестках пра спіс паэмы ў рукапісных сшытках вядомага беларускага пісьменніка-віцябчаніна А. Рыпінскага, якія ў канцы 20-х гадоў знаходзіліся ў прафесара М. Піятуховіча [49].

Знаёмства з гэтым надзвычай цікавым матэрыялам,

---

[48] Тайник на хуторе Новый Бор: Исследование об ординарце М. И. Кутузова — декабристе Крупенникове // Книжное обозрение. 1973. 30 марта.

[49] Гл.: Кісялёў Г. Пошукі імя. С. 205—246; Киселев Г. Разыскивается классик... С. 356—415.

яго асэнсаванне адбывалася паступова. На першым этапе, у 1973 г., дзякуючы пісьменніку М. Лужаніну нам удалося пазнаёміцца з апублікаваным за мяжою сведчаннем колішняга студэнта Беларускага універсітэта Антона Адамовіча. У 1929/30 навучальным годзе ён слухаў лекцыі М. Піятуховіча і ўспамінаў пра рукапісы Рыпінскага, якія прафесар прыносіў з сабой на заняткі і якімі вельмі даражыў (захоўваем арыгінальную стылістыку замежнай публікацыі):

«Аўтару гэтых радкоў аднойчы ўдалося на перапынку між лекцыямі выпрасіць у прафэсара й мецъ у сваіх руках пры ім-жа рукапісы Рыпінскага на працягу каля 10-х часінаў [мінут?]. Гэта былі два грубыя сшытыя томікі на пажоўклай ужо, але яшчэ ня сыпкай паперы. Найбольш цікавым тады здаваўся перапісаны там «Тарас на Парнасе», паколькі ў камэнтары да яго падавалася ймя аўтара — Канстантын Вераніцын — з зазначэннем, праўда, што гэта псэўдонім, дата — 1856 г., і галоўнае зазначалася, што паэма становіць сабою водгук на зьяўленьне ў літаратуры Тараса Шаўчэнкі, адкуль і ейны назоў; ня менш цікавыя былі й «Два д'яблы» таго-ж аўтара, але іх удалося адно перагартаць, прычым кінулася ў вочы, што адзін з «д'яблаў» мае рэплікі парасейску, а другі — папольску, уся-ж рэч пабеларуску й крышку большая за «Тараса» [50].

Ніяк нельга было прайсці міма гэтага паведамлення. Адразу ж звярталі на сябе ўвагу дзве акалічнасці: 1) вельмі падыходзячая дата — якраз на сярэдзіну 50-х гадоў як час узнікнення паэмы настойліва ўказвала апошнім часам наша літаратуразнаўства; 2) само гучанне прозвішча: гісторыка-літаратурная навука даўно прыйшла да вываду, што аўтар паэмы — чалавек рускай культуры.

У выніку пошукаў у архівах Мінска, Вільнюса, Масквы, Ленінграда ўдалося знайсці рэальнага Вераніцына з вельмі арыгінальнай біяграфіяй.

Канстанцін Васільевіч Вераніцын (спачатку яго прозвішча было Васільеў) паходзіў з прыгонных сялян в. Астраўляны Віцебскага павета. Нарадзіўся ў 1834 г. У 1844 г. скончыў Гарадоцкае прыходскае вучылішча.

---

[50] Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва: Запісы. Мюнхэн, 1963. Кн. 2. С. 90. Як высветлілася пазней, аналагічныя звесткі былі апублікаваны А. Адамовічам у газеце «Бацькаўшчына» ад 20 траўня (мая) 1956 г.

У наступным годзе атрымаў вольную і паступіў у Віцебскую гімназію. У 1851 г. прыпісаўся ў гарадоцкія мяшчане і выбраў сабе прозвішча «Вераніцын». У 1852 г. пакінуў, не давучыўшыся, гімназію і паступіў у Пецярбургскую медыка-хірургічную акадэмію. У 1854 г. яго, па невядомых нам прычынах, з акадэміі выключылі. У 1857 г. упарты разначынец як пансіянер (стыпендыят) Вольнага эканамічнага таварыства паступіў у Горы-Горацкі земляробчы інстытут адразу на III курс. За два гады бліскуча скончыў інстытут са званнем агранома (кандыдата агранаміі), абараніўшы дысертацыю «О белорусском хозяйстве». Потым кіраваў недзе прыватным маёнткам, спрабаваў уладкавацца на дзяржаўную службу па правядзенню сялянскай рэформы ў Магілёве (1861), служыў у Пецярбургскім па сялянскіх справах прысуцтве і Галоўным таварыстве расійскіх чыгунак. У 1874—1879 гг.— настаўнік геаграфіі і прыродазнаўства ў Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі. З 1880 г.— чыноўнік у Пецярбургу, у апараце Міністэрства шляхоў зносін. У 1900 г. пайшоў у адстаўку стацкім саветнікам. Памёр каля 1904 г.[51]

Думаецца, што па сваёй біяграфіі К. Вераніцын зусім мог бы быць аўтарам «Тараса на Парнасе». Для яго жыццяпісу характэрна тое, што і для самой паэмы,— сінтэз, зліццё беларускай народнай стыхіі з рускай кніжнай культурай. Гэта здольны чалавек з народа, якому, насуперак усім перашкодам, удалося атрымаць адукацыю. Выхадзец з ніжэйшых пластоў заняволенага сялянства, былы прыгонны добра ведаў душу, мову, побыт народа. У яго біяграфіі аб'ядналіся і Віцебшчына, і Горы-Горацкі інстытут, і Пецярбург з Булгарыным і Грэчам.

Сумненні выклікалі толькі дзве акалічнасці. Па-першае, Рыпінскі чамусьці лічыў, што Вераніцын — гэта псеўданім. А па-другое, не было ніякіх звестак аб літаратурнай адаронасці знойдзенага намі Вераніцына. З класных журналаў Віцебскай гімназіі было відаць, што найбольшыя поспехі ён выказваў хутчэй у прыродазнаўчых навуках, што і прадвызначыла, можна было думаць, выбар ім прафесіі.

Другі этап у даследаванні гэтай версіі пачаўся ў 1986 г., калі сярод папер асабістага архіва літаратура-

[51] ЦДГА СССР у Ленінградзе, ф. 229, воп. 10, спр. 495 (асабістая справа ў архіве Міністэрства шляхоў зносін).

знаўца В. Мачульскага [52], якія паступілі ў Цэнтральны архіў-музей літаратуры і мастацтва БССР, былі выяўлены новыя матэрыялы, звязаныя з гэтым пытаннем, а менавіта машынапіс падрабязнага артыкула М. Піятуховіча «Рукапісы А. Рыпінскага» (рыхтаваўся да публікацыі ў 1929—1930 гг., але не быў надрукаваны) і зусім невядомая беларускай навуковай грамадскасці кандыдацкая дысертацыя Мачульскага, які пры яе падрыхтоўцы таксама выкарыстаў матэрыялы Рыпінскага [53].

Даследчыкі атрымалі ў сваё распараджэнне падпісаны імем Вераніцына тэкст «Тараса на Парнасе», другі твор, пазначаны гэтым жа прозвішчам,— паэму «Два д'яўлы» (у А. Адамовіча — «Два д'яблы»), а таксама не пазбаўленыя цікавасці каментарыі Рыпінскага ў тым выглядзе, як яны прыводзяцца ў артыкуле Піятуховіча і дысертацыі Мачульскага.

Аказалася, што Рыпінскі нічога, апрача прозвішча, пра Вераніцына не ведаў, таму і меркаваў, што гэта псеўданім. У сваёй заўвазе ён адзначыў: «Здаецца, гэта псеўданім, выбраны наўмысна, каб не дазналіся, што гэта наш брат, польскі шляхціц, напісаў. Дасканалае веданне беларускай мовы выдае ў аўтары тутэйшага жыхара, хоць ён і прыняў нетутэйшае імя». Заўвага гэта сведчыць як аб пэўнай вузкасці поглядаў Рыпінскага, так і аб культурнай раз'яднанасці розных слаёў інтэлігенцыі ў тагачаснай Беларусі (адна частка яе арыентавалася на польскую культуру, другая — на рускую). Якраз гэта раз'яднанасць і спрыяла страце аўтарства і ўзнікненню ананімнасці самых папулярных твораў. Для нас важна, што думка Рыпінскага пра псеўданімнасць прозвішча Вераніцын мае характар няпэўнага меркавання — Рыпінскі не сцвярджаў гэта, а ўсяго толькі меркаваў.

Шмат дае даследчыкам знаёмства з самім вераніцынскім тэкстам паэмы «Тарас на Парнасе». Гэта вельмі добры тэкст, які можна лічыць блізкім да аўтарскага. Асобныя рысы гэтага тэксту (падрабязней гл. раздзел

---

[52] Да 1933 г. працаваў разам з М. Піятуховічам у Мінску. Памёр у 1973 г. у Маскве.

[53] Гл. пра гэта: Скалабан В. Яшчэ адзін твор аўтара «Тараса на Парнасе»? // Літ. і мастацтва. 1986. 6 чэрв.; Киселев Г. Разыскивается классик... С. 401—415. Апошнім часам матэрыялы, звязаныя з рукапісамі Рыпінскага, у тым ліку поўны тэкст артыкула М. Піятуховіча з усімі каштоўнымі тэксталагічнымі дадаткамі, апублікаваны В. Скалабанам у зб.: Шляхам гадоў. Мн., 1990. [Вып. 1] С. 212—274.

«І дух, і літара») дазваляюць зрабіць меркаванне, што перад намі першая рэдакцыя твора, якая потым была аўтарам дапрацавана.

Далей, паводле новых матэрыялаў, удакладнілася храналагічная паметка тэксту: не 1856 г., як запомнілася А. Адамовічу, а 15 красавіка 1855 г. Даведаліся мы і аб існаванні тапаграфічнай паметкі (Гарадок), якая выдатна стыкуецца як з рэальнай біяграфіяй Вераніцына (ён быў гарадоцкім мешчанінам), так і з рэаліямі паэмы: якраз паміж Гарадком і Віцебскам была вёска Пуцявішча, якую ў пэўным сэнсе (паўтараем: толькі ў пэўным сэнсе) можна суадносіць з Пуцявішчам з паэмы.

Што да даты, то яе па многіх прычынах можна прызнаць рэальнай датай напісання, а не перапіскі паэмы.

Яна дазваляе звязаць узнікненне паэмы з грамадскім уздымам у краіне, выкліканым смерцю Мікалая І. Ужо адзначалася такая сувязь са з'яўленнем кніжкі В. Дуніна-Марцінкевіча «Гапон» (смерць Мікалая І—18 лютага, цэнзурны дазвол «Гапона» — 20 лютага 1855 г.) [54]. Вельмі магчыма, дарэчы, што «Гапон» да сярэдзіны красавіка 1855 г. ужо выйшаў у свет і, трапіўшы на Віцебшчыну, з'явіўся для аўтара «Тараса на Парнасе» дадатковым творчым стымулам.

Гаворачы ў кнізе «Пошукі імя» пра шматлікія нападкі Булгарына на Гогаля ў «Северной пчеле», мы адзначылі і такі факт: у жніўні 1854 г. стары пасквілянт люта раздраконіў у сваёй газеце кнігу П. Куліша «Спроба біяграфіі Гогаля», выхад якой быў выкарыстаны «ашалелым панам» (калі прытрымлівацца экспрэсіі «Тараса») для новых паклёпаў на памерлага пісьменніка. Фельетон Булгарына напоўнены бруднымі намёкамі ў адрас аўтара «Мёртвых душ» і «Рэвізора». Фельетаніст не прызнаваў вялікай эстэтычнай каштоўнасці твораў Гогаля, як, мабыць, і ўсёй рускай літаратуры. Ён не спыняецца нават перад такой нахабнай заявай: «Усе англійскія, французскія і нямецкія аўтары аповесцей, якіх чытае еўрапейская адукаваная публіка, вышэй за Гогаля, як сонца вышэй за праекцыйны ліхтар...» [55] Якраз гэта выступленне Булгарына можна суаднесці з вядомымі радкамі паэмы: «Я вас аблаю на ўвесь свет, / Як Гогаля ў прошлым леце...»

---

[54] Янушкевіч Я. «Ён першы сеяў зярняты...» // Дунін-Марцінкевіч В. Творы. Мн., 1984. С. 8.

[55] Кісялёў Г. Пошукі імя. С. 95—96.

Можна правесці таксама паралель паміж нашай паэмай і вершам Ф. Цютчава «На смерць Жукоўскага» (пазнейшая назва «Памяці В. А. Жукоўскага»), упершыню апублікаваным у 1854 г.

У Цютчава:

Душа его возвысилась до строю:
Он стройно жил, он стройно пел...

У нашай паэме:

І птушкі ёсць там, дужа стройна
Пяюць, палепш за салаўя!

Перад намі — магчымы парадыйны водгук, а можа і несвядомая рэмінісцэнцыя з толькі што прачытанага Цютчава.

Словам, многія акалічнасці прымушаюць з даверам паставіцца да храналагічнай паметкі ў спісе Рыпінскага, прызнаць яе рэальнай датай напісання твора.

Не супярэчыць гэтай даце, па сутнасці, і датаванне кракаўскага спіса, выяўленага Я. Янушкевічам: 1854. З прыведзеных Янушкевічам матэрыялаў відаць, што тэкст паэмы ў даным выпадку ўзнаўляўся па памяці. Гэтаксама ж па памяці прастаўлена і дата «1854», увогуле даволі блізкая да даты Рыпінскага. Тут праявілася такая ж прыблізнасць памяці, як і ў выпадку з Антонам Адамовічам, які запомніў гэту дату трохі інакш: 1856. Абедзве даты — «1854» і «1856», хоць паходзяць яны з розных крыніц, з пункту погляду працэсу пазнання можна разглядаць як нейкую ўзаемазвязаную пару, набліжэнне з розных бакоў да даты сапраўднай [56].

Але калі спіс Рыпінскага падае рэальныя звесткі пра час і месца напісання твора, то і ўказанне на аўтара таксама адпавядае ісціне. Выходзіць, Вераніцын — аўтар нашай паэмы.

Дадатковае пацвярджэнне знаходзім у паэме «Два д'яўлы», якая ў матэрыялах Рыпінскага прыпісваецца таму ж Канстанціну Вераніцыну.

Гэта па-майстэрску напісаны твор, прысвечаны вельмі актуальнаму тады, як, зрэшты, і цяпер, пытанню — барацьбе за цвярозасць.

---

[56] Кісялёў Г. Пытальнік — для скептыкаў // Літ. і мастацтва. 1990. 13 ліп.

Сюжэт паэмы нескладаны. Каб «самушчаць» добрых людцаў зялёным змеем і губіць такім чынам чалавечыя душы, сатана паслаў аднаго чорта ў Віцебск, другога ў Гародню. Праз некаторы час яны сустракаюцца. Гродзенскі чорт у поўнай маркоце і разгубленасці, бо непахісныя ў сваім імкненні пачаць цвярозае жыццё гродзенцы не прынялі ўсіх яго падступных захадаў і нават моцна пабілі. У яго віцебскага калегі справы, наадварот, выдатныя. Яму ўдалося дабіцца свайго — віцябчане без просыпу «мокнуць» у таннай гарэлцы, цану на якую спецыяльна — для прынады — знізілі карыслівыя адкупшчыкі. Заканчваецца тым, што чорт віцебскі злітаваўся над сваім няшчасным гродзенскім сабратам і ўзяў яго сабе ў памочнікі. Польскіх і рускіх дыялогаў у творы няма (тут памяць падвяла Антона Адамовіча), уся паэма напісана на чыстай, бездакорнай беларускай мове.

Як суадносіцца новая гумарыстычна-сатырычная паэма з паэмай «Тарас на Парнасе»? Спецыяліст у галіне лінгваматэматыкі А. Дземчанка зрабіў параўнаўчы статыстычны аналіз тэкстаў «Тараса» і «Двух д'яўлаў» і прыйшоў да заключэння, што абедзве паэмы напісаны адным чалавекам[57]. Але і без дапамогі матэматычных метадаў, як кажуць, «няўзброеным вокам» відаць, што гэта так. Нават сам падыход да мастацкага вырашэння тэмы, да пабудовы сюжэта адзін і той жа: у абодвух выпадках вынаходлівая фантастыка спалучаецца з досыць глыбокай псіхалагічнай дакладнасцю, трапнымі рэалістычнымі малюнкамі, часам нават з натуралізмам. Перад намі — тая ж мова, экспрэсія, артыстызм і завершанасць, тое ж усеразуменне, мудрая і добрая ўсмешка. І там і тут — несумненная сувязь аўтара з рускай культурай верша. Паэт па-майстэрску валодае ў адным выпадку («Тарас на Парнасе») пушкінскім ямбам, у другім («Два д'яўлы») — дасканалым харэем, у якім адчуваюцца някрасаўскія інтанацыі.

Тапаграфічна паэма «Два д'яўлы» звязана з Віцебскам — у ёй згадваецца вядомы толькі віцябчанам Задунаўскі мост, пад якім хаваюцца абодва чарты. На гэта звярнуў увагу яшчэ Рыпінскі, ён адзначыў у сваіх каментарыях: «Аўтар гэтай прытчы мусіў у такім выпадку некалі жыць у Віцебску, паколькі ведае гэтую акалічнасць і назву

---

[57] Крапівін С. Як прадзеды «змея» выправаджвалі // Настаўніцкая газ. 1987. 24 студз.

месца». Паводле біяграфічных звестак, Вераніцын якраз і жыў у Віцебску, вучыўся там у гімназіі.

Не супярэчыць біяграфіі Вераніцына і тапаграфічна-храналагічная паметка пад тэкстам паэмы «Два д'яўлы»: «Масква, 7 красавіка 1860 г.» Вераніцын скончыў у 1859 г. Горы-Горацкі інстытут і ў пошуках службы мог нейкі час знаходзіцца ў Маскве, не парываючы адначасова сувязей з Віцебскам, бо паэма «Два д'яўлы» адрасавалася, вядома ж, найперш землякам.

Словам, распрацоўка пытання аб аўтарстве паэмы «Тарас на Парнасе» сёння ўступіла ў якасна новы этап, уся праблема набыла новыя абрысы.

Многае будзе яшчэ, зразумела, удакладняцца, ёсць вялікая патрэба ў новых дадатковых матэрыялах, але і цяпер ужо ясна, што ніколі мы не былі настолькі блізкія да разгадкі аўтарства «Тараса на Парнасе». Усё гаворыць за тое, што Канстанцін Вераніцын — сапраўдны аўтар славутай паэмы, адзін з пачынальнікаў новай нацыянальнай літаратуры.

Гэта версія знаходзіць усё большае прызнанне ў беларускай навуцы. Вельмі цікава, са своеасаблівай, вельмі пераканаўчай логікай, піша ў сувязі з гэтым А. Яскевіч: «Хаця пра Канстанціна Вераніцына як пра творчую асобу наша навука мае ў сваім распараджэнні пакуль самыя мізэрныя звесткі, аднак мы маем дванаццаць прамых фактаў, якія пры супастаўленні не пакідаюць магчымасці сумнявацца ў яго аўтарстве. Так, дзякуючы архіву А. Рыпінскага сёння мы маем не адзін, а два творы, стылістычнае адзінства якіх не выклікае рознагалоссяў сярод вучоных. І пад кожным з іх паасобку падпісана імя і прозвішча аднаго і таго ж аўтара. Гэта настолькі прамыя і самадастатковыя сведчанні (дзве пары сведчанняў) на карысць аўтарства Канстанціна Вераніцына, што паставіць пад сумненне іх маглі б адно толькі такога ж характару даныя, прадстаўленыя на карысць якога-небудзь іншага аўтара. І асаблівую каштоўнасць для ўстанаўлення атрыбуцыі тэксту і, такім чынам, верагоднасці звестак, што паведамляюцца А. Рыпінскім, уяўляюць чатыры пары іншых фактаў, якія ўказваюць на дакладны час і месца стварэння той і другой паэмы (год, месяц, нават чысло і месца напісання)» [58].

---

[58] Яскевич А. С. Становление белорусской художественной традиции. Мн., 1987. С. 159.

«Даволі пераканаўчымі» лічыць меркаванні на карысць аўтарства К. Вераніцына выдатны знаўца нашай літаратуры XIX ст. У. Казбярук [59].

Імя Канстанціна Вераніцына як магчымага аўтара славутай паэмы пачынае па праву ўваходзіць у школьны ўжытак [60].

У кантэкст вяршынных з'яў нацыянальнай культуры уводзіць гэтае імя М. Тычына: «Калі ж прыгадаць, як мэтанакіравана выхоўвалі ў сабе імкненне да вяршынь чалавечага духу Купала, Багдановіч, Гарэцкі, Чорны, то нельга не заўважыць, што нам нестае гэтага імпэту ў пастаноўцы высокіх задач. Нездарма ж К. Вераніцын, аўтар паэмы «Тарас на Парнасе», выправіў свайго героя ў захапляючае падарожжа на свяшчэнную гару, выявіўшы тым самым парыў цэлага народа да вяршынь агульначалавечай культуры» [61]. Тычынам жа выказана справядлівая думка, што мы толькі па інерцыі («...прывычка спрацоўвае пакуль што, ды й імёны не прыгледзеліся...») працягваем лічыць паэмы «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе» ананімнымі [62]. Супраць сілы інерцыі ў гэтым пытанні засцерагае і У. Казбярук, гаворачы, «што мы з самых першых крокаў надзейна засвоілі, што гэта паэмы ананімныя» [63]. Адбываецца актыўны працэс асэнсавання атрыманых вынікаў [64].

Як бачым, у атрыбуцыі знакамітых паэм ёсць важныя зрухі. Праца, распачатая некалі Я. Карскім і іншымі заснавальнікамі нашага літаратуразнаўства, паспяхова працягваецца. Выкарыстоўваюцца разнастайныя вядомыя навуцы метады атрыбуцыі, як дакументальныя, так і чыста філалагічныя, заснаваныя на аналізе ідэйнай пазіцыі аўтараў, мовы і стылю твораў. У апошнім выпадку даследчыкамі прымяняліся нават сучасныя лінгваматэматычныя

---

[59] Казбярук У. Першыя крокі новай беларускай літаратуры // Вытокі: Творы беларускіх пісьменнікаў XIX ст. Мн., 1988. С. 6.

[60] Кунавіч А. Урок-прэс-канферэнцыя па паэме «Тарас на Парнасе» // Беларуская мова і літаратура ў школе. 1989. № 8; Івашын В. У., Лазарук М. А. Беларуская літаратура: Падручнік для 9 класа сярэдняй школы. 8-е выд. Мн., 1990. С. 54.

[61] Тычына М. «На вяршынях духу нікому не цесна» // Літ. і мастацтва. 1989. 1 студз.

[62] Тычина М. Наследие и наследники // Лит. газ. 1988. 21 дек.

[63] Казбярук У. Заняпад і адраджэнне // Полымя. 1990. № 6. С. 216.

[64] Букчин С. Возвращение классиков: О разгадке авторства поэм «Энеида навыворот» и «Тарас на Парнасе» // Нёман. 1990. № 12.

(статыстычныя) метады. Прыцягваюцца звесткі з самых розных галін ведаў: гісторыі культуры, краязнаўства, этнаграфіі і г. д.

У сувязі з асаблівасцямі беларускай літаратуры гэтага часу (адносна невялікая колькасць саміх мастацкіх тэкстаў наогул, іх пэўная стылістычная аднастайнасць, што абмяжоўвае магчымасці для эфектыўнага параўнальнага аналізу) важнае значэнне набываюць дакументальныя метады: скрупулёзныя пошукі, вывучэнне, супастаўленне архіўных і іншых матэрыялаў пра верагодных аўтараў, пашыральнікаў, папулярызатараў, рэдактараў нашых паэм, пра бытаванне гэтых твораў у народзе. Спалучэнне дакументальных і філалагічных метадаў стварае грунтоўную аснову для магчыма поўнага ўзнаўлення літаратурнай гісторыі выдатных твораў, для канчатковага вырашэння праблемы іх аўтарства.

# Каб ажыла эпоха

*Пасляслоўе*

**У**жо цытаваны намі французскі гісторык Марк Блок, спасылаючыся на аўтарытэт многіх выдатных папярэднікаў (Ж. Рэнан, Ш. Сент-Бёў), пісаў, што ва ўсіх чалавечых справах найбольш цікавыя вытокі[1]. Гэтае агульнае назіранне з поўным правам можна дапасаваць і да гісторыі нашага пісьменства. Сапраўды, якія б поспехі ні рабіла сёння беларуская літаратура, якіх бы вяршынь яна ні дасягала, нас заўсёды будуць вабіць яе першыя, можа быць, знешне сціплыя крокі — XIX стагоддзе, эпоха «Энеіды навыварат» і «Тараса на Парнасе», Чачота і Баршчэўскага, Савіча і Каліноўскага, Дуніна-Марцінкевіча і Багушэвіча, Лучыны і Абуховіча. Зусім зразумелае наша імкненне раскрыць гэты перыяд ва ўсёй яго адметнасці і непаўторнасці.

Узнавіць мінулае, у тым ліку і літаратурнае, можна толькі праз крыніцы. У гэтым даследаванні ўпершыню праароблена сістэматызацыя крыніц, звязаных з беларускімі пісьменнікамі, усёй нашай літаратурай XIX ст. Разгледжаны лёс асабістых архіваў, рукапіснай спадчыны пісьменнікаў, даследаваны першакрыніцы мастацкіх тэкстаў (друкаваныя, рукапісныя і вусныя), эпісталярная спадчына, прыжыццёвыя крытычныя водгукі на іх творчасць, біяграфічныя матэрыялы, іканаграфія, памятныя мясціны, асабістыя рэчы. Адбылася як бы генеральная «інвентарызацыя ведаў». Думаецца, што ў працэсе гэтай працы больш выразна акрэсліліся паняцці «гісторыка-літаратурная крыніца» і «літаратуразнаўчае крыніцазнаўства», выявіліся характэрныя рысы і навуковае значэнне крыніц розных катэгорый. Значнае месца ў нашым даследаванні занялі тэксталагічныя праблемы, разгляд прын-

[1] Блок М. Апология истории. 2-е изд. М., 1986. С. 19.

цыпаў дакументальнага асвятлення пісьменніцкіх біяграфій. Як надзвычай важная і адказная комплексная праблема крыніцазнаўства і тэксталогіі разгледжаны пытанні атрыбуцыі асобных твораў, у першую чаргу паэм «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе».

Мы мелі справу са своеасаблівым і нялёгкім матэрыялам. Тут будзе дарэчы такое параўнанне. Выказвалася думка аб «адноснай маўклівасці» рускага XVIII стагоддзя: «...мемуараў, пісьмаў яшчэ мала, архівы захоўваюцца рэдка» [2]. Такім жа «маўклівым» або «адносна маўклівым» выглядае пакуль што XIX стагоддзе на літаратурнай карце Беларусі. Гісторыка-літаратурных матэрыялаў гэтага перыяду па розных прычынах захавалася недастаткова. Тым не менш намаганнямі даследчыкаў многіх пакаленняў (А. Рыпінскі, А. Ельскі, Б. Эпімах-Шыпіла, Р. Зямкевіч, Б. Тарашкевіч, Я. Карскі, В. Ластоўскі, І. Замоцін, М. Піятуховіч, а ў наш час С. Александровіч, А. Мальдзіс, У. Казбярук, Г. Каханоўскі, Я. Саламевіч, У. Мархель, В. Рагойша, У. Содаль, В. Скалабан, Я. Янушкевіч і многія-многія іншыя следапыты-шукальнікі) знойдзена і вывучана нямала розных крыніц.

Як мы пераканаліся, матэрыялы па гісторыі беларускай літаратуры XIX ст. выяўлены ў многіх архівах, музеях і бібліятэках нашай краіны і за яе межамі.

У Мінску гэта Цэнтральны архіў-музей літаратуры і мастацтва БССР (тут зберагаюцца, напрыклад, матэрыялы асабістага архіва А. Гурыновіча, славутая Хрэстаматыя Б. Эпімах-Шыпілы, адбітак неапублікаванага артыкула І. Замоціна «Аб новых рукапісах В. Дуніна-Марцінкевіча», машынапіс артыкула М. Піятуховіча пра рукапісы А. Рыпінскага з каштоўнымі тэксталагічнымі дадаткамі), Цэнтральны гістарычны архіў БССР (метрычныя дакументы, радаводныя справы В. Дуніна-Марцінкевіча, А. Абуховіча, Я. Чачота, Я. Лучыны, перапіска царскіх улад пра А. Рыпінскага, В. Дуніна-Марцінкевіча, К. Вераніцына, Ф. Тапчэўскага), Аддзел рукапісаў Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. І. Леніна (спісы паэмы «Тарас на Парнасе», рукапіс артыкула Е. Раманава «Спроба пяра»), Аддзел рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Я. Коласа АН БССР (рукапіс верша А. Вярыгі-Дарэўскага «Літвінам, запісаўшымся ў мой альбом, на пажагнанне», копія пісьма К. Каліноўскага

---

[2] Эйдельман Н. «Парадокс» Растрелли // Лит. газ. 1982. 22 дек.

да Б. Длускага, матэрыялы Л. Вітана-Дубейкаўскага), Дзяржаўны музей БССР (сямейны фотаальбом, асабістыя рэчы Ф. Багушэвіча, каштоўны здымак В. Дуніна-Марцінкевіча), Літаратурны музей Я. Купалы (рукапіс купалаўскага перакладу «Сялянкі» Дуніна-Марцінкевіча). У Цэнтральным гістарычным архіве БССР у Гродна ёсць перапіска пра П. Багрыма, В. Дуніна-Марцінкевіча, «Мужыцкую праўду»; у Віцебскім абласным краязнаўчым музеі аўтэнтычныя пісьмы Я. Баршчэўскага.

Яшчэ больш (так ужо сталася) беларускіх матэрыялаў за межамі рэспублікі.

У Маскве дакументы, што з'яўляюцца цяпер прадметам нашага даследавання, ёсць у Цэнтральным архіве Кастрычніцкай рэвалюцыі СССР (жандарская перапіска пра К. Каліноўскага і «Мужыцкую праўду», пра В. Дуніна-Марцінкевіча, А. Вярыгу-Дарэўскага, А. Гурыновіча), у Цэнтральным гістарычным архіве горада Масквы (перапіска царскіх улад пра Я. Чачота, студэнцкая справа Г. Марцінкевіча, цэнзурныя матэрыялы пра пераклад паэмы «Тарас на Парнасе» 1891 г.), а таксама ў Дзяржаўным музеі Л. Талстога (некаторыя аўтографы М. Косіч), Дзяржаўнай бібліятэцы СССР імя У. І. Леніна (успаміны ўнука В. Равінскага).

У Ленінградзе беларускія гісторыка-літаратурныя матэрыялы XIX ст. захоўваюцца ў Рукапісным аддзеле Інстытута рускай літаратуры (Пушкінскі дом) АН СССР (аўтографы В. Дуніна-Марцінкевіча, А. Ельскага, В. Савіча-Заблоцкага), у Цэнтральным гістарычным архіве СССР (радаводныя справы В. Равінскага, К. Каліноўскага, Ф. Багушэвіча, цэнзурныя матэрыялы А. Рыпінскага, В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Блуса, справа аб звальненні Ф. Багушэвіча з пасады следчага ў 1884 г.), Ленінградскім гістарычным архіве (студэнцкія справы К. Каліноўскага, Ф. Багушэвіча, Я. Лучыны, А. Гурыновіча), Архіве АН СССР (спісы паэм «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе», аўтограф пісьма Я. Лучыны да П. Шэйна).

Значная колькасць матэрыялаў, звязаных з беларускімі пісьменнікамі мінулага стагоддзя, захоўваецца ў Вільнюсе, які быў даўней важным цэнтрам беларускай культуры. У Цэнтральным гістарычным архіве Літоўскай ССР зберагаюцца пісьмы і метрычны запіс аб нараджэнні Ф. Багушэвіча, іншыя матэрыялы аб ім, следчыя і судовыя справы П. Багрыма, Я. Чачота, Р. Падбярэскага, К. Каліноўскага, В. Дуніна-Марцінкевіча, А. Вярыгі-Дарэўска-

га, Я. Вуля, Ф. Тапчэўскага, матэрыялы асабістага архіва А. Вярыгі-Дарэўскага, у тым ліку яго унікальны Альбом, пісьмы Я. Чачота, В. Дуніна-Марцінкевіча, А. Ельскага, асабістыя справы К. Вераніцына. Вялікі комплекс цікавых дакументаў — у Аддзеле рукапісаў Цэнтральнай бібліятэкі АН ЛітССР, куды трапіла значная частка матэрыялаў былога Беларускага музея ў Вільні: цэнзурныя рукапісы «Пана Тадэвуша» ў перакладзе В. Дуніна-Марцінкевіча і паэмы А. Вярыгі-Дарэўскага «Гавэндка аб сваяку», пісьмы Дуніна-Марцінкевіча, частка асабістага архіва А. Гурыновіча, аўтографы А. Вярыгі-Дарэўскага, Ф. Багушэвіча, А. Абуховіча, А. Ельскага, рукапісныя зборнікі з беларускімі творамі, матэрыялы У. Сыракомлі. Вершаваныя пасланні В. Дуніна-Марцінкевіча, пісьмы А. Вярыгі-Дарэўскага і В. Каратынскага да У. Сыракомлі захоўваюцца ў Цэнтральным архіве літаратуры і мастацтва ЛітССР, рукапісныя зборнікі Я. Чачота з беларускімі фальклорнымі запісамі — у Інстытуце літаратуры і мовы АН ЛітССР і бібліятэцы Вільнюскага універсітэта.

Беларускія гісторыка-літаратурныя матэрыялы XIX ст. ёсць і ў Інстытуце літаратуры імя Т. Шаўчэнкі АН УССР (рукапіс М. Косіч), Цэнтральным гістарычным архіве УССР у Кіеве (пісьмо Я. Лучыны да М. Доўнар-Запольскага, матэрыялы А. Ельскага), Цэнтральным гістарычным архіве УССР у Львове (беларуская рэвалюцыйна-агітацыйная брашура «Старая прыказка» і звязаная з ёй перапіска, рукапіс А. Ельскага «Паведамленне пра беларускія казанні», пісьмы В. Савіча-Заблоцкага), Львоўскай навуковай бібліятэцы імя В. Стафаніка (пісьмы В. Дуніна-Марцінкевіча і Ф. Багушэвіча, спіс «Тараса на Парнасе»), у абласных дзяржаўных архівах Жытоміра (метрычны запіс аб смерці Я. Баршчэўскага), Архангельска (перапіска пра Р. Падбярэскага), Смаленска (дакументы пра В. Равінскага) і Іркуцка (перапіска пра А. Вярыгу-Дарэўскага), у Чарнігаўскім абласным архіве і яго філіяле ў Нежыне (дакументы пра Ф. Багушэвіча). У Смаленскім абласным краязнаўчым музеі захоўваюцца асабістыя дакументы В. Равінскага, дакументы яго роду.

Нямала матэрыялаў выяўлена ў Польшчы: аўтограф перадсмяротнага пісьма К. Каліноўскага, рукапіс паэмы В. Дуніна-Марцінкевіча «З-над Іслачы», пісьмы Я. Лучыны, беларускія вершы З. Тшашчкоўскай (Нацыянальная бібліятэка ў Варшаве), пісьмы Ф. Багушэвіча да Э. Ажэш-

ка (Інстытут літаратурных даследаванняў ПАН у Варшаве), паперы А. Ельскага, вершы М. Марозіка (Галоўны архіў старажытных актаў у Варшаве), гутарка В. Пратасевіча «Суседчык гавейскі» (Рукапісны аддзел Бібліятэкі Варшаўскага універсітэта), спіс «Добрых весцяў» У. Сыракомлі (Публічная бібліятэка г. Варшавы), фрагменты некаторых сумесных твораў В. Дуніна-Марцінкевіча і С. Манюшкі, іх пісьмо да Ю. Сікорскага (Варшаўскае музычнае таварыства), рукапісы паэмы «Мачыха» Адэлі з Устроні, рэцэнзіі М. Акялайціса на зроблены В. Дунінымі-Марцінкевічам пераклад «Пана Тадэвуша», ранні спіс «Тараса на Парнасе», пісьмы Я. Баршчэўскага да Ю. Крашэўскага (Ягелонская бібліятэка ў Кракаве), пасланні А. Вярыгі-Дарэўскага і Я. Вуля да Э. Жалігоўскага (Бібліятэка Чартарыскіх у Кракаве), «Раптуляр» Я. Чачота, пісьмы З. Тшашчкоўскай (Асалінэум у Вроцлаве) і інш.

Асобныя матэрыялы, звязаныя з беларускай літаратурай XIX ст., захоўваюцца і ў іншых замежных сховішчах дакументаў і рукапісаў (падораны П. Шафарыку ў 1837 г. спіс паэмы «Энеіда навыварат» у архіве Шафарыка ў Празе, некаторыя рукапісы Я. Чачота ў музеі А. Міцкевіча ў Парыжы, малюнкі А. Рыпінскага ў Тотнэмскім музеі, старадаўні спіс «Сялянкі» Дуніна-Марцінкевіча ў Беларускай бібліятэцы імя Ф. Скарыны ў Лондане).

Словам, «геаграфія» захоўвання унікальных матэрыялаў па гісторыі нашай літаратуры досыць прадстаўнічая. Не забудземся яшчэ і пра знакамітую жырандоль П. Багрыма ў Крошыне, пабудаваны пад наглядам Ф. Багушэвіча дом у Кушлянах і г. д., і г. д. Ды і, калі паглядзець шырэй, самі шматлікія памятныя мясціны пісьменнікаў на Беларусі і далёка за яе межамі, як мы пераканаліся,— выдатная крыніца для ўзнаўлення біяграфій і разумення творчасці пачынальнікаў нашай літаратуры.

Як бачым, нягледзячы на ўсе балючыя страты, крыніцы ў нас ёсць, прычым крыніцы самыя разнастайныя. Відавочна таксама, што гэта крыніцазнаўчая база вымагае яшчэ дадатковага вывучэння. Заўсёды актуальнай застаецца і задача пошукаў новых крыніц, іх навуковага выдання.

Важна ўвязваць крыніцазнаўчую эўрыстыку з гісторыяй музейнай справы і калекцыяніравання. Так, у працэсе вывучэння крыніц выявілася, што многія беларускія літаратурныя рукапісы XIX ст., як і іншых перыядаў, захоўваліся ў свой час у А. Ельскага, Б. Эпімах-Шыпілы,

Р. Зямкевіча, у Беларускім музеі ў Вільні. Таму магчыма поўнае ўзнаўленне гісторыі гэтых калекцый мае не толькі агульнакультурнае значэнне, але надзвычай важнае для высвятлення лёсу нашых гісторыка-літаратурных матэрыялаў, для крыніцазнаўчай эўрыстыкі. Гэта справа будучага. Пакуль што нагадаем яшчэ раз, што калекцыі Ельскага часткова загінулі, часткова рассеяліся па свеце ў гады грамадзянскай вайны. Многія сляды вядуць у даным выпадку ў Польшчу. Лёс каштоўных калекцый Эпімах-Шыпілы (досыць сказаць, што ў яго знаходзіўся неацэнны рукапіс «Беларускай скрыпачкі» Ф. Багушэвіча) таксама быў драматычны. Высланы з Мінска ў Ленінград у гады сталінскіх беззаконняў вучоны апынуўся ў вельмі цяжкім становішчы і неўзабаве памёр. Частка яго матэрыялаў трапіла да Л. Бэндэ (цяпер у ЦДАМЛіМ). Калекцыі Р. Зямкевіча, які жыў у Варшаве, у галоўнай сваёй частцы загінулі пад час другой сусветнай вайны. Вельмі істотная, калі не пераважная частка рукапісных матэрыялаў былога Беларускага музея ў Вільні, расфарміраванага пасля вайны, як мы ўжо сказалі, трапіла ў Рукапісны аддзел Цэнтральнай бібліятэкі АН ЛітССР. Тут і цяпер адзін з самых значных комплексаў беларускіх літаратурных рукапісаў мінулага. Трэба паклапаціцца аб вяртанні іх у беларускія сховішчы або, прынамсі, аб поўным іх капіраванні.

Спадзяёмся, што гэта даследаванне дазволіла выявіць некаторыя іншыя прабелы ў нашых ведах, намеціць канкрэтныя напрамкі і агульныя перспектывы далейшых штудый і пошукаў. Патрабуюць свайго кваліфікаванага вырашэння, напрыклад, многія пытанні тэксталогіі, біяграфікі і бібліяграфіі, атрыбуцыі і псеўданімістыкі. Патрэбны і далейшыя спецыяльныя крыніцазнаўчыя распрацоўкі самага рознага характару — ад апісання асобных крыніц і іх комплексаў да абагульняючых прац, прасякнутых глыбокім разуменнем спецыфікі крыніцазнаўства.

Прагрэс навукі няспынны. «Маўклівае стагоддзе» павінна загаварыць на поўны голас, паўстаць перад намі ва ўсёй канкрэтнасці і прадметнасці — без «белых плям».

Перыяд станаўлення новай беларускай літаратуры займае надзвычай важнае месца ў гісторыі народа. Усебаковае асэнсаванне мінулага — неабходная перадумова сённяшняга нацыянальнага Адраджэння. У беларускай навуцы вырас цэлы атрад працаўнікоў высокай кваліфі-

кацыі, якім пад сілу вырашаць самыя сур'ёзныя задачы.

У заключэнне хацелася б яшчэ раз падкрэсліць асаблівую важнасць дакументальных даследаванняў, сур'ёзнай шукальніцкай працы, у першую чаргу архіўнай. У сувязі з гэтым дарэчы будзе працытаваць радкі з нядаўняй крыніцазнаўчай работы, прысвечанай супастаўленню мемуарных і архіўных матэрыялаў: «Архіўны акеан заўсёды заадно з ісцінай, трэба толькі жадаць яе знайсці... Таму і патрэбная праца даследчыкаў-«аратых», якія ў поце чала абрабляюць гісторыка-літаратурную ніву» [3].

---

[3] Петрова М. Г. Мемуарная версия при свете архивных документов: Чехов, Михайловский и другие // Изв. АН СССР. Сер. лит. и яз. 1987. Т. 46, № 3. С. 275.

# Паказальнік іменаў

## Змяненні ў статусе і назвах некаторых архіваў і бібліятэк

| | |
|---|---|
| ЦДГА БССР у Мінску | — Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь. Цэнтр гістарычнай дакументацыі |
| ЦДГА ЛітССР | — Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы |
| ЦДАКР СССР | — Дзяржаўны архіў Расійскай Федэрацыі |
| Ленінградскі дзяржаўны гістарычны архіў | — ЦДГА г. Санкт-Пецярбурга |
| Дзяржаўная бібліятэка БССР імя У. І. Леніна | — Нацыянальная бібліятэка Беларусі |
| Дзяржаўная бібліятэка СССР імя У. І. Леніна | — Расійская дзяржаўная бібліятэка |

# Змест

Научное издание

**Киселев Геннадий Васильевич**

**От Чечота до Богушевича**

ПРОБЛЕМЫ ИСТОЧНИКОВЕДЕНИЯ И АТРИБУЦИИ БЕЛОРУССКОЙ ЛИТЕРАТУРЫ XIX в.

Минск. Издательство «Навука і тэхніка»

*На белорусском языке*

Навуковае выданне

**Кісялёў Генадзь Васільевіч**

**Ад Чачота да Багушэвіча**

ПРАБЛЕМЫ КРЫНІЦАЗНАЎСТВА І АТРЫБУЦЫІ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ XIX ст.

Загадчык рэдакцыі *Л. І. Пятрова*
Рэдактар *Н. А. Дашкевіч*
Мастак *С. М. Крывецкі*
Мастацкі рэдактар *В. А. Жахавец*
Тэхнічны рэдактар *С. А. Курган*
Карэктар *В. М. Ківерава*

ІБ № 4126
Здадзена ў набор 12.12.91
Падпісана ў друк. 02.10.92.
Фармат 84×108 1/32.
Папера друк. № 1.
Гарнітура літаратурная.
Афсетны друк.
Ум. друк. арк. 21,0.
Ум.-фарб.-адб. 21,0.
Ул.-выд. арк. 21,66.
Тыраж 1000 экз.
Зак. № 2194.
Цана 25 р.
Выдавецтва «Навука і тэхніка»
Акадэміі навук Беларусі
і Міністэрства інфармацыі
Рэспублікі Беларусь.
220067. Мінск, Жодзінская, 18.
Друкарня імя Францыска Скарыны
выдавецтва «Навука і тэхніка».
220067. Мінск, Жодзінская, 18.

**Кісялёў Г. В.**

К44 Ад Чачота да Багушэвіча: Праблемы крыніцазнаўства і атрыбуцыі беларускай літаратуры XIX ст.— Мн.: Навука і тэхніка, 1993.— 397 с.

ISBN 5-343-00950-6.

Киселев Г. В. От Чечота до Богушевича: Пробл. источниковедения и атрибуции белорус. лит. XIX в.

**Манаграфія прысвечана гісторыі назапашвання ведаў пра літаратуру XIX ст., робіцца спроба сістэматызацыі крыніц, удакладнення іх аўтарства.**

**Разлічана на навуковых супрацоўнікаў, выкладчыкаў і студэнтаў, настаўнікаў, шырокі круг аматараў беларускай літаратуры.**

**К $\frac{4603020100-026}{М316(03)-93}$ 113—92** **ББК 83.3Бел**